віктар казько

# неруш

раман

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1983

# Частка першая

# ...І ВЯЛІКАГА СЯМЕЙНАГА ШЧАСЦЯ

## ОКІЦЬ НА БУСЛІКА

Лета састарыла зямлю, апачварыла яе твар, узарала палі і абочыны дарог глыбокімі чорнымі трэшчынамі. У трэшчынах, грудах запечанай зямлі квола корпаліся зморшчаныя мурашкі. Глядзець на іх было балюча, было незразумела, як і на чым трымаецца іх жыццё. Сонца цягнула сокі ўжо не з галін і лістоты, а проста з каранёў дрэў. Дарога выпхнула гэтыя карані на паверхню, як выракалася, на пясках іх агалілі сухавейныя вятры, машыны і падводы збілі, здзерлі жыўцом з іх кару. І на месцы гэтых здзёраў, драпін, нібыта сукравіца, блякла наплывалі сок і смала, пакалечаныя карані курчыліся ў гарачым, нібы прысак, пяску, браклі пухлінамі, вязаліся, як вужакі, вузламі і ў гэтых вузлах і нарастах хавалі свой боль. Чэзлі прыдарожныя бярозы і хвоі, заўчасна смяцілі жоўтым лістом і іголкамі, нібы імкнуліся хоць як-небудзь захутацца, абараніць сябе ад цяжару машын і спёкі. Вока чалавека, звера спатыкалася і бегла як мага далей адсюль, бунтавала, адмаўлялася прызнаць родную зямлю — шэрую, бурую, няўтульную, што не здолела адстаяць сябе, з перасохлымі крыніцамі, рэкамі, калодзежамі.

Мацвей Роўда адчуваў, што і сам ён высмяг. Усё было жорстка, крохка і хістка ў ім. Пачуццё смагі, лушчыстасці непраходнае. Як той птушцы, як той кнігаўцы, што ўвесь час плача над балотам, кліча дождж, хочацца загаласіць: пі-іць, пі-іць, пі-іць. А ўжо ж

можна было і астудзіцца. Хоць на календары яшчэ амаль тыдзень да восені, сонца, заходзячы ў чырвані, вяртаецца на зямлю белым, белымі іскрамі прыпадаюць ужо ў нізінах да траў прымаразкі. Падобна да таго, што само сонца б'ецца спякотнымі промнямі аб скамянелую зямлю, высякае гэтыя іскры, белы, халодны жар. Па-другому ніяк і не растлумачыць таго, што адбываецца: удзень паліць — спасу няма, а ўначы выстуджвае. І месяц над вёскай увесь час у венчыку, у касыначцы — на добрае надвор'е, на спёку і холад. Раней адведзенага ім часу, ці то на бясхлебіцу, ці то прадчуваючы халады, збіраюцца ў цёплыя краіны буслы. Як не сотні збілася іх на сенажаці, каб пагаманіць апошні раз на роднай зямлі. Ні даць ні ўзяць, калгасны сход, гэткае наўгародскае веча, нібыта з вякоў векавечных паўсталі з зямлі дзяды і прадзеды — сівыя, босыя, вусцішныя. Няспешна, спаважна, углядаюцца ў высокае чыстае неба, махаюць яму крыламі: пачакай, маўляў, неба, паспеецца, пакуль што абмяркуем зямное. І гэтае зямное, відаць па ўсім,— важнае, спрэчнае. Вось толькі што птахі гладзілі адзін аднаго крыламі, церліся дзюбамі, нерашуча тупалі на месцы, а цяпер во схапіліся загрудкі, ідуць грудзьмі адзін на другога, як мужыкі княжборскія, як палешукі, што нешта не падзялілі: Роўды, Бараздыкі, Махахеі. Недарэмна буслоў на Палессі клічуць антонамі. Мацвей прыглядаецца да птушак, нібыта на самай справе пазнае сярод іх сваіх аднавяскоўцаў. Усе яны, увесь Княжбор тут. Тут і яго Алена, і маці, і бацька, і дзед Дзям'ян, і стары Махахей з Махахеіхай. І рыжы Брытан вунь сярод іх — куды ж яму дзецца ад грамады. Рыжы Брытан — гэта той, з рыжымі падпалінамі на крылах бусел, які першы не вытрываў, пайшоў грудзьмі на чарнявага — бацьку свайго. А дзед Дзям'ян стаіць збоку, наводшыбе ад усіх: упёрся нагамі ў зямлю і паважна ківае галавой.

Шмат чаго ў палешукоў ад гэтых буслоў, шмат чаго і ў гэтых птахаў у белых світках ад людзей, што жывуць у палескім краі. Аднолькава сціплыя яны і маўклівыя. Калі-нікалі кіне сярод балот свой голас бусел, выб'е пошчак касцяною сваёй дзюбай, ніколі не закрычыць ён у хоры. Толькі на самоце, калі на душы яго спакойна і ціха, ці ўжо калі гняце гэтую душу так, хоць на сцяну лезь, калі, распластаўшы ру-

жовыя на сонцы крылы, выбліскваючы кожным пяром, падрульвае ён задубелымі доўгімі нагамі да сваёй буслянкі, вітальнай песняй азначае сваё вяртанне з далёкіх краін, ці калі на дасвецці выйдзе ён на родныя гоні — палі, дубровы, сенажаці — і кіне яго ў жар і холад ад няўпыннасці і бясконцасці жыцця і зямлі, і тады, не памятаючы сябе, адкінуўшы сціпласць і сарамяжлівасць, безгалосы, зацягне ён сваю, хоць і не зусім удалую, але радасную, шчырую песню, песню нараджэння новага дня. А дзень яго, як і сялянскі,— спрэс у працы, нібыта каморнік, мерае і мерае ён балоты, падоўгу ўглядаецца сумным вокам у нікуды ці то імкнецца зазірнуць, што там, за даляглядам, ці то засяродзіў свой позірк у сабе, слухае сам сябе, слухае шапаценне мяцёлчатых і вастралістых траў, як здатны слухаць гэтыя травы касец, белы, сівы дзед-паляшук, які махаў-махаў касой і раптам замёр, ап'янеў ад раскошы мурожнага лугу: жыццё квяцістае і стракатае, як гэты луг, але ж і кароткае — недзе па гэтым мурагу ўжо нячутна крадзецца і вечнасць — другая касарка і хтосьці цяпер падае пад узмахам яе нябачнай касы, як падаюць травы.

Маўкліва і засяроджана будуе антон сваю хату. Як пад сілу, носіць ён у дзюбе голле, маўкліва сунецца пасля навальніцы ў высокае жыта збіраць там жаб, што вылезлі на вольную зямлю... Верацъ свайму суседу-буслу, прыглядаюцца да яго жыцця, прадугадліва будуюць сваё жыццё і палешукі. Недарэмна мае бусел-антон і яшчэ адно імя — лелька — бог кахання і жыцця. Збудаваў ён на сядзібе палешука сабе буслянку — неўзабаве загукаюць і ў хаце палешука лялькі. А пакінуў антон сваю буслянку — пара ў далёкую апошнюю дарогу збірацца і гаспадару хаты — прыспеў яму час рыхтаваць сабе белую сарочку...

Вось людзі гавораць, што вясну да нас прыносяць ластаўкі. Пэўна, так яно і ёсць у мясцінах, дзе не ведаюць антонаў. На Палессе ж, у палескую вёску, нясе вясну на сваіх магутных крылах бусел. Прыляцеў ён у родную вёску ды сеў адразу ў буслянку на высачэзнай вясковай грушы, што расце за гумном,— гэта яшчэ не вясна. Марна чакаць пакуль цяпла і сонца — яшчэ і мяцеліца завіхурыцца, і марозік прыцісне — будзе окіць на бусліка, як гавораць на Палессі: антон лепш за чалавека ведае пра надвор'е.

Была такая окіць і сёлета. Ужо дваццаць сёмага сакавіка. Барздыка, настырны мужык, пачаў садзіць на сваім гародзе бульбу. Паўкняжбора выйшла падзівіцца на такі цуд.

— Кардопля ў цябе, Аркадзько, азімая? — пыталі сяляне ў Барздыкі.

— Азімая, марозаўстойлівая...

— Адсыплеш, Аркадзько, восенню і нам па мяшочку, мы ў снег пасадзім...

Барздыка маўчаў, сваё ён ужо сказаў усё. Мацвей глядзеў на яго і прыкідваў, ці не пара ўжо сеяць і ў калгасе: вясна і на самай справе была ранняя, зямля прасохла, хоць бокам каціся. Але тут азваўся дзед Дзям'ян:

— А бусліка ты ўжо бачыў, Аркадзя? Што ён табе на вуха шапнуў?

— А тое і шапнуў, каб не лезлі кошкі лапай у мае сабачыя справы.

— Ну тады бог у помач,— сказаў дзед Дзям'ян.— А буслік будзе заўтра.

І наступным днём Мацвей убачыў гэтага бусліка, калі вяртаўся з раёна. Сядзеў ён на старым ясакары пры дарозе. Сядзеў нерухома і маўкліва, высунуўшы адно шэрую настылую дзюбу. А яшчэ праз дзень пасыпаў снег з дажджом, а пад вечар узяўся і марозік. Тыдзень сыпала з неба, надвор'е сумнае, слотнае, зменлівае. І вось так — то цяпло, то холад — трымалася ўсю вясну, да лета, да сухавейных вятроў, да нясцерпнае спёкі, што не ачахла да самай восені, вось да гэтага дня, калі буслам зноў пара ў дарогу.

— Што ж вы натварылі, буслікі вы, буслікі,— гаворыць сам сабе Мацвей і папікае сябе за гэтыя словы: ці ж птушкі вінаватыя, ці ж маюць яны дачыненне да той бяды, што абрынулася на зямлю, ці ж яны гэта наслалі сухавеі і спякоту, якімі прадзьмуты наскрозь і абпалены і ён, Мацвей Роўда.

Буслы, за якімі назірае Мацвей, больш не падобныя на княжборскіх сялян, што нечага не падзялілі. Яны яшчэ ідуць грудзьмі адзін на другога, але гэта ўжо не бойка і нават не спрэчка, не дзярэ іх дзюбы ў п'яным лямантце злосць. Птушкі скачуць на лузе, кружаць ці то старадаўнія полькі і кадрылі, ці то шалеюць у нястомных мадэрновых бугах-вугах. Усё пераблыталася ў іх танцы — час і пакаленні, скрыпкі і гармонік, бубен

і джаз. Зухавата скачуць антоны-лелькі, выдаюць каленцы за каленцамі, і каленцамі ледзь не б'юць сябе ў грудзі. І якія спрытныя, зграбныя ў іх ногі, нібыта дзеўкі ў міні з усяго свету выйшлі на гэтую сенажаць — танцпляцоўку, пеўнікамі ходзяць каля іх даўгалыгія палешукі-антоны, ледзь пакалыхваюць крыламі бусліхі, нібыта хусцінкамі памахваюць. Скончыўся джаз, адгрымелі бугі-вугі, і ўжо вясковая полька-трасуха віхурыцца па лузе ў святле чырвонага на захадзе сонца. І ўсё ў цішы — словы, музыка, скокі — пад задуменным ружовым сонцам. І доўгачаканая прахалода ў грудзях ад гэтага птушынага карагоду, нібыта прыпаў ён, Мацвей Роўда, да нейкай не перасохлай яшчэ крыніцы і п'е, п'е — аж зубы ломіць, аж нямеюць пальцы — сцюдзёную ваду, ваду родных палёў, родных лясоў, Палесся. Буслы на сенажаці пад лагодным на захадзе ружовым сонцам — гэта і ёсць само Палессе.

Мацвей пачынаў разумець тое, што раней лічыў бабскімі забабонамі: чаму не толькі сяляне паважанага веку, але і маладыя дзеўкі, што просяцца ўжо замуж, так чакаюць вясной буслоў. Ведае бусел, здольны ён прадказаць, напрарочыць дзеўцы яе лёс. Убачыла яна яго адразу, як толькі вярнуўся ён з цёплых краін, на буслянцы — і ёй яшчэ ў бацькаўскай буслянцы год сядзець, а калі прыгледзела, што ляціць антон — паляцела неўзабаве і яна з роднага кубла: згуляюць яе вяселле сёлета.

І згадвае Мацвей, што расказваў яму некалі Махахей пра буслоў. Верыць насуперак таму, што чуў потым ад іншых людзей, чуў ад вучоных, якія запэўнівалі яго: такога не можа быць, бо гэта супярэчыць прыродзе. Прыродзе, акрамя чалавека, ніхто і нішто не супярэчыць. Няхай гэта казка, няхай паданне, але страшнае паданне і дзівосная казка. І не можа не верыць ёй чалавек, які яшчэ мае душу. А душа яшчэ чагосьці прагне, яшчэ не зняверылася, яшчэ спадзяецца і будзе спадзявацца, пакуль не заплюшчацца вочы, не патухне ў іх святло.

Уварваліся ў Княжбор першыя немцы, калі час жыта ўжо жаць, на матацыклах — выскачылі з гэтага жыта. Узнялі ў неба буслоў. Разгергеталіся, свету белага нябачна: гусі, гусі, гусі. І давай з аўтаматаў, з шмайсераў сваіх па гэтых гусях смаліць. Падстрэлілі

аднаго, ён, як камень, і ўпляскаўся ў дарогу, пыл, пясок, посвістам назаўсёды складзеных крылаў уліўшыся ў вясковы галас, лямант. А чарада бусліная, як і людская, зведаўшы, што такое немцы, ратавацца да роднага балота, да лесу рынулася. Засталася ў небе адна толькі птушка. Тры кругі над сваім забітым гаспадаром зрабіла, вестуном закрычала і ўгору, да сонца ўзвілася.

Махахей расказваў, што ён ледзьве не аслеп, гэтак сачыў за ёй. Слёзы вочы засцілі, і здалося яму з зямлі, што дасягнула птушка сонца; згарэла ў ім, сама ператварылася ў сонца, у сонечную палаючую кропку. Але кропка гэтая раптам стала ўвачавідкі расці, насоўвацца на зямлю, на немцаў, на яго, Махахея, ішла з неба на грэшную зямлю, як нейкі белы ўсёспапяляючы снарад, як адплата, як кара чужынцам. І немцы, і вяскоўцы як адплату, як кару і ўспрынялі яе. Махахею так падалося. Памсцілася яму, што вось зараз вогненная птушка, дасягнуўшы сонца, і сама, як жар, грымне ў зямлю перуном, і зямля, цвердзь яе, расступіцца, надвае расколецца. З расколіны выдзьмухне агонь і залье ўсё навокал агнём і пажарышчам. Так яно і было. У цішы, у аняменні нейкім сваіх і чужынцаў грымнула перуном на зямлю птушка, здрыганулася зямля пад нагамі ў Махахея, ускінулася ў грудзях сэрца, а з сэрца шуганула агнём, спёкай у вочы. Захісталіся, паплылі ў вачах Махахея хаты, загулі, захадзілі ходырам вячыстыя дубы. Бусел з бусліхай, знявечаныя, у крыві, што сцякала з іх пер'я ў вясковы пыл, ляжалі сярод дарогі, ля ног чужынцаў, і ціхі палескі ранак жалобным сонцам смуткаваў па іх.

Ці ёсць на свеце што большае за такую адданасць? Яна стала паданнем палескага краю, дый не толькі палескага. І ў іншых мясцінах, дзе нават не бачылі буслоў, гаварылі, што гэта было ў іх вёсцы, але толькі не з бусламі, а з лебядзямі. Мацвей не пярэчыў, не хацеў траціцца на спрэчкі, губляць, развейваць у словах тое, што паўставала перад ім за гэтым паданнем. А паўставала Палессе, Княжбор, непарушны, спрадвечны, тое, чаго не выкажаш словам, што трэба мець заўсёды ў сабе, за здраду чаму караюць людзей і птушкі, тыя ж самыя буслы. Чалавеку, які разбурыў буслянку, прадказваюць: чакай бяды, будзе кара нябесная. І выпадае, кара прыходзіць. Знаходзіць бусел

таго, хто пакрыўдзіў яго, і помсціць злосна, жорстка — то прынясе і кіне на дах галавешку, і схопіцца хата агнём, а то і спрытней яшчэ ўтворыць — гадзюку кіне ў калодзеж: піце слёзы мае. Мо ўсё гэта здаралася і выпадкова, але ж Мацвей бласлаўляў такую выпадковасць. Ён і сам быў з антонаў — бацьку яго звалі Антонам. Быў, звалі, завуць і цяпер, а ён... І шчымліва, і горка яму глядзець на развітальныя скокі птушак. Хаця тыя ўжо не скачуць. Буслы яшчэ карагодзяцца на лугавіне, яшчэ дрыгаюць нагамі-цыркулямі, але нешта ўжо змянілася ў малюнку іх скокаў, у павольных дагэтуль, мяккіх узмахах крылаў ужо чуваць вецер, чуваць выццё буры. І ў шыях, такіх гнуткіх раней, зараз ужо пругкая непахіснасць, злоснасць, не прывітанні, не дабрыдзень раздаюць яны, а шукаюць, каго б уджыгнуць. І тут Мацвей убачыў, каго яны збіраюцца ўджыгнуць, супраць каго выспелілі сваю злосць. На купіне, нібыта на лобным месцы, заводдаль ад усіх стаяў бусел. Птушка як птушка, яе нават можна было прыняць за важака выраю. Мацвей спачатку так і падумаў, але калі прыглядзеўся крыху больш уважліва, прыкмеціў, што крылы ў гэтага бусла нейкія абмяклыя і пазірае ён больш не ў неба, а ў зямлю. Мацвей зразумеў: не важак гэта, а вінаваты. Няма моцы ў крылах гэтага вінаватага, няма прагі ў неба, і колерам ён розніцца ад сваіх сабратоў. Бруднае і недагледжанае яго пер'е, смутак нейкі ў паставе, журба, маркота гнятуць да зямлі яго млявую шыю, асуджанасць. Сум, журба агарнулі і Мацвея. Такія ж спрадвечныя, як і прага, як сум і журба, што заўсёды жывуць у вачах птушак. Ва ўсім — і ў адзенні, і ў твары, і ў жэстах яго — раптам праступіла нейкая птушыная зліняласць. Але шкадаваў ён у тую хвіліну больш сябе, чымсьці гэтага адзінокага, асуджанага бусла. З буслам усё было проста і зразумела: шкадаванне, а мо абыякавасць бацькі-бусла ці маці-буслíхі загубілі яго. Яшчэ вясной птушкам стала зразумела, што лета чакаецца някормнае, цяжкае. Не думалі, не згадвалі пра будучыню вераб'і, гурганы, а антоны прымалі захады, бо ведалі: больш аднаго бусляняці не выгадаваць сёлета. І яны, пагойдваючыся, трымаючы раўнавагу крыламі, нязграбнымі, няўчэпістымі на дрэве нагамі выкочвалі з буслянак лішнія яйкі, скідвалі іх на зямлю. Няхай застаецца ў іх гняздзе адно толькі яйка,

няхай будзе толькі адно птушаня, але каб яно было дужае, каб з яго вырасла сапраўдная птушка, антон, каб хапіла моцы яго крылам на далёкую дарогу ў цёплыя краіны, каб даляцеў ён туды, а вясной вярнуўся назад. І тады на роднай зямлі з'явяцца новыя антоны, і паляцяць яны ў свет бацькоўскімі сцежкамі-шляхамі. А гэтага бусла, відаць па ўсім, пашкадавалі, жыццё далі, а пракарміць як след не здолелі. І вось ён, калі спазнаў ужо неба, тупае па зямлі, абмераў яе, асуджаны памерці. Не здатны ён для далёкага пералёту, будзе толькі замінаць выраю ў дарозе, не дабярэцца да новага сонца, да цёплага краю. Няўдалы ён. Буслы праганяюць яго са сваёй зямлі, са сваёй радні. Яны не могуць кінуць яго ў дарозе. І птушкі ведаюць, што такое еднасць, і еднасць іх жорсткая, бо яны дбаюць першнаперш пра ўвесь свой род, пра ўвесь свой вырай клапоцяцца. І клопат гэты змушае іх быць бязлітаснымі.

Мацвей не можа даць адказ сабе, ці апраўдвае ён, ці асуджае гэтую жорсткасць. Быў час — асуджаў, і не толькі асуджаў. Калі ўпершыню ўбачыў, як буслы пазбаўляюцца ад лішняга, калі яму растлумачылі, чаму і навошта гэта яны робяць,— слёзы, крыўда на гэты жорсткі свет засцілі яму вочы, ён не мог нават і ўявіць сабе, каб хтосьці так бязлітасна забіваў таго, каго яшчэ не было, хто яшчэ не нарадзіўся. Ён жа і сам некалі быў у такім жа стане. І яму ж таксама не хапала, а часам і зусім не было чаго есці, ён адчуваў голад з таго дня, як пачалася вайна, як толькі ён пачаў сябе памятаць. І з ім можна было абысціся гэтак жа, як і з тым буслянём, якое яшчэ не нарадзілася, але ўжо і ў яйку праз сцены сваёй камеры, праз кроў маці адчувала жыццё. І пазней, як тое ж бусляня, можна было звесці са свету, галавой аб хвою, падушку на галаву — і ўсё. Не зведаў бы ён ні голаду, ні холаду, нічога б не зведаў. Але ж яму трэба было зведаць усё гэта. І маці бегала з ім па лесе, хавала ад немцаў яго ў балоце. На гарбу, як вярблюдзіца, вынасіла тры гады. Дык чаму ж гэтыя антоны вось так бязлітасна са сваімі дзецьмі? Ён заплакаў і кінуўся ў хату па стрэльбу. Ён прагнуў звесці рахунак з усім светам за гэтую птушыную літасць-жорсткасць. І не думаў, што сам, калі падыме стрэльбу на гэтую амаль што хатнюю птушку, утворыць яшчэ большую жорсткасць. Цяпер у ім няма і кроплі той злосці на буслоў, яе разнеслі,

развеялі па пылінцы гады, ён ужо добра ведае, што жыццё бязлітасна абыходзіцца не толькі з птушкамі. І сёння яго хвалююць не наогул зло і жорсткасць, што творацца ў свеце, а толькі тое зло і тая жорсткасць, што творацца на яго вачах. Тут ён слабы. Слабасцю, млоснасцю і цяпер налілося яго цела, ён прадчувае лёс гэтага бусла.

Busліны сход, веча іх ужо скончылася, яны ўжо абмеркавалі свой маршрут, дзе і як ляцець, дзе адпачываць, адскакалі апошні танец на роднай зямлі, не завершана адна толькі справа: чарада рушыла на чужынца, цяпер ужо чужынца. Усім гуртам, натоўпам, ідуць антоны на антона, і адзінае ў гэтага натоўпу жаданне: прагнаць чужынца, і каб выгнанне гэтае было поўнае — з сям'і, з роду, з памяці. Хто ж першы кіне камень, хто першы вытне яго? У натоўпу адно вока, адна рука, адна дзюба і адно крыло. І ўсе, як адзін, яны таўкуць чужынца — б'юць той самай адзінай, што дадзена натоўпу, рукой. Але чужынец яшчэ трымаецца, больш таго, ён сам імкнецца ў натоўп, уціснуцца ў яго, ужыцца і, павярнуўшыся, біць некага іншага. Ён яшчэ не ўсвядоміў, што гэта ён якраз і ёсць чужынец. Антон — чародная птушка, яго палохае адзінота. І свае ж, свае вакол. Дык чаму ж гэта з ім так. Толькі ж учора лавілі разам адных і тых жа жаб, адных і тых жа гадаў. Ці справядліва яго біць, што ён меней, на адну, ды меней, упаляваў жаб, на аднаго, ды меней, з'еў гада?! Ці справядліва, што чарада зараз узаўецца воблакам у неба, а ён будзе блукаць сярод пустых палёў, а потым па белым снезе, пакуль яго і самога не прысыпле гэтым белым снегам. Ён дазваляе сябе забіць, гэта ўсё ж лепш, чым застацца аднаму. Але боль, пэўна, бярэ сваё. Ён робіць адзін, другі крок, і далей ужо ўсё прасцей, трэба толькі мяняць ногі. І бусел, унурыўшыся, амаль што няўцямна, пераступае ногі, ён яшчэ захоўвае годнасць, апошняе, што мае, што можа мець асуджаны, прыгавораны да небыцця — няспешнасць і мудрую падпарадкаванасць непазбежнасці. Але і на гэта яго не хапае. Нешта адбылося, нешта здарылася, ці то дзеўбанулі яго так, што і душа пачала ўжо адыходзіць, ці то ён вокам спатыкнуўся аб штосьці вельмі дарагое яму, аб лісцік, травінку, якую некалі таптаў, абмінаў, не задумваючыся, што праб'е час і стане яна яму такой жа блізкай

і дарагой, як само жыццё. Само жыццё ўвасобіцца ў гэтым лісточку, травінцы. Увасобілася. Ён ужо кідаецца наўцёкі. І Мацвею хочацца ўжо самому панесціся на скрут галавы, перад яго вачыма тая ж самая травінка, лісток, і хочацца, уцягнуўшы галаву ў плечы, уцякаць далей, як мага далей ад ганьбы, няславы. Усе гэтыя дзяўбкі, удары, што прымае бусел, прымае і ён, цела яго ные ад цвёрдасці касцяных бязлітасных дзюб, яно ўжо ўсё ў драпінах, сіняках. Але ён застаецца на месцы, и бусел бяжыць, хаця ў гэтых яго ўцёках няма ўжо ніякага сэнсу, безнадзейнасць гоніць яго. Яго ўжо больш ніхто не б'е, чарада адстала. Выгнаны бусел ужо больш не бусел ні для чарады, ні для сябе. І ў ім, у яго рухах выяўляецца нешта качынае, цяжкае, валюхастае, і Мацвею здаецца, што гэта сама зямля не вытрымала, пахіснулася пад нагамі птушкі і хістае яго, кідае з боку на бок.

Чарада ўзнімаецца ў неба і кругамі, кругамі набірае вышыню, ружовым і белым клінам уваходзіць у чырвань сонца, рассякае натрае сонца, узмахам магутных крылаў успеньвае неба і сонца.

— Калясом дарога,— махае ўслед выраю Мацвей.

Адзін толькі бусел застаўся на зямлі. Бусел і Мацвей Роўда на пустой дарозе. Бусел з тугою ў вачах пазірае, як з клёкатам знікае за даляглядам чарада, і сам спрабуе крыкнуць, але няма ў яго сілы на голас, як ён ні выструньваецца, як ні напружвае цела, як ні дапамагае крыламі прарвацца голасу. Няма голасу, сіп толькі прастуджаны, так прастуджана плача ўзімку на ветры зломленая, расшчэпленая хвоя. Бусел жа з апошняга зноў бяжыць, бяжыць і махае крыламі, і галава яго задзёрта, вось-вось, здаецца, адарвецца ад шыі, ён імкнецца ў неба, імкнецца адарваць сябе ад зямлі. І адрывае, і праразаецца голас. Ён ляціць і крычыць, што мае моцы, змагаецца з паветрам, як той рыцар сумнага вобраза, змагаецца з травой, што гоніцца за ім, цягне да сябе, да зямлі, не дае выйсці ў неба. Губляе вышыню, але не верыць гэтаму, не выкідваючы ўперад ног, не збіваючы хуткасць парашутамі-крыламі, шэрым пер'ем, брудным камяком утыкаецца ў зямлю, падае грудзьмі, перакульваецца цераз галаву. Роўда спяшаецца, ідзе па лузе да птушкі, а тая галавой, кончыкам дзюбы, але цягнецца ў неба, за клінам, што ўжо растаў у вечаровым сонцы. Роўда бярэ бусла

на рукі, нібыта дзіця на рукі бярэ, той квола б'ецца, усёй сваёй істотай, нават рухам крыві ў целе адхіляючы гэтае чалавечае шкадаванне і спагадлівасць. Мацвей прыціскае бусла да грудзей, прыпадае тварам да яго цёплага бездапаможнага пер'я.

— Ну што ты натварыў? Чаму яны з табой гэтак? Ведаю, брат, ведаю. І са мною тое ж самае. Чаму ты не вучыўся лятаць? Куды ж твае бацькі глядзелі? Сканаеш ты тут за зімку. А пашанцуе, перазімуеш, дык вясной усё роўна задзяўбуць цябе свае ж... Схібілі мы, брат, абодва. Мо і я вінаваты ў тваёй бядзе. Знішчыў тваё балота. А такое ж добрае было балота, столькі жаб у ім крумкала-спявала, а я іх усіх разам бульдозерам зграб і экскаватарам прысыпаў. Ты прабач мне, антон. Не ведаў я, што рабіў. А калі б ведаў... усё роўна было б тое ж. Табе трэба балота, жабы, а нам хлеб, бульба. Як жа нам з табой падзяліць зямлю, каб табе і мне ўсяго хапала на ёй? Не ведаю, ты прабач мне, не ведаю...

Мацвей шэптам гаварыў усё гэта буслу, і той нібыта ажываў у яго руках, як дзіця, даверліва прыпадаў да яго, болей не біўся, і плынь яго гарачай крыві больш не біла так аддаляюча.

— Ты што, разумееш мяне, чуеш мяне? — закрычаў, загушкаў ён бусла.— Ты чакай мяне, чакай, я яшчэ прыйду, я вярнуся да цябе. Не дайся толькі лісе на зуб. Я прыйду, антон.

## НЕНЕНЕ. НОЕЎ КАЎЧЭГ

Жыла Ненене сама па сабе. Сама зварыць, сама і з'есць, а не зварыць, галоднай праходзіць — ніхто ведаць не будзе. Хатка яе стаяла таксама сама па сабе. У самым пачатку вясковай вуліцы, але не ганарліва, нібыта саромеючыся нечага, на захадзе ці на світанні можна было прайсці ля яе і не прыкмеціць. Так густа ахуталі яе грушы-дзічкі, каноплі-самасейкі. А над самым дахам з боку глухой сцяны распасцёрся дуб. Дуб усю ноч бушаваў, біўся, грукаў веццем аб дах, нібыта прасіўся ўвайсці. І няхай бы ўжо зайшоў, каго-каго, а яго б Ненене пусціла ў хату. Яна ўжо звыклася з ім, з тым, як скрабецца ён аб комін гол-

лем. Падумаць толькі — гады і гады выстойваць на ветры, на дажджы, на марозе.

Дуб пакрэхтваў у адказ на жаласлівыя думкі пра яго. У сярэдзіне яго, пэўна, было дупло, і таму Ненене чула гэтае яго старэчае натужнае крахтанне і не праз сцяну, а праз падлогу; а ў дупле скрэбліся і папісквалі мышы — гэта ёй сцяна перераказвала. Мышы захваляваліся яшчэ звечара, яшчэ калі яна ні пра што благое і не думала.

Звечара захвалявалася і карова, Рабая ці Мілка, гледзячы як пад настрой. Ненене і аднарогая Мілка жылі разам у хаце. Так Ненене было весялей. Набыла яна Мілку цялічкай, калгас выдзеліў. Тады была яшчэ жывая і дачка Ненене. Выгадавала, выкарміла, цялічка была рахманай, ахайнай. Але вясной здарылася няшчасце: Ненене — няшчасце, людзям — смех. За зіму цялічка вырасла ў цёлку, прыспеў час выпусціць яе на траву, а яна не праходзіць у дзверы. І трэба было цярпець кпіны і клікаць Махахея, каб прасекчы сцяну і вызваліць Мілку. Напакутавалася, пакуль Махахей пашыраў дзверы. Мілка аднолькава баялася што новага чалавека, што сякеры, грукату, дрыжала маленькімі дрыжыкамі і слінаю абвесіла ўвесь кут. Нядобра было і Ненене ад гэтага новага чалавека ў хаце, ад таго, як з-пад яго сякеры ляцелі белыя трэскі, як падавалася хата сякеры. Мо з гэтай нагоды Ненене зноўку паставіла Мілку на зіму ў хату, мо таму нядобрыя языкі і пусцілі па сяле плётку: манашка.

А якая яна, даруй божа, манашка, ну, быў час, зазірнула яна разы два ў малельны дом, што ў суседняй вёсцы. Залучылі яе туды, гора дарогу паказала.

Спуджана замычэла, засапла і ўстала на ногі карова. З дня на дзень яна павінна была ацяліцца, і Ненене спачатку таксама падхапілася на ложку, але потым прыгадала, што перад тым, як легчы, яна глядзела на сваю Мілку і сёння за яе, здаецца, яшчэ не варта хвалявацца.

— Ляжы, ляжы, Рабая,— падала яна голас карове, прыкідваючы, ці не той ужо гэта, не яго час. І не памылілася: той ужо быў час, паўночны. З грукатам адчыніліся дзверы. Прыйшоў ён. Прыйшоў у свой час. І ні ценю ад яго, ні цёплага духу. Толькі крокі, крокі. Спачатку па зямлі, гэта там, дзе месца карове, потым па падлозе, па маснічынах, цяжкія, гаспадарскія.

І нехлямяжы яе мужычок, а ўсё ж крочыць па-мужчынску. Дзынкнула, засіпела вядро, зазванілі шыбы ў вокнах, нібыта хто друкам прайшоўся па рамах.

— Ой, баюся я цябе, разваяваўся,— сказала Ненене.

Ён моўчкі сеў на табурэт, усё такі ж нябачны, халодны. Толькі парыпванне табурэта і выказвала яго прысутнасць. А мо ёй мроілася гэтае парыпванне. Мо яна ўжо даўно звар'яцела, узяла ў галаву, што ён ходзіць да яе, а на самай справе нікога няма: яна, ды карова, ды мышы за сцяной у дупле дуба. Як гэта можа быць такое: дачка памерла вось ужо дзесяць гадоў і ні разу не прыйшла праведаць маці, а ён кожную божую ночку.

І толькі яна паспела падумаць так, як у хаце стала ціха, карова і тая перастала сапці, жаваць жвачку.

— Не-не-не,— яна спалохалася.— Я ведаю, ты тут, пабудзь са мною.

Ненене пажадала і пачула зноў, як рыпіць табурэт, дзынкае вядро і пазвоньвае шкло ў акне, нібыта хтосьці шыбануў пяском у акно. Яе Іван заўсёды быў паслухмяным. Праз гэтую сваю паслухмянасць і памёр. А мо й не памёр, мо яго ў яе ніколі і не было. Час ідзе, і цяжка меркаваць ужо, што было, а чаго не было, аб чым толькі марылася, пра што толькі снілася. Не, гэта яна ўжо дарэмна. Іван быў у яе, быў мужык у яе, вось толькі што здарылася з ім, не памятае ўжо. Памятае, як ён прыйшоў з вайны, яна толькі вокам на яго — і адразу ж зразумела: не да яе, а да зямлі ён прыйшоў, не жыць, а паміраць. І ён адыходзіў, адчужаўся ад яе на вачах, нібыта раставаў, чарнеў, як снег напрадвесні. І непрыкметна, як той снег, растаў, знік, згінуў паміж зімой і летам, жнівом і касавіцай.

— Ох, Іване, да ты ж ніводнага дзянёчка не паляжаў, ніводнага дзянёчка не пахварэў, не адпачыў.— Карова, аднарогая Мілка, уздыхнула разам з ёй.

Адна, усё жыццё адна. Таму і трымае карову ў хаце, цярпліва зносіць кпіны. Хаця адразу пасля вайны нікому не здавалася недарэчным заводзіць карову ў хату. Адны ставілі яе туды, таму што не было гаспадара будаваць хлеў, другія — каб не ўкралі. Пасля той вайны ў іх вёсцы часта такое здаралася — зводзілі карову з хлева. Прыходзілі сярод ночы, адмыкалі хлеў — і, нібыта слова такое ведалі, мёртва спалі гас-

падары, маўчала, не рыкала і карова, паслухмяна ішла за чужымі людзьмі, толькі капыты ёй анучамі абмотвалі, каб снег не выдаў, каб мякка ступалася. Гарачым, толькі з печы, боханам хлеба падкручвалі ці выпрамлялі рогі, крышку падфарбоўвалі — і на базар. І была карова — здалёку твая, а бліжэй— не.

Даймалі і ваўкі, развялося іх пасля вайны... Ненене прыслухалася: ёй падалося, что недзе каля могілак, як і ў былыя пасляваенныя гады, завылі ваўкі. Але яна тут жа зразумела, што гэта не ваўкі, немаведама чаго і чаму, як нябожчыка чулі, вылі ў вёсцы сабакі.

— Табе ўжо час знікаць,— сказала яна, звяртаючыся да таго, хто сядзеў на табурэце, з кім гаварыла кожную ноч вось ужо дваццаць гадоў. Дваццаць гадоў яна ведала пра сваё вар'яцтва і не здольная была перамагчы яго толькі ноччу, калі не было з кім перакінуцца словам. Калі ж настаўаў дзень, усё гэта было не да галавы, выпадала вольная хвіліна — можна было пасядзець, адпачыць і каля акна, не адчуваючы адзіноты, заняць галаву і вочы той жа дарогай. За здзічэлымі грушамі, за травой яе ніхто не бачыў, а яна бачыла ўсіх: і сваіх, і чужых, хто ішоў з вёскі, хто ішоў у вёску. А ноччу што разгледзіш за акном. Дый глядзець у тое акно было міла, пакуль была жывая дачка. І пра дачку яна падумала таксама, як і пра мужыка: з сумам і болем, але як бы не з яе сумам, не з яе болем. Светлымі былі гэтыя сум і боль — мінулымі, адбалелымі, а праз адбалелае і радаснымі, нібыта і дачкі ў яе не было ці яна ніколі ў яе не памірала. Ненене толькі ўсё жыццё марыла пра яе, марыла аб падтрымцы сабе, аб тых уцешных клопатах, якія будуць у яе. А калі з'явіліся гэтыя падтрымка і ўцеха, не прыняла, не прыкмеціла за сваім клопатам. Жала жыта разам з жанкамі, жала цяжка, праз сілу заносіла серп, праз сілу несла жывот, як баялася ўкалоць яго аб пожню, парушыць нешта, і раптам адчула палёгку. Пайшло нешта гарачае па целе, нібыта жыццё яе пачало выцякаць гэтым гарачым з цела. Яна паранілася ад нечаканасці сярпом, убачыла на руцэ кроў, і ёй стала млосна ад гэтай крыві.

— Ой, жанкі, ой...— паспела яна яшчэ крыкнуць і пачуць свой крык, не адрываючы вачэй ад рукі, што аплывала крывёю. А далей ужо нічога не памятае. Паваліліся, пападалі снапы, што так добра былі складзе-

ны на полі, такія цёплыя на сонцы, цёплым сонцам палілося з гэтых снапоў жыта, засыпала яе, заліло чырванню, зрабілася солана і горка ў роце. І ўсё.

І далей усё так, як праз сон. Дачка расла сама па сабе. Чорненькая, таму што ўдалася ў яе, маці, і ад таго, што ўвесь час корпалася ў зямлі, залазіла ў пясок па самыя вушы — Ненене больш за ўсё і на памяці гэты слядок, адбітак дзіцячага цела на зямлі, калі яна выхоплівала яе з пяску — дачка зрэдку летам давала знаць пра сябе, ціхім віскам патрабуючы есці, узімку ж замаўкала на печы зусім. Ненене і рада была б прыгарнуцца да дачкі, прыцісн уць яе да сябе, папесціць, палашчыць, але калі тое было песціць і лашчыць. Часу і то не заўсёды хапала толькі на тое, каб падумаць пра ласку, адчуць яе ў сабе, а далей усё памірала ў ёй, мярцвела, яна душыла пяшчоту, таму што блізка-блізка былі слёзы: вочы натыкаліся на гэтыя слядкі дзіцячага цела на вільготным спрасаваным пяску. Дзве ўпадзінкі ад дзіцячых гладкіх палоек, дзве зморшчынкі ад ног-стручкоў, збоку слядкі пальцаў, кіпцюрыкаў-скрабушак і цёплая, зацярушаная пяском галоўка дачкі ў яе далонях. І цёплае дакорлівае сонца над дачкой і маці.

Ні на кога не наракала, нікога не кляла — так жылі ўсе. Так раслі ўсе — што гарох пры дарозе, хто ні ідзе, той і ўшчыпне. Неўпрыкметку падымаліся на ногі, атрасаліся ад пяску, адмываліся ад лета, ад дзяцінства, бралі торбачку і па жоўтым лісці, пажухлых травах, скрозь паветра, горкае ад дыму запаленага бульбоўніку, спяшаліся да школы, да вучобы, да працы. Неўпрыкметку рабіліся дарослымі ці ўпоравень з дарослымі. Рукамі, што былі яшчэ ў чарніле, бралі лён, сушылі, мачылі яго, калі ўжо прыпадалі халады, калі лёд ужо прыкіпаў да берагу, у Вясковым возеры. Ох, лён той, лён, у песнях толькі пра яго хараша: «На гары лён, на гары лён, белы кужаль...» А даставаўся ён... Вясковае пры беразе— што шкло. А ты босая на гэтым лёдзе, спадніцу падаткнеш, каб было потым чым ногі абсушыць, выцерці. А дачка каля цябе, памочніца ўжо. Выпадала нейчым дзецям, якія пры бацьках, выпадала і шчасце, дабіваліся даведак, пакідалі вёску, беглі ў горад, выходзілі ў людзі, прытыкаліся рабіць ці то на чыгунцы, на пуцях, ці то на якой будоўлі. Сваёй дачцэ яна таксама выплакала даведку. Праз

гэтую даведку яна і на той свет пайшла. Ох, не дарэмна гавораць: у багатага сам чорт дзяцей калыша, а беднаму...

Непрыкметна вырасла дачка, непрыкметна і пакінула яе, нечакана, як і мужык. З'ехала ў горад, на вучобу. Навучылася. Горад звёў у сырую зямельку. Знайшоўся там чалавек, ваенны, афіцэр. Пакарыстаўся і пакінуў, ды не адну. З гора, у роспачы і налажыла яна на сябе рукі. Вось з таго часу, ноччу, упершыню Ненене і пачала сваю гутарку з тым, каго ўжо даўно не было. Усё за долю сваю спаўна выказала. І ўцягнулася плакацца і жаліцца. Жыць ёй стала крышку лягчэй. З яго дапамогай зусім не цяжка было ёй адмовіцца і ад дапамогі «братоў і сясцёр-баптыстаў». Яны ўжо зусім былі пратапталі сцежку да яе хаты, ледзь-ледзь змеркнецца — пад рукі і да сябе, на маленні. Добрыя людзі, нічога не скажаш, памяркоўныя, і прыбрана ўсё ў іх, і прэсвітэр адукаваны, памяркоўны. Яны ўжо ёй і па гаспадарцы дапамагаць пачалі, прыйшлі плот ставіць. І мо паставілі б, выгарадзілі яе. Але тут дзядок, адзін з братоў, не так ужо каб і зусім дзядок, ад маленняў сваіх хутчэй састарэў, узяўся расказваць Ненене сон свой. Нібыта сасніў ён, як ад яго хаты да хаты Ненене перакінулася нітка, нітка ад брата да сястры. І пачаў ён тую нітку цягнуць, але выцягнуў чамусьці не яе, Ненене, а мужыка.

— Якім жа ■ сябе той мужык быў? — спытала Ненене дзядка.

— А нікуды мужык,— хітра ўсміхнуўся дзядок.— Ні кожы, ні рожы, адны косткі толькі. Шынялёк на ім вайсковы...

— Прапалены збоку і не зашыты, руды...

— Руды, прапалены, шапка вайсковая.

— Не шапка, а шлем кавалерыйскі з зоркай.

— А ты адкуль усё ведаеш? — здзівіўся дзядок.— Сон, сястра, мой.

— Казёл ты стары,— уз'елася Ненене.— Я такая табе сястра, як ты маёй Мілцы брат. То ж мужык мой быў... Каб і духу тут вашага не было.

Браты пачалі супакойваць сястру, але яна пагнала іх ад хаты зусім не па-брацку, мацюком. І не злосць, а жах былі ў тым яе мацюку, страх вар'яцтва поўнага ўжо, і не толькі начнога, але і сярод дня. Гэта ж і днём яна будзе гаварыць з тым, каго няма, хто і пры святле

ходзіць па зямлі ценем. Яна сама стане ценем. Улезуць, ужо ўлезлі ў вушы і сэрца гэтыя браты і сёстры. А яна хацела і хоча толькі сама па сабе, толькі самой сабой. Добрае, благое, а ўсё яе, усё пры ёй. І вар'яцтва ўначы — толькі яе. Гэта яе жыццё. І яна панясе пры сабе і на сабе ўсё, што наканавана ёй, да самага крыжа. І несці ёй не так ужо і мала, і не толькі благога. Дык навошта ж разам з благім закопваць, хаваць і добрае. Кардопля, слава богу, яшчэ родзіць, на булку хлеба яна заробіць у калгасе, карэц малака ўдзень дасць ёй Мілка. Што ёй яшчэ трэба. Таго, што было, не вернеш, а ад таго, што будзе, не ўцячэш і нідзе не схаваешся. Яна, як здольна, наколькі яе хопіць, хацела давесці сваё жыццё да канца, да кола, таго, што выпала, як выпадала ўсім, з кім побач жыла, з кім разам нарадзілася, дзяліла ўсё на гэтай зямлі, у роднай ёй хаце. Дайсці да канца, нікуды не збочваючы, ні перад кім не пакрывіўшы сэрцам. І тым самым як бы адліць, адплавіць сваё існаванне, сваё жыццё на гэтай зямлі ў нейкую завершаную форму, у якой усё ёсць: пачатак, працяг, заканчэнне — і, здаецца, нічога няма — усё ў той жа форме, як у завершанасці кола, пярсцёнка. І ў гэтым ёсць і няма яна бачыла і нейкае ззянне, нейкі срэбраны звон чуўся ёй. Мо то быў звон вясельных бразготак, а мо й нешта зусім іншае, той звон і тое ззянне, якім абвяшчае аб сваім нараджэнні кожны новы дзень, калі яшчэ і не ўднела як трэба, толькі сонца ўзыходзіць, толькі травы ў росах гараць, і ва ўсім, нават у паветры,— толькі абяцанне. Усё гэта было невыразнае ў словах, у выказваннях, але не ў адчуваннях. І само гэтае імкненне да завершанасці не было чымсьці толькі яе, асабістым, яно перадалося ёй ад той жа зямлі, на якой ёй выпаў талан нарадзіцца, ад той працы, якую яна рабіла. На зямлі ўсё ж было завершаным, прадугледжаным. Хто прадугледзеў гэта — невядома, але ён усё разлічыў, усё так разумна прыстасаваў: вясну да лета, восень да зімы, снег да вады, ваду да людзей, кожнай істоце ўстанавіў месца і прызначэнне. Тое ж самае было і з працай: сяўба, збор і ўдабрэнне. Разумнае ўдабрэнне ўсяго, што акружала чалавека, яе, Ненене, яе мужыка, іх дачку.

І ёй стала радасна ад таго, што ўсё так разумна на свеце. Ноч, што так палохала яе, усё ж прыйшла, а гэта значыць — і пройдзе. І да новай ночы, пакуль яшчэ

не скончылася гэтая, ой, як яшчэ далёка, яшчэ ж нават і не развіднела. А развіднее, уднее — яе, што дзеці, абступяць клопаты. Сена трошкі, але яшчэ ёсць, яна дасць яго Мілцы, спачатку надыхаецца ім сама, як духам новага дня, потым накорміць Мілку, напоіць яе. Паспее — расчыніць капец з бульбай. А не — потым паспеецца — збегае на нарад. Брыгадзір скажа, што ёй сёння рабіць, каб і не цяжка, па яе гадах, і на людзях. Мо на тыя ж капцы з бульбай паставіць, а мо загадае збожжа на насенне веяць. Ёй і гэта рабіць будзе радасцю, не сама работа, а тое, што яна яшчэ такая спрытная, што цела яе і рукі звычныя і спраўныя рабіць, і, канечне, тое, што яна на людзях, і пакпіць з каго можа, і з яе таксама могуць пакпіць. Не-не-не, яна яшчэ хоць куды. І Ненене засмяялася сама з сябе і спахапілася: гэта ж чалавек сядзіць у хаце, а яна пра яго ўжо і не памятае.

Але ў хаце ўжо нікога не было. Пайшоў Іван, яна і не прыкмеціла калі. І ў жыцці ён быў такі ж непрыкметны. Збяруцца на вячоркі дзеўкі, прыйдуць хлопцы і пачнуць — зубы ўвесь час сушаць, а ён хоць бы рот раскрыў, хоць бы слова прамовіў. І з вайны вярнуўся — як у суседняе сяло схадзіў. Хаця пасля вайны ім і некалі было адно аднаму нейкія там словы гаварыць. Тры-чатыры гадзіны ноччу толькі і бачыліся. Мо ён і ходзіць зараз таму, што не выгаварыўся тут, на белым свеце, ходзіць з таго свету, але і з таго свету слова ёй не прыносіць. Пэўна, так яно і павінна быць: не дадзена з таго свету слова прынесці.

Дуб за сцяной, калі знік Іван, ужо не прасіўся ўвайсці ў хату, ён, здавалася, патрабаваў, каб усе жывыя выйшлі з гэтай хаты. Ненене за думкамі, клопатамі і не прыкмеціла, калі і пачалася такая бура. Хісталася і дрыжала старая хатка, хатка, якая ўвогуле ніколі не была новаю, не пабудаваная нават, хутчэй вырасла, як расце грыб, з зямлі; так і яна пачала расці з зямлянкі-закапухі, крытай зялёным мохам. Зямлянку гэтую капала сама Ненене, калі старая хата ўжо развальвалася. Прыйшоў Іван, паставіў закапуху, нешта дагэтуль неверагоднае ні ў якім краі, з жэрдак, што ў два рады былі забітыя ў зямлю, паміж імі палажылі моху, угнялі, уціснулі яго і самі сабе сказалі: будзем жыць. У музей бы такую хатку, дык ніхто б і не паверыў, што ў ёй можна жыць. Ні падлогі, ні даху. Жылі.

І вецер жыў разам з імі ў той хаце, усе скразнякі былі іх: і як спявалі ім жэрдкі, кожная мела свой матыў і свой голас. І сёння такі ж вецер і такі ж стогн у хаце. Тупае і тупае карова ў сваім куце, калі б не чула гаспадыні, пэўна, роўма раўла б.

Ненене ўстала, у цемры знайшла, накінула на плечы кухвайку і, як была босая, выйшла на двор. Ноч была вераб'іная. Яна спынілася каля дуба, прыслухалася, не наважылася прайсці куды-небудзь далей, збаялася, што хтось можа прыкмеціць яе на вуліцы ў гэты час і абгаварыць, падумаць бог ведае што. А вакол яе гварылася нешта жахлівае і жудаснае. Як цягнік, грукатаў буравей, лютавала рака. Рака выйшла з берагоў, крышыла, зносіла ўсё, што ні паўставала на яе шляху, і падыходзіла ўжо да вёскі. Але паводка Ненене не палохала: мокры вады не баіцца. Ды іх ужо ў гэтым годзе папярэджвалі, што ідзе вада, вялікая вада, прапаноўвалі нават эвакуацыю. Толькі на гэтую эвакуацыю ніхто не пагадзіўся. Пачаў накрапваць дожджык, і яна заспяшалася зноў у хату.

Дождж разышоўся і не сціхаў ужо да раніцы, да раніцы выў вецер і раўла рака, нібыта заблукаў у вёску валацужны воўк, знайшоў костку і грыз яе, выў і стагнаў над ёю. Так вада грызла і бурыла вёску. Раніцай яна стаяла ўжо каля ганкаў. І зноў жа ні Ненене, ні яе аднавяскоўцы не адчулі перад гэтай вадой аніякай трывогі, а Барздыка і рыжы Васька Брытан, яго сын, нават былі радыя: такая вялікая вада, значыць, з горада прыйдзе дапамога, тое-сёе падвязуць. Мукі падкінуць, гэта факт, потым — кілбас, тушонак. Потым яшчэ чаго — кансерваў розных, якіх яны ў добры час не бачылі. Усё гэта можна спажыць і адразу, а лепей прыхаваць на пасля, калі прыспее касавіца і выйдзе ці будзе на зыходзе сваё, вось тады спатрэбіцца і гарадское, якраз у пару прыйдзецца.

Але вада прыбывала і прыбывала, занепакоілася жывёла ў хлеўчуках. Яе непакой перадаўся гаспадыням. І яны перш-наперш, падпарадкоўваючыся нейкаму загаду, якога ніхто ім не даваў, выгналі з хлявоў жывёлу і кінуліся ратаваць бульбу. Не прыёмнікі і тэлевізары, не сваё дабро, што нажылі пасля вайны, не падушкі і пярыны — што, здавалася б, больш за ўсё баялася вады,— бульбу. Чырвонымі ад холаду рукамі жанчыны выграбалі яе з вады, пагрaбоў і сцёбак, а дзе

магчыма было даступіцца — і капцоў, чырвоную і белую, скараспелку і ракаўстойлівую, і зносілі яе да лодак, яшчэ не маючы ў галаве, куды звозіць, дзе схаваць. А калі дайшла чарга і да гэтага, зняможана апусцілі рукі. Вада ўжо была паўсюдна, куды ні кінь вокам, на ўсе чатыры бакі. Сярод стрэх хат і хлявоў, якія адразу ж сталі такімі бездапаможнымі, сярод электраслупоў, што панура звесілі да вады такое, здаецца, нетрывалае зараз павуцінне дратоў, цьмяна вылучаўся адзіны толькі ўзгорбак — астравок зямлі.

Могілкі вада не кранула, не паднялася да могілак, а мо й пашкадавала, спынілася каля плота, ля капліцы. Пашкадавала не толькі іх вясковыя могілкі, але і тыя магілы, што належалі невядома каму, магілкі, якія насыпамі белага пяску спакон веку ўзвышаліся над вёскай. Да могілак і кінуліся людзі. Першую лодку, човен, гнала старая Махахеіха. Веславаў, праўда, сам Цімох Махахей, але Махахеіха сядзела наперадзе і сваім чорным носам-дзюбай як бы кіравала ім, і ў тым, як яна сядзела ў гэтым чоўне, як рашуча гнулася і распрамлялася, і нават у паглядзе, было нешта вельмі нядобрае. Да таго нібыта прывязаныя да родных селішчаў і не ланцугамі і вяроўкамі, а нечым больш трывалым, непарыўным, следам за Махахеем паплылі і іншыя лодкі. Барздыкі, Махахеі, Роўды приставалі да берагу, падцягвалі лодкі і чаўны і спяшаліся кожны да свайго блізкага. Тое, што належала не ім, з чым яны былі ніяк не звязаны — старажытныя насыпы з жоўтага пяску,— абыходзілі, не кранալі, не трывожылі спакою чужых нават у ліхую для сябе часіну. Мо і грэбавалі, захоўвалі сябе, чысціню сваю, імкнуліся да сваіх, хай і мёртвых, але сваіх.

— Ты прабач, прабач, Іване,— ціха прамовіла Нянене, пакланілася ў пояс роднай магілцы, потым яшчэ двойчы пакланілася і астатнім.— Я яшчэ не на вечнае карыстанне ў зямельку. Ноччу ты ў мяне гасцяваў, удзень и да цябе прыйшла. Не ад дабра да цябе, ад ліха.

— Ой, ліха-лішанька,— завыла, успляснула рукамі Барздычыха.

— Памаўчы,— сурова спыніла яе старая Махахеіха.— Не той час, самі бачаць... Не крыўдуй, Сцяпане, пацісніся тут, нам месца дай, не праклінай...

— Ратуй, мама...

Хто гэта выгукнуў, хто ўзмаліўся, па голасу Ненене не паспела пазнаць, зноў залямантавала Барздычыха:

— А татачку мой, а мамачка родненькая, а ці думалі-гадалі, што вашы дзеткі на магілках вашых хавацца будуць. Прабачце вы мне, прабачце, людцы добрыя.

І адразу, не паспела Ненене падумаць, што тут адбываецца, ці не вайна зноў пачалася, і таму жывыя зноў прыйшлі і звярнуліся да мёртвых, усталявалася цішыня. Ні галашэння, ні ляманту, ні ўздыхаў. Жывы аддалі ці палічылі, што аддалі ўсё, што трэба, мёртвым. Пачалася праца. Захлынулася на паўслове, перакуліла вядро з бульбай Барздычыха, і бульба мякка, амаль бязгучна пасыпалася на магілку. І на іншыя магілкі сыпалася ўжо яна, вылежалая, прыгатаваная для зямлі і лупатая, таму што чула ўжо вясну і зямлю, чула і рыхтавалася ўжо выбухнуць у вясну і зямлю гэтым сваім лупатым вокам, прастрэліць зямлю і вясну вострым верацяном-парасткам.

Суровымі цёмнымі мачтамі ўзвышаліся над могілкамі, над тымі, хто даўно ўжо выправіўся ў апошні свой шлях, і над тымі, хто з'явіўся сюды, каб знайсці тут паратунак, крыжы, патрэсканыя ад часу і ад няспыннай працы, дзе самым руплівым працаўніком быў той жа самы час, паўсюдным працаўніком — і на зямлі, і пад зямлёй. Па завядзёнцы, па першым, пэўна, яшчэ нябожчыку, крыжы тут ставіліся вялізныя, дрэва для сваіх не шкадавалі, працы таксама, рыхтавалі ў далёкую дарогу старанна. Але крыж крыжам, хоць да неба ўзнясі ты яго, і не з дрэва, а з каменю ці бронзы пастаў, толькі зямелькі, як ні круці, як ні вярці, як ні спрыяй свайму роднаму чалавеку, а больш двух метраў — не ўхопіш. І магілкі гэтыя, два метры чаўна, ладдзі ці палескага дашчаніка-душагубкі, выглядалі ў параўнанні з крыжамі кволымі і ненадзейнымі. Асабліва абвострана гэтая кволасць і ненадзейнасць адчуваліся ў сувязі з тым няўчассем, якое стаяла зараз: жыццё — трава, ліст яшчэ не праклюнуліся, і ўсё вакол было шэрым і сумным, як вока позняй восені ці то ранняй вясны. Але людзі, што рушылі гэтым днём на могілкі, усё ж спадзяваліся выплыць, кожны на сваім чоўне-магілцы, кожны на сваім нябожчыку, а карабель быў на ўсіх адзіны — пагост. І ён таксама

быў аснашчаны мачтамі, цёмнымі вячыстымі дубамі з адмерлым і жывым веццем, старымі ўсхваляванымі хвоямі. І на гэтыя дубы і хвоі, на жывое і адмерлае вецце людзі ўжо вешалі, каб сохлі, коўдры, ручнікі, каляровымі ручнікамі абвязвалі крыжы. Дапамагалі адзін аднаму, хто чым мог, былі такімі ж адзінымі і дружнымі, як у вайну ці то адразу пасля вайны, калі мала яшчэ чаго хто з іх меў, калі іх адзіным агульным скарбам было толькі гора.

Ненене ўправілася з бульбай, цяпер можна было падумаць і пра карову. Бульба выратавана, гэта было галоўным, у гэта яна непарушна і свята верыла: ёсць кардопля — жывы будзем, не прападзём. Зараз жа да гэтай кардоплі трэба было і карэчак малака. Карова Ненене хадзіла і рыкала каля могілак, нібыта спрабавала разглядзець, дзе там згубілася сярод крыжоў яе гаспадыня. І Ненене стала крыху лягчэй на душы: не-не-не, яна не пакіне сваю Мілку адну, не пакіне і ў бядзе. Радасная, бегла яна да сваёй Мілкі, вяла яе за сабой, прытыкала да плота каля могілак. Прыткнула і замерла амаль што ў роспачы: што ж далей? Мілка прывыкла да цяпла, холадна ёй, дрыжыць уся, бакі ходырам ходзяць. І Ненене жаночай сваёй істотай, ужо, здавалася, адмерлым, забітым жыццём і гадамі адчула, зразумела: вось яно, надыходзіць. І тут няхай свет перавернецца, хоць прыйдзе канец свету, а працу гэтую рабіць жывому трэба, не, не было і не будзе нікога на свеце, хто мог бы адкласці, спыніць яе ці перанесці на потым. Але ж як гэта ўсё на вачах, на людзях. Ды ты ж сама на вачах, на людзях, папікнула яна сябе за тое, даўняе, паглядзела ў стомленыя і рахманыя вочы каровы і адчула, што несправядлівая да сваёй Мілкі. Ёй, Ненене, што, яна баба, а бабы — яны трывалыя, ды тады сярод жыцця ўсё было, сярод жыта, у разоры, у разоры сярод жыта вясковыя бабы звычныя раджаць. А тут жа няхораша атрымоўваецца, нядобра, непрыстойна жывёле апраставацца сярод пагоста, дзе людзі адпачываюць, разумець жа трэба. Жывы асудзіць, абгаворыць і забудзе, даруе, а нябожчыкі не даруюць. У людзей вока нядобрае бывае, сурочыць могуць людзі, а хто ж гэта ведае, якое вока ў нябожчыка.

І стаяла яна перад могілкамі на вачах жывых і мёртвых са сваёй каровай Мілкай, чортавай Рабой, усёю жаночай сваёй істотай адчувала, што ўжо час,

падпірае ўжо Мілцы, і не ведала, куды кінуцца з гэтай сваёй бядой, як схаваць яе. І ў тую толькі хвіліну яна нарэшце зразумела сваю дачку — і даравала ёй, даравала нават тое, што яна сама загубіла сябе. Вось так жа бедавала і яна, адна як вока ў вялікім і чужым горадзе, і не наважылася нікому даверыцца, нікому, акрамя маці, гора не нарабіла.

— Жывёле страха трэба...— Ненене і не прыкмеціла, як падышоў Махахей.— Далікатная яна ў цябе, да цяпла, да печы прывыкла.

— Не-не-не, яна трывушчая,— Ненене спалохалася, што Махахей здагадаецца аб усім. І прагоніць яе разам з Мілкай з могілак. І, нібы спрабуючы ўтаіць, прыкрыць гэты міжвольны грэх сваёй Мілкі, стала каля распёртага бока каровы, крыжам раскінула рукі.

— Што хаваеш? — усміхнуўся Махахей.— Жыццё. Не ў прыполе ж прынесла.— Сказаў гэта і, нібыта згадаўшы штосьці, збянтэжыўся, загаварыў груба: — Жывёла ўсё вытрывае, ды нечага ёй глядзець, як людзі на могілках перабіваюцца. Нечага і ім,— паказаў на крыжы,— як жывое на свет з'яўляецца, бянтэжыць іх.

Ненене яшчэ нічога не цяміла, а Махахей, добрая душа, некуды знік і тут жа з'явіўся зноў з коллем пад пахай і рулонам рубероиду на плячы. Пачаў забіваць колле ў зямлю, выгароджваць каля могілак месца жывёле. Ненене даверылася Махахею, даручыла яму сваю Мілку і пачала азірацца, каму б гэта дапамагчы і ёй. Старая Махахеіха ўскараскалася на табурэт і з вышываным ручніком у руках цягнулася да крыжа, што быў на ўваходзе на могілкі.

— Баба Хвядора, ці да ручнікоў зараз, не свята ж, не радуніца.

— Ой, доньку, яны нас прымаюць, мы да іх прыйшлі, а ты ім ручніка пашкадавала. Грэх... Тут у вайну немцы ішлі, дык адзін ручнік з крыжа ўхапіў — ногі памуляў, здарожыўся. Пераабуцца не паспеў — знайшла куля. Паважаць мёртвых заўсёды трэба, жывыя дабрэйшымі будуць.

— Так, баба, так,— толькі і знайшла што адказаць Ненене.

А да могілак плылі і плылі з няхітрым скарбам чаўны і лодкі і нават плыты. Акурат на тую хвіліну перацягваўся з берагу са сваёй сям'ёй аднаногі крам-

нік Лявон Цупрык. Пажыткаў у яго было вышэй галавы. І Ненене кінулася дапамагаць Цупрыку. Схапіла клунак і абышла ўжо крамніка, скіравалася туды, дзе былі ўсе, але Лявон махнуў кавенькай: далей трэба, да тых чужых, да курганоў белага пяску. Ненене хацела ўжо адмовіцца, ды апамяталася, пасаромелася што-небудзь і сказаць супраць Цупрыку, прыгадала, што ён вёсцы не родны, прыблудны, і не было ў яго яшчэ тут сваіх магілак, сваіх крыжоў, і нага яго пахавана недзе ў іншым месцы, а дзе дакладна, яна не ведала і не імкнулася даведацца. Цупрык выдаваў сябе за франтавіка, але наракалі на яго: згубіў ён нагу пасля вайны ўжо. Ненене не асуджала яго раней, не судзіла і цяпер, калі дапамагала яму ўладкавацца ў адзіноце на курганах. Кожны жыве, як ведае, як умее, і кожны сваё атрымае калі не на гэтым, дык на тым свеце. Нясоладка яму і зараз, як гургану на тым кургане. Не пазайздросціла яна і заможнасці Цупрыка, вось толькі ўмарылася, цягаючы яго клункі і пакункі. Але Цупрык паабяцаў: скончыцца ўсё гэта, вырашыць ёй куль мукі. Куль мукі адразу быў непатрэбны Ненене, але яна ўсё ж падзякавала Цупрыку і пабегла да сваіх.

Астравок зямлі, застаўлены высокімі цёмнымі крыжамі, быў заселены і абжыты, і дзеці пахаджвалі ўжо там, глядзелі ■ вышыні могілак на ваду. За дзецьмі прыйшоў катэр з горада, каб забраць і адвезці туды ж, у горад, пасяліць у інтэрнаце. Але ж некаму, асабліва ў апошнія гады, было раджаць гэтых дзяцей, а тыя, што ўжо нарадзіліся, былі амаль дарослымі, хадзілі ўжо ў школу. Бацькі параіліся і дзяцей на катэр не пусцілі: пры сабе спакайней. Астравок з дарослымі і дзецьмі падобны быў на Ноеў каўчэг: усялякай пачвары па пары — кошкі, сабакі, пеўні, куры. Вось толькі парсюкоў не дазволілі сяляне завезці на могілкі. Барздыка, праўда, імкнуўся прыцягнуць двух, але яму заступілі дарогу, выйшлі ўсе і пагналі ледзь не ў каршэнь.

— Вунь прычэп ад трактара стаіць,— сказаў Махахей.— Там свінням і месца. Хлеў на калёсах.

— Такі хлеў і мне добрая хата,— заўпарціўся быў Барздыка.

— Не хочаш з людзьмі, ідзі да свіней і ты,— пату-

рыла яго Ганна, жонка Махахея.— Ох, нялюдскі ты чалавек, Аркадзь.

— А што людскага ў нас, калі ўсе мы на могілках?

Ненене, як і іншыя, не хацела свіней на могілках, але, мусіць, толькі яна адна адчула горкую праўду ў словах Барздыкі. Адчуць адчула, а пагадзіцца ў тую хвіліну, калі ўсе былі такімі згуртаванымі, не дазволіла сабе.

— Так то ж бяда, Аркадзька, перамагнёмся — і зноў будзем людзьмі.

— Куды яшчэ жыццё гэтае паверне...

— А куды ні паверне, паганіць іх хату мы табе не дадзім,— азваўся ўрэшце дзед Дзям'ян Роўда, адзін з апошніх, а калісь шматлікіх Роўд у вёсцы. Ён як зняў гэтым днём, прыйшоў на могілкі толькі з тым, што надзета на яго, і, здаецца, без слова, без языка.

— Ты не дасі,— панура ўсміхнуўся Барздыка,— недавака знайшоўся. Не мецьме больш наша вёска могілак. Сам, сваімі вушамі чуў, з катэра гаварылі.

— Чаго, чаго не будзе? Ненене, Ганна, Цімох, сынку, што чаўпе боўдзіла гэта балотнае? Цімох, а я ўжо сабе і месца прыгледзела, добрае, утульнае, і з дарогі відно, хто ні пойдзе, не міне. Што ж гэта, Дзям'ян, Роўда, я цябе пытаю...— І старая Махахеіха насунулася на дзеда Дзям'яна. Дзям'ян, цяжка ступаючы нязношанымі, бадай што з пары даваеннага старшынства, ялавымі ботамі, пакрочыў у ваду да Барздыкі.

— Адчапіся, з'яд,— адмахнуўся ад яго Барздыка.

— Паводка, гавораць, у нас апошняя, табе не далажылі яшчэ гэтага. Забаронены з гэтай вясны, гавораць, паўсюдна паводкі, і паміраць забаронена.

— Корч ты, доўбень, смяешся з чаго і дзе,— Махахеіха распасцерла рукі над могілкамі.

— Не, баба Хвядора, не да смеху мне сёння. Сваімі вушамі чуў. Пакаранне, гавораць, нам будзе, што пад эвакуацыю, калі паводка пачалася, не пайшлі і дзетак не далі эвакуіраваць. Усю вёску нашу побаку, мяне пад хвост сабакам...

— Ой не брэша, ой не брэша, чуе маё сэрца,— раптам пусціла слязінку Ненене.— Што ж будзе, што ж будзе...

І трывожна забрахалі сабакі, роспачна зараўла ўзбуджаная іх брэхам жывёла, і як ачмураныя стаялі каля могілак людзі, глядзелі і, пэўна, не бачылі, як ад-

даляецца ад іх Барздыка са сваімі падсвінкамі, не чулі і віску тых падсвінкаў, не прыкмецілі, як і адплыў з імі Барздыка, скіроўваючы да хат, якія вымусіла іх пакінуць паводка, а цяпер...

Жывёла раўла ўжо няспынна, бы рэзалі яе. А сабакі ашалелі, здаецца, збіліся ў гайню каля закутка, дзе ўжо стаяла пад дахам з руберойду Мілка Ненене, і вылі там, што ваўкі. І Ненене нібыта ўкалоў хтосьці ў самае сэрца.

— Ой, жанкі, ой, жанкі,— пляснула яна, заламала рукі — і да сваёй Мілкі.

І акурат паспела, яшчэ б трошкі — і не было б у яе каровы. Воды адышлі, яшчэ калі яна, пэўна, цягала тыя Цупрыкавы клункі. Зараз вытыркалася ўжо белай плямінкай цялё. Мілка ўжо знемаглася. Ненене на бягу ласкава дакранулася да яе гарачай пысы. Карова ўдзячна лізнула гаспадыні руку і застагнала. Застагнала і Ненене, цялё ішло галоўкай, ножкі ў яго падгарнуліся, і яно ўжо нават не хрыпела, пэўна, нічым не здольнае было дапамагчы ні маці, ні сабе. Ненене ўхапілася за яго нерухома звешаную галаву, але зразумела, што ўсё гэта дарэмна: цела зрабілася млявым і як бы не яе. Яна амаль што выпаўзла з загародкі, туды ступілі Дзям'ян з Хвядорай Махахей. Ненене кінулася за імі: абараніць, дапамагчы сваёй Мілцы.

— Тут табе няма чаго рабіць,— сказаў Роўда, трымаючы перад сабой закасаныя па локаць рукі.— Самой карове не справіцца, трэба прырэзаць, хоць мяса будзе.

— Ой, не-не-не, ды што ж гэта ты, Мілка... Рабая, раджай...— Карова толькі скоса павяла ў яе бок хваравіта мутным вокам.

Праціснулася ў загародку Барздычыха, высокая, кашчавая, мокрая, і вочы нядобрыя, чорныя. Ненене адціснула яе вон, пастаяла, прыслухалася, як Барздычыха адразу ж пачала сплятаць:

— Ой не к дабру, жанкі, ой не к дабру, з дзвюма галовамі бычок ідзе белы...

— Рэзаць, Хвядора? — падышоў да Махахеіхі Дзям'ян.

— Не будзь на тое мужык,— усміхнулася, нібыта прыгадаўшы нешта сваё, мінулае, Махахеіха,— ледзь што — рэзаць... Ну, рагуля, мілая, рабая,— Махахеіха амаль што ўсім маленькім сваім тварыкам улезла ў

абвіслае каровіна вуха, нашэптвала нешта ласкавае ў гэтае вуха. Нашэптвала, як пела, прыгаворвала, дзьмула. І Мілка калыхнула вухам, бы ўспрыняла, што гаварыла ёй бабуля, засаромелася, закрыла вочы, сама нешта вымавіла ў адказ, раўнула, спачатку коратка і глуха, а потым, хапіўшы паветра, доўга, голасна.

— Пайшоў, пайшоў,— сказаў Дзям'ян.

— Ну і трымай, дапамагай дзеўцы,— на імгненне паказала твар, зірнула з-за вуха каровы Махахеіха. Ненене кінулася да цяляці. І вось яна ўжо трымае яго на руках: — Цялічка, цялічка, з белай плямінкай...

Дзям'ян разам з Ненене ўзяліся выціраць цялічку. А Махахеіха ўсё працягвала штосьці нашэптваць, толькі ўжо не на вуха Мілцы, а кудысьці крышку ўбок, гладзіла высахлай, як без крыві рукою шыю, галаву Мілкі. Словы яе цяпер чутныя былі і Дзям'яну, і Ненене:

— Мая кароўка будзе ўросная, прасосная, будзе добра малосная. Будзе па чысту полю пахаджаці і капыцікам траўку збіваці і роску злізаці... Будзе?..

— Усё ж ужо, баба,— прыраўнавала раптам Махахеіху да сваёй Мілкі Ненене.

— Маладая ты яшчэ, доньку, вучыць мяне,— адказала ёй Махахеіха і дураслів а паківала пальцам: — Трымайце яшчэ аднаго.

Ненене не паверыла ёй. Але з'явілася і другое цялё, белы, як снег, бычок, таксама з плямінкай, з чорнай пралысінкай пасярод галавы.

— Не карова, а трусіха,— здзівіўся Дзям'ян.

— Ідзі, ідзі адсюль,— паперла яго Махахеіха, як спахапілася,— тут ужо наша, жаночая справа пачалася.

Змяркалася. Усё абышлося. Усё было добра. З хаты Ненене выйшла з Мілкай, цяпер жа іх стала чацвёра, дабавіліся Ягадка і Партызан. Ягадкай яна назвала цялічку, а бычку далі мянушку дзеці. І ўсё ж, калі, здавалася, можна было ўжо і адпачыць, уздыхнуць вальней, таму што ніякіх падстаў для трывогі не было, дзеці асвятлілі цяпельцамі ноч за могілкамі, бацькі іх ужо ўкладваліся, Ненене стала зноў ніякавата, і не ноч і не няўтульнасць былі таму прычынай. Надыходзіла нешта іншае, чаму яна не ведала і назвы, што не здольная была зразумець, вытлумачыць ні галавой,

ні сэрцам. Яна вымушана была спаць на святой зямлі, што само па сабе было страшэнным непарадкам, заўчаснасцю, разбуралася нешта векапомнае, устаялае. І зараз яе палохала ўжо не ноч, а дзень, які прыйдзе на змену. Палохала і напружвала невядомасць, што гэты дзень прынясе ёй, у які гэта бок павернецца яе жытка, ці на шчасце ацялілася бычком і цялічкай Мілка. І недзе варухнулася ў ёй цьмянае ўсведамленне, што ўсё гэта ўжо было, было з людзьмі. Толькі калі...

## ЗЯЛЁНА ЗЖАТА, СЫРА З'ЕДЗЕНА

З таго часу, як Мацвей Роўда апошні раз бачыў Шахрая, прайшло больш як тры гады. Мацвей адмаўляўся і верыць гэтаму. Дні ж так сцягваліся, так марудна ішлі яны, як усё роўна бясконцыя, а скласці іх у гады — нічога і не застаецца. Ні памяці, ні задавальнення, нават рэха ў душы не пакідаў гэты скончаны дзень, ніякай нітачкі, якая б звязвала дні, час у нешта адзінае, перакідвала б масток у дзень будучы. Адчувальнай была толькі хвіліна. І суткі, тыдні, месяцы драбніліся на гэтыя неспакойныя, запарныя хвіліны-імгненні. Так павялося з ад'ездам Шахрая, нібыта ён і тут прыклаў руку, украў нешта ў часе і звёз з сабой, пазбавіў яго счапленняў, выпусціў сокі, выцягнуў начынне, пакінуў дням толькі абалонне іх: святло, рух сонца па небе, заходы і світанні. І ўзыходзіла сонца, чырвона каналі дні, палыннай горыччу асядалі на патрэсканых ад беганіны і мітусні губах. І гэты пыл марна патрачанага часу не змываўся, запасіўся ў ім, раз'ядаючы цела. І Мацвей, як закаркаваны, знямажана мільгацеў у гэтых днях, высільваўся адкаркавацца, хоць галавой ды выбіць гэтае гарачае заткала над сабой, распраміцца, азірнуцца, ухапіць і стачыць парваныя ніці часу, падпарадкаваць час сабе. Усё было марна, дні, як і раней, заставаліся нетрывалымі, а калі шчасціла, выпадала стачыць іх, імгненна ўсё рвалася зноў, і не проста рвалася, а з выбухам і аскабалкамі, раніла ж яго, секла хвілінамі і секундамі вочы, сцябала цела. Мацвей не паспяваў латаць час, нічога не паспяваў.

Ён наракаў на Шахрая, хоць той і даўно ўжо быў

далёка, але ж менавіта Шахрай уцягнуў яго ў гэтую калаверць, навесіў на шыю яму гэтую новую пасаду. Праўда, тады ён, Мацвей, быў маладзей, здаецца, на добрую чвэрць веку, зусім хлапчуком быў, і прапанову і рэкамендацыю Шахрая ўспрыняў як нейкую асабістую адзнаку. Хто ж тады мог меркаваць, што так яно ўсё скруціцца. Ён, як камень у ваду, не боўтнуў нават, скочыў у новую сваю работу, заступіў на новую пасаду. А Шахрай таксама атрымаў новае назначэнне, узляцеў адразу высока і крута і з'ехаў у Мінск. І больш яны не бачыліся. Напачатку перазвоньваліся, слухалі голас адзін аднаго, але галасы іх год ад году рабіліся ўсё больш невыразнымі і цьмянымі, пазбаўляліся цеплыні і адценняў, нібы адлегласць паміж Мінскам і Княжборам усё павялічвалася і павялічвалася, пакуль не дасягнула нейкай крытычнай кропкі, на якой скончылася гэтае тэлефоннае, дротавае сяброўства. Мацвей працягваў сачыць за Шахраем па газетах, але гэта нічым не адрознівалася ад таго, калі сочаць не за чалавекам, а за яго ценем, таму што газетны Шахрай неяк размываўся, ён быў аддзелены ад таго Шахрая, якім ведаў яго Мацвей: быў падобны на сябе не больш, чым хмара ў небе падобная на свой адбітак на зямлі ці вадзе. І Шахрай уяўляўся Мацвею і хмарай, і ценем адначасова. Мацвею здавалася, што той павінен выглядаць больш самавіта, гэтага ж патрабавалі высокія яго абавязкі, і таму, думаў Мацвей, каля Шахрая павінна існаваць нейкае кола, прастора, што запоўнена толькі яго голасам і дыханнем.

Але гады, што яны не бачыліся, і высокая пасада ніяк не адбіліся на былым начальніку Роўды, ён здолеў захаваць сябе і тут, у Мінску, амаль што без змен, застацца такім, якім быў і на Палессі. Толькі калі ўжо Шахрай абняў Мацвея і Мацвей даверыўся гэтым абдымкам, сам прыпаў да яго, адчуў: не, не той ужо Алег Віктаравіч. Не той, хаця і не існавала ніякага кола, стала менш і маршчынак на яго твары, і менш ён горбіўся, але здаецца, і касцей не было ў яго ўжо зусім. Іх і раней, калі памятаецца Мацвею, было няшмат, але ж яны адчуваліся. І не толькі адчуваліся, часам Шахрай здаваўся Мацвею нават маслакавата-грувасткім, ён запаўняў усё вакол сябе гэтай сваёй грувасткасцю, непадступнасцю, з такім Шахраем на шырокай дарозе не надта проста было размінуцца.

І Мацвей, калі купаўся з ім у рэчцы ці ў лазні, толькі здзіўляўся: адкуль што бярэцца ў Шахраю, такім розным быў ён нават перад тымі, хто добра яго ведаў, адкуль толькі бярэцца самавітасць, калі сам ён — як кнот, варта на яго дзьмухнуць — ён і пераломіцца. І твар яго падманліва малады і гладкі, на самай справе ён ацёчны, ацёчнасць расправіла маршчыны, загладзіла іх, нібы прысыпала попелам, закрыла плеўкай.

І Мацвей адначасова быў рады і шкадаваў, што наскочыў да Шахрая, і не на працу да яго наскочыў, дзе нават сцены, падлога вымушалі б яго гаварыць коратка і толькі аб тым, што датычыцца справы, а сунуўся ў кватэру, дзе можна гаварыць, не зашпільваючыся, нібыта такія ўжо ў іх адносіны. І сам сябе няёмка адчувае, і Шахраю будзе мулка, будзе вымушаць Шахрая вымаўляць нейкія пустыя і непатрэбныя зараз словы. А што Шахраю нейкі там старшыня калгаса, хаця ён і хадзіў з тым старшынёю ў адным хамуце, цягнуў адзін воз. Толькі калі тое было. Цяпер жа хамут у яго другі і карэннікі другія, а такіх, як Мацвей, сотні.

Мацвей свядома прыніжаў сябе. За вольнасцю і нейкай нават нахабнасцю ў думках былі і збянтэжанасць, і разгубленасць, і горыч. Ён ведаў, чаго варты сам, ведаў сваю сілу і віну, ведаў, чаго варты і Шахрай, магчымасці яго і межы гэтых магчымасцей: як бы высока ні занесла таго, проста так ён бы не адмахнуўся ад яго, ад Мацвея. Калі б на тое пайшло, Мацвей не пасаромеўся б грымнуць і кулаком па стале, прыперці Шахрая і сказаць яму: што, запамятаў, як і над табой былі Шахраі. Але ён прыйшоў да Шахрая дамоў і пазбавіўся менавіта гэтай зброі, пазбавіўся свядома. За плячыма яго самазнішчэння стаяў ганарлівец — апошні абаронца жабрака, які працягвае руку па кусок хлеба з паставай дабрадзея. І Мацвей з'явіўся да Шахрая як пераможца. Жабрак-пераможца, які праг убачыць, ці дрыжэцьме рука таго, хто дасць яму хлеб. Яму патрэбен быў зараз другі чалавек, чалавек, аднолькава павінны ў тым, што здарылася ў Княжборы, але воляй лёсу вызвалены ад пакарання. Яму карцела даведацца, што крыецца за гэтым лёсам: проста — спрытнасць рук і ніякага махлярства ці нешта больш значнае, недасягальнае разуменню старшыні калгаса. Ён праг верыць у гэтае недасягальнае, што

хоць нейкім чынам ды ўсё ж апраўдвала яго, на самай жа справе, што ён, Мацвей, зрабіў няправеднага, колькі на гэтай вялікай зямлі жыве людзей, а чыстых праведнікаў сярод іх Мацвею яшчэ не даводзілася бачыць. Не бачыў ён і такіх, якія ўжо страцілі ўсё чалавечае ў сабе. Зразумела, не роўнымі былі людзі, жыццё ўздымала, брала на шчыт адных, таўкло, змешвала з граззю другіх, і ўсе яны ў меру таргаваліся з ім за месца пад сонцам, за годнасць сваю, былі ў меру сумленнымі, а ў меру і не. І гэтая мера заўсёды ўлічвалася, планавалася і наверсе, і ўнізе, заўсёды аптымальна вызначаўся яе абсяг, аптымальнай была будучыня, якая паўставала за гэтай мерай, будучыня адзінкі і мноства. Ніхто нікога не адзначаў так, як адзначылі яго, Мацвея, і людзі, і зямля, і нават час. Адзначылі менавіта за тое, што быў працавіты, старанны без меры і, па магчымасці, сумленны. Не падмануў, не ўкраў, не забіў... І ўсё ж...

А што ўсё ж? Гэта павінен ён высветліць зараз, высветліць у гаворцы з Шахраем.

Шахрай уяўляўся яму чалавекам ужо крыху за мерай, які не ведае хістання, усё, што ён рабіў, рабіў не азіраючыся, нібыта і на самай справе ведаў нешта такое, чаго не дадзена было ведаць яму, Мацвею. Шахрай, думаў Мацвей, абавязаны гэта ведаць, зыходзячы хаця б з таго, што ён знаходзіцца над ім. Гэта было простае і наіўнае тлумачэнне, але хацелася верыць, што так яно і ёсць, ці страціць гэтую веру раз і назаўсёды, падмануць сябе ці пазбавіцца ад падману.

Ён пакутаваў, ісці ці не ісці яму да Шахрая, усю дарогу, але, выпраўляючыся ў гэтую дарогу, ён ужо ведаў: няма да каго больш ісці яму ў Мінску. Быў яшчэ чалавек, але ён зарокся, што таму чалавеку пакажацца на вочы толькі перад смерцю. І ў аўтобусе ў паўдрымоце яму мроілася, што тая апошняя, абагульняючая ўсё хвіліна ўжо настала і ён, не марудзячы, з прывакзальнай плошчы кінецца па адрасу, які прапісаны ў яго памяці палаючымі літаркамі. Але толькі спыніўся аўтобус, Мацвей, не вагаючыся, пакрочыў да Шахрая. Ён не прызнаваўся ў гэтым нават сабе, але ўвесь час спадзяваўся на нейкі цуд: усё, што адбылося з ім,— сон, насланнё, яму здавалася, што ўсе гэтыя тры гады ён жыў, боўтаўся, плёхаўся ў нейкай цёплай і соннай вадзе, дастаткова выйсці з гэтай вады, сту-

піць на бераг, на халодны і жорсткі пясок, ён зноў будзе ўсё бачыць, стане відушчым цела, насланнё згіне, пачнецца жыццё, нічым не падобнае на тое, што было раней.

Мяккія абдымкі Шахрая працвярэзілі яго, ён зноў быў у той жа самай ачмуральна цёплай вадзе. Ніхто і ніпгто не здольныя перамяніць яго лёс. Надзея знікла, і ён раззлаваўся на сябе, на Шахрая, таму і прыдумаў сабе яго, хацеў убачыць на твары Шахрая маску і ўбачыў. А калі папраўдзе, дык Шахрай які быў, такі і застаўся. І зараз, калі абдымаў яго, як і раней, паводзіў сябе, як артыст перад публікай, хаця ніякай публікі і не было. Гэта была яшчэ адна прыроджаная, пэўна, рыса Алега Віктаравіча — усюды і ўсім падыгрываць, аддаваць першы ход каму-небудзь іншаму, нават і сярод сяброў паводзіць сябе так, нібыта яго фатаграфуюць зараз. Тут Мацвей зноў спахапіўся, што ён несправядлівы, што ён мо і зайздросціць Алегу Віктаравічу, які заўсёды такі роўны з кожным, але спыніцца ён ужо не мог. Наўмыснай падалася яму і прастата, з якой быў абстаўлены кабінет Шахрая, хаця гэта больш за ўсё і выяўляла ранейшага Алега Віктаравіча, у спартанскай прастаце быў водгук таго часу, у якім пачаў свой шлях Шахрай.

Вандроўнае жыццё на Палессі таксама патрабавала гэтага: нічога лішняга ні за плячыма ў рукзаку, ні ў кішэнях, ні ў кабінеце, ні ў хаце — усе рэчы простыя і прызначэнне іх зразумелае. Менавіта па гэтую прастату і паразуменне і прыйшоў Мацвей да Шахрая. І ўжо як бы сам кабінет Алега Віктаравіча сцвярджаў, што імкнуўся сюды ён не дарэмна. Кабінет хаця і быў аглушальна вялізны, але голы, пусты. На адной сцяне, амаль напалову яе,— схема меліярацыі Палесся. А ў самым нізе гэтай схемы была маленькая чорненькая кропачка — Княжбор, макавае зярнятка і вока змяі адначасова, быў, уласна кажучы, сам ён, Мацвей. Яго жыццё, лёс. Мацвею і на самай справе здавалася, што гэтая чорная кропка на вялізным аркушы фотапаперы і ёсць ён. Усё, што ён рабіў, чым жыў, выснавалася, сфакусавалася ў гэтую нямую зрэнкавую кропку. І няма ніякай драмы, таму што такіх кропак на карце мноства. І яго вока абыякава слізгаціць па іх, не спатыкаецца ні сэрца, ні душа, а калі і ўзнікае што ў сэрцы, то нікому гэта і не цікава, ні яму, ні каму-небудзь

іншаму — гэта рэха таго, як і дзе ён жыў раней, тая самая геаграфія і крыху біяграфія, якую мае кожны чалавек, мае і па-свойму асвятляе яе. Мацвей адвёў вочы ад карты Палесся, але тры іншыя сцяны былі ўжо зусім голымі. Не загрувашчаны быў паперамі і стол Шахрая. Горка ганчарных дрэнажных трубак — вось і ўсё. І ад гэтых трубак, ад схемы меліярацыі Палесся — пах тарфянікаў, балот, балотных траў — уяўны пах, пры поўнай адсутнасці яго.

І Мацвей зноў абрынуўся на Шахрая. Цяпер ён абвінавачваў яго ў тым, што той умее вось так — адным-двума штрышкамі — стварыць нават паветра сваёй дзейнасці, пазначыць і высветліць тое, чаго няма, што толькі жадаецца. І ў гэтым таксама ўвесь Шахрай, які навідавоку, для староннягa, Мацвей жа ведаў яго і іншым і паважаў у ім таго іншага, настырнага, які б'е ў адну кропку, імгненна адсякае ўсё, што не тычыцца справы. І Шахрай стаў такім вокамгненна, як толькі яны дайшлі да справы, маслакаватым, груwasткім, нязручным. І Мацвей уздыхнуў з палёгкай, пачуўшы знаёмы голас, убачыўшы знаёмага чалавека.

— Дык ты за мае шырокія плечы...— пасля гэтых прамых слоў Шахрай трошкі вільнуў убок, загаварыў больш па-сяброўску, амаль з даверам: — Як толькі перабраўся ў Мінск, сеў у крэсла, усе былыя дружбакі згадваюць пра Шахрая, калі ім толькі прыпячэ, калі смажаным запахне. Думаў, хоць ты як чалавек зазірнуў, пагамонім, чарку возьмем.— І распаліўшыся: — Адзін, адзін, і выпіць няма з кім. І ты такое ж г..., Мацвей, як і ўсе астатнія. Памыліўся я ў табе. На каго толькі не паглядзіш, адзін і той жа твар: карысць, карысць...

Такі Шахрай быў дзіўны Мацвею: не спадабаўся яму.

— Загналі і вас, Алег Віктаравіч. Неспрыяльны вам мінскі клімат, сябе толькі і памятаеце ва ўсім.

— А ты каго памятаеш?.. Быў у мяне пракурор ваш, па характарыстыку прыходзіў на цябе. Адказаў я яму: «Хай і дэпутат атрымае, што заслужыў. Толькі вы спачатку наведайцеся да яго, паглядзіце, як ён там б'ецца...» Не пасадзяць. Даволі з цябе? За тым ты прыйшоў да заступніка, апекуна?..

— Не за тым, але як прыйшоў, так магу і пайсці.

— І ідзі.

— Не пайду. Слёзы, вочкі вашы насовачкай блакітненькай вытру, а тады і пакрочу... А вы б на маім месцы што б рабілі, да каго б кінуліся, пастаўце сябе на маё месца.

— Што ж, рызыкнём, памяняемся месцамі.

— Жартуеце?

— Чаму... Садзіся, садзіся, даражэнькі, вось сюды.

— Так, так, добра,— падтакваў Шахраю Мацвей, калі той вёў яго да крэсла, і, толькі калі сеў, уладкаваўся, даў сабе волю: — Да парога!

Уклаў у гэты крык усё: і боль, і няёмкасць, і пагарду, з якой тут яго сустрэлі, і страх свой, нібыта выклікаў свайго былога начальніка да бар'ера. Але і гэтым напятым крыкам не праняў Шахрая. Той паслужліва скіраваўся да парога і вычакальна застыў там. Мацвей абмяк, і не было ў ім ужо нічога, акрамя тугі:

— Хопіць, пэўна, Алег Віктаравіч, будзем сур'ёзнымі.

— А гэта сур'ёзна, я кожны дзень такі сур'ёзны, а цябе хапіла толькі на паўхвілінкі. Працягвай, працягвай. Пачатак жа ў цябе быў нядрэнны.

Мацвей не разумеў, здекуецца ён, блазнуе ці гаворыць усё шчыра. Шахрай быў спакойны, і гэтая яго спакойнасць і памяркоўнасць абурылі Мацвея.

— Шапку, шапку далоў,— загадаў Роўда.— І ад дзвярэй адваліцеся, іх падтрымліваць не трэба. Ногі б здагадаліся выцерці, калі перліся сюды. Чаравікі пакажыце, пакажыце чаравікі.

— Я ў пантофлях...

— Добра, што толькі ў пантофлях, а то і ў халаце ўваліліся б... Ну, карацей і самую сутнасць. Ды час не забудзьце засекці. На гадзіннік паглядзіце, толькі непрыкметна, крадком. І шыю згінайце... Што ты на мяне, як на пракурора, вызверыўся. Галаву ніжэй і вочы ў падлогу. Ну, што шыя-выя твая не гнецца? Ты ж прасіцца прыйшоў. Ты ж у мяне во дзе. Я ж твой дабрадзей і заступнік, дык не зыркай жа на мяне бурkaламі сваімі. Ну, пачынай, пачынай, голас каб дрыжаў, каб жалоба і скруха ў ім былі, каб працяло мяне, каб я **вник и снизошел**. А не то я цябе да намесніка наладжу, а той да загадчыка аддзела...

Мацвей гаварыў, нібы працягваючы жарт і гульню, якую прапанаваў яму Шахрай, але ён ужо адчуваў: гульня скончылася. Яму ўжо быў брыдкі гэты чала-

век, які сам прапанаваў гэтую камедыю і сам адмаўляўся ўдзельнічаць у ёй. А Мацвей быў ужо ў ролі, і яму трэба было давесці яе да канца. Уседазволенасць камедыі, жарту не вымушалі яго стрымліваць сябе, мяцца, давалі хоць і ўяўную, але ўладу. І ён карыстаўся гэтай сваёй уладай смела і без сораму, яму было прыемна ўладарыць над Шахраем. Наглядаць за яго збянтэжанасцю і замяшаннем. Хоць хвіліна, ды належала яму, ён, па выразу таго ж Шахрая, **владел ситуацией**, ён таксама здолеў парваць час, разбурыць сувязі і адносіны, якія ён дыктаваў.

— Ну, даражэнькі мой, чаго ж ты там прыліп, давай, не бойся... На паўсагнутых, Алег Віктаравіч, што мне вас вучыць. І пантофлі не губляйце.

— Перацісказш, Мацвей Антонавіч.

Як толькі Алег Віктаравіч рушыў на яго, сітуацыя ўжо не вельмі падпарадкоўвалася Мацвею.

— Нічога, праглынеш,— паспрабаваў ён захаваць тую вышыню, што ўжо набраў, але Шахрай выціскаў ужо яго з той вышыні голасам і грувасткасцю сваёй.

— Перайграеш, Мацвейка. А гэта заўсёды небяспечна, як і недайграць.

— А я не хачу іграць, я ўжо нагуляўся ў вашы гульні.

— А ў іх не трэба гуляць, у іх жыць патрэбна.

— Ну і жывіце, Алег Віктаравіч, бывайце здаровы, жывіце багата, а мы...— Мацвей знямог, здаўся, і Шахрай урэшце дазволіў сабе ўсміхнуцца.

— Не, калі пачалі ўжо, дык і працягваць будзем, а то не па правілах будзе. Перад тым як гуляць у нашы гульні, трэба правілы вучыць, што табліцу множання... Усе вы так, на злом галавы, а тут і саломку яшчэ падсцілаць трэба. І гэта галоўнае — падсцілаць саломку. Трэба ўлічваць фактар часу...

Мацвей здрыгануўся, пачуўшы гэты «фактар часу», але выгляду не падаў, слухаў. Шахрай жа змяніў тэму, нават не тэму, ён проста загадаў яму:

— Убірайся, злазь з майго крэсла, на стуліку табе сядзець. З маёй званіцы вышэй і вельмі балюча ўпасці, а так толькі сінякі твае.

— А як жа с фактарам часу? — І тут быў мацнейшым за яго Шахрай, не хапіла вытрымкі, спытаў.

— Аніяк,— адказаў Шахрай,— ты перабежчык, элементарны, гнюсны, як і ўсе яны, калі карабель

тоне. Твая перавага ў тым, што ты першы, а так усе вы адной масці. Меліяратар... Меліяратары працуюць, робяць сваю справу. Ты першы завыў, заенчыў, яны маўчаць, грамадскасць, вучоныя — усе ў адну дудку: бедная прырода, бедная прырода, прырода-маці, а хлеб, што мы далі, жаруць. І ты з гэтага хору едакоў. Крыху вымачыла, крыху прымарозіла, крыху высушыла, пылам цябе ахапіла — ты ўжо і сканаў. А галоўны бой яшчэ наперадзе. Ох, якая крутая каша заварваецца. І шкада мне, Мацвей, што ты не са мною...

— Буду есці кашу?

— Пры чым тут каша, каму есці, кажу табе, хапае — не хапае адданых нашай справе людзей, змагароў.

— Я ўжо наглядзеўся на вашы змаганні. Лясы ляцяць, чупрыны трашчаць... Я прагну аднаго: прайсці па гэтай зямлі і не пакінуць і следу.

— Не дадзім, не дазволім,— Шахрай грукае па стале кулаком.

І цяпер усміхаецца ўжо Мацвей:

— Хацеў бы не наслядзіць, Алег Віктаравіч, як наслядзілі мы з вамі ў тым жа Княжборы. Вось што я меў на ўвазе...

— Стоп, стоп, стоп,— зноў ляпае па стале, толькі ўжо далонню, Шахрай.

— Спазніліся стоп загадваць, ужо наслядзілі, нідзе ад гэтага не дзенешся. Толькі крыўдна мне: тварылі разам, адказваць...

— І зноў ты перабіраеш,— перабівае яго Шахрай.— Хто будаваў табе калгас?

— Я толькі начальнік БМУ.

— Цудоўна. А ў калгасе ты быў толькі хто?

— Старшыня.

— Дык якога ж чорта лысага ты пёрся да мяне?

— А я мо і не да вас, я не хавацца...

— Ах, якія мы ганарлівыя, у нас усяленскае сумленне жыве, у нас усяленскае сумленне загаварыла. Нам раса вочы выела. Мы ў адказе за ўсю зямлю. Мы кідаемся, мы шукаем. Мы раскайваемся, мы грэшнікі, мы Марыі Магдаліны... Вось хто ўсё жыццё шкодзіць, хто блытаецца пад нагамі, ные...

— Мы проста злачынцы з вамі, Алег Віктаравіч.

— Я — не, ты — так. Злачынец, таму што табе падабаецца быць злачынцам. Табе падабаецца біць сябе

ў грудзі. Ты як крыж на ростанях, толькі бабулек няма каля цябе, якія б ручнічок табе падвязалі, міласцінку паклалі... Пачаў бы ты красці лепей, Мацвей Антонавіч...

— Што ж мне красці? Тысячы, мільёны, якія праз твае рукі праходзяць? Дык яны і не патрэбны мне, да таго ж украдзены ўжо іншымі да мяне. Не, не думай, не сабе ты іх у кішэню паклаў. Ты зрабіў яшчэ горшае, самае агіднае ты зрабіў, ты іх убіў у зямлю, ты пусціў іх на вецер, на месяц закінуў. А гэта ж мае грошы, ты іх украў у мяне. А мне б усю зямлю ўкрасці, вось гэтага б з мяне хапіла... Бадай, пагадзіўся б нават на рэчку, возера. Засеяў бы, засадзіў непралазным, непраходным цёмным лесам — і каб ні пешаму, ні коннаму дарогі туды. Толькі добраму чалавеку расступаўся б мой лес, пускаў яго да берагу, на якім мы з тым чалавекам маглі б пасядзець і з вудаю, пагаварыць і пасумаваць на золку. Але ты ўкраў у мяне і лес, і рэчку, і бераг круты.

— А прасніцу табе туды не трэба, а лапцейкі, а гусялькі-цымбалікі? Хаця ж, табе на дудачцы-жалейцы больш падыходзіць. Рэчку я яго ўкраў. А ты куды глядзеў?

— Я не глядзеў, я выглядваў з-пад вашай рукі. Чый аловак крыжаваў вадасховішча? Маўчыце?

— Маўчу. Спазніліся з табою, цябе трэба было яшчэ з начальнікаў ПМК перці... Я крыжаваў вадасховішча, а ты мне апладзіраваў. Загадалі табе садзіць на тарфяніках бульбу, буракі. А ты і рады дагадзіць...

— Я верыў.

— У бога трэба верыць.

— Вы для мяне і былі богам. Вы як бог прыйшлі ў Княжбор і як бог узаралі яго, пакінулі за сабой жоўтыя пяскі, тарфяныя буры... Вы... Я прыйшоў вам гэта сказаць. Няхай вам будзе сніцца Княжбор, вам і вашым дзецям, як сніцца мне...

— Пагаварылі — хопіць! — спыніў яго Шахрай.

— Хопіць дык хопіць,— пагадзіўся з ім Мацвей. І яны разам і з палёгкай усталі. Шахрай з крэсла, Мацвей са стульчыка. Хвіліну-другую моўчкі стаялі адзін перад адным, наглядзеўшыся адзін на другога, разам схілілі галовы, нібыта пахавалі адзін другога. І Мацвей пайшоў. Пайшоў таксама як і прыйшоў, разлютаваны дарэмнасцю свайго паходу і гонарам, якому далі

па носе, пайшоў, не зведаўшы, ці ёсць што на свеце, што можа вывесці з раўнавагі Шахрая. Шахрай на развітанне падаў яму яшчэ і руку, Мацвей памарудзіў, але ўсё ж прыняў гэтую руку і пацiснуў яе і адчуў такі ж поціск у адказ. І далонь Шахрая была жорсткай, нібы ў мазалях. І яшчэ, ужо расчыніўшы дзверы, Мацвей зірнуў на схему меліярацыі, імкнучыся разглядзець там, на схеме, тое макавае зерне, вочка змяі — Княжбор. Але не здолеў — вельмі ўжо далёка была ад яго схема. І ўсё на ёй выглядала злітна, адзінай плямай, схема сама вялізным сваім цьмяным вокам глядзела на яго. І Мацвей паспешліва зачыніў за сабою дзверы.

## КНЯЖБОР

Так завецца вёска, хаця аніякага бору каля яе няма і ў паміне. Мо ад суму па гэтым боры і назвалі так людзі сваё селішча, таму што княжборцы радаслоўнай не памятаюць, адкуль яны прыйшлі, ёсць, канечне, у іх свае паданні і сказы, але паданні гэтыя мала што растлумачваюць, яны складваліся ўжо тут. А Княжбор — вёска вандроўная. Апошні раз краналася ў дарогу ўжо на памяці Цімоха Махахея і прыпынілася вось тут і ўстаялася вось тут, паўвека ўжо стаіць. А перад гэтым была за шэсць кіламетраў адсюль, дзе іх маленькая рачулка злівалася з другою, вялікай і славутай ракой, дзе, як кінуць вокам,— вада і вада, ніцыя лазнякі, вячыстыя дубы. І сярод гэтай вады, дубоў і лоз, як бабровыя хаткі, стаяла каля дваццаці іх хатак. За хатамі ці то поле, ці то сенажаць — Цімох ужо і не памятае, таму што яго дзяцінства праходзіла больш на вадзе, чым на зямлі. Вада — першае, што ўвайшло ў яго памяць, пасля яе ўжо з'явіліся маці, бацька і малако. У дзедавым чоўне ён упершыню ўбачыў неба над галавой, лазнякі ў туманным мроіве вады, вяршаліны далёкіх дрэў, убачыў і сказаў сабе: жыву, дыхаю, плыву і назаўсёды паяднаўся з вадой, лозамі, дрэвамі і небам. І амаль што адначасова з гэтым пачаўся вялікі рух, вёска пагрузілася на тыя ж чаўны, душагубкі, хуценька звязаныя плыты і ранула ўверх па рачулцы, пацягнулі плыты княжборцы шукаць долі на новым месцы. На старым жа іх сем га-

доў запар, з дня нараджэння Махахея, залівала вадою. Сем гадоў не бачылі яны хлеба, не елі бульбы, даволіліся тым, што пасылала рака.

Спыніліся на загадзя прыгледжаным месцы, сякерай і агнём адбілі ў лесу сабе зямлю і прытулак, хутарамі і водрубамі разбегліся па беразе рачулкі, але назву захавалі: Княжбор, княжборцы, хаця да сапраўдных хвойных лясоў і адсюль было не менш чым дзесяць вёрст, стаялі там хвоі званлівыя і высокія — уразбежку, пахмурныя і каржакаватыя — градой, і маладыя хвойкі поруч з маладымі бярозамі. Але зямля, дзе вырас гэты бор, па якім сумуюць княжборцы,— бедная, пясочак, жвір і белы грыбны машочак, што так хрустка прыпадае да нагі летам, толькі ў беразнячку зрэдку пракідваліся верас ды зязюлін лён — тужлівыя вочы тужлівага краю. Нават акопы, што засталіся ў бары з часоў ужо даўно мінулай вайны, зарастаюць марудна, не хапае ў беднай зямлі сокаў загаіць свае раны. А пад Княжборам зямля добрая, аглоблю пасадзі — і тая парасткі пусціць, буяе ўсё, а не расце на такой зямлі, і хутка гоіць свае раны княжборская зямля, яна таксама зведала, што такое бомбы і снарады, была здрапежана акопамі і бліндажамі, але зацягнула, зарасло ўсё. Ураджлівая і трывушчая зямля пад Княжборам. Не прагадалі княжборцы, двойчы выгадалі, другі раз тым, што заўсёды было іх селішча савецкім, савецкімі былі яны заўсёды. А тая зямля і тая вада, на якой і каля якой яны жылі раней, пасля грамадзянскай вайны адышлі да Польшчы, па рачулцы стала граніца з Заходняй Беларуссю. І Махахей яшчэ і сёння жонцы сваёй Ганне гаворыць:

— Збірай, баба, торбу, пайшоў у Польшчу, за мяжу пайшоў,— гэта калі яму трэба на другі бераг рачулкі ў грыбы, ці бочку пад бярозавік паставіць, ці зайцоў паганяць.

І не бяда, што няма бору пад Княжборам,— ёсць дуброва. Была адна, пэўна, такая на ўсё Палессе, ідзеш-ідзеш, збіваешся ўжо з нагі, ані неба над галавой, ані канца ні краю дубам.

Адзін у адзін і адзін каля аднаго стаяць малайцы. Раскашавала душа. Дыханне дубровы, здаровае і чыстае, нібыта само дыханне Палесся. І хлеба не трэба, але калі ўжо ёсць — то толькі дай. І радасна было дыхаць суладна з роднай зямлёй, дубовым лістом

трымцела ўсё ў табе, і адгукаліся табе напятыя на золаку, пазяхаючы спрасонку на ўсходзе сонца, дубы. Гэта прачыналася само Палессе, працавітае, клопатнае, цягнулася пчалой у сенажаці з борцяў, што пастаўлены на дрэвах яшчэ першымі перасяленцамі, у ажынніку, маліннікі, што захапілі лагчыны і падбалоцце, упраўнай вавёркай круцінца кола новага дня, прарочa пытае зязюля: хто — ты, хто — ты, хто — ты, і супакойвае яе вястун-сіваграк: усё пра-пра-кра-красна. Сіваграк і зараз крычыць, а мо ўжо гэта і не сіваграк, а груган, голас даўкі, скрушлівы, кружаць птушкі над дубам, б'юцца ў асклізлым сутарэнні вецця, холадна, зябка ім там. Зябка стаяць на ганку і Цімоху Махахею, глядзець на голы яшчэ і ўвесь у вадзе лес, на змрочнае і нізкае неба, панурыя ў вадзе хаты. За пяцьдзесят гадоў іх куды паболела, яны збегліся, сцягнуліся ў вёску ўжо, але тое, што гэтыя хаты — жытло людзей, а не якіх-небудзь баброў, згадваецца толькі па комінах. З крытых саломай і чаротам стрэх дзе-нідзе прабіваецца ўжо і маладая лаза, асабліва на стрэхах хлявоў, і трава з мохам — усё як у тым старым Княжборы, з якога Махахей з'ехаў, калі быў яшчэ хлапчуком. Дагнала вада княжборцаў і тут, на новым месцы. Таксама як і раней, пяты год запар залівае вёску паводка. І які ўжо год будуецца і не можа пабудавацца Цімох Махахей. І смех і грэх, бусел на коміне новай хаты кубло сабе склаў. І цяпер стаіць ён ужо там, на кубле сваім, апратаным і дагледжаным, стаіць на адной назе і ці то пагражае чалавеку, ці то дакарае яго, як помнік, не зміргне, не калыхне ні вокам, ні сашчэпленай дзюбай, ні напятай, выцягнутай у неба галавой. Але клякоча, струменіць унізе пад ім вада, хістаецца лаза, нібы моліцца, просіць літасці. А бусел сцішаны і хмурны, цярплівасць і векавечнасць жывым птушыным вокам глядзіць у душу чалавека.

— Э-э, цоб-цобе, ваўкарэзіны, — між хатамі ці то коцяцца, ці то плывуць драбіны, марудна, унурыўшы галовы, ступаюць валы. Аркадзь Барздыка адвозіць вучняў у школу, сёння яго чарга. Але на драбінах толькі адзін ён ды яго сетка і жакі, а вучні — хто ў лодцы, хто ў чоўне, вяроўчынай прывязаліся да драбін, плывуць сабе. Ім весела, а Барздыка, што той бусел, хмурны і пануры. Але як згледзеў Махахея, стаў жвавым і ён.

— Здароў буў, Махахей,— весела выгуквае ён, але глядзіць не на чалавека, якога вітае, а на бусла. А бусел — як бы нічога і не існуе для яго, толькі думка ягоная, адзіная.

— Ганарысты які,— пасміхаецца Барздыка, але смех яго ўжо натужаны.— Не, не кватарант ён у цябе, Махахей, гаспадар, а кватарант — ты. Ты б з яго за пастой хоць чым-небудзь браў, яйкамі хоць. А то сакеру яму, хай табе хату будуе.

— Ты б языком у адну мінуту мне яе пабудаваў,— гаворыць Махахей.— Нешта лёгкі сёння ён у цябе, менціць, што мянташка.

Махахей таксама не глядзіць на Барздыку, абодва яны ўталопіліся ў бусла, задзерлі галовы ўгору і дзеці. І птушка, помнік каменны, ажывае, лопае крыламі, клякоча ружовай касцяной дзюбай.

— Ну-ну, здароў быў,— гаворыць Махахей.— Як жа я, зараза ты етакая, соўсень ты балотны, злыдня кавалак, печ растаплю, хату абагрэю, вось паклічу зараз бабу Ганну на цябе, яна табе пакажа саву смаленую, ногі твае жэрдкі, асмолкі хваёвыя, на лучыну пусціць.

— Гэта ён табе пакажа, адкуль ногі растуць і дзе ракі зімуюць,— непадробна смяецца Барздыка,— адкуль ногі растуць, га...— І толькі пасля гэтых слоў Махахей як бы прыкмеціў Барздыку.

— Шкада, жалка,— гаворыць ён.— Ты глядзі, прыджгаў — і на кубло. Цяжкая будзе вясна ў яго. Паспачуваць яму трэба, а то б скінуў. Ей-бо, як піць даць, а так жалка.

— Жалка ў пчолкі, ведаеш, дзе... Жаласлівы да бусла, да нас бы так хто... Ану, пайшлі, ваўкарэзіны, пайшлі, спатыкачы, маць вашу за нагу...

— І то...— гаворыць услед Барздыку Махахей, брыдзе вадою да хлева, адчыняе яго насцеж, панура назірае, як спалохана туліцца да сцяны карова, добра хоць хлеў паставіў на бугры, на сухенькім стаіць яго карова. Махахей выносіць з хлева вясло і жак, кідае іх у човен і доўга стаіць нерухома, як і бусел, глядзіць на дарогу, па якой усё яшчэ едзе-плыве Барздыка. Ніколі яны не сварыліся, не біліся, але і мір іх не бярэ. Барздыка і знішчыў дуброву, пра якую ён думаў, пакуль не выплыў на драбінах перад ім жа той самы Барздыка. Ён знішчыў не толькі дуброву, але й нейкую частку

яго самога, Махахея, частку таго свету, у якім жыў Махахей.

Хто не ведаў раней Княжбора, той і сёння яшчэ памірае перад векавечнымі дубамі, што ацалелі на беразе рачулкі. На здзіўленне дубы, шапку перад імі аберуч трымаць трэба, здымаць трэба шапку, бо сама ўпадзе. На пні падвода развярнуцца магла. Гэта ён перабольшвае, канечне, але гавораць: раней і сапраўды былі такія дубы, што параконна разварочваліся на іх. Былі, ды сплылі весняй вадой. Весняй вадой спакон веку пад шатамі іх плылі іншыя дрэвы, а пад дубамі плытагоны, прычаліўшы плыты, адпачывалі, варылі славутую сваю кашу і кулеш, і колькі той кашы, колькі таго куляшу з'едзена было на берагах рачулкі, і ўявіць цяжка, паспытаў іх у свой час і Махахей. Уявіць немагчыма, колькі па дуброве паднята княжборцамі баравікоў. І Цімох Махахей збіраў іх таксама, касіў бадай што касой, пад'язджаў на драбінах, прыпыняўся ў цяньку і рэзаў мяхамі, як на воз ускласці. Баравікі ўсе былі ядраныя, дуброўныя, ты яго рукамі, а ён уголас крычыць на цябе, на зуб просіцца, рыпіць ажно. Але адной вясной, адным летам прапала ўсё: секлі дубы, а праваліліся пад зямлю і грыбы. Звалася дуброва княжборскай, стала звацца дубняком Махахея, толькі гэта яго ўжо не ўцешыла. Не вельмі што́ паспеў ён выратаваць ад былой прыгажосці Княжбора.

Год той быў круты, па вясне яшчэ, пры снезе, напаткала ўсіх вялікае гора. Княжбор уліўся слязьмі, плакалі амаль у кожнай хаце, разам з усёй краінай, як па бацьку родным убіваліся, нібыта ўсе ў адну хвілінку асірацелі, страцілі бацюхну-карміцеля. Але не паспелі прасохнуць вочы, як на́ табе, новая бяда, пазней і яна не падалася ўжо бядой, а так, бедкай, толькі паспрабуй, калі столь на цябеваліцца, дзе схавацца, дзе знайсці паратунак: узбуйнілі княжборскі калгас. І да гэтага ўзбуйнення жылі княжборцы не надта спраўна, але ад навіны да навіны чаго-чаго, а кардопляў хапала: абжываліся толькі ж, на даўгі, на пазыкі, на крэдыты — жывёлу і тэхніку рабілі. А зямлі ў калгаса было няшмат, можна сказаць, зусім не было, гектараў шэсцьдзесят, ад сілы — сто. І ўся яна па загонах, па дзялянках раскідана па акрузе. Не больш было той зямлі і ў калгасе, які злучылі з княжборскім, добры сабака за адну раніцу мог яе ўсю пазначыць.

Аб'яднаді дзве гаспадаркі ў адну, загаласілі княжборскія бабы: куды ўлада глядзіць, мы без зямлі, яны без зямлі — старцаў толькі пладзіць будзем. Але нашы хоць робяць, а там жа зломак на зломку, паглядаюць толькі адзін на аднаго, мы гаравалі, тэхніку завялі, а яны і насенне праелі, і нас праглынуць і не каўкнуць. Але ніхто слёз гэтых не ўважыў, таго ж Аркадзя Барздыку, як вышэйшага ў Княжборы па вайсковым званні — старшыной ён вярнуўся з фронту — і тут у старшыні. Натуры, цягавітасці ў Барздыкі хапала, па-колішняму мог ён і ў кулак выбіцца, але і зараз ён не губляецца. На тым жа сходзе, на якім абралі Барздыку старшынёй, ён і абвясціў:

— Па гэтым жа леце выйдзем у перадавікі.

І выйшлі, бяды той сапраўднай не разгледзелі, выйшлі, як на свята, з песнямі, тварыць і памнажаць бяду і гароту ўласнымі рукамі. Дзве вёскі, усе мужчыны і бабы наперадзе іх. І паплылі па рэчцы дубовыя бярвенні і кражы ў вялікія гарады, на вялікія здзяйсненні. Працавалі хапатліва і прагна, прагна падлічвалі ўжо і грошы, прыглядаліся да абновак, прыкідвалі, хто што справіць, што прыдбае ў хату. Цімох Махахей спрабаваў перашкодзіць сякеры і як сам не трапіў пад сякеру.

— Ураг народа,— коратка сказаў Аркадзь Барздыка.— Вось ён перад вамі. Глядзіце, пакуль ён яшчэ тут.

Ад такіх слоў Махахей аслупянеў, забыўся нават і пра сваё. Не жартачкі гэта былі. Не жартачкамі ўскінуліся на яго людзі:

— Лес, дуброва чыя? Калгасная. А мы хто — калгаснікі. Ураг ты калгасніку і калгаснаму ладу.

— Які я ўраг, я карову сваю сенам абдзяляю, калгасных коней кармлю,— не хацеў добранькім выстаўляцца Махахей, а вымусілі.

— Трэба яшчэ разабрацца,— напёр Барздыка,— адкуль у цябе сена. І карове хапае, і коням застаецца. Адкуль?

— З-пад кур, вось адкуль. Твой стог з зімы ў гародзе прахне, ні жменькі нікому не пазычыў.

— Не лезь, Цімох, пасві коней, пакуль самога ў цуглі не зануздалі ды на аброці не павялі.— Гэта ці не Роўда заступіўся за яго.— Дрэва яшчэ вырасце, а мы з зямлі ніколі не падымемся. Пра людзей трэ думаць, шкадаваць жывое.

І гэта Антон Роўда так. Ён таксама быў з сякераю, як і ўсе мужчыны вакол. Але ім Цімох дараваў, а Антону не мог дараваць. Шмат пра што гаварылі яны, і адны ў іх былі словы, адны думкі, нават парадніцца мерыліся. І нясоладка было Цімоху слухаць і глядзець на Антона Роўду: калі ўжо ён узяўся за сякеру, значыць, няма ў Княжборы чалавека, які падтрымае яго, Цімоха Махахея, Княжбор супраць яго.

І калі б толькі княжборцы, Антон Роўда, чужыя людзі — родная жонка ўз'елася. Цімох папрасіў яе дагледзець коней.

— А ты што, бязногі ці бязрукі,— накінулася яна на яго.— Вунь, паглядзі, якія толькі працадні на лесе пішуць. І грашыма, гавораць, адразу разлічвацца будуць.

— Не хачу я тых працадзён, і грошай мне іх не трэ, пайду ў раён, каб забаранілі.

— Супраць грамады! А як жыць у вёсцы будзеш, з кім знацца станеш? Што табе, капейчына ў хаце лішняя, радзецель, парадчык. Гармоніку табе на іх куплю, грай сваім коням тустэпы, скачыце ноч навылёт... Вунь, чацвёра ў куце і кожнае рот зявіць. Праўдай сваёй накармі іх... Ох, выпала ж доля, самай бы сытай была, калі б тваю праўду на хлеб намазаць. І ў каго ты толькі такі ўдаўся, у каго пайшоў.

— Пайшоў я,— сказаў Цімох.

— Ой, ды хоць хлеба скібку вазьмі на дарогу... Не пушчу, не пушчу,— Ганна стала каля парогу, ён падышоў да яе, пацягнуў за нос, жонка адразу ж захлюпала ім: — Ты хоць прозвішча свайго не кажы там...

Але гэтых слоў яе Махахей ужо не чуў. Да горада, да ўлады свет быў не блізкі. Трыццаць кіламетраў, гаці, брады, і трынаццаць масточкаў: яго масточак, Махахееў, масточак Роўды... Пакуль гэта ён усе іх пералічыў, перадумаў, куды і навошта ён ідзе ды што скажа. Княжбор працаваў, плылі па рачулцы дубы. Плылі яны і потым, пакуль начальства з горада да іх наладзілася, а яно не надта прыспешвала: не было машыннай дарогі. Княжбор — сяло глыбіннае, і вядзе туды адна дарога. Вось так і скончыўся сказ пра княжборскую дуброву, казкі пачаліся.

Зноў з'явіўся пад Княжборам Жалезны Чалавек, зноў загаласіла ў Княжборы Галасніца. Чалавек жа той быў нядобры, таму што незразумелы, памяталі яго

толькі старыя, што жылі яшчэ ў даўнім Княжборы. Хадзіў ён там кожную ноч па вёсцы, тупаў жалезнымі нагамі. І чаго хадзіў, чаго праг, шукаў чаго — пра тое ніхто не ведаў. Ці то была грэшная душа з саміх княжборцаў, ці прыблуда нейкая, таксама ніхто не мог адказаць. Але толькі змяркалася, людзям спаць класціся, з'яўляўся і ён, чорны, цёмны і бязвокі, крочыў вясковай вуліцай, крочыў так, што дрогка званілі вокны ў хатах і хісталіся хаты. Туліліся да платоў людзі, што рызыкнулі такой парой выйсці на вуліцу. Жалезны Чалавек не кранаў іх, хадзіў ён маўчком, што соўсень сунуўся, а недзе сярод поля галасіла Галоска-галасніца. Бегала ад мяжы да мяжы, шукала сваё дзіця, убівалася па ім. Галасніца была сваёй Княжбору, яе ведалі. Яна прыспала хлопчыка, прыдушала ў сне і са скрухі павесілася. Пахавалі яе, але і ў зямлі не ведала яна спакою, усю ноч напралёт шукала свайго сына. Галоску княжборцы шкадавалі і любілі. Яна была як за лекарку ў Княжборы, лячыла княжборскіх дзяцей, калі сурочыць іх хто ці напалохае, пазбаўляла ад прастрэлу і шчацінкі, як толькі выпадала раса, пачуўшы Галасніцу, княжборскія маладзіцы хапалі сваё неспакойнае дзіця і беглі ў поле, на мяжу, пакідалі яго ў разорцы на мяжы, адыходзіліся самі крыху ўбок, чакалі, калі Галасніца знойдзе яго і прагоніць хваробу. І Галасніца знаходзіла, заціхала, супакойвалася сама і супакойвала дзіця. Маці забірала яго, кланялася нізка Галасніцы. І тры дні пасля гэтага Галасніца маўчала, тры дні не чуваць было яе жалобнага і скрушлівага голасу. А Жалезны Чалавек хадзіў і хадзіў, не зважаючы на надвор'е. Не баяўся ён ні дажджу, ні пылу, не пакідаючы і слядоў, ішоў у дуброву, і ўсю ноч стагналі і тужліва шумелі веццем дубы. На світанні толькі супакойвалася дуброва.

— Няйнакш хтосьці з сваіх і Жалезны гэты чалавек,— гаварылі княжборцы.— Жывы нехта, няймецца камусьці жывому, таму што сярод тых, хто памёр, не ведаем нікога настолькі грэшнага ці настолькі святога, які і не адзываецца, і знаку нам не падае.

Але як толькі княжборцы пераехалі на новае месца, адчапіліся ад іх і Галоска-галасніца, і Жалезны Чалавек. З'явіліся апошні раз перад вайной ці то ў вайну, але ненадоўга. Прыгадалі былое княжборскія маладзіцы, пацягнуліся з дзецьмі на мяжу, толькі да-

рэмна: нікому не дапамагала тады Галоска. Мо княжборцы і забыліся б пра іх. Але вось знішчылі дуброву, і зноўку ўсчаліся над палямі галашэнні, задрыжалі ў хатах вокны, зноў пачаў хадзіць па вясковай вуліцы Жалезны Чалавек. Гады два таму назад бачыў яго ў сваім дубняку і Цімох Махахей, як Барздыку бачыў сёння раніцай, зусім блізка падышоў ён да яго цяпельца і спыніўся, нібыта адліты з медзі. Спыніўся і пачаў урастаць у зямлю, спакваля, паціхеньку так. Урос па калена, і далей зямля, мусібыць, не прымала яго ўжо, утапталася, цвёрдай стала.

— Ну чаго табе яшчэ? — спытаў Махахей. Жалезны Чалавек маўчаў, толькі агонь ад цяпельца скакаў па яго целе, і здавалася, што Жалезны Чалавек дыхае. А твар яго заценены і нерухомы.

— Ідзі, ідзі,— незласліва і без спалоху сказаў яму Махахей.— Чаго коней трывожыш, бачыш, як храпуць? — І Жалезны Чалавек пайшоў, знік у цемры, як і не было яго. Чаго прыходзіў, і спытаць некага. Раніцай Махахей агледзеў тое месца, дзе стаяў Жалезны Чалавек, урастаў у зямлю. Ніякага знаку. Прымроілася, падумаў ён, учадзеў ад дубовага пня, ад дымакура, што насіў з сабой ад з'яду, названілі ў вушы камары, намільгацелі перад вачыма, вось і лезе богвед што ў галаву.

Але сёння ноччу Жалезны Чалавек зноў прыходзіў да яго, і ўжо ў хату, калі ён спаў.

— Я ж прагнаў цябе,— сказаў яму Махахей.— Навошта ты зноў прыпёрся? — Жалезны Чалавек стаяў каля ложка і маўчаў. І Махахей цяпер, лежачы на ложку, бачыў ужо яго твар, нібыта ў хаце гарэла святло, невялічкае такое святло, але яго хапала, каб разгледзець твар госця. Быў ён і сапраўды невідушчы і ў воспінах, нібыта яго адліць адлілі, а адшліфаваць не паспелі, ці гэта ён плакаў увесь час і слёзы з'елі яго твар.

— Давай па-добраму,— прапанаваў яму Махахей,— каб паганства ў маёй хаце не было.

На гэтых яго словах Жалезны Чалавек пасунуў лаўку, змёў на падлогу карэц з кіслым малаком, што паставіла нанач баба Ганна, калі ён ужо спаў, змёў і сеў. Махахей толькі ўздыхнуў:

— Што ж, прыйшоў, дык гавары ўжо.

А Жалезны Чалавек сядзеў і маўчаў. І маўклівасць

яго была не цяжкай, карцела толькі даведацца: хто ён і адкуль і чаму ён абраў яго, Махахея, каб вось так хадзіць за ім і памоўчваць. І яшчэ здавалася Махахею, што ўсё ж нагадвае яму некага Жалезны Чалавек, а каго — і ў галаву не прыходзіць. І толькі калі прачнуўся, перабраў усё, калі ўжо баба Ганна забурчала: каму тут спакою ноч не было, хто тут лазіў, шастаў ноччу, перакуліў малако, спаганіў посцілку,— успомніў Махахей, на каго быў падобны Жалезны Чалавек: на дзеда Дзям'яна, бацьку Антона Роўды. Дзед Дзям'ян таксама чыгунна хадзіў па зямлі, чобаты свае яшчэ з грамадзянскай, здаецца, не здымаў, яны як прыраслі ўжо да ступакоў яго. І твар у дзеда Дзям'яна такі ж шэры, як з чыгуну, і слова ён захоча — вымавіць, а не — тры дні маўчаць будзе. Не схацеў гаварыць з ім, з Махахеем, і Жалезны Чалавек. Адседзеў на лаўцы да золаку і пачаў раставаць. Але словы яго, гаворку яго Цімох, здаецца, чуў — толькі не праз голас, а нібыта знаходзіўся ў хаце нехта нябачны трэці і пераказваў Махахею ўсё, што карцела сказаць госцю. Расказваў усё пра Княжбор, толькі не пра яго Княжбор, не пра тое сяло, у якім жыў цяпер Махахей, а пра іншае, якое было на гэтым месцы калісь, так даўно, што і сам Жалезны Чалавек не надта памятаў, і вакол таго старажытнага сяла быў бор, і хвоя з таго бору яшчэ расце, а нябачна яе, таму што расце яна наадварот, у зямлю. Сёння наадварот, а заўтра мо ўжо як і трэба, у неба будзе. І наадварот — гэта толькі падаецца так Махахею і людзям, таму што яны не бачаць яе. А ён, Жалезны Чалавек, бачыць, так і павінна расці хвоя яму. Ці не людзі, ці не сам Махахей вымушае яе расці так. Вось знішчылі яны дуброву, і дубы ўсе зараз таксама растуць наадварот. А яшчэ перадаваў Жалезны Чалавек сум свой і тугу, шэрую, жалезную, таму і ходзіць ён па зямлі і не стамляецца, што не ведае спакою, што ўсё больш і больш паўсюдна людзей, якія таксама жывуць наадварот, ходзяць наадварот, уніз галавой. Гэтага пакуль таксама ніхто не прыкмячае, звыкліся, але ён, Жалезны Чалавек, бачыць усё, толькі нічога не можа перамяніць, хоць ён і Жалезны, і непатрэбным ён адчувае сябе на гэтай зямлі, лішнім.

І тут Махахею стала прыкра і ніякавата. Нешта вельмі дзіўнае было ў яго гутарцы з Жалезным Чалавекам. Цікаўнасць да пары да часу не давала выявіцца

гэтаму дзіву. І раптам цікаўнасць знікла, сугучнасць нейкая атрымоўвалася, нешта вельмі знаёмае, чутае апавядаў яму Жалезны Чалавек, і жах пачаў апаноўваць Махахея, невядомы яму раней жах, халодны. Ён ускінуўся, прыслухаўся і зразумеў, што гэта ён сам, Махахей, гаворыць. І жах, з якім ён ужо справіўся, зноў ахапіў яго: выходзіць на тое, што ён, Махахей, і ёсць Жалезны Чалавек, не дарэмна бабы языком меняць, што з сялян, з іх вёскі той Жалезны Чалавек. Што ж гэта ён творыць, непакоіць людзей, падумаў Махахей, як след яшчэ не прачнуўшыся, думае, што пасвіць коней, а сам па вёсцы шлэндае, зусім здзяцінеў, добра, што ніхто не здагадваецца, хто ён такі. Махахей спахапіўся: калі ён і ёсць Жалезны Чалавек, то з кім гэта ён толькі што гутарыў, куды дзеўся яго госцейка. Але нікога перад ім ужо не было. Жонка і Надзька яшчэ спалі, жонка пад бокам, а Надзька на сваім ложку. Не спала толькі маці на печы, цікавала за ім чорным нядрэмным вокам. Ён яшчэ муляўся, не ведаў, як спытаць яе, ці быў тут хто, старая апярэдзіла яго; пахітала галавой; ён засаромеўся яе і захутаўся з галавой у коўдру.

І цяпер сярод вады ў чоўне яму таксама было няёмка і прыкра, як раніцай у хаце. Ён плыў праз былую дуброву, тую самую, якую ратаваў, але так і не ўратаваў, ад яе засталіся толькі пянькі, нябачныя, праўда, таму што высокая вада, човен плыве не датыкаючыся да іх, а ўсё адно як скрабком хто скрабе па сэрцы. Няўтульна яму глядзець на зямлю без дрэва, прыкра ведаць, што там, дзе калісь раслі дубы, расце трава. Сенажаці цяпер тут, іх вясковыя сенажаці, таму і не карчуюць пнёў, а калі раскарчуюць, то сенажаці будуць калгасныя, пройдзе па іх ужо і сенакасілка. Сярод жа пнёў ёй няма развароту, толькі літоўкай магчыма выдзеўбці траву.

Слізгаціць па вадзе човен, цененька, па-птушынаму скварчыць разламаная, адрынутая вада, і аднастайнае яе шапаценне і лопат супакойваюць Махахея. Вось чаму ён і любіць човен, дашчанікі-душагубкі, тыя на вадзе сыкаюць злосна, што гадаўё, а човен ляціць, нячутны і вёрткі, як бабёр. І Махахей можа спакойна думаць аб тым, як у лагчыне сярод дубкоў паставіць свой жак. Ведае ён, дзе рыба ходзіць. І не міне жака чырванапёры, раз'ятраны ад несвабоды язь. Па лагчы-

не, да якой ён кіруецца, язь ходзіць нераставаць, ідзе вясной так, што, здаецца, на куст каліны ўз'ехаў. Махахей не перашкаджае язюісці ў возера, а вось калі ён ужо аднерастуе, адаб'ецца, тут ён і бярэ яго, небагацька, пяць-дзесяць галоў, каб паспелі прывяліцца, пакуль не ўзнялася муха. І ўлетку, калі скрылёк сала прыхаваны недзе бабай толькі для касы, тады прыдатная будзе і рыбіна, добра яна і ў шчавель, і ў бацвінне, і юшка неблагая, калі няма часу па свежую рыбіну на рачулку збегаць. Махахей спыняе човен, але не спяшаецца ставіць жака. Круціцца човен, круціць галавою ва ўсе бакі і ён; нібыта не рыбаліць прыехаў, а на нерастовішча нейкае. Перад ім, як на далоні, уся яго вёска, бы нехта знарок расставіў хаткі сярод вады, і няўстойлівага чоўна яму здаецца, што плывуць да яго гэтыя хаткі, плывуць і далёкія, ацалелыя дзе-нідзе дубы, хістаецца неба, люляецца на ім сонца, і верыцца, што зямля сапраўды круглая, усё па крузе ідзе. Закруцілася, закарагодзілася, насунулася на яго, каб і яго ў гэтую калаверць уцягнуць і не адпускаць да апошняй хвіліны, да скону самага.

Калі ёсць на зямлі рай, няма яму лепшага месца, чым вось гэтае, дзе стаіць на беразе рачулкі яго вёска Княжбор, дзе побач лес і вада, дзе недалёка возера Княжае — Князь-возера, вялікае, сівае ад чароту і гадоў сваіх. Ляднік, гавораць, як плугам, праараў яму ложа, яно і легла ў гэтае ложа і не хоча іншага. Рака, тая яшчэ кідалася, злавалася на свае берагі, вада яе не хацела прызнаваць берагоў, дзёрла, драпежыла іх, васемнаццаць раз здраджвала толькі тут, пад Княжборам, свайму рэчышчу. І цяпер васемнаццаць старыц апавядаюць небу пра гэтыя здрады, спякотным поўднем перагаворваюцца праз неба брат з братам, сястра з сястрой. І толькі неба і сонца дасягаюць іх дна, ведаюць усе віры і ямы, дзе атабарыліся і раскашуюць вусатыя самы, дзе чакаюць свайго часу занесеныя пяском стагоддзяў мораныя дубы, дзе і сёння мо жыве балотны бык. Усё можа быць. Ці не яго адразу, як пераехалі сюды, спрабавалі злавіць княжборскія мужыкі.

У старыцы, што пад самымі хатамі Княжбора, у бяздоннай яме, на якую і сёння глядзіць хлеў Махахея, завялося нейкае страшыдла. Махахею і іншым хлапчукам маці не дазвалялі нават купацца ў стары-

цы. Качкі і гусі не маглі нават беспакарана плаваць над той ямай. Да сярэдзіны яе даплывала яшчэ птушка, а там, пасярэдзіне, мах-мах крылом, нібыта хто за ногі яе хапіў. І ўсё. Толькі кругі на тым месцы разыходзяцца, ды перца адзінае пагойдваецца. А аднойчы не птушка, а кабанчык птушкай пачаў вырывацца з вады, свечкай узняўся над вадой, раўнуў дзікім голасам і захлынуўся, пайшоў пад ваду, толькі бурбалкі ад яго. Раззлаваныя і перапалоханыя княжборцы адкавалі ў кузні крук, ці не такі, што сёння ў тэлеграфныя слупы ўкручваюць, стары Махахей, дзед яшчэ Цімоха, не пашкадаваў парасяці. Засмажыла яго баба, як госцю самаму пажаданаму, цалкам на ражне — і на крук, а крук на вяроўчыну і ў яму разам са смажаным парасём. Другі канец вяроўкі прывязалі да дуба і сталі чакаць. Доўга ці коратка чакалі, тое ўжо забылася, проста так чакалі ці было яшчэ адно парася смажанае і пад парася нешта было — гэтага ў памяці таксама няма. А вось што біўся ён, Цімошык, з хлопцамі: хто выцягне тое балотнае страшыдла, каму яно ўслугоўваць будзе — пра гэта добра помніцца. Меў жа ён усе правы на тое страшыдла, з іх жа хлява парася было, і шкада яму было таго парасяці, таму і біўся. Але раптам бойка гэтая скончылася, затросся, што асіна, дуб на беразе старыцы, ухапіліся мужыкі, цягнуць вяроўку, бачаць — не сцягнуць ім. Махахей-дзед гармонік убок, пару волікаў падагнаў. І валы перш, здаецца, кранулі, перамаглі страшыдла, пацягнулі яго з вады. Але два крокі зрабілі, а на трэці і іх не хапіла, павяло волікаў кудысьці ўбок, задрыжалі ногі, нібыта яны выпіць выпілі, а заесці не паспелі.

— Цоб-цоб-цоб,— закрычалі мужыкі волікам, а тыя як і не чуюць, хістаюцца ўжо.

— Нячысцік, нячыстая сіла,— загаласілі бабы. Цімох з хлопцамі кумільгом з дрэва. А волікі ўжо на каленях стаяць.

— Ой, прапалі валы, ой, няма ўжо волікаў нашых,— схапілася за галаву старая Махахеіха.— Грала старое, дурань сівы.

— Рэж, сячы вяроўку,— падліў масла ў агонь Барздыка.

— Я табе секану, я табе разану,— гэта Махахей. І волікаў яму шкада, і вяроўку шкада, і парася марна

страцiў — за ўсё адказваць яму перад жонкай. А тая ўжо друк ухапiла.

— А вось табе волiкi, а вось табе кабанчыкi... I кабанчыка няма. I гармонiк — грала твае чортава ўтаплю.

— Тапi, гары яно гарам усё — i волiкi, i кабанчыкi з музыкай разам, хоць чорта жывога пабачу.

— Чорт, чорт! — залямантавалi бабы. А валы ўжо хрыпелi. Возера калыхнулася i рушыла на бераг, раздалася, як нi да дна, расступiлася вада над ямай, здаецца, паднялася вада ўгару i плюхнула на людзей, на валоў. Махахей схапiўся за вяроўку, ратуючы жывёлу i маёмасць сваю, а апынуўся ў старыцы, нехта з Бардзык усё ж не вытрымаў, паласнуў нажом па вяроўцы.

— Дзядуля,— заенчыў Цiмошка.

— Туды табе, старому дурню, i дарога,— сказала Махахеiха.

Але Махахея выцягнулi з вады, сам ён, дапамагаючы сабе мацюком, выплыў. А чорт, нячыстая сiла знiкла.

— Ты хоць бачыў яе? — пыталi Махахея мужыкi.— На каго яна падобна?

— Бачыў... На жонку маю яна падобна, таму i не прыняла мяне.

Невядома, каго бачыў дзед, а вось сам ён, Цiмох Махахей, падзiвiўся на тое страшыдла, што лавiлi, ды не спаймалi княжборскiя мужыкi. Карчавальнiкi на выхадны падскочылi да iх парыбачыць, i колькi шашак толу, якiмi пнi рвалi, кiнулi яны ў тую яму, цяжка i падлiчыць, але грымнула так, што Махахей, у адным споднiм, з хаты выбег. Карчавальнiкi падважвалi, падцягвалi да берагу баграмi вялiзнага сома, пудоў на пятнаццаць, не менш. Усклалi яны таго сома на драбiны, хвост па зямлi валочыцца...

Вось што тояць у сабе княжборскiя старыцы i азярыны. Жывуць яны сваiм незалежным ад чалавека таямнiчым жыццём, мо i дамкi якiя там на дне стаяць. Жывуць азярыны, старыцы, рэчкi, як людзi, дыхаюць, старэюць, мо i дзяцей на свет пускаюць. I свет iх такi ж разумны, як i ў чалавека, а мо i разумнейшы яшчэ. Мароз жа па скуры, калi ён назiрае за бабрамi i бабраняткамi. Iх тут процьма, больш, чым мужыкоў у Княжборы. I як яны робяць! На золаку пачынаюць, раней нават, ноч яшчэ не адышла, яшчэ свiтальны ту-

ман над ракой, а яны ўжо ў клопаце. Як з таго свету, выплываюць з сваіх хатак чорнымі чоўнамі, і не згледзіш на вадзе, слізгаюць па плыні, будуюць плаціны, валяць дрэвы, падымаюць ваду. Камунай упраўляюцца, не паспела дрэва яшчэ ўпасці на ваду, а яны ўжо на ім з усіх бакоў і, як пілою, пілуюць яго. А зазлуюць ці пачуюць каго, што чэпам, малатне па вадзе стары сівы бабёр, і цішыня, толькі лозы, дубы, ясені — адбітак іх пагойдваецца ў рудой вадзе. І здаецца, дубы, ясені растуць не толькі па беразе, але і з дна старыц і азярын, а скрозь іх голле і ствалы гарачым жарам прабіваюцца белыя гарлачыкі, лотаць, белай і жоўтай прахалодай астуджваюць дзень, зямлю. Радуюць вока, а рукам не даюцца. Узяў ты, малады, у рукі гэты белы гарлачык, вокам на яго, а ён ужо і састарэў, забіў ты яго сваім жаданнем, хапатлівасцю чалавечай да ўсяго, да прыгажосці і пачварнасці, дакрануцца рукамі. А Княжбор трэба прымаць сэрцам, сэрцам чуць і бачыць яго. Не дзеля ж прыгожага слоўца гавораць княжборскія мужыкі і бабы, што знак ім быў перад тым, як яны атабарыліся на беразе рачулкі.

Плыў па рацэ з славутага і старажытнага горада Турава каменны крыж. Ішоў за вадой, пагойдваўся ў хвалях, пакуль не дайшоў да вусця іх рачулкі, у вусці развярнуўся і пайшоў па рачулцы, толькі ўжо супраць вады. Спыніўся ля стромага берагу, ля сунічнай паляны, дзе, як свечкі, стаялі бярозы, і знік. Там, дзе ён знік, і пачалі будавацца княжборцы, заснавалі вёску. Махахеі сцвярджаюць, нібыта гэта яны і былі першымі. Барздыкі ж даказваюць, што не: яны былі першымі. А Роўды гавораць, што ўсё было зусім наадварот, нібыта яны самі і былі тым крыжам. І нікуды крыж не знікаў, з крыжа іх хата вырасла, і толькі потым, ці не на другое ўжо лета, з'явіліся ўсякія там Барздыкі і Махахеі. Спрачацца з Роўдамі цяжка. Яны Дзям'яны. А дзед Дзям'ян яшчэ і зараз, мінулым летам, з дзем'янятамі сваімі паехаў на сенажаць. У былую дуброву паехаў грабці сена. Зграблі сена, скідалі ў стог, наклалі на воз, высеклі, кінулі зверху рубель, хапіліся ўціскаць — няма чым, забыў, у сенцах пакінуў Дзям'ян вяроўку. І так яму прыкра зрабілася, што ён скокам узляцеў, як малады, на стог і так раўнуў: «Сцяпане, вяроўку!» — што пляменнік з вяроўкай у зубах прыджгаў. А ад пакосу Дзям'янавага да сяла, ні мала

ні багата, тры кіламетры. Вось якая глотка ў гэтых Роўдаў. Хто іх перагарлае? Але гарлалі ўсё ж у вёсцы больш Барздыкі ды бабы Махахеяў. Адстойвалі першынства ды верхнасць сваю. А адстойваць гэта прыходзілася часцяком. Варта было толькі Махахеевай курыцы Барздыкаў гарод перапароць, як усчыналіся войны і змаганні. Шалелі бабы ад цішыні, прыгажосці, спакою, ад абшару і абсягу, ад вады, дубровы, не браў іх мір і ў раі. А рай зямны, безумоўна, калі ён быў, то быў у Княжборы. Але калі існавала на зямлі і пекла, то лепшага месца, чым Княжбор, прыдумаць яму было немагчыма. Апошнія пяць гадоў перабралася гэтае пекла ў Княжбор. Разверзліся хлябі нябесныя, адчыніліся рэкі і азёры падземныя, з усяго свету абрынулася вада на Княжбор і затапіла яго — ні праехаць ні прайсці. Першы год княжборцы жылі, як жылі і да гэтага, грунтоўна і нязвадліва: ці то яны не палешукі, ці то першая паводка ў іх жыцці, іншым годам іх жа па тры, а то і чатыры запар выпадае. Самая першая — гэта яшчэ зімой, напрадвесні, калі яшчэ і рэчка пад лёдам, з Карпат прыходзіць вада; другая — вясновая, пасля крыгаходу ўжо; а трэцяя — улетку, зноў Карпаты ваду пускаюць — самая небяспечная, таму што ўсё ўжо ў зямлі і ўсё вымакае і гніе; і апошняя — восеньская. Так што вада, хоць і бяда, але звыкліся ўжо з гэтай вадой палешукі, не першы год жывуць на зямлі, чаго толькі ў гэтым жыцці не зведалі, хапіла і горкага, і салодкага. І вада была, і суша, і пажары пралятала тут, і войны не абміналі. Ні адна вартая ўспаміну бойка не мінула іх. Калупні іх зямлю і наткнешся на костку татарскую, шалом і чэрап шведскі і германскі, і свежанькі чарапок, нямецкі. На іх драўлянымі крыжамі засеяным пагосце па сённяшні дзень урастаюць у зямлю каменныя крыжы, глыбы, на якіх не нашымі літаркамі пісана. Ніхто з княжборцаў тых літарак не разумее, але ведаюць, што чужынцы там, пад тым каменнем, адпачынак знайшлі. З чым ішлі, тое і атрымалі: амінь. А непадалёку ад тых камянёў, ад могілак вясковых, узвышаюцца на іх палескай зямлі курганы з белага пяску, зусім ужо старажытныя магільнікі, невядома толькі — чые. Ні пагалас, ні паданне не данеслі да нашых дзён нічога, аніякай памяці аб гэтых магільніках: мо крыж не дарэмна сюды плыў. Так, пэўна, і трэба, што пра ліхое

згадваць. Тыя ж, у магільніках, сваё атрымалі. Усё зведалі, усё спасцiглі за свой доўгі вясковы век палешукі-княжборцы, выстаялі, перацёрлі, змалолі ўсё ў муку, у пацяруху, і чужынцаў тых, падняць бы іх зараз з зямлі, паставіць адзін да аднаго — Белай Русі не хапіла б, і беды свае, уласныя ўжо, не зламалі іх, і агонь не спаліў, выстаяць яны і перад гэтай вадой, вадой-бядой.

Але ішлі вёсны, а за імі яшчэ большая вада, патоп сусветны, нібыта бог нанава ўздумаў стварыць свет і тварыў зараз ваду, паядноўваў зямлю з вадой. Жывёла, коні, каровы, тыя ўжо, здаецца, звыкліся, месяць і гразь, і ваду. Праўда, зрэдку якi конік ці кароўка з тых, што шчыпалі траву ў пачатку гэтага патопу, шчыплюць яе і сёння. Адны самі, добраахвотна, сканалі, другіх прырэзалі, але затое нашчадкі іх адчуваюць сябе і на самай справе, як рыба ў вадзе. Каровам, валам, каб тыя не гразлі ў балоце, яны прыладзілі да ног дошчачкі, абулі іх, і ходзяць яны па княжборскай зямлі ці, праўдзівей кажучы, вадзе, пасвяцца, равуць і плодзяцца, як спакон веку пасвіліся, раўлі і пладзіліся. А вось людзі гібеюць. Хоць і гаворыцца, што чалавек хутчэй з усім звыкаецца, на гэты раз не па прыказцы атрымалася. Хутчэй звыклася з новым жыццём жывёла. А людзям хочацца, каб па-людску ўсё было. Зусім жа інакш жывуць людзі там, дзе бяруць пачатак і куды збягаюць іх рэкі. А яны як у бога цяля ўкралі. Яшчэ год-другі, і змые паводка іх хаты, сплыве весняй вадой іх вёска, іх жыццё. І як па-мужыцку ні трымаліся княжборцы за зямлю сваіх дзедаў, за зямлю, дзе іх пот і кроў змешаны з потам і крывёю іх ворагаў, дзе цень іх ходзіць у абдымку са стогнам, скрыгатам і бразгатам іх мяча, што скрыжавалі яны ў смяротэльным паядынку са сваімі ворагамі, дзе перагукваюцца паміж сабой першы і апошні, той, што адыходзіць, і той, што прыходзіць, каб змяніць яго, прыйдзецца ім пакінуць гэтую зямлю.

Махахей ужо ўправіўся з жакам, але кіраваць дамоў не спяшаўся. Гэты лес, куст лазы, вада, неба — таксама хата, хоць не ім, не яго рукамі пабудаваная, і драбніцу толькі трэба чалавеку ў гэтай хаце, што не ведае сцен,— закутак невялічкі з акенцам неба, з адным-адзіным дрэвам, лапікам зямлі, стужкай вады. Усё гэта бачыў ён, як толькі пачалі бачыць вочы, і ўсё

гэта ён павінен і несці з сабой, бачыць павінен і з-пад крыжа. Інакш атрымаецца, што і не жыў ён, не нараджаўся на свет і няма нічога роднага яму на гэтым свеце. І няхай паўсюдна ёсць вада, растуць дрэвы, аднакава на ўсе чатыры бакі зямля, але яго дрэва, яго зямля, яго вада адметныя, чужое ўсюды чужое, на чужыне і сонца ўсходзіць інакш, і не грэе, і не свеціць. Махахей жадае памерці на роднай зямлі, прымае смерць на роднай зямлі, як прымаў жыццё. Магчыма было б загадаць наперад — ён сканаў бы тут, сярод вады, у дзедавым чоўне. Калі толькі б магчыма было, не будзь у яго столькі клопату, быў бы вольны ён, пусціў бы гэты човен за вадой — плыві, куды плынь вынесе. І дзень, і ноч, і месяц, і год не стаміўся б плысці, глядзеў бы на ўсе вочы: якія дрэвы растуць, якія каровы па беразе ходзяць, якія хаты стаяць, якія людзі ў гэтых хатах жывуць, глядзеў бы наперад, якое дрэва паўстане там, за каленам ракі, за касою пяску, за чаротам і лозамі, за лукавінай чорнай, што там, у тумане, у мроіве далёкім, прыхавана, ці варта зямля цікавасці і болю, глядзеў бы з чоўна ў ваду, у патаемную глыбіню яе, што паказала б яму гэтая глыбіня, чым бы прывабіла, рыбінай, вялікай і разумнай, ці рыбінкай маленькай, дураслівым пячкурыкам, пясчынкаю, што дрыжыць і свіціцца на дне. А мо б убачыў ён і самога сябе. Плыў бы так і плыў, глядзеў бы, дзівіўся і дзівіўся, пакуль не захапіла б дарэшты яго рака. А рака, агонь ды яшчэ колы машыны, што імчыць немаведама куды, заманьваюць чалавека, загад нейкі ад іх зыходзіць: кроч, ступі, кінься, забудзь пра ўсё — і да нас. І сам ты ператворышся ў агонь, у дарогу і ваду — у тое, што спрадвечна. Слізгані, слізгані ў гэтую нехапатлівую плынь, ты ж з'явіўся з яе, ты прыгадаеш і Жалезнага Чалавека, і Галоску-галасніцу, ты прыгадаеш усё, што з табой некалі было, як ты выйшаў з гэтай вады, выпластаваў, атросся і рушыў ад яе, запалаў полымем кастра, прапыліўся пылам дарогі і сам зрабіўся дарогай, пылам яе каляін, скрыжаванняў, травою ўзмежкаў і ростаней. Такую ж раствáральнасць і злітнасць з далеччу і дарогамі адчувае ён ноччу, седзячы каля цяпельца, маркотна пазглядаючы, як убіраецца ў сілу полымя, слухаючы поскач спутаных коней, як тужліва ржуць яны ў тумане, нібы выклікаюць некага з гэтага туману. Махахей слухае, на-

глядае і міжволі чакае, што вось зараз нацешыцць ён цяпельца, падкорміць яго, падкіне сухога голля, усхопіцца, скруціцца тугім скруткам полымя, і з гэтага полымя крочыць нехта жывы (мо сам ён крочыць) і скажа: здароў, Махахей, чаго ты тут смуткуеш, навошта клічаш мяне, што табе ад праху майго трэба?

Махахей палохаецца і пытання гэтага вогненнага, і чалавека агнявога, і вады — сябе палохаецца.

— Што табе, бацька, трэба? — з гэтым жа, як з нажом да горла, прыстаюць да яго і дзеці, і жонка з той жа сама песняй.

«Што табе, бацька, трэба, што трэба табе, чалавеча?» — запытальна цурчыць вада. А бог яго ведае, а чорт яго ведае, што трэба яму, каб быць шчаслівым. Сына вось трэба, нашчадка, толькі спазніліся яны з Ганнай мець сына. Усё жыццё чакаў ён сына, кожны раз спадзяваўся: ну, на гэты раз будзе ўжо сын. Але нязменна нараджаліся дочкі, толькі дочкі. Чатыры разы дочкі. Тавар ненадзейны, чужым людзям, а не сабе. Усе, акрамя апошняй, ужо вылецелі з яго кубла. І гэтая апошняя не затрымаецца ў кубле, не заседзіцца ў яго хаце. А што за хата, калі ў ёй пуста, калі ў ёй толькі старая ды стары, кошка ды сабака. І што за век такі пайшоў, што здарылася з людзьмі, размежаваліся яны на маладых і старых, на гарадскіх і вясковых і яшчэ бог ведае на каго. Раней хата была дык хата; каля старых маладыя, пры дзецях — бацькі. А зараз дзеці ўсе ў горадзе — у жалезе, у каменні, старыя — у вёсцы, у гноі. І лягуць хутка гноем у зямлю, і хату, вокны і дзверы, крыж-накрыж дошкамі.

Яго, праўда, дочкі напярэймы адна перад адной клічуць іх са старой да сябе. Усе яны няблага ўладкаваліся ў горадзе. Трое паканчалі інстытуты. Адна толькі, першая, з тэхнікумам, медсястра. Некалі ёй было, гаротнай, вучыцца, глядзець меншых трэба было. Да яе, да Алёны, мо й пайшоў бы Махахей жыць, толькі адчувае: не ўсё добра ў яе жыцці. Чалавек упадабаў яе неблагі, але толькі не яе гэта чалавек, іншаму яна была ўгатавана. Алёна маўчыць аб гэтым, але ён жа не сляпы, сам бачыць. І шкада яму таго чалавека, і дачкі шкада, а як парадніць іх, ён не ведае. У кожнай — кватэры гарадскія, прасторныя, толькі што яму ад той прасторы, калі не ляжыць яго душа да гарадскога.

Гіблае, гнілое тут месца. Усё гэта так. Але як вы-дзерці сябе, як па жывому адрэзаць сябе ад гэтага месца, калі на могілках скрозь усё Махахеі, Махахеі.

— І чаго табе трэба, бацька, хто цябе тут трымае? — гэта хор дачок, чортава капэла.

— Хочу ў горад, хлопца людскага на ўсю вёску ніводнага,— гэта піскуха малодшая, самая апошняя, самая дарагая.

— О дурыла, пень стары, вось трактарыста клікну, няхай яе ў рэчку, парахню, гэту хату скоціць,— гэта падпявала жонка. Пяць год паводкі дапяклі і яе. Заспявала з голасу дачок. Праўда, і свой голас, свой розум яшчэ не страціла: — Пакуль у сіле, пакуль тое-сёе рукамі здольны і таму дзецям патрэбны — унукаў дагледзець можам,— бегчы адсюль і не азірацца.

А ён пачаў будавацца, назло жонцы і дзецям. Ён хоча застацца тут, так хоча, як вымушае яго нехта, застацца і агледзецца. Раней жа не было калі, адна толькі вайна тры жыцці, здаецца, украла, зараз бы самы час на неба паглядзець, а жонка і свая ж хата новую вайну распачалі, пайшлі вайной на гаспадара. І так у кожнай хаце, па ўсёй вёсцы, ціхая вайна, слёзная бойка. Плачуць мужыкі сэрцам, як гэта наважыцца, пакінуць селішча. Ды і куды рухаць, куды перасяляцца. Паўвека назад усё, здаецца, прасцей было. Мужыку аб сваім жыцці самому трэба было маракаваць: не будзеш круціцца — і не пражывеш. Цяпер жа мужыкі звыклі, што Савецкая ўлада клапоціцца за іх, яна аслабаніла іх ад клопату пра хлеб надзённы, і вёска жыве, азіраючыся ўвесь час на гэтую ўладу, ды і не бачыць яна другога такога месца, якім было паўвека назад вось гэтае, каб можна было рушыць усім адразу і сесці, як сядзелі тут. А па адным ніхто не наважваецца крануцца, пакінуць свой кут, сваё кубло; гаворка не пра тых, хто едзе жыць да дзяцей: сваю хату на калёсы пагрузіць ніхто не адважваецца, усе адзін другога пільнуюцца; хто першым рушыць, чакаюць. Састарэла вёска, і мужыкі састарэлі, і смеласць іх вырадзілася ў асцярожнасць. Але ж усяму ёсць мяжа. Яшчэ год-два будуць гібець яны так, а што далей? Куды павернецца іх жытка, што будзе з Махахеямі, Роўдамі, Барздыкамі, раздзьме іх ветрам па свеце ці згуртуюцца яны зноў у грамаду і ўсё пойдзе, як і ра-

ней. І будзе галасіць над іх загонамі Галасніца, шукаць сваё дзіця, і будзе непрыкаяна блукаць па княжборскіх вуліцах Жалезны Чалавек...

## ВЫБАР

Прамільгнула вёска ў адну сумную, хаця і нядоўгую, вулачку, спустошаную спакоем і цішынёй, дрымотай пракавечнага, зляжалага пяску — маркотнымі сведкамі той былой і вялікай працы, што тварылася тут ці то морам, ці то ледніком. З гэтага пяску, што белымі гурбамі ляжаў уздоўж дарогі, і на самой дарозе, і каля хат без платоў — дзвярыма адразу на вуліцу, лена падняўся рабы, як карова, страшэнна худы і таму, здаецца, неахайны сабака, раздумліва і скрушліва пaглядзеў на машыну, хапатліва азірнуўся на шэрыя хаты, што п'яна валюхаліся па абодва бакі дарогі, нікога не згледзеў, пазяхнуў і зноў лёг у цёплы, як прысак, пясок, ведаючы па вопыту, пэўна, ужо, што ніхто не адзначыць яго руплівасці. Хлеб, як і ўсе вясковыя сабакі, ён павінен здабываць сам, і не пустым брэхам. Худы рабы сабака і апошняя хатка адбегліся назад, і адразу ж пачалося балота, як хаткі вулачку, абціснула з абодвух бакоў дарогу чорным вокам вады, што не ведала турбот, жалезна-рудой тванню, што спачывала ў гэтай цьмянай вадзе, атрутна-яркім бабоўнікам і капытнікам, зараснікамі алешніку, [illegible] дзе-нідзе і дубам [illegible] ясенем.

Месцам алешнік з ясенем і дубам закрывалі балота, нібыта саромеліся паказваць яго Роўду і Шахраю, не хацелі да пары да часу палохаць іх бясконцасцю і непраходнасцю дрыгвы, аддзеленыя ад асноўнага лесу вадой, ціха і безабаронна задыхаліся і чэзлі ў ліпкім паветры дрэвы на малых лапіках зямлі, што аддавалі яны ў той жа вады. Толькі з мосцікаў, якія ішлі адзін за адным, цяжка плюхаліся ў свінцовыя канавы рабыя балотныя чарапахі.

— Нечысць, брыдота,— пазначыў і чарапах, і балота Шахрай, наглядаючы, як чарапахі нязграбна перакульваюцца ў паветры, аголенай знізу косткай, нібы голым целам, бліскаюць на сонцы. Мацвей змоўчаў, яго заўсёды бянтэжыла і прыгнятала бездапаможнасць гэтых рахманых, хаця і грозных на выгляд

стварэнняў, былі яны нечым падобныя на чалавека, якога захапілі знянацку. Чарапах жа тут было шмат, і не толькі ў балоце, вадзіліся яны і ў рэчцы, Мацвей калісьці лавіў іх вудай нават на чарвяка, ледзь не плакаў, выдзіраючы такі каштоўны ў дзяцінстве кручок са змяінай, здавалася, але такой пакорлівай, такой палахлівай пашчы. Яны мёртва трымалі ў гэтай пашчы сваю здабычу, сцяўшы зубы да скрыгату, пэўна, ад нясцерпнага болю, які ўваходзіў і ў Мацвея, уцягвалі пад уратавальны панцыр адрузлую шыю, адступалі ад цяпла бязлітасных яго рук і толькі што не крычалі крыкам. І крыкам сыходзіла ўсё ў ім, але страх згубіць кручок быў усё ж больш гучны, чымсьці гэты немы крык. І цяпер ён вінаваціўся ад той міжвольнай сваёй жорсткасці, таму і не адазваўся на словы Шахрая.

— Каб пераўтварыць усё гэта, і жыцця не шкада,— Шахрай як зразумеў яго, вылучыў з таго, што было перад імі, толькі балота, развёў рукі ў бок гэтага балота. Мацвей пагадзіўся з ім, але зноў нічога не адказаў, а Шахраю, пэўна, хацелася вымусіць яго пачаць гаворку.

— Гэта можна толькі ненавідзець,— ён зноў кіўнуў на балота. Мацвей паглядзеў на Алега Віктаравіча і зразумеў, што памыляецца — той размаўляў сам з сабою, адказваў на нейкія свае пытанні, што хвалявалі яго. І хаця ў душы Мацвея не было нянавісці да гэтых балот, і да балот наогул, яны не толькі засцілі свет, пладзілі з'яд і жоўта марылі княжборцаў ліхаманкамі, але і кармілі іх, адорвалі ягадай-журавінай, давалі траву і дровы і птушку на стол, укрывалі ад ворага. І больш цяжка, і больш вольна ўсё ж дыхалася мужыку за гэтымі балотамі. Мацвей не мог уявіць свайго Княжбора без балота, але ён усё ж паспяшаўся згадзіцца з Шахраем, не хапіла яго вытрымаць і процістаяць вуснам Шахрая, таму, як той рашуча сцяў іх; вачам Шахрая, іх скіраванасці ў нейкую невядомую Мацвею далячынь, як бы адсякаючы ўсё, што не датычыла гэтай скіраванасці і гэтай далечыні. Ён нібыта ўбачыў раптам ворага і напружыўся, гатовы да схваткі з гэтым ворагам, зацвярдзеў, як у браню закаваў сябе. І нішто звонку, здавалася, ужо не магло крануць яго, дастукіцца да яго душы. І жах апаноўваў бачыць Шахрая такім, але і спакойней было на душы,

адчуваючы побач такую моц, калі, зразумела, ты не супраць яго, а з ім. Падобным на яго імкнуўся быць і Мацвей, такім хацеў ён бачыць сябе, калі прыйдзе час сустрэцца з роднай вёскай, хаця ў душы яго ўсё трымцела ад радасці, а ў той жа час і аблівалася крывёю. Няпэўна ўсё было ў ім, пераблытана, змешана ўсё, як у тым балоце, і ён здольны быў бегчы па верхавінах дрэў і паўзці, што рак, ад спапяляючай, раднасай і тым жа часам горкай сваёй памяці. Мацвей, здавалася яму, ужо даўно выпаліў, вытруціў яе, ніштo, здаецца, не звязвала яго з Княжборам, усе карані былі абсечаны і заараны, каб не засталося і знаку ад яго мінулага. А цяпер наадварот: усё — і гэтыя задушаныя вадой дрэвы, і спарахнелыя масткі, і пужлівыя чарапахі — зрабілася да болю дарагім і любым, нібыта ён сутыкнуўся са сваім уласным ценем, які заблудзіўся сярод гэтых балот, знясілены і змардаваны чаканнем і пошукамі таго, каму ён належаў. Мацвей, і сам не заўважыўшы таго, уступіў і наступіў на гэты цень, цень ускрыкнуў, ускрыкнула ўсё і ў ім. Іх галасы зліліся і нарадзілі плач, галашэнне.

Шахрай і ён, Мацвей Роўда, ужо другі тыдзень калясілі па Палессі, дзе можна, ехалі на машыне, а больш ішлі пешшу. Паабдзіраліся, абнасіліся, месячы балоты, былі непадобныя на саміх сябе. Не такімі яны выпраўляліся ў гэтую дарогу на новенькай машыне, самі што з іголачкі, у новых гумавых ботах-бродняx, якія яшчэ не страцілі ні складскога бляску, ні паху, у шчытных энцэфалітніках з капюшонамі, у аднолькавых, з той жа тканіны, што і энцэфалітнікі, штанах. Абмундзіраваліся, агледзелі адзін аднаго і пасмяяліся адзін з аднаго — спадабаліся сабе. Але злінялі яны ў першы ж дзень, як толькі ўлезлі ў балота, балота з'ела бляск і глянец. Палессе падраўняла іх пад сябе, вымаклі па вушы, наглыталіся балотнай тарфяной вады і палеглі каля цяпельца, за ноч і не прасохлі. І другі, і трэці дзень былі падобныя на першы. Да ўсяго цела Шахрая не трывала камароў: не паспяваў камар сесці на яго твар ці ўжо адваліцца ад твару, як адразу ж уздуваўся пухір. І твар Алега Віктаравіча паступова пакрываўся адзіным вялізным бурым струпам. І гэта здзіўляла Мацвея. Непахісным, нязломным, як бы ўжо закаваным у браню, і пайшоў Шахрай на спатканне з балотамі, пайшоў — як на вайну, і як жа лёгенька

камары-камарыкі, дудары-дударыкі прабілі яго браню, аніякай пашаны і павагі, адзіны здзек толькі. Ад балотнай вады ў Шахрая збіваліся і секліся валасы, утвараючы той сумна славуты палескі каўтун, пра які Мацвей ужо і думаць забыўся. Ён не разумеў, як гэты чалавек мог нарадзіцца і жыць на Палессі, калі яно яму супрацьпаказана. Дзесьці на чацвёрты дзень марных блуканняў яны дазволілі сабе адпачынак, атабарыліся на беразе рэчкі, што выбягала з тарфянікаў і бегла па тарфяніках, спаласнулі робы, але самі ў ваду лезці не наважыліся: была яна яшчэ крынічна халоднай. Леглі на траву, чакаючы, калі высахне адзенне. Нячутна падкралася машкарэча і, здаецца, грызці не грызла, толькі раніцай Алег Віктаравіч адчуў, што захварэў, апухлі, схапіліся агнём ногі, падскочыла тэмпература. Мацвей настойваў на тым, каб ехаць у горад.

— Дробязь,— адмахваўся Шахрай.— Гэта ў мяне проста алергія на балоты. Цяпер яна ўжо не адстане, пакуль не завершым справу. Моцная і ўчэпістая хвароба нашага веку.

— Пакалення, а не веку,— паправіў яго Мацвей, і Шахрай пагадзіўся з ім:

— Няхай і пакалення, сутнасці гэтым не змяніць. Адно да аднаго, а ўсё на тое, каб нам з табой упраўней быць, дзейнічаць больш акрэслена і рашуча.

А яны павінны былі знайсці пляцоўку пад будаўніцтва саўгаса ці калгаса. Добры надзел зямлі, балот і лесу, дзе можна было распачаць меліярацыйныя работы і будоўлю. Але пакуль што такога зручнага надзелу ім не трапляла: то лес быў ужо вельмі стары і магутны, першай групы, то зусім ужо непраходнае балота ці, наадварот, балотца з мізэрным пластом торфу, а калі ж і было што вартае, то ў такой глушэчы — не пад'ехаць і не падысці.

— А трэба ж, каб з мінімальнымі затратамі,— засмучана ўздыхнуў Шахрай,— капейку дзяржаўную трэба берагчы. І тарфянікі глыбокія, каб паўсюдна, каб на вякі, і дарога недалёка — на першы выпадак хоць тэхніку, матэрыялы падвезці. І каб усё паказальна, каб сляпы і той убачыў, што такое меліярацыя.

— Княжбор,— адказаў Мацвей, са спачуваннем наглядаючы, як пакутуе Шахрай, расціраючы скамянелыя лыткі. Ён яшчэ на пачатку гэтага падарожжа

ведаў, што выбар падзе на Княжбор, прадчуваў, але не спяшаўся гаварыць пра яго Шахраю, штосьці стрымлівала яго, невядома чаму, нібыта таксама штосьці прадчуваючы, смуткавала сэрца. Была нейкая ненадзейнасць і штучнасць у той хуткасці, з якою вырашылася ўсё гэта — і пераход на новую пасаду і працу, і гэтая вандроўка па Палессі — гульня нейкая: ідзі туды, не ведаю — куды, вазьмі тое, сам не ведаю — якое. А само падарожжа падабалася, камары, мошкі не дапякалі яго, не назалялі яму, ён пасвяжэў у дарозе, абветрыўся, загарэў, хаця загар да гэтага амаль што і не прыставаў да яго: лупілася цела, але не прымала сонца. Нос дзям'янаўскай пароды лупіцца і зараз, як у дзяцінстве, сонца на гэты раз перамагло дзям'янаўскую пароду, кінула чарноты на скулы, лоб, дадало блакіту, нябёс вачам. І вочы глядзелі зараз на неба, на зямлю, на балоты больш пільна, прыкмячалі ўсё, на што раней і не звярталі ўвагі, слізгацелі з абыякавасцю вандроўніка. Мо вінавата ва ўсім было надвор'е. Дні стаялі ціхія, без подыху ветрыку нават, і сонца не дакучала, у небе і на зямлі задумлівасць, засяроджанасць на нейкай адной думцы. Думка гэтая была спрадвечнай, але не старой. Яна была і ў Мацвею, толькі ён аніяк не мог ухапіць яе, звязаць з тым, што бачылі вочы, што было вакол яго, што адбывалася з ім. Не было ў ім спакою і суцэльнасці, усё ўспрымалася паасобку, раздроблена: асобна дрэвы, асобна куст, асобна рэчка і птушка ў небе. А ў прыродзе ўсё было адзіным, хаця і патаемным, апаслівым. Вось гэтай апаслівасці ў сабе таксама не здольны быў зразумець Мацвей. Чаго было перасцерагацца рэчцы, калі яна бярэ пачатак з-пад бярозы, бяроза тая не ведае свайго веку, з надломанай галінкі яе капае сок, бярозавік, і там, дзе датыкаецца ён зямлі, дзе праточвае капелька зямлю, з жоўтага разлому гліны, як са шкарлупінкі арэха, б'е крынічка, клякоча бурбалкамі бярозавік, сцюдзёнай празрыстасцю збягае па гліне ў лагчынку і зліваецца з сінню і празрыстасцю іншых крыніц, з цёмнай адстоянасцю вады балот. І крынічка няхай сабе яшчэ і не рэчка, але ўжо ручаёк. І ручаёк гэты з кожнай лукавінкай, з кожным выгібам пашыраецца, ператвараецца ў рэчку, а яна, пачаўшыся з крынічкі пад бярозай, з арэхавай шкарлупінкі, беражліва збірае росы Палесся, дажджынкамі па кроплі, кроплі, што

прынеслі ў дзюбах птушкі, вялікай ужо ракой скіроўваецца і коціць да самага сіняга мора. Казка, толькі ніхто яе не прыдумляў, складзена Палессем, яго дубровамі, барамі, балотамі, ніцымі лозамі і ракітамі, мо знарок складзена, каб укалоць, пацвяліць чалавека ўбоствам яго фантазіі, убоствам тых прамых і панурых рэк, што стварае ён. Мацвей глядзеў на гэтую пераменлівую, кожны дзень новую казку, і яму карцела адцягнуць, адтэрмінаваць тое імгненне, калі ён застанецца адзін на адзін з зямлёю, даручанай яму тэхнікай, насцярожвала само слова «меліярацыя». Мялі, перамолвай. Хаця, што ён ведаў аб ёй. Бачыў неяк хлапчуком яшчэ, як загарэліся асушаныя тарфянікі. Жыў ён тады ў невялічкім і сумным некалі пагранічным, паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю, гарадку, і адбітак пагранічнасці, раз'яднанасці, вайны, якая толькі што скончылася, адчуваўся там яшчэ ва ўсім; пачуццё абяздоленасці і нейкай закарэлай як бы пакрыўджанасці згадвалася ў крывых і прапыленых вулачках, ацалелых, але напаўразбураных цэрквах і касцёлах, у той журбоце і асуджанасці, з якой глядзелі на свет маленькія, з накіднымі жалезнымі завааламі польскія і яўрэйскія крамы; гэта згадвалася і па тым, як паводзілі сябе людзі, негаваркія, задуменныя, яшчэ не зусім усвядоміўшы, што ж такое адбылося. У вёсцы Мацвея, у Княжборы, была толькі школа-сямігодка, і ўсе княжборцы, якія вучыліся далей, прайшлі праз гэты гарадок. Жылі на прыватных кватэрах, толькі на выхадныя ездзілі дамоў. Рабочым паяздком, а то і на таварняку ехалі да раз'езда, ад якога да Княжбора сцежкамі рукой падаць — пятнаццаць кіламетраў. І вось на гэтым перагоне ад гарадка да раз'езда Мацвей упершыню ў тое выпускное лета ўбачыў меліярацыю, убачыў з акна вагона і запамятаў як нешта шчымліва сумнае, як само жыццё ў пагранічным гарадку.

Рабочы паяздок, здавалася Мацвею, калі ён ехаў дамоў, бег праз вайну. Па-за гарадком ён адразу ж трапляў у клубы густога, едкага да слёз дыму, расхлябаныя вокны і тамбуры вагонаў не маглі стрымаць яго. Гарэлі нехаця і чадна маладыя бярозы, хвоі, алешнік. Яны выраслі на балоце, і іх нялёгка было запаліць. Працягвалі расці і піць балотную ваду і тады, калі іх пазбавілі глебы, трактарамі і бульдозерамі зграблі на

паласу адчужанасці, сцягнулі ў вялізныя валы, і яны спляліся, пабраліся голлем і скалечанымі ствaламі адно з адным, ляжалі — як у брацкай магіле, уставіўшы ў неба сухажылле каранёў, толькі для блізіру прыкіданыя зямлёй. Таму такі едкі быў дым, полымя не прабівалася вонку. Дым слаўся нізам, як на паплішчы паўзалітай вадою хаты. І здавалася, што гэта менавіта так і ёсць: гарыць нейчая хата. Тады, яшчэ падлеткам, Мацвей, ды і ўсе, хто ездзіў рабочым паяздком, не разумелі, як гэта так пусціць агнём, кінуць на вецер столькі дрэва, такога неабходнага, такога дарагога адразу пасля вайны. Было ў гэтым нешта па-за іх розумам, аднолькава па-за розумам селяніна, дарослага і дзіцяці. Сцягнутыя ў кучу, пакалечаныя дрэвы, глыбокія траншэі-канавы з брустверамі свежакопанага белага і чырвона-рудога пяску, курадым, гар, сажа. І нідзе ні душы. Толькі паяздок, што хапатліва бег прэч адсюль на чыстае паветра, да нескалатушанай зямлі. Усё было проста і жахліва, адтуль, з не такога ўжо і далёкага мінулага.

Усё было проста і жахліва і побач з гарадком, у якім вучыўся Мацвей. Непадалёку ад гарадка стаялі дзве вёскі за тры кіламетры адна ад другой. Ляжала між імі напаўсухое балотца, бегла сярод гэтага балотца невялічкая крынічная рачулка, вадзілася ў той рачулцы нават стронга. Рай зямны для дзятвы. Пачынаўся гэты рай з вясны, як толькі сходзіў снег, уграваласяя зямля і можна было бегаць па ёй і босаму, калі хутка рос даўкі на смак маладыі сакавіты аер. Асабліва вабіла рачулка хлапчукоў, калі рак сядзеў у норах яе з ікрой пад хвастом, калі прыспяваў час цвісці аеру, аер яшчэ не стрэліў кветкай, а толькі рыхтаваўся стрэліць, быў зараджаны ёю, песціў між сцяблін каля кораня хрусткую і салодкую завязь яе. Вось па гэтую завязь і ішлі да рачулкі, да балотца хлапчукі. І аднойчы, здабываючы яе, здабылі парашут. Пачалі капаць далей — і адкапалі самалёт. Наш, савецкі самалёт, які збілі немцы перад самым ужо канцом акупацыі. Балота паглынула яго, хлапчукі адкрылі. Быў мітынг. На мітынгу зачыталі пісьмо, якое лётчык не паспеў паслаць сваёй маці. Пісьмо ўратаваў і данёс да нашых дзён цэлулоід планшэткі лётчыка. Захаваўся і лётчык, тое, што засталося ад яго, калі ўпаў самалёт. Мёртвы, у балоце, у кабіне скалечанага самалёта, ён ся-

дзеў больш як дзесяць гадоў, мёртва трымаючы штурвал перабітымі ў локцях рукамі, больш як дзесяць гадоў ён чакаў, калі вырасце над ім аер, калі набракне ікрою рак, калі па гэты аер і рака прыйдуць дзеці. Балота паглынула лётчыка, але захавала яго для дзяцей такім, якім ён быў у апошнія імгненні свайго жыцця. І ён быў не страшны дзецям, таму што на ім не было і адбітку смерці, аб гэтым паклапацілася балота, ён ляжаў, як у маўзалеі, як ляжаць усякія там Тутанхамоны ў сваіх пірамідах. І Мацвей упершыню адчуў вялікую літасць балота, як жывога чалавека з памяццю і розумам адчуў.

Але ж мо гэтая знаходка і прыцягнула да балотца людзей, адразу пасля мітынгу на тым месцы, дзе знайшлі самалёт, паставілі абеліск, а потым пачалося і асушэнне балотца, рачулку спрамілі, паглыбілі экскаватарам метраў да пяці, высеклі кусты, і вёскі, што стаялі адна супраць адной за насыпам белага пяску, за кучамі алешніку і пнёў, перасталі бачыць адна адну. Гэтыя кучы так і не паспелі прыбраць. Над імі закурэў спачатку тоненькім струменчыкам дым, і струменьчык гэты то знікаў, то з'яўляўся зноў, нібыта хтосьці дыхаў там, у глыбіні, уцягваў і пускаў дым, і дыханне яго рабілася ўсё больш гарачкавым і ліхаманкавым, і дыму большала, пакуль не зацягнула ім абедзве вёскі, якія стаялі паміж гэтымі тарфянікамі, і толькі пасля гэтага захваляваліся сяляне, не было чым дыхаць каровам, кінуліся тушыць, ды было позна, агонь быў ужо глыбока ў зямлі, тачыў яе норамі і хадамі. І небяспечна было ўжо хадзіць па зямлі, па балоце, куды больш небяспечна, чымсьці па дрыгве. Ад дрыгвы яшчэ быў паратунак, а торф, што схапіўся агнём, нічога не аддаваў назад, жэр усё. На вачах у Мацвея гэтае жудаснае пекла паглынула карову. Ён паспеў паглядзець толькі ў вочы ёй і ўбачыў такі жах, што здрыгануўся, вочы яе не паспелі нават набрыняць слязьмі, такая была спякота, яна і не замычэла, не раўнула ад болю, роў яе спапяліўся ў перасохлай, разадранай ад пакут глотцы, карова толькі вываліла даўжэзны да неверагоднасці язык, нібыта прагла адкусіць яго, і пайшла пад зямлю, абсмаленая і спечаная адразу, пры жыцці яшчэ. Пасля таго балота гарэла месяц, і месяц было не прадыхнуць ні ў адной, ні ў другой вёсцы і ў гарадку таксама.

Згарэў і абеліск — памяць аб лётчыку, які загінуў пад балотам, праваліўся пад зямлю. Быў — і няма. І маўклівасць, з якой ён знік, непрыкметнасць, з якой гэта адбылося, больш за ўсё ўразілі Мацвея. Абеліск і цяпер стаяў паміж ім і той справай, да якой ён сябе рыхтаваў. Пра лётчыка Мацвей успомніў недзе ўжо ў канцы іх сумеснай з Шахраем паездкі на Палессе, калі яны паспелі нагаварыцца, што яму рабіць з гэтай зямлёй і якой яна будзе пасля яго працы. Карціна, якую маляваў Шахрай, была прыгожай. Плёскала, біла ў бераг хвалямі мора — вадасховішча, якое створыць ён сам. Яго павольная і журботная рэчка пераўтварылася, ёй наканавана было стаць магутнай воднай артэрыяй, якая звяжа гэты край з пяццю сапраўднымі морамі. І плылі па ёй марскія параходы, і ляцелі над ёй марскія чайкі, а там, дзе былі балоты, чэзлыя кусцікі алешніку і лазы, сцяною стаяла пшаніца, хвалявалася пшанічнае мора. І паўсюдна жывёлагадоўчыя комплексы, амаль што гарады на месцы вёсак. Цудоўная карціна, але, але...

Ён не быў бы Роўдам, не быў бы палешуком, Дзям'янам з самага сэрца Палесся, калі б безразважна паверыў Шахраю. І карціна, якую намаляваў яму Шахрай, грэла яго толькі дзень. А потым ён звыкся з ёю і пачаў думаць. Быць памяркоўным — гэтага патрабавала само Палессе, яно таксама было ў роздуме. Нястомна і безупынна думалі і нашэптвалі нешта сваё рэкі, што беглі між травы і пад зямлёю, пад падманным берагам, утвораным, сатканым з той жа травы. І гэты бераг-дыван увесь час угінаўся пад нагамі, пагражаў падламацца, парвацца і ўцягнуць чалавека, які не думаючы ступіў на яго, уцягнуць так, што і бурбалак ад яго не застанецца. Думаў лес, шапочучы веццем, калі набягаў ветрык, а ў спакоі некуды збягаючы сам, ці не ў вечнасць, тую самую вечнасць, якой заўсёды ўласціва думка, у якой і жыве думка. Лес, дрэвы і жылі гэтай думкай, здабываючы яе глыбока ў зямлі сваімі каранямі. Думалі антоны-буслы, што ў белых світках выйшлі на сенажаць і замерлі, зачараваныя самі сваімі світкамі і адзеннем, у якое прыбралася зямля, абяцаючы добрую восень і зімку. Дзеля гэтага і працавалі рэкі, дубровы, сонца, птушкі і мурашкі нават. І Мацвей таксама працаваў дзеля гэтага, ён разумеў, што гаспадарыць на гэтай зямлі, як

гаспадарылі раней ён і іншыя палешукі, нельга, цесна ўжо. Ён кожны год усё больш і больш адчуваў, як душаць яго балоты. Не хапала зямлі, не хапала прастору яму і яго тэхніцы. І гэта ў той час, калі столькі зямлі, здавалася, без аніякай карысці марна гіне, захоплена балотам, дрыгвой. Але, з сумам гледзячы на балота, ён бачыў на ім і абеліск, і дым, што едка вісеў над вёскамі і гарадком. І балота рабілася як бы часткаю яго самога, яно, здавалася Мацвею, ведае аб ім больш, чым ён сам ведае пра сябе. І не падымалася яго рука на гэтае балота, нібы нешта разумнае было перад ім, здавалася, што балота мае і памяць. На тым жа балоце, на якім жылі буслы, рос аер, рос, жыў і ён сам, Мацвей Роўда, пакаленні княжборцаў раслі і жылі. Ён жа сам выйшаў з аеру, антонаў-буслоў, таму і адбыўся, што былі ў ім і вакол яго: буслы, алешнік, аер, рачулкі і крыніцы, балота і абеліскі. І сёння яшчэ слёзы ў яго вачах ад таго дыму, праз які ён ездзіў рабочым паяздком, шчыміць сэрца, калі прыгадваецца абеліск, які паглынулі агонь і зямля. Пра ўсё гэта Мацвей і расказаў Шахраю, калі яны пераначавалі каля рэчкі і зноў рыхтаваліся ў дарогу. Шахрай, як заўсёды раніцай, галіўся, прыстасаваўшы абломак люстэрка да алешыны. Яму заставалася толькі разы ▪ два правесці брытвай, але якраз па тым месцы, дзе і сядзела тая злаўмысная дакучлівая радзімка, як след, пакінуты куляю ад стрэлу ва ўпор. Шахрай баяўся парэзаць яе, як агню, таму што за гэтым блюзніўся яму рак, і мо з-за боязі рэзаўся, колькі галіўся. І цяпер Шахрай памацаў радзімку пальцам, нібыта хацеў пераканацца, ці не знікла яна, паднёс і адвёў брытву, і рука яго дрыжала. І гэтая няўпэўненасць Шахрая была ў навіну Мацвею, вымушала яго адначасова быць асцярожным і шчырым. Але абачлівасць перамагла, збаяўся і свайго недарэчнага, як яму здавалася, хвалявання, і таго, каб не сказаць чаго-небудзь лішняга пад руку Шахраю. І, пэўна, усё ж сказаў, толькі пачаў пра абеліск, пра лётчыка. Алег Віктаравіч рашуча і злосна правёў брытвай па шчацэ, змахнуў пену, і паплыла па падбародку чорная стужка крыві.

— Зноў, так і ведаў, дагалюся да раку,— з прыкрасцю прамовіў ён і не вытрымаў, закрычаў: — Пад суд, пад суд за такія справы!

— Каго пад суд? — не зразумеў Мацвей.— За якія справы?

— За такія... І колькі гектараў тарфянікаў згарэла? — ён беспаспяхова спрабаваў спыніць кроў і адэкалонам, і ёдам.

— Да тысячы паўтары.

Шахрай амаль застагнаў:

— А мой дзед з кумам трыццаць гадоў, да рэвалюцыі яшчэ, судзіліся за паўтары дзесяціны... Ды... Гэта толькі адной бульбай каля трохсот тысяч рублёў. Ды гэта ж наш саўгас ці калгас, які мы толькі думаем будаваць, спалілі... Пазнаю, пазнаю, хто пад суд пайшоў? — Кроў усё яшчэ бегла.

— Ды ніхто, здаецца. Стыхійнае ж бедства...

Стыхійнае бедства Мацвей уплёў, каб паслухаць, што скажа Шахрай. Сам ён так не думаў, не думаў так і Шахрай.

— Пазнаю, пазнаю, стыхійнае бедства. Нічога неверагоднага няма сёння... Залатое дно, павер мне, Мацвей, у нашых палескіх тарфяніках. Жылінскі не давей, у нашых палескіх тарфяніках. Жылінскі не дарэмна ж, і калі, і колькі той тэхнікі было — лапата, пайшоў у наступ на гэтае дно. Дваццаць пяць тысяч кіламетраў каналаў лапатаю... — І раптам, як хто кухталя яму ў бок сунуў: — І ты сумняваешся, што меліярацыя — залатое дно? — Кроў яму так і не ўдалося спыніць.

— Ды як вам адказаць...

— Шчыра, як я пытаю цябе...

— Шчыра — не. Кожны старшыня калгаса за меліярацыю. Гэта ж раз-два — і ў дамках. Патрэбны нам новыя землі, тыя, што маем, ужо спустошаны. І латка на латцы. Але...

— Што але, працягвай,— Шахрай урэшце спыніў кроў і цяпер ляпіў на радзімку пластыр.

— Ды так, дробязі, эмоцыі. Карова з адкусаным языком, і тое ж стыхійнае бедства, і характар наш... натура наша...

— Які характар, якая натура?

— Шырокія мы і багатыя.

— Не разумею.

— А што разумець? Кітаец у кашы на гарбу на гару зямлю цягне, каб граду нейкую займець, японец галінкі, сучкі, кару збірае — і ўсё да справы. А мы

маем вунь колькі гэтых дрэў, і зямлі, і балот, вокам не ахапіць, аж галава кружыцца.

— Усё роўна не разумею. Гэтаму ж толькі радавацца трэба.

— А я і рады. Толькі галава кружыцца, кажу. Іншым разам не-не дый наведае думка: былі б мы трошкі не такімі багатымі...

— Заносіць цябе, Мацвей. На самым пачатку, бачу, заносіць,— у голасе Шахрая не было асуджэння, а толькі цікавасць, і Мацвей загаварыў больш смела.

— Мо і так, нас усіх заносіць. Гарэлку піць дык піць, каб усім чарцям моташна было, будаваць дык будаваць, а крышыць... Сакера наша мужыцкая — толькі першы раз ёй цюкнуць, з болем, з крыкам адзін палец наважыцца адсекчы. А потым ужо можна і ўсю руку прэч. Не шкада ўжо ні рукі, ні галавы, калі пачалі гваздаць — дык гваздаць, каб на ўвесь свет бачна і чутна было. Сакеры самыя вострыя, цвікі — такіх нідзе ўжо і няма. Я на цаліне быў — я бачыў.

— Адтуль, я думаю, і эмоцыі. Усё ўжо ў цябе?

— А вам што, мала?

— Дастаткова... Цікава, цікава. Я сам аб гэтым неаднойчы думаў. Але ж як, па-твойму, ставіць праблему, калі не па-дзяржаўнаму. Шкада будзе, калі я памыліўся ў табе. Кожнай новай справе патрэбны новыя, маладыя людзі. Усё новае бязлітасна да старога.

— Вы хочаце сказаць — і да зямлі.

— Так, і да зямлі. Мы перакройвалі адносіны, цяпер прыспеў час перакройваць зямлю. Таму і свет больш суровы. Ты не знаходзіш?

— Дакрануліся да запаветнага, да недатыкальнага...

— Да запаветнага — так, а наконт недатыкальнасці, прабач мне... Есці, жраць, разумееш, свет хоча. Ты жыў у гэтым суровым свеце, таму я цябе і знайшоў. Так, знайшоў я. Ведаю, рос без бацькоў. Ведаю, быў на цаліне. Ты думаеш, мне гумар твой спадабаўся, акрамя ж гэтага, за табой яшчэ нічога няма. Я першы, пэўна, хто курсавыя твае і дыпломную тваю да канца дачытаў.

— Ну і як?

— Супчик жиденький, но наваристый... Пчаляр.

Мацвей засмяяўся. Ён мімаволі, сам не прыкмячаючы таго, працягваў усміхацца і цяпер, калі яны пад'-

язджалі ўжо да Княжбора. Вяртанне яго ў родную вёску нельга было лічыць ні прыемным, ні вельмі жаданым, яно больш было абумоўлена тым, чаму імя: осознанная необходимость. Выклікалі на бюро, спыталі:

— Вымовы ёсць?

— А як жа? — здзівіўся нават наіўнасці такога пытання Мацвей.— І простыя, і строгія... Але з занясеннем — яшчэ не. Чаго няма, таго няма,— члены бюро засмяяліся, а ён хапатліва прыгадваў, дзе і калі саграшыў, і рыхтаваўся яшчэ да адной вымовы, мо і да гэтай — з занясеннем. Што гэта за старшыня калгаса, калі ён не гатовы атрымаць вымову, а грэх на яго душы быў яшчэ свежы, цёпленькі яшчэ. Дзён са тры перад тым, як адбыцца бюро, зазірнуў ён са сваім галоўным інжынерам і сябрам яшчэ па інстытуце Паўлам Рачэўскім на пасеку. Пчаляр пачаставаў іх бражкай, і трэба ж так... Калі не шанцуе, дык ужо не шанцуе, да гэтага варта было сакратару райкома чхнуць у яго бок і ён чуў, а тут... Толькі яны ■ Паўлам выпілі па два кубкі той бражкі, намерыліся трэці браць, як сам ужо вось ён, тут. Сам быў за рулём, а побач з ім сядзеў яшчэ хтосьці, незнаёмы Мацвею. І гэты незнаёмы пачаў выдзірацца з газіка, быў ён высокі, крыху сутулаваты і кабінетна чысты з твару. І хаця гэтую яго кабінетную ўходжанасць крыху псавалі вялікаватыя вушы, Мацвей здагадаўся: начальства, не менш як абласное, а мо і больш высокае. А сакратар райкома з машыны не стаў вылазіць, націснуў на гудок, прачыніў дзверцы:

— Чым займаецеся?

— Трутняў лягчаем,— зашумела, пэўна, ужо ў галаве ў Паўла.

Роўда хацеў быў растлумачыць неяк больш далікатна, чым яны тут займаюцца, але яго апярэдзіў Шахрай, а гэта ён быў з сакратаром райкома.

— І колькі ўжо лягчалі? — сур'ёзна і строга запытаў Шахрай Рачэўскага. Той не саступіў, зыркнуў вокам на тры кубкі, што стаялі з бражкай перад ім:

— А вось ужо да чацвёртага прыступілі.

— І колькі ж часу на гэта патрацілі?

— Ды вось, лічыце, ад раніцы,— плюнуў на тлумачэнні і Роўда, усё роўна гарэць.

— Лайдакі,— незразумела, ці то пазайздросціў ім, ці то асудзіў іх Шахрай.— Мы вось з сакратаром ад су-

седа вашага. Там за паўгадзіны на нашых вачах амаль тузін парасят выхаласцілі. Трутні...

Вось за гэтых трутняў на бюро і рыхтаваўся панесці кару Мацвей Роўда. І было яму вельмі сумна: свой жа брат старшыня сядзеў перад ім, з'едлівы, зубасты, і гэтая з'едлівасць яго была Мацвею куды больш страшнай, чымсьці тая вымова. Усплывуць на бюро трутні — і хоць у пастухі падавайся, хоць на Камчатку збягай, уплятуць у байкі і паданні, знойдуць пад зямлёй, засмяюць на векі вечныя. І Мацвей ужо чуў гэты іх рогат. Ах, як не хапала яму на тую хвіліну Рачэўскага, ён паказаў бы яму саву смаленую, навучыў бы, як трутняў лягчаць.

— Нішто сабе кадр, біты, а за аднаго бітага двух нябітых даюць,— парушыў цішыню, якая здалася Мацвею ўжо вечнай, Хведар Ліпай, той самы сусед, ветэрынар якога быў асам, здольным выхаласціць за паўгадзіны на вачах начальства тузін парасят. Яго, Ліпая, больш за іншых баяўся Мацвей Роўда. Гаспадарка ў Ліпая ўзорная, таму ён ні бога, ні чорта не прызнае. Мінулым годам пабудаваў у калгасе рэстаран. І такі, што ў сталіцы зайздросціць будуць, майстроў, разьбяроў па дрэве выпісаў з Прыбалтыкі, шэфповара зацёг з міжнароднага поезда вагона-рэстарана. Другога на месцы Ліпая за гэты рэстаран і начальства, і той жа брат старшыня задзяўблі б, зацюкалі, а Ліпаю хоць бы што. Усе да яго з паклонам, руку ловяць, у вочы зірнуць імкнуцца: віншуем, віншуем, Хведар Кандратавіч, прыйдзе Новы год, Першамай, маўляў, не забудзьце пра нас, столік нам, майце на ўвазе. Вось што такое Ліпай. І гэта не дзеля прыгожага слоўца, Зорка Героя ў яго кішэні, і зноў не ў пераносным сэнсе, на самай справе так і ёсць. Зорку гэтую залатую без дай прычыны на свет божы ён не дастае. Вось і цяпер сядзіць ён перад сваім братам старшынёю ціхі, сціплы, пінжачок на ім нейкі куртаты, але варта паглядзець на Ліпая, калі ён наладзіцца па нейкай справе даставальнай, накшталт той, што ў мінулым годзе вёртануў. Самавіты і мажны, пры поўным парадзе, да міністра ўваліўся, кангрэсмен, сенатар амерыканскі, а не старшыня калгаса, што на Палессі, і вокамгненна ўвесь парк сваіх камбайнаў абнавіў. Дваццаць камбайнаў купіў адразу. Нікому, акрамя Ліпая, у раёне, ды нават і ў вобласці, не адужаць гэтага. Канец года,

грошаў ні ў кога за душой ані рубля, а Ліпай, спатрэбіцца яму, і крэйсер можа купіць. І трутні гэтыя клятыя, калі б ён быў у галоўнай ролі, на карысць бы яму пайшлі. Як піць даць, усе кпілі б не з яго, старшыні калгаса, з сакратара і гэтага, кабінетнага, пацяшаліся б. Во, маўляў, сказануў, во ўрэзаў. А яму, Роўду, шыю намыляць і паголяць, і галоўным цырульнікам будзе той жа Ліпай.

Але ўсё атрымалася не так і зусім нечакана для Мацвея.

— У Княжборы сваім даўно быў, ты ж княжборскі? — спытаў яго сакратар райкома.

— Княжборскі, гадоў сем-восем назад быў там,— шчыра адказаў Мацвей, не разумеючы, навошта гэта сакратару, але цалкам разлічваючы на яго літасць, як здаючыся яму.

— А скажы, Мацвей Антонавіч,— гэта падаў голас Шахрай,— ці не з таго ты самага Княжбора, у якім калісь валоў сеялі?

Ну, пачалося, Мацвей успрыняў гэтае пытанне як пераходнае да галоўнай тэмы, княжборскі фальклор ён ведаў добра, хоць і мінула восем гадоў, калі апошні раз сустракаўся са сваімі землякамі. Было такое з яго аднавяскоўцамі, з княжборскімі мужыкамі, якіх тольскі казак пра іх не расказваюць. У Балгарыі, гавораць, усё было ў Габраве, ну, а тут — у Княжборы. Вырашылі і пастанавілі княжборскія мужыкі, каб кожны меў сваіх валоў і кабраслі яны хутка, як расце трава ў полі, як жыта ці бульба, паабразалі валам хвасты і пасадзілі ў зямлю. І палівацца кінуліся. Да сённяшняга часу, гавораць, палівацца і чакаюць, чакаюць, калі волікі з зямлі прарастуць і ў ярмо іх можна ставіць. Так што закід зразумеў ён і палёгку нават адчуў, пазбавіўся суму:

— А вы што, тых волікаў на ўлік ужо ўзялі, уключылі ў план мясанарыхтовак?

— Гарачы, гарачы,— ухваліў Ліпай,— плюнь на яго — пара ідзе.

— Уключылі. І трутняў уключылі. Дарэчы, ты іх ужо ўсіх выхаласціў, можна іх і на сяўбу?

Адчувалася, што словы гэтыя сакратарскія не дайшлі да членаў бюро, не разумелі яны сакратара, таму што нічога не ведалі з апошніх падзей, няўцямна круцілі галовамі, чакалі тлумачэнняў. Толькі Ліпай, зда-

ецца, ужо нешта цяміў, як певень на седале, сядзеў на крэсле, лыпаў вачыма то на сакратара, то на Шахрая, то на Мацвея. Мацвей зніякавеў і маліў адно: хутчэй усё тут скончылася б; супакоіўся і не адводзіў вачэй ад Шахрая.

— Каму і калі перадаваць справы? — як бы збоку, пачуў ён уласны голас і хацеў ужо адвесці вочы ад Шахрая, ды не здолеў. Яны як бы сышліся, сашчапіліся позіркам, выпрабоўвалі адзін аднаго, гнулі, ламалі, але ні адзін не меў перавагі. Мацвей пад выпрабавальным яго вокам нібыта зашпіліўся на ўсе гузікі і, не міргнуўшы і вокам, гатовы быў рушыць на яго вочы, прайсці скрозь іх, крочыць на вуліцу, і не праз дзверы, а так вось, не збочваючы, праз акно. Але тут на твары Шахрая нешта зварухнулася. Шахрай падміргнуў яму. Мацвею падалося, што ён памыліўся: гэта было неверагодна. Але памылкі не было. Шахрай усміхаўся, ён рагатаў, толькі рогат быў унутры яго і чутны быў толькі Мацвею.

— Я табе яшчэ прыгадаю трутняў.— Тут таксама не было пэўнасці — прагучалі ўсім гэтыя словы, вымавіў іх Шахрай ці гэта толькі прымроілася Мацвею.

— Я думаю, усё, таварышы, ясна. Кандыдатура таварыша Роўды не выклікае сумненняў. А таму пытанне аб асвабаджэнні яго ад былой пасады ставім на галасаванне.— Шахрай звяртаўся ўжо да членаў бюро і не глядзеў больш на Мацвея, нібыта таго і не існавала. І Мацвей адчуў, што сапраўды яго ўжо няма тут. Ён адмаўляўся верыць сваім вушам: з-за нейкіх трутняў і пытанне аб звальненні, забыўся, што сам жа прасіў звольніць яго... Але ж гэта было несур'ёзна.

А Шахрай між тым працягваў:

— Як бачыце, таварыш Роўда і не адмаўляецца. Як ад камуніста, мы ад яго і не чакалі іншага. Балоты ведае па Княжборы, так што будзем галасаваць. Бюро рэкамендуе вас, таварыш Роўда, начальнікам БМУ меліярацыі.

— Але ж я не меліяратар,— пасля ўсяго, што тут адбылося, Мацвей быў ужо не здольны на здзіўленне, але такога павароту ён не чакаў.— Я супраць... У сваю гаспадарку, калі вы не разумееце жарту, я згодзен нават пастухом...

— Жартаваць будзем потым, таварыш Роўда, у іншым месцы. А зараз тут, як бачыце, бюро, і бюро дае

вам партыйнае даручэнне. Колькі гадоў вы ўжо ў партыі?

— Я нічога не петру ў меліярацыі, я не ведаю...

— Не ведаеш — навучым, не ўмееш — пакажам, не хочаш — вымусім. Мы вас не на пасеку бражку піць пасылаем. Статут апошні раз калі чыталі?

Вось так усё там і адбылося. А мо й не так, а мо й не там. Калі так, калі там — проста, вельмі проста ўсё, толькі ці разумна. А ці бывае проста ўсё ў людзей, у кожнага ж свой падыход да жыцця, пачатак і канец, нараджэнне і смерць, яны ж не падпарадкаваны ні загаду, ні прадпісанню...

Зямля, Палессе, расчыніліся перад Мацвеем і Шахраем, як у першы дзень свайго стварэння. Княжбор і княжборцы толькі ніткай дарогі прашылі зямлю, звязаліся ёю з белым светам, але ж нітка гэтая была вельмі нетрывалая, хаця яе спрабавалі ўмацаваць немцы, фашысты, калі прыйшла сюды вайна. Княжбор у той час з усіх сродкаў перамяшчэння ведаў толькі калёсы. Але там, дзе праходзілі вол і конь, гразлі аўтамабіль і танк. Немцы рукамі княжборцаў зрабілі гаць, гаць на свой нямецкі лад — дуб, ясень, хвою паклалі ўпоперак дарогі. Дуб, ясень, хвоя — дваццаць кіламетраў, падскоквай на кожным метры, на кожным слове. Здавалася, што сама жахлівая памяць аб мінулым кінулася пад колы іх машыны, страшная памяць аб тым, як бедавалі калісь тут людзі. І сонечны поўдзень на гэтай дрогкай дарозе быў поўны дакору. І само сонца скакала на небе, як п'янае, кулялася, падала ў балота і ўставала чорным у барве іскраў, што сыпаліся з вачэй Мацвея і Шахрая.

Але яны абодва мужна трывалі, Шахрай быў у панцыры, у брані сваёй варожасці да балота і дарогі. Упершыню праблукаўшы тыдзень па Палессі, здолеў закаваць сябе ў тую ж самую браню і Мацвей. Ён сам з Княжбора, здавалася, ведаў аб ім усё, з галавы вылецела толькі вось гэтая гаць, мо таму, што ніколі не даводзілася ездзіць на машыне. Усё больш пехатою, на сваіх двух. А на сваіх двух ніколі не дрогка.

Не вытрымаў вадзіцель.

— Калі ж скончыцца гэты здзек, душу ўжо нудзіць. Машыну шкада.

— Ужо трошкі засталося, зараз выскачым,— пааб'яцаў Мацвей і сурочыў. Парвалася і тая нетрывалая

нітка, якая вяла іх да Княжбора. Газік упёрся ў размыты паводкай масток.

— Прыехалі... — вылаяўся Шахрай.

— Справа, здаецца, аб'езд,— і Мацвей з вадзіцелем, не адчуваючы знямелага цела, прайшліся па гэтым аб'ездзе.

— Тут не на машыне, а ў пасталах добра было б,— сказаў вадзіцель, калі яны зноў выйшлі на дарогу.

— Уключай раздатку, выдзірайся сам, а мы пешшу,— і Шахрай не ўседзеў больш у газіку.

— Мо пачакаем, пакуль праскочыць аб'езд, дапаможам, калі што? — Мацвею было няёмка перад шафёрам, якога яны пакідалі аднаго, нібыта гэта ён, Мацвей, знарок разбурыў той мосцік. Але Шахрай адмахнуўся ад яго:

— Залезе, закапаецца, мы яму не дапаможам. Прышлём трактар. Рушылі.

І яны рушылі. І адразу за мосцікам, за аб'ездам, Мацвей адчуў, што пачаўся ўжо Княжбор, хаця яго і не відаць, і не чуваць было. Не відаць было і загонаў, дзялянак, мільганула толькі між чорных вольх, шэрых дубоў, асветленых сонцам бяроз прасла, мільганула і згубілася, знікла, каб праз крок-два выбегчы да самай дарогі: дзень добры, блудны сын, гэта твая бацькаўшчына, вось яе пачатак. Княжбор гэтым праслам пазначыў свае ўладанні, свае межы. І гэта нічога, што шэрыя і чорныя ад часу, ветру і дажджоў жэрдкі даўно ўжо спарахнелі і паламаны нават. Галоўнае — жэрдка працягнута і слупкі стаяць, лазою перавітыя, нераўня, канечне, яны тым, пагранічным слупам. Але ўсё ж уладарны герб Княжбора нябачна ёсць і на іх, прыкладзена была да іх сялянская рука, і яна перасцерагае: не чапай, не пераступі з благой думкаю, гэта наша, гэта мы. Тут мы жылі, жывём і будзем жыць вечна. І яшчэ адным знакам гэтага іх жыцця была пазначана зямля — могілкамі, павязана сцежкамі, абкружана сцяжынкамі, ледзь прыкметнымі, што пратоптаны зусім нядаўна, і глыбокімі, даўнімі, выбітымі, ходжанымі да белага пяску. І гэтыя сцежкі і сцяжынкі, могілкі ўголас уводзілі ў вушы Мацвею: Княжбор, Княжбор, Княжбор.

І як бы яшчэ раз сцвярджаючы гэта, Мацвей адразу ж за могілкамі ўбачыў валоў, што лена валюхаліся

па схаваным за кустамі полі, пачуў голас, які падганяў іх:

— Цоб, цоб-цабе, ваўкарэзіны.

Мацвей з Шахраем падышлі да поля. Аркадзь Барздыка — Мацвей пазнаў яго адразу — абганяў бульбу.

— Дзень добры, бог помач вам! — бадзёра павітаўся з Барздыкам Шахрай. Мацвей таксама хацеў сказаць нешта добрае, але перахапіла голас.

— Дзень добры, начальнікі,— панура і неахвотна азваўся Барздыка, мімаходам зыркнуў толькі на Шахрая, як усё роўна і не стаяў побач з ім ён, Мацвей. І Мацвей разгубіўся і пакрыўдзіўся, нібыта ён ехаў толькі дзеля таго, каб сустрэцца з Барздыкам. І той сустрэў яго, але прызнаць не пажадаў. Але крыўда і разгубленасць зніклі імгненна, як і з'явіліся: пад'ехаў да іх і спыніўся газік. І Мацвей зразумеў, што ён адвык ад Княжбора. Не Барздыка забыў аб ім, а таму і не прызнаў: ён забыўся пра Барздыку, свайго аднавяскоўца.

Княжборцу, а асабліва Барздыку, кожны чалавек, кожны гараджанін, які вось так вольна крочыць у такі гарачы час па дарозе — начальнік, а калі ў яго яшчэ партфель ці, горш таго, ён яшчэ і пры машыне — вялікі начальнік. І аб чым яму гаварыць з гэтым начальнікам — каб хлебам, сенам ці дрывамі дапамог, не дапаможа. Ці ж варта тады зубы выскаляць, языком мянціць, марна траціць час. Вунь якое ў яго поле, пакуль сонца не зойдзе, трэба ж управіцца з ім, абагнаць кардоплю. І стаіць ён зараз перад імі, начальнікамі, як валы яго стаяць, глядзяць у зямлю, жуюць жвачку, чакаюць каманды паганятага. Панукне ён іх, напнуць яны хрыбціны, худыя і ў гноі яшчэ зімовым азадкі, крануцца і пабрыдуць. Барздыка, Мацвей разумее гэта, знарок не глядзіць на яго, і на Шахрая не глядзіць, утаропіўся ў зялёныя шаты маўклівых дубоў. На голле дубоў ужо сіненька прыпадае вечар, змрок спаўзае з голля, макавак дрэў і хутка-хутка прыпадзе да каранёў, упадзе на траву — і настане вечар. А вечарам у Барздыкі новы клопат: мо ён і цяпер чуе, як рохкае ў сырым закутку парсюк, мо ён чуе, як стогнуць валы, напрацаваліся, просяцца ўжо ў хлеў. А самога Барздыку недзе пад лавай ці пад павеццю чакаюць яшчэ сякера, піла: пакуль вада не сышла, пакуль вада блытае сляды, трэба і дубок які-ніякі на дровы ці слупкі

заваліць і да хаты на лодцы па вадзе прыгнаць. А там ужо, глядзіш, і світаць пачне, ночы вясной кароткія. А раніцай зноў за тое ж самае, што не дароблена ўчора, і ўвесь дзень, што кола, паспявай толькі круціцца. Дзецям сваё, жонцы сваё, а яшчэ ж і калгасу яго трэба аддаць. Усюды і ўсім ён павінен. Аніводнай вольнай хвілінкі, на тым свеце толькі адпачне.

— Што гэта вы робіце, чым займаецеся? — Шахраю хочацца пагаварыць з Барздыкам.

— Ай, начальнік, хіба ж ты не бачыш...

— Бачу, многа ў цябе зямлі?

Гэтае пытанне выводзіць са здранцвення Барздыку. Бог яго ведае, над чым ці над кім гэты начальнік начальствуе, а пра зямлю пустой гаворкі не мае быць. Барздыка, канечне, не верыць, што яму прырэжуць той зямлі. І Мацвей адчувае, як Барздыка напружваецца.

— А што? — удае ён сябе за глухога.

— Колькі, пытаю, зямлі ў цябе?

— А вось,— непаразумела разводзіць рукамі Аркадзь Барздыка, ці то паказвае толькі на гэтую дзялянку, ці то ўбірае ў свае рукі зямлю, колькі вока можа ахапіць.

— І гэта ўсяго? — не разумее яго хітрыкаў Шахрай.

— Да не, яшчэ трошкі ёсць.

— І колькі ж трошкі?

— Трошкі.

— Ну колькі трошкі: дзесяць, сорак сотак, гектар? Колькі ў сярэднім княжборскі мужык мае зямлі?

— Трошкі... дзесяць, сорак сотак, гектар у сярэднім.

— Не разумею,— круціць галавой Шахрай.— Дык дзесяць сотак ці гектар у сярэднім?

Барздыка ўмольна пазірае на Роўду, хоць усё яшчэ не прызнаецца ў тым, што ведае яго, просіцца вачыма падказаць, што гаварыць, як выкруціцца. Калоцяцца яго душа і сэрца, не наважыцца ён ніяк ні праўду сказаць, ні звесці гаворку на яго, Мацвея Роўду. Звесці можна, толькі вялікае пытанне, ці пагодзіцца з гэтым Роўда, ці захоча ён з ім вадзіць знаёмства. Ён жа чуў дзесь, што гэты Дзям'янаў парастак таксама ў начальніках ходзіць, і цяпер, калі стаіць і не адгукваецца на яго мальбу, не варта і яму ў радню набівацца. Яго

справа такая: загадалі ісці — ідзе, стой — стой. А тут нешта ні тпру ні ну, хоць стой, хоць падай.

— Ай, начальнік, ну чаго ты да мяне прычапіўся? У сярэднім, у сярэднім. Колькі ў каго гною хапае, столькі і зямлі ў сярэднім.— Спрытна выкручваецца Барздыка, вылузваецца. Але Шахраю няймецца, пакуль яны ішлі пешкі з Мацвеем, ён дазволіў сабе паслабіцца, мо й пасумаваць, пашкадаваць каго. Але цяпер ён зноў закаваны ў браню, перад ім штосьці непаразумелае, як бы працяг тых самых балот, праз якія яны ішлі і ехалі тыдзень, з якімі ён павінен змагацца, дзеля дабрабыту гэтага ж негаваркога з хітрыкамі селяніна. А Барздыку такая гаворка ўжо даспадобы. Гной не зямля, гною ў яго хапае, пра яго ён можа і з начальнікам пагаварыць — што гэты начальнік цяміць аб яго гноі.

— Гною хапае, хапае, колькі худоба дае ды вы яшчэ дабавіце, столькі і будзе, увесь наш.

— А колькі яна дае, колькі жывёлы ў цябе?

Такі паварот зноў, адчуваецца па ўсім, непрыемны Барздыку. Якое ж мноства на свеце рэчаў, пра якія не хацелася гаварыць Барздыку з начальствам. Барздыка непрыязна глядзіць, але не на Шахрая, а на яго, Мацвея Роўду: ці не фінагента навёў на вёску гэты Дзям'янаў парастак?

— Ды волікі во...

— І ўсё?

— Ну, кароўка.

— Не прыбядняйся, не прыбядняйся, і яшчэ там штосьці ў хляве тваім мычыць.

— Ну бычок мыціць...

Роўда не ўстрымаўся, зарагатаў: дапёк Шахрай усё ж Барздыку, зацокаў ажно, а княжборцы калі яшчэ цокаць перасталі. Да таго ж Барздыкі наогул ніколі не цокалі. З цоканнем — гэта іх, дзям'янаўская гаворка. «Быцком» сваім Барздыка ўжо прама звяртаецца да яго, і Мацвей не адмаўляецца ад зямляцтва:

— А да быцка цёлацка, так, Аркадзь Прахоравіч?

— Та-ак. А да быцка цялуска,— ашчэрвае жоўтыя зубы Барздыка.— З прыездам вас, Мацвей Антонавіч, рады, рады.

— А да цялускі кабанцік?

— А да цялускі кабанцік, так, так яно.

— А да кабанціка парасяткі?

— І парасяткі гной даюць.

— Ды гусак з паўсотні.

— Трыццаць гусак... А што, Савецкая ўлада супраць?

— Не супраць, але ж каб столькі,— не вытрымаў усё ж Шахрай,— хоць раскулачвай.

— Нно, цоб-цабе... Ты, начальнік, на машыне, а я на воліках... Пайшлі, воўк вас дзяры.

І валы пайшлі, без крыўды на пугу і крык, унурыўшы галовы. І толькі зрэдку варушылі вушамі ды пакручвалі хвастамі, адганяючы з'яд, рыпела ярмо, сквірчэла, як сала на патэльні, зямля. Сквірчэнне гэтае і рып пакрысе затухалі, глухлі, пакуль зусім не патанулі ў цішы дубоў і поля.

Яны стаялі на рагу гэтага поля, глядзелі ў спіну аратаму. Шахрай зрэдку моршчыўся, калі валы збіваліся з нагі, і, пакуль бралі яе, ярмо ажно верашчала. Роўду было няёмка за свайго вяскоўца і за Шахрая, перад вяскоўцам было няёмка. І наогул яму было няўтульна на роднай княжборскай зямлі. Ён вусцішна маўчаў, разумеючы, што нельга зараз чапаць Шахрая, але ўсё ж не ўтрымаўся, калупнуў Шахрая, такая ўжо парода іх, дзям'янаўская. Сыпануў солі на хвост Шахраю.

— Чаго ж вы не спыталі, Алег Віктаравіч, пра волікаў, якіх ён садзіў у зямлю, хвасты абразаў, як соль сеяў?

— Гэты волікаў садзіць і соль сеяць не будзе.

— Чаму не будзе, ён і ёсць галоўны салясей у Княжборы,— зноў не ўстрымаўся, пакінуў за сабою апошняе слова Мацвей. Ён помсціў Шахраю і за бюро, і за трутняў, і за Барздыку. За ўвесь Княжбор, што ў асобе Барздыкі так няветліва сустрэў іх, жыў па-свойму, па сваіх законах, якія не супалі з законамі Шахрая, а дзесь і з яго, Мацвея Роўды, законамі. І садзіліся яны з Шахраем у машыну моўчкі, і нейкі час ехалі моўчкі, кожны ў сабе.

— Нічога ў цябе землякі,— першым усё ж парушыў маўчанне Шахрай.

— Што вы ведаеце аб маіх земляках? У яго ж сямёра па лаўках, а мы яго гусак, кабанчыка лічыць пачалі. У калгаса гектар зямлі адхапіў... А пра тое мы не думаем, што не ён пры калгасе, а калгас пры ім.

Сто-дзвесце гектараў ворнай зямлі — вось і ўвесь калгас.

— А ён з гэтай сотні-другой цэлы гектар адламаў.

— Адламаў... Зубамі выгрыз. Трактар, калі б яго так паганяць, і той бы здох. А без волікаў пагібель яму. І дзед мой пару трымае. Павінен трымаць. І кожны так у Княжборы.

Мацвей, здаецца яму, памятае і ведае цяпер усё аб сваім Княжборы, пра людзей, што жывуць тут, пра самога сябе, нібыта ніколі не пакідаў яго, нібыта дух яго, цень, пазбаўлены цела, з дня на дзень лунаў над гэтымі балотамі і полем, хадзіў па хатах, усё бачыў, усё чуў, убачыў і адчуў і яго ў гэтым газіку, спусціўся да яго, увайшоў у яго, зліўся з ім і перадаў яму ўсё, што сам бачыў і ведаў, разгроб тыя наносы, тое смецце, што затлуміла галаву, агаліў пульсуючую жывую яго памяць. І ён бачыў гэтую сваю ачышчаную памяць, чуў, як яна прыбойна дыхае ў ім, хаця і скавана яго целам, яго сумам, прысутнасцю Шахрая, скавана яшчэ і асцярожнасцю, жыццёвай абачлівасцю, няведаннем таго, як атрымаецца ў яго тут, што ён знойдзе, а што згубіць тут.

Мінулае не вяртаецца. Але ці толькі лепшае ідзе на змену мінуламу. Сённяшняе Княжбора абурае Алега Віктаравіча, хаця ён яшчэ і не нюхаў гэтага сённяшняга, бачыў балота, што атачыла Княжбор, праскочыў на машыне па княжборскай дарозе, пагаварыў з Барздыкам, калі той быў не ў гуморы. Угледзеў толькі тое, што само сляпіцай лезе ў вока, назаляе воку. Які ж багацей, тым больш кулак гэты гарапашны Барздыка. Хворы пайшоў ад гэтай зямлі на вайну, у партызаны, и з партызан і ў войска, здабыў на фронце лычкі старшыны, з тым, ды яшчэ з чужым жалезам у грудзях, вярнуўся ў родную вёску, падымаць на ногі калгас. Нічога не скажаш, сёння жывецца яму куды вальней, чым учора. Толькі ці ёсць у яго час адчуць гэта? Ухопіць раніцай, як птушка, што-небудзь, укіне ў рот кавалак хлеба, зап'е малаком, ну, мо скрылёк сала, калі яно ў яго далежваецца да лета, канечне; удзень — гладышка кіслага малака; вечарам — чыгун паронак ды зноў тое ж малако, вось і ўсё. А волікі ў Княжборы тое ж самае, што лодка ці човен. Машына-ўсюдыход, і яна буксуе на княжборскіх гацях, вунь як раве, а волікі цягавітыя, як і Чыгуны-Барздыкі, як

Дзям'яны-Роўды, як Махахеі. Пазбаў ты іх гэтых валікаў — і капцы. Пагібель Чыгунам, Дзям'янам, Махахеям, хоць самім галаву ў ярмо. Цялічка, бычок — яны восенню ўсё роўна будуць у казне. Дзякуючы гэтым бычкам і цялічкам, недзе вучацца ў горадзе сын ці дачка Барздыкі, дзякуючы бычкам дзеда Дзям'яна вучыўся ў горадзе і ён сам, Мацвей Роўда. Гэта яны, бычкі і цялічкі дзеда Дзям'яна, вывелі яго ў свет, у людзі. А кабанчыкамі і парасяткамі жывы і сам Барздыка, жыў Княжбор і ўсе іншыя Княжборы Палесся. І шчасце іх, што так дбаюць, цягнуць з сябе жылы палешукі Чыгуны, Дзям'яны, Махахеі, тыя самыя, што сеялі колісь соль і садзілі волікаў. Колькі плётак і баек, сем карабоў бязглуздзіцы вакол іх, вакол гэтага прасла, дубоў гэтых, гэтых буслоў — вакол палешука, які сапраўды не чалавек, а паляшук. І плятуць гэтыя карабы па сённяшні дзень, і кожны сваё лыка ўплятае. Герадот, той пайменаваў гэты куток краінай вады і тумаяоў. Плеткары больш сучасныя абазвалі палешука дзікуном, лічы, дзікунства гэтае, маўляў, ужо ў самім слове «паляшук». Не зводзяцца плеткары. Наслухаўся іх і ён, Мацвей Роўда. Забяспечылі і яго на дарогу плёткай. Пра тое, як нейкі без меры закаханы паляшук праз балота хадзіў на спатканне да сваёй каханкі, лётаў, сплёў сабе кош-самалёт, запрог у яго дваццаць пеўняў. На гэтай лічбе Мацвей не вытрымаў, перапытаў:

— Дваццаць?

— Дваццаць!

— А чаму б не дваццаць адзін, чаму б не ачко?..— Мацвей запамятаў гэтую плётку і плеткара і шмат чаго іншага запамятаў, хаця, па праўдзе кажучы, і сам быў небездакорны. Уступаючы гасціннасці, безжурботнасці чужога краю, на хвіліну, тыдзень, месяц забываўся аб няпростасці, патаемнасці свайго Палесся, грэючыся пад чужым сонцам, забываў аб сваім, пра тое, што на яго Палессі не менш сонечных дзён, чым у той жа Адэсе-маме, дыхаючы чужым паветрам, чужымі азонамі і фітанцыдамі, забываўся пра тое паветра, што было яму як малако маці, пра тое, што дзесь сярод клятага ліхаманкавага Палесся згубілася вёска, якая ўсяму свету дорыць мяту — мятныя бальзамы і эліксіры, таму што ў той вёсцы лепшае ў свеце паветра, больш, чым дзе б там ні было, тых жа самых фі-

танцыдаў, больш азону. І гэта было прызнана ўсімі, толькі не ім, не тымі, хто нарадзіўся і вырас у той вёсцы. Паважаючы чужое жыццё, чужых бабуль і дзядуль, іх сівізну, іх век, забываўся аб сваіх пра-пра-пра. А іх жа было ў клятым Палессі не меней, чым у самым благаслаўлёным краі. Толькі ў яго Княжборы падкрадаўся да сотага гадка яго ж родны дзед Дзям'ян, памяняла ўжо сваю другую соценьку Махахеіха. І такіх, як Дзям'ян, Махахеіха, было мноства на Палессі. Але не любілі яны пра сябе, пра свае гады гаварыць, дажывалі свой век каля печы ў вясковай хаце, дзе ім было ўтульна і цёпла, дзе мала хто бачыў іх замілаванасць жыццём і сонейкам, сядзелі сабе ў цяньку дзенебудзь каля хлева, саступіўшы ва ўсім маладым. Яны саромеліся свайго доўгага веку, хаця яшчэ нешта й рабілі. Махахеіха пільнавала, праганяла з гарода курэй, корпалася паціхеньку і ў гародзе, палола грады. А дзед Дзям'ян, той яшчэ і з сякерай у лес хадзіў, падзарабляў сабе да пенсіі аерам, здабываў гэты аер у балоце, у старыцы, нёс дамоў, у засень ліпы каля свінарніка, садзіўся на карытца, скідаў, калі ніхто не бачыў, боты, падстаўляў сонейку ступакі, браў у рукі нечым падобныя на яго ступакі, пакручанасцю і спрацаванасцю, карані аеру, абчышчаў іх абломкам ножыка да белага, пахучага, правяльваў, сушыў на сонцы, беражліва звязваў пучкамі і здаваў нарыхтоўшчыкам.

А ён, Мацвей, у гэты час аж канаў ад захаплення чужымі старымі, іх мудрасцю і гумарам, як пацяшалі яны незаняты натоўп, што глядзеў на іх як на нейкае дзіва. Яны і самі лічылі сябе за дзіва, бавілі натоўп кідкім слоўцам: «А пражыў я столькі таму, што ўвесь час меў справу толькі з авечкамі, а не з людзьмі, быў чабаном».

Яго ж родныя, Мацвея дзяды, не маглі сабе дазволіць такой кідкасці, таму што і мудрасць іх была іншай, у непрыкметнасці. Нічога не было ў іх на пагляд, на выстаўку: чым выстаўляцца, чым выхваляцца старасці — маршчынамі, немаччу, хваробамі, ці ж гэтым трэба ганарыцца, калі спрадвеку зямля была і застаецца маладой, неўвядальная, нязгасная яе прыгажосць і сіла, і кідкае слова — толькі смецце. За сваё жыццё старыя палешукі столькі гэтых слоў наслухаліся, што цяпер і радыя былі памаўчаць: хай маладыя сябе ў словах паказваюць. Мо ў тым была іх і правін-

насць, што яны саступілі ва ўсім маладым, мо таму і сам Мацвей, зачараваны сівой старажытнасцю, што так ушаноўвалі на чужыне, забываўся аб старажытнасці свайго краю, захапляўся чужой славай, забываўся пра славу сваіх дзядоў і прадзедаў, пра вытокі і карані, не толькі яго, Мацвея, вытокі і карані, але ўсёй, белай і чорнай, вялікай і малой, Русі, пра некалі магутнае Турава-Пінскае яднанне, якое займела, здабыло сябе і сваю моц менавіта тут, на Палессі, што ён некалі ў дзяцінстве яшчэ гуляў татарскай стралой і знаходзіў у зямлі каля старадаўніх курганоў за вёскай шведскія і французскія манеты, а там, дзе тлелі ў зямлі касцякі, астанкі апошняга нашэсця фашысцкай зграі, пасвіў кароў і гуляў у жмуркі. Ён, княжборац Мацвей Роўда, разам са сваімі аднагодкамі — Барздыкамі, Роўдамі, Махахеямі — на дубах, адзін з якіх падтрымлівае хатку Ненене, а другі стаіць тут, каля могілак, шукаў кольца, за якое калісь Напалеон прывязваў свайго каня. Аб гэтым ім неяк расказаў настаўнік гісторыі. Гэта, канечне, быў жарт, але...

Дубы макаўкамі падпіралі неба, былі яны сучаснікамі самога Івана Грознага. Хлопцы праглядзелі вочы, але кольца так і не паказалася ім.

— Калі сонечна — трэба,— падахвочваў іх настаўнік,— і каб урокі пароблены ўжо былі, тады кольца само вас знойдзе, як толькі прамень сонечны на яго ляжа.

Яны ішлі да дубоў, калі было сонечна, чакалі таго промня, а настаўнік расказваў ім пра Тураў, Пінск, пра крывічоў і дрыгавічоў, дрыгавічамі, як ні дзіўна, былі самі яны, а кольца ўсё аніяк не паказвалася ім. Яны спрабавалі залезці на дуб, але духу хапала толькі да сярэдзіны яго, далей кругам ішла галава.

— А зарасло тое кольца,— супакойваў іх Махахей.— Было, было, калі я яшчэ не нарадзіўся. А я нарадзіўся — яно ўжо зарасло. Паглынуў дуб, дуб не трывае чужога на сваім целе, ён жа расце не толькі ў неба, але і ў шырыню, паглынуў, з'еў паганскую жалязяку.

Мацвей забыўся пра гэтыя дубы, іх адметнасць і дзівоснасць, на Палессі ж дубоў і больш магутных вялікае мноства, сучаснікаў самога Дзмітрыя Данскога, і што з таго. Вось раслі б тут пальмы, баабабы — іншая справа. А што ў старых дубах, у старых людзях,

Махахеях, Дзям'янах? Ну, прайшоў дзед Дзям'ян праз тры вайны — японскую і дзве сусветныя. Усе старыя Палесся прайшлі праз гэта, ніводнаму не выпала адлежацца на печы, грэючы старыя косці. На гэтай апошняй вайне на вачах дзеда Дзям'яна забілі яго сына, дзядзьку Мацвея. На коніку ехаў дзед Дзям'ян ад партызанскага лагера, вёз хворага сына, каб ён ці то паправіўся, ці то памёр у сваёй хаце, пры маці сваёй, калі наканавана яму смерць. Немцы перастрэлі Дзям'яна на дарозе, спынілі коніка.

— Сын хворы на тыфус, на тыфус,— паспрабаваў адбіцца ад іх Дзям'ян. Тыфусу немцы баяліся, што тых партызан. Не сталі абшукваць падводу, пароцца ў сене, перакулілі яе — і на дарожны пыл разам з сынам Дзям'яна пакацілася і яго вінтоўка. Сына кончылі на месцы. А дзеда Дзям'яна — у аглоблі і пугаю, дубцамі ўскач да Княжбора. У Княжборы ён упаў пасярод вуліцы, з вушэй і рота яго лінула кроў. Немцы палічылі, што і яму капцы. У іх і думкі не было, што пасля такога галопу, бізуноў чалавек Дзям'янавага веку здольны выжыць. Дзям'ян выжыў. Быў ён з тых палескіх Дзям'янаў, што лагодныя і незласлівыя да той пары, пакуль не дапякуць іх. А калі ўжо дапякуць, хай тады ўжо ўсе іх баяцца, са свайго яны не саступяць. Хто толькі зубы на іх не паламаў, ні перад адной уладай яны на каленцы не станавіліся, дазвалялі расказваць пра сябе казкі, часам і самі такога туману, курадыму маглі напусціць — соль сеяць, валоў у зямлю садзіць ці на сцёбку іх зацягваць, але жонак сваіх, сваіх дачок на глум і здзек чужынцам не аддавалі. Было ў іх душы нешта ад гэтага суровага краю, ад нелагоднай зямлі, ад іх птушак, звяроў, дрэў, нібыта душа іх жыла ва ўсім, да чаго датыкаліся іх рукі, што бачылі іх вочы, адусюль чэрпалі сілу і моц, служылі ўсяму — вадзе, дубу, сваім волікам, свайму чоўну, хаце, буслу на ёй, сваім дзецям, і ўсё служыла ім. Яны былі неаддзельныя ад апошняй травінкі, ад былінкі, што расла на іх зямлі. І іх зямля была неаддзельная ад іх, з яе яны нараджаліся, у ёй і знікалі. І пасля смерці захоўвалі вернасць ёй.

А Мацвей Роўда восем гадоў назад пакінуў Княжбор, пакляўся, што пакінуў назаўсёды. Восем гадоў назад ён спяшаўся, але не да бацькі і не да маці — да нявесты. Бацькі ўжо не было на свеце, не было і маці.

Маці дачакалася б яго: яна ўмела чакаць. Усё жыццё яе — скрозь чаканне. Такой яна і засталася ў яго памяці — унікліва затоена, незмігнутна, нязводна пазірала ў сябе і некуды ў далячынь, нікому невядомую, акрамя яе самой. Варта яму толькі прыжмурыць вочы — і перад ім ажываюць запытальныя вочы яго маці. Чаго яна хацела ад яго, што было ў яе пытанні, мо яна наперад ужо ведала пра свой лёс і звярталася да яго — ці даруе ён. Як і ў маці, такія ж вочы былі і ў Алены, гэта ён зразумеў потым ужо,— вочы Палесся, яго лясоў і рэк, таго Палесся, у якое дадзена зазірнуць не кожнаму, але калі яно ўжо расчынілася перад табой, даверылася табе, то ў кожным дрэўцы ты адчуеш спагаду і пяшчоту, убачыш і пытанне, і здзіўленне, і чаканне: ці той ты, за каго выдаеш сябе, ці не ідзе следам за табой хто-небудзь непажаданы, ці не вядзеш ты следам за сабой ліха, ці не падманеш ты іх, ці не будзеш строіць кпінаў з іх, такіх простых і шчырых, што мохам-травою ўсцілаюць табе дарогу. Вось так даверліва, проста і шчыра, чакаючы чагосьці невядомага, пэўна, і ёй самой, жыла маці Мацвея. Не, яна, канечне, ведала, чаго чакае: спачатку бацьку яго, свайго мужыка, потым яго, Мацвея, і зноў мужыка, ужо з фронту, з вайны. Але кожны раз за гэтым вядомым чаканнем было і патаемнае, чаканне сэрца: вось адбудзецца адно, народзіцца сын, прагоняць нашы немцаў, вернецца з вайны чалавек, і прыйдзе, настане штосьці неверагоднае, да слёз, радаснае, прыгожае. З тым яна і пайшла ад Мацвея, пайшла да бацькі назаўсёды, туды, адкуль не вяртаюцца. Пайшла, здолеўшы перадаць яму веру ў сябе, ва ўсемагутнасць жаночага чакання. І Мацвея больш за ўсё ўразіла, калі яго не дачакаліся. Цяпер ён разумее: хапіла васьмі гадоў, каб набыць гэтае разуменне, чаму яго не дачакаліся. Маці перадала яму веру ва ўсё лепшае, але не здолела перадаць чагосьці іншага, цярплівасці сваёй, ці што. Ён не набыў, не навучыўся цярпліва трываць, пакуль наступіць гэтае лепшае, яму здавалася, што гэтае лепшае ўжо чакае яго, угатавана яму за першым паваротам, за вуглом уласнага дома, інакш жа і не магло быць. І ён кінуўся наўздагон за ім, за вугал уласнага дома, і толькі замільгацелі скрыжаванні і ростані дарог. Мо яму не варта дакараць за гэта сябе, такі быў час, усе кудысьці беглі, усім штосьці мроіла-

ся за вуглом сваёй жа хаты. І ён, як некалі яго бацька, пайшоў у салдаты, на службу ў армію, а з арміі, здаецца, па дарозе дамоў, збочыў у Сібір. У Сібір на камсамольскую будоўлю ён наладзіўся разам са сваім аддзяленнем. Алене адпісаў, што так і так, маўляў, зямля такая вялікая і грэх абмяжоўвацца толькі сваім кутам, абжывецца і адразу выклікае Алену. Але з Сібіры ён неўзабаве махнуў у Казахстан, пра гэта ён ужо не даў звесткі Алене, упэўнены, што яго ўсё роўна чакаюць, павінны чакаць, пакуль ён будуе плаціны і ўздымае цаліну. Але там, на цаліне, яму раптам зрабілася вельмі сумна, абрынулася на яго і апанавала яго новая нецярплівасць, ён схапіў і кінуў у свой салдацкі яшчэ чамадан пару свежых сарочак ды майкі і скіраваўся ў новую дарогу — назад у Княжбор. Не, ён не думаў, што Алена не дачакаецца яго, гэта было не ў характары Княжбора, Княжбор чакаў усіх — ад першага і да апошняга — з вайны і з турмы, з таго свету толькі ўжо нікога не чакалі, самі ішлі туды, як маці яго пайшла. Ён згадаў раптам пра сваю нявесту, усплылі ў памяці ўсе васемнаццаць старыц і азёр, успамянуліся трынаццаць мосцікаў па дарозе да роднай хаты, чарапахі на трухлявым і цёплым бярвенні, і ён засяшаўся да ўсяго гэтага. І трапіў на вяселле. Толькі на чужое. Алена Махахей не дачакалася яго. За апошнім мосцікам, каля могілак, за якімі пачынаўся ўжо Княжбор, ён сустрэўся з ёю, сустрэўся вачыма. Ніхто з аднавяскоўцаў не бачыў яго. Яшчэ здалёку, падыходзячы да Княжбора, а праўдзівей кажучы, падбягаючы, ён пачуў скрыпку, бубен і гармонік, узрадаваўся: музыкаю сустракала яго вёска. Узрадаваўся асабліва бубну, таму што любіў яго, быў ён свой, мог не толькі спяваць, але і плакаць. І было ў яго звоне, песні ці плачы нешта ад звону спелага жытняга коласу на зары. Па жытнім полі больш за ўсё і сумаваў Мацвей, адлучаны ад свайго Княжбора. І ён, не адчуваючы ні рук, ні ног, сцежачкай пашыбаваў напрамкі на голас бубна. Трэба сказаць, што з гэтай сцежачкай яму моцна пашанцавала: пайшоў бы па дарозе — наскочыў бы на вясельны поезд, і цяжка прадказаць, што б з таго атрымалася. А тая сцежачка скіравала яго да дуба каля могілак, і далей не пайшлі, адняліся маладыя ногі. Але на тую хвіліну ён яшчэ нічога не паспеў згледзець, толькі стужкі на шасце,

толькі стужкі на ярме ў валоў, што брылі па дарозе. Нявеста плыла на чоўне побач з дарогаю, і яна не бачыла Мацвея; ён схаваўся за дубам. Толькі Алена ў чоўне раптам замітусілася, утаропілася вачыма ў дуб, за якім ён стаяў, човен закалыхаўся і як не перакуліўся, Махахей ледзь утрымліваў яго на вадзе вяслом, ён таксама нешта адчуў і таксама пазіраў на дуб. Бубен змоўк; зацёхкаў, зашчоўкаў спрасонку ці з перапуду салавей, што жыў на могілках, скрушліва так, жалобна зашчоўкаў, нібыта спалоханая нечым маладая падала голас ці сам ён, Мацвей, не вытрымаў. І твар, і пагляд Алены падаліся яму здалёку дзікімі, як і не яго Алена сядзела ў чоўне, а бабуля яе, старая Махахеіха, вядзьмарка, як гаварылі пра яе ў Княжборы. Кляліся і бажыліся некаторыя з княжборцаў, што і жыла тая старая Махахеіха ў чорнай Чортавай прорве, не раз бачылі яны, як сходзілася яна там то з Жалезным Чалавекам, то з Галоскай-галасніцай. Каля прорвы бачыў яе і сам Мацвей. Ён пасвіў коней, разамлеў каля цяпельца, нутраны рык балотнага быка абудзіў яго. Мацвей, перамагаючы жах, стрымліваючы дрыжыкі, пайшоў да гэтай прорвы, як уцягваў яго хто туды. Пайшоў, але не дайшоў. Зноў да мурашак па скуры рыкнуў балотны бык, і вось да сённяшняга дня не ведае, ці прымроілася яму, ці было на самай справе, але ўяўна так адчуў ён, як уздыхнула прорва, і з прорвы, з твані, дрыгвы пачаў расці чалавек, на самай справе жалезны, нібыта з помніка нейкага сходзіў. А на беразе стаяла, цягнула да яго рукі старая Махахеіха, была яна чамусьці ў белым, як вясельным, убранні, нібы з туману выткана таго самага, што курэў над прорвай. Мацвей не вытрымаў, асеў, схаваў босыя ногі ў кашулі і раўнуў сам куды больш галасна, чым той бык. Махахеіха, тут памылкі ўжо і прывіду ніякага не было, павярнулася да яго, нібы цыркачка якая, імгненна пераапранулася ў чорнае, чорным быў яе твар і нос, што звісаў з гэтага твару вядзьмарскім крукам, вочы толькі гарэлі вугельчыкамі і праціналі яго наскрозь. Вугельчыкамі гарэлі вочы і ў Алены зараз, і носік, роўненькі, ахайны, выгінаўся бабуліным выгібам. І той жа самы жах апанаваў Мацвея, як і тады, каля Чорнай прорвы. Але тады яму падалося: старая Махахеіха падышла да яго, пагладзіла яго, як распа-

ленымі граблямі прайшлася па галаве. І голас яе ён пачуў тады:

— Прабач мне, дзіцятка, не хацела я цябе напужаць. Жывая я, як бачыш, і не вядзьмарка. І ты жывы, і нічога не бачыў, не бяры ў галаву, што людзі сплятаюць. Слабая ў цябе галава, сэрца мяккае. Прымеш ты мук праз такое сэрца. Трымай яго ў кулаку, не падыходзь, дзіцятка, да прорвы, грахі нашы цяжкія ў гэтай прорве жывуць. Мае грахі і твае ўжо ў ёй пахаваны. Суціш, суціш сваё сэрца... — А сэрца, ён адчуваў гэта, не хацела суцішацца. Яно білася ў зямлю і аб зямлю, аб прорву тую Чортаву, білася, як білася зараз у дуб. І дуб ажываў, застукала раптам і ў дубе сэрца, закалацілася як аб браню, загаласіла, заплакала, сціснутае мёртвай, задубелай, гадамі назапашанай карою. І ўпала з дуба на ягоны адзервянелы мёртвы твар сляза, яму падалося — сляза, а на самай справе скацілася з веццяя, з ліста расінка, а мо й не расінка, мо сапраўды заплакаў разам з ім стары дуб. Мацвей кінуўся ад дуба прэч, у кусты, як кінуўся калісь прэч ад Махахеіхі. Не даўшы нікому і знаку, што ён быў у Княжборы, паехаў у белы свет, як у капеечку: пакляўся вярнуцца сюды, калі забудзе Алену. Але ён, Мацвей Роўда, нічога не забыў. Не забыў, а вяртаецца ў Княжбор. І збегчы цяпер няма куды, хоць дуб, які калісь схаваў яго ад Алены, аднагодак Івана Грознага, стаіць, дзе і стаяў...

— Што засумаваў, дружа? — тузануў яго Шахрай.— Гэта і ёсць твой Княжбор... Княжыць табе тут...

## ВЫБАР. АГЛЕДЗІНЫ

Шахрай не паспеў яшчэ і настроіцца на дарогу, толькі праскочылі ніцыя кусцікі лазы, чэзлы алешнік, што пачынаўся адразу за вёскай, дрогкае поле, занятае кукурузай, дарога вільганула і прыціснулася да рэчкі. І Дзям'ян запатрабаваў спыніцца.

— Свілёва,— сказаў ён, калі яны выйшлі на высокі стромы бераг рэчкі, абапёрся плячыма да пахіленага над рэчкаю дуба, зашоргаў ботамі, нібы закопваўся ў зямлю. Закапаўся і сціх. І здавалася, стары і дуб, да якога ён датыкаўся, з аднаго рэчыва, адной пароды, толькі дуб хіліўся да вады, а дзед стаяў пра-

менька, і нейкі выклік адчуваўся ў гэтай яго нерухомай прамізне, у абвіслых, але дужых руках, што кожную хвіліну здольныя яшчэ і ўскінуць на плечы мех, і папрацаваць сякерай. Задзірліва спакойным быў і застыглы твар ягоны, буйны, усё яшчэ шырокі, хаця і з адбіткам ужо зямлі на ім. Мацвей з Шахраем мімаволі, але таксама паддаліся таму спакою і ўпэўненасці, што сыходзілі ад дзеда, сталі побач з ім на той жа круты бераг, пачалі ўзірацца туды, куды ўзіраўся і ён, хаця, здаецца, нічога цікавага там не было.

Трава, трава, а сярод гэтай травы, што так прагна піла і дыхала сонцам, чорныя дубовыя пні. Дзе-нідзе між гэтых пнёў — круглыя і зялёныя кусты лазы і зрэдку згубленыя на адзіноце дубы.

— Махахеева дуброва,— нібыта вёў іх вочы па гэтым аблогу і абшары, сказаў Дзям'ян. За дубамі, скрушліва раскіданымі вакол, за шарамі лазняку, далёка, кіламетры за два-тры, праглядвалася сенажаць.

— Балонь,— зноў прамовіў дзед Дзям'ян. І яны надоўга змоўклі, думаючы кожны аб сваім. Мацвею ўсё гэта было родным; Свілёва, Балонь, Махахеева дуброва — самі назвы гучалі яму зусім так, як гучаць словы маці, бацька. Шахрай жа прымерваўся і прыслухоўваўся да нязвыклых яго вуху слоў:

— А што азначае Свілёва? Чаму Свілёва?

— Бусел,— сказаў дзед Дзям'ян. І, не падымаючы галавы, нібы яму цяжка было варочаць шыяй, узняў палец угару над сабой. Яны ўзнялі галовы: за некалькі крокаў ад іх стаяла ўсохлая, з абламаным шчыком бяроза з буслянкай. У буслянцы сядзеў бусел ці бусліха, яны ўбачылі галаву птушкі, якую яна высунула з буслянкі і трымала навісу і пацеркамі вачэй нязводна, але без мітусні і напружанасці глядзела на людзей. Амаль гэтак жа, як дзед Дзям'ян глядзеў на зямлю, сенажаць і дубы.

— Бусел? — нічога не зразумеўшы, перапытаў Шахрай.

— Бусел,— пацвердзіў Дзям'ян,— птушка. А вось вада, рэчка, а там дуброва, кусцікі, сенажаць, Балонь — усё сплялося, усё звілося ў адно. І дуб тут расце кручаны, як чорт круціцца-верціцца ў ім — ні сакерай яго, ні пілой.

— Тады кручанае лепей,— сказаў Шахрай.

— Свілёва! Са свіллю і азярыны тут вакол. Уся вада ў цвілі. Цвіце вада, зарастаюць азярыны, а ніяк не зарастуць.

— Дапаможам,— коратка і з націскам кінуў Шахрай.

— Э, чалавеча,— дзед Дзям'ян паглядзеў на Шахрая, як на дзіця.— Кінь, няма ў іх дна.

— Як гэта, няма дна?

— А вось так, адно возера наверх, да сонца, да свету, а другое — уніз, пад зямлю.

— Але дно ўсё ж ёсць.

— Не-а, бугай балотны там жыве.

— Дзед Дзям'ян,— развёў рукамі Шахрай.— Ты ж камуніст.

— А ён беспартыйны... — насупіўся дзед Дзям'ян.— Ты маю партыйнасць не кранай, з семнаццатага я года ў партыі.

— Адкуль жа тады бугай гэты балотны.

— А халера яго ведае. Раве, дзярэ вушы і партыйным, і беспартыйным.— І, ці то імкнучыся перамяніць гаворку, ці то пацвельваючы Шахрая, павярнуўся да рэчкі:

— Вось яшчэ непарадак у нас: западзеншчына крадзе нашу зямлю. А зямелькі той у нас...

— З табою, дзед, не засумуеш,— паглядзеў на рэчку, на проціглеглы бераг і Шахрай.— Як гэта западзеншчына крадзе ў вас зямлю?

— Проста, прынаровілася. Вось я стаю на сваёй зямлі, а па другі бок рэчкі ўжо другая вобласць, западняя. Дык што заднікі тыя твораць? Рэчка іх бераг не кранае, а наш рушыць, падмывае. Вось дуб, глядзі, пахіліўся. Сам бачыш: упадзе хутка дуб у ваду — і зямелькі ў нас меней будзе, і на адно дрэва меней. Зладзеі на тым беразе жывуць.

— Зладзеі,— пагадзіўся Шахрай.— Навядзём парадак, дзед, і тут. Пакараем злодзея, пакараем рэчку. Паганяем далей, паказвай далей, дзе ў вас тут яшчэ непарадак.— І пацягнуў дзеда да машыны.

— А што табе наш непарадак,— занатурыўся дзед, як бы не жадаючы зноў у машыну, не жадаючы куды б там ні было ехаць.

— А каб усё добра было, гожа каб усё, і ніякіх злачынцаў, і ніякага крадзяжу.

— Гэта як жа?

— А вось так, гах — і пад корань, і з коранем.
Мацвею падалося, што дзед Дзям'ян глядзіць на Шахрая з нейкім жалем.
— Адразу — і гах пад корань? — перапытаў ён Шахрая.— Гэта што ж атрымоўваецца, калі я яшчэ не зусім з глузду з'ехаў — разам з чалавекам?
— А чалавек прыйдзе новы.
— А старога куды?
— На печ.
— Ну-ну, гэта добра, каб на печ, а не пад печ, дай бог і нашаму цяляці воўка з'есці.
І ад гэтых слоў заныла сэрца ў Мацвея, нават у зубы нешта ўступіла, нібы ён, распалены, хапіў халоднай вады, нешта вельмі нядобрае і халоднае адчуў ён у гэтай размове, у тым, як яны калясілі па Палессі, як нявесту ўсё роўна шукалі і цяпер вось знайшлі, цяпер гэта былі ўжо, як заведзена, агледзіны нявесты: нявесту выпрабоўвалі, як яна на працу, ці няма ў ёй якой-небудзь заганы, ці спраўна яна рабіць сваю галоўную жаночую справу — раджаць дзяцей, ці паслухмяная свёкру і свякрусе і як на твар. Ішла купля-продаж, і трэба было хваліць дзеўку, мясціны, па якіх яны ехалі. А Мацвей не хацеў ні ганіць, ні хваліць: боль быў у ім за ўбоства і прыгажосць свайго краю.
Яны ехалі ўсё тым жа берагам рэчкі. Дарога была жудасная, горш і не прыдумаць, калі ты ў машыне, і лепей не трэба, цуд, казка, калі ты пешшу, калі цябе не чакае праца, калі ты прыехаў адпачыць, пабадзяжыць на адзіноце ці прыгадаць былое — сваё дзяцінства, як хадзіў і бегаў тут на пачатку жыцця. І не прыкмячаў, нічога не прыкмячаў: ні пчалы, што спяшалася да жоўтых і духмяных балотных ірысаў, ні борцяў, што невядома як, калі і хто паставіў, таму што яны прыраслі ўжо да векавых дубоў, больш дубу, дрэву, чым чалавеку, належалі, не кідаліся ў вочы спавітая лазою рэчка, што віляла, як і дарога, і старыцы, якія ўжо адвілялі сваё, а цяпер зарасталі лотаццю і белымі гарлачыкамі, і не здзіўлялі волаты-ясакары, што глядзелі на цябе сваім змрочным вокам-дуплом, каля якога палётвалі вялізныя і злыя шэршні. Здавалася, усё і павінна так быць, так і было і будзе вечна. І паўсюдна толькі так, а не інакш. Інакш не бывае, таму што гэта першае, што ўбачылі і з чым парадніліся твае вочы, таму што ты нарадзіўся тут, кожны дзень

чуў адну толькі мелодыю, адну музыку. Розныімі былі толькі музыкі: лета, восень, зіма.

— Храпчына, Воўціна,— скрозь песню, што адраджалася і паціхеньку пачала гучаць у ім, Мацвей пачуў голас дзеда Дзям'яна, не прыкмеціўшы, як прыехалі, спыніліся сярод такога абсягу і раскошы і сярод такой цішы, што хацелася знямець, вырваць сабе язык і слухаць, слухаць сябе, глядзець: справа рэчка, злева рэчка, а па беразе гэтых рэчак дубы і ясакары і белы ў белым рачным пяску параходзік. І ўздоўж берагу нешта журботнае, нейкі няўлоўны напамінак аб тым, што коліcь тут жыў чалавек, цьмяныя абрысы яго селішча, падмуркі ад яго хат, хлявоў, на якіх сёння раскашавала крапіва, а дзе-нідзе сярод гэтай крапівы вытыркаўся і чырвоны ражок цагліны. І Мацвей адчуў параднёнасць з гэтай цаглінай, з гэтай крапівой, нібыта ён загадзя ведаў, што ўсё гэта ёсць тут і сюды, менавіта да гэтай раскошы травы і цэглы, і імкнуў. І зараз ён падыдзе да іх, трэба толькі перайсці лагчынку, прадзерціся скрозь спавітыя хмелем кусты воўчага лыка. І пакуль ён будзе ісці па лагчынцы, выдзірацца з кустоўя, спавітага хмелем, там, наперадзе, паўстануць зноў з крапівы, падымуцца з кінутых падмуркаў хаты. Хаты будуць пустымі, але на парозе, на ганачку будзе стаяць жбан з халодным, толькі што з пограба, бярозавікам. І ён ужо скіраваўся да лагчынкі, пакрочыў як адурманены нечым, адчуў адзеннем, пальцамі рук учэпістасць хмелю. Голас дзеда спыніў яго:

— Храпчына. Нахрапам калісьці мы селі на гэтае месца. Вада прагнала, заліваць пачала. Мы і спрамлялі тут ужо рэчку, кручком яна ў вусці была, мы прама пусцілі, а...

— Чуеш, Мацвей, ты чуеш,— загукаў Шахрай.— Дзед, дак ты ж меліярацыяй займаўся. Ты ж меліяратар.

— Дзед-барадзед... — невядома з чаго засмяяўся дзед Дзям'ян, хацеў яшчэ нешта сказаць, але Шахрай апярэдзіў яго:

— Вось і яшчэ непарадак. Не хвалюйся, дзед, ты паклаў пачатак, мы давядзём да канца.

— Ну і ну,— сказаў дзед Дзям'ян,— каб толькі не да ручкі.

І зноў была дарога, толькі назад ужо — да княжборскага ляда, дзе сцяной, дрэвамі стаяў стары арэш-

нік, ляшчына, дзе маладыя клён, рабіна і ясень вялі смяротэльнае змаганне за жыццё з гэтай ляшчынай. Вайну даўнюю, у вытокаў якой некалі быў і ён, Мацвейка. Тады верх быў за ляшчынай, яна глушыла дрэўцы, што былі ніжэй за яе, але сёння яны перамаглі. Рабіна, ясень, бяроза падраслі, прабіліся да сонца, доўгі прыгнёт ляшчыны прымусіў іх пазбавіцца ад лішняга вецця, яно засталося толькі на макаўках, і дрэвы пацягнуліся макаўкамі да неба, ламачча, нават жывілі іх, сонца ўгравала зверху, як за вушы цягнула.

Тут, у ляшчыне, сярод ясеняў, бяроз, Мацвей і знайшоў дзівосны грыб-баравік. Першым на грыбы натрапіў дзед Дзям'ян, зрэзаў цэлую сямейку, штук пяць адразу. Шахрай не даваў веры вачам:

— Май жа, якія і адкуль могуць быць баравікі ў маі?

— Грыбнік з цябе, чалавеча... Мікалайчыкаў не бачыў. У нас тут заўсёды першы грыб у маі ідзе. Вады зямелька напілася, сонейка яе ўгрэла, вось ён і не вытрымаў...

Пачаў больш уважліва ўзірацца сабе пад ногі і Мацвей. Не збочваючы з набітага, па навуцы дзеда Дзям'яна: няма грыбоў на дарозе, няма іх і ў лесе — наскочыў на першага, пачаў кругаля даваць і выкружыў яшчэ пятнаццаць. І ўсе яны былі ядраныя, крамяныя, адзін у адзін, ад бацькі, што пазеляне ўжо ўнізе, да белагаловіка, які вытыркнуўся толькі-толькі, толькі-толькі рассунуў лабастай макацоўбінай сівец. Зрэзаў шаснаццаць, знайшоў і яшчэ адзін, семнаццаты. Але з гэтым семнаццатым яму не пашанцавала, быў ён нейкі выродлівы і непрыгожы. Ножка моцная і белая, што зуб, і цягнулася яна ўгару, расла, хаця нічога не несла на сабе, баравік быў без галавы. Галоўка, разваленая надвае травой, сіўцом, ужо гніла, як абвялая плеўка прытулілася да ножкі, што ўзвышалася, як абеліск нейкі. І Мацвей застыў каля гэтай ножкі, вельмі ўжо карцела яму, каб быў ягоным і гэты, семнаццаты баравік, аж слёзы набеглі на вочы, як у дзяцінстве, нібыта ніколі ў жыцці не браў, не бачыў і ў вочы тых баравікоў. Першы раз убачыў, як сустрэў нешта дзівоснае і непаразумелае, дзіўна і непаразумела было, як загінуў гэты семнаццаты. Ён стаў на каленкі перад грыбам, крануў тонкія ніткі сіўцу, што

лямцам сплёўся над ім. Сівец быў напяты, як струна, і востры ён быў.

Так, па ўсім, вельмі паспешлівы ўжо быў яго баравічок, майскае шчодрае сонца абудзіла грыбніцу, тая, угрэўшыся ў паўзмроку і вільгаці княжборскага ляда, набракла, што вымя ў каровы пасля ацёлу, і пачала нястрымна пладаносіць. Настолькі нястрымна, што гэты баравічок ні аб чым іншым і не думаў, толькі б хутчэй на свет, усяго ж хапае: цяпла, сокаў, сонца. Сталага веку, моцная і нага ў баравіка, дужая, трывала, цвёрда стаіць ён на зямлі. Вось на гэтую трываласць і цвёрдасць і спадзяваўся грыб, на злом галавы кінуўся расці і згубіў галаву. Згубіў і, не прыкмеціўшы сам таго, працягваў расці, хаця ўжо ніякай карысці ні сабе, ні людзям, ніякай патрэбы нікому ў ім не было.

Мацвей пачаў дзерці траву разам з каранямі. Выдзер сівец і, падпарадкоўваючыся некаму невядомаму ў сабе, хутчэй нават не ў сабе, а таму, што стаяў зараз за яго плячыма і ўладарыў ім, пачаў палкаю калупаць зямлю і дакалупаўся да нечага жывога, пругкага. І, не вагаючыся, дзе той жа палкай, дзе пальцамі неўзабаве ўжо абкопваў гэтае жывое, асцярожна, не спяшаючыся, як усё роўна здымаў міну, размініраваў ляда. І тое, што ён выдзер з зямлі і ўзяў на рукі, было падобным на міну, такое ж небяспечнае і, як талерка, круглае, ні на што, з чым да гэтага прыходзілася яму сутыкацца, не падобнае. Яно было жывое. Мацвей адчуваў гэта, хаця ні цеплыні, ні цёку жыцця ў тым, што ён трымаў на руках, не чулі пальцы яго. Жар гэты і цёк сыходзілі ад яго самога, ад Мацвея, гарачы туман засціў яму вочы, і крык быў у ім, нарадзіўся ў абуджаным целе яго, здрадніцкі гаротны крык перахапіў запаленае ўнутраным жарам горла. Але крычаў не толькі ён, Мацвей, крычала і Яно, тое, што трымаў ён, плакала, галасіла, як горкае дзіця, што згубіла маці. Мацвей і сам не заўважыў, як выраніў слязу на гэтае жывое і галаснае, сляза ўпала, закіпела і як выпарылася, растала, нібыта і не падала.

— Э, хлопча, што ж ты натварыў? — Дзед Дзям'ян з жахам і асуджэннем глядзеў на Мацвея.— Шчаслівы ты і няшчасны. Цяпер тры гады можаш не хадзіць у лес.

— Што я натварыў? Чаму не хадзіць? Што гэта... хто гэта?

— Грыбніца, унучак. Маці ўсіх грыбоў. Цела яе...

— Усё, Мацвей, усё. Решено и заметано.— Да іх скрозь арэшнік прадзіраўся Шахрай з поўнай шапкай баравікоў.— Што ж ты раней такія мясціны, такі куток у кішэні хаваў? Тыдзень, цэлы тыдзень марна страцілі...

— Ён грыбніцу парушыў,— азваўся за Мацвея дзед Дзям'ян.

— Э, грыбніца. Тут жытніца будзе. Пачынаем, Мацвей?

Мацвей паклаў грыбніцу на траву і адчуў палёгку, знік гнятлівы голас, прахалодай ахапіла твар.

— Пачынаем,— сказаў бадзёра.

## ЧАКАЙЦЕ, ВАМ АДКАЖУЦЬ

Мацвей ішоў па горадзе пешкі. Спяшацца яму не было куды. Ніхто не чакаў яго, ні там, на Палессі, ні тут. І тут, і там ён усім быў чужы. Але тут, у вялікім горадзе, у яго натоўпе, гэтая адчужанасць не была такой абвостранай. Ён не адчуваў яе ў поглядах людзей, што сустракаліся яму, хаця людзей вакол было і шмат, але ўсе яны былі ў сабе, у сваім звыкла гарадскім, у сваіх клопатах і справах, у сабе, сваім адвечна-звыклым былі дамы, не павявала дакорам і ад дрэў, што паважна стаялі ў каляровым святле вулічных ліхтароў, каштанаў і ліп, дагледжаных, чыстых, у якіх не захавалася ўжо, пэўна, і памяці аб лесе. Мацвей улоўліваў гэтую іх памяць-сум з цяжкасцю, нешта было ад яе толькі ў змроку, што прыпаў да лап дрэў, да цьмяных чыгунных616 кратаў, якія аберагалі карані дрэў. А ад вуліц, людзей, аўтамабіляў, што чаўнамі слізгацелі па чорным асфальце, ад вечаровай святочнасці і зыркасці гарадскога жыцця, адначасова адкрытага і патаемнага, сыходзіла нешта даўняе і добрае, добра знаёмае Мацвею. Але што ж менавіта — гэтага ён не мог вызначыць. Ён сам быў яшчэ ўвесь у сабе, у сваёй размове з Шахраем, у недалёкім, але неадступным мінулым, ад якога праг і не мог уцячы, не мог узяць разбегу, каб нырнуць у глыб сваёй памяці і таго

4*

шчымліва добрага, адкуль мо і пачынаўся гэты паўзмрочны зараз горад, што ён хаваў цяпер у сабе, чым ён не хацеў падзяліцца з ім, Роўдам.

І ён аддаўся гораду, здаўся яму, спадзеючыся на яго літасць і паблажлівасць на схоне дня. І Мацвей адчуў, што яму амаль што хораша. Горад быў вялікі, вуліцы бясконцыя, і часу наперадзе, здавалася, бясконца багата, час нібы спыніўся, дзесь парваўся ён і таксама ўжо не спяшаўся, вылучыўшы горад ад астатняга свету, такім чынам, горад як бы набыў аўтаномію і самастойнасць. Мацвей падумаў аб гэтым мімаходзь як аб нечым староннім, нібы гэта і не ён ішоў па горадзе. З той жа адрачонасцю ён яшчэ падумаў: калі толькі горад паспеў так вырасці! Ён жа ведаў яго амаль што вясковым, утульна-хатнім, дзесь на ўскраіне, у Паўночным ці Заходнім пасёлку, жылі, здаецца, яго родзічы, а здаецца, проста знаёмыя, ён, Мацвей, спыняўся ў іх, здзіўляўся іх амаль вясковаму жыццю, як яны летам пасля працы бралі кошыкі і вёдры і беглі ў лясок, што хмызамі падыходзіў да самых іх платоў, па грыбы ці па ягады, як яны па-вясковаму брынькалі вёдрамі каля калонак з вадой і якая ціша панавала там удзень. Усё гэта раптам знікла: хмызы, калонкі, кошыкі, вёдры, цішыня — як і не было нічога.

У адзін час успенілася, закіпела, завіравала ўсё і працягвала віраваць і кіпець ужо безупынна. І ён цяпер нібы апынуўся на самым грэбені гэтага вірлівага патоку. Людская плынь закалыхала яго, размякчыла, распесціла душу, ён як быў і не ў вялікім горадзе і наогул не ў горадзе, а плыў у спякотны дзень на чоўне па княжборскіх, разамлелых на сонцы старыцах. Ён унікнуў шуму машын, і цішыня была вакол, ледзьледзь пакалыхвалася неба, што ляжала ў чорнай вадзе, белымі і жоўтымі зоркамі ззялі на вадзе і ў небе даверлівыя гарлачыкі. Човен насоўваўся на іх, вуркочучы тапіў іх, але яны выныралі зноў ужо за кармою, свежыя, як з марозу. І плёскала яму ў спатнелы твар вадою Алена, чэрпала жменяю і срэбнымі, жывымі кроплямі акрапляла яму лоб і шчокі. І яму было смешна, ён і сам не ведаў — чаму, як не ведаў, куды і навошта плывуць яны, ублытваюцца чоўнам у лозы, рызыкуючы перакуліцца, выблытваюцца, але лаза ўсё роўна не адпускае іх, бяжыць за імі, чапляецца лісцем

і голлем за твар і плацце, нібы прагне спыніць іх. А яны не хацелі і не здольныя былі спыніцца. Човен дзеда Дзям'яна бег сам, і невядома, куды б яны прыплылі ў той дзень, калі б Алена раптам не перастала плёскацца, замерла на носе, замёр і ён, узняў вясло, але так і апусціў яго ў ваду. Алена плакала. Дрыжалі кроплі на павеках і ў яго, але то была вада, якой апрыскала яго Алена, а Алена плакала па-сапраўднаму. І было ціха па-летняму, вусцішна нават, здаецца, ніякай прычыны сумаваць, ліць слёзы Алене, а яна плакала, ліла слёзы. Ён хацеў суцешыць яе, паклаў на дно чоўна вясло, каб кінуцца да яе, але хтосьці як падказаў яму: не трэба перашкаджаць існці слязам, не трэба ніякіх слоў. І ён адчуў сябе дужым і лёгкім. Сонца перашкаджала яму бачыць Алену, бачыць яе ўсю, ад родных, блізка зведзеных і таму, здаецца, падобных да рысіных броў да бездапаможна падкурчаных пальчыкаў на нагах, якімі яна час ад часу паскрэбвала па дне чоўна. Сонца, бы знарок, легла між імі, засціла Мацвею, не паказвала яму таго, што ён не павінен быў бачыць у тую хвіліну, не павінен падглядаць за нейкай таямніцаю пераўтварэння, якое ён усё ж паспеў улавіць на твары Алены, адчуў і ў сабе. Ён, Мацвей, сеў з Аленай у човен, як садзіўся неаднойчы і да гэтага, як хлопчык з хлопчыкам. І плылі так — згодна і радасна-адзіна, не прыкмячаючы, што змяняюцца, што, калі б яны былі хлапчукамі, дзецьмі, яны б ужо даўно перакулілі човен і пакупаліся. А ён жа, Мацвей, раптам стаў берагчы Алену, не даваў чоўну перакуліцца. І ў тым, як Алена акрапляла яму твар вадой, было таксама нешта новае, ашчадна дзіцячае, але такое дзіцячае, з якім, здаецца, яны ўжо развіталіся, што даўно ўжо згубілася, развеялася пяском рачных берагоў, які яны сеялі ў дзяцінстве, сплыло рачной вадою, у якой яны плюхаліся некалі галяком. Але з гэтага згубленага, развеянага і сплытага склалася новая Алена, яе новы твар, новыя вусны, да якіх ён, Мацвей, прыпадаў ужо, але зусім не так, як хацелася яму прыпасці зараз. Ён тыцкаўся раней да яе вуснаў, як галодны шчанюк тыцкаецца да цыцак маці, не ўсведамляючы, што гэта ён робіць, адчуваючы толькі, што так трэба, так заведзена, наканавана, адчуваючы забароненасць — не пераступіць той рысы, якой яшчэ і не было, якая толькі-толькі яшчэ

акрэслівалася. Цяпер жа гэтая рыса набыла пэўнасць ужо, сонечным вусцішным поўднем пралегла між імі.

Човен прыстаў да берагу і захістаўся, уткнуўшыся носам у пясок. Мацвей, не вагаючыся, мо й не ўсведамляючы, што гэта ён робіць, устаў і ступіў з чоўна ў ваду. Добра, што тут было мелка, хоць глыбіня і не спыніла б яго тады, бездань нават не спыніла б, чортава вока, ён ступіў бы і ў гэтае вока і верыў бы: вада падыме яго, не пацягне ўніз, у тую хвіліну ён здолеў бы хадзіць і па вадзе. Човен падскочыў кармой і загойдаўся яшчэ мацней. Ён падышоў да Алены, падаў ёй руку. Яна ўзяла яго руку і ступіла не на бераг, а да яго ж, у ваду. Хвіліну-другую яны стаялі нерухома, глядзелі сабе пад ногі, як асядае ўзважаны, скаламучаны імі пясок, слухалі, як вада пяшчотнаю прахалодай абдымае іх ногі. Пясок яшчэ клубіўся пры самым дне, як невядома адкуль набеглі пячкурыкі, вёрткія і празрыстыя, што крыло стракозы, пачалі шчыпаць, казытаць іх за ногі. Вывернуўся паласаты, што дзічок-парсючок, акуньчык, намерыўся на пячкурыка каля ног Алены, але прамахнуўся, тыцнуўся Алене ў палец, лагодна варухнуў плаўнікамі: а я, маўляў, і не хацеў, мне нічога і не трэба было — адышоў. Але тут жа развярнуўся і зноў кінуўся за пячкурыкам і зноў прамазаў, зноў тыцнуўся ў палец Алене. І, здаецца, зазлаваў, раз-пораз без перадыху пачаў дзяўбці гэты яе палец.

— Ён цябе з'есць,— сказаў Мацвей.

Алена не адказала, прыціснулася да Мацвея, і яны выйшлі на бераг, да цёплай і мяккай травы пад дубам, што схіліўся над вадой. Пад тым дубам месца было занята буслом, але ён саступіў яго Алене з Мацвеем, пайшоў да лугу, моўчкі і нясмела, як саромеўся, што яго тут заспелі.

— Куды ж гэта ён, навошта гэта ён сыходзіць адсюль?— спытала Алена.

— Ён ведае, ён усё ведае,— адказаў Мацвей, паглядзеў на дуб і падумаў, што дуб таксама ўсё ведае і разумее. Але ўпэўненасці не адчуў, была ў ім нейкая нерашучасць, непаразуменне нейкае. Упэўненасць прыйшла крыху пазней, калі ён глядзеў ужо не на само дрэва, кручаны і верчаны ствол яго, а на яго голле, лістоту. Лісце было чырвона-крывавага адцення, але з аднаго толькі боку, дзе стаяў ён з Аленай. Мацвей

здзівіўся незвычайнаму колеру лісця, слізгануў вокам па траве. Прыкмеціў вогнішча. І ўспомніў.

Гэта быў іх дуб. Яны часта на лодцы ці чоўне плавалі да яго раней. Дарослыя ж бывалі тут рэдка. Не было тут дарослым ніякай справы. Дарога аббягала дуб, яна пралягала да сенажаці і Балоні нацяньці, а рэчка тут кружыла, як блытала сляды, нібы гулліва пацвельвала дуброву, уразалася ў дуброву, развальвала, пластавала яе надвае і давала ўцекача. І дубы гналіся за ёю, беглі высокім берагам і, здаецца, даганялі на кручах, ужо цягнулі да яе рукі, хапалі ўжо за цёмныя плечы абвіслымі, учэпістымі сваімі рукамі-каранямі, але рэчка пакідала іх з носам, пасмейваючыся, вылузвалася з іх абдымкаў, замест сябе з аднаго боку падсоўвала ім застойныя журботныя старыцы, а сама ўцякала непраходным гушчаром і балотам, праз якія дубы не маглі прашыцца. І быў сярод гэтага балота адзіны толькі грудок зямлі, нібы птушка ў дзюбе нанасіла сюды гэтай зямлі. І стаяў на ёй адзіны дуб, здзіўлены і разгублены: якім гэта ветрам, што за нячыстая сіла закінула яго сюды, сам ён мог трапіць на гэты грудок, толькі зусім ужо згубіўшы галаву.

Алена з Мацвеем былі на грудку пад дубам сёлета вясною, калі ішлі апошнія канікулы. Дуб атачыла вада, яны вылезлі з чоўна на лапік некранутай ёю зямлі, распалілі касцёр. Кастрышча, полымя шугала да галін, чаплялася за галіны, апякала іх і падала ўніз. Мацвею ўжо тады было крыху балюча за дуб, за яго галіны, на якіх ужо набраклі пупышкі. Ён баяўся, каб іх не спапяліла, баяўся, а сам падкідваў сушняк у касцёр, хацеў полымем дастаць неба. Адначасова з бояззю і шкадаваннем таго нябачнага вокам жыцця, што выспявала ў пупышцы, ён адчуваў і захапленне, што выспявала і ў ім, ён адчуваў, што і ў дрэве разам з болем жыве таксама і захапленне агнём, полымем. Яны былі адзіныя тады — ён, Мацвей, Алена, агонь, дуб і вада вакол. Адзіныя і безразважныя ў гэтым сваім адзінстве, у зліцці, як дзеці, бязгрэшныя і чыстыя, аднолькава пяшчотныя і жорсткія. І вось вынік той пяшчоты, чысціні і жорсткасці, плод яе: крывава-чырвоная лістота дуба. Агонь не спапяліў пупышак, але ўсё ж на ўсё лета прыпаліў іх, і ці на адно толькі лета пазначаны іх дуб. Полымем гарыць у сярэдзіне лета дуб, палае кастром, а мо гэта і не касцёр, не полымя

на ім. Мо ён, Мацвей, тады з Аленай растапілі жалеза, што было прыхавана пад дубам, абудзілі, растапілі ў гэтым дубе штось невядомае ім, і гэтае невядомае цяпер і гарыць агнём, крывёю сплывае, падае з лісця на зямлю, жарам працінае яго і Алену, таму яны цяпер і ў агні, у ліхаманцы.

— Бусел жа побач,— сказала Алена Мацвею, калі яны ўжо ляжалі ў траве.— Лелько глядзіць.

— Ён жа бусел. Ён Антон. Ён мужык.

— Лелько,— ціха паклікала бусла Алена і больш голасна: — Лелько, Лелько-о-о.

— Антон, Анто-о-он,— гэта ўжо крыкнуў і Мацвей.

І бусел падскочыў раз-другі, адарваўся ад травы, але не цалкам, нешта чырвонай кветкай ублыталася ў яго чырвоныя ногі, мо той самы водсвет чырвонага дубовага лісця ўпаў на яго ногі. І бусел белым узмахам крылаў, чырвонымі ручаінкамі ног адпіхнуўся ад зямлі, узляцеў, узвіўся ў неба, і закружыў над імі, чырвоным і белым мільганнем свайго цела закрыў іх тайну, іх непарыўнасць. Дрымотна хісталася і плыло неба над галавой, а бусел, раскінуўшы крылы, аддаўшы іх небу, не кратаючы больш імі, абапіраючыся там, на небе, аб нешта нябачнае з зямлі, што сыходзіла ад гэтай жа зямлі, вады, дуба і ад іх саміх, Алены і Мацвея, кружыў і кружыў над імі. Антон і Лелько...

Мацвей і не заўважыў, як дабрыў да вакзала, прывакзальнай плошчы. Ён мо не заўважыў бы і плошчы, і самога вакзала, але, калі пераходзіў вуліцу перад плошчай, ледзь не трапіў пад трамвай, нават пад два трамваі: адзін — з правага боку, другі — з левага. І ён пасярод. Дзве развясёлыя дзяўчыны — вадзіцелі трамваяў — высунуліся ў акенцы, нешта крычалі яму, замахалі рукамі, і, на здзіўленне яму, не злосна, а запрашальна. Але чырвоныя і жоўтыя страшыдлы-трамваі, што насоўваліся на яго, так званілі, так білі ў свае званы і так гулі, ахапіўшы яго з двух бакоў, што ён нічога не пачуў і не зразумеў. А на тварах дзяўчын былі радасць і смех. Званы сціхлі.

— Давай пад мой трамвай, вёска,— запрасіла яго дзяўчына справа.

— І зусім ён не вёска,— сказала вадзіцель злева.— І вельмі нават сімпатычны. І мая машына но-

вая, і я ні разу не пераліцованая. Давай, дзядзечка, пад маю машыну.

— Другім разам,— усміхнуўся і Мацвей.— Наступным разам я абавязкова пад вашу машыну.

— А пад якую?

— Пад крайнюю,— крыкнуў ён і, заўважыўшы міліцыянера, што крочыў ужо да яго з плошчы, заспяшаўся да тратуара, да натоўпу. Натоўп увабраў яго, абціснуў, схаваў ад міліцыянера і ні на хвілінку не адпускаў, не пакідаў аднаго. І ён пакорліва падпарадкаваўся гэтаму натоўпу, большасці і крочыў: куды ўсе — туды і ён. Людская плынь, карзіны, кашы, чамаданы, партфелі і сеткі захапілі яго і пацягнулі ў падземны пераход, а там, насустрач гэтым карзінам, кашам і сеткам, якія ўвабралі ў сябе амаль усе пахі горада, яго магазінаў і булачных, капчэнняў, цукерак, свежаспечанага хлеба, машыннага масла і аліфы, плылі ацынкаваныя вёдры, драўляныя пафарбаваныя скрынкі, ад якіх пахла рыбаю і вадой; бурліла, віравала другая плынь — ішлі лавінаю каржакаватыя, чырванатварыя дзядзюкі, у якіх здалёк згадвалася нешта машынна-вайсковае, ішлі ў наступ джунглі, бамбукавыя зараснікі вудзільнаў і спінінгаў. Вудзільны і спінінгі суха счэпліваліся паміж сабой, скрыгацелі, шчоўкалі, ляскалі. Вудзільшчыкі — рыбакі з Мінскага мора, ішлі і, нікому не саступаючы, таўклі, мясілі, трушчылі кашы, кошыкі, карзіны і сеткі і траха не павярнулі і не паперлі назад і Мацвея. Але ён не паддаўся гэтаму сляпому машыннаму напору рыбакоў з пенсіянераў-адстаўнікоў, вельмі ж няласкавымі былі іх вочы, амаль што грэблівасць і пагарда да ўсіх іншых, да нерыбакоў, была ў іх вачах. І хаця Мацвею не трэба было да платформы, ён пачаў змагацца з гэтымі джунглямі, з бамбукам і прабіўся скрозь яго. Тыя, што прабіліся разам з ім, кінуліся да вагонаў электрычкі, ён быў таксама памкнуў да разяўленай пашчы вагона, але спыніўся ў апошнюю хвіліну, калі ўжо ўхапіўся за поручань: куды яму ехаць. Яго тут жа адцерлі ад вагона. Двойчы, як бы шкадуючы, клацнулі дзверы, электрычка свіснула, колы яе пазбавіліся задумлівасці. І поезд пакаціўся. Мацвей застаўся на пероне, стаяў, разгублена азіраўся, як той самы пасажыр-недарэка, у якога з-пад носа збегла апошняя электрычка. Ён усё яшчэ нічога не вырашыў і не мог

наважыцца на якое-небудзь рашэнне. Жаданні і сумненне раздзіралі яго на часткі. Трэба было вяртацца ў Княжбор. Але Княжбора, той ціхай і глухой вёсачкі, у якую яго некалі вазілі марудныя, але такія па-хатняму ўтульныя рабочыя паяздкі, у якую ён так любіў ездзіць у дзяцінстве, больш не існавала. У тую глухую, любую сэрцу вёсачку ён пабег бы зараз не разважаючы, там бы яго чакалі, там бы яго прывецілі. А новаму Княжбору цяпер, во зараз, ён не патрэбны, там з ім ніхто і не паздароўкаецца, сустрэне хто — абміне, пяройдзе на другі бок вуліцы. І не было ў яго ўжо ніякага цярпення трываць усё гэта.

Алена... З ёю пайшоў бы ён і прайшоў бы, хто б ні трапіў яму насустрач, як ні пазіраў на яго. Але смешна, калі мінула столькі ўжо гадоў, зноў думаць аб Алене, марыць аб ёй. Мінулае вяртаецца і знаходзіць цябе тады, калі няма ўжо ні сёлетняга, ні будучага, калі падмыты ўжо і надломваюцца ўсе берагі часу, ірвуцца апошнія сувязі, меркне святло ў вачах. І ўсё ж ён праг мінулага, хацеў да Алены, хоць яна першая кінула ў яго той камень, ударыла першай і таму вельмі балюча: «Жадаю поспехаў у арашэнні раней асушаных зямель». Тэлеграма ў дзень яго нараджэння, якую ён атрымаў год назад — вось і ўсё, што ён наогул атрымаў і пачуў ад яе. «Жадаю поспехаў...»

Прыбыла электрычка, яго зноў падхапіў і панёс натоўп па той жа дарозе, па тым жа самым падземным пераходзе. Ён зноў падпарадкаваўся натоўпу, тым жа сеткам і кошыкам, толькі пахла ад іх вясковым пахам ужо і водарам: лесам, грыбамі, яблыкамі і свежым варэннем; познімі дачнымі кветкамі, лісцем чаромхі і клёна, што запалалі ўжо восеньскім агнём, дымам ад цяпельца, які ўблытаўся ў валасы і адзенне мужчын і жанчын. І ён дыхаў гэтымі пахамі, дымам кастроў, датыкаючыся тварам да жаночых валасоў, мо ён спадзяваўся знайсці сярод гэтых хапатлівых людзей Алену? Наўрад, хаця спадзяванне на цуд, чаканне цуду не адпускала яго.

Мацвея выпхнулі з падземнага пераходу і зноў пакінулі на нейкі час аднаго. У кожнага з людзей быў свой клопат, свае дарогі. І аўтобусы, тралейбусы, трамваі збіралі іх з вуліцы, з плошчы, убіралі ў сябе і імчалі туды, дзе быў іх клопат, дзе іх хтосьці чакаў. А ён стаяў на засмечаным перад ноччу ўжо, пазнача-

ным людской хапатлівасцю асфальце, сярод недакуркаў, адкідаў, абрыўкаў газет і паперы, сярод тых, каму яшчэ не настала чарга спяшацца, чый поезд яшчэ не прыйшоў. Але яны таксама былі ахопленыя ўжо ліхаманкаю нецярпення, яно згадвалася па іх тварах. Яны чакалі часу, які вядомы быў толькі ім, прыспешвалі вакзальныя нудныя і цягучыя хвіліны, каб, падхапіўшы чамаданы і партфелі, кінуцца-рынуцца ў белы свет — іх дарогу. Вакзал быў часткаю горада, часткаю той вуліцы, якою ён дапхаўся сюды, але гэта быў ужо і іншы свет. І неба было тут інакшае, вакзальнае, запаленае і дрыготкае, разнамоўнае: «Внимание, внимание... Увага... Увага. Achtung, Achtung...»

Усё гэта не тычылася яго, ён, Мацвей Роўда, не быў нават і пасажырам, хоць і прыйшоў на вакзал. А калі і быў, то пасажырам поезда, які яшчэ не сфарміравалі, поезда без раскладу, поезда аднаго пасажыра, Мацвея Роўды. І ніхто, уключаючы і яго, не мог дакладна адказаць, калі і куды пойдзе гэты поезд, ці не прыбыў ён ужо да сваёй канечнай станцыі, ці наогул ёсць у яго станцыя прызначэння, станцыя адпраўлення. Не, пэўна, няма горшай адзіноты, чымсьці адзінота сярод людзей, на вакзале, калі ты прыйшоў туды, каб выправіцца ў дарогу, і дарог мноства, але ніводнай тваёй. Твая разабрана, ён сам разабраў яе сваімі рукамі. Лічыў, што будуе, а на паверку атрымалася — разбурае, і, разбураючы, не спыняўся, гнаў свой поезд на ўсіх парах.

Ведаў ён ці не, куды ідзе, куды кіруецца, мо ногі самі прывялі яго. Мацвей узняў галаву і прачытаў ружовыя літаркі: «Рэстаран». І ён пайшоў бы ў рэстаран, мо і напіўся б, але тут прайшлі трое п'янаватых падлеткаў, занялі амаль палавіну тратуара, каля дзвярэй, побач з Мацвеем, стаяў міліцыянер.

— Дзеці ж п'яныя,— сказаў Мацвей.

Міліцыянер сцепануў плячыма:

— Мо п'яныя, а мо і не,— і паднёс да вачэй Мацвея гадзіннік.— Мой час выйшаў.

Падлеткі ўзнялі валтузню, таўханіну, Мацвей заспяшаўся да іх. Але ён спазніўся, крышачку, на імгненне нейкае. Аднаму з падлеткаў, што ішоў пасярэдзіне, зрабілі падножку, піхнулі ў грудзі. Ён пачаў марудна, а мо і не марудна, мо ўсё гэта толькі выглядала як на замаруджанай кінастужцы, завальвацца на

спіну. Мацвею не хапіла кроку, каб падтрымаць яго. Падлетак упаў галавою на запалены, барвова-сіні ад няроўнага святла ліхтароў асфальт. І Мацвей ні на сантыметр не здолеў больш наблізіцца да яго. Ён пачуў... Лепей гэтага не чуць ніколі, ніколі не чуць, як трашчаць на моцных зубах лясныя арэхі. Гэты гук дапаў не толькі да яго вушэй. Каля падлетка ўжо тоўпіліся людзі, яго падымалі.

Падлеткі стаялі, звесіўшы рукі, і твары іх былі падобныя на асфальт, барвова-сіняга адцення. Той, якому яны зрабілі падножку, на здзіўленне Мацвею, расправіўся, хітнуў галавой і тут жа зморшчыўся, зноў асеў. Мацвей заплюшчыў вочы — ён адчуў боль у патыліцы, нібы хтосьці там свярдзельцам вярцеў, поезд, паравозны гудок, роў у галаве яго. Роў, пэўна, даўно, але толькі цяпер прарваўся, дайшоў да яго гук. Ён адплюшчыў вочы. Падлетак ужо зноў быў на нагах, стаяў, здаецца, цвёрда, двое другіх ухапілі яго за рукі, падобна на тое, што хмель з іх выветрыла. Міліцыянер быў збоку, людзей паменела, яны больш не ўмешваліся, наглядалі.

— Я пайду, мы пойдзем,— сказаў той, што толькі што быў на зямлі.

«Ды як жа, як жа ён пойдзе,— падумаў Мацвей, мо ён вымавіў гэта і ўслых, таму што на яго азірнуліся.— Я ж сам чуў, я ж сам трушчыў некалі арэхі».

Але падлеткі абняліся і пайшлі, пачалі разыходзіцца і людзі, знік і міліцыянер, як не было яго. І толькі нейкая пляма цьмяна блішчала на тым самым месцы, дзе хвілінку да гэтага стаялі падлеткі. Мацвей наблізіўся да яе і з жахам і агідай схіліўся, тыцнуў у гэтую пляміну пальцам, панюхаў. Пахла віном. Падлеткі ўжо былі каля пераходу. Мацвей закружыў на месцы, пільна ўглядаючыся ў твары людзей, што ішлі міма яго, абцякалі яго. Ён шукаў у іх тварах... Ён і сам не ведае, чаго ён шукаў у іх тварах. Недаўмення, здзіўлення, спагады, страху. Але дарэмна, усё гэта было толькі ў ім, і, пэўна, таксама не на твары, а ў сэрцы хутчэй: страх і жах. Як жа ўсё проста. Як проста памерці і зрабіцца калекам. А ён не сумняваўся, што той, у якога толькі што галава шчоўкнула, як арэх, ужо калека. І праз гадзіну-другую ці, самае большае, праз дзесяць-дванаццаць гадзін, раніцой, аб гэтым дазнаюцца і яго бацькі. І ён бачыў іх бездапа-

можны жах, пакутаваў, што ўжо нічога нельга пераляніць, што ён нічым не зможа дапамагчы ім.

Яму карцела кінуцца куды-небудзь, куды-небудзь бегчы, толькі не бяздзейнічаць. Гэтае жаданне куды-небудзь кінуцца жыло ў ім імгненне, імгненне моцы і бездапаможнасці, і за гэтае імгненне ён перажыў амаль усё ад свайго прыезду разам з Шахраем у Княжбор і па сённяшні дзень.

А падлеткі ўсё яшчэ стаялі перад пераходам, чакалі, калі праедуць таксі і машыны і можна будзе рухацца далей і ім. Таксі праехалі, вуліца была пустая, на хвіліну-другую яе захапілі пешаходы. А падлеткі нешта марудзілі, яны толькі трошкі збочылі ўправа, да жалезных поручняў агароджы, прыхілілі да гэтых поручняў абвіслае і, здаецца, пры зменлівым святле ліхтароў нежывое цела свайго таварыша, як куль з бульбай прыхілілі, і ён стаяў, як куль, звесіўшы ўніз саламяную чупрыну. І людзі праходзілі каля яго, у звыклым, зададзеным горадам рытме, крочылі жанчыны і мужчыны, дзеці і бацькі, пустапарожнія, безаблічныя, яны не ведалі і не хацелі ведаць, што здарылася з гэтымі хлапчукамі. Мацвей кінуўся да іх, не разумеючы, навошта гэта ён робіць, ці здатны ён дапамагчы ім, ці прымуць яшчэ яны яго дапамогу. Падбег, пільна і прагна ўгледзеўся ў іх твары.

— Я дапамагу вам, хлопцы, я зараз вазьму таксі.— Яго ўтрымалі, схапілі за рукавы ў чатыры рукі. Трэці, той самы, што, як куль, прыхілены стаяў каля агароджы, павярнуўся да яго і, тыцнуўшы ў яго пальцам, спытаў:

— Калян, ён што, смурны, бухі? — Мацвей бачыў, што гаварыць яму цяжка, бачыў, як выспявае ў яго светлых вачах і трывога, і прадчуванне бяды. Але гэта толькі ў вачах, ледзь-ледзь прыкметнае яшчэ, абуджанае фізічным болем, асэнсаванне таго, што адбылося.

— Смурны ці крануты па фазе,— адказаў пэўна Калян, адпускаючы руку Мацвея.— Не мільгаці, дзядзя, адскоч на паўаглоблі ўбок,— і яшчэ дзве рукі адпалі ад яго рукава.

— Што вы, хлопцы! Навошта ж так? Я ж ад усяго сэрца. Мне шкада вас. Як жа вы гэтак, хлопчыкі? — Мацвею падалося, што ён крычыць, і ён хацеў крыкам крычаць, крыкам прабіцца да іх душы, але не хапала

голасу, ён гаварыў амаль што шэптам: — Вам жа жыць яшчэ, вы ж ладныя, добрыя, добрыя...

— Вось і чашы, пакуль мы добрыя, пакуль трамваі ходзяць, чашы, хіляй міма.

— Вы не разумееце, хлопцы...

— Мы ўсё разумеем. І табе мазгі ўправіць можам. Зробімся нядобрымі, зробім добраму дзядзечку балюча.

Мацвей пакрыўдзіўся і адчуў, што стаміўся. Але гэтыя стомленасць і крыўда дапамаглі яму паглядзець на ўсё тое, чым ён займаўся да гэтага, пры іншым святле, пры ліхаманкавым святле вакзальнага неба, запаленага хваравітага асфальту. Дзеля хлеба надзённага, дзеля шчасця і нават жыцця ўсіх гэтых вакзальных і не толькі вакзальных людзей, дзеля хлеба, шчасця і жыцця гэтых трох падлеткаў ён жыў усе апошнія гады. Ён быў заведзены на гэтыя тры словы: хлеб — шчасце — жыццё. І бурыў, ламаў у сабе і вакол сябе ўсё, што перашкаджала ці, здавалася яму, перашкаджае здзейсніць тое, вышэйшае, на што ён быў заведзены і скіраваны. А толькі ці хлеб патрэбен падлеткам і ўсім іншым людзям, што прайшлі каля яго, хлеб у іх ёсць, і ў дастатку. І яны ж, п'яна выкрочваючы па асфальце, былі шчаслівымі, хмяльнымі, і не толькі ад віна, але і ад паўнаты жыцця, напружанасці яго і насычанасці, няхай і падманлівай, яны ж не адчуваюць гэтага падману, яны ж і не прыкмецілі нават і наўрад ці прыкмецяць, што яны згубілі, падмянілі, тое, што яны лічаць сапраўдным, натуральным,— гэта толькі хмель і дрожджы, і нічога болей, што самі яны толькі брага... І ён, Мацвей Роўда, толькі брага, цеста, што ўзышло на чужых дрожджах і чужым хмелю. І ад гэтага чужога хмелю шчасце, падаецца, побач, толькі руку працягнуць, а жыццё і смерць наогул нічога не вартыя; больш танныя, чымсьці лясны арэх. Значыць, акрамя хлеба, шчасця і няшчасця і нават жыцця, ёсць нешта іншае, што ён праглядзеў, што прамінуў, не прыкмеціў у сваім вясковым жыцці, як, захоплены натоўпам тут, на вакзале вялікага горада, не разглядзеў, не прыкмеціў у гэтым натоўпе аніводнага твару. І падлеткі не паверылі яму, не пажадалі нават спагады прыняць ад яго. Нібыта ў гэтай спагадзе было нешта агіднае, брыдкае, што замахвалася на іх самастойнасць і волю. Яны

жылі ў сваім, ад'яднаным ад іншых свеце і нікога не хацелі пускаць у свой свет. І калі толькі з'явіўся гэты свет ад'яднанасці, раскладзенасці, раз'емнасці на такія часткі, якіх ужо не скласці, з якіх ужо наўрад ці атрымаецца што цэлае, таму што яны толькі процістаяць адно другому, і, аднойчы падрабніўшыся, такімі ўжо і застануцца, несумяшчальнымі. Несумяшчальнымі... Ці можа быць так? Ці можа быць так, што нічога, акрамя адзіноты, няма ў яго наперадзе?

Мацвей спытаў сябе аб гэтым, задумаўся і адчуў, што нарэшце і ён наблізіўся да нейкага рашэння, яшчэ не прыняў яго, але ўжо стаіць на парозе, на парозе «так» і «не так». І, захоплены зноў, цяпер ужо гэтымі «так» і «не так», не паддаючыся больш ні сустрэчным, ні спадарожным плыням пасажыраў, ён памкнуўся ў вакзал, да білетных кас. Да кас, хаця і не было пэўнасці, што менавіта яны патрэбныя яму, нават наадварот, недзе адчуваючы, што і атрымаўшы з жывых рук той білет, кардонку, на якой выразна пазначаны вагон, месца, час адпраўлення поезда, ён зробіць па-свойму, мо й выкіне яго. Але гэтая кардонка была вельмі неабходная яму на тую хвіліну, гэта было ўжо нешта акрэсленае, вызначанае, амаль выратавальны круг, за які можна ўчапіцца і які можна адпіхнуць.

Ён прабіўся да касы. Ён узяў білет. Але забыўся спытаць, калі ж адыходзіць яго поезд. Аб гэтым можна было даведацца і па білеце, які ён трымаў у спатнелай руцэ, акрамя таго, насупраць на сцяне вісеў расклад. Але ён не зірнуў ні на білет, ні на расклад. Яму патрэбен быў голас, звернуты да яго, жывы, жаночы, які б словамі адказаў яму, назваў бы яму час, і хай бы ў голасе тым была якая-небудзь загана, шапялявінка. Ён кінуўся да вакзальнае даведкі, палез без чаргі, народу стаяла процьма, і нейкія бабкі-бабулькі амаль што на кулачках паперлі яго прэч ад акенца. Але й пасля гэтага ён не пайшоў у хвост чаргі, ён ніколі не мог стаяць у чарзе, а сёння тым болей. Побач з «жывой» даведкай ён убачыў яшчэ адну, і вольную, без чаргі. У сцяне быў замацаваны чорны мікрафон ці прыёмнік, а над ім чатыры словы: націсніце кнопку і чакайце адказу. Усё было да роспачы проста, прасцей нават, чымсьці галавой аб асфальт,— толькі націснуць кнопку. І ён падышоў і націснуў.

І здрыгануўся. З чорнай пашчы, з чэрава чорнага на яго абрынулася ні жаночае, ні мужчынскае, утробнае, цьмянае: «Чакайце, вам адкажуць». І так бясконца, невыразна, цьмяна: «Чакайце, вам адкажуць...»

## ПАЧАТАК

### 1

Васька Барздыка, па мянушцы Брытан, яго сабака Дружок, Надзька Махахей і Ненене шукалі гусей, каб сярод лета гнаць іх дамоў, заганяць у хлеў. І птушкам, і людзям такое было дзіўна. У Княжборы раней такое і ў галаву нікому б не цюкнула. Раней княжборцы выпускалі вясной сваіх гусак і качак, як толькі сыходзіў снег, раставаў лёд, перлі дубцамі ад хлева, заганялі ў ваду і думаць аб іх забываліся да замаразкаў, да той пары, калі не абуджаліся ў птушцы сум і жаданне пайсці за клінам сваіх сабратоў, адарвацца ад княжборскай зямлі і ляцець-ляцець у прывабныя цёплыя краіны, у сваю зямлю запаветную, абяцаную. Вось тады толькі згадвалі аб сваёй жыўнасці гаспадыні. Але ў гэтым годзе ўсё перайначылася. Барздычыха замкнула пад замок у хлеў сваіх качак і гусей, як толькі з'явіліся ў сяле меліяратары. Махахеіха і Ненене хапіліся куды пазней. Хапілася спачатку адна Ненене, пабегала берагам рэчкі, пагаласіла.

— Гулі-гулі, вуці-вуці, га-га,— і колькі ні крычала, ні галасіла, не пачула ў адказ ні га-га, ні кра-кра-кра. Прыбегла да Махахеіхі.

— Баба Ганна, гусак не чутно.

— Куды яны дзенуцца, тваё гускі.

— Умялі ўмеліяратары. Гані ў розыск Надзьку, мо яшчэ дзе і ходзяць. А я зараз,— і пабегла да хаты.

Якраз, калі Махахеіха выпраўляла ў пошук Надзьку, раскатурхала, падняла яе з Бабскага пляжа, дзе тая купалася і загарала, з'явіўся на гэтым самым пляжы і Васька Брытан. Прыйшоў спецыяльна, каб упэўніцца, ці на месцы Надзька, ці няма каля яе малодшага лейтэнанта, з якім ён не далей як учора вечарам пасля танцаў на пяску ля княжборскага пахіленага клуба добра пагаварыў. Сустрэў каля першых вясковых масцікаў, калі той па новай гравійцы, што праклалі меліяратары, піхаў свой драндулет. Васькаў быў

клопат, каб малодшы лейтэнант дабіраўся да сваёй часці менавіта так: і пры тэхніцы, але ў якасці папіхача. Пакуль малодшы лейтэнант выкідваў каленцы з Надзькай, ён падбухторыў хлопцаў, і тыя неўпрыкметку падкраліся да матацыкла і, прыкрываючы адзін другога, адкруцілі крышку бензабака і з задавальненнем і смакам падлілі туды свайго «бензінчыку».

— Не заводзіцца? — паспачуваў малодшаму лейтэнанту Брытан.

— Ды чорт яго ведае, адладжаны, перабраў, прадуў усё, не заводзіцца... Да горада колькі адсюль?

— Трыццаць кіламетраў,— сказаў Васька і супакоіў: — Нічога, да пад'ёму якраз паспееш. І прыйдзеш — дарогу сюды забудзь.

— Гэта чаму? — здзівіўся малодшы лейтэнант, ужо, пэўна, разумеючы чаму; выгадваючы час, дастаў цыгарэты, закурыў. Ваську закурыць не прапанаваў. Ён узяў у яго цыгарэты сам, адну ў зубы, а пачак — у кішэню.

— Гэта на памяць аб табе, начны маёр.

Малодшы лейтэнант ударыў яго першы, рэзнуў добра, спрактыкавана, пад дых. Васька пераламаўся амаль надвае, выпусціў цыгарэту сабе пад ногі. Дабаўляць, падкідваць болей малодшы лейтэнант не спяшаўся, мо далікатны занадта быў, мо палічыў, што гэтаму вясковаму хлопцу даволі ўжо. Але Брытан на тое і Брытан, за жылістасць і далі яму гэтую мянушку ў Княжборы, быў ён падцягнуты, паджары, што ганчак, і люты ў бойцы. Ён распраміўся, адчуваючы, як усё ные і рвецца ў грудзях, у жываце, як там пераблыталася і сплялося ўсё: сэрца, лёгкія і боль. Матлянуў кудлатай рыжай макацоўбінай і аддзячыў малодшага лейтэнанта, аддаў яму, што атрымаў ад яго, нават з дабаўкай, ▪ прымочкай па скуле.

— Ах ты гад, дык ты і па мордзе яшчэ! — закрычаў малодшы лейтэнант, і яны сашчапіліся і заскакалі па гравійцы.

— Ты толькі, друг-паскуда, морду не чапай,— хрыпеў малодшы лейтэнант,— морду, дружочак, не калупай...

— Морду наступным разам,— паабяцаў Васька, калі яны, ужо стомленыя, пераводзілі дых.

— Добра, заўтра, значыць,— пагражаў і пагаджаўся малодшы лейтэнант.

Праверыць, ці няма каля Надзькі гэтага ўхажора, і заадно зірнуць, ці няма там каля яе і Мацвея Роўды, і прыбег сёння на Бабскі пляж Васька Барздыка, наскочыў на Махахеіху, якая яго і залыгала. Каб на які другі час, тая ж самая баба Ганна так турнула б таго Ваську, толькі б пух і пер'е з яго паляцелі: тэрыторыя гэтая была забаронена мужчынам, гэты пол дапускаўся сюды толькі таго ўзросту, калі ён не саромеўся хадзіць і купацца ў чым маці нарадзіла. Але сёння Махахеіха не зважыла на парушэнне, кінулася да Ваські, як да сына роднага:

— А Васечка, а даражэнькі, памажы Надзьцы гусак дамоў прыгнаць, не ўправіцца ёй адной.

Надзька ў купальнічку, сорам і брыдота, толькі адна бачнасць адзення, ляжала на пяску, як змяя, згарнуўшыся ў клубок, і клубы, шары ўсе вонку выперлі, і амаль што голыя. І хоць бы што ёй, нос толькі і адзеты, закрыты лісцікам ракітавым, і ў зубах вузкі лісцік ракіты. Яна жавала гэты лісцік і здзекліва пасміхалася, гледзячы на Ваську, ведала ўсё пра сябе, і ўсё пра яго, і пра маці сваю ўсё ведала: не церпіць яна Ваські, рыжага Брытана, а во зараз, як да дзіцяці роднага, прыпала.

— Ой, да чаго ж ты вылежваешся,— прыкмеціла Махахеіха чорцікаў і кпіны ў вачах дачкі.— Дубцом як пацягну па сцёгнах тваіх гладкіх. Толькі адны гулі наўме.

Надзька, не спяшаючыся, паднялася, пацягнулася. Васька не вытрываў і адвярнуўся.

— Так ісці ці адзецца, як ты, Васька, скажаш, так і будзе.

— Я табе дам так,— ускінулася маці.— Во дзеткі пайшлі, лепш трох хлопцаў гадаваць, чым адну дзеўку. Адзявайся.

Надзька спакойна накінула на сябе кароценькі сарафанчык, Васька зірнуў на яе і не зразумеў, ці то яна апранулася, ці то зусім усё скінула з сябе.

— Пайшлі,— загадала яму Надзька.— За гускамі пайшлі, Васька. За мной, га-га-га,— і засмяялася.

Васька пацягнуўся ўжо за ёй, але тут ачомалася, улезла Махахеіха.

— Стойце, пачакайце, Ненене з вамі па гусак пойдзе.

— Хай даганяе,— страціў увесь свой імпэт Васька.

— Не-не-не,— цвёрда настойвала на сваім Махахеіха, ласкава выпявала: — Як жа так, Васька, і ёй жа трэба дапамагчы, хто ж ёй, адзінокай, паможа.

— А вось яна і я,— да іх бегла, сыпала дробненька па беразе худымі ножкамі Ненене. Васька зірнуў на яе і ледзь стрымаўся, каб не вылаяцца. А Надзька ўжо здзекавалася з яго не хаваючыся. І была яна вельмі прыгожая, толькі што з вады, з рэчкі, толькі што ад сонца, вадой і сонцам прыгалубленая, абласканая, залацістая, здаецца, бы і не княжборская, у гарадскім сваім лёгкім сарафанчыку і сама лёгкая, разбітная, разбойніцкая нейкая. Махахеіха, маці, і тая ўсумнілася:

— Не нашай ты пароды, Надзька, ні ў татку, ні ў матку.

— А я ў бабулю,— сказала Надзька.— Бабуля наша малойчык, а што ты, што бацька — што гуркі пераквашаныя.

— Ой, глядзі ў мяне, дзеўка, ой, глядзі,— невядома аб чым папярэдзіла Махахеіха дачку. Але Ненене, мусіць, зразумела яе, паабяцала:

— Я буду глядзець, Ганна, не сумлявайся.

Тут ужо і Васька ўцяміў. «Утапіць бы цябе, старая вядзьмарка ты,— падумаў ён аб Ненене,— каб не блыталася пад нагамі. І яна вядзьмарка,— гэта ён ужо пра Надзьку,— правільна сказала — у бабулю, бабуля яе ўжо чыстай вады вядзьмарка. І яна такая ж».

— Ну што ты, Брытан, рыжмоцце рыжае,— зласліва раптам прамовіла Надзька, як падслухала, аб чым ён толькі што думаў.— Што, рыжмоцце, хадзіць развучыўся. Бягом за мной!

— Ой, Надзька, не пацвельвай хлопца, дабром гэта не канчаецца. Мужыкі, яны такія, не цяпер, дык потым яны табе ўсё прыгадаюць, нічога не даруюць.

— Праўда, Васька? — яны ўжо ішлі берагам, і вёў іх Дружок. Надзька спынілася, павярнулася да яго, утаропілася ў яго зменлівымі на сонцы вачыма, у якіх то хвалявалася вада, мора, то хісталася сонца, а то яшчэ і сам чорт не разбярэ, што там адбывалася. Вочы яе глядзелі на яго і не глядзелі, прыцягвалі, абяцалі і гналі прэч. Дзень і ноч ужываліся і ладзілі паміж сабой там.

— Гэта праўда, Васька? Брытан, адказвай! — зашчыкала, заскубла яна яго, як трус, перабіраючы ўсё

тым жа, а мо і новым ужо, схопленым на хаду ракітавым лісцікам. Васька адразу і не зразумеў, чаго гэта яна так настырна дамагаецца, перапытаў нават:

— Што праўда?

— Ах ты, Брытан, рыжмоцце,— ускіпела Надзька.— Не пайду я ніякіх гусей з табою шукаць. Ідзі вунь з Ненене...

Васька са здзіўленнем зазірнуў у яе зменлівыя, зараз непадступныя, калючыя вочы, разгубіўся і ўзрадаваўся: не хлусяць, калі гавораць, што не маюць сёння дзеўкі сораму, дзеўкі горай хлопцаў пайшлі. Гэта ж якой яна ад яго праўды дамагаецца. Ды Ненене ж побач, ды маці ж яе недалёка. Ну, Надзька, ну, Надзька, і што за чорт у ёй, і ці ўдасца аб'ездзіць яму такога чорта, ці па зубах яна яму. Але сказаў ён зусім іншае, тое, што канала, прагла пачуць ад яго Надзька, нават больш:

— Праўда, даўно, увесь час.

— А што даўно, што ўвесь час? — аніяк не магла суняцца Надзька.

— Ды ўсё,— адказаў ён ёй, адказаў невыразна, бо спынілася Ненене, зацікавілася, аб чым гэта яны так горача, прыслухаўся да іх гаворкі і Дружок, усхапіўся скакаць, наровячы лізнуць у твар. І бегла рэчка, выгіналася, як грудзьмі, высокім і крутым, белым ад сонца і пяску берагам, і вусцішна бялеў за выгібам ракі бярозавы гаёк, пакорлівы поўдню, сонцу, рацэ, такі светлы, што вочы, здаецца, пранізвалі яго ўвесь наскрозь і бачылі тое, што знаходзілася і далей за гэтым гайком. А далей там былі дубы, рэдка раскіданыя за гайком, магутныя, разложыстыя, таму, пэўна, у такім спакоі і ў такой пакоры стаяў гэты бярозавы гаёк.

— Дык ты і біць мяне будзеш? — Надзька адвяла вочы ад гайка і зірнула на яго, насунулася на яго так рэзка, што ў грудзях як нешта аж усхліпнула, як парвалася, і Надзька, амаль не дыхаючы, затоена трапечучы ад нечага няпэўнага, незразумелага і ёй самой, пацягнулася да яго, да яго вачэй, устала на дыбачкі.

— Будзеш ушчуваць, біць мяне? — яна, здаецца, прасіла, каб яе білі, усё яшчэ трапечучы і амаль не зварухнуўшыся, толькі скінула басаножкі і адсунула іх нагою ўбок, закапала ў пясок, яна здолела пры гэтым неяк паказаць яму ўсю сябе, і гэтае ўсё, уся яна ад нерухомай напаўвыгнутай спіны да смуглявых

пальчыкаў ног, што ўпіліся ў пясок, засяродзілася яму ў вуснах яе. Усё там было на тую хвіліну ў яе вуснах: і дрымотная ноч, і светлы поўдзень, і боль, і нявыра-шанасць яшчэ. І зморшчынка адна нават там была, скакала то ўверх, то ўніз.

— Во зараз і пачну,— сказаў Васька, усведамляючы, што гэта не проста словы, што вельмі нават лёгка ён можа саскочыць ■ рэек, бо надта ж блізка яе вусны, можна і пацалаваць, і ўдарыць. Не так усё ўяўляў ён сабе. Хацеў ён гэтага, але каб не так, каб без здзекаў і каб нікога і блізка не было, нават сабакі, Дружка. А сабака, Дружок, і той засаромеўся, як злодзей, зыркнуў у адзін, другі бок і скочыў у кусты ад іх, і Ненене гвалт як крычыць:

— Гулі-гулі, га-га-га.

— Есть хотите? Да-да-да,— падхапіла яе крык, адвярнулася ад Ваські Надзька.

Але ёй азваўся толькі Дружок, вылецеў з кустоў на чыстае і нечакана прысеў на ўсе чатыры лапы, носам нават датыкнуўся да травы, зямлі і заскуголіў, забрахаў, як завыў ад нечаканага болю — з-пад калодзіны, што ляжала перад ім, пачулася такое ж, толькі больш тонкае і жаласлівае, завыванне. І ледзь не ў лоб сабаку стрэліў з-пад калодзіны заяц, пераскочыў яго і, плачучы, што дзіця, галопам панёсся прэч, ускідваючы азадак, памахваючы вартым жалю куцым агрызкам шэрага хвосціка. За гэтым хвосцікам, ачомаўшыся, паляцеў і Дружок. І абодва імгненна зніклі, адны галасы іх чутны былі, аднолькава жаласныя і тонкія цяпер.

— Ты толькі да галавы не прымай сабе нічога,— хапатліва нагаворвала Ваську Надзька.— Гэта я так, выпрабоўвала цябе.— Надзька была зараз будзённай, простай і зразумелай Ваську. І такая падабалася яму яшчэ больш, бо менш трывожыла яго, адсоўвала тое непазбежнае, пра што трэба было думаць, калі яна пацвельвала яго, кпіла з яго. Звычайная, яна здавалася і больш зразумелай, і больш даступнай яму, была проста княжборскай дзеўкай, а як абыходзіцца з княжборскімі дзеўкамі, ён ужо ведаў, нічога, што сыходзіў пры гэтым не са свайго вопыту, нічога, што гэты вопыт агульны, княжборскі, такія дэталі не ўплывалі на галоўнае. А галоўнае было ў тым, што калі ён, княжборскі хлопец, паклаў вока на яе, княжборскую

дзеўку, нікуды яна ад яго ўжо не дзенецца. Паводзіць за нос, колькі трэба для прыліку, памучыць — гэта ж таксама неабходна, так ужо заведзена ў іх, і будзе яго. Вось толькі думаць аб гэтым і загадваць наперад яму не хацелася. Хацеў ён яшчэ пагуляць, папрыдурвацца, колькі магчыма, але так, каб і Надзькі не выпусціць з рук. Надзька патрэбна была яму цяпер, зараз і далей, і далей, пэўна, яшчэ больш. Але гэтае далей здавалася яму такім непраглядна далёкім і ў такім тумане, што ён не імкнуўся і думаць пра тое, хаця даўно лічыў сябе дарослым, настолькі дарослым, каб пляваць на іншых дарослых, якія выдавалі сябе больш мудрымі за яго. Гэтыя іншыя дарослыя жылі, па яго, Васькавым, разуменні, даволі бесталкова, нявечылі сябе працай, сушылі клопатам: усё ім было нечага мала, усё яны былі некаму павінны, абавязаны. Васька ж лічыў, калі ён асабіста каму што і павінен, то толькі маці, і не так ужо багата: паўтара літра малака. Гэта былі не яго словы і не яго думкі, ён чуў іх дзесьці, чуў і падтрымліваў, бо, як зноў жа лічыў, чалавек у яго гады абавязаны мець сваё меркаванне і нейкую сваю жыццёвую праграму. А тое-сёе ён у свае гады пабачыў ужо, пацёрся там-сям і цяпер нават лічыўся дзесьці студэнтам нейкага лесатэхнікума. А тут, во зараз у Княжборы, лічылася, што ён часова робіць у калгасе. На самай жа справе быў ён ні студэнтам, ні калгаснікам, а, па яго ж словах, бічом княжборскім. Так ён гаварываў пра сябе, калі быў у гуморы. Мог ён быць, зусім жа свяціла яму зрабіцца і княжборскім заняволеным. Але аб гэтым Васька Бараздыка, па мянушцы Брытан, лічыў за лепшае маўчаць. Справа была за ім для Княжбора гучная і смеху вартая. Разам са сваім таварышам, некалі жыхаром вёскі Княжбор, а цяпер гараджанінам і шафёрам «хуткай дапамогі» Генадзем Шчурам, Васька Барздыка ўкраў свінню ў Лявона Цупрыка. Укралі сярод белага дня, дзеля смеху, пабіліся аб заклад. Сядзелі на беразе рэчкі, сціплы працаўнік Генадзь Шчур і просты гуляка Васька Барздыка, пацягвалі чарнільца. Былі сярод іх іншыя бічы вёскі Княжбор, трэба адзначыць, што такіх у Княжборы хапала, кожны другі з тых, хто скончыў васьмігодку і не пажадаў вучыцца далей, не вельмі ўлягаў за той работай, таму што лічыў сябе яшчэ маленькім, кожны, хто скончыў дзесяцігодку і не трапіў у інсты-

тут. А з Княжбора, па сакрэту, тым летам у інстытут не трапіў ніхто — і цяпер чакалі выратавальнай позвы на службу ў армію. Такім чынам лайдацтва іх мела «смягчающие обстоятельства», апраўданне, і больш таго, бацькамі і праўленнем калгаса яно было ўзаконена. Праўленне калгаса, які меў нешта каля трохсот гектараў ворнай зямлі, не здольнае было заняць і бацькоў, да таго ж бацькі былі ўпэўнены, што яны ўжо, каб было ў іх дзяцей сапраўднае шчаслівае дзяцінства, у калгасе адрабілі, адламалі сваё. І няхай цяпер адпачнуць і пагуляюць іх дзеці, пакуль не запраглі іх у калёсы на ўсё жыццё. Вось і гулялі яны на беразе рэчкі, недалёка ад Бабскага пляжа, рэзаліся ў карты, запівалі дурня чарнільцамі. Дзеля аб'ектыўнасці і каб не падвойваць віну за крадзёж свінні, трэба сказаць, што ў тую хвіліну на беразе рэчкі абавязкі кожнага былі акрэслены вельмі канкрэтна: чарнільца пацягвалі толькі былыя дзесяцікласнікі, паўналетнія, на чале з Генадзем Шчурам і Васькам Бараздыкам, а былыя васьмікласнікі рэзаліся ў карты. Пасля чарнільца Васька раптам пачаў даказваць, што ніхто ў Княжборы, а мо і не толькі ў Княжборы, а і ў вобласці, не скочыць далей, чым ён. Яму, вядома, не паверылі. Тады ён сказаў, што, калі яму не вераць, ён дакажа вось зараз, возьме і пераскочыць рэчку, толькі разбяжыцца добра. Пайшлі аб заклад, разбілі рукі. Васька разбегся, скочыў у рэчку, нырнуў у ваду і сядзеў пад вадой больш як хвіліну, толькі розуму там не здабыў.

— Рэчку не пераскочыў, дык кабана ў Лявона Цупрыка магу ўкрасці.

І закружылася, і панесла. Кабан у Цупрыка быў славуты на ўсе навакольныя вёскі, у дзесяцігоддзе адзін выдаецца такі кабан, ён не падымаў ужо самога сябе, пудоў каля пятнаццаці, а то і дваццаці было ў ім, ён і голасу не падаваў нават ужо, тлушч глотку заліў. Карміў яго Лявон Цупрык толькі адным хлебам, і не абы-якім, а пекляваным, і чакаў халадоў, калі можна будзе закалоць яго. Вось гэтага кабана і намерыўся ўкрасці Васька Барздыка, і ў каго — у самога Лявона Цупрыка, таго самага Лявона, у якога ніхто нічога і ніколі не здолеў украсці ні ў гародзе, ні ў садзе, ні ў магазіне. Ваську, канечне, не паверылі, і таму ён украў. Вымушаны быў украсці. Генадзь Шчур пад'-

ехаў на «хуткай дапамозе» да самае хаты Лявона Цупрыка. Васька выцягнуў з машыны санітарныя насілкі, узяў прасціну. Шчур спрабаваў пярэчыць: навошта, маўляў, насілкі і прасціна.

— Убачыш,— адказаў Васька,— пойдзеш са мною і ўбачыш.

— Не, я з табою не пайду,— прапанова Ваські яшчэ больш не спадабалася Шчуру.— Ты падмеўся красці, сам крадзі і сам нясі.

— Дык як жа я панясу яго,— абурыўся Васька,— калі ў ім чыстай вагі пятнаццаць, а то і дваццаць пудоў.

— Ты падмеўся, ты і нясі,— гугнявіў сваё Шчур.

— Ён жа жывы,— сказаў Васька і гэтым, здаецца, усё ж працяў Шчура, той пачаў думаць. Васька націснуў яшчэ на яго: — Ты паглядзі на хлопцаў, Генаха, хто з іх самы дужы? Ты, Гена, самы дужы. Адзін ты і панясеш.

— Не, адзін я не здолею, хоць і самы дужы.

— Не хвалюйся, Гена, разумнік ты, Гена, удвух панясём.

Далей усё было проста. Кабан не супраціўляўся, дазволіў ускаціць сябе на насілкі. Яны старанна захуталі яго прасцінoй, без якіх бы то ні было перашкод пацягнулі да машыны. Каля машыны толькі здарылася замінка, але ж невялікая. Прабягала міма Ненене, не стрымалася, каб не зірнуць, што гэта за бальнічная машына каля Цупрыкавай хаты стаіць. На яе і наскочылі Васька са Шчурам.

— Хто ета, няўжо Лявон? — пляснула рукамі Ненене.

— Лявон,— сур'ёзна, каб адмесці ўсе іншыя пытанні, адсек Васька.

— Лявоне, ды што ета з табою? — Ненене ўсё ж паспрабавала зазірнуць пад прасціну. Кабан цяжка і сіпла рохкнуў. Ненене спуджана адскочыла: — І голас страціў ужо, ой, Лявоне, Лявоне, да дабра ж гарэлачка не даводзіць. Ой, Лявоне... мукі ж яшчэ вясною мне мех абяцаў.

— Ідзі, бабуля, дамоў,— сказаў Васька.— Не будзе мукі. Такія, брат, справы.

Ненене ашчаперыла галаву рукамі і пабегла. А яны на машыне пад'ехалі ўжо да лаўкі, узялі ў Цупрыка яшчэ чарніліца — і на сваё былое месца.

Але пакуль яны ехалі, куплялі віно, Ненене па ўсёй вёсцы ўжо разнесла: Цупрык богу душу аддае, з белае гарачкі пры смерці. Дакацілася гэта да вушэй Цупрычыхі. Кінула-рынула яна ўсё ў полі, прыбегла ў магазін — мужык жывы, здаровы, хоць п'яненькі трошкі, але ж прыстойна, прыстойна. Цупрычыха, не зважаючы на гэтую яго прыстойнасць, кінулася да яго з кулакамі: віно жарэш, а кажуць, канаеш. Лявон жа Цупрык у адказ ёй: а ты смерці маёй хочаш... Сашчапіліся яны на смех людзям. Але пра гэта Васька Барздыка з Генадзем Шчурам даведаліся пазней ужо, калі ім не да смеху было. Кабан на жары, ды пад прасцінай яшчэ, захлынуўся, задушкаваўся. Прыехала міліцыя на чале з самім начальнікам раённага аддзела. Заламвалі рукі, падалі ў ногі яму Барздычыха са Шчурыхай.

— З табою ўсё мне ясна,— сказаў начальнік міліцыі Генадзю Шчуру, адразу ж забраў у яго правы.— Ну, а ты хто будзеш, дзе робіш? — спытаў у Ваські. Васька маўчаў, за яго адказала Цупрычыха:

— Лынды б'е, цюрма па ім даўно плача... Дваццаць пудоў сала..

— Ён у мяне на розных работах,— нечакана і невядома чаму заступіўся за яго тады Мацвей Роўда. Цупрычыха разявіла рот, хапіла паветра, але змоўчала, толькі апасліва лыпнула вачыма на Мацвея. І начальнік міліцыі з недаверам зірнуў на Роўду, але таксама змоўчаў, адвярнуўся, загадаў Шчуру:

— Вязі кабана гаспадыні.

— Ды нашто ён мне, ён ужо ваняе,— прарвалася ўрэшце слова і ў Цупрычыхі.

І тады начальнік міліцыі ўхапіў Ваську за каўнер сарочкі, падвёў да насілак з кабаном.

— Да світання каб рохкаў,— сказаў значна і цяжка.— А зараз пішы мне падпіску аб нявыездзе.

Падпіску Васька напісаў і цяпер успамінаў аб ёй з сумам: не будзь гэтай паперчыны, не было б яго ў Княжборы. Надзька — гэта, канечне, добра, але дома ўжо заелі, загрызлі бацька з маткай. За таго кабана Цупрыку ўжо грошай плочана-пераплочана, а Цупрычыха ўсё ніяк не адліпне, а бацька ўжо нават на цыгарэты яму ні кап'я не дае. Сорамна прызнавацца, але ён ужо вечарам, калі цёмна, збірае на беразе бутэлькі. Добра, учора выручыў яго малодшы лейтэнант, за-

бяспечыў курывам. А ўсё падпіска вінавата, калі б не трымала яна яго, толькі б і бачылі яго ў Княжборы, а бацька, каб не бачыць яго, і грошай бы яшчэ на дарогу даў. Грошы, праўда, здабыць можна і інакш яшчэ. Недзе тут, на беразе рэчкі, ляжаць яны, як у банку, як у сейфе, у борці яго грошыкі ляжаць. А борць тая, калодзіна-сейф, на высокім дубе, ведаць бы толькі — якім, у якой борці чакае яго спадчына, золата дзеда Саўкі. Вунь іх колькі тут дубоў і борцяў, процьма, дзе і чыя, хто і калі ставіў гэтыя калодзіны, і забыліся ўжо. Дубы маўчаць, не выдаюць гаспадароў, ніхто з княжборцаў, акрамя Аркадзя Барздыкі, яго бацькі, сваё ў яго наўме, не карыстаецца лясным мёдам. Ці то лянота напала, ці то на самай справе цяжка здабываць гэты лясны мёд, цягнуць гэтую гаспадарку, што заведзена яшчэ дзядамі і прадзедамі, прыглядваць за сем'ямі ўжо здзічэлых пчол, калі хатніх, свойскіх звялі. Але ж пчала, пра якую забыўся чалавек, пакінуў яе, працягвае рабіць. Дзеля каго, навошта? Яна ж нікому ўжо нічога не павінна і не абавязана. Ніякіх на ёй падаткаў, ні падаходнага, ні бяздзетнасці, а робіць, шчыруе нават без перакураў, без выхадных, адгулаў і прагулаў, ад цямна і да цямна. Гэта Васька ўжо спазнаў, вывучыў: сонейка ўстала, паляцела і яна, нібы сама гэтая яе праца мёдам памазана. Па кропельцы, па капельцы запаўняе соты. І дзесь пад гэтымі сотамі прапахлае ўжо мёдам, памазанае мёдам ляжыць золата дзеда Саўкі, ягонае, Ваські Барздыкі, золата. Дзед Саўка, паміраючы, не перадаў яго свайму сыну Аркадзю Барздыку, бацьку Ваські. Зазлаваў, дурань стары — сын яго дзяліцца ўздумаў,— схаваў золата ў борці: во, ні мне, ні табе цяпер, дзяліся. Так гаварылі княжборскія дзяды і бабулькі. Мо гэта і няпраўда, нагавор усё, адкуль тое золата ў Княжборы. Але ж магло быць і праўдай, свет жа вялікі. Васька хацеў верыць у золата дзеда Саўкі і верыў. І не толькі ён адзін, бацька, Васька прыкмячаў гэта, таксама шукаў тое золата. Адзіны толькі ён з усяго сяла караскаўся штогод на тыя дубы, браў мёд, і кожны год, кожны раз з новае борці. Значыцца, шукаў, спадзяваўся ўсё ж. Спадзяецца і Васька. І з гэтым золатам яму трэба прыспешваць, бо яго, таго і глядзі, могуць апярэдзіць меліяратары. Мацвей Роўда са сваёй хеўрай.

Аб Мацвею і меліяратарах Васька падумаў таму, што яны прыйшлі ўжо ў Свілёва і як трапілі ў іншы свет. Нічога ўжо не было там вясковага, княжборскага. Горад нейкі рос, уздымаўся на тым месцы, дзе ўчора толькі было балота і сенажаць. Хаця нічога пэўнага гарадскога тут яшчэ, здаецца, і не было. Зруйнаванасць толькі гарадская, будаўнічая, калі ёсць ужо будаўнічая пустка, а тое, што павінна вырасці на гэтай пустцы, толькі ў накідах, у штрых-пункціры індустрыяльнасці, у бязладдзі і развале, якія заўсёды папярэднічаюць будучаму парадку і арганізаванасці.

— А бацюхна ты мой,— стала як укопаная Ненене, уталопіўшыся ў экскаватары і бульдозеры, што варочалі торф і пясок, драпежылі, руйнавалі балота, рэчку.— Вавілон другі.

— А першы дзе? Ты першы хоць бачыла? — буркнуў Васька, цікуючы, ці няма шака тут Мацвея, і молячы невядома каго, каб яго не было тут. Але Мацвей стаяў каля трактара з вялізным прычапным плугам. Ненене яшчэ жахнулася з гэтага плуга:

— Дзе ж гэта толькі і навошта такога дурня скляпалі? Няўжо каб зямельку дзерці? Чорту бульбу садзіць...

Там жа каля трактара з плугам стаяў і дзед Дзям'ян, выгаворваў нешта Мацвею, яны, здаецца, спрачаліся, крычалі нешта адзін аднаму і не вельмі слухалі адзін аднаго. Потым Мацвей замоўк, адмахнуўся ад дзеда Дзям'яна, бы праганяў яго, скочыў на гусеніцу, схіліўся да трактарыста, мусіць, загадваў яму рухацца, таму што трактар крануўся, развальваючы на два бакі чорную з белым зямлю, пайшоў плуг.

— А божа ж ты мой, мой сенакосік,— пабегла насустрач трактару і Мацвею, які крочыў побач з ім, Ненене.— Мой сенакосік, Мацвейко, што ж гэта ты робіш?

Мацвей паспрабаваў адмахнуцца ад яе, як толькі што ад дзеда Дзям'яна, але яна заступіла яму дарогу.

— У другім месцы выдзеляць табе, цётка...— Мацвей спатыкнуўся, адвёў вочы ад плуга, зірнуў на Ненене, пэўна, згадваючы, як яе завуць, але так і не згадаў, падказаў дзед Дзям'ян:

— Тэкля яна, заві Тэкляй.

Але Мацвей Ненене Тэкляй не назваў, суха-афі-

цыйна, як бы адхіляючы гэтыя пытанні з сенакосам, ухіляючыся і ад самой Ненене, як яе і не было:

— Вам выдзеляць сенакос у іншым месцы,— і пакрочыў быў далей, але Ненене не саступіла яму, стаяла слупам на яго шляху. Ён паморшчыўся: — Ну што вам яшчэ трэба? — І нават пасля гэтых слоў Мацвей усё яшчэ быў далёкі ад тых, у акружэнні каго ён зараз знаходзіўся, ад Ненене, Ваські, дзеда Дзям'яна, Надзькі. Ён пільна ўглядаўся ў плуг, што развальваў зямлю, якая ведала да гэтага часу толькі касу, і таму непадатную, умацаваную, як жыламі, бледнымі жывымі і адмёрлымі ўжо, але ў вільгаці зямлі падобнымі да дратвы каранямі раслін і кустоў. І на распаленым твары яго згадвалася напружанне, з якім рабіў матор трактара, і на падбародку яго і пераноссі запасіўся пот ад гэтай шматважкай машыннай працы, падымаліся і ападалі бровы і губы. Здавалася, ён кожную хвіліну гатовы сам запрэгчыся ў плуг і цягнуць яго па балоце сваёй чалавека-сілай. Але плуг, уцякаючы ўсё далей, далей ад яго, і без яго дапамогі ўсё глыбей уваходзіў у зямлю, як намацаў там, у глыбі, нетрываласць, незмацаванасць, угрызся, уеўся ў гэтую незмацаванасць, у белы безабаронны пясок, і пяском з сярэдзіны лёгка ўжо бурыў і рваў непадатную наверсе лугавіну. Васька адчуў гэта раней, чым Мацвей, хоць і не так пільна назіраў за гэтым незвычайным плугам. Адчуў і пачуў боль і крык зямлі, але гэта не вельмі кранула яго. Уціхаміўся і трактар, матор яго рабіў ужо роўна і спакойна, набыўшы ў працы ўпэўненасць і ў выніках яе. Не торгаўся больш тварам і Мацвей, ён нарэшце заўважыў каля сябе пабочных, толькі не Ненене, што ўсё яшчэ не давала яму прайсці, а яго, Ваську Барздыку.

— Што, на працу прыйшоў уладкоўвацца? Малайчына, хвалю. Куды б ты хацеў?

— Я хацеў бы...— Не зірнуў бы ён тады на Надзьку, мо б усё і вырашылася, мо б Свілёва і вызначыла яго лёс. Але яму як хто выспятка даў, ён азірнуўся і паглядзеў на Надзьку, што стаяла за ім, яе вочы ўбачыў, як яны слухалі, лавілі кожнае слова, вымаўленае Мацвеем, яе палаючы і пад загарам такі дарагі яму твар, у якім было нешта і ад кошкі, рысі. Гэтае рысінае было ва ўсіх дзевак Махахея, хаця яны і не вельмі былі падобнымі адна на адну, толькі гэтая рыса выдавала іх пароду, тое, што яны сёстры. І яшчэ,

яны не вельмі валодалі сабой і сваімі пачуццямі, не здольныя былі ўтаіць таго, што з імі зараз, вось на гэтую хвіліну, адбывалася. Ці злавалі яны, ці прыкрасць іх разбірала, радаваліся ці захапляліся яны, што лясныя звяркі, усёй сваёй істотай аддаваліся гэтаму і заўсёды былі гатовы ці то крочыць у агонь, ці то кінуцца ў яр уніз галавой, заўсёды былі падпарадкаваны ці то любові, ці то нянавісці. Зараз Надзька любіла, і не проста любіла — палала. Улегліся, набылі мяккасць і ільснянасць рысіныя Надзькіны бровы, іх можна было зараз толькі гладзіць і лашчыць, і яна б, пэўна, мурлыкала, яна і так мурлыча, вачыма, такое святло і такая пяшчота ліецца з іх. Васька захлынуўся, падавіўся словам і прысвіснуў: дарэмна б'е ногі малодшы лейтэнант, і ён, Васька Барздыка, па-вулічнаму Брытан, з-за нічога б'ецца з гэтым малодшым лейтэнантам.

— Дык дзе б ты хацеў рабіць? — нецярпліва перапытаў яго Роўда.

Васька зірнуў на яго мімаходзь, міма яго, як толькі што сам Мацвей глядзеў, і нікога не бачыў, дзёрзка, завучана, сам не чуючы таго, што гаворыць.

— Держи карман шире, лучше быть стройным тунеядцем,— адказаў так і не рызыкнуў паглядзець на Мацвея, ненавідзячы яго і баючыся ўбачыць на яго ным твары нешта такое, што ўбачыла Надзька, што так прывабіла яе ў Мацвею. Пачаў глядзець на Махахееву дуброву, на далёкія дубы з запаветнымі борцямі. І сэрца не ныла і не радавалася гэтым борцям і таму золату, што недзе знаходзілася ў іх. Ён убачыў іншае, і ад гэтага іншага сэрцу зрабілася па-сапраўднаму ўжо балюча. Сохлі дубы, сохлі лістом. На самай макаўцы лета ліст дуба ў самым нізе прыхапіла жаўцізною, як прыхоплівае жаўцізною і гурковае націнне, што адрадзіла ўжо сваё, усё, што было ў ім, аддало гурку. І ад далёкіх дубоў на Ваську дыхнула восенню, той восенню, што яшчэ без пахаў, без турбот, якая не выклікала яшчэ задумення і трывогі, абірае сабе менавіта гурок, гурковую граду, і ўсім сваім цяжарам навальваецца толькі на адну гэтую граду, а вакол яе яшчэ паўсюдна буяе лета.

— Што гэта ты, Махахееву дуброву таксама пад плуг? Бацьку майму не далі яе звесці, дык цяпер ты

з'явіўся.— Васька нават зарагатаў, калі гаварыў гэта; ён быў абыякавы і да Махахеевай дубровы.

— Дубняк не кранём,— сказаў Мацвей.

— А тут, Мацвейко, што тут, на маім сенакосіку, будзе? — нясмела падала голас аціхлая і журботная Ненене.

— Горад будзе, новы Княжбор пабудуем тут, цётка Тэкля,— усё ж Мацвей, пэўна, пачуў, што гаварыў яму дзед Дзям'ян, а мо і сам прыгадаў, як завуць Ненене.

— Цю на цябе, Мацвейко,— здзівілася Ненене,— дык стары ж ёсць. Ці табе тыя хаты не хаты, зірні толькі, як хораша стаяць.— І яна паказала на бачныя адсюль, хоць і спавітыя зелянінаю садоў, стрэхі Княжбора.

— Ну, не новы Княжбор, дык вадасховішча тут будзе, цётка Тэкля.

— Цю на цябе,— зноў цюкнула Ненене,— Тэкля... я ўжо і сама стала забывацца на сваё імя. Што табе, вады ў нас не хапае? А ці ж гэта во не вада — рэчка?

— Вялікая вада, цётка, будзе, адсюль і вокам не ахапіць. Катэр купім белы...

— І тапачкі, пантофлі купім белыя,— перадражніў Мацвея Васька.

Але той, як і не чуў, працягваў:

— Гусі-лебедзі плаваць будуць белыя.

— Ой, зусім з галавы выскачыла. Я ж па гусей пайшла. А ты, часам, Мацвейко, не бачыў маіх гусак,— і яна падазрона зірнула на Мацвея: — Каб было болей, так і не шкада. А то пяць іх, усяго пяць, так і ходзяць упяцёх. Пайшлі, дзеўка, пайшлі, хлопец.— Гэта яна ўжо Надзьцы з Васькам.

— Пайшла і ты, баба, па ўчарашні дзень,— сказаў ім дзед Дзям'ян.

Але пайсці адразу яны не паспелі. Нешта раптам змянілася. І зноў гэтую змену, нейкую тужлівую ноту, што павісла ў паветры, першым адчуў Васька, мо ён адчуў нежаданне Надзькі куды б там ні было ісці, мо ён пачуў заціснуты ў ёй крык, ці то так трывожна закрычала над зруйнаваным балотам кнігаўка, але быў нейкі невыразны голас, і цень нейкі прамільгнуў перад вачыма. І дзед Дзям'ян таксама нешта пачуў ці адчуў, бо ён паспеў яшчэ са шкадаваннем вымавіць:

— Балотнага бугая не чуваць стала, другі дзень не азавецца.

І толькі ён гэта прамовіў, як адразу ж стала ціха, як у вуху, і ў тое ж імгненне цішыня гэтая надламалася, выбухнула чалавечым крыкам. Адначасова з гэтым крыкам ці мо трошкі і раней заглух трактар, што ўжо добра адбегся ад іх, і закрычаў трактарыст, сціхлі экскаватары, толькі рыпеў трос на адным з іх, папіскваў ад цяжару ўзнятага разам з грунтам каўша. Трактарыст, працягваючы ўсё яшчэ крычаць, па-птушынаму раскінуўшы рукі, вываліўся з кабіны, а трактар клюнуў носам, і здалёку відно было, як расселася, разышлася пад ім лугавіна і ён на вачах пачаў знікаць, спачатку ціха, а потым хутчэй і хутчэй, бы хто ўцягваў яго. І яны пабеглі да трактара.

— Што здарылася? Ды ўстань жа ты нарэшце! — закрычаў Мацвей на трактарыста, што ляжаў сярод травы тварам у неба, як дзіця. Той нават не варухнуўся, глядзеў у неба, пасміхаўся па-дзіцячы даверліва і радасна, і гэтая ўсмешка яго, мусіць, ужо канчаткова дапякла Мацвею.

— Устаць! Каму гавораць!

— Не трасі паветра, начальнік. А не то я табе камандзіроўку выпішу туды ж, у пекла, дзе трактар. Там і разбярэшся на месцы.— І нечакана азвярэла ўскочыў на ногі: — Што здарылася, што здарылася...

— Крычы, крычы, табе трэба выкрычацца,— падаспеў дзед Дзям'ян, паклаў на плячо трактарысту руку, той схапіў гэтую ягоную руку, прыціснуў да твару, заплакаў, пацалаваў чорную, хоць і кожны дзень мытую. І дзед Дзям'ян заплакаў, але не так, як трактарыст, у два ручаі, выціснуў з сябе толькі дзве мутныя слязінкі, і яны, гэтыя дзве слязінкі, што растоплены свінец, павіслі каля вачэй, бачыць іх Ваську было дзіўна, ён ведаў, што дзед Дзям'ян здольны лаяцца, а каб плакаць... Зараз жа ён плакаў і прыгаворваў:

— Прабач, прабач мне, дзіцятка...

— Ты што, дзед, чаго гэта ты? — суцяшаў яго Мацвей, пэўна, і ён упершыню бачыў, як плача дзед Дзям'ян.

— Не кажы, унучак, не кажы, грэх на мне, ведаў я, што Чортава прорва якога-небудзь коніка ды выкіне. Ахвяру ёй трэба, ахвяру. Тут ужо твой бацька і

маці, тут яны, чуеш,— і ён тупнуў нагой, бы выклікаючы з зямлі бацьку і маці Мацвея.— У гэтай Чортавай прорве.

— І Галоска-галасніца там, і Жалезны Чалавек, карова Махахея і дзед Махахей,— зажурылася Ненене.— І балотны бугай там. Ён наравісты.

— Там бацька і маці яго,— адвёў словы Ненене дзед Дзям'ян.— Зямля наша наравістая. Прыбірае тых, хто руку на яе падымае, вось таму я цябе і не пусціў у кабіну.

— Дык я ж не на яе, я за яе, за зямлю,— Мацвей глядзеў, як сярод рудой вады з тванню, на тым месцы, дзе толькі што знаходзілася кабіна трактара, уздымаюцца і лопаюцца бурбалкі, на невялічкую варонку, як ад выбуху маленькае бомбачкі, крыху наводдаль ад гэтай варонкі пабліскваў толькі на сонцы нарог ад плуга. Каля іх сабраліся ўжо ўсе рабочыя, што знаходзіліся на гэты час у Свілёве. І адзін з рабочых з запалам расказваў:

— Я яшчэ ўчора ведаў: штосьці здарыцца. Наскочыў на гадаў. І столькі іх было, нагу некуды ўбіць. Клубком, клубком пазвіваліся, і кожны клубок, што няспраўны самагонны апарат, сычыць, шыпіць. Валасы ў мяне дыбам, шапку згубіў. Гады...

— Зямля,— працягваў сваё дзед Дзям'ян.— Нам толькі здаецца, што мы ведаем яе, каб ведалі — убаяліся б. Ад дзядоў нашых Жалезны Чалавек, і Галоска, і бугай балотны тут, а што застанецца ад нас, што мы пакінем дзецям... Тут бабу сваю часам не ведаеш, якога коніка выкіне яна табе. А гэта ж не баба — зямля. І на ёй вось яшчэ,— і дзед Дзям'ян паказаў на буслоў, што спакойна паходжвалі па балоце каля пакінутых людзьмі машын, ласаваліся, збіралі апошніх жаб, што засталіся на гэтым балоце, заглядзеўся на іх і сам ўздыхнуў: — Зямля...

І Васька адчуў, як зямля ўздыхнула пад нагамі ў яго разам з дзедам, захісталася, нібы спрабуючы стрэсці яго з сябе, у Ваські перахапіла дых, нечым стала дыхаць, як зямля забрала ўсё паветра на ўздых сабе. Забрала, уцягнула і аддала назад, патыхнула ў твар прэллю, балотам і яшчэ нечым, здаецца, серай, гарэлым торфам. З варонкі, у якой знік трактар, забілі, пачалі ўздувацца і тут жа лопацца вясёлкавыя рудыя пухіры. Потым гэтыя пухіры пачалі адрывацца ад

варонкі, а з варонкі струменьчыкам ударыла рудая тарфяная вада, і пакаціў, засланіў усё — і гукі вады, што падала, і пухіроў, што ўздымаліся і лопаліся, і сонца, і людскі спалох — страшэнны рык, таго і глядзі, не вытрываюць вушы.

Роў балотны бугай, рыкаў над Княжборам апошні раз.

— Пячэ, пячэ яму,— сказаў дзед Дзям'ян,— дапяклі.— Слоў яго не было чутно, Васька прачытаў іх па вуснах дзеда Дзям'яна, сочачы за яго чорнымі запечанымі вуснамі, ён яшчэ падумаў, што дапяклі не толькі балотнаму бугаю, а і дзеду Дзям'яну, на нейкае імгненне падалося, што гэта і раве дзед Дзям'ян, былы царскі гвардзеец, а потым коннік Першай Коннай, пад Сівашом ці Перакопам, каля такога ж гнілога балота адзначаны белагвардзейскай шашкай, былы першы старшыня першага калгаса на гэтых жа балотах, былы партызан, які партызаніў таксама на гэтых жа балотах, каля Свілёва, Воўціна, Храпчына. Ні трактара, ні трактарыста, ні Мацвея не шкадаваў ён, толькі дзеда Дзям'яна, Васька і сам не ведае чаму. Мо таму, што вельмі ўжо горасна, жаласліва слухаў дзед Дзям'ян, як раве балотны бугай, а роў ён даволі мярзотна, як бы нехта па жэсці дзёр скрабніцаю. І здавалася, што голас гэтага бугая нараджаецца там, у глыбі нячыстых падземных вод, у вадкай тоўшчы торфу, у пустотах і перападах глыбінных падземных рэк і азёр, а вырываецца на волю не праз гэты бомбавы грамафон, а праз дзеда Дзям'яна. Роў голасам смяртэльна параненага балотнага княжборскага бугая, роў над скопішчам людзей і машын у непрадугледжаны час апошняй бяседы і палявання княжборскіх буслоў ці мо проста абжыралаўкі, таму што жаб і гадаў у Свілёве заўсёды было процьма. Цяпер жа асушэнне выперла іх з нор і схованак і гнала туды, дзе, яны адчувалі, ёсць вільгаць, у дзюбу, у ненаеднае чэрава. І рык балотнага бугая не палохаў іх, а калі і палохаў, то ад перасыці яны ўсё роўна не здольны былі адарвацца ад зямлі, таму што яны адразу так добра вельмі паснедалі, адабедалі і павячэралі, так добра, што імгненна як жыццё пражылі, састарэлі, нічога ўжо іх не палохала і не здзіўляла. І неба іх больш не прываблівала. Куды, навошта ім гэтае неба, калі яны ад перасыці і па зямлі ледзьве цягаюцца.

5 Зак. 2507

А гусак ні Махахеевых, ні Ненене яны ў той дзень не знайшлі. Праўда, кіламетры за два ад Свілёва, бліжэй к Храпчыну, яны ўбачылі чародку іх, штук дзесяць-дваццаць, сытых і, як восенню, задуменных, яны пагойдваліся на вадзе ў неглыбокай і гразкай затоцы. Але як толькі выскачыў ужо натрэніраваны на іх Дружок, нерухома застыў на беразе, чакаючы гаспадара, гусі адышлі да другога берагу, пужаныя ўжо былі, ведалі і чалавека, і сабаку.

— Агіля-гіль-гіль,— пачала гнаць уверх па рэчцы і падманьваць да сябе Ненене. Але гусі пайшлі ўніз, прысталі да лазы, што расла на процілеглым беразе.

— Не возьмем так, распранайся, Васька,— сказала Ненене.

І Васька распрануўся, адчуваючы нейкае дзіўнае, невядомае яму раней спачуванне да гусей і зайздрасць да іх вольнага жыцця... Але хутка спачуванне знікла, ён стаў злаваць, і не толькі на гусей, але і на Ненене, на Махахеіху, якая так спрытна пад'ехала да яго, аблытала, ■ ён вушы развесіў, пабег гусак шукаць. І хто гэта толькі такі паклёп на гусей узвёў, што яны адны з самых бесталковых, хто бесталач, дык гэта ён, толк выйшаў, а бесталач засталася, гусі былі вельмі талковыя. Яны добра ведалі, што ім трэба трымацца вады, мітусіліся, валілі адзін аднаго на беразе, нібы скараліся, а самі, як ракі, адступалі да вады. І на вадзе, у рэчцы, здабывалі толк і спрыт, паспявалі не толькі выслізнуць з-пад носа, але схапіць яшчэ нейку маляўку, падражніць усіх чацвярых, уключаючы і Дружка, гучным і радасным: га-га-га, у нас во рыбка, а вам дулю з макам і будзьце на тым здаровымі. Елі сваю рыбу, плавалі, ныралі, забаўляліся, весяліліся, а людзі бесталкова бегалі па беразе, пакуль не раз'юшыўся Дружок і гусак не дзеўбануў яго ў лоб, так дзеўбануў, што той заскуголіў і пачаў хапаць гусей за лапы, хвасты. І гэта прывяло гусей да памяці, яны ўспомнілі аб сваёй свойскасці і хатнасці, аб тым, што чалавек павінен бараніць іх, пацягнуліся берагам да вёскі. Яны прыгналі тых гусей амаль у Свілёва, калі Ненене раптам сказала:

— Надзька, а гэта ўсё вашы гускі?

— Ты што, бабуля, якія яны нашы, гэта ж твае.

— Не-не-не,— адмовілася бабуля.— У мяне пяць толькі. Гэта вашы гусі.

— Нашы зялёным чарнілам пазначаны.

— А ў маіх крылы не абрэзаны, а гусак валяваты. Вунь падобна на тое, што мой гусак, а астатнія не-не-не.

— Дык чые ж гэта гусі мы гонім? — абурыўся Васька.— Не хапала мне яшчэ гусей! За кабана яшчэ бацька не разлічыўся.

— Твая праўда, Васька, чые ж гэта гусі? — задумалася Ненене.— Ці не дадуць нам у рэбры за гэтых гусей? Вунь той, з чырвоным крылом, Шчура, добра ведаю, чырвоная краска толькі ў іх была. Валяваты, здаецца, мой... Гулі-гулі, гулі,— загулькала Ненене, і гусак павярнуў галаву на яе голас і вымавіў у адказ ёй нешта не вельмі добрае.— Мой,—узрадавалася Ненене.— А тая гуска ваша, Надзька, бачыш, сіняе крыло, вада адмыла сіньку... Ды тутачкі ж з усяго сяла гускі. Вунь Цупрычыхі, гэта яе як падстрэленыя, як пабрытыя, толькі яна так коратка крылы падразае і пух дзярэ з жывога.

— Не паганю я далей гэтых гусей,— сказаў Васька, унурыўшыся.— Хай яны ўсе перадохнуць. Хай іх усіх меліяратары ў суп і Цупрычыхі — першага.

— Не-не-не, Васька,— уплялася бабуля за Ваську.— Гэта ж усяго сяла гусі, гэта ж усё, што засталося ад нашых чарод...

— Тады Цупрычыхі аддзяляй,— сказаў Васька цвёрда. І стаяў бы на сваім цвёрда, але тут да іх прыйшоў Мацвей Роўда, як чорт балотны, увесь у твані, у торфе і машынным масле.

— Выцягнулі? — кінулася да яго Надзька.

— Цягнуць. А вы чаго тут, як гусі, вэрхал паднялі?

— Гэта Васькавы гусі,— адмежавалася ад іх Надзька.— А табе ўмыцца трэба.

— Яму не адмыцца,— не так, як каля трактара, а ціха і горка сказала Ненене,— папярок горла станудь яму мае гускі.

Мацвей, пэўна, нічога не зразумеў ці не паспеў зразумець.

— Гані, Вася, гані гусей. І ты, Ненене, ганіце,— загадала ім Надзька.

— Гусі Рым выратавалі,— паспрабаваў паказаць эрудыцыю Васька, але гэта не дапамагло яму.

5*

— А ты ратуй гусей, Брытан,— і Надзька амаль за рукаў пацягнула Мацвея да рэчкі.

А яны пагналі гусей, Васька патурыў іх так, што беглі як не галопам. Яго настрой, пэўна, перадаўся і Дружку. Той улягаў за імі што было сілы, збіваў у чараду, згуртоўваў і тут жа раскідваў гэтую чараду. Васька насцёбваў дубцом тых, што адставалі, што спатыкаліся, біў па крылах, баках, што ў барабан, пакуль яго не пачала сарамаціць Ненене:

— Ці ж гусі вінаватыя, Васілёк, ты лепш ужо мяне, чымсьці птушку, што за правіна на ёй, безабароннай.

І яму зрабілася няёмка ад гэтых яе простых і проста вымаўленых слоў. Ненене, здаецца, і гаварыла не яму, разважала сама з сабой, вырашала нешта сама сабе ці, хутчэй, правярала нешта даўно ўжо вырашанае. І, праверыўшы, засумнявалася. І зараз размотвала, разблытвала гэтыя сумненні і спадзяванкі, як бабы разблытваюць пражу, сучыла, цягнула сураваю нітку жыцця, выцягвала на белы свет сабе на пагляд тое, што было на другім канцы гэтай ніткі. А там, як на грэх, мусіць, нічога і не было. Адзіны толькі кончык у руцэ, а другі ўжо даўно на верацяне. Верацяно яшчэ кружыцца, каб падхапіць на сябе і гэты другі кончык, і будзе кружыцца далей, толькі трэба часцей пляваць на пальцы, змазку даваць мазалям, трэшчынам, парэпінам, каб не перашкаджалі яны кружэнню, каб не спынялася гэтае кола-верацяно, каб і не прыкметна было яго кружэнне, інакш можа закружыцца галава, пойдзе колам, кругам, як тое ж верацяно. І пайшла, пэўна, ужо кругам галава ў Ненене, давялося ёй, мусіць, у свой час папасвіць чужых гусей, таму і азіраецца так вакол цяпер, бы баіцца чаго, як бы трапіла незнарок без перасадкі з сённяшняга дня, з старасці, у сваё дзяцінства. Як і ў дзяцінстве, стаяць вакол тыя ж самыя дубы, тая ж рэчка пакуль што яшчэ бяжыць, тое ж неба над галавою, як і раней, заходзіць на ім сонца, а хаты ўжо і не тыя, і яна, Ненене, ужо старая, а гусі ўсё яшчэ чужыя, і таму такі безабаронны яе твар, як голая яна зараз перад гэтымі гусямі. Безабароннасць, распранутасць адчуў і Васька, па мянушцы Брытан, і сорам, але не перад гэтай старой, не перад Ненене, хоць яна і была сведкай таго, як віла з яго вяроўкі Надзька, сорам не перад гусямі, з якіх так

здзекаваўся ўжо сам ён толькі што, а перад чымсьці ці кімсьці мо і неіснуючым, а калі і існуючым, то безъязыкім, невідушчым, нябачным, падобным на балотнага Бугая, Жалезнага Чалавека ці Галоску. Усе ведаюць, што яны ёсць, і ў той жа час як і няма іх, бо ніхто іх не бачыў і нікому нічога благога не зрабілі яны; сорам перад тым, як заходзіць сонца, бо ён гэтае сонца і заход яго мо ўпершыню сёння і ўбачыў. Бачыў, канечне, і раней, але ж бывае і так, скрозь і паўсюдна: глядзіш ты на што-небудзь і не заўважаеш, не муляе яно табе вока, бо ведаеш — так павінна быць, гэта — вечнае. Сёння сонца зойдзе, схаваецца, а заўтра зноў выйдзе на свой круг і па крузе само круглае, што кола; што кола, следам за ім будзе бегчы, круціцца і ён, Васька Барздыка. Бяда толькі, што няма ў яго яшчэ свайго кола, добра гэта ці дрэнна, але няма. Ды калі разабрацца — не ўсё ўжо і такое вечнае на зямлі. Сваё Свілёва ён таксама лічыў вечным, а дзе яно цяпер — зруйнавалі, вымусілі пачаць плакаць за які-небудзь месяц-другі. А хто ведае — ці нельга і з сонцам так. Мо яно вечнае таму, што ніхто па-сапраўднаму не браўся за яго, а калі возьмуцца, то і замест сонца на неба бычынае вока павесяць, і само неба з аўчынку будзе. І ён ужо болей не падганяў гусей, проста брыў следам за імі, спяшаўся наглядзецца, налюбавацца на гэтае сонца, каб яно ўвайшло ў яго, адбілася ў ім, як тое ж самае неіснуючае ўжо Свілёва, што само па сабе справіла хаўтуры, на якіх былі не толькі людзі, але і птушкі, буслы. Заграбаючы нагамі пясок каля вёскі, глядзеў на вячыстыя княжборскія дубы, што ўвесь дзень трошкі і выхваляліся гэтай сваёй вячыстасцю перад сонцам, імкнуліся выглядаць больш статна і больш зграбна, чым былі на самай справе, а цяпер вось, калі адчулі, што дзень ужо адспяваў, адкінулі наноснае, мітуслівае, сталі самі сабой, дрэвамі, а не людзьмі. І, крочачы пад шатамі гэтых дрэваў, рыжы княжборскі хлопец Васька Барздыка, па-вулічнаму Брытан, непрыкметна таксама нешта губляў і станавіўся самім сабою. Ён гнаў у вёску гусей і адчуваў, што, як гэтых гусей, яго таксама абкружваюць, спрабуюць некуды загнаць. І загоняць, ён усведамляў гэта, і не вельмі супраціўляўся. Так ужо было заведзена, не ён першы, не ён апошні. І ўсё ж чагосьці было і шкада, нешта згубіў ён сёння, згубіў і не заўва-

жыў што. І ён упершыню не пайшоў у той вечар на танцы, хаця і памятаў пра тое абяцанне, што даў малодшаму лейтэнанту. «Няхай табе сёння Мацвей Роўда мазгі ўправіць,— сказаў ён, згадаўшы Надзьчынага ўхажора.— Ці ты яму ўпраў... Ён усім управіць...»

## 2

Але Мацвей Роўда ў той вечар на танцы таксама не пайшоў, бо не хадзіў на іх у Княжборы ніколі. А вось што дзіўна: не было на танцах і Надзькі. І дарэмна малодшы лейтэнант, што прыкаціў сёння ў Княжбор разам з таварышам, такім жа як і сам новенькім, толькі што з іголачкі малодшым лейтэнантам, шукаў яе. Вынік яго пошукаў і адлучак меўся сумны: яму давялося зноў, праўда, цяпер ужо на пару з сябрам, піхацца з матацыклам да самага горада. Парупілі княжборскія хлапчукі, па сваёй ужо ініцыятыве, бо ніхто іх на гэты раз не падбухторваў, проста ім спадабалася, і яны заправілі матацыкл ваеннага чалавека, каб не парушаць традыцыі ўжо, каб ваенныя перакаваліся: ёсць і ў вёсцы Княжбор свае традыцыі. І малодшыя лейтэнанты перакаваліся: на світанні без якіх бы ні было здарэнняў і прыгод — на мосціках на гэты раз іх ніхто не сустракаў і не спачуваў — дапхалі свой матацыкл да часці, каб больш у Княжбор і нагою не ступаць. І тым самым далі волю і ежу языкатым княжборскім дзеўкам і маладзіцам, развязалі ім языкі: маўляў, гуляла Надзька з літэрам, а ён яе кінуў, кінуў, і ўсё. Уся вёска гаварыла, толькі сама Надзька ні сном, ні духам ні аб чым не ведала. І іншае было ў яе наўме, але аб гэтым ведаў толькі Васька Бараздыка, ён сядзеў дома і кляўся, што ўрэшце ўсё будзе па яго.

А Мацвей у гэты час знаходзіўся каля магазіна, ішоў ён у той магазін, у карчму да Лявона Цупрыка, з адной і вельмі зразумелаю мэтай. Трывожна склаўся для яго сённяшні дзень, і ўстрывожыла не здарэнне з трактарам, які, дарэчы, ужо выцягнулі, на буксіры толькі што на радасць дзецям, пад іх крыкі: тапельца вязуць, тапельца вязуць — прыцягнулі пад магазін да майстэрні. Гэта была работа, а на рабоце выпадала ўсякае, і ўсё трэба было мець у галаве і на ўвазе, тое-сёе з непрыемнага нават планаваць: два пі-

шам — тры ў галаве, такі закон прадпрыемства. Не бянтэжыла Мацвея і тое, што на месцы хлопца-трактарыста мог апынуцца і ён; праўду казаў дзед Дзям'ян: ён бы не спяшаўся выскокваць з кабіны, паспрабаваў бы на хуткасці мінуць небяспечнае месца, бо заўсёды ішоў насустрач небяспецы на фарсажы, каб наблізіць яе і развітацца з ёю хутчэй. Пазбавіла яго раўнавагі тое, што дзесь там, у Чортавай прорве, ляжалі яго бацькі. Ён заўсёды ведаў і памятаў аб гэтым, але гэта было такое веданне, з якім ён ужо звыкся, да якога ўжо прыцярпеўся, гэта было ўжо мінулым, даўнім: дзесьці, штосьці, калісьці. А цяпер жа ўсё раптам як падбегла, скочыла да яго і спынілася на адлегласці выцягнутай рукі, усё зрабілася вельмі выразным, канкрэтным і ўвасобленым: не дзесьці, а менавіта вось тут, не калісьці, а во зараз, і не хтосьці, а маці і бацька. І выявілася, што не бязродны ты, не горкі сірата, а былі, ёсць у цябе бацькі. І сёння ты сустрэўся з імі. І сустрэча не ўзрадавала цябе, і сум навеяла не той нармальна чалавечы, калі ты, як і ўсе іншыя, прыйшоў на родныя табе магілкі, усведамляючы непазбежнасць гэтых магілак, журботны, але адначасова адчуваючы ў сабе і нешта шчымліва-светлае, трымаючыся за святло і журботу, што сыходзяць ад гэтых магілак, падсвядома недзе ведаючы, што ў свой час нехта таксама, як і ты, прыйдзе і да цябе, у журбоце схіліць галаву перад тваім крыжам ці абеліскам. Але там, на балоце каля Чортавай прорвы, не было ні крыжа, ні абеліска, ні закліку, ні закону аб суме і журбоце, аб бясконцасці чалавечага жыцця, аб памяці, была проста зямля, балота, на якім касілі траву, было, мусіць, некалі возера, у якім лавілі рыбу. І ад таго возера засталася толькі дзірка, акенца на той свет ці ■ таго свету. І з гэтага акенца, з таго свету, такі засцерагальны крык, такі роў, нібыта ўсе заўчасна сканалыя княжборцы, і не толькі людзі, але і іх жыўнасць, раўнулі раптам у адзін голас і працялі яго, як не здольная была працяць ніводная самая дарагая магілка, ні адзін самы блізкі і дарагі голас, нават голас маці. То крычала сама даўніна, адмерлае, маўклівае мінулае. І тое, што гэтае мінулае можа мець голас, не той, што захаваны і данесены да нас на стужках і грампласцінках, калі ў голасе, як чыста ён ні гучыць, якім бы дасканалым ні быў запіс, адчуваецца ўсё ж небыццё,

трэшчына, падрапінка, хрыпатасць, па якім ты пазнаеш — гэта гукі ўжо толькі колішнія, гэта голас таго, што ўжо аджыў сваё. А голас балотнага бугая, хаця браў свой пачатак у мінулым, належаў сённяшняму, бягучаму дню, таму што была ў ім першароднасць і ўлада мінулага і рэальнасць сённяшняга, вечнае, але не састарэлае неба і сонца, стрададаўнія, але без ведання гэтай сваёй стрададаўнасці буслы, і, здаецца, нават Алена, што адышла яму ў мінулае, якое засталося назаўсёды маладым, і маладосць гэтая ўвасобілася яму цяпер у Надзьцы. І была ва ўсім гэтым нейкая дзіўная нез'яднанасць, непрыстасаванасць, вельмі нейк ужо рознілася тое, што адбывалася ў Свілёве, у параўнанні з тым, што адчуваў ён, што яму хацелася рабіць у тую хвіліну і што трэба было рабіць, што ён пачаў рабіць праз хвіліну, як толькі змоўк балотны бугай, пераступіўшы праз сэрца, праз памяць, забіўшы сэрца, заглушыўшы яго голас асэнсаванай неабходнасцю, голас маці, які ажыў у ім, калі ён як бы страціў прытомнасць, падвоіўся, быў крыху тут сёння ў Свілёве, як у паўзмроку, а больш там, у ночы, у мядзяным святле месяца, што трывожна глядзеў у сінія вокны іх хаты. Сярод хаты мітусілася маці ў белай сарочцы да ног, да падлогі, а адтуль, з-пад падлогі, здавалася, гучаў рык балотнага бугая.

— Пачакай, пачакай, Антоне. Іду ўжо, іду...

— Ты куды, мамо, не пушчу.

— Бацька кліча, чуеш, Мацвейка... Іду, Антоне, іду...

Маці была нейкая чужая, незнаёмая, раскасмачаная, вочы гарэлі. Ён баяўся яе, але роў балотнага бугая палохаў яго яшчэ больш. Ён ускочыў з палка, учапіўся ў маці, ашчаперыў рукамі яе ногі.

— Не бойся, лажыся зноў, я пабуду з табою, з табою пабуду.

Ён умольваў яе легчы побач з ім і сцярог яе, пакуль не змарыўся. А калі прахапіўся ноччу, нікога ў хаце ўжо не было, толькі зноў голас балотнага бугая ў расчыненыя насцеж цяпер дзверы. Ён кінуўся да дзвярэй, цягнучы за сабою і коўдру. Але толькі белае штосьці мільганула за гародамі і голас-усхліп:

— Іду, Антоне, іду...

— Хопіць вушамі грушы калаціць. Два трактары сюды тэрмінова. Ты і ты,— Мацвей кіўнуў трактары-

сту, які яшчэ плакаў і дрыжаў, і аднаму з рабочых: — Па легары! Астатнія па сваіх месцах. Рабочы дзень не скончыўся.

І ён таксама пайшоў па легары, вымусіў сябе пайсці, хаця яму надта не хацелася адыходзіць ад прорвы, як трымаў хто яго каля яе. І нёс ён легары амаль што ў поўным змроку, і змрок гэты не рассейваўся, Мацвей ішоў як бы па памяці, па памяці сунуў ногі, па памяці знаходзіў месца, куды трэба ступаць, калі трэба скочыць, бо наперадзе была траншэя. Святло ўспыхнула перад ім толькі каля магістральнага канала, і то як прамень аднекуль упаў, хапала яго, каб толькі разглядзець бервяно, што было перакінута праз гэты канал. З абодвух бакоў бервяна быў змрок, і такі густы, непраглядны, што здавалася, у канавы няма дна, бездань там, і над гэтай безданню ён павінен быў прайсці. І ён прайшоў па ненадзейным гэтым мосціку не пахіснуўшыся, па вузенькай палосцы святла, якая і навяла яго на неабходныя ўжо цяпер легары і шчыты, збітыя з дошак і брусоў. Скіраваны ўсё той жа палоскай святла, якое дараваў яму ўсё ж літасцівы сённяшні дзень, а сам цалкам застаючыся ў дні іншым ці, праўдзівей, у ночы, якая схавала раптам і хатку, ён ведаў наперад усе свае дзеянні, усе словы і каманды, якія трэба падаць рабочым. І ён вымаўляў неабходныя словы, аддаваў патрэбныя каманды, быў там, дзе яму трэба быць, і датуль, пакуль трэба. А калі знікла неабходнасць у ім, знікла і Чортава прорва, рабочыя, трактары. Ён застаўся адзін. Бязладна крычалі гусі, галёкалі жанчыны, брахаў нейкі сабачка. Ён пайшоў на гэтыя галасы і ўбачыў Алену, убачыў такой, як прывык бачыць у дзяцінстве, дзыбатую, з дубцом у руках, якім яна паганяла гусей, узрадаваўся і засумаваў, зразумеў, што гэта падман, што гэта не Алена, а толькі цень яе. Надзька. А каля Надзькі месца ўжо занятае, валацуга Брытан быў на тым месцы.

І дзень аднавіўся, набыў святло і яркасць. Толькі гэта было ўжо вячэрняе святло, і яркасць з халадком на схіле дня, на заходзе сонца. І, наглядаючы, як хаваецца за шатамі дрэў сонца, як голле і лістота чапляюцца за сонца, як спрабуюць затрымаць яго на небе, ён падумаў, што няблага было б пасядзець сёння з дзедам Дзям'янам, узяць чарку і памаўчаць і маўчаннем памянуць — ён не наважыўся сказаць: бацьку і ма-

ці — Чортаву прорву. Вось гэта і прывяло яго да Цупрыкавай «карчмы». Але тут настрой яго змяніўся. Занадта ж было памінальшчыкаў ужо, і амаль усе яго рабочыя, якім заўтра на змену. Мацвей, канечне, быў далёкі ад таго, каб улазіць, не той быў характар, ды і не памагло б гэта, раззлавала б толькі. Тут трэба было неяк інакш. Ён стаяў, разважаў, як гэта — інакш, калі да яго падышоў Аркадзь Барздыка і ляпнуў:

— Цікаўлюся. Дык хто забіў Пушкіна?

— Каго, каго? Навошта гэта табе?

— Цікаўлюся. Дык хто забіў Пушкіна?

Пытанне было простае, але ж вельмі нейкае далёкае. Мацвей нават крыху і сумеўся, не ведаючы, што і як адказваць, разгубіўся, што школьнік. Барздыка адчуў гэтую яго разгубленасць і дапамог, падказаў:

— Дантэсаў забіў. Ведаю, але сумняваюся.

Мацвей зірнуў на мужыкоў, што раіліся каля магазіна, і зразумеў яго сумненні. Сам вінаваты ён быў у нечаканай дапытлівасці Барздыкі, парушыў традыцыю. Раней, калі толькі завозілі ў Княжбор тэхніку, участка яшчэ не было, ён, наязджаючы ў вёску, спыняўся тут, каля магазіна, заходзіў у магазін, трэба яму было тое ці не, купляў карабок запалак, выстаўляў вяскоўцам, таму ж Аркадзю Барздыку, пляшкудругую віна, сам не піў, слухаў пэўны час іх размовы і знікаў. А цяпер вось прыйшоў — і аніякай павагі. І мае рацыю, безумоўна, Барздыка, чаго, калі папытацца, пёрся, ведаў жа, што такое княжборскі магазін — Цупрыкава карчма, шынок у Лявона. Не зачыняецца ён іншым разам да трэціх пеўняў, і пасля іх не зачыняецца, калі жонка Цупрыка не прачнецца сярод ночы, не хопіцца, куды гэта мужык дзеўся, і не прыбяжыць па яго ў магазін. Але і тады можна лічыць, што магазін робіць, працуе карчма і шынок. Цупрычысе, калі нікога няма пад рукою, не пад сілу адной дацягнуць мужыка дамоў. Яна замыкае Лявона і Лявонава завядзенне на замок да раніцы. А раніцай ён знойдзе пад прылаўкам драўляную сваю нагу і загрукае ёю ў дзверы: змілуйцеся, аслабаніце. Дзівосы, а не магазін у іх Княжборы, адзін, пэўна, такі на ўсё Палессе. Хаця чаму адзін, калі такіх вёсак, як Княжбор, раскідана па Палессі... Ды, з другога боку, дзе сабрацца мужыкам пакалякаць, куды кінуцца, каму

аддаць ну не рубель, не тры рублі, як у горадзе, вядома, а пяцьдзесят капеек, дзе больш дасведчаныя сёння людзі знаходзяцца, калі не ў магазіне: па-першае, што ведае сам магазіншчык аб гэтым свеце, можна толькі здагадвацца, а па-другое, дзе ж і хто табе так дакладна скажа, у які бок сёння скіраваўся ляснік, ці быў рыбнагляд, ці які яшчэ чалавек, якога трэба пільнавацца. І пільнуюцца, дзякуючы карчме, ніхто ж не абміне яе.

А Бардыка ўсё яшчэ муляецца, чакае, мучыцца, пэўна, пра што б яшчэ спытаць.

— Выпіць хочаш, Аркадзь? — ідзе напралом Мацвей.

—Ды хто яго ведае... — гэта Барздыка дае зразумець Мацвею, што ён, ну, мякка кажучы, не вельмі выхаваны чалавек, мо і дурнаваты трохі. Хто сёння аб гэтым каго пытае, тым больш вось так, прама ў лоб: калі хочаш пачаставаць, дык пачастуй, але не здзекуйся. Гутарку завядзі, адыдзі ўбок, пагавары аб чым-небудзь старонніх, не такім гарачым, а потым ужо можна і аб справе. Але ў тым уся і справа, што аб іншым не хоча і не здольны сёння гаварыць Мацвей. І частаваць не хочацца яму.

— У цябе ж свае ёсць,— гаворыць ён Аркадзю.— На дрэнажы за мінулы месяц колькі атрымаў?

— Атрымаў,— дыпламатычна адказвае Барздыка.

— Я ведаю, не строй з сябе сірату казанскую, пад чатыры сотні выйшла. Трыста дзевяноста восем рэ,— Мацвей называе дакладную лічбу, таму што яна хвалюе яго. Не заробак, не грошы, а менавіта дрэнаж, праца, як яна выканана.— Скажаш, што не так?

— Так,— адказвае Барздыка. І з гонарам і выклікам: — Усё так, колькі ні атрымаў, усе мае... Толькі я за свае не п'ю.

— Чаму ж ты за свае не п'еш?

— А не п'ю, і ўсё... Бяздонны я.

— Які, які?

— Ну такі. Колькі яе ёсць, гарэлкі, столькі і вып'ю.

— І вядро вып'еш?

Аркадзь у задуменні паглядзеў на магазін:

— Вядро не, але адап'ю багата... А ты вось магазін бокам абыходзіш. А мужыкам трэба гэта.

— Што трэба?

— Ды месца пасядзець дзе трэба. Раней было месца, дзе пасядзець. Ёсель на Цупрыкавым месцы карчму трымаў. Добра было і Ёселю, і нам. А цяпер дзе ён?

— Хто дзе? — не зразумеў, заняты сваім, Мацвей.

— Ды Ёсель жа дзе, цябе пытаю?

— Спытай, Аркадзь, каго-небудзь іншага.

— Добра, спытаю... Толькі ў каго?

— Што ў каго?

— Спытаць у каго?

— А вунь у Цупрыка і спытай,— параіў Мацвей адрачона, бо больш прыслухоўваўся да таго, аб чым размаўляе са старымі на лаўцы каля магазіна дзед Дзям'ян, але і іх гамонку разбіраючы з пятага на дзесятае, думаў, што сапраўды было б няблага пабудаваць тут з цягам часу рэстаран, меў усё ж рацыю Ліпай. Вось і тут бы, у Княжборы, такі рэстаран, і каб выразаны былі з дрэва ўсе гэтыя Галоскі, Жалезныя Чалавекі, выбіты на медзі і каб камін, каля якога можна было б пасядзець і нешта ўспомніць і за чаркай, і за шклянкай чаю. Мо ён таму і абраў Княжбор, распачаў тут работы, каб выцягнуць гэтую вёску з Чортавай прорвы да святла, да каменных, цагляных будынкаў, да гэтага вось рэстарана з камінам і разьбой, дзе сыдуцца разам Аркадзь Барздыка і дзед Дзям'ян. Толькі нешта нячутна і нябачна, каб у самім Княжборы каму-небудзь яшчэ, акрамя яго, патрэбна гэта было. Ніхто з княжборцаў не пайшоў да яго рабіць, а работы хапае, і грошы за яе добрыя, а галоўнае — жывыя, два разы ў месяц. Узяць хаця б таго ж Аркадзя Барздыку: чатырыста рублёў, ды тут такіх грошай і ў вочы ніколі не бачылі. Не бачылі, а не вельмі пабеглі за імі, капеечкі ў рубельчыкі збіваюць на сене, бульбе, малацэ. А колькі хлопцаў у вёсцы, не вучацца і не робяць нідзе, дзевак псуюць, а да яго дык не дараслі яшчэ, не адгулялі сваё. Адзін толькі Аркадзь Барздыка і пакваліўся на яго доўгі рубель. Мо ён і чэпіцца зараз да яго, да Мацвея Роўды, а не падыходзіць да вяскоўцаў, таму што лічыць яго сваім. Ад такой думкі Мацвей адчуў ніякаватасць, каб пазбавіцца яе, стаў слухаць, пра што гавораць старыя.

— Помню во, як сёння, гуляў я неяк па сталіцы,— разышоўся дзед Дзям'ян.

— Ты не пра сталіцу, што чобаты там прапіў і дамоў пешкі і босы прыйшоў, мы ўжо ведаем.

— Было, было,— пагадзіўся дзед Дзям'ян.— Яны мне ордэн даюць, бліскучы, чысты. Я бяру. Усё, гавораць, ідзі. А я ім: а тры рублі? Якія тры рублі? Як якія? Міхайла Іванавіч мне ордэн уручыў, дык трыццаць рублёў яшчэ даў на гэтую самую справу. А тут што, я за свае і пляшку павінен купляць? Не, ты аддай мне мае тры рублі.

— Не далі?

— Не, трасца іх мацеры.

— І дайшоў без чабот?

— З чобатамі, толькі чобаты за плячыма.

— А Калінін? Як ён табе ордэн уручаў?

— О, Калінін... Як сёння, помню. Гуляў я тады па сталіцы. Там яшчэ конь стаяў. Пасярод Масквы конь жалезны, жывога не знайшлося, і баба голым азадкам грувасціць на таго каня хлапчука. Дурная ты, баба, кажу я ёй, ты б сама села голай с... на тое жалеза. На баб у мяне вока здалёк пастаўлена, бачу, няйнакш, такая нясклёпістая з нашых краёў. Так яно і было...

— Ты не пра жалеза, Дзям'ян, і не пра бабу-варону, а пра Калініна.

— А што Калінін, свойскі быў мужык.

— І выпівалі?

— А чаго ж, чарку ён яшчэ за мяне падымаў і слова гаварыў. Толькі вось схібіў трохі, не тое даў, што я прасіў. Напісаў пісьмо яму, так, маўляў, і так, Міхайла Іванавіч, крыўдзяць мяне, не вераць, што ў мяне ордэн быў яшчэ за вайну з белапалякамі, немцы, халера іх, адабралі, дык ты ўжо вярні мне той ардэнок. Прыносяць ліст, чытаю: прыязджай. І грошы на дарогу. Што рабіць? Сеў, паехаў. Народу, народу, і ўсе ў ладкі мне б'юць, а святла — хоць голкі збірай. І бачу я, дастае Міхайла Іванавіч мой ардэнок, а каля яго другі ляжыць. Я яму рукою махаю: не той, не той узяў, Міхайла Іванавіч. Мой жа мо вунь той, жоўценькі...

Старыя зарагаталі і рагаталі доўга, хаця не адзін раз слухалі гэтую гісторыю, чуў яе Мацвей, ведаў, што хоць і падобная яна на байку, а ўсё так і было.

— Пашкадаваў жоўценькую?

— Пашкадаваў, а потым, мне пераказвалі, гава-

рыў: трэба было даць мне ўсё ж жоўценькую. Маўляў, адзіны такі Дзям'ян на ўсё Палессе, на ўсю краіну.

— Прыдумляеш і хлусіш ты ўсё, Дзям'ян. Ты лепей раскажы, як маё сала ўкраў.

— Я ў цябе сала не краў,— незадаволена адказаў дзед Дзям'ян.

— Не ў мяне, дык у бацькі майго, дзеда Саўкі.

— У Саўкі іншая справа. Было, было,— не стаў адмаўляцца дзед Дзям'ян.— Толькі дурны твой бацька Саўка і ты дурны. Аблазілі ўсю хату і пограб, а за бажніцу не зазірнулі. А сала ж там было, за бажніцай. Дурны ты, Аркадзь, і з маленства такі быў.

— Я дурны... — пачаў быў Аркадзь Барздыка, але працягваць не стаў, загаварыў з Мацвеем: — Слухай сюды,— сказаў ён.— Ты граматны?

— Ну здаецца,— зноў разгубіўся Мацвей.

— І па пісанаму можаш чытаць?

— Магу і па пісанаму.

— А калі літары не нашы?

— А калі не нашы, не магу.

— Во, усе тут такія. Магілку адну на нашых могілках бачыў? Камень на ёй, і літаркамі не нашымі на тым камені выбіта, ніхто яшчэ не разабраў тых літарак.

— Па-польску там напісана,— сказаў Мацвей,— што находзіцца там прах жаўнера войска польскага Задлецкага.

— І ўсяго?

— А што яшчэ?

— Нічога... Але ж каб не нашымі літаркамі і толькі таго... Я думаў... А прыборы ў цябе ёсць?

— Якія табе яшчэ прыборы, Аркадзь?.. — Мацвей цяпер быў заняты адным: як адчапіцца ад Аркадзя Барздыкі, праскочыць у магазін, каб той за ім не пацёгся — пацягнецца, лічы, усё, не адліпне, каўтнуў ён ужо,— узяць там тое-сёе і ціхенька з дзедам Дзям'янам дамоў.

— Ёсць, ёсць у цябе такі прыбор, Мацвей. Давай разам.

— Ды што, Аркадзь, разам?

— Золата шукаць,— сказаў Барздыка.

Мацвей аслупянеў: звар'яцеў мужык ці сур'ёзна, не толькі дзеля пляшкі віна.

— Якое золата, дзе тое золата?

— Пад бярозай.
— Да ты ўяўляеш сабе, колькі тут бяроз?
— Нам усе не трэба. Нам з табой толькі адну.
— А як ты даведаешся, што гэта яна? — Мацвею было ўжо забаўна ўсё гэта, і цікавасць брала, адпавядала ўсё ж гэта неяк ціхаму вясковаму вечару, старым, што сядзелі на лавачцы, рыпу варотцаў і варот, бразганню даёнак. І яго настрою адпавядала, стасавалася. «Чорт яго бяры,— думаў ён ужо,— з гэтым рэстаранам, камінам, і так добра. Як выразаныя, уночы спеюць у гародах сонешнікі, нібы з медзі адлітыя, сядзяць на лаўках аціхлыя старыя і з хлявоў дух сырадойны і парны, як ад ніводнага каміна».
— Адзін я не пазнаю,— гаварыў між тым Барздыка.— Не вельмі я пісьменны, і прыбора ў мяне няма. А ты пісьменны і з прыборам.
— Я пісьменны і з прыборам і па пісанаму магу,— перабіў яго Мацвей.— І вось табе тры рублі...
— На ўсе? — спытаў Барздыка.
— На ўсе,— адказаў Мацвей.
— Дык не хапае ж?
— Як гэта не хапае?
— А вось так, яшчэ рубель, і будзе тры бутэлькі.
Мацвей даў яшчэ рубель.
— Цяпер хапае?
— Цяпер правільна,— ухваліў Барздыка.— А наконт прыбора ты ўсё ж падумай.
— Я падумаю,— з ціхай ярасцю паабяцаў Мацвей.— Толькі золата тваё ў дубе, у борці, а ты і без золата нябпага жывеш.
— Нябпага жыву,— пагадзіўся Барздыка,— толькі сумняваюся. Жыву, ды сумняваюся...
— Дык у чым жа ты, Аркадзь Барздыка, сумняваешся? — спытаў Мацвей пасля таго ўжо, як Аркадзь вярнуўся з магазіна не толькі з чарнілам, але і з цыбулькай, што круглы год расла ў гаршках у Цупрыкавай карчме. Цыбулькай гэтай Цупрык частаваў толькі начальства ды калі ўжо вельмі карцела ўзяць чарку самому яму. І, мяркуючы па ўсім, Барздыка, мусіць, паспеў шапнуць Цупрыку, каму ён купляе віно. «І чорт з ім,— падумаў Мацвей, падымаючы шклянку і стукаючыся з дзядамі.— Чорт з ім». Тут ён прыкмеціў, як у асветленым праёме дзвярэй магазіна пра-

мільгнула постаць трактарыста, што ледзь не трапіў разам з трактарам у прорву, паклікаў яго, наліў і яму.

— А ў тым я сумняваюся,— калі ўжо выпіў, азваўся Барздыка,— што добра жыву.

— Гэта як? — спытаў дзед Дзям'ян.

— А вось так,— адказаў Барздыка.— Хораша пачаў жыць. І ўсё. Грошай багата зарабляю, грашыма кідаюся, смечу, за чужых кабаноў плачу. А хапае, хлопцу з бабай можна ўжо і не рабіць.

— Так, пэўна, і трэба, хаця хлопец не надарваўся б, калі лішні раз нагнуўся б,— асцярожна вымавіў Мацвей.

— Ой, сумняваюся, ой, сумняваюся, ці так яно і трэба. Баюся і апасаюся, заўсёды ж было: як толькі ледзь-ледзь добра, чакай ліха.

— А якое можа быць ліха, з якога боку чакаць гэтага ліха? — Гэта спытаў нехта са старых, але не ў Аркадзя Барздыкі і не ў таго, хто быў побач з ім, як бы сам сябе спытаў, вечар, цішыню. І ўсе яны разам з Мацвеем і трактарыстам спыталі аб гэтым у сябе, памаўчалі, прыслухаліся да цішыні, нібыта яна павінна была даць ім адказ.

— Коней паганяем. Хутка гонім мы ўжо іх,— адказаў Аркадзь Барздыка.— Насцёбваем і насцёбваем.

— Дзе тыя коні, на мясакамбінаце даўно ўжо.

— А астатніх гонім. У тым і справа, мала, а паганяем. Што з Княжборам робім?

— А што робім? Матэрыяльна-тэхнічную базу закладваем, індустрыялізацыю праводзім,— сказаў Мацвей.— Ставім вёску на прамысловыя рэйкі.

— Гэта ты талкова растлумачыў,— крактануў дзед Дзям'ян.— Галоўнае, з базаю. Я таксама тое ж сам сабе думаю, пра рэйкі. Ці хопіць іх, ці назапашана іх, не прыйшлося б падточваць, разбіраць адзаду ды наперад несці. Цішэй бы трошкі.

— Цішэй час не дазваляе,— не вельмі ўпэўнена сказаў Мацвей.— Трэба імкнуцца жыць лепей.

— Вось-вось,— падтрымаў, здаецца, яго Барздыка.— Імкнуцца трэба... Толькі на Палессі прыспешваць пацяху трэба, а то каб не было як з тым адным, скараспелым ды хуткім...

— Не будзе,— запэўніў Мацвей.— Ты вось раней соль сеяў, прызнавайся, Аркадзь, сеяў?

— Усё ты блытаеш,— буркнуў Аркадзь Барзды-

ка.— Не соль сеяў, а валоў садзіў. Не сам я, а блудзімцы падказалі.

— Хто-хто? — перапытаў трактарыст.

— Блудзімцы. Так раней вёска за намі, за ракой, называлася. Блудзім, а цяпер імя...

— Ты не пра імя, а пра тое, як валоў садзіў,— спытаў Бардыку дзед Дзям'ян,— як хвасты валам бацькавым паадразаў.

— А я пра імя хачу,— заўпарціўся Бардыка.— Ну якое ім трэба імя? Сядзіць жа нехта, галаву трудзіць, а проста трэба было б, як былі Старынкі тут, а цяпер перайначыліся ў Навінкі.

— І табе ў Навінкі пара,— сказаў дзед Дзям'ян, падымаючыся.— Па хатах, хлопцы, нам час, нешта не пра тое гаварыць пачалі.

Але Мацвей з дзедам Дзям'янам дамоў не пайшлі, з трактарыстам і Бардыкам яны яшчэ наведалі Цупрыка. І Цупрык без слоў зразумеў іх, падаў ім і сам не адмовіўся прыняць. Быў ён ужо чырвоным нават пры цьмяным святле маленькай лямпачкі, але пошчак лічыльнікаў быў цвёрдым, і знаходзіў ён усё, не падымаючыся з крэсла, бо драўляную нагу сваю ён ужо зняў і адклаў убок, а сам з двух бакоў выгарадзіўся адзіна неабходным у такі позні час таварам, выставіў гэты тавар і на прылавак перад сабой, уваткнуў пасярэдзіне, паміж зялёных бутэлек, віслы качыны і пакачынаму чырвоны нос. І ўсё ў магазіне, як нос Лявонаў, ад пафарбаваных некалі, а цяпер невыразна рудых маснічын з вялізнымі шчылінамі, забітымі зямлёю, да шэра-чорных, хісткай горкай складзеных у праходзе яшчыкаў было хваравіта-чырванаватае, нібы прастуджанае. Да таго ж у магазіне было яшчэ і не прадыхнуць ад дыму, і адразу з чыстага паветра мімаволі хацелася чхнуць. Здавалася, і сам магазін хоча чхнуць, таму ў кожнага, хто заходзіў, было ўжо напагатове на языку: будзь здаровы — ці будзем здаровы. І будзь здаровы — ці будзем здаровы гучала, а вось чхання не было чутно. З шынка ад Лявона Мацвей з трактарыстам пайшлі, самі не ведаючы навошта, у поле. Сядзелі на мяжы ў жыце, і трактарыст пад сумнае шапаценне поля апавядаў Мацвею пра сваё жыццё. Ад гэтага апавядання ў памяці Мацвея засталося толькі гэтае шапаценне жыта, таму што трактарыст быў хлебаробам, лічы, усё жыццё рабіў толькі адно —

сеяў, спачатку разам з бацькам, дапамагаў яму рабіць на трактары тут, у Беларусі, потым на цаліне, куды збег ад мачыхі: не было ўзімку чаго апрануць, сядзеў у хаце, сумаваў, мачыха пакінула на лаўцы кухвайку, выскачыла на вуліцу. Ён накінуў на плечы яе кухвайку і таксама на вуліцу. На вуліцы палез ужо ў кішэню, а там грошы, і не маленькія — пяцьсот рублёў, старымі, канечне. Пералічыў ён іх і збаяўся ісці дамоў, то мачысіна схованка была, тыя грошы, мачыха б яго са свету звяла. Ён сам падаўся ў свет, кінуўся ў белы свет, як у капеечку.

Пасля жытнага поля, развітаўшыся з трактарыстам, Мацвей апынуўся ў Свілёве, што яму там спатрэбілася, гэтага ён не ведаў. Але ж менавіта Свілёва цягнула яго да сябе, ён быў бы там раней, ды перашкаджалі то Бараздыка, то трактарыст. У Свілёве было дрымотна ціха, спалі пакінутыя людзьмі машыны, спалі дрэвы. Уначы паміж дрэвамі і машынамі, здавалася, існуе нейкае дзіўнае яднанне, дрэвы і машыны як заключылі між сабой саюз і мір і цяпер адпачывалі ад дзённай бойкі і запасілі сілы. Уткнуўшы насы ў дубы, спалі трактары і бульдозеры і нават ціхенька саплі і храплі, то холад поўз ужо ў сярэдзіну ім, астуджваў іх распаранае і грузнае цела, жалеза сціскалася, зябка ўздрыгвала, курчылася і гнулася, бо ўжо прыпадала і раса. Ад дрэў жа павявала цяплом, амаль што хатнім. І Мацвей сеў, прыхіліўся да дуба, да яго цёплай і шурпатай, што бацькоўская далонь, кары, прыдрамаў і прахапіўся ад невыразнага крыку, як бы нават плачу. Ён ускочыў, азірнуўся: лёгкі ветрык гнаў па небе рэдкія воблакі, і скрозь іх зрэдзь выглядваў месяц, што таксама хутка бег за воблакамі. У Свілёве ўжо не было той дрымотнай цішыні і яднання дрэў і машын, трывожна шапацела лістота, як бы цень нейчы заблудзіўся, заблытаўся ў гэтай лістоце і, не здольны выблытацца, ускрыкваў і плакаў. Мацвей пачаў бегаць ад дрэва к дрэву, прыслухоўваўся і ўглядаўся ў кожнае, але, акрамя звернутага ў неба і бляклага спадыспаду лісця, нічога не бачыў, хаця часам, падавалася яму, адчуваў прысутнасць у дрэве кагосьці чужога, і гэты чужы спускаўся да яго твару, казытаў яго твар, вочы, нібы цягнуў да яго рукі, гладзіў іх. Мацвей таксама мітусіўся рукамі, спрабаваў ухапіць гэтыя стрэчныя рукі, але хапаў толькі паветра, самога

сябе, хвастаў сябе па шчоках, па лобе. I стаміўся, знясілеў. А крык і плач мацнелі. Крык жанчыны і плач дзіцяці. Ён ужо адрозніваў іх. Кінуўся да Чортавай прорвы.

— Я тут, мама, я тут, бацька...

Прорва маўчала, хаця нешта і гуло там, але гуд той быў нейкі як тагасветны, не зямны, бы там, у глыбі, ішла нейкая работа, цяжка рухаліся яго трактары і бульдозеры, ці шчытна, усутыч адзін да аднаго, ішлі ў цемені танкі, краліся невідушчыя самі і нікому не бачныя. I яго пацягнула паглядзець на гэтыя танкі, на тыя тагасветныя машыны, зірнуць на іх хоць адным вокам, а мо і не толькі на іх, мо там дзе і прамільгне жаночы ці мужчынскі твар. Ён схіліўся над Чортавай прорвай, спрабуючы зазірнуць у глыб яе і далей, за яе ўжо. Ён вывучаў яе, нібыта бачыў упершыню, бы апынуўся раптам не на абжытай і зразумелай зямлі, а на нейкай невядомай планеце, уварваўся ў невядомае жыццё і сіліўся зразумець яго, бо ад гэтага залежала яго ўласнае жыццё. Але на той невядомай планеце вывучаў жыццё не толькі ён, вывучалі і яго, таму што ён таксама быў невядомы і нават нябачны, і час ад часу штосьці ўспыхвала ў прорве, загараўся нейкі цьмяны агеньчык, прасочваліся нейкія бурбалкі, бы хтосьці сіліўся і яму сказаць нешта, ды не мог, захлынаўся чужымі, нязвыклымі яму словамі, агеньчыкі мігцелі і тухлі, а праз хвіліну ўспыхвалі зноў. У іншым месцы і ў нейкай іншай паслядоўнасці — бы выпрабоўвалі, правяралі яго на нейкі тэст. А ён не здатны быў адгадаць яго, ужываючы свае зямныя веды, кіруючыся сваімі зямнымі асацыяцыямі, не мог адкінуць, ступіць на новы круг не зямнога, лагічнага, мыслення, дзе ўсё выцякала адно з аднаго, дзе ўсё вытлумачвалася неабходнасцю, традыцыяй, розумам. Тут жа ўсё гэта было парушана, а калі і не парушана, то збудавана, выстраена ў іншай, пакуль незразумелай яму паслядоўнасці. I часам ён, здаецца, набліжаўся да гэтай чужой яму логікі, манеры мыслення і паслядоўнасці, сутыкаўся з нечым, што звязвала яго веды і вопыт з веданнем і вопытам таго, што — ці хто? — знаходзілася перад ім. Але ён кожны раз палохаўся гэтай супольнасці, не здольны быў паверыць ёй, спыняўся напаўдарозе, забараняў сабе дадумваць усё дарэшты, бо нешта грознае і страшнае

мроілася яму там, чаго не хацела і не магла прыняць яго душа. І яны, чорная бездань, што ляжала перад Мацвеем, і сам Мацвей ужо страцілі надзею зразумець адно аднаго.

Прорва ўжо цяжка дыхала, ён бачыў гэтае яе дыханне, адчуваў яго па тым, як раўнамерна ўскалыхвалася і ападала адстаялая, але масляная, густая ўначы, як кроў, вада, нібы глядзеў не проста ў акно, праломіну ў зямлі, а самі лёгкія ляжалі перад ім, лёгкія смяртэльна параненай і ўжо адыходзячай істоты. І Мацвей адчуў, як ад параўнання з лёгкімі ў яго пачынае кружыцца галава, млее цела. Яго ўжо цягнула туды, у прорву, да абдымкаў, здаецца, так ласкава распасцёртых рук, і ён ужо быў гатовы ўпасці ў гэтыя рукі, але тут разануў яму вушы жаночы плач за яго плячыма. Мацвей скочыў ад Чортавай прорвы, збіў свой уласны цень і заблытаўся ў ім. І жанчына ў белым, што стаяла за яго плячыма, таксама скочыла, ён пагнаўся за ёю, смуткуючы і тужачы па тым, чаго не здарылася, па неспазнаным, на самым краёчку якога ён стаяў, да спазнання чаго заставалася адно толькі імгненне. Жанчына адводзіла яго ад Чортавай прорвы, ад Свілёва, яна бегла ці слізгацела па паветры, не падпускаючы яго да сябе, да той блізкасці, калі б ён ужо мог схапіць яе, але і не ўцякаючы вельмі і далёка, каб ён не страціў надзеі. І Мацвей у роспачы, але і не страчваючы зусім надзеі, бег за ёю, умольваў яе паказацца яму, назваць сваё імя, шаптаў сам сабе імёны маці і Алены. Жанчына, не паказваючы твару, паварочвалася да яго і адмоўна хітала галавою. І паступова ён выдыхаўся і траціў надзею дагнаць: чым далей ад Свілёва і бліжэй да вёскі, тым больш шпарка бегла жанчына. Пад вёскай яна, здаецца, ужо і не бегла, лунала, слізгацела ў паветры, усё далей і далей адрываючыся ад яго. І вось толькі белае воблака, за якім і пад якім нічога не было, калыхалася недалёка ад яго. Мацвей спыніўся, спынілася і воблака.

— Хто ты? — спытаў ён няведама каго.— Маці? Алена? Дзячыць каму, пра каго дзецям расказаць?.. Галоска?

— Га-га-лоска,— азвалася ўдалечыні, і воблака знікла. Нікога не было. Толькі жытнае поле, і ён сярод поля, мокры ад расы, перапэцканы жоўтым клейкім жытным пылком. Жытам ён і скіраваў туды, дзе

толькі што стаяла воблака, але і там нічога не было. Яму падалося, што нехта рухаецца і валтузіцца крыху далей, на ражку поля. Рассоўваючы рукамі жыта, ён крадком пакрочыў туды і хутка ўбачыў яе. І не ўяўную, тканую з небыцця, паветра, плётак вясковых бабуль, а самую што ні ёсць сапраўдную, спелую і агаленую. Стаяла ў жыце голая жанчына, распасцёршы рукі, адкінуўшы галаву, углядалася ў месяц, пацягвалася, нібы расла, вырастала з жыта. Не абцяжараныя яшчэ зернем каласы датыкаліся яе ўлоння і пахвіны і, пэўна, казыталі ёй, яна адсоўвала іх, блытала, выцірала аб грудзі росныя рукі, брала пальцы ў рот, cасмоктвала, мусіць, з іх пылок. І столькі неўсвядомлена дзіцячага было за ўсім гэтым, наіўнага, чыстага, такая ўпэўненасць, што яна адна, адна ва ўсім свеце, і ніхто яе не абгаворыць і не асудзіць, што Мацвей сумеўся і намерыўся ўжо адступіць, але збаяўся, што напалохае яе, застаўся, толькі сеў у жыта, закрыўся ім. Ён не хацеў падглядваць, але не мог не глядзець. І не было ў ім ніякага адчування чагосьці непрыстойнага, брыдкага. Не было ніякага намёку на нешта сорамнае і ў голай жанчыне, хаця яна была сапраўднай, зямной і па-зямному жаданай. Чакала, жадала любові і пяшчоты яе цела, тугія, маленькія грудзі, клубы, што здрыгаюцца ад ядранасці, жывот, на якім цьмяна пабліскваў уначы пупок. Але жанчына ў тую хвіліну, здавалася яму, не ўсведамляла свайго цела і жаданняў яго, яна як бы выраклася яго, аддала ўсю сябе гэтаму жытнаму полю, месяцу, соннаму крыку перапёлкі ў жыце, барвовай стужцы на ўсходзе, што сведчыла ўжо аб нараджэнні новага дня. Яна была адна на зямлі, прамаці ўсяго існага, уладаркай гэтай зямлі, перакінулася і стала жанчынай з яшчаркі, з зерня, кінутага ў ворыва, мужчыны яшчэ няма і ў паміне. А той адзіны, аб прысутнасці якога яна не падазравала, але які бачыў яе зараз, Мацвей Роўда, у тую хвіліну ён не адчуваў сябе мужчынам. Яму самому цяжка было вызначыць: кім жа ён быў зараз, але толькі н а д, над сабою, над мужчынам у сабе, нешта большае, вышэйшае, чым проста жанчына, адкрывалася яму цяпер, і таму і ён быў большы і вышэйшы за сябе, амаль бог, крышку збянтэжаны, праўда, бог, па адзіным узмаху яго рукі ўсё павернецца, куды ён толькі пажадае. Ён таксама быў прабацька ўсяго існага, менавіта ж ён

стварыў тую жанчыну ў жыце. І стварыўшы, разгубіўся і збянтэжыўся, напалоханы як цудам яе прыгажосцю і дасканаласцю: як пасавала яна зямлі і як зямля пасавала ёй. Да ног Мацвея скочыла жаба і, мігаючы бледным горлам, замерла. Ён толькі схіліў галаву, а калі зноў падняў і зірнуў туды, дзе толькі што стаяла жанчына, яе ўжо не было там. Ён ужо ўсумніўся, ці была яна, падумаў, ці не навалач гэта нейкая, як зноў пачуў жанчыну. Тая купалася ў жыце, купалася ў расе, як у рацэ, узмахвала рукамі, нібы плыла, пырхала ад расы, як ад вады, гарэзліва і шумна выбегла з жыта, бы з хвалі рачной, пайшла да яго, далонямі зганяючы з ружовага цела, з грудзей, клубоў бачныя цяпер і яму, замутнелыя ад ядранасці і прахалоды кроплі вады. Мацвей спалохаўся, што яна заўважыць яго, але жанчына, занятая сваім, прайшла паўз яго, ледзь не наступіла яму на ногі. Ён адчуў яе дыханне, чыстае і ўсхваляванае, пах яе цела — пах хлеба, але не таго, свежаспечанага, і не таго, што яшчэ ў зерні, хоць і на таку, ад якога патыхае ўсё ж брагай і хмелем, а таго, што яшчэ ў коласе, як у лоне маці, колас яшчэ мяккі, і зерне ў ім — малако. Каб пачуць хлеб у такім коласе, трэба яго расцерці ў далоні і потым дыхаць гэтай далоняй. Ён зірнуў у твар жанчыне і пазнаў Алену. І адразу зразумеў: не, гэта не яна, але, пакуль паспеў гэта зразумець, запаліўся, пачырванеў, спапяліўся. Ноч і світальны туман пазбавілі Надзьку ўзросту, скрылі і тое невялічкае, што розніла іх. І калі ён ачомаўся, Надзька была ўжо далёка, падганяючы, сцябаючы сябе мокрымі валасамі, бегла па жытным полі ў туман, што сплываў ужо. І ён ледзь устрымаўся, каб не кінуцца за ёю следам, убачыў яе плацце, што цьмяна шарэла на мяжы, падняў яго, патрымаў. Узяў басаножкі і пайшоў, размахваючы імі.

### 3

Цімох Махахей выйшаў берагам рэчкі да Стрэлкі, дзе здаўна быў брод, дзе яшчэ хлапчуком кожнае лета пераходзіў ён рэчку, пераходзілі яе ўсе княжборцы, пераязджалі і на падводах, на воліках, калі збіраліся на лесапілку ці па іншай якой патрэбе «ў Польшчу». А цяпер, хаця вады ў рэчцы параўнальна з мінулымі

гадамі і паменела, пераехаць на процілеглы бераг старым бродам немагчыма. Пачала кідацца апошнія гады рэчка, бы ёй не дагадзілі, угнявілі яе, наступілі ёй на хвост. І яна адвярнула ад вёскі, узяла ў лес, падмыла падпуск, з пакатага берагу ўтварыла кручу, на якую ніякім волікам не ўскараскацца. Але ён бы спусціўся з яе, хоць быў і з грузам. Круча кручай, а глыбіні сапраўднай пад ёй не было. Пад берагам каля самага абрыву ад сілы вады па грудзі, дно ўсё як на далоні, гуляюць плоткі, ладныя, вёрткія, так і просяцца на вуду, б'юць адна адной у бок, дражняцца. Цімох пасмяяўся з іх, адвёў душу, схаваўшыся за грушкай, што расла тут, на беразе, навідавоку. Калісьці грушка гэтая стаяла ў лесе, сярод дубоў, а цяпер дубы пападалі, падмытыя ракой, вось-вось год-два, павінна была ўпасці і грушка. І Цімох пільнаваў плотак і слухаў, як змагаецца яна каранямі з вадою, як пампуе, гоніць гэтую ваду да лісця, як паразумела і суладна гудуць у лісці пчолы. Наслухаўся, усцешыўся, а трохі і засумаваў, пайшоў берагам уверх па рэчцы, зусім у іншы бок, чым трэба было яму ісці, у бок ад сваёй бачнай яму ўжо хаты. Не наважыўся перабрыдаць рэчку тут, навідавоку ў вёскі, у рыбакоў, што стаялі з вудамі каля возера, ракі, у дзяўчат і жанчын, што купаліся і загаралі на Бабскім пляжы, і віною ўсяму быў груз Махахея. Сорамна было яму паказацца з ім на людзі, падумаюць яшчэ, а то і скажуць, не заржавее: здзяцінеў Махахей. А ён і папраўдзе здзяцінеў, на старасці год, як дзіця неразумнае, пагнаўся за цацкай, купіў сабе гармонік. «А каб табе, Махахей, пуста было»,— пасмяяўся ён сам з сябе і пакрочыў і весялей, і спарней. Няўсцерп усё ж было яму хутчэй дамоў, адамкнуць футляр і патрымаць у руках сваю цацку. А іграць ён не ўмеў, хоць плач, не мог, не навучыўся. Раней ва ўсім сяле гармонік быў толькі ў дзеда Дзям'яна. І дзед Дзям'ян сам рыпаў на ім усяго тры танцы: польку-трасуху, кракавяк ды «На сопках Маньчжурыі», хоць і іграў спраўна на ўсіх вясковых вячорках княжборскім хлопцам і дзеўкам і яму, Цімоху Махахею. Збіраліся ў вясковай хаце, кожны раз у іншай, па чарзе, прыходзіў са сваім інструментам дзед Дзям'ян, садзіўся ў покуць, браць яго ў рукі не спяшаўся, чакаў, калі пададуць. Яму падавалі. Але і каўтнуўшы, дзед Дзям'ян яшчэ чакаў, і хлопцы ведалі чаго. Самы бой-

кі з іх, нябожчык Антон Роўда, сын дзеда Дзям'яна, крычаў дзеду:

— Грай, бо грала паламаю.

— А грошыкі? — хітра мружыў вочы Дзям'ян, сціпленька здымаў шапку-аблавушку і ўверх вышараваным, што юхт, дном кідаў на стол. І сыпалі дзеду ў яго шапку грошыкі — хто пятачок, хто грыўню, а хто толькі гарбузікаў жменьку. І тады дзед абураўся:

— Марш са сваімі гарбузікамі на печ, пад спадніцу маці, няма грошай, нечага і да дзевак лезці.

— Ты што, дзед, ці то не ведаеш, як мужык цыгана гарбузікамі абдурыў.

— Не ведаю і ведаць не хачу.

— А ты паслухай, дзед. Пабіліся ў заклад мужык з цыганам, хто лепей чыіх дзяцей накорміць. Узяўся мужык цыганскіх дзяцей карміць. І абаранак, і булак ім, і пернікаў. Наеліся, пуза трашчыць. А ён ім яшчэ гарбузікаў. Прыходзіць цыган — і кідзель на стол поўную шапку цукерак. І не глядзяць яны на цукеркі. Цыгана чарга, той таксама даў пад'есці — штаны трашчаць. А мужык прыходзіць і жменю-другую гарбузікаў перад імі на падлогу. Дзеці ў бойку за тыя гарбузікі, як год нічога ў рот не бралі. А ты — марш на печ.

— Складна хлусіш, сам добры хлус, бачыў хлусоў, а такога не даводзілася,— гаварыў дзед Дзям'ян.— Пойдуць у дзела і гарбузікі. То не цыган дурны, а дзеці заўсёды есці хочуць...

І ўразаў польку-трасуху, блытаючы яе з кракавякам. Але ўсё ж гэта была музыка, і ішло ўсё ўверх дном і дагары нагамі. «На сопках Маньчжурыі» дзед іграў старанна, але ўжо стомлены, ужо недзе пасля першых пеўняў. І тады зноў хто-небудзь з хлопцаў гаварыў дзеду:

— А, дзед... твая музыка, граць не ўмееш.

— Я не ўмею граць? — шалеў дзед.— Забірайце свае грошы, каб і духу вашага не было,— і кулаком, як у вуха біў каму, шыбаў са стала аблавушку з капейкамі. Хлопцы навальваліся на тую аблавушку, забіралі свае грошы і разыходзіліся.

— Я граць не ўмею,— бурчэў Дзям'ян, падымаючы з падлогі шапку.— Ды каб вам так... як мне гралася,— і, раз'юшаны, у адзіноце брыў дамоў, каб заўтра пачаць усё спачатку.

Але ў апошні час, невядома калі і як, звяліся ў

Княжборы вячоркі, звёўся і гармонік. Хоць і жылі ўсе навідавоку, куды падзеўся той гармонік, Махахей і не ведае. А ён сумаваў па ім. Сумаваў у арміі, на фронце. Даў сабе зарок: жывы застанецца, нічым займацца не будзе, заробіць толькі на гармонік. Каля веснічак пад хатаю расце ў яго куст чаромхі, іншыя бэзу, жасміну насадзілі і віргіняў, а ён толькі куст чаромхі. І дрэва, і кветка, як ведаў, пасадзіў перад вайною. Укапае ён пад тым кустом лаўку, сядзе на ёй і ад раніцы да вечара будзе іграць і іграць польку-трасуху, кракавяк, «На сопках Маньчжурыі», а яшчэ «Зямлянку», «Кацюшу». Дзеўкам сваім будзе іграць, бабе сваёй, усёй вёсцы, а надакучыць слухаць людзям, дык ён вожыкам пачне іграць, яны жывуць пад прызбаю яго хаты і раніцай выходзяць на сонца, грэюцца ў кастрыцы, а вечарам калі-нікалі завітаюць і ў хату. І як пачнуць гойсаць па хаце, кошку ганяць, хоць вушы затыкай. Лапкамі, кіпцюрыкамі шкроб-шкроб-шкроб па падлозе, а потым чмых-чмых-чмых. Гэта, пэўна, на крошку тытуню наскочылі. Кіно. Аб гэтых вожыках ён таксама ўвесь час памятаў на фронце, як памятаў аб жонцы, аб дочках. І цяпер толькі ўзгадаў аб іх, як, дзіва дзіўнае, выкаціўся на сцежку пад самыя ногі яму вожык. Вялікі, стары, іголкі нават пажоўклі ўжо. Фыркнуў, чмыхнуў, нібы папракнуў нечым, стрэліў насцярожаным вокам, міргнуў сівымі павекамі і скруціўся клубком: вазьмі мяне за рубель дваццаць капеек. Заміргаў з-пад сівага брыва і Махахей, адклаў гармонік, схіліўся над вожыкам, пагладзіў іголкі. І не адчуў іх, і не таму, што мазалі былі як кара ў дуба, ніякімі іголкамі не ўкалоць, руку яго цяпер можна было рэзаць, агнём паліць, ён бы і не адчуў. Сэрца скалола.

— Гэта ты ўсё чакаў мяне,— сказаў ён.— Чакаў. Чакаў і састарэў. Узяў вожыка на рукі, як бяруць толькі жывое, прабіўся пальцам да мокрага і далікатнага носіка. Вожыку гэта не спадабалася, і ён зноў незадаволена чмыхнуў. Выхапіў гэты свой дакучлівы палец, абураючыся на сябе, на тое, што палез ім у душу зверу, мог і пашкодзіць што.

— Ну, не папікай мяне, не судзі, што не прыйшоў раней. Была вайна, ведаеш, якая,— уздыхнуў.— Тут, на сваёй зямлі, тры гады, і кожны чацвёрты. Я, слава богу, не выйшаў у чацвёртыя, у трэція ці ў другія па-

шанцавала трапіць. Потым пакацілася па чужой зямлі. Польшча... Ды што аб ёй табе гаварыць, сам ведаеш. А яшчэ ж зямля ёсць. Еўропа, і дзяржава на дзяржаве, і кожную аслабаніць трэба. Але і на тым не скончылася. Яшчэ і Азія на свеце ёсць, і там вожыкі жывуць. Усюды, брат, мы з табою. Не да музыкі было. І потым, якая музыка тут, кроўю ўмыешся, ліхам утрэшся, бядой укрыешся. Такая вось музыка, і кожны дзень ад святла да святла. Капейчына якая завозілася, дык толькі яе і бачыў, між пальцамі ўсё, між пальцамі, як пясок, мы яе ў дзверы, а яна праз акно. Але нічога, нічога, узбіўся ўсё ж на гармонік, хоць пальцы ўжо не гнуцца, а гармонік ёсць, браце, ёсць і мне што на крышку пакласці. А хочаш я табе пакажу свой гармонік. Пакажу і сыграю, як абяцаў, памятаеш жа, абяцаў. Абяцаў — выканаю. Пачакай толькі, пачакай, сыграю табе, як магу. Ты не пакрыўдзішся, не абгаворыш. Я зараз.

Махахей замітусіўся, заспяшаўся, перакаціў вожыка з адной рукі на другую і перастараўся, да крыві ўкалоў рукі, але не заўважыў крыві, не адчуў болю, паклаў вожыка на сцежку, хапатліва шчоўкнуў замкамі футляра, дастаў гармонік, узяў на грудзі і замёр, застыў як укопаны, не наважваючыся націснуць на кнопкі.

— Тут табе няёмка, няёмка на зямлі,— звярнуўся зноў да вожыка.— Ты давай сюды, на скрыню вось гэтую, на футляр, ён новы.— Уладкаваў вожыка на футляры, той зноў фыркнуў, удыхнуў, пэўна, нязвыклага яму паху скураміту, цыраты.

— Пачакай, пачакай, дай адумацца, што ж табе сыграць.

Махахей бездапаможна азірнуўся, нібы хтосьці мог направіць яго, падказаць і што, і як іграць. Але вакол былі толькі дрэвы, жылістыя вязы, лёгкая асіна, мноства асіны: танклявая і роўная, нібы точаная, і чэзлыя кусцікі яе, і асіна зусім ужо сухая, і толькі пянькі ад яе — гэта з боку рэчкі, дзе над дрэвамі папрацавалі бабры сваімі піламі-зубамі, дапяліся да дрэў знізу, ад каранёў, зрылі зямлю часовымі і пастаяннымі хадамі-норамі, дапяліся і зверху, працавалі стоячы, што людзі ўсё роўна пілавалі, пакінулі замест асін нейкіх лысых дзядкоў. І гэтыя пянькі-дзядкі, што разам з валасамі паскідалі і шапкі, агалілі свае жоўта-касцяныя

чарапы, стаялі ў радок адзін за адным, як у чарзе па музыку, нібы ў чаргу па музыку паўсталі і дубы, што раслі на былой нейтральнай паласе, якая згадвалася яшчэ і цяпер, па тым, як роўна расла тут трава і як стаўленыя разышліся па ёй тыя ж дубы.

— Што ж вам сыграць...— з застарэлым сумам і болем прамовіў Цімох, звяртаючыся цяпер, пэўна, не толькі да вожыка, які ўжо супакоіўся на футляры, чакаў, але і да дубоў, да дзядкоў-пянькоў, што пачціва агалілі перад музыкай шматпакутныя свае чарапы. Між тым на правай руцэ Махахея, на згібе ўказальнага пальца, выступіла ўжо кроў, вялікая чорная кропля, якая ўсё павялічвалася. Махахей расцягнуў мяхі і цюкнуў указальным пальцам па гузіках гармоніка. Гармонік усхліпнуў, кропля надламалася і аплыла, кроў слізганула на другія пальцы, віхляючы, дапаўзла за мезенца і спынілася. І толькі тут Махахей адчуў боль, паглядзеў на руку, паднёс яе да рота, злізнуў кроў. І зноў, цяпер больш рашуча і рэзка, крануў басы.

— Рас... —пачаў Махахей, але нешта яму не спадабалася, ён паўтарыў: «рас»... і яшчэ: «рас...» і павёў па складах, голасам, галавою і нават усім целам дапамагаючы непаслухмяным пальцам: — Рас-цве-тали-яб-ло-ни-и-гру-ши...— уліўся потам, пакуль скончыў радок, зняможана сеў на зямлю.

— Такая вось музыка,— хітнуў у бок натапыранага іголкамі вожыка.— Няма ў мяне табе музыкі — вось і ўся музыка.— І ўжо ні да каго не звяртаючыся, гледзячы ў далячынь нейтральнай паласы: — Вожыкі пад хатаю звяліся, кінулі хату. Чаромху зламалі, раздзёрлі, як бабу за ногі, надвае. І што яшчэ... Човен дзедаў на двары стаяў. Дык вось той човен выцягнулі на вуліцу і кінулі ў пяску сярод вуліцы: плыві, Махахей, куды хочаш, па пяску. Вось так. Затое мы цяпер з музыкай.

Махахей жаліўся, але без горычы, прыціскаў да грудзеў гармонік, як толькі што вожыка, як нешта жывое і бясконца дарагое яму, што з'явілася ў яго ўзамен адбалелага, узамен тых вожыкаў, што пакінулі яго хату, і той чаромхі, што зламалі.

Тры дні назад яго баба Ганна, баба — усё жыццё без хвароб, паднялася раніцаю, пачала ўпраўляцца і завойкала, завохкала: ох, падціскае нешта, гняце ў

правым баку, што кардопліну гарачую праглынула, увайшла яна ў жывот і не стыне.

— Пайшлі, баба, у бальніцу,— сказаў Махахей.— Ведаю я гэтую кардопліну, бокам і бобам вылезе яна.

— Ох, не, кабан жа галодны, травы запарыць трэба, накарміць.

— Лажыся, баба, кабану я сам дам, а пакуль паляжы спакойна, паглядзім.

Махахей дапамог легчы жонцы, заняўся кабаном, а тут набегла і іншай работы, пад абед толькі вальней стала, кінуўся ў хату, а жонка як і не начавала ў хаце. Сустрэў каля рэчкі, ішла-касабочылася і крывілася, і шкода было, і зло разбірала, але выгаворваць не стаў: пад рукі і ў хату, а з хаты — у дарогу. Ганна спрабавала адбіцца:

— Яшчэ трошачкі пачакаем, Надзька гусак прыгоніць. То ж нашы гускі прапалі, душа не на месцы...

Цімох і не слухаў яе, тое, што Ганна хоць і з галашэннем, але ішла за ім, палохала яго. Век, лічы, ужо разам пражылі, за гэты век ён вывучыў сваю бабу. Добрая яму дасталася баба, працавітая, памяркоўная, бурклівая мо трохі. Але ж без гэтага што за баба. Адымі ты ў яе гэтую бурклівасць, што бабе застанецца. Не, трэба нешта даць, трэба нешта пакінуць і бабе, каб было дзе адвесці ёй сваю душу, паказаць сваю натуру, інакш зашэрхне ў ёй усё жаночае і палезе чорт ведае што, ён і свету беламу не рады будзе. А так усё ясна і зразумела:

— Выцягнуў, пагнаў, як арыштанку. То я хваробы раней не ведала. Лекар свой, і платы не трэба, маці кожнай балезні траву ведае...

Махахей маўчаў, ведаў: яшчэ не час гаварыць яму. Ён добра ведаў і гэта: калі можна яму гаварыць, а калі лепей змоўчаць. Ведала аб гэтым і баба Ганна, таму і злавала, распаляла сябе:

— Самая ж гарачая пара настае. Спее ўсё, перастойвае. І ў гародзе, і на лузе. І на лузе...

Ганна спатыкнулася. Цімох зірнуў на яе: не, гэта яна не ад болю. Выбілася з пустой гаворкі, знайшла, чым дапякці яму. Час быў нешта сказаць і яму, адвесці бабу ад таго, што запала ёй цяпер у галаву, інакш не спыніцца ўжо сама, будзе піліць піла да вечара. Але ён усё ж прытрымаў язык: няхай працягвае, няхай гаворыць, мо за словамі ёй не будзе так ба-

лець. А балела моцна, ён бачыў гэта па яе твары, па чорных кругах пад вачыма, па ластаўчыным рабацінні, што выступіла на яе твары, як у маладой. Калі ёй вельмі балела, яго Ганна заўсёды так маладзела, і чаму гэта так, Махахей не ведаў, але як дзевачка станавілася, званчэй рабілася і ступала раўней, бы берраглася. Яму і неўздагад было, што гэта Ганна нарэшце ўспамінала аб іх і маладзела.

— Вось застанешся адзін,— між тым гнула сваю лінію, набірала ўжо вышыню баба Ганна.— Былы сенакос ляпнуў. Столькі суччa, столькі ламачча на сваіх плячах выцягнулі, каб з іх гізунты выцягнула, і ўсё сабаку пад хвост. Зноў усё спачатку... Ну чаго ты маўчыш, як вады ў рот набраў.

— Я не маўчу,— сказаў Махахей.— Ты толькі не чуеш мяне цяпер, а я гавару: усё спачатку, гавару.

— Во-во, дурня работа любіць.

— Дурня работа любіць...

— Ой, пагавары ты яшчэ, дык за ёмку ды ёмкай.

— Ёмкай... Толькі ты, баба, не ў хаце, не каля печы і гаршкоў. Няма тут, у лесе, ёмак.

— Трэба, дык знойдзем, не пераажывай.

— Ідзі, пашукай,— дазволіў Махахей і засмяяўся.

— Паглядзіце на яго, яно яшчэ і пасміхаецца. Усё жыццё толькі бабай камандуеш і здзекуешся, чужому чалавеку і слова папярок не скажаш.

— Не скажу.

— А то скажаш, насмелішся?

— Трэба, дык скажу, насмелюся.

— Калі толькі тое трэба ў цябе настане.

— Настане.

— Усё жыццё так: настане, настане. А ўжо вось і смерць настала, а табе яшчэ і не развіднела.

— Развіднела. Глядзі, як раз'яснела. То раней з-за дрэваў, кустоў свету божага не відно было, а цяпер глядзі, аж пакуль вочы не павылазяць. І дыхнуць тут нечым было, камарэчы столькі, надыхаешся, наглытаешся. І мяса не трэба. А цяпер — во.— І ён павёў рукой, паказаў ёй, колькі тут святла і як тут ясна, але збіць з таго, што ўзяла сабе ў галаву яго Ганна, было не надта проста.

— Дык глядзі ж, глядзі ў мяне, пачнуць новы сенакос дзяліць, каб не маўчаў да астатняга: на, божа, што нам нягожа.

— Не буду маўчаць, Ганна, лепшы сенакос наш з табою будзе,— паабяцаў Махахей, але баба Ганна яму не паверыла, і мела рацыю, яна таксама добра вывучыла свайго чалавека.

— Так ты ім і адгукнешся: дайце мне лепшы. Зноў у карчы, зноў іх секці, ламачча, лазу цягаць. Глядзі ўжо, каб хоць пад'ехаць можна было ды вывезці. Надзьцы волі не давай, няхай робіць, каб дурніца ў галаву не лезла... Я ў яе годы...

— Ды ты і цяпер, у свае годы, у мяне яшчэ на ўсе сто і з гакам.

— Так ужо і з гакам,— зардзелася баба Ганна; знайшоў ён усё ж ёй слова.— Старое ўжо ўсё, не здолею я ўжо, Цімох. Саскочу раненька, у думках маладая, здаровая, і за тое б схапілася, і таго б хацелася, і з'ела б усё, і работу ўсю перарабіла б, а пачну — не, не тая ўжо сіла, за стол —і кусок ужо горла дзярэ.

— Ды што ты, Ганна, мы з табою яшчэ сына маглі нарадзіць.

— Ото, дочкамі мяне папікаеш. Сораму няма, ссівеў жа ўжо.

— І ты не маладзенькая. А дочкамі я цябе не папікаю. Чаго мне іх саромецца. У цябе яны ўсе.

— Ой, не кажы так, Цімох. Дочкі ў цябе ўдаліся, як і трэба: у бацьку дочкі павінны ісці — шчасце будзе.

— Твая праўда, Ганна, у мяне яны пайшлі.

— Во, бачыш,— радавалася Ганна, радаваўся і ён: забылася жонка пра свой боль, удалося яму адвесці гэты боль. Так і тэпалі яны ўсе адзінаццаць кіламетраў. Дарога была знаёмая, не раз хаджаная, дзе можна яны скарачалі яе сцежкамі, якія вядомыя былі толькі ім. Але не заўсёды тыя сцежкі выводзілі іх, куды жадалася. Пераменлівы настаў час, змянялася і дарога, абрываліся, губляліся ў ламаччы, бураломе старыя сцежкі, абразаліся то вадой, то полем, якога раней тут не было, а цяпер во з'явілася. Абкружылі іх сяло, іх рэчку з двух бакоў, а мо і не толькі з двух, мо з усіх чатырох. Як і ў Княжборы, тут, за рэчкай, праводзілася меліярацыя, змянялася зямля. Па адну, левую руку ляжаў спляжаны лес: вольха, бярозы і дубок пракідваўся сярод іх, светлы і гонкі, бо хапала яму сонца — выцягнуўся ён, добра стаялі дрэвы, а цяпер во ляжалі, усе ў адной кучы, як раслі, выкарчава-

ныя з зямлі з каранямі і сцягнутыя ў адно месца. Іх спрабавалі, ужо як сцягнулі, падпаліць, але сырое дрэва не гарэла, толькі лісце ў бярозы пакруцілася ў колцы, сохла на сонцы. І суша стаяла вакол такая, што западаў язык, перасыхалі губы, Цімох увесь час аблізваў іх, бы ішоў праз агонь. І балела душа, гледзячы на гэтыя дрэвы, на багацце гэткае, не прымала, адмаўлялася верыць, што можна так ■ багаццем, ■ дрэвам, і балюча было думаць, што такое ж магчыма і з Княжборам. Ён адварочваўся ад загубленых дрэў, не трывала, сохла і запальвалася вока. Але па правую руку было не лепш, хаця там стаяла вада, вада сярод дрэў, гэткіх жа, як і злева ад яго: вольхаў, бяроз, дубоў. І дрэвы гэтыя стаялі. Але невядома, што было горай ім: суша ці вада, мёртва ляжаць у адной кучы ці жыць так, па пояс у вадзе. Яны чэзлі ў вадзе, высыхалі верхавінамі, і хутчэй за іншых вольха, а сярод вольхі — тая, якая вышэй і таўсцей — старыя вольхі і гінулі хутка. Макаўкі іх, голле зверху здаваліся ломкімі нават з дарогі, пайшлі ўжо шэрым мохам, з зялёнай яшчэ лістоты, як шэрыя свечкі, утыркаліся ў неба. А малады алешнік дужэў, чапляўся за купіны і ўзгоркі. «Старое, выспелае заўсёды падае першым, так ужо заведзена на гэтым свеце,— думаў Махахей, высмяглым языком выганяючы пустыя словы, каб толькі Ганна не пачула, аб чым ён маркоціцца, не ўбачыла нічога яго вачыма.— Падае першым не таму, што не трывалае ці аджыло сваё, а таму, што прымае ўдар на сябе». Гэтак і з дубамі. У дуброве самы стары, самы вялізны дуб у навальніцу прымае, бярэ на сябе маланку. Колькі вакол яго такіх жа дубоў, маладыя стаяць некранутыя, красуюцца, а стары дуб заўсёды пашчэпаны, бы асілак які лыка драў, і не толькі дуб, а і зямля каля каранёў узараная. Гэтак жа і сярод людзей, хаця на людзях гэта не так бачна, як на дрэвах. Людзі хаваюць свае балячкі пад адзенне, прыкрываюць іх маўклівасцю, а распрані, як дрэва, іншага чалавека, дык на ім і месца жывога не знойдзеш, мо таму і ўгінаюцца на старасці людзі, ашчаджаюцца ўжо, бліжэй да зямлі, да дзяцей імкнуцца. Хаця і дзеці, маладыя сёння пайшлі, толькі і чуеш: той памёр, той памёр, а ні таму, ні другому і трыццаці яшчэ не было — сэрца. Паліць, паласуе сёння маланка і маладых. Мо таму і паласуе, што ўчвараюць во такое. Не верыцца

Махахею, што пасля ўсяго гэтага — па левую руку, па правую руку — ацалее сэрца. Павінна яно надрывацца, крыкам крычаць, калі цішыня вось такая, мёртвая цішыня ў лесе, птушкі ніводнай не чуваць. І сарока-белабока не застракоча, і крумкач не закрумкае. А раней...

Птушка ўсё ж закрычала, ды так трывожна-спалохана і надрыўна, што сэрца зайшлося, бы дзіця побач заплакала, бы сам ён заплакаў, душа яго. І адразу ж у гэты крык грымнуў стрэл. Крыкі, рэха з усіх бакоў абложна набеглі на яго і Ганну, як хацелі іх збіць, утаптаць у зямлю. Мяцеліцай прыпадаючы да зямлі, праляцелі над імі чайкі, яны і крычалі. Махахей з Ганнай выйшлі з лесу на чыстае, на гала, з якога далёка праглядвалася вада — сажалкі рыбгаса, які і затапіў лес. Ля вады, каля сажалак, стаяў невялічкага росціку, але шырокі ў плячах хлопец у гумавых ботах ледзь не да жывата, у брызентусе на голае цела. Ён, пэўна, і страляў, у руках яго была стрэльба, са ствалоў якой яшчэ курэў дымок. Хлопец усміхаўся, гледзячы то на ваду, дзе анучаю білася нешта вялікае і шэрае, то на людзей, што падыходзілі да яго.

— Куды ж гэта ты страляеш, каго ж гэта ты забіваеш! — кінуўся да хлопца Махахей.

Хлопец усміхнуўся яшчэ шырэй і вельмі шчыра, добразычліва паказаў стрэльбай на птушку, што білася ў вадзе, другой, вольнай рукой правёў па горле: напавал, маўляў. Але Махахей зірнуў не на птушку, ён пазнаў яе, то была добрая птушка — пільна ўгледзеўся ў твар хлопца. І не ўбачыў на ім нічога злачыннага ці нават злоснага, добрыя былі і вочы ў хлопца, ласкавыя, прыветныя і рахманыя, як у хатняга бычка, і нос, як у бычка, таўсматы, мо занадта таўсматы, і моцны, бычыны.

— Што ж гэта ты творыш? — спатыкнуўшыся вачыма аб гэты яго нос, хутка, як і запаліўся, згубіў свой запал Махахей. А хлопец, што стаяў перад ім, і было яму гадоў дваццаць пяць, дваццаць шэсць, усё вадзіў і вадзіў рукою па горле. А стрэльбай паказваў на шэрыя анучыны ў вадзе.

— То ж шэрая чапля,— сказаў Махахей.— Яе ж зусім небагацька засталося ў нас, па пальцах пералічыць можна. А то буслы,— Махахей паказаў на птушак, што стаялі далёка ў вадзе, недаступныя стрэльбе,

і тым не менш трывожыліся, гатовыя кожную хвіліну ўзняцца ў неба.

— Ты і іх палюеш? — спытаў Махахей.

Хлопец пагразіў буслам стрэльбаю, павярнуўся да Махахея, затрос тупым носам, замычэў.

— Ды ты нямы...

— Нямко ён,— пацвердзіла баба Ганна.— Пойдзем, Цімошка, з ім не згаворышся.

Але Махахей марудзіў, а хлопец нешта тлумачыў яму, мітусіўся ў паветры рукамі, зводзіў далоні і адразу ж разводзіў іх, ускідваў правую руку ўгару, ускідваў галаву, зяўрыў рот, клекатаў горлам, хуценька-хуценька торгаючы такім жа тупым і моцным, як і нос, кадыком. Пагражаў і буслам: стрэльбаю і кулаком.

— Рыбу тваю паелі буслы і чаплі,— разумеючы і спачуваючы, толькі невядома каму: буслам ці хлопцу, хітаў галавой Махахей.— А тое, што яны жывыя, таму і ядуць, табе не шкада іх. У жывое ж страляеш.— Стукаўся ў яго вушы Махахей, забыўшыся, што перад ім глуханямы і крычаць яму ўсё роўна, што аб сцену біцца галавою, не дакрычышся і не даб'ешся. Страляць ён мог, вочы бачылі, рабіць мог, рукі вунь якія дужыя, моцныя і вялікія, пальцы, што долата, такімі пальцамі схопіць — не выкруцішся. І Махахей глядзеў на яго ўжо з перасцярогаю, а ў той жа час і са спадзяваннем. І яго ж рукі гэткія, і пальцы гэткія, дык чаму ж яны не здольныя зразумець адзін аднаго,— глядзяць аднымі і тымі ж вачыма на адзін і той жа белы свет, а бачаць рознае.

— Ты ж у сябе, у сябе страляеш,— сказаў ён з болем, нібы гаварыў сабе, нібы ён і страляў, параніў тую чаплю.

Хлопец жа зяўрыў рот, шчэрыў зубы, не чуючы яго слоў, але па руху губ разумеў, што да яго звяртаюцца, нешта кажуць яму, і адгукаўся на маркотныя і скрушлівыя словы Махахея шчырай і добрай усмешкай.

— Не разумееш ты мяне,— сумаваў Махахей.

Нямы ўскідаў да пляча стрэльбу, цэліўся ў буслоў, плюшчыў адно вока, а другім цікаваў за Махахеем, пагладжваў стрэльбу: добрая, маўляў, штукенцыя, ды і стралок добры, можна не сумнявацца, ён перастраляе ўсіх гэтых буслоў.

— Не разумее ён цябе, Цімошык, пайшлі,— цягнула за крысо мужыка Ганна, але Махахей упарціўся.

6 Зак. 2507

Хоць і нямы, без языка, быў перад ім чалавек, але ўсё ж чалавек, душа ў ім усё ж жывая была. А чалавек чалавека, душа душу павінны разумець.

— Ты ж таксама, як птушка, як бусел, як чапля,— хапатліва гаварыў няМОМУ Махахей.— Гэткі ж, як і яны. Яны без языка, і ты без языка. Ты ж ім больш родны павінен быць, ім, а не мне, ім,— і, мо гэта здавалася яму больш пераканаўчым, тыцкаў, тыцкаў няМОМУ ў грудзі пальцам і паказваў пальцам на чаплю, што ўсё яшчэ трапятала на вадзе, на ружовую пляму, што разыходзілася ва ўсе бакі ад яе, і на жывых буслоў. Нямы, здаецца, нешта пачаў цяміць, пагаджаўся з ім, лыпаў добрымі, як у хатняга бычка, вачыма, і штосьці журботнае, падстрэленае выспявала, запасілася ўжо ў яго вачах.

— Ну вось бачыш, вось бачыш, мы ўжо разумеем адзін аднаго,— узрадаваўся Махахей.

Але нямы зноў ускідваў стрэльбу да пляча.

— А каб цябе, прападзі ты пропадам,— ніякавеў Махахей.— Дык дабі ж ты хоць тую, дабі, каб не мучылася.

Махахей і сам, што нямы, замітусіўся рукамі, пачаў паказваць, што пераломвае стрэльбу і зараджае яе і цэліцца ў чаплю. І губамі, бы не свайму чалавеку, а немцу, запыхаў: — Пых-пых, пуф-пуф.

Але нямы зразумеў яго, загнаў патрон у ствол, прыладзіўся. Чапля, нібы прадчуваючы сваю пагібель, узняла з вады шэрую чубатую галаву і чубікам гэтым, як чарацінаю, удзячна хітнула ўсім ім траім і чацвёртаму — смерці падзякавала, стрэлу. Смяртэльны стрэл і апошні крык птушкі супалі, зліліся ў адно. Шыя чаплі пругка сцебанула па вадзе і знікла пад вадой, збіты шротам, узляцеў угару чубок і таксама ўпаў на ваду, патануў. Ганна і Махахей здрыгануліся ад стрэлу і крыку птушкі і самі ўскрыкнулі, а нямы толькі пахіснуўся, пэўна, аддала стрэльба, адышоў галавою назад і імгненна вярнуў яе на тое ж месца, дзе яна была раней, так здае назад, вяртаецца на сваё месца пасля кожнага стрэлу гармата. І вочы яго цяпер ужо не ўдавалі добрымі, і тупы нос выказваў рашучасць, вачыма, носам ён быў ужо скіраваны на новы стрэл: такая ж добрая, паслухмяная стрэльба, такі ж трапны стралок.

— А ў мяне так трапна, так спрытна таксама мо-

жаш? — падступіў да яго, закрычаў, бы да яго можна было дакрычацца, Махахей.— Давай пасапрабуй у мяне.

— Ты што, Цімох, адумайся, Цімох! — Ганна адцягвала яго ад нямога. А той здзіўлена пазіраў на іх твары, не разумеў, чаму яны такія злосныя і спалоханыя. Мо ён чакаў, што яго ўхваляць, а яны...

— Давай, давай у мяне! — ірваў на грудзях сарочку Махахей.— Вось сюды, дзе сэрца.

Нямы адмоўна і спалохана круціў галавою.

— Брэшаш, можаш, можаш...— Баба Ганна ўрэшце адцягнула яго ад нямога і пагнала кулакамі ў плечы.

— Што ты прычапіўся да чалавека. Ведае ён, што творыць, далі яму стрэльбу, загадалі: страляй. Вось ён і страляе. Ён жа без паняцця, хто ведае, што ў яго наўме. Дапячэш — ён і па табе пекане. Стрэліць — і ўсё, што ты яму скажаш.

— Хай страляе,— хмурна адзываўся Махахей і паварочваўся, крычаў нямому: — Давай, давай не марудзь. У лёт, у лёт мяне. Старому мала трэба. Старое хутка падае. Дабівай, дабівай.

Нямы спрабаваў нешта адказаць яму, але толькі мыкаў, клекатаў горлам, як бусел дзюбаю, і разводзіў рукамі.

— Баліць? — спалохаўся Махахей, калі яны ўжо падышлі, ступілі ў горад, прыкмеціўшы, як угінаецца і курчыцца яго баба Ганна.

— Баліць,— адказала жонка. Махахей са спачуваннем і ўдзячнасцю зірнуў на яе і змоўк, па голасу адчуў і зразумеў, што жаліцца яна не на той боль, які рвецца вонку, а на той, што грызе яго. Яны як бы памяняліся болем. Махахей узяў яе, яна — яго боль, і ішлі яны цяпер, адчуваючы адно аднаго і падтрымліваючы адно аднаго, з адной і той жа пакутаю, нават ураўняліся і ў росце, так іх сагнула і прыгняла агульная іх бяда. Ішлі па старым і сумным гарадку, у якім з даваеннага часу нічога не змянілася, сам час, здавалася, замёр тут, расцёкся па брукаваных вуліцах, расплыўся, растаў у паравозным дыме, у паравозных гудках, у цішы цэркваў і касцёлаў, што стаялі ў засені дрэў. Час абмінуў, абышоў гарадок бокам, віхурна ўварваўся ў іншыя гарады і нават вёскі. І гэтыя гарады і вёскі абнаўляліся, будаваліся, а тут усё застава-

6*

лася нязменным. Ціха раскручвалі педалі веласіпедаў-ровараў мужчыны і жанчыны, што капою ўссядаліся на гэтыя старажытныя свае веласіпеды. Шмат чаго будавалася і побач з горадам, у непасрэднай блізкасці ад яго, той жа рыбгас і нават новы горад, да якога адсюль было кіламетраў восем-дзесяць. Там нешта знайшлі, размясцілі, выявілі ці то нафту, ці то соль, ці то камень нейкі, а мо адразу і нафту, і соль, і камень. Але рыбгас і гэтыя знаходкі ніяк не адбіліся і не вельмі, здаецца, уплывалі на жыццё горада, хіба толькі з'явіўся невялічкі магазінчык каля вакзала з вялізнай шыльдай: «Рыба — мяса», рыбгас жа рабіў не на гэты магазінчык і нават не на магазін таго новага горада, што будаваўся непадалёку. Машыны з надпісам «Жывая рыба» брукаванкаю і асфальтам толькі праскоквалі восенню каля гэтых гарадкоў, выхопліваліся на бетонку і знікалі ў безлічы кіламетровых слупоў. Прысутнасць побач вялікай будоўлі таксама не вельмі адчувалася тут, толькі трохі пабольшала людзей у джынсах і скураных куртках, што, трэба адзначыць, не вельмі стасавалася са старымі і крывымі вулачкамі. Раніцай і вечарам пабольшала людзей у камбінезонах, заляпаных вапнаю, цэментам і фарбай. І гэтыя людзі таксама не вельмі стасаваліся да аднапавярхоўнасці драўляных хатак, таму што нічога каменнага, шматпавярховага тут не будавалася і нічога патрэбнага, неабходнага для гэтай будоўлі не знаходзілася, не здабывалася, не выяўлялася, не мелася, апрача, канечне, людзей. Апрача рабочых рук, стары горад нічым не мог дагадзіць новаму часу, нічым, апрача даўніны і старажытнасці, не быў адметны. А каму гэта магло спатрэбіцца? Таму і затухала жыццё ў ім, пэўна, і ўцякала бетонкаю рыба, і нічога не будавалася. Навошта гэтую старызну абнаўляць і кармiць, само пракорміцца, само збудуецца — усё роўна ж усё асуджана ўжо на паміранне, на выцісканне тым нецярплівым, гучным і трубным новым. І бальніца і амбулаторыяй туліліся тут у старых драўляных, хоць і двухпавярховых, будынінах. Махахеям давялося пахадзіць і па лесвіцах і калідорах, хірург і тэрапеўт, што вялі сёння прыём, ужо адрабілі сваё. На месцы быў толькі адзін акуліст, сумаваў сярод развешаных па сценах табліц з літарамі.

— Не мой профіль,— сказаў ім акуліст,— ідзіце ў бальніцу да дзяжурнага ўрача.

І дзяжурнага ўрача на месцы не было.

— Адлучылася па справе,— растлумачылі хворыя.— Але не бойцеся, хутка будзе, яна недалёка адсюль жыве.

І сапраўды, урач, сівая, у акулярах, адных з Ганнаю гадоў жанчына, з'явілася хутка і разлучыла Махахея з жонкай.

— Апендыцыт,— паведаміла яна Махахею, з'явіўшыся ў пакойчыку, дзе ён чакаў, якім будзе прыгавор жончынай хваробе.

— І што ж цяпер,— спытаў ён, сумеўшыся, ведаючы, што цяпер, але напалоханы і крыху пакрыўджаны будзённым голасам урачыхі, нібы апендыцыт тое ж самае, што і насмарк.

— Рэзаць,— урачыха хацела пайсці ўжо, але затрымалася, зірнула на Махахея, супакоіла.— Не хвалюйцеся, кожны дзень рэжам, усе жывы-здаровы. Па такой хваробе яшчэ сто год пражыве.

Пасля гэтых яе слоў выйшла да яго і Ганна, зашаптала, азірнуўшыся на ўрачыху:

— Ты ўжо калі прыйшоў у горад, каб не па-пустому было, купі сабе гармонік.— Махахей паспешліва схапіўся за кішэню, дзе ляжалі грошы, што ён адкладваў на гармонік, даўно ляжалі, ды не раз збягалі, заўсёды знаходзілася што-небудзь іншае, куды больш неабходнае, чым той гармонік. Намацаў ён і цяпер тыя грошы і адвёў руку, сказаў з дакорам жонцы і сабе:

— Знайшла час аб гармоніку думаць.

— Я прашу цябе,— сказала Ганна.— Прашу, хоць буду ведаць, што ты ўрэшце набыў яго.

І ён паабяцаў ёй тады, вымушаны быў паабяцаць, што купіць гармонік, во зараз з бальніцы і папрастуе да магазіна. І схлусіў. Пакружыўся каля бальніцы, вырашыў: не да музыкі. Вось выпішацца Ганна з бальніцы, прыбяжыць ён забіраць яе, тады тое і будзе: баба жывая, здаровая ў хату, і ён з гармонікам у хату — свята. А так што святкаваць.

Але калі ён зноў прыбег у бальніцу, баба Ганна ўсё ж настояла на сваім, падпаўзла да адчыненага акна, і першыя словы:

— Купіў гармонік?

— А табе што, ужо ўсё зрабілі, не балела?

— Ты мне зубы не загаворвай, купіў гармонік?

— Ганна, што ж ты робіш, табе ж і падымацца яшчэ нельга.

— Нельга, а во стану тут і не крануся, пакуль з гармонікам цябе не ўбачу.

«Чортава баба,— задаволена ўсміхнуўся Махахей,— во натура: уваб'е што ў галаву, і колам не выб'еш».

— Памру тут, во як бачыш памру.

— Ідзі, дзядзька, ідзі па гармонік, ды спяшайся, пакуль не разабралі,— гэта ўжо таваркі Ганніны дапамагалі ёй. А неўзабаве і з іншых вокан як не ўся бальніца ўжо крычала:

— Купі гармонік, купі гармонік!

Смешкі ім усё. Так проста, думаюць, яму — пабег у магазін, адлічыў грошы і панёс гармонік. І Ганна як з глузду з'ехала, не разумее яго, першы раз за ўсё жыццё не разумее. Ён у тым магазіне не толькі набываў нешта, але і губляў, пакідаў, адрываў ад сэрца, і не грошы, не ў грошах справа. Грошы як прыйшлі, так і пойдуць, але цяпер разам з імі адыдзе і радасць, думка радасная, што столькі год саграваяла яго: вось зойдзе ён у магазін, палюбуецца там на гармонікі, што стаяць на прылаўку, пройдзецца перад імі, уяўляючы, як у свой час возьме ў рукі адзін з іх, самы лепшы. Ён сам скочыць яму ў рукі і будзе яго. Ён звыкся з гэтымі думкамі, як звыкся з белым светам. І мо яму ўжо і не трэба быў той гармонік, а толькі думка, вечная думка аб ім. А цяпер яго разлучалі і з гэтай думкай, з гэтай марай, і хто, родная жонка адымала апошняе мо, што меў ён. Адымала, праўда, не проста, давала ўзамен намуманага, згаданага і ўяўнага нешта акрэсленае, тое, чым ён праеў ёй ужо галаву. Гармонік. А ён адмаўляўся ад яго. Адмаўляўся працягнуць руку і ўзяць тое, што праг мець, такое пажаданае. Яго цяпер палохала гэта пажаданае. Не меў — маліўся на яго здалёку, з'явілася магчымасць займець — спалохаўся да смерці. «Ах, бабы, бабы,— наракаў ён, стоячы пад вокнамі бальніцы,— усё б вам рукамі, аб чым толькі б не падумалі, усё б у свае рукі ўплясці».

— Купі гармонік, купі гармонік, мужык,— усё яшчэ гарлалі вокны бальніцы. А ў адным з іх на другім паверсе стаяла яго баба, яго Ганна, і ўсміхалася скрозь боль, ведала ўжо, што купіць, нікуды не дзе-

нецца. І ён вымушаны быў купіць. І пайшоў. І купіў. Як у тумане, адлічыў грошы і амаль што зненавідзеў гэтую сваю пакупку, нёс яе, як чужую, бы ўводзіў у хату маладую жонку. Ведаў яе, сам выбіраў, кахаў больш, чым жыццё, праг да беспрытомнасці як мага хутчэй увесці яе ў сваю хату. І толькі на парозе гэтай хаты як працвярэзіўся, задумаўся: а як гэта складзецца іх жытка, бо гэта ж на ўсё ўжо жыццё.

Пакуль не сустрэў вожыка, баяўся і дакрануцца да гармоніка. І быў рады той сустрэчы, бо як не адзін адказваў цяпер за зробленае, здаецца, і вожык дзяліў з ім і страты, і радасць, вожык мог пазбавіць яго расчаравання. І толькі ўжо калі пайграў ён вожыку, памучыўся і прывязаўся да гармоніка, толькі тады прыйшло пачуццё страты, з'явілася нясмела яшчэ пакуль, але ўсё ж радасць.

І ён бег, нёс гэтую сваю радасць, адчуваў яе вагу і пах, як адчуваў некалі вагу і пах ботаў, што надзеў першы раз. Боты і гармонік мелі адзін і той жа пах, і Махахей, удыхаючы цяпер яго, успамінаў тыя першыя свае боты і ўсміхаўся памяці, не спяшаўся выйсці на людзі, баяўся, што людзі не зразумеюць яго і, чаго добрага, яшчэ і асудзяць, і не хацеў ён нікому паказваць сваю радасць, ні з кім не хацеў дзяліцца ёю, таму і даваў кругаля кіламетры з тры, каб сцежкамі з боку лесу падысці да вёскі і гародамі праскочыць у сваю хату. І за тры кіламетры ад вёскі, на кручку, дзе амаль ніколі нікога не бывала, дзе стаяў яшчэ не крануты лес і рэчка пляла амаль што карункі, рабіла адразу тры пятлі-кручкі, ён перабрыў па мелкім на другі бераг, пасядзеў трошкі пад лясным і рачным спакоем на грудзе белага пяску, пасядзеў бы і больш, добра тут было, заўсёды ціха, лёгка заўсёды, але камарэча вымусіла прыспешваць, абляпіла голае цела, пагнала ў дарогу.

Выйшаў Махахей, як і намячаў, каровінымі сцежкамі прама да свайго гарода. Беражна перанёс над жэрдкамі і паставіў у бульбоўнік сваю пакупку, а сам застаўся па другі бок гэтых жэрдак, замёр каля ясакара, углядваючыся ў лісце і цвет бульбы: ці няма каларадскага жука, у гэтым годзе трохі раней яго было чамусьці асабліва багата. Навала прама нейкая. Скараспелку Аркадзя Барздыкі вынішчылі, лічы, усю. Як заўсёды, ён, Барздыка, хацеў схітраваць, пасадзіў ра-

ней за ўсіх амаль што ў снег, каб да таго часу, калі вылезе жук, яна і паспела ўжо, а жук абдурыў і Барздыку, вылез не па раскладу рана, і на зуб яму амаль што нічога і не было, акрамя гэтай бульбы Барздыкі. Вось ён і налёг на яе, і як Барздычыха ні білася, чым толькі ні нішчыла жука, засталіся ад гіча ў яе гародзе адны толькі пянькі. Але намаганні яе ўсё ж далі плён, столькі звяла яна таго жука, што во цяпер стаіць яго, Махахеева, бульбачка чыстая, дзе-нідзе на куст жучок ці то два — на іх можна і не зважаць. Але ж на душы Махахея не было спакою. Хата прыгнятала яго, гэта ж дзве хаты ёсць, і амаль што ніводнай. Старая ўжо развальваецца, а новая яшчэ не дабудавана. Былі б хлопцы, а не дзеўкі ў яго, даўно б ужо ўлез у новую хату і ўлазіны справіў даўно. А так толькі бусел у новай хаце яго жыве, падлогі яшчэ не клаў, ды і аб страсе думаць трэба. Лесапілка за бетонкай, перадавалі яму, зноў пачала рабіць, і лес на падлогу ўжо куплены і вывезены да той лесапілкі, але як і з кім папілаваць яго, з кім забраць. Адны бабы ў хаце. Дарэмна мо і звязаўся ён з гэтай будоўляй. Адно, што чуткі ідуць: ссяляць іх будуць з гэтага месца, а другое — паслухаўся бабы, Ганна яго падбіла распачаццa: у людзей хаты як хаты, а тут курэнь. Яна ж потым, Ганна, першай і сумненне выказала: мо й нічога і не трэба нам, да дачок жыць паедзем. А тыя дочкі... Старэйшая ў Казахстане, ці ж блізкі свет, дый воўна толькі адна там. Дачка гоніць пасылкі з гэтай воўнай, а сабе просіць мяса, сала, на чым тады толькі тая воўна там расце. Дом у яе, праўда, свой, вялікі, гаворыць. Толькі які ён ні вялікі, а куды з такой зграяй, як жа, разляцеўся там зяць, чакае іх не дачакаецца. Адно — пасылку паслаць, зусім іншае — самому з'явіцца. Ды і з'явяцца — хто пасылку пашле, адкуль мяса і сала прыйдзе, хто нагадуе яго. Другая дачка Махахея ў Маскве. Піша, мяса і сала хапае, але ўсё просіць рыбкі сушанай з рэчкі. А сёлета што ўздумала, са слязьмі да ног маці прыпала: стаў, маці, кросны, тчы палатно, пакрывалы ў модзе сёлета, вялікія грошы за іх у Маскве даюць. У якой гэта хаце, у хляве ці на гарышчы сёння ў вёсцы захаваліся тыя кросны? Іх у той жа Маскве сёння прасцей адшукаць, чымсьці ў вёсцы. Але рыба, кросны — гэта прыдур, ад таго, што мяса і сала хапае. Ніколі ні за якія грошы не паедзе ён паміраць

у горад, самой жа дачцэ жыць там няма дзе. Масква не Княжбор, хату там сярод асфальту не паставіш. Не паедзе ён і ў Мінск. Мінская дачка, Алена, таго і глядзі, сама тут апынецца. Баліць у яго за Алену сэрца, не склалася ў яе сямейная жытка. І хто вінаваты — разбярыся, чалавек яе не без паняцця, і Алена яго не з апошніх. А вось не бярэ іх мір. Закружыў галаву дзеўцы кручень той, Мацвей Роўда. Адной закружыў і другой кружыць.

У двары забрахаў сабака, нехта торкаўся, скробся ў варотцы. Махахей кляновым лістом пераляцеў цераз жэрдкі, схапіў гармонік і, угінаючыся, пабег да хаты: апярэдзіць таго, хто ідзе, схаваць гармонік, а потым ужо сустрэць, каго бог ці чорт нашле. Але ўтаіцца яму не пашчасліўіла. Ён на ганак, і Ненене ў двор. І сабака са скуры лужыцца — і чужога ўбачыў, і гаспадара, і гаспадару служыць рады, хвастом у яго бок пакручвае, і чужога прагнаць хоча.

— Ой, абарані, Цімошка, загрызе.

Але Цімох як і не чуў, як і не бачыў Ненене, бокам, бокам, не падымаючы галавы, і ў хату. У хаце апамятаўся і збянтэжыўся, што гэта ён дамоў да сябе, як злодзей, крадзецца, напужаў і здзівіў маці і дачкою, што ён носіцца з гэтым гармонікам, як дурань з пісанаю торбай, не ўкраў жа, купіў. І ён хуценька выскачыў зноў на ганак, адагнаў ад Ненене сабаку, правёў яе ў хату.

— Ох, думала, кончыць. А ты што ад мяне, Цімох, як ад дзеўкі, бегаеш.

— Я не думаў, што гэта ты,— заружавеў, адгаварыўся Махахей, добра, што Ненене не адчула гэтай яго адгаворкі і ў хаце па кутках прыцемак ужо, ні Надзька, ні маці не прыкмецілі, што яго ў чырвань кінула.

— Як там Ганна? — спытала Ненене. І Надзька пытала яго вачыма аб тым жа самым, аб маці.

— Добра, добра,— з палёгкаю ўздыхнуў Махахей.— Дзён яшчэ тры-чатыры, кажа, і дамоў.

— Ну то і слава богу.

І ўсе трое, маці яго, Ненене і Надзька, цяпер ужо ўталопіліся ў яго пакупку, не адрывалі ад яе вачэй. Махахей хацеў і не мог нічога прыдумаць, каб адвесці іх ад гэтай пакупкі, нічога не прыходзіла ў галаву, адно лезла на язык — лесапільня, дошкі на падлогу, па якія трэба было ехаць на тую лесапільню, і ён ужо

хацеў сказаць аб гэтым, разумеючы ўсю недарэчнасць сваіх слоў: Надзька вось-вось адамкне замкі, халера на іх, робяць цяпер тыя замкі, і гармонік выявіць сябе.

— Ганна вымусіла купіць,— нечакана для самога сябе пачуў ён свой вінаваты голас.

— Мне? — узрадавана выгукнула Надзька.

— Нос у ...смятане,— зірнула на яго і ўсміхнулася маці.— Купіў усё ж.

— Што купіў?

— Грала сабе, унучка, набыў.

Надзька ўжо справілася з замкамі і цягнула за рэмень, бы моркаўку за косы з грады, гармонік з футляра. Выцягнула, паставіла на стол, гармонік ледзь чутна піскнуў і замёр, спуджана паблісккваючы, разглядаючы перламутравымі белымі і чорнымі вочкамі-гузікамі незнаёмых яму людзей, незнаёмую хату, ужываючыся ў гэтую хату, ўграваючыся пад сонцам, што падала на яго з акна, як коцік на стале, і ледзь не мурлычучы, як коцік. Надзька расчаравана чмыхнула і адышлася ад стала:

— Лепей бы ўжо магнітафон купіў.

— Магнітафон. А што, купім і магнітафон. Вось адбудуемся, улезем у новую хату, купім і магнітафон.

І гэтыя яго словы як падсцябнулі яго, надалі яму рашучасці і ўпэўненасці, выклікалі жаданне, не адкладваючы, зрабіць нешта, і, не прымаючы пярэчанняў, ён загадаў Надзьцы:

— Каб заўтра зранку была на нагах, раненькім-раненька паедзеш са мной на лесапільню. Будзем хату дабудоўваць. Матка з больніцы — і ў новую хату. А я зараз пабег, і есці не буду, дагаворвацца наконт коніка.

І ён сапраўды хацеў ужо бегчы прасіць таго коніка, але яго спыніла Надзька:

— А мне не трэба хаты. І не буду яе будаваць і дапамагаць. І нікуды не паеду.

— А каму ж трэба? Для каго я кручуся?

— Табе трэба.

— Так яно, так,— западтаквала Ненене.— Бацьку заўсёды больш за другіх трэба. І хата яму трэба.

— Мне, хата? — Махахей як з разгону наскочыў на сцяну. І зірнуў на сцяну, што была перад ім, з акенцам у гарод, да якой быў прытулены стол з гармонікам на ім, павярнуўся да другой сцяны, таксама з акен-

цам, але ўжо не ў гарод, а на новую хату, на стружкі каля яе, не затрымаўся вокам на гэтай сцяне, павярнуўся да трэцяй, глухой, дзе быў паўзмрок, усутыч з печчу стаялі палаці і ляжала на гэтых палацях яго маці, а некалі, вельмі-вельмі даўно, калі ён яшчэ пад стол пешшу хадзіў, спаў на тых палацях і ён, так ужо было заведзена ў гэтым доме: палаці заўсёды належалі малым і старым. І хаця Махахей ужо даўно перабраўся з іх на ложак, ён памятаў кожны паз, кожную шчыліну і кожнага цвыркуна, што біў у тых шчылінах. І яму былі вельмі дарагія гэтыя шчыліны, цвыркуны і старое бярвенне. Ён зусім не хацеў новай хаты.

— Мне нічога ўжо не трэба,— сказаў ён,— для цябе распачаліся, Надзька.

— А я ўсё роўна ў ёй жыць не буду. Ні ў новай тваёй хаце, ні ў старой не буду.

— Я старой хаты не пакіну. Не аддам я на разор вам гэтай хаты,— азвалася з палацяў маці Махахея.— Забяру, панясу з сабою, табе, табе яе прынясу,— гаварыла яна, углядаючыся ў столь, бы нехта там быў перад ёй, лунаў перад яе позіркам у паўзмроку палацяў. Махахей зірнуў на яе і падумаў, што загаворваецца ўжо маці, не звярнуў увагі на яе словы, і дарэмна, як высветлілася ўжо значна пазней, не звярнуў увагі. Але яму шчымела сэрца за дачку, за Надзьку, і ён спытаў яе:

— А дзе ты будзеш жыць, дочухна, дзе ж, як не ў хаце?

— Знайду дзе, ты не думай пра мяне.

— А пра каго ж мне думаць?

— А я мо замуж пайду. Мо я ўжо не дома, не за табою, а за мужыком ужо.

— Не-не-не, Надзька,— кінулася на дапамогу зніякавеламу Махахею Ненене.— Што гэта ты чаўпеш? Я ж ведаю ўсё, за бацькам ты яшчэ, нікога ў цябе няма. Пашкадуй бацьку.

— Як гэта няма, баба Тэкля, калі ёсць. Ужо і басаножкі мае ў яго хаце.— Надзька засмяялася.

— Якія басаножкі,— разгневаўся Махахей так, што маці перастала ўзірацца ў столь, адагнаў ён ад яе гэтым сваім гневам кагосьці нябачнага ім. Тое, што яго Надзьцы не патрэбна будзе новая хата, ён ведаў, ведаў, што ні на якую лесапільню не паедзе яна з ім, і не збіраўся ён браць яе з сабою, шмат да чаго ён ужо

быў падрыхтаваны. А вось пра басаножкі чуў упершыню. І гэта недарэчная навіна, глупства нейкае, але глупства датычылася яго дачкі, і гэта збіла яго з панталыку.

— Якія басаножкі? — цяпер ужо жаласна спытаў ён.— Чаму я аб іх нічога не ведаю?

— А табе, бацька, і ведаць нічога не трэба,— падгарнулася да яго, падласцілася Надзька.

— Не трэба мне і ведаць?

— Не трэба, бяры свой гармонік, грала сваё бяры і грай сабе.

І Махахей паслухмяна ўзяў сваё грала, свой гармонік, ён зноў піскнуў у яго руках, бы спачуванне выказваў, прызнаваў гаспадара, і пайшоў з хаты на лаўку, пад разадраную надвае чаромху, што ўжо адплакала сваё і цяпер сохла і была абыякавай да ўсяго. Махахей з Ганнай спрабавалі неяк яшчэ выратаваць дрэва, ён вяроўкай сцягнуў палавінкі, Ганна абмазала іх глінай, забінтавала сваёй кофтай. Але гліна, вяроўкі і кофта не ажывілі чаромху, толькі падоўжылі паміранне. З кожнай палавінкі дрэва выскачыла па галінцы, пэўна, дзесь у кары сядзелі пупышкі і ў добры час не захацелі вылезці на свет, а тут гора вымусіла іх, галінкі схапіліся расці, і вельмі хутка, як асобна ад дрэва, як не належачы яму. Дзеля гэтых апошніх галінак і жыла цяпер чаромха, аддаючы ім усё, што магла здабыць у зямлі, што было ў яе зморшчаным целе, што яшчэ прапіхвалася па яе зморшчаных венах, усю вільгаць і сок, кроў. І песцячы іх, тое-сёе давала і іншаму веццю, і гэтае іншае спрабавала нават зацвісці, спрабавала выкінуць квецень, але сокаў, пэўна, было ўжо вельмі мала, квецень была вартая жалю, сухотная, пялёсткі з'едзеныя, жоўтыя. Побач з гэтым бляклым цветам у пажухлай лістоце няроўна спелі і зморшчаныя ягады. Цвет, ягады і жаўклявае лісце, голае вецце — усё сышлося разам, усё адной парой, бы дрэва ведала, што дні яго ўжо злічаны, і ў гэтыя кароткія дні спрабавала сумясціць несумяшчальнае: і вясну, і лета, і восень, і зіму; у адзін дзень ці тыдзень завяршыць цыкл, на які прыродаю адпушчаны месяцы — год.

Махахей уладкаваўся ў рэдкім ценю сухога дрэва, амаль што на адкрытым сонцы, побач з ім села Ненене. Корпаліся ў пяску куры, кошка задумліва сачыла

за імі, седзячы на слупе варотцаў. Махахей расцягнуў мяхі, бы сляпы, але вельмі рашуча тыцнуў знямелым пальцам на кнопку: рас. І зноў: рас. І пацягнуў: расцве-та-ли-яб-ло-ни-и-гру-ши...

Кошка ўцякла, скочыла са слупка і згубілася ў зеляніне гародчыка, куры адышлі ад іх на сярэдзіну вуліцы.

— Хораша граеш,— паспачувала Махахею Ненене.

## У ЗОНЕ ЗНІШЧЭННЯ

### 1

Што гэта была за хата, Мацвей не ведаў, а бачыў жа ён усякіх хат нямала. Даводзілася, што і ўся зямля была яму хатай, выпадала ж не раз начаваць і пад адкрытым небам, пад бярозавым кустом. Калі канаў дзень і ў непрагляднай цемрадзі нельга было нічога ўбачыць далей сваёй рукі, вось тады зямля таксама рабілася хатай. Зямля ператваралася з пукатай ва ўвагнутую, і ў гэтай яе ўвагнутасці, у счапленні цемры, зямлі і неба і была яго хата, шкарлупка, чорнае яйка, у якім бавіў ён ноч, падаслаўшы пад бок якую-небудзь паддзёўку ці вецце. І нічога на свеце, здавалася, больш не існавала, толькі цяпельца, толькі бярозавы куст, толькі сам ён, і нават не сам, рукі толькі адны, бо адны яны і былі бачныя і выглядалі зусім не так, як удзень. Удзень ён і не заўважаў іх, а ў святле цяпельца, калі не існавала нікога і нічога, адразу ж у гэтай хаце цемры і няпэўнага святла кідаліся ў вочы рукі.

Даводзілася яму бавіць ноч і ў лясной заімцы, у пакінутых хатах, у пустой хаце бакеншчыка, дзе ноч была не ноччу, а чаканнем, што цягнулася да світання, чаканнем, што вось-вось з'явіцца нехта, хтосьці прыйдзе праведаць, не яго, а сцены, падлогу, печ, вокны, спытае і ў яго: як ён трапіў сюды і навошта. Чаканне доўжылася да бясконцасці, прыгнятала і насцярожвала гэтай сваёй бясконцасцю. А ў хаце, у якой ён быў цяпер, былі і яшчэ людзі, але твары іх скрадваліся. Людзі знаходзіліся бы ў тумане, але ён ведаў іх усіх, княжборцы гэта былі, яго аднавяскоўцы. Усе разам, у адной хаце, хаця навошта гэта ім спатрэбілася,

якая справа вымусіла сабрацца разам, ён не ведаў. Яны як карагод вадзілі, сноўдаліся туды-сюды, цягнуліся адзін за адным: Дзям'ян за Аленай, Алена за сваім бацькам, той за Васькам Бараздыкам, пераганялі адно аднаго, сыходзіліся, разыходзіліся, але не сутыкаліся, ■ як бы ішлі адно праз аднаго, выраслі адно з аднаго.

Не была падобнай гэтая хата ні на гарадскую, ні на вясковую, і не вакзал гэта быў, і не салдацкая казарма. І наогул ці была гэта хата. Ні вокан жа, ні дзвярэй, ні столі, ні падлогі, і сцены незразумела якія: то, здаецца, каменныя, цагляныя, а то — не, бярвенне, дрэва, а раптам не камень і не дрэва, а матэрыя, сіні бляклы паркаль нацягнуты на чатыры палкі. Але над гэтымі палкамі, над гэтым паркалем усё ж і дах, гнёў зверху дах, нібы каменны, як скляпенне пячоры. Мацвей прыгадаў пячору і супакоіўся: пячора гэта і была, а не хата. Канечне, пячора, і не якая-небудзь, а з падручніка гісторыі восьмага класа, па якім ён некалі вучыўся, таму і сіні туман, дым жа гэта, цяпельца, вогнішча ж старажытнае чадна так курыць, таму ж так вольна і праходзяць адно праз аднаго людзі, не сапраўдныя яны, жылі некалі і даўно памерлі. Але чаму твары іх, як твары аднавяскоўцаў яго?

Мацвей ведаў працяг сну, ведаў, што будзе далей. Але спыніць, перабіць яго не мог. Гэты сон не даваў яму спакою ўжо якую ноч, ужо якую ноч уціскаў ён яго ў хаце дзеда Дзям'яна, сніў ён і ўдзень яго, і дзе, здавалася б, у самым нязручным месцы, на нарадзе ў кабінеце Шахрая. Учора ў Мацвея быў вельмі цяжкі дзень. Шахрай наскочыў на яго раніцай, зваліўся з неба, прыляцеў на верталёце, і не адзін, яшчэ трое было з ім. Але на ўчастак да яго пад Храпчынам з'явілася сямёра, далучыліся да Шахрая ні то журналісты, ні то кіношнікі, што прыехалі ў Княжбор на ўазіку і падвезлі каманду Шахрая. Пачалі апраставаць тую машыну, у Мацвея ўвачччу замітусілася. Усіх жа трэба было накарміць ды і паставіць яшчэ нештачка ж, а сталовая ў яго толькі-толькі пачала рабіць. Але ўсё абышлося, сталовая і не спатрэбілася. Стол і ежа, далікатэсная, і столькі, што хапіла на ўсіх, нечакана знайшлася і тут, але гэта потым. А тады Шахрай вылез з машыны, пазнаёміў яго з гасцямі, толькі імя, імя па бацьку, прозвішча, без пасады, без звання, лічачы, пэўна, што

Мацвей сам павінен ведаць іх пасады і званні, але ён нікога не ведаў з іх, акрамя аднаго сакратара абкома. І адразу ж заблытаўся ў Іванах Пятровічах і Пятрах Іванавічах і не спрабаваў выблытацца, раздзяліў іх на сваіх і чужых, чужымі былі кіношнікі ці журналісты, а сваімі — тыя, што пры Шахраю.

— Вось перад вамі будучы паказальны калгас, Сяргей Кузьміч,— сказаў Шахрай, звяртаючыся да сакратара абкома, і павёў рукой ад Храпчына да Балоні, Свілёва, Махахеевай дубровы. Усё захапіў у гэтую сваю руку, усё ахапіў і сцяў у кулаку, бы трымаў навісу ў тым кулаку і Храпчына, і Свілёва, і дуброву. І цяжкая ж была гэта яго руцэ ношка, жылы выпнуліся на запясці і шыі. Сакратар абкома ўтаропіўся ў далячынь, указаную Шахраем, і часта зміргваў, бы бачыў перад сабой нешта знаёмае яму, сіліўся прыгадаць, што ж гэта, і, пэўна, не мог прыгадаць. Чорны тарфяны абсяг у адзіным толькі месцы быў абмежаваны зялёнымі сярод гэтай жалобы дубамі Махахея. Такі ж абсяг быў і за яго плячыма і ўжо нічым не абмежаваны, але з астраўкамі яшчэ зялёнага і калючага маліннiку і ажынніку, што ўчапіліся за рэдкія кусцікі рабіны, воўчага лыка. Астраўкі гэтыя таксама трэба было зносіць, і лічылася, што іх няма, што яны знесены. Як ацалелі, чаму захаваліся — незразумела і неверагодна. Гэта ж па іх меліяратарскай тэрміналогіі была зона знішчэння, усё жывое трэба было звесці, вынішчыць ад былкі да дрэва, ад маліны да дуба. Вынішчыць, каб потым адрадзіць хлебным коласам, караваем, малаком і мясам. Гэтым і займаліся ўсе тут, і ён, Мацвей Роўда, так нацэлілі яго, так нацэліў ён сябе, свае машыны. І не меў ён нічога больш значнага ў жыцці, як даць хлеб Палесся, мяса Палесся. І, апроч усяго, быў у яго яшчэ свой уласны рахунак гэтым балотам. Яны адабралі ў яго маці і бацьку, і гэта надавала яго паядынку з адвечнай стыхіяй асаблівую ярасць і нецярплівасць, нясцерпнасць, ліхаманкавую паспешлівасць: хутчэй, хутчэй, і да самай сутнасці, хаця ён і не вельмі ўяўляў сабе гэтую самую сутнасць, што крылася пад ёй ці за ёй. Але нешта, пэўна, было, калі за імі таіліся жыццё і смерць родных яму людзей; кралі гэтыя балоты хлеб у жывых, таму вакол бульдозеры, трактары, кустарэзы білі пад дых, як трэскі, ламалі дрэвы. А гэтыя астраўкі, старызну, рыззё гэтае

балотнае абышлі, як абыходзіць конь, не наступіўшы на чалавека, які ўпаў з яго. І працягвалі абыходзіць, угрызаліся ў нетры, у масіў — у адзінае зялёнае дрэва, што ўсё падсякалася і падсякалася машынамі, усё губляла і губляла зялёную шчапу сваю. А зялёныя астраўкі маліны і ажынніку нічога не гублялі. Яны заставаліся некранутымі, калі на бераг рэчкі прыклыхалі і экскаватары, пасталі з двух бакоў і пачалі чэрпаць зямлю, спрамляць рэчку, рабіць ёй новае рэчышча. Мацвей кожны раз, наведваючы Храпчына, спатыкаўся вачыма аб гэтыя астраўкі, загадваў знесці іх. І яму абяцалі знесці, але ці то ён не вельмі пераканаўча загадваў, ці то ні ў кога не даходзілі рукі да іх, ці ён не памятаў, каму асабіста загадваў і з каго цяпер спраўляць, усё заставалася нязменным.

— Колькі тут у цябе? — спытаў Шахрай у Мацвея і ўсё яшчэ трымаў Храпчына ў кулаку, як бы ўзважваючы яго.

— Семсот шэсцьдзесят тры гектары,— адказаў Мацвей, таксама адчуваючы тую ношку, і таму жорстка, амаль што па-вайсковаму: — Зона знішчэння семсот шэсцьдзесят тры гектары.

— Зона знішчэння? — паморшчыўся Сяргей Кузьміч, і цень нездавальнення прамільгнуў па яго твары. Адзін з чужых, што больш за ўсіх удаваў на артыста ці рэжысёра, сівы ўжо і ў скуранок куртцы, далёкі, здавалася, ад гэтай зямлі і балот, штурхануў свайго маладзейшага сабрата, менш падобнага ўжо на артыста, хаця і з блакнотам у руках, з алоўкам:

— Чуў, занатуй: зона знішчэння.

— Ну вось,— усміхнуўся Сяргей Кузьміч.— Растыражыруюць цяпер слоўца. Не маглі па-людску назваць.

— Ёсць і па-людску,— тут жа адгукнуўся Шахрай.— Плошча, тэрыторыя. Здасі, Мацвей Антонавіч, тэрыторыю калгасу к сяўбе?

Мацвей марудзіў з адказам, аб гэтым сёння і хацеў ён гаварыць з Шахраем, як толькі ўбачыў яго, але прысутнасць іншых людзей, і ў першую чаргу сакратара абкома, спыняла яго. Але той жа сакратар абкома і дапамог яму:

— А ёсць ужо каму прымаць? Ёсць гаспадар гэтай зямлі? — і ён паказаў вачыма на тарфянікі.

І тут ужо трохі зніякавеў Шахрай.

— Чаму ж вы, Алег Віктаравіч, не прадумалі і не ўзгаднілі гэтае пытанне? — зразумеў яго замяшанне сакратар абкома.— Без перспектывы працуеце.

— Чаму не прадумалі, Сяргей Кузьміч? Прадумалі,— штосьці ўзважыўшы, і з кожным словам усё больш пераканаўча, цвярдзеючы тварам і голасам, сказаў Шахрай. І пакуль ён гаварыў, пакуль сакратар абкома аб нечым пытаў у Шахрая позіркам і той позіркам яму адказваў, Мацвей таксама вырашаў: ці варта яму перці на ражон, заводзіць размову з Шахраем аб сваім, набалелым пры сакратару? І гэтая яго нерашучасць, адкуль узялася, боязь начальства здзівілі і раззлавалі яго, ён не стаў стрымліваць, што даўно ўжо было на языку, што ён хацеў сказаць аднаму толькі Шахраю.

— Тысячу трыста гектараў падрыхтую і здам,— уварваўся ён у маўклівую гутарку поглядамі, што вялі Шахрай з сакратаром абкома, адказваючы на даўно ўжо згубленае пытанне Шахрая да яго.

— Тысячу трыста? Гэта цікава.

— Дзе ж ты іх возьмеш? — апярэдзіў наступнае пытанне Сяргея Кузьміча Шахрай. Сяргей Кузьміч незадаволена зірнуў на яго, але пытанне Шахрая не перакрыў сваім, проста адабраў яго ў Шахрая і патрабавальна хітнуў Мацвею, вымушаючы адказваць. І Мацвей пачаў адказваць:

— Вазьму вунь за той дубровай. Там шэсцьсот з гакам будзе.

— Але ж дубняк мы вам не дазволім зводзіць.

— Можна не зводзіць. Хаця, канечне, ён будзе шкодзіць нам, не той разварот будзе тэхніцы, не той разгон ёй...

— Дуб не пойдзе пад зону знішчэння,— узмахам рукі спыніў і як адсек усе довады Мацвея сакратар абкома.

— Няхай застаецца,— пагадзіўся Мацвей.— У дубняку, пад яго шатамі, трактарысты і паабедаць, і адпачыць змогуць. А за дубняком жа плошчы ляжаць, хмызы. Аб'ём работ невялікі. Хмызы і ляда за імі. Тысячу пяцьсот гектараў можна набраць, а не тысячу трыста. Ляда — гэта, можна сказаць, падарунак нам, без асаблівых намаганняў, без затрат асаблівых...

— Што за ляда, чаму я аб ім нічога не ведаю? —

сакратар абкома звяртаўся ўжо да Шахрая.— Калі ўсё, як ён гаворыць, чаму не з яго пачалі?

— Я гаварыў вам. Ляда — перспектыва калгаса.

— Але мне патрэбна...— пачаў Мацвей. Шахрай спыніў яго, не даў выказаць галоўнага, як ведаў гэтае галоўнае і адводзіў ад яго сакратара абкома і Мацвея.

— Дадзім усё, Мацвей, што толькі магчыма.

— Я хацеў бы...

— У рабочым парадку,— зноў вымусіў яго змоўкнуць Шахрай.— Пытанне ты паставіў вялікае, своечасова, і мы абмяркуем яго, толькі ў рабочым парадку.— І зноў бы забыў аб Мацвею, загаварыў з сакратаром абкома: — Ёсць у нас кандыдатура на пасаду старшыні калгаса, ёсць, Сяргей Кузьміч.

— Імправізуеце, Алег Віктаравіч?

— Ды не зусім, Сяргей Кузьміч, хаця і ёсць трошкі. А вы што, супраць такой імправізацыі?

Мацвей слухаў іх напаўвуха, заняты сваім, прыкідваў, куды яшчэ павесці начальства, што паказаць, и што паказваць не варта.

— Паляшук? — захапіў яго знянацку сакратар абкома.

— Паляшук... З гэтых вось самых балот.

— Гэта добра, што з гэтых,— сказаў сакратар абкома, Мацвей не зразумеў, што ў гэтым добрага, бо Сяргей Кузьміч перавёў ужо гаворку на іншае, гаварыў аб іх вясковых княжборскіх могілках: — Быў я тут, калі паводка была, на вашых могілках. Магілак маленькіх багата.— І змоўк. Маўчаў і Мацвей, не разумеючы, куды вядзе сакратар абкома, узгадваючы княжборскія могілкі, што сапраўды шмат там маленькіх магілак, але ён ніколі не звяртаў на іх увагі, звыкся з імі, і ніякіх пачуццяў тыя магілкі ў яго не выклікалі. Па ўсім Палессі так, на ўсім Палессі аднолькавыя могілкі. Што ўбачыў у іх сакратар абкома? Той растлумачыў:

— Дзіцячых магілак шмат, болей, чым дарослых. Дзяцей на Палессі памірала больш, чым дарослых. Разумееце, Мацвей Антонавіч?

Гэта Мацвей разумеў.

— А вы самі паляшук? — спытаў ён сакратара абкома.

— Паляшук, таму і балюча. Ведаю, чаму яны паміралі. Балоты забіралі іх. Балоты забіралі жыццё,

лепшую зямлю. Пясочак даставаўся селяніну, насенне не аддаваў той пясочак, і жыццё знікала ў пясок. Нідзе так мужык не гібеў і не гнуўся, як тут. Палессе, Палессе...

— Маліна. Ах, якая маліна,— закрычалі двое з сваіх, што прыбылі з Шахраем і сакратаром абкома.— Сяргей Кузьміч, Алег Віктаравіч, запрашаем на маліну.— І неслі ўжо аднаму і другому па галінцы, бы свежаю крывёю пакропленай, уручылі Шахраю, сакратару абкома. І тыя пацягнуліся, бы хто пацягнуў іх, бы галінкі павялі іх у маліннік, злізваючы на хаду ягады. Кінуліся ў маліннік і чужыя, кіношнікі ці журналісты. Ішлі ў ягады, як у загон, як бабы па полі, выбіраючы бульбу, як мужыкі ў пракос, кланяліся, кланяліся кожнай ягадцы, кожнаму кусціку.

— Ах, якая маліна, ах, які цуд — ягады, чаму ж ты маўчаў, Роўда, байкамі карміў?

— Я думаў, вам не да нашай маліны, думаў, высокае начальства і не ведае, што такое маліна.

— Хто сёння і ведае маліну, дык гэта толькі начальства,— абіраючы кусты, гаварыў сакратар абкома.— Вось пад вёскай расце, а ніхто і не збірае яе. І твае, Мацвей, побач робяць, а таксама некалі. А мы, начальнікі, ласуемся.— І ён, падміргнуўшы Мацвею, укалоў Шахрая: — Ці не так, скажаш, ведаў, куды мяне везці, часта па маліну ганяеш.

— Як не ведаць, Сяргей Кузьміч, у нашай справе ўсё трэба ведаць.

— А тое, што я ўжо тут усю маліну абабраў, ведаеш?Залез у зараснікі,мне да цябе ўжо і не прабіцца.

— Сюды, сюды, Сяргей Кузьміч,—крычалі двое з тых, што прыбылі з Шахраем.— Вось вам, Сяргей Кузьміч.— І зноў паднеслі сакратару на галінцы маліны.— Ламаць цяжка, не ломкая яна, ножык бы.

Ножыка ні ў кога не знайшлося, абыходзіліся хто як: адны ламалі, выкручвалі, дапамагалі сабе і зубамі, другія выдзіралі і з каранямі. Галінкі з самымі спелымі і буйнымі ягадамі неслі Сяргею Кузьмічу, Алегу Віктаравічу. Шмыгалі, упаўзалі ў норы, адкідвалі хвасты яшчаркі, што невядома як, невядома навошта выжылі тут. Прыпякала ўжо сонца, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй, а ягады, напоеныя ім, рабіліся ўсё больш салодкімі і духмянымі. Да гэтага духмянага паху ягады прымешвалася і нешта іншае, трошкі горкае,

але гаркавасць гэтую адчуваў адзін толькі Мацвей, таму што толькі ён адзін і меў у галаве: гэта апошняя маліна, астатняя тут лясная ягада. Ён прыкмячаў, як амаль што на вачах змянялася гэтая ягада, як хутка абсыхала на сонцы і як бы туманілася, пакрывалася шызым налётам і шэрхла, цвярдзела. Усё больш гарчыла і цвярдзела, чым бліжэй падыходзілі яны да лясного масіву, перад якім абрываўся маліннік, пачыналіся ўжо тарфянікі, за якімі раўлі кустарэзы. І ўсё часцей нешта ўспыхвала, мігцела за гэтым паверхневым шызым налётам у глыбіннай акасцянеласці ягады, і як бы агеньчык нейкі запальваўся, як бы вока той жа яшчаркі глядзела з ягады, ажывала ў ягадзе. І мігатлівае гэта вока суцішала гул машын, цішыня і нейкая замаруджанасць нават уладарылі над Храпчынам, як і ў сне Мацвея ў той незразумелай хаце. І ў гэтай вязкай, клейкай-цішы яны амаль што як дзеці займаліся нечым адвечным і вельмі добрым: бралі маліну. Елі, як першы раз бачылі, елі цяпер і ў запас, бы ягадай можна наесціся ў запас. Яны ўжо былі на рагу маліннiку, ім паглядалі ўжо ў вочы спляжаныя і сцягнутыя ў кучы дрэвы, якія трэба было паліць, але якія яшчэ праглі жыць, абламаным голлем цягнулі сокі з зямлі, бо карані ўсе былі вонку, тырчалі ў неба, як хвасты ў валоў ці кароў у хвіліну бзыку.

— Ну, досыць, як у дзяцінстве пабыў,— распраміўся і тым загадаў распраміцца іншым сакратар абкома.— Ну, дзякуй, ну, дзякуй, Мацвей Антонавіч, уладзіў... Усе мяне ягадай частавалі, Мацвей Антонавіч, а ты так ні адзінай і не паднёс. Не паднёс жа, не сагнуўся для мяне.

— А я думаў, вы і не прыкмячаеце, Сяргей Кузьміч.

— Я павінен усё прыкмячаць, нават калі гэта вось такая дзіцячая забава. Дык пачастуеш, Мацвей Антонавіч, збярэш для мяне жменьку ці хоць адну ягадку сарвеш?

Мацвей маўчаў і не кратаўся.

— Не хочаш для мяне сагнуцца?

— Не хочу,— адказаў Мацвей, адчуваючы, як палец Шахрая ўпіваецца яму ў бок.— Для вас бы сарваў, але гнуцца перад вамі — не.

— Ну што ж... Дзякуй, дзякуй, Мацвей... Я яшчэ

выберуся да цябе з жонкай і сынам. Мы з табою ўдвух, без падхалімаў, будзем збіраць маліну.

І зноў палец Шахрая ўпіўся Мацвею ў бок, і зноў адвёў яго Мацвей і з жорсткасцю, незразумелай і самому сабе, прамовіў:

— Позна, позна, Сяргей Кузьміч. Гэта ж зона знішчэння,— знарок, не хаваючыся за нейтральныя тэрыторыі і плошчы, сказаў: зона знішчэння. І слоўца яго адразу ж падхапіў той, з блакнотам, выдзер з блакнота ліст, паднёс яго, падаў Мацвею:

— Маліна ў зоне знішчэння.

На паперцы той быў адзіны толькі твар яго, Мацвея, твар, і пень каля яго, добра, да дробязей намаляваны, да апошняга карэньчыка, да пясчынкі апошняй на гэтых карэньчыках, бярозавы сухі пень. Мацвей стаяў перад ім і пільна ўглядаўся ў яго, трымаючы ў руках галінку з буйной і сакавітай малінай, чырвонай малінай, хаця і намаляванай простым алоўкам. Чырвона зрабілася ў тую хвіліну ўваччу Мацвею.

— Пара да верталёта, Сяргей Кузьміч,— прыспешваў Шахрай.— Час ужо нам усім, не то і спознімся.

Чырванню сляпіла вочы Мацвею цагліна, адзіная цагліна, якую знайшоў ён раптам у сцяне дзівоснай хаты, адна-адзіная цагліна сярод каменю і дрэва, і як трапіла яна ў сцяну, адкуль узялася. У глыбі яе толькі-толькі абпаленага цела, яшчэ гарачага ад агню, нешта мільгацела, як у ягадзе маліны, тухла і запальвалася свядомасцю і жыццём вока яшчаркі. Ён пацягнуўся да гэтага вока, цагліна не далася яму ў рукі, узляцела ўгару, узляцелі ўгару людскія галасы.

— Не руш, не чапай цаглінку,— крычала, здаецца, маці Махахея, крычала з цёмных палацяў, што стаялі ў кутку пячоры ці хаты. І яшчэ былі галасы, цэлы хор, галасы вады, зямлі і лесу. Вада гаварыла мужчынскім голасам і сама была ў абліччы мужчыны, сухенькага калючага дзядка, з калючымі вочкамі і калючымі вусікамі і голасам калючым, пранізлівым. А зямля, як і належыць ёй, была жанчынай, падобнай, праўда, на цыганку, чарнявай і ў цыганскай квяцістай хустцы, накінутай на плечы. Лес гудзеў надтрэснута, як дзед Дзям'ян, але то быў не дзед Дзям'ян, а нехта зусім іншы, падобны на яго. А яшчэ нехта крычаў яму ў вуха, забіваў усе іншыя галасы:

— Пара, пара, уставай, ужо ўсе пеўні прапелі.

Мацвей расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабою Надзьку.

— Ты чаго тут? — спытаў ён, не разумеючы, дзе ён і што з ім.— Хто ты?

— Ужо і пазнаваць перастаў.

— Як ты тут апынулася?

— Зайшла праз дзверы, не праз акно. Дзверы расчынены, і поўна хата курэй, на стале нават куры. Прагнала курэй і вось цябе разбудзіла. Ты закрычаў у сне, нядобра так закрычаў: не руш, не руш, не чапай. Дык я даведацца, спытаць хацела: мне мо гэта ты крычаў ці каму іншаму.

— Гэта не я крычаў.

— Ага, я зусім ужо дурная. І цяпер яшчэ ў вуху звініць.

Мацвей адчуў, што і ў яго ў вуху звініць, скаланаецца паветра ці то ад яго крыку, ці то ад крыку старой Махахеіхі, ці то ад учарашняга мітуслівага дня звон гэты застаўся. Учора і закружыўся карагод. І ў гэтым карагодзе ўчора ён урэшце, здаецца, зразумеў, чым бярэ Шахрай, чым яруць такія людзі, як Сяргей Кузьміч. Ён, Мацвей, лічыў сябе жалезным, лічыў, што здольны рабіць, як ніхто, а на справе ён ні больш ні менш як непаразуменне нейкае перад імі, слабы і нягеглы ён і ў працы ў параўнанні з імі, і ва ўсім іншым. Але іншае было потым, а спачатку нарад ці сімпозіум нават нейкі ў кабінеце Шахрая. Перад тым як трапіць у той кабінет, Мацвей паспеў яшчэ сустрэцца і пагаварыць з праекціроўшчыкамі, што таксама прыехалі на сімпозіум і, чакаючы адкрыцця яго, сумавалі ў прапыленым скверы, які быў аддзелены ад рэзідэнцыі Шахрая аўтамабільнай стаянкай. Мацвей даўно ўжо хацеў сустрэцца з праекціроўшчыкамі, яму неабходна была іх падтрымка, каб пачаць з Шахраем тую самую гаворку, што не адбылася ў Княжборы, да якой ён толькі падышоў, і Шахрай вымусіў яго змоўкнуць. Мо гэта і лепей, што здарылася так, узрадаваўся ён цяпер. Але гутаркі аб галоўным не адбылося і з праекціроўшчыкамі. Не настроены яны былі на сур'ёзную гаворку, рады не рады, што вырваліся з сваіх кабінетаў.

— Салют-прывет балотнаму богу,— з першых жа слоў далі яны адчуць: нічога аб справе.— Сушыш?

— Прывет-салют чараўнікам кульманаў. Сушу. А вы праекціруеце?

— А мы праекціруем.
— Хранова праекціруеце,— Мацвей усё ж не траціў надзеі на сур'ёзную гаворку, а яны забаўляліся.
— Як плоцяць, так і праекціруем.
— Вадасховішча мне ў самыя тарфянікі загналі.
— Куды загадалі, туды і загналі.
— А калі б загадалі на месяц?
— Будзь спок, прывязалі б і да месяца. Не па пасадзе слоў набіраеш.
Мацвей не паспеў нічога адказаць, не паспеў і раззлавацца, пачаў толькі ўскіпаць перад гэтай іх непрабіўнасцю, гатоўнасцю зводзіць усё на пустое і ў пустым хаваць, як іх запрасілі ў кабінет Шахрая. Мацвей з праекціроўшчыкамі заходзілі ў кабінет апошнімі, як бы спазніліся, і Шахрай даў гэта ім зразумець кароткім, але асуджальным позіркам. Увогуле гэта быў іншы Шахрай, зусім не такі, якім ведаў яго Мацвей, прывык бачыць, з якім ён калясіў не вельмі даўно па Палессі, толькі што збіраў маліну: гарадскі, кабінетны, самавіты і мажны, цяпер і падумаць было немагчыма, што з ім можна збіраць маліну. І радзімая плямка на яго твары была ўжо не падобная на след, пакінуты ад стрэлу ва ўпор, як яна была дарэчы цяпер, як яна была неабходная твару Шахрая, яна і надавала яму мажнасць і нават нейкую ліхасць, у межах дазволенага ў гэтым кабінеце, пры гэткай мэблі, схемах і дыяграмах, развешаных па сценах, пры ўсіх гэтых людзях.
— Вы будзеце весці ці мне пачынаць? — звярнуўся Шахрай да Сяргея Кузьміча.
— Ты гаспадар, ты і кіруй.
Шахрай згодна хітнуў і пачаў:
— Таварышы... Мне пакуль нечага вам сказаць... Я тут, каб слухаць вас. Аб чым будзем гаварыць, усе мы ведаем: аб вадзе, зямлі і нас, грэшных, на ёй.
— Аз грэшан, аз грэшан,— свішча ў вялізны нос няўседлівы дзядок, каля якога ўладкаваўся Мацвей, дзядок гэтым сваім носам і прыкметны.— Нічога тэмка, канкрэтная.
— Так, канкрэтная, Андрэй Барысавіч. Вада, зямля і мы, грэшныя, на ёй. Дык каму першае слова — зямлі ці вадзе...
Надзька падсаджваецца да Мацвея на ложак, тармосіць яго.

— Дзе ты зараз, Мацвей? Ноччу сны дасніш, прачніся.

Але Мацвей не жадае прачынацца, ён уціскаецца ў падушку і яшчэ мацней заплюшчвае вочы. Ён яшчэ там, у кабінеце Шахрая. Імкліва схопліваецца, бы прарастае з крэсла, сусед Мацвея:

— Я вельмі доўга чакаў слова, Алег Віктаравіч, пятнаццаць гадоў.

— Пятнаццаць хвілін мог бы і яшчэ пачакаць,— стрымана ўсміхаецца Шахрай,— не высмяг бы, даравала б табе твая гідрагеалогія. Зямлю ў нас, Андрэй Барысавіч, дама прадстаўляе.

Адзіная сярод мужчын жанчына махае рукой:

— Хай яго цячэ, зямля ўсё жыццё чакае, калі толькі пятнаццаць хвілін засталося, вытрывае. А вось калі не Андрэй Барысавіч першым гаварыць будзе, усім нам маўчаць прыйдзецца...

— Хто гэта? — тузае Мацвея за руку Надзька.

— Зямля і вада,— адказвае Мацвей. Надзька прыскае ў кулак.

— Ды гэта ж ты, здаецца. Зірні, гэта ты?

Надзька недзе знайшла малюнак, што падарылі яму ўчора: маліна ў зоне знішчэння.

— Толькі хіба ты такі? Не, ты не такі. Я не бачыла такога цябе і не веру, што ты такі.

— Які?

— Якім цябе намалявалі. Бык у нас у Княжборы быў, ты яго таксама помніць павінен. З Аленай усё дражнілі таго быка, дамагліся свайго. Як кінецца ён на вас, и вы ў раку, а ён па вёсцы — і да хаткі Ненене. Я ў той хаце была, як пачаў ён з той хаты душу вытрасаць, усё, думаю. Хісталася ўжо хата. Толькі чамусьці спыніўся ён раптам, стаў насупраць акна і глядзіць на нас у акно. І сёння яшчэ мурашкі па целе... Але ты не такі, ведаю.

— Які ж я, Надзька?

Надзька не азвалася, хуценька і са спалохам кінула малюнак на падаконнік і адмежавалася ад яго, адсунулася разам з крэслам ад акна.

...— Людзі тысячу гадоў жылі на гэтым самым месцы.— Андрэй Барысавіч тупнуў нагою, бы пазначыў тое самае месца, падскочылі калючыя вусікі, бы хацелі ўкалоць каго з тых, што сядзелі цяпер перад ім тут.— Жылі, і сёння даўно ўжо ўзараны пад авёс. И в виде

овса съедены скотиной. Гэта не я. Гэта Глеб Успенскі. А я здатны на што-небудзь і больш непрыстойнае. Збілі вы мяне, Алег Віктаравіч, з панталыку. Я ўсе гэтыя гады сам з сабою гаварыў. І не вельмі добрыя, не для дамскага вушка, словы розныя вымаўляў. Баюся, як бы яны зараз мімаволі не выскачылі ў мяне.

Мацвей глядзеў на гідрагеолага знізу, бачыў толькі ягоны нос, і, калі меркаваць па ім, мог ён і нядобрымі словамі загаварыць. Паверылі гэтаму, пэўна, і іншыя, загулі, заўсміхаліся, як бы скідаючы маскі, дазваляючы гідрагеолагу ўсё ж вымавіць адно ці два нядобрыя словы. І Сяргей Кузьміч, здаецца, дазваляў. Толькі Шахрай застаўся сур'ёзны.

— Дык слухайце ж, слухайце,— патрабуе гідрагеолаг.

Мацвей міжвольна падаецца ўперад, бы гэтае «слухайце» датычыцца толькі яго і тое, што скажа зараз гідрагеолаг, вельмі важна яму. Але словы вымаўляюцца ўвогуле звычайныя, і Мацвей у сваёй звышзасяроджанасці не кожнае і разумее.

— Дык хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць? Хто сказаў, што на Палессі лішак вады? Яе няма. Вады не хапае. Пастаянна, хранічна, катастрафічна не хапае. Гэта сцвярджаю я, гідрагеолаг, а гідрагеалогія — аснова меліярацыі. Палессю, каб яно напілося сёння, не хапае трох кубічных кіламетраў вады... Усе мы выйшлі з вады, мо з той самай, якой ужо і не стае сёння. І сёння іншыя ўжо не выйдуць з яе, таму што яе няма. Няма. А палешукі выйшлі з гэтага палескага мора Герадота. У гэтым моры — іх жыццё. З ім паляшук павязаны пупом сваім. Балота не толькі дрыгва яму, а і асяроддзе... сярэдзіна... средоточие... Средоточие...

Гідрагеолаг збіваецца, топчацца на гэтым «средоточии», косіцца на Мацвея, бы той павінен падказаць яму, якім жа ці чаго «средоточием» з'яўляюцца гэтыя балоты.

Мацвей скаланаецца. Скаланаюцца і сцены кабінета, бы рассоўваюцца, цьмянеюць твары людзей, што знаходзяцца ў ім. Ён бачыць перад сабою твары сваіх аднавяскоўцаў, удзірванелую вуліцу Княжбора, чуе голас гідрагеолага, што лунае над гэтай вуліцай.

— Трэба ствараць вадасховішчы. Яшчэ на пачатку стагоддзя, адразу пасля экспедыцыі Жылінскага, узні-

малася пытанне аб рэгуляванні сцёкаў Прыпяці. Але сёння гэтая рэчка чамусьці наогул выключана з апошняй схемы. Што, яе ўжо няма? Няма ў палешука Прыпяці?

Рогат. Рагоча Махахей Алена, Алена выплюхнула на Мацвея вядро вады і пайшла наўцёкі, толькі пяты блішчаць, толькі ногі мільгацяць, толькі плацце б'е па яе загарэлых нагах.

— Іван Купала, Іван Купала цябе пакупаў,— рагоча, дражніць яна Мацвея, кліча за сабой.

І Мацвей кідаецца за ёю, даганяе яе, хутчэй нават не даганяе. Алена не ўцякае ўжо больш ад яго, падае ў яго рукі, затапляе яго смехам і плаццем, лёгкім, што струменіць у яго руках. І не яе, не Алену, трымае ён зараз, а толькі смех і плацце, мокры, злы, Алена пільна глядзіць на яго.

— Іван жа Купала, папараць-кветка цвіце,— прыхіляецца Алена да яго мокрага цела, ён порсценька, бы птушка, дзяўбе яе цёплыя вусны сваімі халоднымі вуснамі. Яны на імгненне заміраюць сярод вуліцы пад вокнамі вясковых хат, што бачаць усё, разумеюць гэта, адскокваюць адно ад аднаго, як абвараныя. Радуецца, святкуе летні купальскі дзень. І бусел над гэтым днём з дакорам пазірае са сваёй буслянкі на Алену з Мацвеем. І голас гідрагеолага скрозь гэтыя птушыныя і чалавечыя галасы — бы голас самога Івана Купалы.

— Не толькі дасушыліся, на Палессі заўсёды не хапала вады. Калі сабраць яе па кроплі, і тады будзе мала сённяшняму дню — палям, прамысловасці... Так, разлічана чатырыста кубаметраў, але старцу, жабраку і то больш падаюць. Хацеў бы я ведаць, хто разлічваў?..

— Слушнае пытанне,— гаворыць Сяргей Кузьміч.— Давайце высветлім. Чыя гэта лічба, таварышы? Ну, смялей, смялей. Міністэрства меліярацыі? Не, не ваша. Міністэрства сельскай гаспадаркі? Таксама не ваша. Нічыя, атрымоўваецца, Андрэй Барысавіч.

— Нічыя толькі ў шахматах нічыя. Пытанне ў мяне не апошняе, Сяргей Кузьміч. Хто распачаў і павёў глыбокую меліярацыю?

Паўза і цішыня.

— Тады інакш можна... Вельмі б пажадана было

даведацца, хто даваў за гэтую глыбокую меліярацыю ўзнагароды і прэміі? Не, не буду драбніцца... Чаму асуджаная і бітая меліярацыя працягваецца і сёння?.. Таксама нічыя?

— Я адкажу,— парушае цішыню Шахрай.— Нястача, беднасць прымусілі распачаць і працягваць. Але я не згодны, што меліярацыя сёння такая, як і ўчора. Зменена нават фармуліроўка. Меліярацыя раней — гэта асушэнне, а цяпер жа гэта паляпшэнне, рэгуляванне і аблагароджванне зямлі.

— Так, наконт фармуліровак мы вельмі дыялектычныя. Але Палессе — птушкі, лясы і рэкі, ці разумеюць яны, што ў фармуліроўках?

— Але вы, Андрэй Барысавіч, спадзяюся, разумееце, і ад вас мы хацелі чуць і нешта канкрэтнае, напрыклад, аб гідрагеалогіі рэк Ясельды, Случы, Бобрыка, Прыпяці.

— А мы, лесаводы, хацелі б даведацца ад гідрагеолагаў што-небудзь аб рэгуляванні ўзроўню грунтавых вод. Бяда з лесам. Штогод губляем шэсцьсот тысяч кубаметраў прыросту драўніны. Вы, гідрагеолагі, сцвярджаеце, што ўзровень грунтавых вод падае на адлегласці сямі кіламетраў ад асушаных масіваў, а ў нас ёсць назіранні, калі гэта адбываецца і на адлегласці дваццаці кіламетраў.

— Хто гэта назіраў? — звяртаецца да лесаводаў Шахрай.— Не трэба панікаваць і завышаць. У меліярацыі таксама ёсць вучоныя, заўтра ж загадаю, каб узяліся за гэта і даказалі вам, што такога няма. Пытанні ёсць?!

— Даказваць, Алег Віктаравіч, не нам трэба, лесу. Мы людзі, мы можам і паверыць вашым доказам. А лес наш, калі ўзровень грунтавых вод упадзе толькі на трыццаць сантыметраў, пахіснецца. Пахіснецца, нягледзячы на ўсе вашы доказы.

Мацвей слухаў усе гэтыя спрэчкі і, здаецца, быў і не быў на той нарадзе.

Частка яго толькі нейкая была там, увесь ён раздраблёны на часткі, галасы дзёрлі, драбнілі яго на часткі, а сам ён як бы пайшоў адтуль, пакінуў замест сябе як з гліны зробленае сваё цела, якое можна было драбніць. І ў гэтае пакінутае ім цела нешта ўбівалі, закладвалі, улівалі, а ён быў далёкі ад яго. І ў той жа час адчуваў, як супраціўляецца і пратэстуе

яго цела ўздзеянню гэтых недзе чутых ім слоў, бо яно, як і сам Мацвей, жыло іншым, сваім клопатам і сваімі турботамі. І клопат гэты быў просты і зразумелы, бо датычыўся хлеба надзённага. Прыходзіў, напрыклад, да яго старшыня суседняга з Княжборам калгаса, патрабаваў, слёзна прасіў той жа глыбокай меліярацыі, пракапаць яму пару канаў, каб спусціць тую ж ваду, за якую змагаўся гідрагеолаг, асушыць балота: пяцьдзесят—сто гектараў зямлі. І ён, Мацвей, разумеў гэтага старшыню і, будзь яго ўлада, дапамог бы, пракапаў бы канавы, асушыў балота. Плошчы, палі былі патрэбны старшыні, гаспадару зямлі, і дзеля гэтых плошчаў ён гатовы быў на ўсё. Прыходзіў дырэктар рыбгаса і прасіў кустарэзы, знесці лясок, не лясок нават, а так, хмызы, сухастой, лес ужо сканаў, вымак, дык каб вочы нікому не мазоліў, а рыбгасу пяцьдзесят—сто гектараў сажалак — і ён на кані: і рыба, і план, і людзям заробак. І Мацвей таксама разумеў яго, дырэктара рыбгаса, бо і ў яго таксама быў план і людзі, якія хацелі мець заробак. Людзі гэтыя, праўда, ахвотна зараблялі на меліярацыі, не шкадавалі часам і здароўя, а дома, па хатах, клялі гэтую меліярацыю на чым свет стаіць. Але на тое яны і людзі, на тое ў іх і хаты, каго толькі не праклінаюць па тых хатах, бацьку роднаму і таму дастаецца, у роднай хаце і ад таго ж старшыні можна пачуць такое, што вочы на лоб палезуць, дзе ж яшчэ, як не ў хаце, мог ён дазволіць сабе выказацца. Але хатняя іх гаворка заставалася гаворкай для сябе, для родных і блізкіх. А на людзях усімі імі — старшынямі і простымі калгаснікамі і рабочымі — кіравалі такія ж людзі, і ўсё сыходзілася, вывяралася і замыкалася на самым надзённым, на хлебе. На хлеб, а не на лес і ваду быў замкнуты і скіраваны і ён, Мацвей Роўда. Ён жа таксама быў з людзей, з калгаснікаў і старшынь. Адно толькі шкодзіла яму адмежавацца на нарадзе ад усіх іншых, ад усіх грэшных, што жылі на зямлі і не хацелі быць грэшнымі, так змагаліся, па-дзіцячаму адстойвалі часам сваю навуку, што Мацвей міжволі трапіў пад іх уплыў і сам як здзяцінеў.

— У самым гаротным стане ў нас птушкі і звяры, нашы палескія буслы пакідаюць нас,— гучыць усё той жа голас лесавода.

— А гэта таксама асяроддзе... средоточие, средоточие...

Мацвей, абвязаўшыся вяроўкай, узбіраецца на дуб, што расце каля хаты Ненене, усцягвае на дуб кола, над ім, над Аленай і Ненене, што стаяць на зямлі, кружыць бусел.

...— На Палессі сёння ў нас шэсць мільёнаў птушак. Меліярацыя пагражае жыццю пяці мільёнаў з іх.

— Што ж застанецца?

— Застанецца... Падвоіцца гракоў, варон, іх цяпер паўтара мільёна, а будзе тры.

— Груганнё.

— Бабры бядуюць ужо сёння. Затое больш стала дзікоў.

— Парсюкоў, значыцца...

А Мацвей ужо на дубе, ён ужо зацягнуў і прыладзіў на макаўку яго кола. Сеў адпачыць і зверху, што бусел з вышыні палёту, глядзіць на зямлю, на Княжбор, на рэчку, нерухомую, бы расталую на сонцы, на азёры і старыцы, на Махахееву дуброву, на дарогу, адну-адзіную, што вядзе да іх Княжбора, выбегла з вёскі за аселіцу і згубілася ў лесе сярод дрэў. Да яго на дуб узлазіць і Алена, і яны, схіліўшыся адно да другога, як бусляняты, сядзяць на разгалінаванні. Кружыць над імі бусел, абдымае іх белымі крыламі. Пагойдваецца і кружыцца блакітная і зялёная зямля з маленькімі, здаецца зверху, хаткамі княжборцаў, з іх могілкамі і чужымі курганамі каля гэтых могілак. Сядзяць на дубе Мацвей і Алена пад колам, што ад'ездзіла сваё, як жыць тут, пад гэтым колам, сабраліся...

— Слухай, Мацвей, я да цябе ці не прыйшла? Вяртайся на зямлю, прыехалі. Зірні хоць на мяне.— Надзька забыла ўжо і пра малюнак, і пра быка, што так напалохаў яе калісь.

— А навошта ты прыйшла, Надзька, да адзінокага мужчыны?

— Я не да адзінокага прыйшла.

— Але ж я адзінокі.

— Я не да мужчыны, а да дзеда твайго Дзям'яна.

— Што за справы ў цябе з дзедам?

— А я да яго не першы раз прыходжу.

— Вось як?

— Так вось... Зараслі граззю па вушы, адзінокія мужчыны. І прыбрацца за сабою няздольныя. Венік хоць ёсць? Мінулы раз самой наламаць прыйшлося.

— Венік дзесь павінен быць. Зірні ў сенцах, а я пакуль апрануся.

Надзька прыбіраецца, падмятае, потым мые падлогу, старанна выграбае ўсё з-пад ложка, заглядвае ў кожны кут, як шукае нешта, і пазірае на Мацвея, але той як бы і не прыкмячае яе, голіцца, роўна і супакойна гудзе электрабрытва.

...— Усе ўжо выказаліся, час і зямлі даць слова, добра, Андрэй, гаварыў ты аб вадзе. Але навошта вада, калі не будзе зямлі. Бедная палеская зямля.

— Не варта прыбядняцца, Раіса Міхайлаўна, калі нараджаюцца такія жанчыны...

— Камплімент прымаю, Алег Віктаравіч, не больш... А далей трымайцеся. Палессе па глебах — што цыганская хустка, вось гэтая, што зараз на мне, яна і будзе зараз самай дакладнай картай глебы Палесся. Іх у нас каля ста разнавіднасцей на лапіку зямлі, на пяцідзесяці нейкіх гектарах часам можна кожную з гэтых разнавіднасцей і сустрэць: і гліну, і белы пясочак, і шэра-белы падзол, і чорны торф — балота. Палессе...

Нягучна, але ўсё ж бахае адкаркаваная бутэлька з мінералкаю. Шахрай нясе зямлі ваду, а Мацвею падаецца, бы хтось пугаю стрэліў. З гіканнем і ржаннем скачуць па вясковай вуліцы коні. Скача наперадзе іх на гнядым жарабцы Махахей, а за ім у пыле ўжо ён, Мацвей, з хлапчукамі, ён і сцёбае пугаю, каб коні хутчэй выхапіліся з пылу. І вось яны пасвяцца ўжо на Балоні, ціхамірна пазвоньваюць званкі, чмыхаюць, усхрапваюць нябачныя ў цемры коні. Махахей з Мацвеем прылеглі каля вогнішча, што больш ад камароў, чымсьці для цяпла.

...— Выскачылі яны, Мацвей, з жыта. Такое жыта стаяла, што лес, на матацыклах па жыце, рагатыя, як чэрці, у касках сваіх. Гер-гер-гер — гергечуць, матацыклы равуць, жыта паламанае шапоча, жаліцца. А ў тым жыце і я. Бачу, падпальваюць жыта. І кінуцца мне няма куды. Лес, хмызнячок — далёка, балота голае, без кусціка, жыта і пясок белы...

З цемры вынырнула белая, як сівая, галава каня, наблізілася да вогнішча, чмыхнула ў дым, зганяючы

з'яд, павярнулася да людзей, уталопілася ў іх чарнільным вільготным вокам.

— І ты, Бялянка, паслухаць завітала,— Махахей гладзіць галаву кабылы.— Слухай, хоць мо і не трэба вам, коням, ведаць пра жахі такія...

...— Жыццё нашым тарфянікам даравана палову веку чалавечага — пяцьдзесят гадоў. На доследнай станцыі Балотная двухметровыя тарфянікі спрацаваліся за дваццаць гадоў. І пясок. І гэта на доследнай станцыі, і тарфянікі, як бачыце, глыбокія, яны губляюць толькі паўпрацэнта сваёй масы ў год, а мелказалежныя — тры-чатыры працэнты.

— Што ж далей было? — пытаецца Мацвей у Махахея.

— Было... Не магу, хлопец, пры коніку. Што б ні было, а жывы я перад табою.

...— Так, карціна не з вясёлых. І што вы прапаноўваеце, Раіса Міхайлаўна?

— Восемсот мільёнаў тон торфу ідзе пад ваду, пад затапленне, пад вадасховішчы. Яго трэба неяк ратаваць. З вадой і ветравой эрозіяй мы змагаемся. Але, скажу я вам шчыра, таварышы, бачыла я тое змаганне. Каго падманваем, каму хлусім? Палеахоўныя лясныя палосы — аблысенне, а не аблясенне. Утыркнулі ў зямлю, прабачце мне, нейкія дубцы, пусцілі на іх кароў. А каровы адкуль ведаюць, што гэтыя дубцы для барацьбы з эрозіяй? Паелі іх каровы, тым і скончылася барацьба.

— Аб дубцах можна было і не гаварыць. Несур'ёзна гэта,— не вытрымлівае Шахрай дубцоў.

— А аб чым гаварыць, аб чым гаварыць? — уразілі, пэўна, гэтыя дубцы глебазнаўцу.— Тыя ж дубцы, што каровы паелі, ужо ж у справаздачу пайшлі. Вы ж гоніце гектары, Алег Віктаравіч, плошчы, на плошчы мераеце меліярацыю. А што з ёй далей, з гэтай плошчай, гэта хвалюе меліяратараў? На зыбкай аснове ўзводзіцца будынак меліярацыі: усюды подсціл тарфянікаў — пяскі.

Вось тут якраз, пасля дубцоў, пасля гэтай зыбкай асновы, Мацвей і ўпаў у сон, не таму, што стала сумна ці не слухаў ён гэтых людзей, стаміўся. Хутчэй наадварот, ён лавіў кожнае слова, вымаўленае нават шэптам, нячутнае іншым, ён уяўляў, бачыў нават тую зыбкасць, аб якой ішла гаворка, ён сам быў у той

зыбкасці, ступіў у яе, як толькі гаворка пайшла аб простым і зразумелым: аб пясках, аб торфе, аб плане і справаздачах, аб дубцах. Менавіта дубцы і ўпіхнулі яго ў тую зыбкасць, у дзіўнае здранцвенне, рэчы і твары здаваліся нейкімі скрыўленымі, нейкае іншае святло падала на іх, святло той незразумелай хатыпячоры, і здавалася яму: усё, што ён чуў тут і раней, гэтыя засцерагальныя словы, яго маўклівыя аднавяскоўцы вымаўлялі іх не раскрываючы рота, і ён адмахваўся ад іх. І яго маўклівыя аднавяскоўцы зноў паўсталі перад ім у той дзівоснай хаце-пячоры. Апанавала санлівасць, паплыў сіні туман перад вачыма, вяровачкай пацягнуўся сон, што не дасніў ён сёння, Надзька не дала дасніць. Сон гэты, насланнё нейкае, замгліў яму вочы і зараз, калі Надзька прыбралася, а ён пагаліўся і час ужо быў развітацца ім. Пачала кружыцца галава, і ён з цяжкасцю пераадолеў сябе.

— Дык навошта ж ты прыходзіла, скажы мне? — спытаў ён Надзьку, згадваючы, што ён, здаецца, пытаў яе ўжо аб гэтым, а цяпер звяртаўся зноў, каб развеяць туман, пазбавіцца ад той зыбкасці, у якую ўцягваў яго гэты туман.

— А па басаножкі я прыходзіла, Мацвей.

— Што за глупства, якія басаножкі? — Ён сапраўды не памятаў ужо, як купалася Надзька ў расе, а ён падцікаваў і забраў яе басаножкі.

— Белыя, Мацвей, на платформе, са спражкаю, як з брошкаю чырвонаю.

Спражку, як брошку чырвоную, ён прыгадаў, нечым яна ўразіла яго ў тую ноч, запала ў вока, мо таму, што была чырвонай. А чырвонае з белым, пэўна, не стасавалася, а мо якраз і стасавалася.

— Не помню ніякіх басаножак,— сказаў ён, шкадуючы Надзьку, каб не думала яна, што ён быў сведкам яе вядзьмарскага купання, таго, як яна голая бегала па жыце.

— Помніш, Мацвей. У цябе яны.

— Ды чаму яны павінны быць у мяне?

— А таму што ў цябе, калі б другі хто ўзяў, я б ужо ведала. Ужо б усё сяло пра мяне ведала. А тут ніхто ні гуку, не свой, значыць, нехта быў, далікатны нехта.

— І хто б гэта толькі мог быць такі далікатны?

— Ты, Мацвей.

— Не, я не далікатны.
— Далікатны.
— Дык вось я які далікатны,— ён прыпаў гарачымі, высмяглымі сваімі вуснамі да Надзьчыных пакрыўджаных вуснаў, адчуў іх прахалоду, выпіў гэтую прахалоду, але яе не хапіла, каб ахалодаць яму, і Мацвей працягваў піць ужо жар, поўніўся гэтым яе жарам, расшпільваў на ёй плацце, белыя бездапаможныя гузікі. Але пальцы не слухаліся яго, зрываліся і патаналі ў валасах Надзькі, мяккіх, ільняных, добра прамытых дажджавою вадой, і ён чуў пах таго дажджу, што вымыў Надзьчыны валасы, чуў сам дождж, вясёлы і спорны купальны дождж, знямог ад гэтага дажджу, бы сам трапіў пад яго, успомніў, што сапраўды трапіў. Тады, даўно, паўнюткае вядро купальнай вады вылілася на яго. І ён зноў убачыў перад сабой Алену, далёкую, купальную, вось таксама ж струменілася плацце яе, прыцягвала яго. Але ён тады, як верабей, толькі дзюбнуў Алену ў вусны. Надзька, такая падатлівая, такая паслухмяная яго пальцам, раптам пачала адпіхваць яго:
— Куды ты... Куды ты збег... У каго ты, з кім ты зараз...— Адчула, праведала сваім жаночым сэрцам Надзька.
— Я зараз, я зараз... Я з табою...
— З кім ты зараз, дзе ты зараз? Я ведаю, што зноў з ёю.— Яна стаяла перад Мацвеем — і бы агонь прыпякаў ёй, і быў ён такі моцны, такі спапяляюча астуджальны, што Мацвей спалохаўся той нянавісці, што адчуў у гэтым кволым целе, нянавісці да роднай сястры. Ён на хвіліну нават уявіў сабе, што гэта цела сястры яе, Алены, перад ім і Аленіна цела так ненавідзіць яго за ўсё, што не збылося і не адбылося ў жыцці гэтага цела. І не патрэбна была ўжо яму Надзька, прыкрае нешта адчуў і ўбачыў Мацвей у той недабраце і нянавісці, што так выказалі толькі што сябе ў гэтым гожым целе, набылі нават нейкую самастойнасць, зажылі сваім жыццём, пазбавіўшыся абалонкі, што стрымлівала іх. І Мацвей, адчуваючы непатрэбнасць і бязглуздзіцу таго, што адбудзецца зараз, не здольны ўжо быў спыніцца, таксама натура дзям'янаўская пачала выказваць сябе: калі ісці, дык ужо не азірацца, праз нянавісць і любоў, праз усё. Надзька вылузнулася з яго рук, кінулася да дзвярэй, адчы-

ніла ўжо іх, пастаяла ў парозе і вярнулася назад. Ён зноў паспрабаваў наблізіцца да яе. Надзька спыніла яго дзвюма звонкімі аплявухамі:

— Не за сябе, не за сябе, за яе. Каб ты забыў яе...

— А сама куды цяпер, да каго?

— Не ўказаць.

— Ідзі, ідзі да Брытана. Ідзі да лейтэнанта, яны ўцешаць і нікога не ўспомняць, і ніхто не апынецца за плячыма. А ты была, была ўсё ж маёй...— Мацвей разумеў, што гаварыць так агідна і брыдка, але не хацеў і не мог спыніць сябе, гэтай брыдоты, здавалася яму, патрабавала адзенне Надзькі, пах і чысціня яго, пах дажджу і гарачага праса. Менавіта гэтыя пахі і злавалі яго, выводзілі яго з раўнавагі. Але разам з гэтым ён адчуваў і палёгку, бо ўсведамляў, што толькі што ён пазбег чагосьці непапраўнага, сапраўды небяспечнага, мо больш жахлівага, чым небыццё, смерць. І яшчэ адчуваў ён нейкую і страчанасць, як быў вінаваты ў тым, што не адбылося, што ён як бы ўцёк ад небяспекі, збег ад бяды, не дайшоў да яе краю, не зазірнуў за край. А зазірнуць варта было, там, за краем бяды, як і ў Чортавай прорве, ад якой ён таксама ўцёк, было ўсё ж нешта прывабнае і прыманлівае, і гэтае прывабнае і прыманлівае будуць цяпер неадступна крочыць за ім, мучыць, прыгнятаць нязведанасцю, непадступнасцю, як мучаць і прыгнятаюць чалавека ў сне і наяву тыя, цяпер перасохлыя ўжо крыніцы, да якіх ён прыпадаў у дзяцінстве, прыпадаў, але не здаволіўся, не здолеў захаваць, зберагчы іх для сябе і іншых, а калі збярог, то ўсё роўна не можа забраць іх і панесці іх з сабою, туды, туды. І ўсё астатняе жыццё будуць шчымець, ныць зубы, і сэрца будзе шчымець і ныць да апошняга глытка паветра. У сне ён быў куды больш смелым. У сне яму таксама крычалі «не чапай», і білі яго ў сне ўсе княжборцы на чале з Надзькай. І больш балюча білі, чымсьці толькі што Надзька, віслі на ім пудовымі гірамі жывыя і мёртвыя княжборцы, лямантавалі: не дадзім, не дазволім, не пусцім на край. А ён раскідаў іх усіх, жывых і мёртвых, ён усё ж ступіў за край. Ступіў і ўбачыў. А пра тое, што ён там убачыў, будзе маўчаць усё сваё жыццё. І калі смерць прыйдзе, будзе маўчаць. Не трэба нікому ведаць пра гэта, як не трэба было каню, Бялянцы, чуць аб тым, што ўбачыў Ма-

хахей у здратаваным немцамі жыцце і што было з ім, з Махахеем, у тым жыцці.

Зноў калола чырванню вочы Мацвею цагліна, адзіная цагліна, што знайшоў ён раптам у сцяне дзіўнага дома. І мігцела нешта ў глыбі той цагліны, гарэла жывым вокам яшчаркі, рдзела малінаю, выбліскавала танным каменьчыкам, што быў на справжцы Надзьчыных басаножак, заманьвала, клікала да сябе Мацвея, загадвала пакратаць, выцягнуць гэтую цаглінку з сцяны, узяць у рукі і разгледзець, што ж там ёсць, і ныла загадзя, стагнала ад боязі, што ён паслухаецца, падпарадкуецца гэтаму загаду. І ён ведаў, што не трэба слухацца і падпарадкоўвацца, што гэта выпрабаванне яму, але не мог пераламаць, спыніць сябе, пацягнуўся да цаглінкі неспакойнымі, ліхаманкава-дрыготкімі пальцамі, адчуў, што робіць нешта непапраўнае, адчуў, як загаласіла нешта ў цаглінцы, залямантавала, пачуў, як заплакалі, загаласілі людзі:

— Не крані, не крані, не крані.

І з цаглінкі той жа крык, умольны ўжо:

— Не крані, не крані, не крані.

Але ён ужо крануў, ён ужо трымаў яе ў руках і адчуваў, што не здолее ўтрымаць, не па яго сіле тая ношка, як развязваецца пупок ужо ў яго. Але ўсё ж з апошняга, з астатняга працягваў трымаць. І патух агонь у цаглінцы, патухла, згасла ягада маліна, згарэў Надзьчын танны каменьчык. Пасыпаўся пясок, ракою пачаў наплываць на яго, Мацвея, на людзей, што былі, віселі на ім. Людзі адразу ж адліплі ад яго, пачалі закрывацца ад пяску далонямі, хутацца ў адзенне, а ён цёк і скрозь адзенне, скрозь цэлы людзей, і цэлы іх хаваліся ў пяску, сточаныя пяском, рассыпаліся, развейваліся пылам і прахам. І людзей вакол Мацвея было ўсё меней, але яго гэта не турбавала. У цаглінцы, у самай сярэдзіне яе, Мацвей убачыў самога сябе, голага, белага, са скрыжаванымі на грудзях вашчанымі рукамі. Стаяла ў галавах свечка, але яна не гарэла, ніколі не гарэла, а запалкі былі прыпасены ўжо, каб запаліць яе, карабок запалак ляжаў напагатове і запалачка адна зверху на гэтым карабку. Мо некаму было запаліць над ім гэтую журботную свечку. Хаця людзі яшчэ былі. Дрыжала і тухла ў яго руках цаглінка, хісталася хата, ходырам хадзілі сцены, трашчала страха, карагодзіліся ў пяску лю-

дзі, агрызкі людскія, крычалі нячутнае нешта. Адзіны толькі голас прарваўся, яго ўласны голас з цаглінкі:

— Майстра, майстра!

І з'явіўся, як з неба ўпаў ці вырас з зямлі, майстар, чорны, з нераспазнаным тварам. Перасталі карагодзіцца людзі і хістацца сцены.

— Мы зараз, мы мігам, что нам стоит дом построить, гвоздь забьем — и будем жить,— сказаў п'яненькі чарнявы майстар. І, як толькі што Мацвей, падскочыў да кроквы, а там уздоўж кроквы вілася нейкая вяровачка, як ад лапцяў, ужо добра зношаных, чорная, зашмальцаваная. Да гэтай вяровачкі і пацягнуўся майстар.

— Не чапай, не чапай! — закрычала цяпер адна толькі старая Махахеіха, але спазнілася. Майстар пацягнуў за вяровачку, затрашчаў паркаль, палез па жывым, рассыпаўся, як сатлеў, пасыпаліся цагліны, пачала абвальвацца, крышыцца столь.

— Бегчы, бегчы,— зноў пайшлі карагодам па крузе людзі. І ішлі бясконца доўга, брыў за імі з цаглінкаю, у якой не было ўжо ні вагі, ні мігцення, і Мацвей. І паўсюдна перад ім былі толькі сцены, толькі сцены, толькі сцены, нідзе ні вокан, ні дзвярэй. Рушыліся, падалі на яго пясок, цэгла, гонт, чарапіца. Мацвей не вытрываў, пачаў уваходзіць у цаглінку, укладвацца ў той цаглінцы, як, здавалася яму, ляжаў ён перад гэтым там і стагнаў, стагнаў, адчуваў: жывы ён. Ён застагнаў і зараз, калі Надзька ўжо апранулася, схавалася за адзеннем, схавала сваё цела, што так ненавідзела яго.

— Вось цяпер я веру, што ты такі,— азвалася яна на яго стогн, схапіла з падаконніка малюнак і пабегла з гэтым малюнкам з хаты.— Такі, такі ты, што той бык у акне Ненене...

## 2

І словы гэтыя, як бы мімаходзь кінутыя Надзькай, былі праўдзівымі. Ён недзе падсвядома ведаў гэтую праўду пра сябе даўно, як толькі ў яго рукі трапіў той малюнак, мо й раней ведаў, калі яшчэ збіраў маліну ў зоне знішчэння, наглядаў, як збіраюць і ядуць гэтую маліну іншыя. Але баяўся, грэбаваў пры-

знаць сябе сярод іншых, спадзяваўся, што ён усё ж лепшы, больш чысты, што ён яшчэ не пераступіў той мяжы і не ступіў у той круг, у якім ужо ўсе былі роўнымі. Падманваў сябе, супакойваў, не заўважаючы, што ў падмане гэтым і самазаспакаенні зайшоў ужо далей, чым іншыя, і пойдзе яшчэ далей, таму што іншыя толькі гаварылі, а ён рабіў, асабліва не разважаючы, выконваў усё, што ні загадвалі яму. І не ён, не людзі, што стаялі перад ім і над ім, кіравалі і правілі ўжо ім, а справа. Ён і сам не заўважыў, калі гэта здарылася, калі справа ўзяла яго ў свае рукі, калі ён пераступіў цераз самога сябе. Ці не тады, калі пачаў пазбаўляць Княжбор вады, ці не ў тую хвіліну, калі зацвердзіўся ў думцы: вада — вораг. Потым, багата пазней, калі яму гаварылі, што ні адзін гаспадар не распачынае будоўлі ■ даху, што ён будаваў не сабе, а дзядзьку, што ён мо нават замаскіраваны вораг. Усё гэта было паклёпам. Ён рабіў усё шчыра і з душой, часам нават лепей, чым тое можна было. А куды ён глядзеў тады? Ды туды ж, куды і ўсе, у дзень будучы, які трэба было накарміць, у раніцу, калі пачынаюць працаваць булачныя. Ён завозіў у гэтыя булачныя хлеб. І адчуваў сябе дабрадзеем. Ён вёз, раздаваў хлеб Махахеям, Роўдам, падлеткам, сустрэча на вакзале з якімі яшчэ наперадзе ў яго, карміў іх, бо і сам быў з іх. Ён і сабе не даў хлеба, і сябе абдзяліў, сябе — у першую чаргу. Толькі гэта здарылася зусім не тады, калі ён пазбавіў Княжбор вады, не атрымаў, не сабраў, не падвёз, а куды раней, куды раней. І таму ў кабінеце Шахрая ён быў падрыхтаваны да ўсяго, што павінна было здарыцца потым, потым... Ён пайшоў яшчэ далей за Шахрая...

Мацвей стаяў на парозе і не ведаў, ці то замыкаць, ці то не хату, куды гэта дзеўся з раніцы дзед Дзям'ян і ці ёсць у яго ключ, як дзед Дзям'ян паклікаў яго да сябе. Ён сядзеў пад паветкаю на старой, падзёўбанай сякераю калодзе і намотваў то на адну, то на другую руку валасяное, невядома дзе да гэтага прыхаванае пута.

— А я цябе шукаю, дзед,— сказаў Мацвей.— Ты даўно ўжо ў двары?

— Даўно,— з націскам вымавіў дзед Дзям'ян і нядобра зірнуў на ўнука.— І няма чаго мяне шукаць. Я не голка і не сакера. Зразумеў?

— Ага,— збянтэжыўся Мацвей, разумеючы дзедаву гаворку і яшчэ трошкі больш разумеючы: гэта ж быў яго родны дзед і ведаў ён яго натуру і руку — і таму загадзя прадбачліва паціхеньку пачаў адступаць ад паветкі.

— Ага,— пацвердзіў дзед Дзям'ян.— Развіднела, толькі мне туман.

— Што за туман, дзед?

— А той туман, што бугай ты ці...

— Ці?

— Уга... Дык гэта ты адной сястры жытку згубіў.

— Гэта яшчэ невядома, хто каму жытку згубіў... Наогул, дзед, не лезь ты сюды, не тваё гэта дзела.

— Не маё? Ану падыдзі бліжэй да мяне... Бліжэй.

Уцякаць было смешна і не паслухацца — таксама. Ён падышоў. Дзед Дзям'ян падняўся з калоды, намотаў пута на правую руку, левай паспрабаваў, як яно, вытрывае, і са свістам пачаў хвастаць гэтым путам Мацвея, прыгаворваючы:

— Вось табе, бугаіна, вось, бугаіна. Гэта за Алену... А гэта за Надзьку. А гэта ад іх бацькі, а гэта ад мяне...

— Ну і хопіць, пэўна,— спыніў яго Мацвей.— Княжбор вялікі, і бог яшчэ ёсць.

— Трэба, дык і за бога разлічуся. А цяпер прэч з вачэй маіх.— І дзед стомлена сеў зноў на сваю калоду.

— Не, дзед, цяпер якраз і пагаворым.

— Я сваё ўсё ўжо сказаў... Мо лішняе што,— дзед прыжмурыў вока,— дык вось пута, адсып назад.

— Дзед Дзям'ян,— пачаў Мацвей і замоўк. Дзед Дзям'ян счакаў і загаварыў сам:

— Я дзед ужо сто гадкоў. І бачу, няма чаго табе сказаць, калі было б што, сказаў бы. А так няма чаго.

— Ёсць,— уздыхнуў Мацвей.— Ёсць. Толькі спазніўся ты са сваёй навукай.— І столькі суму было ў голасе ўнука, што дзед страпянуўся, паглядзеў у вочы Мацвею, бы свярдзельцамі ўпіўся. І свярдзельцы гэтыя, чым больш ён прыглядаўся да ўнука, рабіліся ўсё больш трывожнымі, цвярдзелі і халадзелі, і вось толькі шчылінка, кропка засталася на твары дзеда Дзям'яна ад вачэй, халодная, што лёд. І гэтая кропка вымушала да адказу.

— Твая праўда, дзед,— сказаў Мацвей.— Няма чаго мне табе сказаць. Ну чаго ты, дзед, дні на два раней не ўзяўся вучыць мяне гэтым сваім путам? Так добра калісь яно дапамагала мне.

Дзед Дзям'ян нарэшце адвёў вочы ад унука, схіліў галаву:

— Дзень-два раней таксама было позна ўжо. Тут гады згублены... Але я табе, Мацвей, не суддзя. Путам магу, яшчэ магу, але... І ніхто, помні гэта, табе не суддзя. Судзіць сябе ты будзеш сам. А каменем кінуць у цябе — не крыўдуй. Гэта ж ты сам у сябе кінуў яго. Ведай аб гэтым, ведай, камень ужо ляціць. Бачу я яго. Да гэтай хвіліны не бачыў, а зараз бачу. Прабач мне, што на цябе, ляжачага ўжо, руку падняў. Прабач.

— Нічога, дзед, я яшчэ не ляжачы.

— Ляжачы, ляжачы... Да ўчарашняга дня...

Учора, адразу пасля нарады, Шахрай склікаў планёрку.

— Як з зямлёй? — напорыста пачаў ён з Мацвея, з яго ўчастка, бы і не ён толькі што хадзіў з Мацвеем па гэтым участку, усё бачыў і чуў і малінай нават пaласаваўся.

Мацвею даводзілася ўдзельнічаць у такіх планёрках і раней, і ён прывык да гэтага напору, да пругкай і вірлівай плыні такіх планёрак і да таго, што на іх адно трэба гаварыць, а два трымаць у галаве. І таму ад прамога адказу ўхіліўся:

— Робім.

— Я ведаю, што робіце. Сам бачыў. Будзе зямля? Будуць зданы восенню пад ворыва плошчы?

— Да восені відна будзе.

— Я цябе, начальніка ўпраўлення, пытаю: здасі семсот шэсцьдзесят тры гектары пад хлеб?

— Будзе відна. Я вам казаў, што паўтары тысячы...

— Ты мне без «што», ты мне пра зацверджаныя рэспублікай гектары цвёрда і пэўна адкажы,— зноў, як і ў Храпчыне, перабіў Мацвея Шахрай, не даў яму выказацца, адвёў яго ў бок ад асноўнага.— Ты хто там, у сваім БМУ, начальнік ці цёця Дуня — прыбіральшчыца?

— У мяне прыбіральшчыцы няма. Няма ніводнай цёці Дуні ў Княжборы.

— Кіньце, таварыш Роўда, вы не на калгасным сходзе, а на планёрцы.— Трохі ніжэй, стомлена: — Трэба здаць.

— Трэба — дык здадзім. З гэтага б і пачыналі.

Шахрай нечакана ўсміхнуўся, пазіраючы на яго, усміхнуўся і сакратар абкома. Не вельмі даўно такая ж размова, вытрыманая прыкладна ў тым жа тоне і ў тых жа словах, адбылася і з Шахраем, толькі не тут. «Будзе хлеб Палесся?» — насядалі на Шахрая. «Відна будзе».— «А вы, таварыш Шахрай, не кіраўнік ужо болей?» — «Пакуль кіраўнік».— «Дык будзе хлеб Палесся?» — «Відна будзе».— «Патрэбен хлеб Палесся. Краіна чакае. Трэба».— «Трэба — дык будзе...»

Мацвей нічога не ведаў аб гэтай размове і з прыкрасцю думаў, чаго гэта яны з Шахраем ходзяць усё вакол ды вакол, перад кім б'юць хвастамі, як бы робяць нешта недазволенае, злачыннае. І быў ён ужо не вельмі шчырым у гэтай сваёй прыкрасці, бо ведаў: з гэтай хвіліны ён ужо сапраўды ў змове з Шахраем. Яму яшчэ заставаўся час, пакуль ішла планёрка, пакуль прысутнічаў на ёй сакратар абкома, падняцца і парушыць гэтую тайна заключаную паміж ім і Шахраем змову, але ён не падняўся. А пасля планёркі змова тайная, да іх агульнага задавальнення і згоды, стала яўнай.

...— Што ў цябе з водапрыёмнікам, Мацвей? — Ён быў адзін на адзін з Шахраем. І Шахрай як бы прасіў у яго прабачэння.

— Самі бачылі. Увогуле мы напагатове.

— Бачыў. І ўсё ж, калі — шчыра?

— Шчыра, Алег Віктаравіч, з водапрыёмнікам шчыра. А з...

— Ведаю, пачакай. Плаціны, дамбы?

— Хужэй.

— Але не затопіць іх?

— Відна будзе.

— Планёрка скончылася.

— З плошчамі ўправімся, будзем сціплымі, падрыхтуем не паўтары тысячы, а тысячу дзвесце гектараў, з вашай дапамогай вырвем і плаціны, і дамбы да маразоў. Культуртэхніку ўжо трэба...

— Пачакай з культуртэхнікай. Дамбам, плацінам патрэбен час, каб уляжацца... Ты ж не горай за мяне

ведаеш, усё даруецца, калі будуць плошчы, але затопіць іх, затопіць людзей...

— Каб неяк утрэсці з вадасховішчам.

Шахрай, здавалася, чакаў гэтага. І мо дарэмна асцерагаўся гаварыць раней аб вадасховішчы Мацвей. Ён усё яшчэ на нешта спадзяваўся.

— Праект з сабой?

Дарэмнымі былі ўсе спадзяванні. Так, з самага пачатку яны былі ў змове, увесь час адзін аднаго перамудрыць толькі хацелі. Шахрай яшчэ да планёркі ведаў, што праект у Мацвея з сабой, а ён ведаў, што праект гэты спатрэбіцца Шахраю, і таму прыхапіў яго з сабою. І Шахрай спытаў яго пра праект, не зірнуўшы нават на Мацвея, хуценька толькі паглядзеў на дзверы, калі Мацвей ужо разгортваў праект, не дачакаўся, пакуль разгорне поўнасцю, выхапіў са шклянкі чырвоны аловак і крыж-накрыж перакрэсліў ім вадасховішча.

— Дзякуй, плошчы будуць, Алег Віктаравіч, будзе хлеб.

— Налягай на зямлю, Мацвей. І... калі дзірку ў пінжаку.

З гэтай дзіркі ў пінжаку ўсё і пасыпалася. Словы Шахрая непрыемна ўразілі, яго нават перасмыкнула. Шахрай прыкмеціў, супакоіў:

— Пераможцаў не судзяць. Не мы з табою першыя, не мы апошнія. Не на меліярацыі ўсё гэта пачалося, не на ёй і скончыцца.

— Так усё, Алег Віктаравіч, але...

— Дагаворвай. «Але» твае значаць, што ты чысценькі, сумленны чалавек, а я нягоднік? Ці ты яшчэ некага маеш на ўвазе, на кагосьці азірнуцца хочаш, дык і сляпы ж бачыць: згодна са схемай вадасховішча павінна будавацца ў першую чаргу. А потым, потым ужо меліярацыйная сетка. І ў апошнюю чаргу — асваенне тэрыторыі. У апошнюю... А што больш патрэбна? Хлеб. Усе бачаць, што ты дзеля прыліку толькі займаешся вадасховішчам. Ні людзей, ні тэхнікі там, ды і дзе ўсяго і на ўсё напасешся. Але ўсе як вады ў рот набралі, спадзяюцца на цябе, што ты дасі хлеб. І хлебам гэтым будзеш дараваны. І яны таксама будуць дараваны за тое, што патураюць табе. Хлебам усе дараваны.

— Дараваны хлебам...

— Дараваны хлебам. Дзеля хлеба, каб даць гэты хлеб, знаходжуся і я тут, кручу, віляю, хвастом б'ю. Ты што думаеш, я нічога не разумею і сумлення ў мяне ні на капейку?..

— Дык мо лепей бы і вам, і мне сумленна сумленне сваё захоўваць?

— Вось што, Роўда, не трэба, разумееш?

— Разумею.

— Ну і добра. А я тут — яшчэ раз табе даводжу — дзеля хлеба тут сяджу. І буду сядзець, як асуджаны. І дам хлеб. Мне твой Княжбор, твае семсот шэсцьдзесят тры гектары — дробязь у той справе, якой я служу. Але нада мною сістэма, сістэма забеспячэння, планіравання, фінансіравання. Вось ва ўсім гэтым якраз і знаходзіцца твой Княжбор, і кожны рубель, што адпушчаны яму, я павінен выкарыстаць так, каб атрымалася ўжо два рублі, каб мне заўтра далі тры...

— А што вы мяне ўгаворваеце, Алег Віктаравіч? Колькі эмоцый, колькі слоў, як сапраўды сумленнем паграшылі.

— Далёка пойдзеш, Роўда.

— Ды куды ўжо толькі пусцяць.

— Ну-ну, не збіся толькі з круга.

— А што, з круга нельга збівацца? — Мацвей у тую хвіліну пераступіў ужо цераз Шахрая, той адзін на адзін з ім быў не такі ўжо мажны і самавіты, выглядаў неяк азызла, адрузла. Але недзе ўсярэдзіне гэтай азызласці і адрузласці была прыхавана і спружына, што кожнае імгненне магла распраміцца і адкінуць Мацвея, паказаць Мацвею яго месца. І гэтую здольнасць імгненна аднаўляць неабходную дыстанцыю горай за ўсё ненавідзеў зараз Мацвей у Шахраю. Здаецца, аб усім пагаварылі і дамовіліся, ва ўсім зраўняліся, але ўсё роўна няроўныя.

— Дай бог ні мне, ні табе не спазнаць, што такое сысці з круга. Збірай свае паперкі.

Спружына ў Шахраю ўсё ж спрацавала, ён як да гэтага і гэтак жа сядзеў за сталом, і ўсё ж гэта быў іншы Шахрай. І голас у яго змяніўся.

— А начальства ўпадабала цябе,— нешта, здаецца, пагражальнае было ў словах Шахрая, але ён тут жа схаваў гэтую пагрозу за ўсмешкай.— Не знікай,

будзеш і ты суправаджаць начальства. Не ўсё ж толькі мне.

Што было за гэтымі словамі, Мацвей не зразумеў ды і не вельмі імкнуўся зразумець. Адно яму было цяпер ясна: рукі ў яго развязаныя. Ён можа рабіць з Княжборам усё, што хоча. І будзе рабіць, разаб'ецца, а падрыхтуе не тысячу дзвесце, а паўтары тысячы гектараў, а мо і больш. Ён дакажа, на што здольны. Шахрай яму цяпер не перашкода, а праект толькі паперка, а не закон яму, калі яму столькі дазволена, усё дазволена. Усё дазволена і ўсё спішацца, даруецца хлебам, калі ён дасць хлеб, плошчы пад яго. А ён, кроў з носа, дасць. І ўзнімецца ў Княжборы пшаніца, што бачыў ён учора, калі ездзіў разам з Шахраем і Сяргеем Кузьмічом па меліяраваных гаспадарках Палесся, вырастуць у Княжборы такія ж буракі і бульба, што і на тарфяніках тых жа меліярыраваных гаспадарак.

Выехалі яны ўжо трохі і позна, Сяргей Кузьміч яшчэ зірнуў на сонца, калі яны выязджалі. Шахрай супакоіў яго.

— Змяркаецца позна. Мы ж на поўдні. Усё будзе па праграме, не парушым праграмы.

— Не парушым, дык паганяй,— загадаў Сяргей Кузьміч.

І яны кранулі, трохі паблукалі па горадзе, па вузкіх і зялёных яго вуліцах, здаўленых шматпавярховымі камяніцамі, выскачылі да ваколіцы. Вуліцы там былі не шырэй, але здаваліся больш прасторнымі. Гэта была ўжо амаль што вёска, аднапавярховая і драўляная. Горад пераходзіў, пераліваўся ў вёску непрыкметна, яна была як бы працягам горада. І калі б Мацвею не трапіла на вочы шыльда з назваю гэтай вёскі, ён бы і не здагадаўся, што горад ужо скончыўся. Вёска была зусім не падобная на вёску, хоць у першую хвіліну было і цяжка вызначыць, што тут не вясковае: хаты, хлявы, гародчыкі, «шпакоўні» ў гародчыках, градкі з капустаю, гуркамі, памідорамі — усё як і мае быць. І толькі недзе ўжо ля аселіцы Мацвей уцяміў, што там не вясковае, чужое вёсцы. Парнікі, што доўжыліся бясконца, на ўсю вясковую вуліцу. На працягу ўсёй вуліцы, уздоўж яе, скрозь усе гароды, над кожным кусцікам памідораў, над кожным калівам капусты — сінтэтычная празрыстая

плёнка — штучнае неба. Яно было не суцэльным, а складвалася з выцягнутых у глыбіню двара казарменных прамавугольнікаў, у геаметрычнай правільнасці і разлічанасці якіх было нешта машынна-прамысловае, штосьці ад планіроўкі горада, які яны толькі што пакінулі. Княжборскія гуркі і памідоры яшчэ не зведалі такога неба, а самі княжборцы яшчэ не збіралі столькі гародніны са сваіх град, таму што іх грады служылі толькі ім, а гэтыя забяспечвалі ўжо і горад. І Мацвей упікнуў у думках сваіх землякоў, што яны такія непрадпрымальныя, упікнуў і гэтых за прадпрымальнасць. У вёсцы, якой яны зараз ехалі, некалі настаўнічаў ні то Купала, ні то Колас, Мацвей блытаў іх яшчэ са школы, яны зліліся яму як бы ў адзін твар, твар чалавека, які стаў увасабленнем яго роднай зямлі. І Мацвею было ніякавата за тое, якім зернем прарастае пасеянае кімсьці з іх разумнае, добрае, вечнае. Але ніякаватасць гэтая знікла, як толькі скончыліся парнікі.

Пайшлі гладкая, як стол, дарога і такое ж гладкае і роўнае, як стол, поле, занятае пшаніцаю. Поле было хаця і пераменлівым, вабіла фарбамі і хвалявала, але ўсё ж закалыхвала бясконцасцю. Да самага далягляду нічога: ні кусціка, ні дрэўца, што раслі б тут па сваёй волі і ахвоце, усё пасеяна і пасаджана толькі рукою чалавека. І гэтая рукатворнасць спачатку ўражвала Мацвея, а потым пачала хіліць на сон.

— Вид огромного, весь небосклон обнимающего бора, вид «Полесья» напоминает вид моря... Іван Сяргеевіч Тургенеў,— перабіў дрымоту Шахрай.

— И впечатления им возбуждаются те же,— адразу ж падхапіў сакратар абкома,— та же первобытная нетронутая сила расстилается широко и державно перед лицом зрителя... Іван Сяргеевіч Тургенеў.

— Так. «Поездка по Полесью», Іван Сяргеевіч Тургенеў.— Шахрай выпраставу руку ў адчыненае акно машыны, паказаў на поле, бы сам Тургенеў стаяў зараз на тым пшанічным полі.— А гэта ж хіба не мора: шырока і дзяржаўна. Дык трасцы, якой ім трэба яшчэ: зыбкая аснова, зыбкая аснова... Зводзім прыроду, груганоў плодзім... Из недра вековых лесов, с бессмертного лона вод поднимается тот же голос: «Мне нет до тебя дела,— говорит природа человеку.— Я царствую, а ты хлопочи о том, как бы не умереть».

А гэтая пшаніца, а бульба, а аўсы, пад якімі нам угатавана легчы,— ці не сведкі таго, што сёння царуем мы.

— Што ж застаецца прыродзе — клопат і турботы, каб не сканаць,— недарэчы сказаў Мацвей. Сказаў зусім не тое, аб чым думаў, а думаў ён прыкладна аб тым жа самым, што і Шахрай з Сяргеем Кузьмічом. Не мог інакш думаць. Перад ім жа стаяў хлеб, і які яшчэ хлеб рос на зямлі, што была адваявана ў дрыгвы, у лясоў, у тых самых балот, з якімі змагаўся і ён, Мацвей Роўда. Але нешта перасцерагальнае сыходзіла з неабсяжнасці гэтага пшанічнага мора, лунала ў яго бясконцасці, мо голас тых, што жылі колісь тут, на гэтым балоце. А мо і не было ніякай перасцярогі, мо апанаваў яго, Мацвея, проста сум, застарэлы яго сум невядома чаго, па кім і чым. Але суму яго, на шчасце, не зразумелі, не адчулі.

— Иногда деревья редели, расступались, впереди светлело, тарантас выезжал на расчищенную песчаную поляну, жидкая рожь росла за ней грядами, бесшумно качая свои бледные колоски.— Як знарок, толькі яму, Мацвею, працытаваў усё таго ж Тургенева Шахрай. Але гэта было проста супадзеннем, бачыў Мацвей, каму так у руку гаворыць Шахрай.

— Едешь, едешь, не перестает эта вечная лесная молвь, и начинает сердце ныть понемногу, и хочется человеку выйти поскорей на простор, на свет, хочется ему вздохнуть полной грудью...

— И давит его эта пахучая сырость и гниль...— Сяргей Кузьміч, тут ужо без памылкі, звяртаўся да яго, да Мацвея, хаця, на першы погляд, ён, здаецца, проста падтрымліваў гульню, што пачаў Шахрай. Той дэманстраваў яму сваю памяць, а ён у адказ сваю. Але глядзеў пры гэтым Сяргей Кузьміч не на Шахрая, а на яго, Мацвея, бы запрашаў яго таксама нешта сказаць, працытаваць штосьці. І Мацвей глядзеў на Сяргея Кузьміча, у вочы яму. Нешта было ў вачах таго такое, што не адпавядала гэтай гульні ў веданне класікі. Вочы яго пасміхаліся, але дзіўна так, яны былі няўлоўна і невыразна ўсмешлівымі да зрэнак, да нейкай кропкі ў зрэнках. Да кропкі, у якой запасіўся холад, выстуджвалася льдзінка, якая, здаецца, выпрабоўвала яго, правярала, загадвала не маўчаць і не абыходзіцца нязначнымі словамі, гаварыць тое,

аб чым ён думае і што ён думае. І Мацвей ужо ліхаманкава згадваў, што б сказаць такое, не зусім бязглуздае, каб стала зразумелым, што ён не лыкам шыты, нешта бачыў і нешта чытаў. Але льдзінка ў вачах сакратара абкома блытала і збівала яго, патрабавала нечага большага, што было на паверхні і прасілася на язык. Да гэтага з ім так ніхто не маўчаў і ніхто не гаварыў і не патрабаваў ніхто такой простасці і яснасці, мо толькі родны дзед Дзям'ян. У сакратара і дзеда Дзям'яна было нешта аднолькавае.

— А я сам чытаў... Я таксама чытаў...— адчуваючы ў роце нейкую клейкасць і супраціўленне слоў, што вымаўляліся ім, пачаў Мацвей.— Талстога Льва Мікалаевіча чытаў...

Шахрай прыжмурыўся, а Сяргей Кузьміч, наадварот, вачыма прыспешыў Мацвея працягваць. І ён працягваў, разумеючы, што вярзе лухту нейкую, што лепш, чым такое глупства плясці, адкусіць бы сабе язык. І гэтае разуменне яшчэ больш злавала яго. І гаварыць ён стаў яшчэ больш блытана і бязладна:

— Не Талстога чытаў, а кагосьці іншага, а мо і Талстога, не помню, чытаў. Мо пра яго нехта пісаў ці ён пра кагосьці, не помню.— Мацвей сам жахаўся, што за бязглуздзіцу вярзе ён, але спыніцца не мог.— Дык вось Талстой... Не, Талстому, не, усё ж Талстой... Прынёс, падарыў дзецям ці яшчэ камусьці рэпрадукцыі нейкага мастака. Вядомага мастака. Вельмі вядомага мастака. Але справа не ў гэтым, а ў тым, што пачала разглядваць гэтыя рэпрадукцыі маленькая дзяўчынка. Зусім маленькая вясковая дзяўчынка. Да гэтага яна ніякіх мастакоў... карцін ніякіх мастакоў не бачыла. Глядзіць, як на цуд, як на дзіва, і прыгаворвае: ага, гэта сена, гэта сенажаць, млын, а гэта баба мыецца, гэта конь, гэта зноў баба мыецца. І тут баба мыецца. І яшчэ баба мыецца... Талстога зацікавіла, чаму гэта раптам столькі баб мыцца пачало. Ён ведаў гэтага мастака, карціны яго, але ніякіх баб, ды каб яшчэ столькі іх размывалася, не было. Узяў ён у дзяўчынкі рэпрадукцыі, глядзіць, ніхто не мыецца. Проста намаляваны голыя жанчыны. Так сказаць, прыгажосць у мастацкім адлюстраванні. Але дзяўчынка не разумее, што гэта прыгажосць у мастацкім адлюстраванні. Яна мяркуе па-свойму: навошта баба распранулася дагала? Каб памыцца. Вось так...

— Не зразумееў гумару,— рагатнуў Шахрай. Сяргей Кузьміч хоць і не рагатаў, але таксама непаразумела глядзеў на Мацвея, і халодная льдзінка была ўжо на ўсё яго вока.

— А няма гумару,— развёў рукамі Мацвей, адчуваючы, што самае цяжкае ён праскочыў ужо.

— Але ўсё ж нешта ёсць, Мацвей Антонавіч, нешта ёсць. Дыму без агню не бывае. Давай агонь,— запатрабаваў сакратар.

— Няма яшчэ і агню,— усміхнуўся Мацвей,— так, іскрынкі толькі. Колькі ўжо едзем, а глядзіце — усё голая баба мыецца. Ад самага горада голая баба. Поле і поле. А Палессе ж — і нідзе «обнимающего небосклон бора», лесу. Ні дрэўца. Дык ці ж Палессе гэта? А вы ж гаварылі, што маліну любіце збіраць, Сяргей Кузьміч, і жонка ваша любіць, і дачка.

— Сын,— паправіў яго Сяргей Кузьміч.— Але сапраўды справа не ў гэтым. Дваістасць, вось што, Мацвей Антонавіч, сапраўды вельмі ўжо небяспечна ў нашай справе. Небяспечна?

— Небяспечна,— пацвердзіў Мацвей.

— Вось, а вы гаворыце: агню яшчэ няма. Ёсць ужо і агонь. Трэба прыбівацца да аднаго берагу і трымацца яго. Трэба мець перакананні і змагацца за іх. А інакш сапраўды голая баба атрымаецца. Мужчына голы.

— Не так гэта, ён не голы,— кінуўся на выручку Мацвею Шахрай.— Наслухаўся, а так ён моцны арэшак.

— У тым і справа, моцныя арэшкі, хоць і з цяжкасцю, але заўсёды ўшчэнт разбіваюцца. Ні шкарлупкі, ні ядрышка ад іх. Разанскі цуд быў ужо. Мы не забылі.

Аб разанскім цудзе Мацвей памятаў, але што і як аб ім мяркуе сакратар, ён не паспеў паслухаць. Яны былі ўжо ў вёсцы. Каля адной з хатак гэтай вёскі дзядок акорваў жэрдкі. Вадзіцель падруліў да яго і спыніўся, пачаў распытваць пра дарогу. Сяргей Кузьміч паказаў Мацвею з Шахраем, што няблага было б выйсці і ім з машыны і размяцца. І яны выйшлі, паздароўкаліся за руку з дзядком. Той крыху нават разгубіўся ад такога сяброўскага вітання. І наогул ён быў нейкі разгублены і нясмелы, маленькі, у маленькай чорнай кухвайцы, у маленькіх гумавых жаночых бо-

тах, то хапатліва і нязграбна пачынаў махаць сякераю, то раптам адстаўляў сякеру і пільна, па-дзіцячы дапытліва прыглядаўся да кожнага з тых, хто стаяў перад ім, вырашаючы, пэўна, нешта сам сабе і ніяк не адважваючыся на рашэнне. Сакратар абкома паспрабаваў разгаварыць дзядка, але той на ўсе пытанні адказваў адным словам: зарабляем, жывём, дзеці ёсць. Карову трымаем...

— Ну, тады давай, бацька, шчыра, што цябе гняце? — мусіў спытаць тады ўжо дзядка напрамую сакратар абкома.

— А што мяне, добры чалавек, можа гнясці, кажу ж, усяго хапае, яшчэ і застаецца.

— Вось пра тое, што застаецца, ты і раскажы.

— А што пра гэта гаварыць,— дзядок зусім перастаў цюкаць сякеркай, прыставіў яе, як стрэльбу, да правае нагі, да маленькага жаночага гумавага боціка, які калісь, пэўна, ведаў і глянец, і лак, а цяпер ужо ўсё згубіў, усё выпілі і з'елі росныя ранкі, колкія травы, халодныя туманы; пільна зірнуў у твар сакратару абкома, азірнуўся на сваю хату, бы чакаў адтуль падтрымкі, але не дачакаўся. На хату, на вокны яе зірнулі і госці, у акне ледзь прыкметна калыхнулася фіранка, мільганула старэчая жаўтлявая рука, ці то мо тварык, як рука. І ўсё. І гасцям не абазвалася хата. І было ім ужо трохі ніякавата і прыкра стаяць перад гэтым негаваркім дзядком і яго маўклівай хатай, дагледжаным, сытым, добра апранутым і добра абутым. Але сакратар абкома, пэўна, не прывык, каб апошняе слова было не за ім. І ён пачаў падступацца да дзядка з другога боку.

— Век, гляджу, бацька, пражыў немалы, усяго наглядзеўся?

— Уга, добры чалавек, чаго-чаго, а гэтага хапіла.

— І ваяваў?

— І гэтага дабра хапіла. І ваяваў, і партызаніў. І ўзнагароды маю.

— Ну дык вось, давай цяпер так, як партызан партызану: што ў цябе на душы?

— А ты... а вы што, таксама партызанілі? — Дзед узняў вочы ад зямлі, ад сякеры і сваіх гумавікоў, і Мацвей убачыў у яго вачах тую ж самую кропку, што бачыў у вачах сакратара абкома, астуджальную льдзінку, што перамагла яго, вымусіла гаварыць.

Убачыў, зразумеў і адчуў, што́ ж агульнае паміж сакратаром абкома, яго дзедам Дзям'янам і... гэтым дзедам. Вайна. Яны прайшлі аднымі дарогамі, і гэтыя дарогі назаўсёды паядналі і парадніліі іх, звязалі іх такім ланцугом, якога ўжо сёння і не знайсці, якога ён, Мацвей, і не ведае. Але гэтая кропка, гэтая льдзінка з'явілася ў вачах дзеда і растала, і, па ўсім, каштавала яна дзеду добра, бо вочы яго адразу ж зачырванеліся і павільгатнелі. Вільготна паплыў і голас яго:

— Ты, відна па ўсім, вялікі чалавек, вялікі начальнік.

— Вялікі, бацька. Вышэй за мяне тут вось нікога і няма.

— Гэта добра, што ты выбіўся ў людзі. А я вось буракі саджу.

— Таксама няблага, бацька, добрыя буракі?

— Уга, яшчэ якія. Мы вось са старой больш двох не здолеем і падняць. Зямля, торф радзіць пачаў.

— Гэта таксама няблага, бацька. Раней жа тут трыццаць — сорак пудоў хлеба з дзесяціны — больш і не ведалі.

— Уга, трыццаць — сорак, насенне збіралі. А цяпер усё з зямлі само прэ.

— А ты ўсё незадаволены, усё табе мала.

— Мне хапае, гектар калгасных буракоў з бабай узяліся даглядзець. Восенню сабяром, здадзім...

— І заробіце добра.

— Заробім добра, панесці б...

— Вось бачыш, на што ж ты крыўдзішся?

— А і жалюся табе: панесці б.

— Што ж гэта за скарга такая?

— Вось бачыш, адышоў ты ад нашага жыцця, не разумееш.

— А ты паспрабуй усё ж, растлумач.

— Я ж спрабаваў, усё табе сказаў.

— Не чуў...

— Самагонкі мне няма з чаго выгнаць.

— Што?!. Самагонка, мне гаварылі, на Палессі зжыта ўжо.

— З жыта, з жыта самагонка.

Мацвей не вытрымаў, зарагатаў, сакратар абкома зірнуў на яго, мо хацеў асадзіць, але і сам не вытрымаў, таксама зарагатаў. А стары нечакана заплакаў.

І сам, пэўна, засаромеўся сваіх слёз, сеў на жэрдкі, рукавом кухвайкі пачаў выціраць вочы. І колькі ні выціраў, не мог выцерці. Слёзы наплывалі і наплывалі, не буйныя, бляклыя, як вочы, у якіх яны нараджаліся. Стары хаваў гэтыя свае вочы, пазіраў больш на неба, чымсьці на людзей, бы чакаў цяпер ужо адтуль дапамогі альбо адказу, а мо слаў ён праклёны гэтаму небу, бачыў там таго, хто пакрыўдзіў яго. Але калі і бачыў, і праклінаў, то неяк нязлосна, а хутчэй пакорна, з невялікім дакорам. І дакараў, папікаў больш, падобна, сябе, чаму ён такі маленькі перад гэтым вялікім небам, перад гэтым спакотным сонцам. І глядзець на яго Мацвею было невыносна горка. Ён, здавалася яму, адчуваў у роце, на языку горыч гэтых мутных і бляклых слёз, яны перацiснулі яму горла, шчыпалі вочы, хілілі, гарнулі да дзеда, да яго рук, да яго твару, вачэй. І ён вачыма старога на імгненне азірнуўся вакол сябе, паглядзеў на зямлю, на неба, на сонца і на самога сябе. Смутак, што ўсё часцей і часцей ахопліваў яго, смутак і журба, з якімі ён пачаў ужо звыкацца, прымаць як нейкую існасць, як святло і змрок, адрынулі, наваліўся жах, халодны і спапяляючы адначасова, жах за сябе і перад гэтай слязінкай старога, што плакаў у глыбі Палесся пасярод лета. Жах гэты павялічваўся, мацнеў, бо слязінку гэтую старэчую як бы падтрымлівалі само неба, сама зямля, само сонца. У небе і на сонцы таксама нешта ценenька дрыжала, слёзнае і журботнае, нешта патаемнае і грознае, здаецца, крылася ў вусцішна аціхлай маўклівай зямлі, што да далягляду была занята пшаніцаю, да далягляду, за якім ледзь-ледзь згадваўся вымушаны адступіць лес. Жах запасіўся ў Мацвею яшчэ і таму, што ён не разумеў, з-за чаго так нечакана разрумзаўся гэты стары. Ну няхай бы дзіця, жанчына, старая, а то стары, партызан, салдат, гаспадар. І быў ён бездапаможны перад гэтымі яго слязьмі, малады і дужы, магутны не толькі сваёй уласнай дужасцю і маладосцю, але і ўсемагутнасцю тэхнікі, якая была даверана яму. Бездапаможны быў не толькі ён, але і сакратар абкома, які замітусіўся, кінуўся выпадніmаць дзеда, дастаў з кішэні насоўку, узяўся выціраць яму вочы.

— Не трэба псаваць,— адхіліў руку сакратара абкома стары.— Пройдзе. Самі пацяклі, самі і высах-

нуць... Брыгадзір мяне набіў,— сказаў стары і змоўк. Зацята маўчалі, чакалі працягу і госці.

— Мне буракі тыя вывезці трэ было. Папрасіў у брыгадзіра коніка, дык ён як і не чуе. Другі раз да яго — тое ж самае. З пляшкаю да яго па таго коніка трэ падыходзіць. А дзе я той пляшкі кожны раз напасуся? Ах, п'янчуга ты, я кажу яму... А ён мяне дубцом.

— Балюча? — спытаў Шахрай.

— Не. Толькі лепей, калі насмерць...

— Калі ж гэта было? — нешта прыкідваючы, са здзіўленнем спытаў старога Мацвей. — Цяпер жа лета, а буракі, калі тое, восенню ж.

— А восенню і было.

— І з той пары?..

— І з той пары, пэўна, да скону ўжо.

— Садзімся, едзем,— кінуўся раптам да машыны сакратар абкома. Шафёр хацеў быў выруліць з вёскі і павярнуў ужо, але сакратар абкома загадаў ехаць зноў у вёску, да праўлення.

— Пакуль я не знайду таго брыгадзіра, жывы не буду.

Брыгадзіра яны так і не знайшлі. І цяпер, кіруючыся да свайго вагончыка, што ў адзіноце стаяў за аселіцаю Княжбора, Мацвей думаў: можа і лепей, што не знайшлі. Хто яго ведае, як бы павёў з ім сакратар абкома, а Мацвей бы пагутарыў з ім, так бы пагутарыў, што не паднялася б болей у брыгадзіра рука не толькі на старога, а і на сваіх дзяцей. Сёння ж боль і адчай, што апанавалі яго ўчора, аціхлі. Больш таго, на адлегласці, пасля ўчарашняй ночы, сённяшняй раніцы, на пачатку клопатнага дня стары, што плакаў учора, адышоў як бы ўбок, быў заслонены тым, чым неабходна было яму займацца зараз, вось гэтую хвіліну і месяцы, месяцы, калі не гады. І расслабленне, шкадаванне тут толькі лішнія. Яму трэба трымаць сябе ў руках, калі ён хоча стварыць такую ж гаспадарку, што бачыў учора. Не здолее, не справіцца, не створыць — яго ж таксама не вельмі хто пашкадуе. Гэта далі адчуць яму ўчора і сакратар абкома, і Шахрай. Шахрай развязаў яму рукі, моўчкі, але блаславіў яго і сакратар абкома. Не, не толькі ў ролі суправаджаючага ўчора ездзіў ён разам з ім па Палессі. Шахрай спрабаваў падаць яго ўдзел у гэтай па-

ездцы як нейкую сваю міласць, як міласць начальства. Мо было і гэта, але галоўнае ў іншым — яго ўзялі наўмысна ў гэтую паездку, каб паказаць, чаго ён можа дасягнуць, чым ён, уласна кажучы, займаецца, чаго дамагаецца і што будуе — будучыню яго Княжбора.

Дзядок у гэтай паездцы быў ужо звыш праграмы. Тое-сёе і яшчэ было звыш праграмы. Але тое-сёе тычылася толькі душы Мацвея, а душа яго ў разлік нікім не прымалася. Хаця як ты тут з пэўнасцю можаш меркаваць аб далёкіх захадах начальства, таго ж Шахрая, мо менавіта таму Мацвею і дазвалялася ўчора гаварыць нешта крышачку лішняе, пра тую ж голую бабу, што ўвесь час мыецца і мыецца, і яшчэ тоесёе лішняе. Без гэтага лішняга сёння ж таксама немагчыма, трэба час ад часу выпускаць пару, каб не было выбуху. Вось і дазвалялася яму выпускаць гэтую пару, гэткі здаровы скептыцызм дазваляўся яму пры настройванні, і ў першую чаргу настройванні, вачыма на грандыёзнасць таго, што адбывалася і працягвае адбывацца на Палессі. І гэта было на самай справе грандыёзна і па размаху, і па здзяйсненні, і... Але гэтае «і» ўзнікла пазней. Намнога пазней. А да таго былі праца і дарога.

Яны ўжо ўсе трое стаміліся ад той дарогі. А кіраваліся яны ва ўзорна-паказальны, пабудаваны на меліярыраванай зямлі саўгас. Шафёр Шахрая быў з новенькіх і дарогу ведаў не вельмі, увесь час баяўся заблудзіцца. Дарог мноства, а арыенціраў амаль ніякіх. Усё тая ж ніва, усё тое ж поле былі перад іх вачыма. І здавалася, што глядзіш ты на гэтае поле не знізу, не з акна машыны, а зверху, з ілюмінатара самалёта, такое яно было правільнае, акуратнае, расчэрчанае на квадрацікі і прамавугольнікі сеткаю меліярацыйных канаў і каналаў, насыпных дарог, дамб. Між гэтага поля бруілася рэчка, некалі вялікая і паўнаводная, а цяпер чымсьці няўлоўна нагадвала бляклую слязінку старога. Гразкія берагі яе былі закуты ў бетон, абкладзены бетоннымі плітамі, да арматуры гэтых пліт дзе-нідзе ланцугамі былі прымкнуты чорныя ад веку свайго чаўны. І чаўны гэтыя як разумелі, да чаго ж недарэчныя і нават мо смешныя яны тут, на гэтай прамой, як струна, бляклай рэчцы, сярод белых бетонных пліт, ціснуліся да пліт, бы імкнуліся

выкінуцца на бераг. І тугою агортвала сэрца, і хацелася хутчэй адвесці вочы і не бачыць іх. Але і наперадзе было тое ж самае, да аскоміны аднастайнае, хаця бачылі яны ўсё гэта ўпершыню. Пад прамым вуглом, як па загаду, паварочвала рэчка. А арыенціра, які ім далі і якога трэба было трымацца, каб павярнуць направа, усё не было і не было. Такім арыенцірам павінна было служыць дрэва, адно-адзінае на гэтай дарозе, як растлумачыў шафёру ўсё той жа стары: яно адно ў полі ліпіць, больш няма. Але і гэтае дрэва згубілася ў аднастайнасці палёў, і ім, пэўна, трэба было радавацца. А не радавалася. Душа прасіла лесу. Мо б яна і маўчала, не прасіла яго, калі б ведала, што лясоў тут ніколі не было. Але яна, душа, была сваёй тут, яна выйшла з гэтага лесу, лес нарадзіў яе, успаіў і ўскарміў, і яна цяпер сумавала аб ім, клікала яго з небыцця, мо нават з праклёну. Дакляліся.

— Голая баба мыецца,— не вытрымаў Мацвей, паказаў рукою на поле і на прамую рэчку, на чаўны, што беспрытульна зыбаліся на ёй.

— Слухай, Віктаравіч,— не стрымаўся і Сяргей Кузьміч.— Тут, здаецца мне, згодна з вашым праектам, запаведныя зоны павінны быць. Дзе яны?

— Ёсць, ёсць, Сяргей Кузьміч, ёсць...

— Але я не бачу.

— Яны ў іншым месцы. І да ўсяго, скажу я, не апраўдваюць яны сябе. Пакідаем рэчку ў натуральным стане, кавалак рэчкі, а яна забалочваецца, загнівае, і ўся наша праца кабыле пад хвост, выбачайце. І дрэвы там сохнуць, дубы паміраюць. Я лічу, нікуды не варты гэтыя запаведныя зоны.

— Ты можаш лічыць так, але і з праектам павінен лічыцца.

— Акрамя праекта, Сяргей Кузьміч, ёсць яшчэ і мэтазгоднасць. Тэхніцы лепш без гэтых зон упраўляцца, нішто не замінае. Акрамя таго, я не ведаю, канечне, але мне асабіста вось гэта падабаецца,— Шахрай кіўнуў на рэчку.— Глядзіце, як па струнцы. Здорава ж абрытаць такую моц.

Сяргей Кузьміч нічога на гэта не сказаў. Падабалася гэта яму ці не, засталося невядомым. Паказалася дрэва. Вярба. Невысокая, ніцае вецце да зямлі. І вецце гэтае ўжо жаўтаватага адцення, і макаўка

таксама жаўтаватая. Яны апынуліся каля гэтай вярбы, абрадаваныя і расчуленыя.

— Яна ж прападзе, засохне,— крануў гэтае вецце Сяргей Кузьміч.

— Не прападзе,— абнадзеіў Шахрай.— Колькі я помню яе, увесь час такая. Да ўсяго, нехта палівае яе. Не ведаю толькі — хто. З мясцовых, пэўна.

— Кранальны клопат,— сказаў Мацвей.— Ці не вы, Алег Віктаравіч, хварэеце за гэтую вярбу?

— Хопіць, Мацвей, трэба і меру ведаць,— асадзіў яго Шахрай.

І Мацвей адчуў, што сапраўды меру трэба ведаць, чаго гэта ён са скуры вылузваецца, каб чысценькім сябе паказаць, хіба ж не тое самае робіць ён, што і ўсе астатнія. Тое ж самае, але хлебам будзе дараваны. І трэба глядзець і вучыцца, як здабываюць людзі гэты хлеб. Ён заўсёды быў цяжкім палешуку. І ніколі ніхто не пасміхаўся з хлеба, цану яму ведалі ўсе: пот і кроў. І гэтыя пот і кроў, людзей трэба паважаць і шанаваць, а не плакаць аб нейкім дрэве. Працаваць трэба, перарабляць гэтую родную, але такую няласкавую зямлю, пыніць і скідваць у рэчкі ваду, адводзіць і самі рэчкі, асушваць балоты, дрыгву, каб на месцы іх уставалі прамавугольнікамі і квадратамі палі...

Каля вагончыка Мацвея чакаў ужо Брытан. І чакаў, пэўна, даўно. Загукаў здалёку:

— Здароў, здароў, начальнік.

— Здароў, здароў, Брытан,— Мацвей адамкнуў дзверы, і яны зайшлі ў вагончык.— Што гэта ты, Вася, як урка, загаварыў, бы срок ужо матаў?

— А наш лёс такі, начальнік, калі яшчэ не матаў, дык буду матаць... Рабсіла патрэбна?

— Хоць во зараз, Вася,— узрадаваўся Мацвей.— На дрэнаж, на дамбу, на карчоўку, Вася...

— Ай, Роўда, начальнік, нешта ты не тое гаворыш. Што гэта за работа.

— А якую б ты хацеў?

— Самую цяжкую, самую гразную і адказную.

— Якую ж гэта?

— Прыбіральшчыка.— Васька схіліўся над сталом, паклаў на стол далонямі ўверх рукі, сцяў кулакі.— Прыбіральшчыкам, начальнік,— і нахабна глядзеў Мацвею ў вочы і ўсміхаўся. Мацвей адчуў, як у ім абуджаюцца сум, туга і злосць, што апанавалі яго

яшчэ ўчора. На імгненне прамільгнуў перад яго вачыма і стары, якога яны сустрэлі ўчора. Мільгнуў і знік, і быў ён ужо аніяк не падобны на таго дзядка, што бачылі яны ўчора, не было ў ім безабароннасці, загнанасці, хітрыкі, адны хітрыкі на твары і ўваччу.

— Слухай, ты, малады пачынаючы туняядзец. Слухай мяне ўважліва.— Мацвей, ледзьве не перакуліўшы стол, трымаў ужо Ваську за каўнер. І той не спрабаваў вызваліцца з яго рук, слухаў уважліва і з выклікам. І гэты выклік астудзіў Мацвея.— Слухай мяне ўважліва,— паўтарыў ён зноў.— Я прыкрыў тую справу з кабаном, але ніхто мне не перашкодзіць вярнуцца да яе зноў. Ты ў мяне яшчэ зарохкаеш. Гэта я табе абяцаю, адзін на адзін, пакуль нас ніхто яшчэ не чуе, каб ты ведаў. Ты пойдзеш і будзеш у мяне рабіць як міленькі. Застаўлю, прымушу, зразумеў?

— Зразумеў, грамадзянін начальнік. Усё сказалі?

— Усё. Бацьку б свайго пашкадаваў. Паглядзі, усё жыццё, як яшчарка, шчыруе і шчыруе.

— Ды ты мяне, Мацвей, што, з бацькам раўняеш? — Выкліку ў вачах Ваські больш не было, разгубленасць толькі і непаразуменне. — Бацька мой — золата табе?

— Золата.

— Вось як яно, якое золата табе трэба. А што яно ведае, гэтае тваё золата? А што ён табе гэтую тваю дрэнку-хрэнку сікісь-накісь і збоку-папярок кладзе, ведаеш ты? Ведаеш? А ты яму сотнямі за гэта адвальваеш, не сваё, не шкада...

— Ну-ну-ну,— паспрабаваў спыніць яго Мацвей.

— Не панукай, начальнік, не запрог яшчэ і не запражэш, не рэчка і не прорва я табе. Хоць і Брытан, а не абрытаеш. А Надзьку каб не чапаў і не падыходзіў да яе. Першы раз па-добраму папярэджваю.

— Стой-стой-стой, пачакай-пачакай, Вася,— уцяміў нарэшце Мацвей, чаму так зазлаваў Барздыка-малодшы, чаго ўзвіўся так, і пашкадаваў гэтага нікуды не вартага рыжага Брытана-Барздыку. Але Васька не схацеў ні стаяць, ні чакаць і не прыняў яго шкадавання, і слоў ніякіх спачувальных не схацеў слухаць, пайшоў непрыхільны і злы, ляпнуў дзвярыма так, што ходырам захадзіў вагончык.

А Мацвей яшчэ доўга хадзіў з кутка ў куток па вагончыку. Улез чорт ведае куды! Патрэбна яму

Надзька са сваім Брытанам. І нікога і нічога не трэба, а вось улез, ублытаўся, упрогся і цягне воз, цягне, што сівы конь, натурыцца, але цягне. Знайшлася пуга і на яго. Добрая пуга, таму і цягне. Будзе цягнуць і далей, бо так заведзена: ёсць хамут, ёсць і шыя. І ні адзін яшчэ конь не кінуў воза пасярод дарогі і не кіне, пакуль дух з яго не выпра. Але з Надзькай сапраўды навошта? І хто толькі можа ведаць, хто здольны адказаць на ўсе гэтыя «чаму» і «навошта»? Чаму так круціць і верціць лёс, як тую рэчку, выгінацца прымушае. А хіба ж нельга так, каб не выгінацца ёй, можа і яе скіраваць па струнцы, па дашчэчцы, па маснічынцы пусціць. Але чаму тады так шчыміць і пячэ сэрца, чаму так супярэчыць гэтаму простаму і яснаму «па струнцы». Сапраўды ж, як сказаў Шахрай, прыгожа нават, і не толькі прыгожа, а зразумела ўсё, як загад армейскі: на-права, на-лева, праз плячо кру-гом. І аніякага табе клопату, аніякіх Надзек ці Марусек на дарозе, дрэва і тое адно, і тое напаўзасохлае. Напаўзасохлае ад спрамленасці і прастасці, ад прамізны вуглоў і дарог, выструненасці рэчак, сярод збудаванасці гэтых рэчак і багатых палёў і сенажацяў.

Нехта нечакана пастукаў у дзверы, як бы перасцерагаючы яго ад працягу гэтай гаворкі з сабою.

— Заходзьце, не замкнута,— крыкнуў Мацвей. Зайшлі двое: ён і яна, абое ў акулярах і ў шортах, як на крымскім пляжы.

— І што вам трэба? — зусім не ласкава сустрэў іх Мацвей, і не таму, што вельмі ўжо не па густу былі яму: не хацеў ён нікога зараз бачыць.

— На работу прыйшлі прасіцца.

— І вы на работу? І куды вы годны? Здолееце, калі на трактар, бульдозер пасаджу? Зямлю капаць і перарабляць можаце?

Хлопец збянтэжана пачырванеў, успыхнуў пакрыўджана не толькі тварам, але і вуснамі. Наперад выйшла дзяўчына, лёгенька адштурхнула яго, ласкава паклала на плячо яму руку.

— Здолеем і на трактары, і на бульдозеры, і зямлю капаць не ўпершыню. І сябе адстаяць зможам. Валерык—баксёр-першаразраднік, я самба займаюся.

— Ну-ну,— Мацвей зірнуў на няпрошаных гасцей з цікаўнасцю.—Што ж вам ад мяне трэба? Адстой-

ваць сябе будзеце, вучыць мяне ветлівасці? Выбачайце...

Дзяўчына не пажадала зводзіць гаворку на жарт.

— Урачы вам патрэбны? — спытала яна сур'ёзна і строга, як настаўніца пытае.

— Урачы нам пакуль што не патрэбны.— Сур'ёзна, як настаўніцы, і адказаў ёй Мацвей.

— Хірург і неўрапатолаг.

— Пакуль не патрэбны, кажу.

— А калі будуць патрэбны?

— Наведайцеся праз год. Будаўніцтва бальніцы запланавана на будучы год.

Зірнулі адно на аднаго, згодна кіўнулі галовамі.

— Дамовіліся, запісвайце.

— Куды ж я вас буду запісваць, мілыя вы хлопчык і дзяўчынка? І што гэта вам цюкнула ў галаву ехаць немаведама куды, немаведама куды запісвацца?

— Мы з вамі сур'ёзна,— загаварыў нарэшце і хлопец.— І мы не хлопчык і дзяўчынка, а мужык і жонка.

— Ды і я з вамі не жарты жартую. Калі вам падалося, што зняважыў чым, прабачце, прабачце за хлопчыка і дзяўчынку. Слова гонару, не хацеў пакрыўдзіць вас. Даведацца толькі жадаю, цікава, што прывяло вас у нашу глуш.

— Вось гэта і прывяло, глуш,— адказаў Валерык, баксёр-першаразраднік.— Праз год заканчваем інстытут, шукаем сабе месца, каб не па прызначэнні, а самі. А ў вас тут хораша. Лес, рэчка і будоўля вялікая.

— Лесу і рэчкі я вам на будучы год не абяцаю. А будоўля будзе... І як гэта самі, чаму самі?

— Проста — самі.

— Не проста, пэўна. Проста самі — гэта ж немагчыма.

— Чаму? А хіба вы не самі? Мы вось з першых крокаў самі. Самі паступілі ў інстытут, самі вырашылі і ажаніліся. Самі вырашылі, што паедзем у вёску і будзе ў нас ужо сын, запланавана так. А дзіця лягчэй гадаваць у вёсцы...

Мацвей зірнуў на дзяўчыну, затрымаўся вокам на яе таліі. Не, нічога там не было яшчэ прыкметна. І дзяўчына адчула гэты яго позірк і не збянтэжылася.

— Іменна сын? — спытаў амаль пераможаны імі

Мацвей, пераможаны іх упэўненасцю, іх самасцю.— А калі дачка?

— Дачкі не можа быць,— адказала дзяўчына.— Усё разлічана.

— А раптам? — невядома чаму настойваў Мацвей.

— У нас раптам немагчыма,— вымавілі ён і яна амаль што хорам.

— Добра,— сказаў Мацвей, ён ужо стаміўся ад гэтай кароткай, але такой акрэсленай і выразнай гутаркі. Ён і яна былі ўсё ж мацней за яго, лепш ведалі, што ім трэба, хаця і маладзей за яго. Нейкіх шэсцьсем гадоў розніцы, і ўжо незразумелыя яму, гэтак жа, як і Надзька з Брытанам. Лепшыя ці горшыя — ён не мог зразумець, як не мог уявіць сабе, як бы выглядала іх самасць, каб апынуліся яны на яго месцы. Але было ўсё ж у іх глухой кругавой абароне і слабае месца, ён адчуваў яго, але ніяк не мог намацаць. І намацаў, калі ўжо развітваўся з імі.

— Хвілінку, хвілінку,— спыніў ён іх. Валерык, баксёр-першаразраднік, і яго жонка-самбістка здзівіліся. Мацвей усміхнуўся іх здзіўленню: зараз, зараз ён падловіць іх: — Слухайце, а як гэта вы самі рашылі пажаніцца? Тут жа яшчэ нешта патрэбна, ну хоць бы такая дробязь, як каханне.

— А мы кахаем адно аднаго,— адбіла і гэты яго захад дзяўчына.— Мы вучыліся ў адной школе і ў адным класе. У школе і пакахалі адно аднаго. А ў інстытуце рашылі: жэнімся.

І яны пайшлі. Мацвей быў адзін. Доўга і старанна парадкаваў патрэбныя яму паперкі. Разгарнуў праект, адрэдагаваны ўчора Шахраем, доўга і пільна ўглядаўся ў тлусты і чырвоны крыж, што перакрыжаваў вадасховішча. Хапатліва згарнуў праект і засунуў яго ў стол, як мага далей і глыбей. Выйшаў на ганак, невідушчым вокам слізгануў па старым Княжборы, адвечным і нязменным. І па новым, які толькі вытыркаўся з зямлі, не праклюнуўся далей штрых-пункціраў фундаментаў і катлаванаў. Не, усё ж сустрэча з гэтымі будучымі ўрачамі, хоць і незразумелымі яму, была знамянальнаю, нешта было ў ёй, што абнадзейвала і ўзрушала. Два-тры гады назад і думаць нечага было, што яны могуць тут з'явіцца. А сёння ён гутарыў з імі і не бачыць у гэтым нічога дзіўнага. І ён будзе працаваць на іх, няхай не менавіта на іх,

але на падобных да іх, і трошкі асабіста на іх. Гэтыя зразумеюць яго, няхай дзесь і асудзяць. Павінны асудзіць, таму што ён не бог, ён памыляецца, ён ломіцца ў зачыненыя дзверы, ломіць і самі гэтыя дзверы, і наогул варочае і робіць шмат лішняга. Але лішняе гэтаксама апраўдана, няхай нават няведаннем, але апраўдана. Ніхто загадзя не можа сказаць, як трэба, хаця ўсе добра ведаюць, што больш так нельга. І ён будзе памыляцца, будзе займацца і глупствам, зыходзячы хаця б з таго, што так больш нельга. І з яго глупства і памылак акрэсліцца і вызначыцца — як усё ж трэба, як павінна быць. Ён будзе накшталт моста, ляжа касцьмі паміж «так нельга» і «так трэба». І няхай па гэтым мосце, па ім, ідуць да «так трэба» іншыя, тыя ж хірург і неўрапатолаг, Надзька са сваім рыжым кашлатым Брытанам.

Мо ён бярэ на сябе лішняе, ускладвае празмернае? Мо і так. Але хтосьці ж павінен браць на сябе і гэтае лішняе. Інакш пойдзе ж усё наадварот, да плуга і сахі. І досыць сумненняў, до самажорства... Гэтаму быў аддадзены мінулы дзень. І перад Мацвеем прамільгнуў зноў той самы дзядок, з якім ён размаўляў учора, прадстаў перад ім такім, якім ён бачыў яго, калі пакідалі ўжо вёску. Брыгадзіра і нікога з кіраўніцтва калгаса ў вёсцы яны не знайшлі. І Шахрай прапанаваў Сяргею Кузьмічу завярнуць у гэтую вёску, калі яны паедуць назад. І Сяргей Кузьміч пагадзіўся. Яны развярнуліся і пакіравалі зноў да старога. Той стаяў каля сваіх жэрдак, абціснуўшы іх гумавікамі, трымаючы навісу сякеру. Шафёр наблізіўся да яго, збавіў хуткасць, пэўна, думаў, што Сяргей Кузьміч захоча яшчэ выйсці, сказаць нешта старому. Сяргей Кузьміч ужо ўзяўся за ручку дзверцаў, але ў апошнюю хвіліну адпусціў яе.

— Не, не магу, — вымавіў ён, ні да каго не звяртаючыся.— Нечага мне яму сказаць зараз. Паганяй.

Машына як скочыла ўперад. Мацвей азірнуўся, стары ўжо прыставіў сякеру да гумавікоў, што салдат, і, як падалося Мацвею, тужлівым позіркам праводзіў машыну. І яшчэ яму падалося, што дзядок той зноў плакаў. І цяпер стары мільгануў і знік з такой жа хуткасцю, бы ён праехаў паўз яго на машыне. Быў ён адразу ж заслонены іншым, што ўжо не спалучалася са шкадаваннем, што павінна было выклікаць зусім

іншае: зайздрасць, захапленне. Гледзячы на свой стары і новы Княжбор, Мацвей бачыў перад сабою той узорна-паказальны саўгас, да якога яны даехалі ўсё ж учора вечарам. Даехалі па асфальце, які пачынаўся кіламетры за два-тры ад вёскі ці горада, Мацвей з пэўнасцю не мог адказаць, што было перад імі. Па забудове — горад, і горад шыкоўны, дамы чатырох- і пяціпавярховыя і двухпавярховыя катэджы. Але дамоў гэтых і катэджаў было небагата, і не маглі яны скласці горад.

Праскочылі кантору саўгаса.

— Спачатку самі агледзім пасёлак, жывёлагадоўчы комплекс, а потым ужо ў кантору. Там і пагаворым,— прапанаваў Шахрай.

— Хозяин — барин, —ухваліў Сяргей Кузьміч, пільна ўглядаючыся ў будыніны, што стаялі абапал вуліцы: гандлёвы цэнтр, клуб ці нават Палац культуры, абліцаваны мармурам, з мармуровай шырокай лесвіцай, якая падыходзіла да Палаца з фантанамі, што білі з двух бакоў лесвіцы, і вербамі каля фантанаў, з вялізным жывёлагадоўчым комплексам, які пачынаўся за Палацам культуры і нагадваў нечым парнікі ў дворыках той прыгараднай вёскі, якую яны праехалі на самым пачатку свайго шляху. Над комплексам зіхацелі срэбрам сянажныя вежы.

— Уражвае? — спытаў Шахрай Сяргея Кузьміча.

— Уражвае, —адказаў за яго Мацвей.

— Кампактна, разумна, нічога не скажаш, можна толькі пазайздросціць,— адказаў і Сяргей Кузьміч.— Асабліва гэты гандлёвы цэнтр, гэтыя вербы, гэтая сажалка, мармур...

— Так, мармур,— дазволіў сабе перабіць Сяргея Кузьміча Мацвей. —Нешта ад панскага маёнтка, прыгожа, асабліва на фоне жывёлагадоўчага комплексу.

— Дзе ты бачыў гэтыя панскія маёнткі? — Шахрай злаваўся.

— Нідзе не бачыў, але дух чую. І людзей, людзей чамусьці нідзе няма. Толькі двух міліцыянераў каля фантанаў ля Палаца культуры і прыкмеціў. Дзівотна неяк: вёска і міліцыянеры.

— Гэта ўжо не вёска.

— Але міліцыянеры...

— Народны здабытак павінен нехта і ахоўваць... Куды, Сяргей Кузьміч, на комплекс альбо ў кантору?

— На комплекс,— сказаў сакратар абкома.

На комплексе іх дагнаў дырэктар саўгаса, пэўна, з канторы яшчэ прыкмеціў і кінуўся за імі, а мо не дарэмна хлеб свой елі і міліцыянеры, якіх Мацвей бачыў каля фантанаў. Дырэктар быў малады і маладжавы, прыкладна адных гадоў з Мацвеем, увесь белы, ільняны нават, і надзвычай усмешлівы. «Калі б цябе ў Княжбор ад такога комплексу і мармуру, ты б там адразу паліняў і пачарнеў,— падумаў Мацвей.— І касавурыўся б, а не ўсміхаўся на кожным кроку». Але непрыязнь гэтая да дырэктара ўзорна-паказальнага саўгаса была выклікана хутчэй зайздрасцю да таго, што яны ўбачылі, і недзе ўнутранай неўспрымальнасцю гэтай, нібы разлічанай на ашаламленне, знешнасці саўгаса, што так адпавядала знешнасці яго дырэктара, і хутка знікла, хаця адчуванне нейкай падробкі і штучнасці засталося. Адчуванне, што дырэктара падбіралі, кіруючыся прынцыпам падабенства і адпаведнасці аднаго аднаму — саўгаса і яго дырэктара: аднолькавай белізны былі мармур лесвіцы і ўсмешка дырэктара саўгаса, мяккасць вербаў каля фантанаў і льнянасць валасоў дырэктара, рыжаватае сонца над пасёлкам і рудавата-хітраваты твар гаспадара гэтага пасёлка. І ўпэўненасць, з якой стаялі тут дамы і з якой паводзіў сябе дырэктар. Але ўпэўненасць яго была без ліслівасці і паддобрывання, што і скарыла Мацвея, хаця ён разумеў: дырэктар гэты — калачык цёрты, да іх тут перабыло ўжо гэтых дэлегацый, і самага высокага ўзроўню. І гэта цалкам адпавядала сапраўднасці.

— Ну, а каровы, каровы як, прывыклі да гэтай чысціні, даяркі самі не паслеплі? — спытаў ён дырэктара.— Прывыклі да такой механізацыі, малако даваць, траву скубці не развучыліся?

— Малако даюць. А з травой... Выпадак быў, недарэчнасць адна. Выгналі іх з памяшкання на траву, на сенажаць. Рык узнялі, узбулгачылі ўвесь пасёлак. Збегліся людзі. Час карміць кароў, а яны стаяць сярод травы і равуць, што іх рэжуць. Не звыклі есці, скубці траву. Толькі стойлавае ўтрыманне: комплекс, кармушка, канвеер...

— А рабочыя як, жывёлаводы, як ім у пяціпавярховых будынінах? — спытаў Сяргей Кузьміч дырэктара, калі яны пакінулі ўжо кароўнік і пешкі кіра-

валіся да Палаца культуры, дзе ўсё ўжо было, як сказаў дырэктар саўгаса, належным чынам падрыхтавана, як заведзена тут.— Гэта ж рэвалюцыя, мы не заўсёды толькі разумеем гэта: з хат — і ў катэджы.

— Катэджы двухпавярховыя, і кватэры ў двух узроўнях, можна зайсці паглядзець. Мы пачалі самі будаваць такія не так даўно. І гэта найбольш прымальная форма забудовы сучаснай вёскі,— тлумачыў дырэктар.— А з пяціпавярховымі хапілі ліха. Гародчыка няма, хлеўчука няма... Цяпер выправіліся. Пры катэджах адзін агульны хлеў, тры рублі пяцьдзесят капеек за месяц — і, калі ласка, заводзь карову, парася, аўтамабіль.

— Мы распаўсюджваем вопыт гэтай гаспадаркі ў вобласці і рэспубліцы, Сяргей Кузьміч,— гаварыў Шахрай.— У вашай вобласці, у Княжборы ў прыватнасці, такіх памылак ужо не будзе. Двухпавярховы дом, катэджаў не абяцаем, хлеў, дзве-тры соткі гарода, грады для радыскі, морквы. Асноўны гарод, соткі выносяцца за тэрыторыю пасёлка. А ўсё астатняе — у комплексе.

— Слухай,— крануў дырэктара саўгаса за рукаў Мацвей, калі праходзілі ў кафэ міма міліцыянера.— А гэты, у форме, навошта тут у цябе?

Свойскасць гэтага жэсту і слоў трохі збіла з экскурсаводчага тону дырэктара саўгаса. Але ён, пэўна, прывык ужо і да гэтага, а мо адчуў і на самай справе ў Мацвею свайго, падміргнуў яму:

— Потым, браце, потым.

— Што гэта за вытворчая нарада ўдвух? — згледзеў гэтае падміргванне сакратар абкома.— Давайце ўголас. Мы прыехалі глядзець і запамінаць усё — і благое, і добрае.

— Нічога благога няма, Сяргей Кузьміч. Проста ёсць нейкія праблемы. Пра міліцыю пытаюць.

— Далася табе тая міліцыя.— Шахрай зноў быў незадаволены Мацвеем, але спрабаваў звесці гэтае сваё незадавальненне да жарту.— Ці не аліментшчык ты, Мацвей, ці не мнагажэнец?

— Іменна так,— жартам адказаў і Мацвей.— Недзе дзеці ёсць.

— Гэта сур'ёзная праблема,— уздыхнуў дырэктар саўгаса.— Сцягачы — чулі такое? Не, не сцяганосцы, зусім наадварот. Так ахрысцілі ў народзе чу-

жых. Рабочых не хапае, запрашаем, заклікаем нават з-за мяжы рэспублікі: работу, кватэру, яслі, садзік — усё неадкладна, птушынага малака — калі ласка. А адгукваюцца, на жаль, едуць не толькі лепшыя. Усіх падбіраем, усіх сцягваем. І без міліцыі, канечне, цяжка... Але гэта вымушана... Калі ласка, за стол. Першую за гасцей...

— Не, госці павінны за гаспадароў першую,— не даў яму даказаць, узняў чарку Сяргей Кузьміч. — Але я дазволю сабе быць няветлівым. Ніхто не супраць?

Нікога супраць не было, і Сяргей Кузьміч працягваў:

— Не хвалюйся, Мацвей, не чырваней, не за цябе. За Княжбор твой. Калі ў Княжборы будзе хоць палова таго, што ёсць тут, мы будзем дастойны самых высокіх слоў, самых вышэйшых узнагарод. Тое, што адбываецца сёння на Палессі, можна параўнаць толькі з калектывізацыяй. Дык за Палессе. За новае Палессе...

Зараз перад Мацвеем было яшчэ Палессе старое. І адтуль, дзе ён стаяў, яму добра відно было гэтае старое Палессе. Яно было яшчэ трывалым. Трывала трымаліся за сваю старую зямлю фундаментамі і штандарамі хаты, дзе-нідзе зямля ўжо і паглынала гэтыя фундаменты, але хаты не саступалі і ў думках не мелі таго, каб саступіць напору новага, ахуталіся старажытнымі ясакарамі і дубамі, улашчваліся птушынай песняй, голасам маладых буслоў, што ўжо з'явіліся на белы свет і патрабавалі ежы, абдымаліся з рэчкай, што кружыла каля гэтых хат, не кранутай яшчэ тут, каля вёскі, яшчэ не кранутай. Больш таго, Мацвею з вагончыка было відаць, што вёска не толькі не думае адступаць, а як бы сама ідзе ў наступ, кідае выклік яму. Махахей крыў хату свежымі белымі дошкамі. І гэтыя дошкі, дах новы, што біў у вочы, сляпіў вочы, раззлавалі яго. Хіба ж гэта ён не папярэджваў Махахея, што новай яго хаце не век векаваць. Калі ён думае, што за новую хату пад новым дахам дадуць болей, чым за старую, ён памыляецца. Хай надрываецца, хай ірве жылы, а ўсё роўна не ўстояць яго новай хаце. І, непрыхільны і рашучы, ён пакінуў вагончык, стары і новы Княжбор і пашыбаваў на ўчастак, дзе ішла праца, у Храпчына. Па дарозе на

імгненне затрымаўся каля рэчкі, там, дзе калісь стаяў іх з Аленаю дуб, дзе і яго некалі абдымаў сваімі белымі крыламі бусел. Дуба таго ўжо не было, не было тут, можна лічыць, ужо і рэчкі. Яе выпрамілі, паглыбілі і, па сутнасці, праклалі, збудавалі новую рэчку, яна была прамая, што струна, з адваламі белага пяску па берагах. Ён залез на гэты пясок і зверху зірнуў на ваду. Вада бегла, здаецца, весела і хутка, як па трубе, нідзе не затрымлівалася, не віравала, і дно было вясёлым і без мулу. «А што, сапраўды вельмі прыгожа,— падумаў ён.— Асабліва калі ведаеш, што гэта створана табою. І аніякіх табе віроў, ямін, бяргэта створана табою. І аніякіх табе віроў, ямін, бярвення, карчоў, ад Палесся і да Дняпра праменька бяжы, вада, плынь віруй...» — тут ён злавіў сябе на тым, што блізкі ўжо да вершаў, задаволена ўсміхнуўся, вырашыў, што вершаў не будзе. Толькі проза, праца.

А працы ў Храпчыне не было. Стаялі канавакапальшчыкі, скрэперы і бульдозеры, уладкаваўшыся на ўзвышшы імі ж ссунутай зямлі, наставіўшы магутныя пашчы, нажы і зубы на некрануты яшчэ лес. А механізатары ўсе, як адзін, былі ў малінніку. І Мацвей, сам падобны на бульдозер, уварваўся ў гэты малліннік:

— Чаму прастойваем? Думаеце, мяне тут няма...

— Мы нічога не думаем,— азваўся механізатар, той самы трактарыст, што праваліўся ў Чортаву прорву.— Абед, вось і стаім.

Мацвей зірнуў на гадзіннік.

— Абед пяць ужо хвілін як скончыўся.

— Зараз будзем заводзіцца.

— Неадкладна. І ў першую чаргу к чортавай матары гэты маліннік.

Механізатары пачалі пакідаць маліннік, старанна абыходзілі яго, Мацвея, бокам-бокам пачаў адступаць ад яго і трактарыст, з якім Мацвей толькі што гаварыў.

— Стой! — спыніў яго Мацвей.

— Стаю, а трэба легчы, дык і лягу, і нават бягом, шагам на месцы марш магу.

— Бягом! Падганяй трактар — і каб ад малінніку ні знаку.

— А чаму я, чаму я? — закрычаў трактарыст.— Таму што Сюськін я, так? Ледзь што, дык Сюськін і Сюськін.

— Так, таму што ты Сюськін,— Мацвей прыгадаў прозвішча трактарыста, лёгкае прозвішча, як ён забыў яго.— Давай, Сюськін.

— Даю, даю, Роўда,— і, блазнуючы, пацвельваючы яго, заспяваў.

Як гэта ён мог з такім блазнюком піць віно, з непрыязнасцю слухаючы прыпеўку, думаў пра трактарыста Мацвей. Але ён жа не спяваў тады, не спяваў, быў паслухмяны, што цялё. Што гэта найшло на яго цяпер... Ну і няхай спявае, калі дзярэ яго. Трактар ужо рушыў на маліну і ішоў прама на яго, на Мацвея. Праз шкло кабіны Мацвей бачыў трактарыста, бялкі яго лупатых вачэй і бела ашчэраны рот. Ашчэрвайся, шчэрся, думаў ён, а я ўсё роўна не саступлю, ты першы збочыш, а я не саступлю. І ўсё ж вымушаны быў саступіць. Распаленае жалезнае страшылішча насунулася на яго, схаваўшы трактарыста, і ён спалохаўся, менавіта таму, што не бачна было твару трактарыста. А калі не бачна твару і вачэй, нічога не бачна, а толькі жалеза, толькі задыханасць машыны, грукат і вуркатанне яе жалезнага матора-сэрца, якому невядомыя ні хістанні, ні спалох, ні жах, ні нават проста стома,— гэта сапраўды невыносна. Мацвей адскочыў у апошнюю секунду. Адскочыў, пагразіў Сюськіну кулаком, але той нават не азірнуўся. Трактар ужо трушчыў гусеніцамі, заворваў плугам маліннік. І там, дзе ён праходзіў, ад малінніку і сапраўды не заставалася і знаку. Так, дзе-нідзе лісцік альбо галінка — і чорная зямля, як расціснутая ягада.

Наглядаючы за Сюськіным, Мацвей у той дзень быў у Храпчыне, пакуль маліннік не перааралі цалкам, бы не меў ён іншага клопату, іншых спраў. І ўсё засяродзілася на гэтым малінніку, усё залежала ад таго, знішчыць, звядзе ён яго ці не. І калі трактарыст прайшоў апошнюю гоню, спыніў трактар, ён падышоў да яго, скочыў на гусеніцу, паляпаў яго па плячы:

— Вось цяпер парадак, Сюськін.

Што адказаў яму Сюськін і наогул ці адказаў, ён не пачуў. Здаецца, таксама сказаў: парадак. А мо і нешта іншае крыкнуў. Але Мацвей праг пачуць менавіта гэта: парадак. І ён пераканаў сябе, што менавіта гэта і пачуў. І пакінуў Храпчына, упэўнены, што там сапраўды парадак.

# ...І ВЯЛІКАГА СЯМЕЙНАГА ШЧАСЦЯ

> ...Все, как есть, без конца
> принимая,
> Принимаю, приди и явись,
> Все явись, в чем есть боль и
> отрада...
> Мир тебе, отшумевшая жизнь,
> Мир тебе, голубая прохлада...

— Цімох, а каго ён без канца ўсё прымае?

— Ай, баба, вечна ты ўлезеш, куды не трэба. Зноў мяне збіла. Хто там каго ў цябе прымае?

— А ты не зліся толькі, Цімох. Ён жа і прымае, Ясенінаў.

— Тады, пэўна, дзевак, баба.

— Ды не, Цімох, прыйдзі і з'явіся, — дзеўцы так не скажаш, мо некаму іншаму. Мир тебе, отшумевшая жизнь,— гэта мне зразумела. Гэта мы з табою. А вось прыйдзі і з'явіся — тут нехта іншы. Альбо сам Роўда, альбо смерць ужо, а мо бог?

— Не верыў ён у бога, Ясенінаў наш, Ганна, не верыў. Колькі раз табе гаварыць.

— Не верыў, ведаю,— пагаджаецца баба Ганна.— Толькі тады навошта ён гэта: прыйдзі і з'явіся. Проста так, як мы з табою, сам сабе загадвае. А ён жа не так, як мы. Дык няўжо гэта і ў іх, Ясенінавых, усё гэтак, як і ў нас.

— Не, баба, прападзеш з табою, граху набярэшся. Ва ўсіх так. Ты чытай, а я граць буду.— І Цімох Махахей зноў бярэ гармонік і працягвае іграць нешта сваё, чаго не ведаюць ні маці яго, ні жонка. Зрэдку толькі прарвецца штосьці, загамоніць гармонік вясковаю зразумелай гамонкаю, то голасам «Кацюшы», то пераборам полькі-трасухі. Прарвецца знаёмае і згасне. Але гэтае знаёмае і незнаёмае не замінае бабе Ганне чытаць «Ясенінава». Чытае яна ўголас, старанна вымаўляе разанскія словы на палескі пявучы лад, начапіўшы на нязвыклыя да друкаванага вочы акуляры, чытае — як адрабляе, нават яшчэ больш рупліва. Схоплівае словы спачатку шкельцамі акуляраў, потым дапускае іх да вачэй, прапускае праз сябе, слухае, як ідуць яны да сэрца, як у бездань ляцяць, стукаюцца ў гэтым палёце аб паўсядзённае, не вартае ўвагі і болю, дасягаюць душы, краю, ражка яе, невядомага і самой бабе Ганне, і ўладкоўваюцца там воль-

на і прасторна, знаходзяць адведзенае ім месца. А ўжо з душы, бы па лесвіцы, скачуць угору, падымаюцца да вуснаў. І баба Ганна перад тым, як выпусціць на волю гэтае народжанае ў ёй і толькі для яе слова, муляе губамі, бы смакуе яго, і толькі тады развітваецца з ім, сама прыслухоўваецца да яго, як яно растае ў хаце, пазнаючы і прымаючы чужую палескую хату. А Цімох усё мучыць і мучыць свой гармонік. Але бабе Ганне здаецца, што музыка падтрымлівае і доўжыць жыццё яе слоў. Словы, вершы як бы пераходзяць у музыку, не замінаюць яны і музыцы. І, як бабе Ганне, гарманісту таксама здаецца, што гэта яго музыка пераходзіць у словы, у вершы, здаецца, што гэта яны і ствараюць зараз музыку і вершы. Ганна, яго жонка, бабуля, лічы, як вучаніца, сядзіць каля стала на хісткім крэсле і толькі пазногцяў не грызе. Сябе Цімох Махахей не бачыць, але жонка бачыць яго, цікуе за ім. І ён, здаецца, таксама ёй выдае на школьніка, які ўсім сваім выструненым целам, кожнай жылкай, кожнай зморшчынай спрабуе прарвацца за сутнасць простых і зразумелых гукаў і слоў, бы ёсць за гэтымі словамі і гукамі нешта вышэйшае, няпростае і не надта лёгка даступнае, таму ён увесь такі і напяты, адзеравянелы, збянтэжаны сівы вучань, што толькі-толькі да нечага падышоў і спыніўся, спыніўся перад светам, які яшчэ не зразумелы яму. Замёр перад ім у ботах і ў ватніку, у чым правёў сёння дзень, як і яго жонка Ганна: у валёнках і цёплай хустцы тупала па хаце і двары, у валёнках і цёплай хустцы сядзіць каля стала. І абое яны, хаця ніколі нікуды, здаецца, не спяшаліся і дзень прабавілі ціха і спакойна, зараз як у нейкай ліхаманцы, як бы некуды ім ужо трэба хапацца і бегчы. І гэтая вечаровая хапатлівасць і як бы ненасытнасць жыццём пачалася ўжо даўно, з надыходам зімы, а мо і раней, багата раней. Толькі адчулі яны гэта ўзімку, калі пакінула іх хату апошняя дачка, з'ехала на вучобу ў горад і яны засталіся адны, без дачкі і без каровы. Карову вымушаны былі збыць восенню, і збыць без выгады, бо па той восені не яны адны пачалі збываць кароў. Нічога не атрымалася ў гэтую зімку ў Махахеяў з сенам. Як і прадказвала баба Ганна, прамаўчаў у куточку да самага апошняга Махахей, калі дзялілі тое сена, сенакосы новыя. Усе ўжо нагарлаліся, і хто выгарлаў што,

8*

а хто і не, пачалі разыходзіцца. Тады толькі і азваўся Махахей:

— Што ж вы, людзі, пра мяне забылі, маёй жа кароўцы таксама есці трэба.

Старшыня за галаву схапіўся:

— Цімох Ягоравіч, а дзе ж ты раней быў?

— У калгасе,— сказаў Махахей.— З першага дня заснавання ў калгасе.

— Маўчыш чаму?

— Таму і маўчу. Павінен жа нехта і сумленне мець.

— Сумленне ёсць, а вось травы няма, не расце на сумленні сена, ваўкі яго дзяры.— Не, неблагім чалавекам быў іх старшыня, спачуваў кожнаму, хаця сам затурканы з усіх бакоў: жонкаю, хваробамі і начальствам. Даводзіўся ён нават і нейкаю раднёй Махахею, а вось жонка яго была з Барздык і па-вулічнаму Царыца, на трох крэслах сядзела, двух не хапала ўжо. І з гэтых трох крэслаў кіравала чалавекам сваім і калгасам. Трымала ўсе калгасныя справы ў сваёй царыцынай галаве, не разгубілася і тут, на сходзе, калі ўжо ніхто нічога не цяміў і не памятаў.

— А за Кавалёвам,— сказала яна,— ражок застаўся, нікому яго не далі.— Сказала, бы да сходу яшчэ памятала пра той ражок, ведала, каму і прызначыць яго.

— З таго ражка і казу не пракарміць,— Махахей уздыхнуў, разумеючы, што нічога ўжо не зробіш, што сапраўды, акрамя Кавалёва, сенакосу больш нідзе няма ўжо.

— Прырэжам табе, Ягоравіч, трошкі Балоні ад... Аркадзя Барздыкі... і Цупрыка.

Што тут пачалося пасля гэтых рашучых слоў старшыні, і перадаць цяжка. Барздыкі разам з Цупрычыхай і самой Царыцай ледзь столь не ўзнялі. Старшыня схапіўся за жывот, мабыць, скруціла зноў яго язва. Яна сёлета ўвесь час круціла яго, як прадчувала, што быць старшынёю яму засталося зусім ужо нічога. Усюды і ўсе цяпер абыходзілі яго. І зямлю спрадвечна княжборскую пасля меліярацыі часова займала другая гаспадарка, больш моцная, чым іх. Але хацелася ўсё ж старшыні застацца добранькім усім, і ён толькі махнуў рукою: ідзіце, маўляў, ідзіце ўсе дамоў, а Махахея прытрымаў, паабяцаў яму даць з дру-

гога ўкосу калгаснага сена, атавы. Абяцанкі гэтыя, цацанкі Махахей ведаў. Ведала ім цану і баба Ганна. Яна і не нападала ўжо больш на Махахея:

— Хай чорт лысы ў Кавалёве сена косіць і вядзьмарак ім корміць, мо пап'е малака, а наша карова ў рот не возьме таго сена.— І справілі яны апошнюю чаргу, адпасвілі кароў і пагналі сваю Лысуху на базар. Вось тады, як не стала каровы, яны нечакана знайшлі сабе другі занятак, дапалі да кніжак, як забылі ўсё роўна, што кніжкі былі заўсёды, што і ў Княжборы іх хапае, забылі, што калісьці яны ўжо бамелі гэтыя кнігі. Не Ясеніна, праўда, Ясеніна яны бачылі, калі таксама, як і іх Надзька, вучыліся ў горадзе, Махахей — у зааветтэхнікуме, Ганна —на курсах рахункаводаў. Вось тады і ўбачылі яны свайго Ясеніна, калі пра яго сказалі, што ён паэт чужы. Яны яго таксама лічылі паэтам варожым. А цяпер во нечакана сустрэліся з ім зноў. І здзівіліся. Ёсць на зямлі нешта такое, што жыве вечна і само па сабе. Хаця, варта сказаць, што ён, Махахей, у той час, калі вучыўся ў тэхнікуме, таксама хадзіў з наганам. Наган той быў не па пасадзе яму, бо аніякай пасады ў яго і не было, купіў за сала ў незнаёмага дзядзькі, купіў, не разумеючы, навошта ён яму. Але набытак гэты яго выкрылі, і каштаваў ён яму нямала крыві і пакут, мо нават вызначыў і лёс, і жыццё яму, якое склалася менавіта так, як склалася, а не інакш, як магло скласціся ў сялянскага хлопца, які ў тыя гады скончыў тэхнікум.

Успаміны гэтыя і думкі — што ды як ды да чаго — былі не вельмі прыемнымі, жахліва рабілася на душы ад іх нават сёння, і Махахей, каб пазбавіцца іх, не ісці больш па тым крузе сваёй былой памяці, памкнуўся ўзгадаць што-небудзь іншае. Але не так проста пазбавіцца самога сябе, да таго ж баба ўголас і з выразам чытала «Ясенінава». Да гэтага «Ясенінава», як заве яго баба Ганна, яны вярнуліся зусім нечакана для сябе. Цупрычыха, бібліятэкарша, паспрыяла, мо і не хацела гэтага, а міжволі паспрыяла.

А пачалося ўсё з той іх каровы і Пятра Першага, не з кніжкі, а з кіно. Паглядзелі яны з бабай таго Пятра Першага, Ганна аж у ладкі забіла.

— Гэта ж якія цары былі. Мужык які здаровы і прыгожы, а што вычвараў...

— Тут, Ганна, яшчэ не ўсё,— выказалася, адукаванасць сваю паказала Цупрычыха.— Вось кніжка яшчэ такая ёсць тоўстая, і ўся пра Пятра Першага, і ўсё да дробязі апісана.

І пайшлі яны ў наступны дзень па тую кніжку. Увесь перадзімак чыталі яе ўдваіх, можна сказаць, утраіх. Маці Махахея злавалася і патрабавала, каб і ёй чутно было. Чыталі, каб і старой усё чутно было, дзівіліся: які ж жорсткі свет быў — жывым чалавека ў зямлю закапваць, бароды абразаць. Добра, што сёння няма такога, хораша, што яны жывуць сёння.

— Хораша, хораша,— пагаджалася,ківала галавой старая Махахеіха.— Толькі...

Але яны гэтае яе «толькі» ўжо і не чулі. Не да яе «толькі» ім было. За гэтым «Пятром Першым» яны раптам як зрок набылі, убачылі бясконцасць гэтага свету і часу і як з галоднага краю апынуліся раптам на гэтай зямлі і прагна накінуліся на ўсё, што мелася ў шкапах у Цупрычыхі. Чыталі пра вайну і пра каханне, пра заводы і фабрыкі, і пра капіталістаў чыталі. Не прызнавалі толькі кніжак пра сябе, пра вёску і вясковае калгаснае жыццё.

— Ой, кінь, надакучыла,— плявалася баба Ганна, як толькі Махахей браў у рукі кніжку аб вясковым жыцці.— Ці то я пра кароў яшчэ не ўсё ведаю альбо смуроду таго, гною яшчэ не нанюхалася. Во як людзі жывуць, булкі з макам кожны дзень ядуць — гэта цікава. А пра нас з табой хай яны нам не брэшуць. Я пасівела ўжо байкі іхнія слухаць.

Але адбівалася баба Ганна ад кніжак пра сябе толькі ў бібліятэцы, а калі выпадкова ці падманам Махахей праносіў у хату кніжкі аб вясковым жыцці, іх таксама чыталі ад назвы да заклiку прысылаць водгукі. І якім бы цяжкім ні быў дзень, вечарам баба Ганна прыбірала ўсё са стала, ледзь не з мылам мыла цырату, засцілала яе раённай газетай і на газету клала перад сабою кніжку. Вёска ўжо смяялася і звягала: што гэта з імі здарылася, не інакш, у акадэмію рыхтуюцца. І Ясеніна Цупрычыха падсунула ім, каб пакпіць з іх:

— Маладым вершыкі падабаюцца. Мо і вы знойдзеце што-небудзь сабе... пісьменнікамі ў нас будзеце...— Пад Ясеніна запісала ім яшчэ кніжкі тры ці чатыры: «Трусагадоўлю», біяграфію нейкага чалаве-

ка і яшчэ нешта, цененькае, праўда. Растлумачыла: — Гэта мне да плана ўжо.

— Ты што, Верка, з глузду з'ехала? — Не пераносіла Ганна Цупрычыху і тут не вытрывала.— Я не да Лявона твайго ў лаўку прыйшла, а да цябе ў бібліятэку. Што ты мне непатрэбства ўсякае сплаўляеш?

— Гэта кніжкі, а не непатрэбства,— і з націскам, каб зусім ужо дабіць Махахеіху: — Грамадска-палітычная літаратура. Кніжкі чытаеш, а цёмная. Лявон мой пры пасадзе і дзяржаўнай справе — яму план спускаецца. Я таксама пры дзяржаўнай пасадзе, і мне не толькі грошы плоцяць, але і план даводзяць.

— Ой-ё-ёй, што ж гэта робіцца,— здаецца, спалохалася баба Ганна.— На чытанне і то план... Дык табе ж, Верка, план спушчаны, табе ж, сама кажаш, грошы плоцяць, ты і выконвай.

— Я, баба Ганна, толькі забяспечыць гэта тут пастаўлена. А выконваць павінны вы.— Цупрычыха як не ў пояс пакланілася Махахеям.— Ну дык як? Будзеце выконваць?

— Будзем, будзем,— сказаў Махахей. І яны ўзялі ўсё, што ім прапанавала Цупрычыха, для сябе і для яе плана. І каб не было падману, усё і прачыталі, усё дарэшты, апрача «Трусагадоўлі». Спрабавалі чытаць і «Трусагадоўлю», але яна не пайшла, не па іх інтарэсах. Інтарэс жа іх быў хоць і невыразны, яны не абгаворвалі яго, але разумелі без слоў, што ім трэба. У новую хату Махахей так і не ўлез, хаця накрыў. Надзька з'ехала, і ў старой хаце ім было няўтульна і адзінока, яны як бы раптам асірацелі, бы ў іх хаце замест дачкі, што з'ехала, пасяліўся нехта чужы. І гэтым чужым была маркота, што хапала за сэрца, не тая туга і маркота, якая ад беднасці і нястачы альбо якога-небудзь іншага гора, пра якое ўсе ведаюць і якое ва ўсіх навідавоку, туга і маркота нябачныя, неўсвядомленыя і таму асабліва цяжкія. Падлога ў хаце і тая пачала марнець, пачарнелі пафарбаваныя маснічыны, бо цяпер мала і рэдка хто ступаў па іх, мо нават і ад таго, што гаспадары цяпер глядзелі на іх іншым, непрыветным вокам, не адчувалася ўжо той былой сувязі і прыязнасці, што існавала паміж гэтымі маснічынамі і людзьмі, якім яны дагаджалі. І маснічыны, што, здавалася, ужо даўно павінны былі ўлежацца, раптам павяло, пакурчыла, скасабочыла.

А ў сценах, у бярвенні, прачнуліся і шалёна запрацавалі тачыльшчыкі, засмецілі падлогу жоўтай парахнёй, як кветачным пылком. І пылок гэты, парахня, сачыўся і сачыўся з нябачных дзірак і шчылін, нібы дом плакаў пылам, жоўтымі слязьмі, сам сябе жэр і плакаў. Адчувалася ў ім ужо нешта нежылое, адмерлае. Адзнака гэтага адмерлага адчувалася і на іконе святой багародзіцы, што цьмяна паблісквала сусальным золатам у красным кутку. І сама багародзіца ўжо счарнела і пацьмянела так, што не згадаць было ні адзення яе, ні твару, жылі на іконе адны толькі вочы, як і ў старой Махахеіхі, якой і належала гэтая ікона. І яны, багародзіца і старая Махахеіха, цяпер былі вельмі ж падобнымі адна на адну, з адной і той журбою, і пазірала кожная з свайго кута адна на другую, бы пытала: а што далей? Моўчкі любілі і моўчкі ненавідзелі адна адну.

З надыходам зімы, калі ўжо лёг снег і стала рэчка, маці Махахея як легла на палаці, так і не ўставала з іх, толькі калі ўжо трэба было ёй на двор. Але калі хадзіла яна на двор, ні Цімох, ні Ганна не бачылі, старая хавалася, што кошка, як і не было яе ні ў хаце, ні на свеце, бы растала яна ва ўсіх гэтых рэчах, што так хутка пачалі старыцца,— у зжаўцелых ручніках, накрыўках і вышыўках, што развешаны па сценах і над іконай, у павуцінні, якое завялося на столі і па кутках. Разам са старой нечакана падалася і печ, да якой яна была прыкута палацямі. Карабель яе, здавалася, па цаглінцы злеплены, складзены на вякі, які займаў амаль што паўхаты, карабель амаль што неверагоднай трываласці раптам як пачаў цякці і хіліцца. Так, печ пахілілася, бы рашыла выйсці з адведзенага ёй кутка і выйшла. І цяпер вось мучылася і пакутавала, ганіла сябе, што яна такая непаслухмяная, кланялася, прасіла прабачэння ў хаты, у людзей, якія жылі ў ёй. А з падпечча цягнула скразнякамі, бы атабарыўся ўжо там нехта іншы, дыхаў там, самаўладны, халодны і злы. І дыханне яго халоднае, паміранне старой хаты адчувала і хата новая, у якой яшчэ ніхто, акрамя буслоў, і не жыў, але якая, здаецца, таксама памірала ўжо, так і не прыняўшы, не пусціўшы людзей. І ў той новай хаце ўсё счарнела і жоўта загнаілася ад нежыці, ад таго, што вельмі доўга будавалася яна, ад халоднай і з дажджом восені, а

больш, пэўна, ад усведамлення, што ніхто так і не зойме гэтую хату, ніхто не паселіцца, не пашкадуе, не сагрэе, ад тугі і маркоты гаспадароў, якія ўрэшце перадаліся і хаце. Асірацінелі абедзве хаты Махахеяў, і, здаецца, сам Княжбор асірацінеў, і сонца над ім стаяла хаця і ласкавае, цёплае, але нейкае сірочае, такія ж беглі і дні. Клопаты і турботы былі такімі ж, як і раней, але не ставала ўжо ў гэтых клопатах і турботах былой цягавітасці, толькі вымушанасць, заведзенасць. І таму цяпер так пільна прыглядаліся да кожнага друкаванага слова Цімох з Ганнаю, давяраючы больш яму, больш давяраючы пісьменным і вучоным людзям, чым самім сабе: ці было ўжо такое з людзьмі, ці ламалася ўжо так іх жыццё, ці гэта з імі толькі так...

Чытала баба Ганна, а Махахей іграў на гармоніку і думаў, што ўсё ўжо было на гэтай зямлі, і гэтае былое кожнаму на зямлі ўсё роўна нанава, нанава, хоць паўторыцца і дзесяць, і дваццаць разоў, паўтараюцца мо нават і не справы, а людзі, чалавекі. І нечага ківаць і наракаць на справы — яны спрадвечныя. Але як усё ж дапусціцца да такога, што ён бачыў сёння, як можна чалавеку нават быць сведкаю такому. Вось ён грае цяпер на гармоніку, як нічога і не было. А было ж, было ж. І ці можна пасля таго ўсяго, што было, граць на гармоніку, як не рассыплецца гэты гармонік, як ён церпіць чалавека, яго, Махахея, церпіць і не гарыць у яго руках. Павінен гарэць, палаць, бо не мае ён моцы і смеласці прызнацца, што ўсё бачанае ім было яваю, а не сніў ён гэта.

Сёння з раніцы ён надумаўся пайсці на рыбалку. Усё роўна рабіць дома не было чаго, а бралася ўжо на вясну, і дні стаялі такія доўгія, што хоць у баптысты запісвайся і вучыся малітвам. Уставалі ж яны, Цімох і Ганна, па даўняй, маладой яшчэ, завядзёнцы, калі, акрамя парасяці ды гусей з качкамі і курамі, былі ў іх яшчэ і кароўка, і бычок альбо цялічка каля гэтай кароўкі, у пяць раніцы. Уставалі і завіхаліся да самага позняга. Цяпер можна было і выспацца, даць сабе перадышку, але сон ужо не браў іх. Ляжаць з расплюшчанымі вачыма і слухаць тачыльшчыкаў было невыносна, бы нябожчык у хаце ляжаў, здавалася, што гэта самі яны нябожчыкі, адпачываюць ужо на тым свеце. Уздымала з цёплых і мяккіх ложкаў нешта

та невядомае ім самім, рукі паднімалі, прасілі, каб іх хоць зашчамілі куды, задзелле хоць якое далі. Баба Ганна хацела ўжо зноў ісці на ферму, прасіцца ў даяркі, але Цімох не пусціў яе:

— Унё, што прыдумала, альбо то на розных работах горш. Розная работа не сцягваецца ж так.

— Не сцягваецца вам, мужыкам. Нарадная ля Цупрыкавай карчмы. Цупрык адчыняе сваю карчму, і вы на нарад. Канечне, вам не сцягнецца.

— Нам не сцягнецца,— пакрыўдзіўся нават Цімох на сваю бабу і адпомсціў ёй.— Толькі калі ў даяркі табе зноў, дык у хлеве ў нас пуста, сена няма.

— У нас у хлеве няма, а ў калгасным ёсць, нарабілі.

— Рабілі сена заўсёды ў калгасе, толькі ты, баба, забылася, як сваё посцілкамі калгасным каровам цягала.

— Цягала,— тужліва пагадзілася баба Ганна,— а больш не пацягну, няма чаго цягаць.

— Дык вось і сядзі на печы.

Сядзелі абое і папускацца нават пачалі ўжо, каб не так маркотна было, пачалі нават ката нанач у хату пускаць, хаця і папікалі сябе, гаварылі кожны раз: то не кот, што паперад хадзяіна ў хату бяжыць. Але што зробіш, шмат чаго змянялася, свет перайначваўся, трэба было перайначвацца і ім. Жыццё іх палягчэла, і яны прыстасоўваліся да яго, не ведаючы, як выскачыць з яго, чым абцяжарыць, і абцяжарвалі, запаўнялі драбязой і глупствам, з чаго раней першыя кепікі пачалі б строіць. Баба Ганна, як і папраўдзе з глузду з'ехала ад тых кніжак, пачала сама нешта запісваць у старыя сшыткі дачок, што былі не дарэшты яшчэ спісаны. Сшыткі гэтыя былі складзены ў куце, і іх ніколі не выкідвалі. Папера і газеты, як, прынамсі, і ўсё іншае, што трапіла ў іх хату, захоўвалася ў ёй ужо свята і вечна, так вось і гэтыя сшыткі. Аднойчы Цімох зазірнуў у адзін з іх: што там драпае, як кура лапаю, яго баба. Зазірнуў і прачытаў: «Сёдні серада. Ідзе снег». «Пайшла восьмая нядзеля ад раждажства. Павінны прыляцець буські. Скучыла без буськаў. Гуска знесла першае яйка. Села на старое месца. Гусак ждаў і сцярог». «Восем нядзель роўна ад раждажства. Буськаў няма. Мо то і не прыляцяць у етым годзе. Дзе сяліцца ім, бедным...» Махахей уз-

дыхнуў над крывымі, але старанна выведзенымі літаркамі: пражыў век з бабай, а ведаць яе не ведае. Хто б гэта здагадаўся прыдумаць, што яна чакае тых буськаў, свет прахам ідзе, мароз лютуе на двары, а ёй буслы наўме. І яму самому захацелася нечым дагадзіць і жонцы, і буслам. Тады ён і прыдумаў выстаўляць нанач у сенцы вядро з вадою. Калі не замерзне там, у сенцах, вада, значыць, адліга і можна выходзіць глядзець буслоў. Але вада кожны ранак замярзала, да сённяшняга дня. Сёння ўпершыню вада ў вядры не схапілася лёдам. Ён адчыніў сенцы, неба замазана хмарамі, але неяк па-вясноваму сіне-святочнымі. Вось і рашыў ён выправіцца парыбачыць, паглядзець, ці не з'явіліся ўжо на Балоні, у дуброве альбо Храпчыне буслы. Узяў у каморы бутэльку, дастаў з печы чыгунок, у якім адтаплівала баба Ганна кіслае малако, пачаў зліваць з чыгунка ў бутэльку сыроватку і не прыкмеціў, што бяжыць яна не ў пляшку, а ў паганае вядро: горка яму было — не сваё малако, не свая сыроватка. Ненене давала ім малако, як ні цяжка ёй было, а яна ўсё яшчэ трымала карову, двух бычкоў здала калгасу за сена.

— Куды іллеш, куды іллеш,— забуркацела, падхапілася з ложка баба Ганна. Махахей адразу і не ўцяміў, чаго гэта яна, потым ужо цюкнула: што гэта ён як не хадзяін у сваёй хаце, над паганым вядром сыроватку ў пляшку налівае. А баба Ганна ўсхадзілася не на жарт:

— Як яны, што меліяратар, пачаў, што Мацвей Роўда. Я кожную крошку кабану, а ён на вецер.

— Дзве кроплі ўсяго не туды і пабегла,— збянтэжана пачаў апраўдвацца Махахей, разумеючы, што нечага яму тут апраўдвацца. Сапраўды як той меліяратар — і сваё сваім не лічыць. Тыя ні аб чым не дбаюць, чужое ўсё ім.

І бачком, бачком пасунуўся моўчкі з хаты, каб не выйшла яшчэ большай спрэчкі, каб спакойна і з ціхамірнай душой лавіць тую рыбу, хаця і не надта верылася яму ў тую рыбу, хаця і лічыў ён зімнюю рыбалку так, забаўкай, і не толькі забаўкай, а і нечым не зусім дазволеным: як ёсць звер, што па сваёй прыродзе павінен узімку спаць, так павінна ўзімку адпачываць ад чалавека і рыба. І не варта яе дражніць. Княжборцы ніколі зімой яе не дражнілі. Зрэдку хто

з іх ставіў на рэчцы ў такі час жакі, больш ішлі на азёры, на адрэзаныя ад праточнай вады старыцы. І промысел там быў на карысць не толькі чалавеку, але і возеру, рыбе, што жыла ў ім. Высякалі лёд, ставілі ў азёрах рэшаты, плеценыя з лазы. На свежае паветра лезлі ўюны, траплялі і ракі, плоткі, шчупачкі, падлешчыкі, але больш за ўсё — уюны, нашывалася іх іншы раз як панесці вядро, а то і два. Ракаў выкідвалі адразу, грэбавалі імі ў Княжборы, лічылі пагаными, а ўюноў сушылі ў печы і на печы, набівалі мяхі і торбы, каму колькі трэба. Ставілі і вешалі гэтыя мяхі і торбы ў каморах і расцягвалі па жменьцы па кішэнях за зімку, вясну, лета. Хрумкалі імі, як гарбузікі лускалі. Летам, калі не ставала мяса, варылі суп і юшку. Не сказаць, каб вельмі ўжо княжборцы ўшаноўвалі гэтых уюноў, не лічылі іх ні рыбай, ні мясам, бо хапала і сапраўднай рыбы, было і мяса. А ва ўюнах бачылася аднавяскоўцам Махахея таксама нешта трохі і брыдкае, вужынае. І ўюны, бы адчуваючы такую правіну за сабою, хаця і не зводзіліся з княжборскіх балот, было іх там процьма, але, акрамя як зімой, на вочы чалавеку і на яго рыбалоўныя прылады не траплялі. А цяпер ужо гады тры, як пачалася меліярацыя, і зусім зніклі. Спачатку пайшлі, пашыліся ў зямлю, у гразь, папляміўшы гэтую гразь кропкамі свайго сыходу. Хлапчукі капалі іх лапатамі, выцягвалі з гразі і рукамі, зводзячы пальцы ў замок, каб не выкруціцца ўюну, узяць яго мёртва, і, пошто паспелі, што можна было, выхапілі з гразі. А потым гразь гэтая акамянела, і ўюны ці то згінулі разам з ёю, ці то пратачыліся ў падземныя азёры і воды, калі яны яшчэ меліся ў Княжборы, не перасохлі. І, хочаш не хочаш, вымушаны быў Махахей пераходзіць з рэшатаў на дрыгалку — рыбачыць блясёнкай. Не сказаць, каб вельмі ўлоўная прылада, ды і часу, цярплівасці на яе запасіцца трэба было, але работа, гаспадарка цяпер ужо не трымалі і не пынілі яго так, як раней. Можна было дазволіць сабе і пазабаўляцца. Ён выходзіў на гэтую забаўку некалькі разоў да гэтага дня, але ўсё не ў час. То быў маладзік, і рыба стайвалася, то наадварот — поўня, ну і, канечне, рыба разбягалася. А апошнім разам, калі, здаецца, усё павінна было спрыяць рыбалцы — і месяц, і надвор'е, і шчупак павінен быў «памяняць зу-

бы»,— не пашанцавала зноў: трапіў на так званую п'етру. Што гэта такое, ведаў толькі адзін Махахей ды сёй-той яшчэ з рыбакоў Княжбора. Калі рыба зімою не бярэцца, значыць, настала п'етра: вада пасля марозу ўпала, адышла ад лёду, паміж лёдам і вадою ўтварылася паветраная падушка, і хутчэй можна злаўчыцца і ўкусіць сябе за локаць, чым спаймаць якую б то ні было рыбіну. І перад новым сваім паходам Махахей доўга чакаў, калі месяц павернецца і стане, як яму належыць, і ўстаіцца надвор'е, калі знікне гэтая п'етра. І дачакаўся, калі пайшло ўжо на вясну, надвор'е стаяла мяккае і роўнае, выграбся з хаты яшчэ ў прыцемках і адразу — да адзінага ацалелага каля Княжбора азярца — да Вясковага. Да святла ўздоўж і ўпоперак пацюкаў гэтае Вясковае сякеркаю, але каб што дзыбнула, так і не дачакаўся, ні адзінага акунёвага ўдару, хаця махаў той дрыгалкай, дрыгаўся сам, як штунда-трасун, упрэў ад той работы. Хацеў ужо на ўсё плюнуць і шыбаваць дамоў, але заела: не можа такога быць, каб ён, ды ў сваёй вадзе, ды не спаймаў ані жабы, ані рыбіны.

Махахей, ахаланаючы, уладкаваўся на паваленай, умёрзлай у лёд асіне, прыгадаў, дзе можна пэўна спадзявацца, што нешта зловіцца. Мясціны ўсе, усе яміны, віры, завоіны ён ведаў напералік, але цяпер успамінаў аб іх, як успамінаюць нябожчыкаў. Абрамчукову яміну на рэчцы абрэзалі, калі спрамлялі рэчку, абрэзалі і на векі вечныя засыпалі той яміне вочы, тое ж было і з вірам каля Бабскага пляжа. Сёння не было ўжо знаку і ад самога пляжа. Віры каля Свілёва перасохлі, дзе раней была круча, завоіна, цяпер... дуля там з макам. І выходзіла на тое, што рэчка яго цяпер ужо не рэчка, яму не рэчка. Мо хто яшчэ і назаве яе рэчкай, але, пэўна, гэта будзе толькі той, хто народзіцца пасля яго, хто не бачыў і не ведаў, што такое сапраўдная рэчка, у яго язык не павернецца, каб абразіць сваю памяць і памяць рэчкі. І, такім чынам, у прыбытку заставалася тая ж самая дуля, да самага Храпчына, да вялікай ракі, на якую сёння ў Роўды не стае яшчэ моцы, няма чаго і рабіць, не варта і размотвацца. І Махахей, усё яшчэ распалены, скінуў шапку, бы не яго рэчка і не яго Вясковае возера, не яго зямля былі перад ім, а стаяла труна і ён развітваўся з тым, хто ляжаў у гэтай труне. Наскочыў ве-

цер, раскідаў і высушыў яго сівыя і рэдзенькія ўжо валасы, студзіў, сіверыў галаву і лоб, але ён нібы не адчуваў холаду, не баяўся прастыць. Не паднімаючы галавы, падняўся з асіны і, не выбіраючы дарогі, пабрыў спачатку Вясковым, потым рэчкаю да Храпчына. Шыбаваў Свілёвам і Балонню, праз сваю дуброву, няўтульную і зябкую без падтрымкі іншых дрэў і кустоў, ішоў, паглыбіўшыся ў сябе, бы на самай справе развітваўся з усім, што бачыў, з кожным дрэвам, кожнай купінай і кожнай лагчынкай. І, развітваючыся, непрыкметна раставаў і саграваўся, таму што паступова набываў іншы зрок. І паўставала перад ім не толькі тое, што было тут цяпер, але і тое, што было раней, і такім, як гэтае былое запала некалі ў душу, легла на душу. Дзівіўся, жахаўся з сваёй памяці, разумеў: нішто з таго былога незваротнае, і шкадаваў, але не сябе, не мінулае, што прарастала перад ім дубняком, клубілася стагамі сена, што беглі ўдалячынь, і пад зямлёю бруілася крыніцамі, шкадаваў і не гэтую невядомую яму зямлю, якую і хацеў, але не здольны пазнаць і прыняць, лічыць сваёй, а ўсё таго ж пабочнага, чужога, які сёння мо яшчэ і не нарадзіўся, але які абавязкова народзіцца, і прыйдзе, і з'явіцца. І што ж ён убачыць, як і на якой мове загаворыць з ім, з Махахеем, ужо мёртвым, ці зразумеюць яны адзін аднаго, паляшук палешука, ці не перавернецца ён у труне, ці не выцягнуць яго з труны і не развеюць прах яго па ветры. Ці прызнае той, невядомы сёння яшчэ свету, гэтую зямлю, ці палічыць яе сваёй, ці зразумее, чаму яго дзяды і прадзеды і ён, Махахей, на краі жыцця, на краі сваёй магілы прымаюць усё — як ёсць; і як будзе — таксама ўсё прымаюць, таму што ён і іншыя ведаюць і бачылі не толькі, як ёсць і як будзе, але і як было. Бачылі і адстайваюць гэтае як было. Сённяшняе, цяперашняе як ёсць замешана, учынена на яго поце і крыві, ён чуе і адчувае гэтыя свае пот і кроў. А ці будзе адчуваць той, што ідзе за ім, калі ён, Махахей, і следу, і знаку ад гэтага следу яму не пакінуў, калі вакол толькі палі і палі — і на гэтых палях і вакол іх усё толькі для патрэбы, для жывата. Ці не заные, ці не занудзіцца душа ў таго, які яшчэ не радзіўся, ці не паўстане ён, хаця яго яшчэ, зразумела, няма, але душа яму ўжо створана і створана, складзена, злеплена сёння і з та-

го, што ёсць сёння, чым жыве гэтае сёння і чым жывуць ён сам, Махахей, і баба яго Ганна. І не з хлеба яна і булак, не з гарэлкі і віна, не з прысмакаў і ласункаў адных, а і з самога Палесся трохі, з лясоў і балот яго, з рэчак і ручаёў, з вады — з дрымучасці і глухамані складвалася і нараджалася яна, ажыла, увайшла ў чалавека і разам з ім пайшла па белым свеце і прыняла яго, прызнала, бо няма нічога — няма і душы, абсечаны карані — засохла і дрэва. І тады, каб неяк выратавацца, падоўжыць не жыццё, а паміранне, застаецца адно: ні на што не зважаючы і не азіраючыся, ні чужых, ні сваіх не прызнаючы, маючы адну толькі думку, адно жаданне: чаго б тое ні каштавала, ды толькі выжыць — грабсці і грабсці ўсё пад сябе, бо на ўсіх усё роўна ж не хопіць. Вось і ён ужо шыбуе па чужога, па ёршыка, які яму не належыць. Ёршык той, канечне, не крадзёж, дробязь гэта, пусцяковіна, але ж не яго дробязь, не яго пусцяковіна, яго ёрш плаваў, гуляў пад яго ж хатай і быў сто год не патрэбны яму. Не патрэбны да той пары, пакуль не стала гэтага ёршыка смаркатага, пакуль не звёў ён яго. Як толькі звёў — спатрэбіўся. За шэсць кіламетраў бяжыць ён па яго і галосіць: вярніся, вярніся, ніколі не абражу цябе, не назаву смаркатым, не выкіну на сонца, на пясок паміраць на беразе, патрэбны ты мне — неабходны, хаця карысці ад цябе аніякай: хвост ды калючкі. Але, акрамя хваста і калючак, ёсць у гэтай нікчэмнай рыбіне нешта і іншае, што Махахею цяжка і вызначыць, як радня яму той ёршык, блізкая ці далёкая, бы некалі таварышавалі яны і сябравалі, толькі нечакана скончылася гэтае таварыства і сяброўства. І як толькі скончылася, пачалі яны слаць адзін аднаму праклёны і клялі адзін аднаго мо за падобнасць, бо абое рабое: калючыя, яршыстыя, непрыкаяныя ў вадзе і на зямлі, не патрэбныя адзін аднаму. А цяпер Махахей адчуў, што гэта зусім не так, што не могуць яны адзін без аднаго, як баба без мужыка, а мужык без бабы. Адчуў сваю падобнасць і еднасць з гэтым ёршыкам, і адразу ж знямеў вялікі палец на правай, рабочай руцэ, адымацца пачаў палец, бы пакідаў ён руку, сыходзіў у прочкі ад яе. І Махахей успомніў, што менавіта гэты палец укалоў некалі ёршык, даўно, калі далонь яго яшчэ не мела такіх мазалёў, такой брані, і боль быў тады не цягу-

чы і нямы, як зараз, а колкі, востры. Ён успомніў і самога ёршыка, які ўчыніў такі боль, малюпасенькага і сапраўды бясконца смаркатага, дакладная копія самога яго, даўняя копія партрэта, які даўно ўжо сцёрся і аднаўленню не паддаецца, хаця мо ва ўнуках, ва ўнуках... Ёршык той быў хоць і малюпасенькі, смаркаты, але ж і надта ваяўнічы і рашучы, выхапіўся з вады, такі задзірысты, на ўвесь свет растапырыў калючкі...

Вясной, у час паводкі, было гэта. Вада перла яшчэ з усіх бакоў, але ўжо ішла на спад. На раку нечага было і выходзіць, ён сядзеў з вудаю на востраве каля возера, пад дубам. Ні возера, ні дуба таго ўжо няма, але ёсць Аркадзь Барздыка, які таксама быў тады з ім. Быў яшчэ Антон Роўда, нябожчык ужо. Брат яго Васіль, таксама нябожчык... Палавіна вёскі нябожчыкі — усіх прыбрала вайна. А тады яны былі жывыя і не здагадваліся, што на іх долю выпадзе вайна, што на іх жыццё ўжо адліваюць кулю. Рыбалілі сабе ў ахвотку, палілі агонь пад дубам, пражылі сала на дубцах. І такое сонца было! І не на небе, а ў вецці дуба, і цішыня, цішыня, чутно, як сыходзіць вада, калыша і шапоча ў затоцы канаплянікам. Вуда ў Махахея бацькава, з конскага воласу ў шэсць столак сплеценая, ды так, што аніводнага вузельчыка. А вось, халера, не клявала і на бацькаву вуду. Ён пакінуў яе, забавіўся з салам, Антон Роўда загукаў:

— Дзыбае, дзыбае нехта, Цімох, вуду тваю.

— Хлопцы, лешч, нішкні,— шэптам выціснуў ён з сябе, замёр, сочачы за наплавам.— Там у мяне такі чарвяк, такі чарвяк, што драбяза і не падыдзе, збаіцца...

Чарвяк і сапраўды быў вялізны, выпаўзень — расавік. І нехта, далібог, як лешч, смактаў гэтага выпаўзня: наплаў то ледзь-ледзь прытапляўся, то цалкам вынырваў з вады, клаўся набок і адплываў крышку ўбок. Паўвёскі хлапчукоў, аднагодкаў Махахея, будучых нябожчыкаў, стаяла за яго плячыма, нецярпліва сукала нагамі. Раілі хорам і падсякаць, і не спяшацца. Ён падсек, выцягнуў свайго расавіка некранутым. Закінуў зноў, праклінаючы парадчыкаў: а раптам ды не падыдзе больш лешч, напалохаў ён яго. Але клявала зноў і зноў асцярожна, памяркоўна, як клюе толькі добрая, ладная рыбіна. І ўсе паверылі

ўжо ў добрую рыбіну. І Цімафей напяўся, чакаючы небывалага супраціўлення рыбіны, і падсек зноў. Супраціўлення не адчуў, ён шморгнуў леску так, што яна ўзвілася ў неба і заблыталася ў дубовым голлі, а на кручку біўся ёршык, у два разы меншы за чарвяка, дзе такі толькі вырас, з якога галоднага краю прыбег толькі сюды такі аглаед. І якім аглушальным рогатам сустрэлі яго бераг, дуб і сонца ў яго вецці.

— Лешч, лешч, ой, трымайце мяне, утаплюся...

Махахею чырвона зрабілася ўваччу, ён кінуўся, бы пайшоў урукапашную на таго ярша, садраў яго з кручка і хацеў ужо жахнуць на пясок і таптаць, таптаць яго нагамі, але адчуў раптам пякучы боль у пальцы. Раззлаваўся на ярша і здзівіўся, колькі болю можа таіць у сабе гэты ёрш, гэтае нішто, дзе ён толькі хаваецца ў ім, дзе, калі ён адчуваў боль увесь той дзень, і сёння, калі мінула амаль што паўстагоддзя, не адышоў ён. Вось дык дробязь, вось дык пусцяковіна, смаркаты ёрш, нямее, адымаецца палец на правай, рабочай руцэ.

Яны ж, хлопчыкі, тады, паўстагоддзя назад, нядобра, брыдка абышліся з тым яршом, утапталі, умясілі яго ў пясок, замучылі, засыпалі ў пяску, распнулі, як Хрыста, на пяску, шалеючы ад радасці і захаплення, адмаўляючыся прызнаць у ім жывога і мёртвага, бачачы адну толькі прыкрую нікчэмнасць і недарэчнасць, адыходы жыцця і вады. Але ў гэтым смецці існага, мабыць, ёсць яшчэ і памяць. І яшчэ нешта, акрамя памяці, параднёны гэты ёрш-пусцяковіна з ім, не з ім асабіста, а з тым, хто над ім, хто нябачны ў ім і не зусім мо зразумелы яму, над чалавечым у ім, у Махахею. Махахей дапускаў у сабе прысутнасць некага іншага. І гэты іншы ўсё жыццё быў у ім: вока нейкае, што ўсё бачыла і судзіла яго, ці чалавек нейкі, што жыў даўным-даўно і даўно памёр, але ўваскрэс потым у яго, Махахея, зямной абалонцы, у яго плоці і крыві, а мо і той чалавек, які нават не нарадзіўся яшчэ, што толькі прадчуваў яшчэ сваё будучае нараджэнне, і ў гэтым сваім далёкім прадчуванні ён ушаноўваў і аберагаў сябе і яго, Махахея, як свайго прабацьку і як сваё будучае дзіця ад усяго, што здавалася яму недастойным і брыдкім, чаго ён саромеўся б, ад чаго было б сорамна і Махахею. Гэтае вока, што ўсё бачыла, ці чалавек судзілі Махахея, яго

жыццё, яго ўчынкі і нават думкі, не дазвалялі яму схітрыкаваць там, дзе можна і дазволена было хітрыкаваць у будзённым, звычайным жыцці, не дазвалялі яму, Махахею, заступіць за тую рысу, па-за якой ён ужо быў не самім сабою, не Махахеем-княжборцам і палешуком, а нейкім іншым, пабочным і непатрэбным ні Княжбору і яго людзям, ні сваім нават дзецям. Гэты чалавек увайшоў у Махахея яшчэ ў дзяцінстве, і не заўсёды ладзіў з ім Махахей. Выпадалі між імі і крыўды, і спрэчкі, здаралася, што іншы раз той пакідаў яго, ненадоўга, але пакідаў. У вайну было, у роднай вёсцы. Але пра тое не ведае ніхто, нават яго баба Ганна не ведае. Не варочаецца ў яго расказваць пра гэта язык. Спрабаваў расказаць дзіцяці, сіраце, як рос некалі і сам, Мацвею Роўду, ды нехта ўсё ж нараіў спыніцца. Не дзіцячая то была гаворка, не для Мацвея Роўды, тым больш такога, якім ён зрабіўся сёння. Гэта тады, пасля вайны, Мацвей пачынаў сваё жыццё, як пачынаў яго некалі і ён, падпаскам. Мо гэта і вымусіла яго распачаць тую гаворку, але нехта абярог тады яго. Той, іншы ў ім, і паспрыяў яму: не ўсё і не ўсім жа трэба ведаць пра цябе... У палон здаўся, трапіў ён, Махахей, да немцаў. Сам рукі падымаў. Пад аўтаматам, праўда, але падняў. Падняў угару рукі, ведаючы, што робіць, і таму да скону, пэўна, ужо наканавана яму памятаць пра тое і пакутаваць. Сядзеў ён, хаваўся ў жыце каля Княжбора, калі першыя немцы наскочылі ў вёску і забілі таго бусла, аб якім на Палессі складзена паданне. Упаў бусел, устаў з жыта Махахей. А перад ім стаіць ужо немец, аўтамат ад сваіх грудзей у грудзі яму скіраваў. І вось-вось, здаецца, выскачыць адтуль чорцік і скончыцца гэтым чорцікам яго, Махахея, жыццё. Ведае аб гэтым немец, ведае аб гэтым Махахей, і чорцік ведае, пасміхаецца з чорненькай дзірачкі аўтамата. І немец усміхаецца: ком-ком, зольдат. А Махахей апрануты ў світку сялянскую, а абмоткі і галіфэ на ім — вайсковыя. І не ведае яшчэ, ці то жывы ён, ці то ўжо не, ён толькі што ўпароўся ў гэтае жыта, прыджгаў сюды з бою, семдзесят, лічы, кіламетраў, як урэзалі ў першым жа баі немцы, дык хто толькі куды, ён да самае хаты апамятацца не мог. Але з таго бою ён бег, амаль што не ведаючы, куды і ад каго бяжыць, усе бягуць, ну дык і ён не дурны адставаць. А тут перад ім быў ужо бачны

вораг. Тут ужо на ўсіх не звалiш і не спішаш. І стаялі яны адзін перад адным, твар у твар. І твар чужы, нямецкі, не ўдаваў Махахею ні на чужы, ні на нямецкі, на свайго, вясковага, быў падобны той яго немец, на Аркадзя Барздыку, толькі з твару, здавалася, быў ён больш лагодны, больш памяркоўны і дагледжаны, чым Аркадзь Барздыка. І задаволены такі, такі задаволены. Гэта ён радуецца, што ўзяў мяне ў палон, здагадаўся Махахей і зазлаваў: Аркадзя Барздыку ён кідаў цераз сябе, клаў на абедзве лапаткі, і ў валейбол гуляў лепш за яго, біў, што з гарматы, і справа, і злева.

Невядома чаму, навошта згадаў ён пра той валейбол, мо таму, што перад вайной усе ў вёсцы захапіліся ім. Гулялі паміж сабой, гулялі з пагранічнікамі. Прыходзілі вечарам, ледзь ногі цягнулі, а беглі да пляцоўкі, як сёння да магазіна шыбуюць. Але немец не вельмі быў схільны, каб доўга ён думаў пра гэты свой валейбол. Аўтамат яго быў напагатове і злосны, куды больш злосны за гаспадара. Уладарна здрыгануўся ствол яго, хіснуўся з боку ў бок і зверху ўніз, крыжык як бы ў паветры намаляваў. І Махахей зразумеў, што гэта сапраўды крыж, магіла. І, паволі, сам дзівячыся з сябе — што ж гэта ён робіць,— паднімае рукі. Рукі падымаліся самі, хоць і не спрактыкаваныя яшчэ, хоць і не здагадваліся яшчэ, чаму гэта і навошта яны падымаюцца. Жыць хацелі рукі, хаця ён сам і адмаўляўся жыць — паланілі ж яго, забіралі з ганьбаю ў палон пад прызбаю, лічы, роднае хаты. Не прывядзі гасподзь, выскачыць яшчэ хто і ўбачыць гэта. І той ваенком, што адпраўляў яго на фронт, убачыць. Ён жа паверыў яму, абраў яго сярод іншых у вёсцы, абраў, нягледзячы на тое, што цётка нейкая яго за мяжою апынулася. Цётка, пра якую ён ні сном, ні духам, ён яшчэ не нарадзіўся, калі яна пайшла замуж у суседнюю вёску. А вёска тая апасля ўжо адышла да Польшчы. Ён не ведаў аб гэтым, а іншыя ведалі. Прызвалі і ў ваенным білеце адзначылі: «палітычна ненадзейны». І цяпер ён як бы спраўджваў тую адзнаку. І порсценька, хуценька шукаў у памяці, як абяліць сябе. Знайшоў, апраўдаўся: на мне ж світка, а калі світка, значыцца, адпусцяць, паглядзіць во зараз ды і адпусціць. Вінтоўка ж мая ў хаце прыхавана, аніякіх жа пры мне дакументаў няма.

Смертнік адзіны, дык ён жа ў патайной кішэньцы, немец яго не знойдзе, не. Які ж я малайчына, думаў ён сам пра сябе, што заскочыць паспеў у хату, і добра, што хата пустая была, і вінтоўку паспеў схаваць і нацягнуць паверх гімнасцёркі світку. Світка і выратуе... І рукі яго ўжо былі ўзняты над галавой, вольныя і расслабленыя, толькі галава, шыя нешта касабочыліся, як вязы, пакрывіліся. І ў немца таксама, калі Махахей падняў ужо рукі, шыя скасабочылася, ён ляпнуў Махахея для прыліку, адвёўшы ўбок вочы, па кішэнях, па грудзях, пагнаў перад сабою ад вёскі, ад хат на дарогу, чаму Махахей надта ўжо ж быў рады: не цяпер, дык пасля адпусціць, галоўнае, ніхто яго сораму і ганьбы не бачыць.

Верыў, усё ўпарадкуецца само па сабе, па закону. І толькі раніцай гэтай веры настаў канец, калі да яго дабавілася яшчэ каля дзесяці нашых салдат і ўсіх іх строга пералічылі і прыставілі вартавых. Толькі тады ён пачаў думаць, як бы гэта ногі ў рукі ды і лататы адсюль, зразумеў урэшце, што гэта адбылося з ім. І ўцёк на трэці дзень. У прыбіральні распрануўся, утапіў абмоткі і галіфэ, застаўся ў споднім, што мала чым рознілася ад сялянскага адзення, прыбіўся да калоны вяскоўцаў, што гналі немцы на рамонт дарогі. У калоне той, праўда, таксама ўсе былі на ўліку, ён паламаў той улік, бо лішні быў. І знайшоўся паршывец, што, аж упадаў, хацеў выслужыцца немцам, хацеў выкрыць, выдаць яго немцам: не наш ён, не наш, салдат ён. Махахей ужо быў гатовы і да смерці, але яна абмінула яго. Немцам, пэўна, вельмі пільна была неабходна тая дарога, і раніцай яны не сталі разбірацца, хто ды чаму сярод тых, што будуць рамантаваць дарогу, лішні, а вечарам ён ужо быў далёка, ішоў на ўсход. І двойчы яшчэ трапляў у палон. Першы раз уцёк, другі — нейкая баба выкупіла яго ў немцаў за кабанчыка. Ад той бабы таксама ўцёк. А ў Смаленску... Але пра гэта Махахей не хоча ўспамінаць. Той, другі ў ім, што як бы робіць пры ім пракурорам, мо сам Жалезны Чалавек, а Махахей, калі б сказаў яму хто, што Жалезны Чалавек жыве ў ім, паверыў бы, дык вось той пракурор дараваў яму ганьбу, не вельмі скора, але ўсё ж забыў, што ён некалі падняў перад немцамі рукі. А сам ён, Махахей, ніколі нікога не судзіў: будзь сам добры другім і другія

будуць добрымі табе. Гэта ён засвоіў яшчэ ад бацькі. Не расстралялі яго, і добранька, і ладна, і за тое дзякуй. А расстраляць жа маглі, і нават вельмі проста ў той неразбярысе і блытаніне, што тварылася тады пад Смаленскам, усё было проста: і памерці, і выжыць. Ён выжыў. Больш таго, пад Смаленскам з'явіўся зноў той, другі, што пакінуў яго ў роднай вёсцы, калі ён падняў рукі. Не хочацца сёння Махахею ўспамінаць аб мінулым і цяжкім, але і не можа не ўспамінаць, такі ўжо дзень, пэўна, па крузе дарога, а ў адваротны бок кружацца думкі. І не толькі думкі, усё ў адваротны бок. Вось і з рыбалкай гэтай — здзяцінеў зусім: у рэчцы, якой ужо няма, спрабуе спаймаць рыбіну, што таксама ўжо звялі, нешта рассыпанае ўжо даўно і даўно замеценае, пахаванае ловіць у мінулых гадах на зямлі, якой таксама ўжо няма, інакшае месца, інакшая зямля перад ім, жыццё на ёй інакшае, незнаёмае. І дзіўна яму і ніякавата, не, не толькі ад гэтага незнаёмага жыцця, а ад таго, што перажыў ён сваю зямлю, сваю рэчку, сваю рыбіну. Непрыкаяна, хоць і маўчыць ён, сцяўшы зубы, аб гэтай сваёй непрыкаянасці. Маўчыць душа яго. Яна, душа, праўда, прывыкла маўчаць, прывыкла да зацятасці, ніколі не была гаваркою, а калі і гаварыла што, то не зусім тое, што было ў яе на языку, ці толькі вельмі трошкі з таго, што на языку: дурны не здагадаецца, а разумны... Нават баба Ганна не заўсёды ведала, што ў яго на душы, хаця і чула гэтую яго душу, як ён ні душыў яе. Душыў, а яна ўсё роўна пры ім заставалася, не так, як той, другі, незгаворлівы ў ім. Той адразу ж пыхаў і пакідаў яго, і даводзілася яму, Махахею, ужо бегчы з хаты, з сяла, у гэтае ж поле, у гэтую ж сваю дуброву. І сярод дрэў і траў зацятая, аглухлая душа пачынала ажываць, пачынала гаворку з тым, незгаворлівым і непрымірымым, даводзіла яму, што вонкава яна, душа, хаця і згаворлівая, усярэдзіне такая ж дакорлівая, пакутная, толькі ніхто не бачыць, як яна кроўю абліваецца, бо нікому нічога няма да яе, вось і вымушана яна хавацца. Вымушана застойвацца, як і няма яе, хаця сам ён, Махахей, адкрыты, шчыры, увесь навідавоку і... у прыцемку ўвесь: відзён, каб быць нябачным, адкрыты, каб за сябе ж, за гэтую адкрытасць, шчырасць сваю і схавацца. Слоў жа на свеце шмат, але ж ці кожнае трэба

выцягваць на святло. Іншыя ж з гэтых слоў, і такіх вялікае мноства, затым і створаны, каб мог чалавек, душа яго, пайсці ў гэтыя словы, як у лес, і, як за лесам, знікнуць у іх. І чым менш мы гаворым, тым менш даводзіцца хавацца душы, тым цэласней будзе яна. Яго палеская, княжборская зямля таксама не з гаваркіх, нямая нават, чужому нямая, таму, хто не народжаны ёю, хто не жыве на ёй, не дае ёй свайго голасу. Чужынец, той можа прыйсці сюды і ціхамірна, і з благім намерам, можа нават здзекавацца і мучыць яе, але наўрад ці выб'е слова, калі сам ён і ніхто з яго радні не падаў тут, не адыходзіў назаўсёды ў гэтую зямлю — ніхто і не адзавецца яму, ніхто не адгукнецца. Няма і не можа быць аніякай гаворкі, калі ты не даў гэтай зямлі сваёй крыві, не напаіў яе сваім потам, не кінуўшы нічога наперадзе сябе, нічога не знойдзеш і адзаду. Ні Галоскі-галасніцы, ні Жалезнага Чалавека. Дурніцай-трактарам успароць зямлю канавамі, выкарчаваць, прыбраць усё, што на тваё вока здаецца лішнім, не так ужо і цяжка. Невялікі розум трэба мець, каб абязмовіць яе, але вось каб зноў даць мову, язык, навучыць размаўляць нямога — да такога не спадобіўся яшчэ ні адзін з тых, хто жыве на зямлі. І побач з нямым нямее і той, з языком. Што можа сказаць гэтае роўнае поле, па якім ён, Махахей, зараз ідзе, таму, хто стварыў яго, яно ж жыве толькі імгненне і ведае толькі адно імгненне — дзень свайго стварэння. Так было, праўда, заўсёды, з імгнення, з дня стварэння пачыналася ўсё існае і з таго ж дня набывала сваю радаслоўную, працяг яе. І ў працягу і крылася мужыцкая, сялянская моц, здабытак і шчасце на стагоддзі. А тут, па яго, Махахея, разуменні, у міг стварэння адбываецца і забойства, бо занадта пагрозлівае і незваротнае гэтае стварэнне, у гэтага ж поля адсечана памяць, і стварэнне падобнае на забойства. Не можа быць не падобным, калі, ствараючы адно, нішчыш другое. А на слязах другога ніколі шчасця не здабудзеш. А плача ўжо ўсё вакол. Адплакаўшы ўжо сваё і слязьмі сваімі ні рэчкі, ні возера не аднавіўшы, пайшлі адсюль бабры. Не былі на гэты раз слёзы баброў слязьмі замілавання, хаўтуры спраўлялі яны, хаўтуры па сабе і сваіх хатах. І пайшлі яны, як бежанцы, назаўсёды ўжо прэч адсюль. У прочкі падаліся. Хаўтурамі, сыходам разлічылася з жыццём на-

ват рэчка. Глыбокай ноччу, у цемрадзі, захоўваючы ў тайне свой сыход, пайшлі ад сваіх абмялелых азёр і старыц, ад нор, над якімі ўжо не было вады, і ракі, пайшлі па-рачынаму, маючы ўвесь час перад сваім вокам свае хаты, мо і рачыная сляза хісталася на тым воку, мо яны не першы раз так пакідаюць свае хаты, таму і хада іх такая рачыная. Грымелі ў цемрадзі, шкраблі цемрадзь панцырамі ракі, упаўзалі з іх княжборскай рачулкі ў раку, асірацілі, пэўна, ужо назаўсёды, сваім сыходам Княжбор. Нядобра ім стала ў Княжборы. А нядобра зверу, казюрцы, нядобра і чалавеку, будзе нядобра. Бо ўсё жывое — радня чалавеку. Родным даводзіцца яму, Махахею, і гэтае поле. Там, наперадзе, відно ўжо Воўціна. У тым Воўціне немцы ў вайну жыўцом спалілі сто сорак душ, і хто здагадаецца, хто падумаць можа сярод такой роўнядзі, як гарэлі тыя душы, як попелам рассейваліся па зямлі. Хто можа падумаць, што тут, дзе цяпер стаіць ён, Махахей, таксама магілка. Чужая магілка, а за малым богам і яго магла быць. Трыццаць — сорак гадоў ляжаў бы ён ужо тут і парыў зямлю. Але ляжыць другі. І ён стаіць на магілцы таго другога, і ніхто не здольнае сёння выдаць ужо гэтай магілкі, толькі ён сам, Махахей, ведае аб гэтым, толькі памяць яго падказвае, што адбылося ўсё прыкладна тут. Ходзячы яшчэ ў падпасках, гнаў ён тут скаціну з пашы дамоў, сустрэў чужога. Сустрэў, кінуўся на заставу, прывёў пагранічнікаў. Разам з пагранічнікамі прыбеглі і княжборцы. Збіліся з ног, але нікога не знайшлі, следу нават не пабачылі і ўжо на яго, падпаска, пачалі скоса пазіраць, што ўзняў сяло: маўляў, выдзеліцца захацеў, шпіёна захацеў злавіць. І ён ужо і сам сумняваўся: ці бачыў каго, ці не. Не мог жа чалавек скрозь зямлю праваліцца. Адышоўся ў бок ад усіх, да старыцы. І там, каля старыцы, за кустамі пачуў, як цурчыць вада, прыгледзеўся і ўбачыў у вадзе чалавека.

— Сюды, сюды! — закрычаў.— Тут ён!

Прыбег на яго голас сам начальнік заставы, капітан Фурсаў: «Граніца на замку, а ключ у мяне ў кішэні».

Парушальнік знік. Зноў, як скрозь зямлю, праваліўся. Толькі ж што бачыў яго Махахей — і ўжо няма. Спрытныя шпіёны пайшлі, сапраўдныя шпіёны.

— У капелюхах сядзіць, там ён, стаіўся і праз чароціну дыхае.

Так яно і было. Прачакалі яны яшчэ хвіліны дзветры, капялюх, ліст белых і жоўтых гарлачыкаў, загойдаўся, заварушыўся, чароціна, што тырчала з вады, пачала расці. Фурсаў падзёрся скрозь кусты да старыцы. За ім пацягнуўся і Махахей. Два стрэлы прагучалі — як адзін, спынілі яго. Нешта цененька, камарыкам піскнула па-над вухам, і чужынец пачаў асядаць, завальвацца ў ваду.

— Граніца на замку, а ключ у мяне ў кішэні,— хаваючы пісталет, сказаў Фурсаў.— Дзякую, малайчына.

І ўсё. Чужака тутака ж, каля старыцы, і пахавалі. Час зраўняў з зямлёю яго магілу. А праз нейкі час кіламетры за два адсюль, каля самай заставы пахавалі і Фурсава — «граніца на замку, а ключ у мяне ў кішэні». Добры быў чалавек, Махахей будзе памятаць яго ўсё жыццё, дзякуй яму. З усіх начальнікаў заставы быў начальнік. Пашкадаваў яго бабу Ганну, не аддаў на згубу, пакінуў яе Махахею, каб яна стала яму жонкай, нараджала яму дачок. А магло стацца, што аніякіх дачок у Махахея з ёю і не нарадзілася б. Ішла яго баба Ганна з другімі княжборскімі дзеўкамі з лазы тутачкі ж во, берагам рэчкі. Гаманілі яны паміж сабой, колькі хто сёння зарабіў у калгасе і атрымае за лазу. У калгасе ў той час працадзень важыў паўтары капейкі, столькі ж каштавала і кожная зрэзаная лазіна, якую прымалі нарыхтоўшчыкі, каб вязаць ёю плыты: пятнаццаць рублёў — тысяча лазін. І яго баба не ў пару ўзяла ды сказала Царыцы:

— Нешта ў цябе жывот тоўсты, Маруся.

— А я сёння капусты пад'ела,— незадаволена, але ўсё ж адказала Царыца.

А ад ракі, з процілеглага, чужога берагу, мужчынскі голас, здаецца, не варожы, як каялася ўжо крыху потым яго Ганна, як у Княжборы іх той жаўнерчык нарадзіўся:

— А з чым капуста ваша, дзяўкі?

Дзяўкі як ішлі, так і паселі ў траву, горача ў ногі стала, і адказаць боязна і маўчаць боязна, ды і гаварыць няма чаго: з чым іх капуста, калі не з капустай толькі. І бабу Ганну як чорт пацягнуў, на яе бяду, за язык:

— А ў палякаў што, да капусты яшчэ і мяса ёсць?
— Ёсць і мяса. А вы што, нішчымную едзіцё?
— Чаму гэта нішчымную? А хоць і нішчымную, але сваю...

Вось і ўсяго, што сказала баба Ганна, а справа завярцелася, хоць у кусты, у лазу ёй бегчы. Толькі куды пабяжыш, пры заставе і пасадзілі яе, замкнулі. І мо адправілі б у горад, але вызваліў усё той жа Фурсаў. І накрычаў яшчэ на нейкае начальства, на таго, хто браў і садзіў яе, хаця потым, як чуў Махахей, супраць яго ж той крык і павярнулі...

Махахей азіраецца: застава ўжо, ужо рэчка вялікая, сапраўдная відаць. Павінна тут быць і магіла Фурсава, а яе няма, ні следу, ні знаку ад яе, як і ад той, чужой магілы. Нібы і не ляжыць у іх зямлі, ніколі не падаў тут начальнік заставы капітан Фурсаў — «граніца на замку, а ключ у мяне ў кішэні». Вясёлы, высокі Фурсаў альбо з Разані, альбо з Яраслаўля прыехаў сюды, каб замкнуць на замок граніцу і з ключом ад гэтай граніцы пайсці ў зямлю, якую сцярог. Пайсці і нічога пасля сябе не пакінуць. І ў гэтую бясследнасць якраз і не верыцца Махахею. Мацвей Роўда, ён жа княжборскі, а значыцца, не чужы і яраслаўцу ці разанцу Фурсаву. І Махахей бездапаможна кружыць на месцы, адступае назад, як адступалі ракі, пакідаючы Княжбор, вытанцоўвае буслам, што кружыў тут мінулаю вясной, калі прыляцеў з выраю да сваёй буслянкі на старой застаўскай бярозе і не знайшоў ні буслянкі, ні бярозы. Ёсць зараз і ў Махахею нешта адначасова і згублена птушынае, і зняважана рачынае, і хочацца яму, як бабру, пусціць слязу невядома па кім, невядома з-за чаго. І сляза гэтая звярыная, цёплая і мяккая, недзе ўжо копіцца ўсярэдзіне, запасіцца ў грудзях, але да вачэй не прабіваецца. Ракі знайшлі выйсце, сышлі, бусел паляцеў, бабры сплылі. Але ён, Махахей, не звер, не птушка і не рак, і ні назад, і ні па небе, і ні па вадзе яму хады няма, не сысці яму з гэтых мясцін. Ніхто і нідзе не чакае яго, нідзе і не здольны прырасці ён і прыжыцца, хоць і вялікая зямля, але родныя яму, кроўныя на ёй толькі два сажні. І ад гэтых сажняў нікуды няма дарогі. Як і родная зямля, вялікі белы свет, паглядзіш ноччу на неба, зорак там процьма — іншых светаў, іншых зямель, але ніхто яшчэ не спадобіўся

пераскочыць у тыя іншыя землі, хоць і лятаюць людзі на ракетах лепш за птушак і згараюць, як птушкі, на сонцы, але за зямлю, за гэтыя два вечныя сажні, за жменьку, а не жменьку, дык пылінку на падэшве, пясчынку астатняга кроку маючы пры сабе з гэтых двух сажняў, без гэтай пылінкі, без гэтай пясчынкі няма і не можа быць чалавека — ні лётчыка, ні касманаўта, ні мужыка. Маленькая, малюпасенькая гэтая пясчынка, мо толькі ў мікраскоп і разгледзець яе, але ёсць жа, кажуць, умельцы, што прымудраюцца кніжку на рысавым зерні запісаць. Так і на той пясчынцы, на самай малюсенькай пылінцы запісана ўжо ўсё пра зямлю і пра чалавека на ёй. І гэты запіс кожны раз аднаўляецца нанава, варта толькі кінуць зерне ў зямлю. І зямля, і зерне ўжо самі ведаюць, як ім быць, што рабіць і што пачаць. Пачынаецца круг з зерня і пясчынкі, працягваецца коласам і чалавекам, смерцю і адраджэннем: раз нарадзіла маці, то трэба і паміраці, але і жыць жа трэба. І зямля, пясок, на якім ён, Махахей, зараз стаіць, памятаюць і вечна ўжо будуць памятаць Фурсава, хаця самі людзі мо і забудуць пра яго. Забудуць, як толькі адыдуць з жыцця тыя, хто ведаў яго. Але ці можа зямля дараваць людзям забыццё чалавека, якога яна адрадзіла ў коласе, з зерня якога выпекуць потым хлеб. Ці палезе той хлеб у рот, ці не будзе дзерці, ці не стане папярок горла другому чалавеку. У ім, хоць і прапушчаным праз жорны, будзе прысутнічаць памяць таго, каго даўно ўжо няма, таму што яна, памяць гэтая, нікому ўжо асабіста не належыць, а гэта значыць — належыць усім. І ці не закрычыць, не завые смертна нехта, аб'еўшыся таго хлеба, насыціўшыся чужой памяццю, ці не загалосіць Галоскаю-галасніцай па нованароджаным ці не народжаным нават яшчэ дзіцяці, а мо аб'явіцца на свет атручанае дзіця, атручанае злою слязой няўдзячнасці за таго ж Фурсава, мо ў ім абудзіцца і тое не зусім добрае, што было ў Фурсаве, з чым ён здолеў саўладаць пры жыцці, але ці саўладае, калі памрэ. І тады зноў нованароджаны, і не адзін, а вялікае мноства іх, што ўкусілі ад хлеба забыцця, пойдуць жалезным поступам Жалезнага Чалавека помсціць нашчадкам тых, хто пакваліўся замахнуцца на безабаронныя магілы. Нішто без ніякага знаку не даецца нікому, ні добрае, ні дрэннае. Пла-

ча ж над Княжборам ці то можа ўжо і па Княжборы Галоска-галасніца. І ўжо ходзіць па княжборскіх вуліцах Жалезны Чалавек. З'явіліся ў Княжборы ўжо богавы вандроўнікі — баптысты, штунды ўсякія. Век не ведаў такой заразы іх Княжбор. А гэта, хоць і нядобра так думаць і гаварыць аб людзях, усё ж зараза. Прыстала яна да іх вёскі, збегшы з вёсак, дзе асушэнне пачалося раней, чым у іх Княжборы. Прыціснулі іх там камяніцамі, кінуліся яны па глухіх кутках, дзе пуставалі хаты, пачалі купляць гэтыя хаты. Спачатку Махахей адносіўся памяркоўна да іх: людзі і людзі, а да таго ж і верацъ яшчэ нечаму. Чужую веру, хай і няправедную, ён паважаў, бачылася яму заўсёды за гэтым нешта моцнае і трывалае. Але, калі прыгледзеўся, нічога, акрамя ўдаванай ціхамірнасці, за гэтымі баптыстамі ён не знайшоў. На словах яны былі толькі ціхія ды рахманыя, а калі ж тычылася нечага сур'ёзнага... Андрэй Вырастак, малады і прыгожы хлопец з баптыстаў, што запаланілі вёску, чацвёртай княжборскай дзеўцы галаву кружыць: запішашся ў секту — вазьму замуж. Тры дзеўкі ўжо яму паверылі, запісаліся, чарга чацвёртай ужо. Вось табе і вера, і не падмані, і не ўкрадзі. Бугай на прыманцы ў ціхіх веруючых. І людзі з тых вёсак, з якіх з'ехалі баптысты, шчыра радаваліся: «А вы думалі, да вас нешта людскае наехала, хто мяняе, у таго заўсёды хамут гуляе». Праўду казалі, людскага мала да іх прыехала. «Мы падманем, украдзём, мы ў бога і даравання вымалім». Добры бог, калі яго на што хочаш падгаварыць можна. У яго няма такога бога. Толькі пракурор, калі што не так — адразу за каршэнь. І цяпер ён ужо караў Махахея за тое, што той так кепска думае аб людзях, аб тых жа веруючых і аб тых, што зааралі, зраўнялі з зямлёю магілу капітана Фурсава, і нават аб не народжаных яшчэ. Нагаворваў: адкуль, маўляў, табе, Цімоху Махахею, ведаць, якімі будуць тыя, што з'явяцца на свет пасля цябе. Ды можа ў дзесяць разоў лепшымі будуць за цябе. Ты трымаешся за сваю хатку, соткі, жонку сваю, а яны за ўвесь белы свет будуць так трымацца. Вось дзед Саўка, бацька Аркадзя Барздыкі, калі пачалася вайна, прыйшлі немцы, залез на сваю печ і не злазіў, пакуль не прыйшлі ў хату партызаны разам з дзедам Дзям'янам і не пабудзілі яго. «Ты чаму, Саўка, не

ваюеш?» — спытаў яго дзед Дзям'ян.— «А няма дзе ваяваць»,— адказаў Саўка і павярнуўся на другі бок. Падумаць, дык, здаецца, і праўду сказаў: ні ў хаце, ні на сотках дзеда Саўкі ворага — немца не было. Але ўнук яго, Васька Брытан, пэўна, так ужо не адкажа. А меліяратары, той жа Мацвей Роўда, далі Княжбору зямлю, дадуць яму зямлю, якой ніколі не меў Княжбор, аб якой толькі марылі княжборцы. Расказваюць, калі перабраліся яны сюды з-за рэчкі і пачалі дзяліць з суседнім сялом зямлю, суседзі выставілі такую ўмову: вось наш мужык, вось ваш, пракрычаць апошнія пеўні — пабягуць яны, і дзе збягуцца, дзе стрэнуцца, там і мяжа між нашай зямлёю будзе пракладзена. Княжборцы не вытрымалі, выпхнулі свайго бегуна яшчэ недзе да першых пеўняў. Апошні ж намерыўся толькі голас падаць, а ён ужо пад хатаю таго бегуна з суседняга сяла. Раззлаваліся суседзі, што парушаны дагавор, і сказалі: прабег ты добра, а цяпер нясі яго назад, і, дакуль данясеш, там і межавацца будзем. А дакуль ён здолеў данесці, калі ўсю ноч бег. Пастанавілі тады суседзі абрэзаць княжборцаў па самыя хаты. Так і зрабілі. І сёння было б так. А цяпер дай бог рук набрацца, каб управіцца з той зямлёю, што будзе ў іх. З усіх чатырох бакоў стаіць голы Княжбор, глядзіць на поле, ужо амаль што яго поле. Якой жа трасцы яшчэ трэба табе, Махахей?

Так угаворваў Махахея той, што быў над ім. І ўпершыню Махахей не згаджаўся з ім. Атрымоўвалася нешта дзіўнае і незразумелае Махахею, як не сам-насам стаяў ён на магілцы таго, што маўчыць ужо каля сарака гадоў, гаварыў не самому сабе, а выступаў перад людзьмі на сходзе, і людзі прыглядваліся да яго, і яму трэба было паказаць сябе. І Махахей адчуў сорам, яму здавалася, што Фурсаў, якога ўжо не было, які ўжо навекі зліўся з зямлёю, пяском і травамі, ветрам і сонцам, наракае на яго, што ён чакае ад яго на сваёй магіле зусім іншага. І Махахей, адчуваючы, як нібы свінцом наліваюцца ногі, бы нехта трымае яго за ногі, заспяшаўся прэч, да рэчкі, дзе можна было адпачыць і падумаць пра што-небудзь іншае, больш прыемнае, увайсці ў цішыню і адзіноту снегу, што зіхацеў і пераліваўся на сонцы, у плынь вады, што пад ільдом не мазоліць вока, у думкі дрэў, што растуць на беразе рэчкі.

Але дрэў, да якіх ён прывык, каля рэчкі не было, стаялі толькі пні, магутныя, як тром чалавекам абхапіць, і ў рост чалавека. «Хто ж сатварыў вас, пні?» — не наважваючыся падысці да іх, прыпыніўся, замёр нават Махахей каля пакінутага гадоў пяць назад на беразе буксірчыка, пакінутага таму, што быў ён ужо вельмі стары і нікуды не варты, ці то таму, што абмялела іх княжборская рачулка, па якой ён не здолеў падняцца ўверх і, падобна на тое, не схацеў спускацца ўніз, выходзіць вусцем на вялікую рэчку, застаўся на мелкім, што стала апошнім яго прытулкам. Махахей добра ведаў, што парубкі па беразе рэчак забаронены, апрача так званых санітарных. Але што тут тыя санітары-леспрамгасы маглі ўзяць, тут яны сваё адсанітарылі ўжо, спляжылі ўсё, што можна было спляжыць, упісаць у план, вольха ж, якая ў план непрыгодная была, скончылася сама. Засталіся толькі дубы пры самым беразе, вось гэтыя самыя, ад якіх цяпер адны толькі пні, хоць помнікі ўсцягвай на іх і расстаўляй уздоўж берагу. У каго ж гэта толькі паднялася рука на гэтыя дубы...

Выходзіла на тое, што ў саміх леснікоў, з-за іх ненажэрнай глоткі сканалі тут дубы. Зразумела цяпер, чаму ён за ўсю зіму ані разу не бачыў цвярозым Сідара Шчура, усё як ні сустрэне — п'яны і п'яны, да таго дайшоў, што неяк патрабаваў, каб ён, Махахей, паставіў яму бутэльку. Вёз Махахей дамоў на дровы сухастоіны, вольху, мо нават і пара бярозак была, з брацкіх магілак браў, з поля ўжо, а не лесу, з ляда, што звёў Мацвей Роўда,— браў без разбору, гарэць будзе — і добра. Здалёку, з другой нават дарогі, замахаў яму Сідар Шчур, заварочвай, маўляў, сюды. Махахей не паслухаўся: трэба табе, дык і сам падыдзеш, не вялікі начальнік. І Сідар з цяжкасцю, але ўзбіўся па цаліку да яго, на нагах не трымаўся: «Білет табе трэба выпісаць, Цімох.— Вочы пасалавелі, і падняць ён ужо іх не можа, і морда шызая, што зямля.— Я падыду да цябе, Цімох».— «Дарэмна ногі патраціш, Сідар,— адказаў Махахей.— Не з твайго лесу гэты алешнік. Лесу, лічы, у цябе ўжо няма».— «Ёсць,— набычыўся Сідар.— Ёсць ляснік, павінен быць і лес».— «Пахмяліся, зірні вакол — дзе той лес?» — «А я ўсё роўна ляснік, і білет табе трэба выпісаць, а не, дык акт складаць будзем»,— вачэй ад

зямлі Шчур так і не падняў, так і не зірнуў у твар яму, Махахею. «Складай акт, абавязкова акт»,— сказаў Махахей і панукнуў коніка. Вось на гэтыя «акты» Шчуру, складзеныя ў карчме Лявона Цупрыка, і пайшлі тыя дубы, што стаялі тут. Усё пад актам, і ўсе пад актам, на ўсё ёсць адпаведная паперка, толькі няма ўжо нічога, няма дубоў, аголеная зямля, аголенае неба над галавою.

І Махахей узняў галаву і паглядзеў на гэтае неба, і яно падалося яму зусім не тым небам, якое ён з дня на дзень прывык бачыць над сабой. Нечага сёння ўжо не ставала ў тым небе, нешта ўжо было там не на месцы, хаця і сонца было, і месяца агрызак боўтаўся, як боўтаецца ў вадзе надкусаны яблык. Але не адчувалася ў гэтым вясновым сонцы, як гэта было раней, маладой вясенняй моцы і задзірлівасці, і вісела яно, здаецца, не там, дзе б належала яму зараз вісець. Махахей успомніў, што і падымалася яно таксама неяк нязвыкла. І на самой рэчцы ўсё было перайначана, хаця яна, рэчка, здавалася, была такою ж, як і раней, нічога не змянілася ў яе берагах, у яе старыцах, як і раней, правы бераг — пакаты, левы — стромы, кругы. І з круч звешваліся на раку ледашы, капала з гэтых ледашоў светлая вада, і светла, як крык вясновай птушкі, сквірчэў, размякаючы ад гэтай вады, лёд, заклікаючы яго, Махахея, да асцярожнасці: вясна, маўляў, хоць і не трашчу, а ўпушчу. І ён запацюкаў перад сабой сякеркаю, спрабуючы трываласць лёду, правяраючы, ці няма прамоін. Лёд падымаў яшчэ паўсюдна; мо ён бы так і краўся, пацюкваючы, да самай лазы, да правага пакатага берагу. Але тут з левага з'ехаў на рэчку параконны і парасанны поезд. Незнаёмы Махахею чалавек вёз гэтым поездам з боку яго Княжбора пяць дубкоў, нятоўстых, але добрых ужо, гонкіх і каржакаватых адначасова.

Махахей падзівіўся з такога дзіва і не вытрываў, спытаў:

— Дзе ж гэта ты ўзяў столькі дубоў?

— Дзе ўзяў, там ужо няма,— і задаволена, п'яна рагатнуў: — А ты вось, рыбак, рыбку ловіш.

— А я вось рыбку лаўлю.— У словах гэтага чалавека Махахей пачуў не толькі задавальненне, але і пагарду нейкую, што займаецца ён пустым, бавіць толькі час. І таму ён хоць і не дараваў гэтаму чалаве-

ку крадзяжу дубоў, але асуджаць яго не спяшаўся, хаця быў на ўсе сто ўпэўнены: дубы гэтыя — крадзеныя, несумленныя, глотачныя, калі і не ў Сідара Шчура, то ў некага іншага, падобнага на яго, за гарэлку купленыя. Мужыку прыперла, ён і купіў, як мог бы купіць і ў дзяржавы. Уласна кажучы, той жа Шчур быў яму дзяржаваю і нават, пэўна, больш, чым толькі дзяржаваю, яна ж паставіла яго адказным за той жа дуб, дуб быў у Шчура і пад Шчурам, такім чынам, здаецца, не меў ужо да дзяржавы ніякіх адносін. І да таго ж чалавеку гэтаму было са Шчурам прасцей, ён ведаў, як яму да яго падысці, колькі даць, каб без валакіты выбраць, што яму трэба, і з дапамогаю таго ж Шчура ссекчы, нагрузіць і павезці. Хіба ж дзяржаве было пад сілу такое. Звярніся да яе чалавек па эшалон лесу, таго ж дубу, тут бы яна пайшла насустрач, з запаведніка, але вытралявала б той эшалон, хоць на мясныя калоды для Сібіры, хоць і за Сібір — куды хочаш: для кабінетаў і ідалаў усякіх дубовых, за мяжу. Пра ўсё гэта Махахей ведаў добра, таму што сам будаваўся, нахадзіўся, напрасіўся і наслухаўся. І таму ён асудзіў гэтага чалавека не за крадзеныя дубы, а за іншае.

— Як жа ты наважыўся па такой рацэ ехаць? — сказаў ён з папрокам.

— А што, рэчка не дарога?

— Да бога цяпер гэтая дарога.

— Да бога? — Чалавек зноў задаволена рагатнуў і зірнуў спачатку на неба, потым на Махахея.— Гумарыст ты, толькі мне няма калі з табою жарты жартаваць.

— А ўтапіцца не баішся?

— Утаплюся, тады і баяцца буду, а пакуль жывы — баяцца няма часу.— І ён яшчэ раз зірнуў на Махахея, але цяпер ужо без смеху, як бы просячы прабачэння. І Махахей зазірнуў яму ў вочы і ўбачыў там, як пражыў чалавек сёння раніцу, натугу, з якой ён варочаў гэтыя дубы, пакору і паддобрыванне да лесніка, як ён піў з тым леснікам самагонку, страх і нецярпенне ўбачыў і пашкадаваў яго. І той як адчуў гэтую яго шкадобу і спачуванне:

— Ты не бойся, не бойся за мяне, мы — яршы — народ жывучы. Мы па гэтай рэчцы кожны год ездзім, пакуль хто-небудзь ды не ўтопіцца.

— Усё-такі топіцеся?

— Топімся.

— І ездзіце?

— І ездзім...

— А чаму яршы?

— А мянушка ў мяне такая. І вёска наша Яршамі завецца.

— Ведаю, чуў,— сказаў Махахей.— Гэта ў вашай вёсцы, кажуць, мужык мерына пакусаў.

— Брэшуць,— сказаў чалавек.— Ох, і хлусяць жа людзі, не мерына, а кабылу. Вунь жывы сведка, не дасць няпраўду сказаць.— І субяседнік Махахея тыцнуў пугаўём у сцягно коніку. Але Махахей зірнуў не на коніка, а на чалавека.

— Ну што ты на мяне вылупіўся,— і не падумаў адмаўляцца ён.— Я той самы перад табою і ёсць, што кабылу пакусаў.

— Як жа ты яе?

— Проста, за губу,— і, бачачы, што гэтай прастасці мала, Махахею хочацца падрабязнасцей, пачаў расказваць падрабязна і здалёку, як яму было трэба ехаць па сена, кабылку далі на паўдня, а яна ўжо адрабіла сваё ноччу, коням жа таксама калі-нікалі адпачыць трэба. І ў аглоблі яна аніяк, ні за якія грошы. Ён і біў, і хваста круціў, і пад хвост ужо хацеў калючку ставіць, ды не трапіла пад руку. Запаліў пад ёю жмак саломы, салома гарыць, поўсць на кабылцы ўжо трашчыць, скура ніжацца, а яна як укопаная, во натурыстая, во дзе прынцыпы.

— Ведае, што звыш нормы прымушаюць рабіць, уперлася, хоць праўленне склікай, ну і мы, яршы, народ калючы, востры. Саломы той жмак, што запаліў, пад хвост ёй, брыкаецца, храпай круціць. Тут і я ўжо ашалеў. Ах ты, воўчае мяса, думаю, у мяне ж работа стаіць, хто ж яе за мяне спраўляць будзе. Наперад кабыле забег, каб у вочы яе акаянныя зірнуць, галаву дзярэ, тады я злаўчыўся, прысеў, падскочыў, добра так, як хто падкінуў мяне, і за губу ёй і цапнуў. Яна галаву ўніз, губы закапыліла, скаціна, каняка, а баліць і ёй, добра ўшчаміў. І стаім мы, зубы адно да аднаго выскалілі. Гляджу я, сляза ў яе з вока, і ў мяне, адчуваю, вочы зашчыпала. Расціснуў я зубы, яна заржала і морду сваю мне на галаву, я і шапку ўжо згубіў, ну, думаю, капцы табе, Ёрш, як хопіць

зараз — і няма ў цябе галавы, Ёрш. Не, пастаяла так, пастаяла ды тоненька на вуха мне шэпча: «Ты што, ашалеў, жываглот, кусацца ўздумаў, яршына клятая».— «А ты,— кажу,— таксама, ясачка мая, мо я гэта не кусаў цябе, а цалаваў так?» — «Чаго вы толькі звярэеце?» — «А вы чаго правы качаеце і не слухаецеся? Пайшлі, кажу, рабіць пара, ніхто нашай работы не паробіць. Пайшлі». Заржала яна, пагадзілася, значыцца, і пайшлі. Вось і ўвесь мой страх і расказ.

На тым Махахей і развітаўся з Яршом, што пакусаў кабылу, пажадалі адзін аднаму ўдачы і разышліся. Да гэтай удачы Махахею зусім нічога ўжо, метраў з трыста лагчынкаю, нізам, і за лагчынкаю была каля ракі пратока кіламетраў з тры, амаль без цячэння, з глыбокімі, метраў на дзесяць — дванаццаць, затокамі, у якіх хаваліся гарбатыя і чорныя акуні, а дзе было мялей, сярод лета жыравалі плоткі і чырванапёркі. І цішыня, цішыня была там, летам толькі ўсплёск рыбы і парушаў яе, а зімой дык і наогул ціха і прыгожа, што ў раі. Але сёння яшчэ ў лагчынцы, яшчэ на падыходзе да пратокі Махахей пачуў нейкі шум, нейкія невыразныя галасы і бражэнне нейкае, бы сапраўды хтосьці паставіў у пратоцы бочку з брагаю. З горкі ён убачыў і гэту людскую брагу, варыва людское. Людзей на лёдзе было больш, пэўна, за сотню, процьма. А ад таго, што ўсе яны былі цёпла апрануты, у чарнушчых валёнках альбо ў вялізных і таксама чорных на сонцы гумавіках, у плашчах паверх ватовак, і нават у гумавых хімабаронных накідках, і кожны займаў адразу метры з тры, а то і болей лёду, здавалася, што людзей безліч, рой. І ўсе яны безупынна рухаліся, адны дзяўблі і круцілі пелькі, другія ўжо раз-пораз рэзка ўзмахвалі над гэтымі пелькамі рукамі, іншыя ж проста размахвалі рукамі, мо паказвалі, якую рыбіну яны колісь лавілі, беглі невядома куды, валаклі за сабою санкі з рукзакамі, ацынкаваныя вёдры, і Махахей, наглядаючы за гэтым вавілонскім нашэсцем, проста разгубіўся і хацеў ужо бокам, бокам ды дахаты, але цікаўнасць перамагла. Ён ступіў на лёд пратокі. І тут, ужо на пратоцы, яшчэ на падыходзе да рыбакоў, зразумеў, чаму іх столькі тут сёння. Была прыдуха, рыбе не хапала паветра, лёд у рацэ падперла вадою, і рыба кінулася ратавацца да маленькіх рачулак, дзе можна было б глытнуць

9 Зак. 2507

свежай крынічнай вады і паветра. Прыдуха і раней, пасля зацяжных халадоў, надаралася тут і на іх княжборскай рачулцы. І тады княжборцы запрагалі коней і ехалі саньмі на гэтую прыдуху, рабілі пелькі і чэрпалі з гэтых пелек рыбу хто чым, хто падсачкам, а хто і сахаром накалваў і грузіў на сані. Ездзіў, і не аднойчы, на прыдуху і ён, Махахей, хаця і саромеўся: адно ўзяць рыбіну вудаю, няхай нават жакам, і зусім іншае — сахаром, нешта ад вайны, ад прамой згубы, здавалася яму, ёсць у тым, як ішлі людзі на рыбіну з сахаром. Быў страшны не сахор, а тое, як ён уваходзіў у крышанку з рыбы: адна насаджвалася на сахор, а дзесяць калечыліся, разадраныя, скрываўленыя бакі і спіны рыбы, патрушчаныя галовы без вачэй вымушалі адварочвацца і крадком зазіраць на сонца: як яно там, нічога яму там, не мулка, не колка. Але княжборцаў ніколі не збіралася на лёдзе іх рэчкі гэтулькі, колькі сышлося народу ў пратоцы. А яшчэ, па ўсім, не ўсе сабраліся, народ яшчэ падыходзіў, чорным ланцужком, бы мурашкі, цягнуліся і цягнуліся ■ боку гарадка рыбакі, бы там, у гарадку, таксама здарылася прыдуха, толькі ўжо людская, і ў пошуках свежага глытка вады, свежага глытка паветра беглі з апраметных сваіх вуліц і дамоў сюды, на рэчку, на пратоку, людзі. Толькі ступалі на лёд — ужо размотвалі сваё начынне, крышылі гэты лёд пешнямі, сякерамі, бурамі. А пад ільдом шчыльнымі касякамі, так, што не праглядвалася і дно, ішоў лешч, і на здзіўленне буйны, такога Махахею на вуду і не даводзілася яшчэ лавіць. Ішоў, як плыве па вадзе салома, бы на самай справе нехта абярнуў і загнаў пад лёд воз саломы. І Махахей, захоплены нейкай ліхаманкавай нецярплівасцю, мітуснёй і паспешлівасцю, таксама не разяўляў рот, не лавіў варон. Хуценька пашырыў сякераю ўжо некім прадзёўбаную пельку, кінуў у пельку блясёнку, дачакаўся, пакуль яна дойдзе да дна, шмаргануў угару яе і адразу падсек і пацягнуў. Дзесяць разоў кінуў і ўсе дзесяць са здабычаю выцягнуў — па ляшчы. І ўсё — торбачка яго была поўная, пуд рыбы, а то і болей, вісеў на шыі. І ён ужо папікаў сябе, што не прыхапіў меха, а толькі торбачку, ды і то выпадкова неяк прыхапіў. Зімой і летам увесь яго ўлоў мясціўся ў кішэнях кухвайкі, ■ тут як хтосьці падказаў яму з гэтай торбачкай. Ён

сядзеў ужо вольна, забыўшыся і на вуду, думаў, што гэта такое ёсць на ім, што можна было б прыстасаваць пад ляшча: зняць сарочку, але распранацца пры народзе — такога ён не мог сабе дазволіць. Ражна выразаць. Колькі на той ражон начэпіш такіх вось парасят, рукі адарвуць і ражна зламаюць, свет не маленькі несці іх. Але азарт не разважае, а нажыва слепіць. Мо аслеп бы і ён, ды толькі ціха раптам зрабілася вакол, ціха і бязлюдна. Махахей зашморгаў блясёнкай — пуста. Выцягнуў блясёнку — кручок на месцы.

— Тут не дрыгалка твая трэба, а во...— Махахей узняў галаву, рыбак, што прабягаў міма, паказваў яму, чым сёння трэба здабываць рыбу. Махахей прыпыніў яго. Снасць была мудрагелістая. Свінцовая груша, бомба грамаў з дзвесце. І з усіх бакоў на ёй кручкі.

— Глядзі ты, бач ты,— пахітаў галавою Махахей.— Чаго толькі людзі не прыдумаюць. І што ж гэта такое?

— Жывадзёр, дзед,— і рыбак пабег далей. Махахей толькі цяпер заўважыў, што не толькі ён, але і ўсе іншыя ўжо далёка адышлі ад яго. Ён застаўся адзін, натоўп жа густа і напорыста рухаўся ў глыб пратокі. Рухаўся няроўна неяк, бы п'яны ці пад кулямі, увесь час мяняў кірунак. Галава гэтага натоўпу, якую складалі, пэўна, самыя прадпрымальныя рыбакі, на хвіліну-другую пынілася, імгненна і чорна набракала, то напіралі на яе тыя, што ішлі пасярэдзіне, тулава, хвост распырскваліся веерам і ўтваралі нешта падобнае да хваста рыбіны. Веер гэты з берагу да берагу ахопліваў пратоку, і пачыналася работа: маханне, дрыганне, шморганне. Пяць-дзесяць рыбін з адной пелькі — і зноў кружэнне па пратоцы. «Чаго гэта яны кружаць?» — зацікавіўся Махахей і падняўся паглядзець. Рыбакі на лёдзе, што і касяк рыбы пад ільдом, рухаліся, паўтараючы адзін аднаго з дакладнасцю нечага машыннага, неадушаўлёнага. Спуджаны чорнай наваламчу, што навісла над ім, салома-лешч, які шукаў паратунку, бег ад прыдухі, да свежага паветра, да жаданага і жыватворнага глытка чыстай вады, у якой бы не было ні тарфяной каламуці, ні гніласці дрэў і балота. Ляшчы кідаліся з аднаго боку ў другі, шчыльна збіваліся ў бесталковы статак, у якім больш моцныя душылі, церлі слабых і таксама гінулі, пара-

9*

неныя ў створанай імі ж таўканіне і штурханіне. Нідзе і нікому не было паратунку. Гібельным быў круг, па якім яны руҳаліся. Не маглі яны нікуды ўжо ўцякці і збегчы ад страху, які пасеялі самі ж. Вада, у якой яны плавалі, была ўжо напоена, насычана іх немым крыкам і жахам, бо ўсе яны крычалі і жахаліся, зявілі зяпы, вывяргаючы з сваіх жабраў адчай і жах, пазбаўляліся ад аднаго адчаю, ад разлітай па ўсёй вадзе атруты — абескіслароджанасці, дыхалі зноў той жа самай абескіслароджанасцю жаху і адчаю, заражалі той жа атрутай безвыходнасці не толькі ваду, у якой жылі, але і паветра, якім ужо дыхалі людзі. І людзі былі ўжо распалены сутаргавай безразважнасцю пагоні, палявання, бы пугамі, сцябалі ваду, і ляшчоў, і сябе, азарт свой. На бягу, адной рукою, зубамі адкаркоўвалі бутэльку з віном і гарэлкаю, адкідвалі ўбок пустыя бутэлькі, хавалі ў кішэнях тыя, у якіх нешта яшчэ боўталася, і жывадзёрамі аднаго за адным падцягвалі да пелек ляшчоў, чырвонымі і не гнуткімі ад холаду рукамі выдзіралі іх з пелек. А тыя, у каго рукі задубелі ўжо зусім і не здольныя былі ўхапіць і ўтрымаць жывое і слізкае цела рыбіны, здабывалі гэтую рыбіну зубамі. Зубамі працаваў здаравіла, каля якога спыніўся Махахей, малады хлопец з рукамі каваля ці механізатара, збітымі, падрапанымі, з ссаджанымі пазногцямі, адрослымі няроўна і бугрыста, а пальцы былі не адмытыя ад машыннага масла і крывавілі. Ён мог яшчэ трымаць імі вуду, як прывык трымаць і трымаў, пэўна, у якім бы стане ні знаходзіўся, баранку аўтамабіля ці молат, але жывое вылузвалася ■ яго рук. І хлопец толькі падцягваў да пелькі ляшча, падцягваў, шчэрыў зубы, падаў перад ім на коленцы і, баючыся, што не ўтрымае рыбы, дапамагаў сабе зубамі.

Махахей як убачыў гэтага хлопца, так і замёр, стаяў, пазіраў на яго і маўчаў. І не адчуваў ён нічога, ні пратэсту, ні абурэння, пуста было ўсярэдзіне, як узрэзалі там і выцягнулі ўсе пачуцці разам з сэрцам, косткамі і жыламі. І цела, здавалася, запоўнена адным толькі паветрам, і паветра таго ў ім усё павялічвалася і павялічвалася, яму ўжо, здаецца, прыпякала ад яго, і вось-вось магло разарваць, утапіць у лёд. Адзінае, што яшчэ жыло ў Махахею і служыла яму, як заўсёды, верна,— вочы, больш верна, чымсьці ра-

ней. Яны глядзелі на ўсё, што адбывалася тут, як бы з глыбі яго, і глыбіннасць іх была незразумелаю і недаступнаю Махахею, як глядзеў ён цяпер не сваімі на ўсё вачыма, што былі дадзены на ўсё жыццё яму, палешуку, селяніну і калгасніку, бацькамі, таксама палешукамі і сялянамі, а пазычыў ён гэтыя вочы ў некага іншага, і толькі на сёння, на час рыбалкі ў пратоцы. І той, у каго ён пазычыў іх, здавалася Махахею, быў куды разумнейшы за яго, мо і больш бездапаможны, бо не азываўся, але разумнейшы. Розум быў вялікі, але нейкі журботны, што запасіў і запамінаў усё да нейкага часу, да нейкай пары, а да таго часу, да той пары нікуды не хацеў улазіць і ўмешвацца. Веданне, адчувальнае і Махахеем, але недаступнае яму, таксама не дазваляла ўмешвацца. І веданне гэтае ахоплівала і пранізвала не толькі вось гэтую хвіліну, усё, што адбывалася зараз, але і вякі, стагоддзі назад, вякі, стагоддзі ўперад. І нешта падобнае, здавалася яму, ужо было з людзьмі стагоддзі назад, і нешта падобнае будзе яшчэ стагоддзі ўперад. Падаў ужо так чалавек і будзе яшчэ падаць, і не адзін раз. І падымацца будзе. Ён жа, Махахей, таксама ў свой час падымаў рукі. Мо ён і цяпер на людзях, у пратоцы, перад гэтай саломай-церухой, рыбай, з паднятымі рукамі. Збоку ж сябе не бачна, бачыш і судзіш іншых. А іншых судзіць лёгка. Ты асудзі сябе. Паглядзі на сябе, чым ты лепшы, больш чысты за таго ж хлопца, у якога так замерзлі рукі. Бег па ёршыка, каб кінуць яго ў кішэню, а натрапіў на ляшча, і ўжо маленькаю здалася кішэня, у якую заўсёды ўлазіла столькі, што хапала і на юшку, і на скавараду, ужо сарочку намерыўся з плеч здымаць. І зняў бы, калі б нікога побач не было.

Сярод рыбакоў зноў усчаўся нейкі бязладны рух, толькі цяпер беглі яны не рассыпана па крузе, як толькі што за касяком рыбы, а больш шчыльна, і імкнуліся да нейкага нават цэнтра, і не азартна-здабычліва, як раней, а азартна-злосна, з пешнямі, з сякерамі і бурамі наперавес, нібыта ў атаку. І крык, крык, злы, з мацюкамі.

— Спыніцеся, людзі! Людзі ж вы яшчэ?

— Хто там гарлае? — выхаркнуў на лёд новую порцыю слізі, лускі і крыві хлопец і зморшчыўся.

— Рыбнагляд, рыбінспектар,— адказаў, здаецца,

адзін з тых рыбакоў, што бег міма Махахея. Але адказ гэты імгненна памножыўся і, нібы ветрам падхоплены, залунаў над пратокаю.

— Пяшнёю па кумпалу — і рыб карміць,— сказаў хлопец і працягваў рыбачыць. Але натоўп галасным камяком ужо накаціўся на яго і Махахея. Закружыўся перад імі і выкружыў з свайго чэрава рыбінспектара і рыбака. Хаця хто з іх быў рыбінспектарам, а хто рыбаком-браканьерам, разабрацца было не надта проста. Абодва яны аднаго веку, аднаго росту, невялікага, а калі меркаваць па маршчынах, па сівых валасах — і аднаго нялёгкага лёсу. І крычалі яны адно і тое ж, і аднолькавыя былі словы іх:

— Рыба дзяржаўная, дзяржаўная, не твая і не мая...

— А ты звер, бярэш столькі, сколькі і не панесці...

Вось толькі пасля гэтых слоў Махахей зразумеў, хто з гэтых двух, што ўзялі адзін аднаго загрудкі, рыбінспектар, а хто браканьер.

— Я... Ды я чатыры гады ў пяхоце, я на пузе ўсю радзіму-маці... Хлопцы, бі яго...

І яны спляліся зноў і, як паспеў убачыць Махахей, так, як спляталіся там, даўно. Ён жа таксама быў у пяхоце, бачыў вочы і адчуваў цела, калі яно вось так, па-смяротэльнаму.

— Мужыкі, мужыкі, што ж гэта вы, пехацінцы,— ён кінуўся разнімаць іх. І яшчэ нехта кінуўся, толькі незразумела, разнімаць ці біць. Замільгацелі кулакі і буры. Уздрыгваў і калоўся лёд. Біліся ўсе, хто апынуўся ў натоўпе, адны, каб выбіцца з натоўпу, а другія — таму што ішла бойка, а хлопец, што лавіў ляшчоў зубамі, проста так, каб сагрэцца. Ён і пусціў Махахею юшку, садануў кулаком так, што сонца з вачэй бліснула. І да чаго б давяло іх тое лядовае пабоішча, невядома, як-ніяк, а не з голымі ж рукамі, у кожнага нешта ды ёсць, але тут зноў загалёкалі, загаласілі:

— Міліцыя, міліцыя!

Крык не спыніў бойку, але адразу ж за ім, як нехта галінку надламаў, трэснуў стрэл, і рыбакі пасыпаліся хто куды, як гарох. Але ўсё ж нехта і не пабег, застаўся ляжаць на лёдзе, гэта Махахей прыкмеціў ужо краем вока, калі адчуў, што няма ўжо ў руках яго ні сякеркі-самакованкі, ні торбачкі на шыі няма.

І хоць шкада яму было і самакованкі, і торбачкі, і дзесьці нават рыбы, пыніцца ён не стаў. Харкнуў на бягу ўжо крывёю і наддаў яшчэ хутчэй: хопіць, налавіўся, наеўся на ўсё жыццё і ўнукам закажа...

Гори, звезда моя, не падай,
Роняй холодные лучи,
Ведь за кладбищенской оградой
Живое сердце не стучит.

Пачатак гэтага верша Махахей прапусціў, ці то баба пратараторыла яго, ці то з-за таго холаду напачатку не кранула і не сагрэла яго тая халодная зорка. Але далей, калі верш ужо канчаўся, ён раптам схамянуўся і, адарваўшыся ад гармоніка, слухаў, аж вочы рэзала:

Я знаю, знаю, скоро, скоро,
Ни по моей, ни чьей вине,
Под низким траурным забором
Лежать придется так же мне.

Забор той, плот жалобны быў таксама не з яго жыцця, чужое слова ўпісаў тут Ясенін, але ён даравяў яму гэтае слова за два апошнія радкі:

Любил он родину и землю,
Как любит пьяница кабак.

— Во сказануў, дык сказануў, як ніхто сёння не гаворыць, урэзаў ужо дык урэзаў,— пацішыла голас баба Ганна, уздыхнула: — То ж трэба так сказаць: так любіць зямлю, як п'яніца гарэлачку. Мужык Ясенінаў наш, як і мы з табою, дзед. І пра цябе, і пра мяне ўсю праўду сказаў.

Трошкі памаўчала, бы вывяраючы гэтую праўду з тым, што было зараз у ёй і яе чалавеку, у тых гадах, што пражылі яны разам, яшчэ раз уздыхнула і пачала чытаць далей:

Дай, Джим, на счастье лапу мне,
Такую лапу не видал я сроду,
Давай с тобой полаем при луне
На тихую бесшумную погоду.
Дай, Джим, на счастье лапу мне.

— Усё,— сказала баба Ганна.— Пад канец сапсаваўся, спаганіўся Ясенінаў. Добра, добра пісаў, усё пра людзей, а тут пра сабаку пачаў, ды абы-што. Пра сабаку чытаць не буду. Ну што ты, дзед, маўчыш,

увесь вечар голасу мне не падасі. Не буду, кажу, пра сабаку чытаць, ды яшчэ не рускага.

— Не чытай, баба, пра сабаку.

— Ага, табе каб толькі адвязацца. Чытай не чытай. А мо то добры сабака быў.

— Сабакі нядобрымі не бываюць.

— Ой, ведаеш ты што пра тых сабак. У майго бацькі ўжо такі быў сабака, такі дабрачы сабака, прайдзісвет. На грушу лазіў і грушы калаціў.

Пра таго сабаку, што лазіў грушы калаціць, Махахей ужо чуў незлічона колькі, але ўсё ж усумніўся, ці было такое, удавана ўсумніўся: каб не чапала яго баба Ганна, выгаворвалася сабе і не перабівала яго думак. А думаў ён аб тых, што засталіся ляжаць на лёдзе; пехацінцах — інспектару і браканьеру. І сорамна яму было за сябе, што збег, не ўпэўніўся — жывыя яны ці не. Па ўсім, нічога з імі не павінна было здарыцца, проста іх паваліпі з ног. Уцякаючы, ён, здаецца, і бачыў, што варушыліся яны. Але на душы ўсё роўна было моташна, як сабака памачыўся на гэтую душу. Чаго ён пабег: ні рыбы ў яго, ні віны за ім аніякай. А вось пабег, і ўсё. І доўга яшчэ мучыцца яму з-за гэтага. А яшчэ ж баба Ганна торбачкі хопіцца...

— Ты не слухаеш мяне, а я табе бітую гадзіну расказваю.

— Слухаю, Ганна, пра сабаку ты расказваеш, што ў вуллі па вашчыну, па мёд лазіў.

— Якія гэта вуллі яшчэ?

— Ну што на грушы былі.

— Ой, дурыла ты глухое, пянёк ты стары. Я табе пра Надзьку, пра дачку тваю. Гавораць, спуталася яна там з Брытанам рыжым.

— Рыжы ён, ну і што з таго? Вінаваты ён, што рыжы? Добры хлопец, не ў Барздыкаву пароду пайшоў.

— Табе ўсе добрыя, а аб дачцы сваёй ты і не дбаеш. Тутачкі ж у яе Мацвей Роўда.

— Хто гэта табе сказаў?

— Хто сказаў... Во бацька, аб усім апошні дазнаецца... Вось Роўда хлопец добры, з галавою і адукаваны, і колькі ўжо ў халасцяках ходзіць...

— Ой, баба, здай назад, спыніся.— Махахей злосна рыпнуў гармонікам і паклаў яго на стол.—

Каб я ў апошні раз у сваёй хаце пра Роўду чуў, ясна? Во парода, усіх ёй сасватаць і пераражаніць трэба. Давай, толькі не Роўду. Сама ведаеш, што тут і да чаго.

— Ну, тушы тады святло, спаць будземо,— пакрыўдзілася баба Ганна.— Нешта ты пасля сваёй рыбалкі як з таго свету, і слова табе папярок не скажы.

— Кажы,— дазволіў Махахей.— А Надзьцы я напішу.

Але баба Ганна нічога яму не сказала, палезла на печ і яшчэ доўга масцілася там на чарэні, шамацела, шастала кухвайкамі, совала падушкаю. Цімох жа патупаў па хаце з кутка ў куток, дастаў з-за бажніцы пачак віншавальных адкрытак — на ўсе выпадкі, святы і даты: з днём нараджэння, вяселлем, Кастрычнікам, Першамаем, Новым годам і днём Восьмага сакавіка, проста так, без усякай даты. Віншую, і ўсё. Пералічыў, восенню купляў адразу ці не сотню, а цяпер засталося семнаццаць. Ён прыкінуў, што там за ўрачыстасці наперадзе, і рашыў: павінна хапіць. Нацягнуў на нос акуляры бабы Ганны і не зразумеў, ці то праяснiла, ці то затуманілася ўваччу, паверыў: калі ў акулярах, павінна праясніцца, а тое, што плыве і мільгаціць нешта перад вачыма, гэта не ад акуляраў, яны тут не дапамогуць, гэта дзень, які пражыў ён сёння, не ўлёгся яшчэ, хістаецца, зыбаецца і плыве: «Дай, Джим, на счастье лапу мне... давай с тобой полаем при луне...» Быў у яго адзін знаёмы чалавек, імя якому Джым, дзе ён цяпер. У Амерыцы, кажуць, неграў вешаюць.

Махахей крадком прайшоўся ад стала ў куток, дзе стаяла скрыня старой яшчэ работы, акутая з бакоў жалезам, аздобленая ўзорамі. У той скрыні быў самы дарагі іх з бабаю набытак, нічога, зразумела, каштоўнага, мо каму нават і проста рыззё. Але яны ішлі ад адной рэчы, што знаходзілася ў скрыні, да другой, як ад вяхі да вяхі, і ляжалі яны ў старой той скрыні, як пласты ўзаранай зямлі, захоўваючы ўсе прыкметы і нават пахі часу: іх маладосці, калектывізацыі, вяселля, вайны і міру, сённяшняга жыцця і падступаючай смерці. Наверсе цёплая ваўняная хустка бабы Ганны, састарэла мо нават таму, што не вельмі часта выпадала бабе Ганне ўбірацца ва ўборы. Вось і пажаўцела яна ў скрыні і доўга яшчэ будзе ляжаць і жаўцець, бо

цяпер такіх не робяць і не прадаюць. Яго, Махахея, дыяганалевае галіфэ, гімнасцёрка, у такіх цяпер таксама ніхто не ходзіць, і ён іх надзяе толькі на Дзевятае мая. А сёлета дык баба Ганна не дазволіла і са скрыні дастаць. Дзевятага мая ён зашыўся з мужыкамі ў бэз пад хатамі, дзе куры корпаюцца. Раз ды два наведаліся да Цупрыка, хораша. У каморах ды ў сцёбках пакалупаліся — яшчэ лепей, песню ўжо кінуліся спяваць. Раптам чуюць нейкі гвалт. Выскачылі з бэзу, на́ табе, жанкі на чале з бабай Ганнай, як чорт іх навёў.

— А вось ты дзе, і ўжо цёпленькі. І не сорамна, і вачэй не хаваеш. А мы з жанкамі ўжо стол на вуліцы накрылі. Думалі разам з салдацікамі сваімі пасядзець, а салдацікі ўжо даўно праз Цупрыка да Берліна дайшлі... Ой, вочы б мае на цябе не глядзелі...

— Мы зараз, мы заўсёды напагатове,— выйшлі з бэзу, не сталі таіцца і іншыя франтавікі.

— Не пусцім,— сказала баба Ганна,— нябрытыя, мурзатыя...

— Пабрыемся, памыемся, ванну нават прымем.

— А я ўжо галіфэ пабег надзяваць,— думаў улагодзіць бабу Ганну Махахей. А яна яму дулю, а ў дулі той і ключ ад скрыні:

— Во што ты ў мяне, галубок, вып'еш і закусіш.— Так і не дала ў святочнае ўбрацца.— Самі піць будземо, мы таксама ваявалі. Так, жанкі, не пусцімо?

І не пусцілі. Спачатку, праўда, толькі не пусцілі за стол, пакуль у іх да песні не дайшло: «Вы служите, мы вас подождем...» Заспявалі яны гэтую песню, палагоднелі. І салдацікамі, і галубкамі ўжо без кпінаў клікаць пачалі. І можна было ўжо гаварыць з імі ў будзённым, не поручыся ў тых скрынях, не дастаючы галіфэ і гімнасцёрак, і без гэтага чарку падносілі.

Махахей пашыўся, абмінаючы хустку, галіфэ, андаракі, клункі са смертным, да самага дна скрыні, дзе пад усім гэтым начыннем хавалася яго ваенная, амаль афіцэрская, планшэтка з добрай цялячай скуры і ўстаўным лістом цэлулоіду. Планшэтка гэтая служыла яму не толькі на вайне, спатрэбілася яна яшчэ і міру — яго дзеўкам, у бойку кідаліся, па чарзе ў школу з ёю хадзілі: і Света, што цяпер у Карагандзе, і Марыя, што ў Маскве, і Алена, што ў Мінску. Надзька толькі тры зімы прахадзіла з планшэткаю, а

потым нос угару: партфель купляйце. А планшэтка зноў зрабілася вайсковаю. Махахей пазбіраў і склаў у яе, што беспрытульна валяліся ў шкапу, скрыні і нават на гарышчы, свае вайсковыя паперы, медалі, што меў у асноўным за гарады: Варшаву, Будапешт, Берлін, кіпу пажоўклых, разлахмачаных падзяк ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Сярод гэтых паперак, падзяк, медалёў было і некалькі фотакартак, на якіх, хоць і з цяжкасцю, можна было пазнаць яго, маладога Цімоха Махахея, дзе-небудзь збоку, з-за галавы каго-небудзь выглядваў і ён паловай твару. І толькі на адной з гэтых фотакартак быў ён цалкам і на ўвесь рост, праўда, таксама да неверагоднасці збянтэжаны і разгублены, таму што побач з ім стаяў негр, а падтрымліваў таго негра рукамі і галавой ён, Махахей. Сам Джым стаяць не здолеў. Махахей адшукаў таго негра сярод труб і нейкага начыння ў прыбіральні. Амерыканцы прыехалі ў іх часць, каб уручыць нашым салдатам і афіцэрам свае ўзнагароды. Пасля ўручэння ўсе разам, як водзіцца ў добрых людзей, селі за сталы. Махахею і тут не пашанцавала, усе пілі, елі, а ён стаяў на пасту і слінку каўтаў, пазіраў на ўсіх. На Джыма і пазіраў, які ён вялізны і губаты, і рукі яго якія вялізныя і нязграбныя, а чарку падымае спрытна, і сам чорны, а зубы белыя. І калі ўсё паелі ўжо і папілі і пачалі амерыканцы ад'язджаць, Махахей убачыў, што негра сярод іх нямашака. Такі вялізны, і трэба ж, здараецца ж такое, забыліся пра яго, згубілі. А негр, гэта Махахей добра памятаў, пайшоў у прыбіральню і з прыбіральні не вярнуўся. Махахея змянілі, але ён яшчэ гадзіны дзве поркаўся ў прыбіральні, але дамогся свайго, выцягнуў вялізнага Джыма, які спаў на нагах, але не сунімаўся, патрабаваў: рашэн вотка. Негру гарэлкі далі, Махахею — не. Яго толькі сфатаграфавалі разам з Джымам. І Джым пакінуў яму свой адрас, узяў адрас Махахея, абяцаў прыехаць да яго ў Княжбор на «рюські вотка». Ці жывы ён цяпер, мо ўжо даўно лінчавалі. Цікава было б напісаць яму — няўжо адказаў бы? Махахей пачаў выбіраць адкрытку, на якой можна было б напісаць Джыму, перагледзеў, перабраў усё тройчы, але такой, каб адпавядала і падыходзіла, як заўсёды, у яго не знайшлося: з Крамлём не пашлеш, і з «Аўрорай» таксама, капіталіст жа, а проста «віншую»...

што гэта яшчэ такое, каго гэта ён улягае так віншаваць. Атрымаецца яшчэ як з той цёткай, падумаюць яшчэ, што Джым нейкім родзічам яму даводзіцца. І Махахей адсунуў адрас негра ўбок і пачаў пісаць сваім. Браў з планшэткі то канверт з адрасам, то пажаўцелую ўжо выразку з газеты — а пра яго, Цімоха Махахея, таксама пісалі ў газетах: «Геройский подвиг рядового Махахея». А нічога геройскага і не было тады, настрахаўся толькі, гэта было, было. Намуляў ён вочы ротнаму свайму, лейтэнанту Сяргею Пятровічу Былічу, а ўжо к канцу ўсё ішло — патрапіў не ў час, той і рыкнуў:

— Надакучыў ты мне, Махахей, рота ўжо тройчы памянялася, а ты ўсё такі ж, як дзеўка, некрануты, ніводнага ж разу не раніла цябе, Махахей?

— Так, таварыш лейтэнант, шанцуе.

— Шанцуе... А другім вось не шанцуе. Колькі ў цябе другіх нумароў за гэты тыдзень памянялася?

— Трое, таварыш лейтэнант, двух забіла, адзін — паранены.— Махахей быў кулямётчыкам, першым нумарам ад самага Смаленска, як загаварылі яго. І пад танк трапляў, і зямлёй закідвала, і кантузіла, а каб куля ці асколак закрануў — не. У другія нумары ніхто з роты і ісці да яго не хацеў, баяліся, усё з папаўнення ставілі. І было Махахею ўжо няёмка перад сваімі другімі нумарамі, ведаў — раней ці пазней, але загіне той яго другі нумар. Было няёмка яму і перад ротным, што як вечны ён, сапраўды як загавораны. А Махахей ужо сам паверыў у сваю вечнасць і загаворанасць.

— Пойдзеш у разведку, Махахей, па языка,— сказаў ротны.

— Ёсць у разведку...

І пачаў збірацца, хаця што збіраць: голаму апрануцца — толькі падперазацца. Але пайшлі салдацікі, пачалі дзяліцца ўсім, што хто меў. Той сухарык, той махоркі, а той — ножык-фінку. Спачувалі яму салдаты, шкадавалі яго, а ён жа думаў, яны радыя будуць, што не ім выпала па таго языка ісці. А яны шкадавалі... І больш таго, хацелі ісці да ротнага прасіць, каб адмяніў ён свой загад, бо нельга яму, Цімоху Махахею, гінуць. Прыкмета нядобрая для ўсёй роты, прывыкла яго рота бачыць жывым і здаровым. А Махахей спачатку не без задавальнення прымаў

паднашэнні, слухаў, што пра яго гавораць: а як ды папраўдзе пашанцуе яму і зараз, угавораць ротнага адмяніць загад. Але калі яго ж другі нумар, з якім Махахей павінен быў ісці ў разведку, выцягнуў з кішэні кісет з паркалю ў гарошак, які па пошце на фронт прыслала яму дачка, пакрыўдзіўся страшэнна:

— Вы што, маёй смерці жадаеце, на смерць мяне рыхтуеце? Забірайце свае транты, папалю. Усё роўна вярнуся.

Але, калі папраўдзе, ён да самага апошняга, пакуль не перапаўзлі нейтралку, не верыў у сваё вяртанне. Толькі калі перапаўзлі, калі ўбачыў перад сабою таго немца, унтэра, што зноў жа, як дзве кроплі вады, паходзіў на Барздыку і на таго немца, які паланіў яго пад Княжборам, пад яго ж хатаю, паверыў: чорцяго што з ім будзе, жыць будзе, у зубах, але прыцягне гэтага немца да сваіх. І імгненне нейкае Махахей і унтэр глядзелі адзін на аднаго. Махахей — недзе спадзеючыся, што ўспомніць яго немец і спалохаецца, але той, пэўна, не ўспомніў, пільнаваў яго вачыма, чакаў імгненне, калі можна будзе ўхапіць шмайсер і разрадзіць яго ў Махахея. Махахей не даў яму дацягнуцца да аўтамата, і сам не ведае, але нешта спрацавала ў ім, узняло яго і кінула на немца, той толькі скрабануў кіпцюрамі па аўтамаце, а Махахей дапаў ужо рукамі да яго глоткі. Да аўтамата немец не дацягнуўся, але ножык, кінжал з-за халявы паспеў выхапіць. І добра, што Махахей быў у бушлаце. Кінжалам немец успароў яму рукаў бушлата, абадраў скуру на руцэ. І тут падаспеў, наваліўся на яго другі нумар Махахея Яўхім Целякоў з Нежына. Гуркі добрыя ў тым Ннежыне растуць. Надзіва гуркі такія ж цяпер і ў Княжборы. Яўхім прыслаў насенне, а баба Ганна разнясла па ўсім ужо Княжборы. Толькі ў госці адзін да аднаго ні Целякоў, ні Махахей не выбраліся. Усё збіраліся, збіраліся, спісваліся, дамаўляліся, дый... Памёр Яўхім Целякоў. А з разведкі прыйшоў — і валасінкі з галавы не ўпала, дайшоў да канца вайны. Выйшаў на пенсію ў сваім Нежыне. Адзін-адзіны толькі раз паспеў і атрымаць яе. І ўсё. Махахей адкладвае ўбок канверт з адрасам Целякова. А вось Былічу ён напіша. Быліч яшчэ жывы, робіць на чыгунцы ў Сухінічах, гэта недзе пад Масквою,

каля Калугі. Яры, равы яшчэ там вялікія, а лесу няма. А так добрыя людзі жывуць, калі меркаваць па Былічу. Кожны год Быліч акуратна віншуе яго з Дзевятым маем. А тады, калі ён, Махахей, вярнуўся з языком, ледзь не заплакаў, абдымаць пачаў, цалаваць, прабачэння прасіў, дзівак-чалавек.

— Я памінкі па табе ўжо спраўляю, Цімох. Ты даруй мне, даруй.

— І вы мне даруйце,— апусціў вочы Махахей, бо не ведаў, як адказаць, што гаварыць.

— А чаго гэта ты ў мяне прабачэння просіш, Цімох? Чым жа ты правініўся перада мной?

— Не ведаю,— сказаў Махахей.— Мо падумаў што не так, паглядзеў калі-небудзь не так. Жыццё, усякае бывае.

— Ах ты,— толькі і адказаў яму Быліч, і, што было за гэтымі двума словамі, Махахей не вельмі і зразумеў, бо далей пайшлі такія мацюкі, у пяць радкоў друкаванымі літарамі не ўбярэш. І ў гэтых радках нічога пра яго, Махахея. Яму, Махахею, толькі алюмініевы карэц гарэлкі:

— Пі, Цімафей Ягоравіч, да дна за свае памінкі. Жыць будзеш вечна. Пачакай, дарагі мой, ты не паранены?

— Ніяк не, таварыш лейтэнант,— аб той сваёй драпіне ён не сказаў нікому, ні Былічу, ні Целякову. Сорамна было. І тут не ўсё як у добрых людзей. Быліч і напісаў гэтую «стаццю» «Геройский подвиг» — дваццаць пяць радкоў роўна разам з подпісам: «С. Былич, командир роты, гвардии лейтенант». І цяпер Махахей пісаў яму, адну адкрытку запоўніў першамайскую, павіншаваў свайго камандзіра з Першамаем. Пачаў выбіраць і другую, каб адразу павіншаваць і з Дзевятым маем. За пісаніну гэтую Махахей садзіўся зрэдку, але калі ўжо садзіўся, то надоўга, на ўсю ноч, улічваючы на паўгода ўперад усе святы і даты, таму і купляў адразу капу адкрытак, каб запаўняць іх у запас, нікога не абысці, не пакрыўдзіць няўвагай. У жыцці яго з бабаю Ганнаю і маці аніякіх асаблівых падзей не было: вясна, лета, сяўба, сенакос, уборка. Але аб гэтым ён таксама не пісаў, каму цікава, што ён пасеяў, што сабраў. «Жывём добра» — і гэта настолькі шматзначна, што хоць галаву набок скруці, а лепш не напішаш, гэта значыць, што ён

яшчэ сапраўды жывы і, гледзячы на пару года, адсеяўся, ці ўбраўся, накасіў сена, выкапаў бульбу. «Здароўе, слава богу, добрае» — і гэта было не менш ёміста і само па сабе сведчыла, што ён яшчэ тупае, ідзе па крузе, што заведзены яго дзедам і прадзедам. І будзе тупаць далей, сеяць, касіць і збіраць, было б толькі што. «Жадаю і вам здароўя, вялікага сямейнага шчасця. Вёска Княжбор. Цімох Махахей».

Ён пажадаў Былічу вялікага сямейнага шчасця ў гонар Першамая, а потым і ў гонар Дзевятага мая. Разахвоціўся, хацеў пажадаць і трэці раз, але адкрытак з Кастрычнікам, з грознаю «Аўрораю» ў яго не знайшлося, усе ўжо выйшлі, а тыя, што ў яго былі з кароценькім і сціплым «віншую», з сіненькімі і блакітнымі кветачкамі ўнізе, ён не хацеў траціць, ды і куды ж гэта годна, камандзіру — і кветачкі. Да таго ж адкрытак магло і не хапіць. Людзей у яго планшэтцы заставалася яшчэ шмат, хаця і меней ужо, куды меней, чым такой жа парой на мінулы год. І дзевак сваіх трэба было не абысці. Махахей раскінуў веерам карцінкі, што засталіся яшчэ ў яго, як карты, пачаў іх сарціраваць, адбіраць, каму якую прызначыць, каму Крэмль заснежаны і ▪ яловаю галінкаю, каму тыя ж кветачкі, а каму і зайчыка-барабаншчыка альбо вожыка-скрыпача — дочкам, тыя не пакрыўдзяцца. Не бянтэжыла яго і тое, што гэтыя зайчыкі і вожыкі выпадаюць кожнай дачцэ, па два, і то і тры разы на адзін год: пакуль адно свята пройдзе, другое наступіць — яны ўжо і забудуць, што бацька ім прысылаў. Ды і дочкам ён будзе пасылаць не пісьмом, а пасылкаю. Ладны шмат сала, круг дамашняй кілбасы, гарбузікаў жменька, торбачка сушаных яблык, а паверх ужо адкрытка: «...І вялікага сямейнага шчасця. Вёска Княжбор. Цімох і Ганна Махахеі. Вашы бацькі». Баба яго Ганна ляжала зараз на печы і вадзіла яго рукою, выпісвала разам з ім літаркі. Шчыравалі, працавалі ў сцяне тачыльшчыкі, падпяваў ім, пстрыкаў капейкамі электралічыльнік, стаіўшыся, спаў пад сталом кот, якога пусцілі нанач у хату, нядрэмным вокам сачыла з свайго кутка за Махахеем і багародзіцаю старая, маці Махахея, забірала маладым марозам шыбкі ў акенцах. Усё паказвала на вясну. І пяро рыпела радасна, як бы там ні было, вясна — не зіма.

И голову вздымая выше,
Не то за рощей, за холмом,
Я снова чью-то песню слышу
Про отчий край и отчий дом.

Так нагаворваючы гэтыя вершы, трымаючы ўвесь час іх перад вачыма, ён запаўняў адну адкрытку за адной, светла і радасна выводзіў у канцы кожнай: «І вялікага сямейнага шчасця». І здавалася яму, што недзе звініць песня, спявае шпачок. Бусла ён так і не бачыў сёння, а вось шпачка ўгледзеў. Хадзіў далёка, а ён быў побач, сядзеў на чаромсе яго, Махахея, той самай чаромсе, што засохла, сядзеў і перабіраў дзюбкаю пер'е, аблашчваў, наводзіў бляск.

— Шпакі ўжо сёння прыляцелі,— бы падслухаўшы яго, сказала, не адрываючы вачэй ад багародзіцы, старая Махахеіха.

— Калі, калі яны прыляцелі? — падхапілася, села на печы, звесіўшы долу босыя ногі, Ганна.

— Сёння і прыляцелі.

— Ты ж сёння і з хаты не выходзіла, мама.

— Не выходзіла, ■ ведаю, чую... У гэтым годзе я яшчэ шпакоў убачу, а ў будучым ужо не давядзецца, донька.

Махахей хацеў накрычаць на старую, каб яна не брала ў галаву чаго не трэба, але стрымаў сябе. Яна бачыла і разумела больш, чым ён, калі, не выходзячы з хаты, адчула, што прыляцелі шпакі. У яго быў свой клопат. Трэба было нечым замяніць тую засохлую, знішчаную чаромху. Не простае ж гэта было дрэва, а як бы абяцанае. У красавіку шпачкі збіраліся на ім чародкамі з усёй вёскі, а мо і з суседніх вёсак злятаюся. Зляталіся і як вяселле там адно вялікае шпачынае правілі альбо нараду праводзілі. Дзень скакалі з галінкі на галінку і чубіліся, гаманілі, а вечарам знікалі. І гэтае дрэва было як пасаджанаю маці ім ці бацькам — як буслам Балонь, яго, Махахеева, дуброва, жаваранкам — возера Вясковае.

Нібы кропля вады, лапік зямлі, адно-адзінае дрэва, куст чаромхавы былі іх бацькоўскаю хатаю — бацькаўшчынай. Скажы каму чужому — не паверыць. Але ён бачыў сам. Аб тым, што чаромха яго незвычайная, пра адметнасць Балоні, дубровы ведае ўся вёска. Толькі кожны да таго прыгледзеўся ўжо, што і не заўважае нічога. Не заўважаюць, што ў Вясковае

ўлюбёныя жаваранкі. Таксама з усіх бакоў, толькі крыху прыгрэе сонца, ляцяць яны туды, бы азярцо тое, сподачак крынічнай вады, бласлаўляла іх пладзіцца і множыцца і берагчы яго, берагчы зямлю, той самы лапік ці грудок, з якога яны ўбачылі белы свет, сталі на крыло, спазналі неба. І жаўранкі як клятву давалі на Вясковым, што піянерчыкі, адпівалі яны па глытку вады з Вясковага, мачылі дзюбкі, і салавелі іх вочкі, бы гарэлачкі каўтнулі яны,— спявалі дзень напралёт, а вечарам знікалі з Вясковага да будучай вясны. Цяпер знікла само Вясковае, і няма больш ні буслоў, ні шпакоў, ні чаромхі. І не здолеў Махахей дапамагчы ні буслам, ні жаваронкам, не пад сілу яму было стварыць новае Вясковае і новую Балонь, але дрэва пасадзіць ён мог. Толькі ці прымуць тое дрэва шпакі, ці прызнаюць яго за маці, у чалавека маці адна, а ў птушак колькі? Ці будзе трывалым сямейнае шчасце на новым дрэве?

## ДВОЕ Ў СТУДЗЕНІ

Снег пайшоў, як хтось нагадаў, апоўначы, роўна ў дваццаць чатыры гадзіны старога года ці нуль-нуль новага, калі ім і ўсяму савецкаму народу па радыё і тэлевізары аджадалі ўжо ўсяго самага-самага, калі танцы ў клубе Васькавага тэхнікума пазбавіліся ўжо чыннасці і кантролю: выкладчыкі паціхеньку, па адным і парамі, пачалі знікаць з вечара, а студэнты засталіся амаль што адны. Вось тады і прыспеў час ісці снегу, апошні раз ударылі куранты, яшчэ не знікла рэха, як зямля злавіла ў свае прамарожаныя далоні першую сняжынку. Яна лягла на асфальт і ўвачавідкі растала, апляміла яго цёмнайуначы кропкай. Але ў забеленым, нібыта малаком, ціхлым небе ўжо кружылася мноства іншых сняжынак. Яны віліся, раіліся спачатку каля ліхтароў, нібыта збегліся на святло, і толькі тады, калі назбіралася іх там такое мноства, што яны не здольныя былі ўжо размінуцца, пачалі спускацца на зямлю. Адразу ж стала ціха, цішыня, здаецца, абрынулася на горад разам са снегам, вакол усё праяснілася: выйшлі з цемры паглядзець на першы снег дамы, дрэвы і людзі, што да таго нябачна сумавалі ў голым і халодным снежні. Дарослыя, як

дзеці, лавілі снег далонямі, здымалі перад ім шапкі, падхоплівалі ў палёце яго языком, як птушкі хапаюць мух і камароў, нібы смакавалі, і не снег, а само свята, Новы год.

Святочна было на душы ў Надзі і ў Ваські, хаця толькі што, на танцах пад духавы аркестр і радыёлу, ім здавалася, што Новага года для іх не будзе. Яны нібы і не святкавалі, а выконвалі праз сілу нейкую цяжкую працу, што даўно ўжо змучыла іх, адчужыла, і толькі прыродная іх працавітасць перашкаджала ім плюнуць на ўсё і ціха-мірна разысціся. Гэта была не першая іх сустрэча ў горадзе, бачыліся яны і раней, але як бы незнарок, не згаворваючыся. Васька ў выхадныя разам з хлопцамі са сваёй групы хадзіў на танцы да заатэхнікаў. Надзя разам з дзяўчатамі таксама забягала ў клуб да іх, леснікоў. Толькі вытрымлівалі яны адно аднаго на гэтых вечарах на дыстанцыі, нібыта прыглядаліся, чаго варты кожны з іх тут, не ў родным Княжборы, дзе ніхто не спакушаўся на іх першынство, а сярод мноства іншых, падобных ім, заўсёды першых. Перад самым жа Новым годам гэтае прыцэньванне і прыглядванне, прыстрэлка вачыма праз увесь клуб скончылася. Васька сам аднёс Надзі запрашальны білет на вечар у яго тэхнікум. Першы білет, зроблены не абы-як, ад рукі, а надрукаваны ў гарадской друкарні, у якім усё як і належыць — запрашэнне, і не проста на вечар, а на навагодні бальмаскарад, і ёлка, і нават зялёная галінка з формы будучага лесатэхніка, і Дзед Мароз.

— Умора,— прымаючы гэты білет, сказала Надзя.— А калі, Васька, я не прыйду, калі я ўжо запрошана на баль-маскарад?

Васька зразумеў: Надзя блазнуе. У гэтым горадзе няма куды больш пайсці ў навагодні вечар. Хіба толькі ў РДК. Але патрапіць у гэты РДК і ў звычайныя выхадныя не надта проста, хаця самому Ваську не вельмі там і падабалася, як мухі на мёд, зляталіся туды ўсе гарадскія «хіпі», заманьваў цыганскі аркестр, што даводзіў іх да шаленства і беспрытомнасці. Цыганы з'явіліся ў іх горадзе не так даўно, не так і даўно змянілі шатры і павозкі на хаты і кватэры, і ім, пэўна, часова, каб яны звыкліся з новым жыццём, шмат чаго дазвалялася: гадаць і гандляваць на вуліцах, цягнуць усё, што дрэнна ляжыць, трымаць ко-

ней, бубнамі і скрыпкамі выводзіць горад з раўнавагі. Пра цыганоў, вольных птушак палёў і лясоў, якія раптам кінуліся ў гандаль, вершык нават быў складзены. Васька нагадаў гэты вершык, і, хоць і не паверыў, што Надзька будзе на Новы год скакаць пад цыганскі бубен, усё ж сумеўся, але марку вытрымаў:

— Як ведаеш, было б прапанавана, а там як атрымаецца. Я таксама яшчэ не ведаю: у сябе ў клубе буду ці ў РДК падамся.

— Ты мяне і ўгаворваць не збіраешся?

— Не збіраюся.

Надзька туды-сюды вільнула перад ім, прайшлася па пакоі, нібыта прыбірала нешта. Хаця, што ў ім было прыбіраць: сябе больш паказвала, пацвельвала яго — глядзі, маўляў, чым ты пракінуцца можаш. Во я якая, бачыш. Во якая я спрытная, лёгкая, гнуткая. Во якія ў мяне ногі... Глядзі, хлопча, глядзі. І Васька вымушаны быў зажмурыцца. Надзя адчула гэта.

— А шкадаваць не будзеш? — стала перад ім і нагой прытупвае.

— Ты будзеш шкадаваць,— ён намерыўся ўжо абысці яе і — ногі ў рукі, але Надзька не дала яму збегчы, змяніла тактыку:

— Мо чаю пап'еш? Чаму гэта я, Васька, павінна шкадаваць? Ці не занадта высока ставіш ты сябе?

І ён застаўся, толькі не дзеля таго чаю, а каб пагаварыць з Надзяй, давесці да розуму ёй, як ён сябе ставіць і чаму яна будзе шкадаваць. А пагаварыць ім не далі, наляцелі сяброўкі Надзі, дзяўчаты, з якімі яна жыла ў адным пакоі, адрэзалі яго ад дзвярэй, позіркамі вывучальнымі прыбілі да падлогі, як у ланцугі закавалі. Позіркамі пыталі і ў Надзі: гэта ён? І Надзька, фафура, у адказ ім зялёнымі сваімі святафорамі: ён, ён, ён. Камандаваць ім кінулася, каб дзяўчаты лепш разглядзелі яго, пераканаліся, як яна вяроўкі з яго можа віць: прынясі свежай вады, умывальнік прама-прама па калідоры і направа, уключы плітку і пастаў чайнік, вунь разетка. І Васька паслухмяна прынёс, уключыў, паставіў. І, нічога не скажаш, яму недзе нават было прыемна выконваць усе гэтыя загады, хацеў ён дагадзіць Надзі, таму што да гэтага ніколі дагаджаць не прыходзілася ні дома, ні па-за домам, дагаджалі больш яму, але ён прымусіў сябе пакрыўдзіцца і адмовіцца ад чаю, ускіпеў трошкі ра-

ней чым чайнік — і хуценька за дзверы. І за дзвярыма пачуў ужо смех у спіну, і гучней за ўсіх і радасней смяялася Надзька, так, што і сам ён немаведама чаму вымушаны быў засмяяцца.

Але сустрэў ён Надзьку, калі павінен быў пачацца ўжо навагодні баль-маскарад, насцярожана і стрымана. Стрыманасці гэтай, праўда, была свая прычына, і яна не датычылася Надзі. Напярэдадні свята, галава яловая, стукнула яму зрабіць сабе маску і касцюм. Маскі і касцюмы да Новага года рыхтавалі сабе ўсе хлопцы з Васькавай групы, акрамя самога Ваські. Мо і ён быў пачаў рабіць, ды не хапіла прыдумкі. А тут сябра яго, як за язык таго хто цягнуў, выказаў, што ён будзе на навагоднім маскарадзе ні менш ні больш як статуяй.

— Статуем,— паздзекаваўся яшчэ з яго Васька.

— Не статуем, а статуяй амерыканскае Свабоды,— не пакрыўдзіўся той.

Васька ўявіў сабе гэтую статую амерыканскай Свабоды і захапіўся, загарэўся грандыёзнасцю думкі сябра, пашырыў гэтую думку, пераканаў сябра, што побач з амерыканскай Свабодай павінен знаходзіцца і паліцэйскі, палісмен па-амерыканску. І ён, Васька, згодзен быць палісменам, што гэта будзе ўжо не проста маска, касцюм, а карціна цэлая, дзеянне з акрэсленай і вельмі сучаснай ідэяй: як жа гэта, амерыканская Свабода і без палісмена, не ўсякі здагадаецца, што гэта такое. А з палісменам усім адразу стане ўсё зразумела. Ён, Васька, прапаноўвае, каб на гэтую Свабоду, на вусны ёй,— замок, гэта сябру, а яму, Ваську-палісмену,— у рукі паліцэйскую дубінку. Свабода будзе маўчаць, а палісмен усё за яе растлумачыць тым, хто сам нічога ўжо не цяміць. І першы прыз, лічы, у кішэні.

І Васька яшчэ ў цывільным, не ў маскарадным, касцюме сустрэў і хуценька дапамог распрануцца Надзі, здаў яе паліто ў гардэроб — у іх, у студэнцкіх пакоях, дзяўчатам забаронена было распранацца,— пабег да сябе, каб з'явіцца перад Надзяй у касцюме палісмена. Надзя на вечар, як і водзіцца за дзяўчынай, крышачку прыпазнілася, і сябра Ваські ўжо хваляваўся, каб увайсці ў ролю, ён быў ужо з абеду ў адзенні Свабоды, цяжкай, што латы рыцара. Акрамя рагоў на галаве і факела ў руках, цераз плечы і грудзі

яго быў перакінуты яшчэ і добры ланцуг, самы сапраўдны. Ланцуг гэты яны не болей як тры дні назад знялі ноччу разам з ашыйнікам з вялізнага ваўкадава дырэктара тэхнікума. Тыдзень патрацілі на гэтую аперацыю, прыкормлівалі і ўлагоджвалі таго ваўкадава, а ён усё роўна кінуўся брахаць на іх, нараві́ў яшчэ і пакусаць. Але яны абхітрылі ваўкадава, і ланцуг быў што трэба, хоць і даўся ён ім у знакі: не ўлічваючы таго, што пайшло на харчы ваўкадаву, спатрэбілася яшчэ і тры бутэлечкі тушы, каб перафарбаваць ланцуг, інакш дырэктар мог пазнаць яго. Вось гэты перафарбаваны ланцуг і цягаў на сабе з абеду Васькаў сябра, а яшчэ замок, пра які варта сказаць асобна. Яны яго ўжо не ўкралі, а купілі на свае грошы, на стыпендыю. Пад замком, пад ланцугом і з рагамі на галаве Васькаў сябра ўражваў. Уражваць іншых хацелася і Ваську, і ён нечакана для сябе падумаў: а што, калі ён падфарбуецца пад негра? Выйдзе не проста паліцэйскім, а паліцэйскім-неграм? Ёсць жа ў амерыканцаў палісмены-негры. І сэнс, здавалася яму, у тым, што Свабоду ахоўвае негр, велізарнейшы. Гэта ж трэба такое прыдумаць, ухваліў ён сябе. Але тут яму не пашанцавала. Па-першае, акрамя гуталіну, яму нічога іншага не трапіла пад руку, а па-другое, заўпарціўся сябра.

— Не адпавядае праўдзе жыцця,— сказаў ён.— Хто гэта даверыць ахову амерыканскай Свабоды негру? Ён жа сам затурканы, зацюканы.

— У тым уся і соль,— паспрабаваў настаяць на сваім Васька і адчуў, што солі, здаецца, было ўжо і занадта, твар ад гуталіну гарэў агнём, аж вочы на лоб лезлі, і самі сабой наплывалі слёзы, і такім падлам шыбала ў нос, што хоць ты яго затыкай. Васька зразумеў, што ён не вытрывае гэтай сваёй маскі паліцэйскага-негра, а калі вытрывае, не сканае, то Надзя збяжыць і на кіламетр не падыдзе да яго. І ён заплакаў, і ў душы, і натуральна, ад смутку і жалю, што нічога не застаецца ад такой цудоўнай задумы: паліцэйскі, які са слязой пільнуе Свабоду,— бясспрэчна, у гэтым было нешта ўжо грандыёзнае, амаль што касмічнае, гэта ж нечым нагадвала таго самага کракадзіла, які плача, пралівае свае кракадзілавы слёзы перад тым, як праглынуць труса. Але боль не дазволіў яму як мае быць і аплакаць сябе, ён порсценька

кінуўся да ўмывальніка, а пасля ўмывальніка, прынюхаўшыся да сябе,— і пад душ. А Надзя ўвесь гэты час цярпліва чакала яго там, дзе ён яе пакінуў, каля лесвіцы гардэроба, і здалася яна яму, у адзіноце, азяблая каля гэтай лесвіцы, у халодным да дрыжыкаў зялёным плацці і ў чорных, таксама халодных, акулярах-масцы, адзінокай і такой роднай, што ён ледзь не кінуўся абдымаць яе.

І добра, што не кінуўся. Надзя, нягледзячы на разгубленасць, сустрэла яго зусім не ласкава. Па-першае, яна адразу ж патрабавала адказу: дзе гэта яго столькі часу насілі чэрці, мо ён праз Пінск ці Мінск ішоў да яе, а яе тут ужо прымалі за ўсякую, яшчэ б трошкі, і яна пайшла б адсюль, але такая вось дурніца, чакала, чакала... І гэта быў толькі пачатак, было яшчэ і другое: чым гэта патыхае ад яго так, што нос скручваецца.

— Не патыхае, а пахне,— сказаў Васька,— як ад сапраўднага амерыканскага паліцэйскага: гурковым ласьёнам, хвойнай вадой і двума флаконамі адэкалону «Шыпр» — рубель дваццаць кожны.

— Тады кабанчык майго бацькі таксама ў амерыканскай паліцыі робіць,— заціснула двума пальчыкамі нос Надзька. І што гэта за пудзіла на ланцугу трэцца каля яго, чаму гэта яны, як два сабакі, на адным ланцугу ходзяць, што за палку, што за аглоблю аплёў ён вакол рукі.

— Гэта не пудзіла,— збянтэжыўся, але не пакрыўдзіўся Васька. Разумеў, што сапраўды вінаваты перад Надзяй.— Зусім нават не пудзіла, а ўвасабленне амерыканскай Свабоды. І не палка, тым больш не аглобля ў руках у мяне, а паліцэйская дубінка. Ты ж у тэхнікуме вучышся, стыпендыю атрымоўваеш і палітыку павінна ведаць.

— Калі ў вашым тэхнікуме ўсе такія палітыкі і ў такіх касцюмах, тады я Кацярына Другая. І не жадаю, каб побач са мной быў Арап Пятра Вялікага.

З гэтых слоў Васька зразумеў, што ад гуталіну ён не адмыўся, і ён хацеў ужо плюнуць на баль-маскарад, на першы прыз і нават на Надзю і падацца да свайго пакоя, дзе ў яго тое-сёе было прыхавана, каб па-людску сустрэць Новы год: бутэлька замежнага рому, як высветлілася пазней, амаль такога ж, як і гуталін. І Васька ўжо з сумам азірнуўся: ці не замі-

нае яму хто-небудзь на дарозе назад, і на дарозе яму ніхто не замінаў, але Надзя разгадала гэты яго захад, разам з ягоным маўклівым сябрам пагнала ў залу. Пагнала паперадзе сябе, нібыта яна, а не ён, Васька, была амерыканскім палісменам.

За касцюм Ваську з сябрам далі другую прэмію і тым канчаткова сапсавалі яму настрой: за адны толькі пакуты маглі б даць і першую, але першую, як абвясціў дырэктар, журы вырашыла нікому не прысуджаць. А Свабоду і паліцэйскага выклікалі на сцэну пасля таго, як Васька растлумачыў іх маску і добра ўрэзаў па імперыялізму, што душыць усякую праяву свабоды, не дае і кроку ступіць простаму чалавеку,— гаворачы гэтыя словы, ён глядзеў на Надзьку. Ім пад туш уручылі дарагі альбом для фотакартак і шэсць невялічкіх, але цяжкіх крыштальных чарачак. І тут, прымаючы гэты прыз, яны з сябрам ледзь не пагарэлі. Дырэктар раптам зацікавіўся ланцугом. Было невядома і засталося невядомым: ці прызнаў ён яго і таму пацягнуўся, ці то яшчэ не набыў новага ланцуга для свайго ваўкадава. Васька ж паказаў тут сябе сапраўдным амерыканскім палісменам — пад смех залы і радасныя, пахвальныя воклічы пагнаў свайго сябра са сцэны дубінкай. Не выказала ніякай радасці адна толькі Надзя. Адмовілася яна ўзяць і дарагі альбом, які Васька шчыра тут жа хацеў падарыць ёй.

— Для кветачак, Васька, сабе пакінь. Кветачкі будзеш збіраць, сушыць і складваць...

З такой жа рашучасцю і не без кпінаў абсекла яна ўсе яго спробы залучыць яе ў пакой і, як заведзена, па прызначэнні выкарыстаць крыштальныя чаркі, абмыць іх.

— З кім-небудзь іншым, Васька...

— А я з табой, і толькі з табой.

— Са мной пасля дожджычку ў чацвер.

— Дык якога ж чорта лысага цягнулася ты сюды? — Васька зазлаваў не на жарт, нагадаў усе крыўды, усе здзекі: ён жа перад ёй і так і гэтак, ледзь не пакаёўкай служыць, а ў адказ ніводнага чалавечага слова. І ён ужо сумняваўся, ці ёсць у яе сэрца і каму яно належыць. Новы ж год на дварэ. І гэты Новы год, мроілася яму, быў падобны зараз на Надзю, такі ж калючы, непрыветны. І не ведаў ён ужо, як пазбавіцца ад Надзькі, выстаўляецца як немаведама хто, а

разам жа гусей у Княжборы ганялі, і ён хацеў ужо нагадаць ёй пра тых гусей, але Надзя нечакана ўзяла яго руку і неяк дрыготка сціснула яе.

— Мне тут душна, пайшлі адсюль.

— Куды? Сёння ўсе святкуюць. Радуюцца ўсе сёння.

— А мне плакаць хочацца.

— Табе — плакаць? — не паверыў ён.

— Я ішла сюды такая радасная, такая радасная. І сама не ведаю, чаму радавалася. Здавалася, што сёння ўсё будзе незвычайнае, як нарадзілася на свет я сёння. А тут каля вашага тэхнікума дрэвы ўсе паваленыя, голле і макаўкі ўсе паабразаны. Леснікі яшчэ... І ад цябе так гуталінам і, прабач, хлявом...

— Так, хлявом, але ж сама ты заатэхнік.

— Ну і што з таго?.. Хвасты каровам круціць... Ведаю, буду круціць у якой-небудзь цьмутаракані... Не хачу толькі чуць ад цябе, не хачу слухаць, што я павінна, што я абавязана, і гэдэ і тэпэ, што бацькі мае век круцілі, вясковыя яны, зямныя. А я не хачу ні хвасты круціць, ні камусьці абавязанай быць. Чаму гэта я ▪ абавязкам нарадзілася, а не таму ўбачыла свет, што бацька з маткай кахалі адно аднаго...

— Надзька...

— Што Надзька? Вось і ты ўжо лічыш, што я і табе нешта павінна. А я не хачу так, разумееш, не хачу, каб і тыя, каму я пялёнкі гэтыя буду апратваць, таксама немаведама каму абавязаны ўжо былі. Разумееш ты гэта?

— Разумею,— адказаў Васька, хоць нічога і не зразумеў. Але Надзя патрабавала ад яго менавіта такога адказу, і ён падпарадкаваўся ёй. Яго ж уласнае жыццё было куды прасцейшае, яно складвалася проста з дзён, што беглі сабе і беглі, і ён не наракаў на іх, не паўставаў перад гэтай іх нястрымнай плынню, ахвотна рабіў тое, што хацелася яму рабіць, без асаблівай ахвоты, але таксама рабіў і тое, што не вельмі хацелася, прыстасоўваўся і прыстасоўваў да сябе гэтыя «хачу» і «не хачу». І з кожным днём меншала «не хачу», таму што падмянялася на «так трэба».

— І зараз я хачу,— сказала Надзя,— зусім не тое, што хочаш ты. Хачу, каб мы пайшлі на вуліцу і адразу ж пайшоў снег. Хачу снегу, разумееш? Снегу на Новы год.

Гэта ўжо Васька разумеў, таму што сапраўды Новы год без снегу не быў Новым годам, і ў жаданні Надзі не было ніякага капрызу. А калі і быў ён, капрыз, то за ім цяпер сапраўды ўжо паўставала Надзя, і ён недзе пачаў ужо разумець гэтую Надзю. І ўпершыню па-сапраўднаму адчуў сябе перад Надзяй неяк няёмка, сарамлівасць нават нейкая з'явілася. Былі ў яго дзяўчаты і да Надзі, але тым, іншым дзяўчатам, патрэбен быў толькі сам ён. І гэтая іх самасць хутка надакучвала яму. А Надзя трывожыла і палохала яго. Ён спалохаўся яшчэ больш і стаіўся, падпарадкаваўся ёй канчаткова, калі яны выйшлі на вуліцу і Надзя прамовіла зноў:

— Хачу снегу!

І снег пайшоў. І які яшчэ снег. Ён ніколі не бачыў такога снегу ў горадзе, нібыта ў чыстым голым полі ці на заліўных сенажацях каля ракі, што ў іх Княжборы на Балоні. Прыхапіла іх мяцеліца, завіхурыла, закарагодзіла і панесла, павяла немаведама куды, у бок ад вуліц, хат, жытла, у тую белую, шалёна закручаную зямлю, якой яны яшчэ і не ведалі, але здагадваліся, што яна ёсць, павінна быць, і з такім вось характарам, з такой вось беллю і гладдзю і цішай такой, дзе толькі свішча вецер, дзе голас толькі ў мяцеліцы, дзе пахне малаком і ўласным сырадойным, чыстым дыханнем, а яшчэ добра ўляжалым яблыкам. І вымарачана забелены горад аціх пад гэтым снегам, як нешта дараванае, вышэйшае і вельмі дарагое прымалі снег дахі хат, дрэвы, голле іх і нават адзін мяккі і напалову пусты аўтобус, які, пэўна, заблудзіў у гэтай навагодняй начы, прыстаў на хвілінку да аўтавакзала іх горада, кожную хвіліну быў гатовы бегчы далей са сваімі пасажырамі, што маўкліва і ціха выглядвалі з акон. Акрамя тых, што сядзелі ў аўтобусе, на аўтавакзале і каля яго былі яшчэ іншыя пасажыры, але яны таксама нікуды ўжо не спяшаліся і як бы аб нечым сумавалі. Двое толькі з іх корпаліся на лаўцы каля прамарожанага ларка «Піва-воды». Корпаўся, уласна кажучы, адзін, другі нерухома ляжаў на лаўцы і не кратаўся, і таварыш тузаў яго за рукавы і выгаворваў:

— Іван, падніміся... Іван, падніміся,— сціхаў, азіраўся і зноў — як напілкам па шкле: — Іван, падніміся, Іван, падніміся...

Аўтобус не вытрываў, з дзвярэй яго і акон выбухнула:

— Да падніміся ж ты, Іван.

Іван не падняўся, аўтобус крануўся і знік у віхуры. І Васька з Надзяй пайшлі далей, самі не ведаючы куды, даверыліся дарозе і снегу. Горад ім хаця і быў не чужы, але і родным яшчэ не быў. Не мелі яны яшчэ ў гэтым горадзе патаемных сваіх куткоў, запаветных мясцін, завулкаў і вуліц, якія належалі б толькі ім, нічога іхняга не было тут, ні крыўды, ні радасці. Усё было пакінута ў Княжборы — і смех, і слёзы, захапленне і здзіўленне светам, што раскрыўся перад імі на хаду, на бягу праз боль, страх і радасць, якія яны зведалі на родных княжборскіх дарогах і сцежках. Тут яны толькі ўваходзілі ў свой свет, пазнавалі яго на дотык, спачатку нагамі і толькі потым сэрцам. Так дайшлі яны вуліцамі Савецкай і Кастрычніцкай, Леніна і Першамайскай да помніка, танка, што стаяў на высокім пастаменце. І хоць яны, здаецца, усё ведалі пра гэты танк, таму што паставілі яго тут ужо на іх памяці, і ён, танк, спачатку як бы не згадзіўся стаяць, ноччу сышоў з угатаванага яму п'едэстала, разбурыў яго, прапоўз метры са тры і спыніўся, нацэліўшы ў неба ствол сваёй гарматы. Але зараз Надзя з Васькам як бы нанава адкрылі для сябе гэты танк, крануўшы спачатку баязлівымі рукамі яго халодную браню, а потым, нібы ім нешта перадалося ад гэтага дотыку, асмялелі, сышліся рукамі на танку, абагрэлі іх уласным дыханнем і як бы самі сагрэліся і, здаецца, параднілася, дзякуючы прысутнасці трэцяга, які злучыў іх рукі, і рушылі далей. І снег, які да танка быў колкім, пранізлівым і халодна-блакітным, памякчэў і паружавеў, стаў ужо касым, світальна-лёгкім, падаў ім на спіну, не трапляў больш за каўнер, задумліва ляцеў паперадзе іх, нібыта вёў іх за сабой, паказваў ім дарогу, усцілаў яе ружовай і рухомай беллю.

Ваську здавалася, што гэта ён вядзе Надзю, так даверліва прыпадала яна да яго, так паслухмяна ішла побач з ім, але, калі ён паспрабаваў недзе ўжо каля ваколіцы павярнуць і строга пранумараванымі шматлікімі чыгуначнымі завулкамі і праездамі зноў выйсці ў цэнтр, на вуліцы, дзе гарэлі ліхтары, яна заўпарцілася, лёгенька, адным толькі пальчыкам, адціснула яго ад гэтых завулкаў. І яны зноў блукалі па незнаё-

май ім ваколіцы, і снег тут зноў змяніўся, быў ён ужо крупчастым і падсякаў вочы і ногі. І яны вымушаны былі ісці, прымружыўшыся да чырвоных чорцікаў у вачах. І гэтыя мітуслівыя чорцікі выбілі з вачэй Ваські слязу. Ён паглядзеў на Надзю, на павеках і ў яе пагойдваліся слёзы, толькі нешта падазрона ўжо буйныя, як бы і не снегавыя. Васька здзівіўся ім, падзівіўся і з сябе: чаго гэта ён, як ваўкалюга, бадзяецца ноччу па мяцеліцы і Надзьку яшчэ марозіць, цягае за сабою? Не было з ім такога ніколі. Усяляк бывала, але, каб ён мучыў дзяўчыну, калі ёсць вугал, такога не было. І што ў гэтым снезе, што ў гэтым блуканні па вымерлым начным горадзе? Першую хвіліну было хораша, таму што нечакана, нова. А зараз гэтая навіна ўжо абрыдла, хоць бочкамі салі яе. І таму хацелася ўжо нечага іншага, як толькі што прагла душа снегу, зімы, так прагла зараз лета. Да таго ж яны, здаецца, заблудзіліся, згубіліся ў мяцеліцы і снезе.

Васька прыслухаўся да сябе, згадваючы бясконцыя павароты, паспрабаваў вызначыць, па якую руку будуць яго і Надзін інтэрнаты. І не здолеў вызначыць. Але адчування згубленасці не было, здавалася, што кожная дарога, кожная сцяжынка выведзе іх дадому, у якім напрамку яны б ні пайшлі, усё роўна будзе правільна. І гэта было незразумела яму, таму што ў яго заўсёды было адчуванне дому, веданне той самайсамай адной-адзінай дарогі, якая вядзе дамоў. А зараз іх стала мноства. І гэта было ўжо няправільна, не магло быць правільным. Хацеў сказаць пра гэта Надзі і толькі наглытаўся снегу, поўсці — Надзя зацінула яму рот даланёю, блакітнай сваёй рукавічкай. Яго апанаваў смех ад дотыку гэтай далікатнай далоні ў рукавічцы: ці ж здольная гэтая блакітная рукавічка і далонька, што хаваецца ў ёй, вымусіць яго маўчаць, камандаваць ім, такім вялізным, а ён раптам адчуў сваю вялізнасць, амаль што веліканістасць у параўнанні з гэтым дзяўчом у кароценькім школьным паліто і белай вязанай шапачцы. Васька адчуў, што зараз ён ёсць паўсюдна, што ён бясконцы, як бясконцае гэтае поле з азімінай, пасярод якога яны стаялі, да якога неўпрыкмет дайшлі, ён быў упаравень з дубамі, што раслі пасярод поля, і мо аднаго з імі веку,— а дубам гэтым, ён бачыў спрактыкаваным вокам, было ўжо больш двух стагоддзяў. Снег не пасьеў

яшчэ схаваць азіміны, і невядома, ці жывая яна, ці ўжо загінула — столькі выстаяць у маразы і без снегу. Азіміна была зялёная і сівая, як бы спацелая, снег наліпаў на вузкія сцябліны, тут, у полі, быў ён зараз ліўневым і шэрым ад цішы, але выглядаў зялёным — гэта сцяблінкі жыта так радасна падфарбавалі яго. Яны маўкліва прымалі снег на свае зялёныя гнуткія плечы і, калі снегу наліпала больш, чым важылі самі яны, маўкліва падломваліся і ўкладваліся на зямлю, да цяпла ўжо. Іх маўклівасць перадалася і яму, запасілася ў ім і выспявала, выспявала не ў словы, а ў нешта зусім іншае, пра што здагадвалася мо толькі Надзя, таму што яна і сама маўчала, і патрабавала гэтага ад яго, гэтага ж патрабавалі поле, дубы, што раслі на ім і маўчалі ўжо трэцяе стагоддзе, наглядалі за тым бясконцым колам, якое вяршылася на іх вачах, за снегам і дажджом, сяўбой і ўборкай, пахаваннямі і вяселлямі. І ўсё гэтае кола было наканавана прайсці і ім, кола гонару ці ганьбы, як яны выберуць самі: чаго пажадаюць, тое і атрымаюць. Але пакуль што пачатак іх добры — з навіны, новага маладога снегу, ласкавага і лёгкага.

Ён не скончыўся да самай раніцы, да світання, калі Васька нарэшце давёў Надзю да дзвярэй яе інтэрната. Перастаў падаць на хвілінку, даў ім развітацца, паглядзець, не прыжмурваючы вачэй, на тое, што ён тут утварыў, што зрабіў з зямлёю, за адну толькі ноч стварыў нанава зямлю, і мо не адну толькі зямлю. Развітваліся яны таксама, як і правялі гэтую ноч, маўчком. Васька, праўда, хацеў нешта сказаць, але Надзя, як і ў полі, заціснула яму рот даланёю, і ён зноў адчуў, што расце, усе платы вакол сталі толькі да пояса, і будынкі, здаецца, адхіснуліся ад яго, каб яму вальней дыхалася, каб ён добра разглядзеў ззяючы ружовым, блакітным і зялёным снег і захаваў, збярог у сабе яго світальна чысты, нібы позірк толькі-толькі ўбачыўшага свет дзіцяці, маўклівую задуменнасць і засяроджанасць яго, каб ён не разбурыў усё гэта выпадковым і няёмкім словам.

# Частка другая

# ОКІЦЬ НА БУСЛІКА

## ПА КРУЗЕ ДАРОГА

### 1

Балота кранулася ў дарогу, як толькі асушылі Чортаву прорву. Але калі яно зрабіла першы крок, ніхто не прыкмеціў. І як было прыкмеціць: першы год сваіх блуканняў яно нічым — ні багнай, ні тванню, ні вадой, ні трыснягом — так і не выкрыла сябе. Падкралася да дамбы, да той новай дарогі, што была цяпер пракладзена да Балоні і далей, на Воўціна, падкралася і замерла каля дамбы, ля насыпу, радуючы вока жоўтымі ірысамі, што зацвілі не ў пору, праўда, ужо недзе па восені. Потым ірысы адцвілі, прыйшла зіма. І зімой, нябачнае пад снегам, балота прашылася праз насып. І цяпер ірысы зацвілі вясною, як і павінна тое быць, але па другі ўжо бок насыпу. І толькі зацвілі, а адцвісці ім не дадзена было. Што за работа ішла там, пад зямлёю, што за буча кіпела там, таксама невядома. Нічога на паверхню, на святло ■ глыбі сваёй зямля не паказвала. Здавалася, і няма нічога там, углыбі, патаемнага, усё навідавоку. І навідавоку ўсё было, як і дагэтуль, зелянеў Махахееў дубняк, яго хоць і моцна пашчыпала, але ён усё ж ацалеў, пакорліва, зрэзаная канавамі і прамавугольнікамі, ляжала ўтаймаваная Чортава прорва, ярыліся ў гэтых прамавугольніках і квадратах пшаніца і жыта, выганяючы на радасць людзям буйны і важкі колас. Усё было на радасць, усё было дарэчы чалавеку, Мацвею Роўду. Усё вакол было не толькі пераўтворана, але і ўпрыгожана хлебам, тая самая клятая і гібельная зямля,

якой і назвы іншай не знайшлі, як толькі Чортава прорва.

Але разам з гэтым прыемным і зразумелым адбывалася на гэтай зямлі і нешта непаразумелае. Не дарэмна кажуць: агонь цар, ды царыца вада. Пасля дажджоў, што прайшлі ў маі і зноў жа радавалі, балотца, што ўтварылася нечакана па другі бок насыпу, раптам знікла, вільнула ўбок, так што ў ірысаў і насенне не выспела, а балотца, калі ўжо выявіла сябе, пакрочыла ўжо больш бойка, пакідаючы за сабою цяпер ужо і сляды. Сляды гэтыя хаця і не пагражалі вялікімі стратамі ўраджаю, былі бачныя на полі, тамсям бачныя былі і правалы, і зрушэнні, і белыя праплёхі сярод тлустых тарфянікаў, нібы скрозь гэтую збажыну пратачыўся і лена сцёгся да дубнякоў невялікі паўпадземны ручай. Сабраліся разам падземныя воды па расінцы, па дажджынцы і дамовіліся паглядзець, памацаць, ці моцнае гэтае створанае чалавекам поле, прайшліся па ім, дзе бачна — паверсе, і там засталіся прамыіны, а дзе нябачна, сваімі прыхаванымі ў зямлі хадамі, жыламі-праточынамі,— там цяпер чарнелі прасадзіны. Але на бачны і нябачны ход вады нікому з людзей паглядзець не давялося, ці то адбылося ўсё гэта ноччу, калі яны спалі, альбо так ужо непрыкметна, што людзі ўбачылі толькі вынікі той працы: сапраўднае ўжо балота, гразкае і з тванню, з трыснягом. Яно спынілася і замацавалася, здаецца, у самым нязручным для сябе месцы, куды не кожную вясну і паводка дасягала, дзе здаўна было цвёрда, куды вясною ў паводку ўцякалі з урокаў школьнікі, гулялі там у ножык, і тыя, хто прайграваў, елі, зубамі грызлі тую дубняковую цвердзь, таму што ім за пройгрыш свой трэба было выцягваць з зямлі калок. Шчасце было пераменлівым, і зямелькі той дубняковай хапіла на ўсіх. Цяпер жа яе больш не было, там, дзе калісь быў тачок і забівалі ў зямлю колікі, цьмяна паблісквала зялёным пупком трыснягу балота. Перабраўшыся цераз насып, балота пакружыла па палях і прыбілася да дубняку. І дубняк на вачах пачаў чэзнуць, марнець, у лістоце яго, сярод каранёў, што гнілі і адміралі, раптам з'явілася вялікае мноства камароў, мошак і іншай погані. І камары ўсе былі вялізнымі, што бамбавозы, але і спрытнымі, лёталі бязгучна і не кусалі, а джгалі. І не кожны цяпер наважваўся зазір-

нуць у доброву. Хаця, прынамсі, нечага цяпер і рабіць было там людзям, грыбы ў дубняку звяліся, суніца выраджілася ў нейкую даволі брыдкую і агідную траўку, на якой ні ягады, ні ліста, адзіная толькі голая і чорная сцяблінка, у такія ж голыя і непрыемныя воку сцяблінкі выраджіліся ўсе цяпер і ягады, і травы ў дубняку. Адно толькі калючае і ўчэпістае сцябло засталося і ад ажыннікаў, якімі некалі быў славуты дубняк. А цяпер жа гэтых ажыннікаў баяліся і пагарджалі імі дарослыя і дзеці. Была непрыемная і жахлівая іх нейкая амаль што жывая ўчэпістасць, як яны, непазнаныя, з нейкім запалам хапаліся за цела і вопратку, бы страшыдлы марскія ці тагасветныя, як засохлыя васьміногі ці спруты, і людзі грэбліва і з цяжкасцю вызваляліся ад іх. Птушкі таксама грэбавалі дубняком, яны пакінулі яго, пайшлі з яго моўчкі, без песняў і крыку. Але гэтага сыходу птушак людзі ўжо не прыкмецілі. Ім было не да балотца і дубняку, у іх быў свой клопат.

Балотца, што пачало вандраваць, было літасцівым да пшаніцы і жыта. Вада-царыца мудра і ашчадна абышлася з хлебам, яна ўзяла толькі тое, што неабходна было ёй, каб прайсці, прарвацца да дубняку. Але, ідучы на гэты свой прарыў, змагаючыся за сваё жыццё, яна мілавала, шкадавала зямлю, ушаноўвала тое, што на ёй расло. І пшаніца, і жыта стаялі сцяной, на іх княжборцы хадзілі глядзець, як на дзіва нейкае.

— Мо табе, Мацвей, ужо Героя дадуць,— гаварыў дзед Дзям'ян свайму ўнуку.— Не медальку, як раней, а зорачку.

— Дадуць, дзед, дагоняць і яшчэ дадуць.

— Гэта ў нас могуць,— дзед Дзям'ян як аддаляўся ад сваіх слоў і Мацвея, увесь, пэўна, у сваіх даўніх вёснах, узважваў на далоні цяжкі колас, вылушчваў з яго зярняты, лічыў іх, пераводзіў у грамы, цэнтнеры і тоны, але збіваўся і губляўся перад амаль што фантастычнай яму неахопнасцю лічбаў. З такімі лічбамі дзед Дзям'ян на сваім вяку справы не меў і хітрыў:

— Не, калі па мне, дык я б табе даў Героя. Цэнтнераў жа дваццаць пяць возьмеш з гектара?

Мацвей пасмейваўся толькі, ён ведаў аб замілаванасці і ўлюбёнасці дзеда Дзям'яна менавіта ў гэтую лічбу. Вышэй за яе ён не рызыкаваў падняцца і калі меў справу з грашыма, дваццаць пяць — гэтай лічбаю

ён вымяраў пражытае, атрыманае і аддадзенае. Калі яму споўнілася дваццаць пяць гадоў, толькі тады ён і ажаніўся, толькі па дваццаць пяць рублёў ён пазычаў людзям і прымаў ад іх толькі адзінаю паперкаю. І княжборцы яшчэ і сёння з усмешкаю згадваюць, як ён у свой час, калі быў старшынёю калгаса, страшыў калгаснікаў штрафамі за патраву і самавольныя парубкі. З цяжкасцю разбіраючы пісанае ці друкаванае, але вельмі пры гэтым сур'ёзны, ён браў ручку ці аловак, клаў перад сабой чысты аркуш паперы, нешта крэмзаў на ім, бы акт усё роўна складаў. І, склаўшы, абвяшчаў: «У выніку будзе з цябе дваццаць пяць рублёў». Патраўшчык ці парубшчык роблена палохаўся, пачынаў таргавацца, збіваючы дзеда Дзям'яна на іншую лічбу. А таму як для дзеда Дзям'яна іншых лічбаў не існавала, то ўсё заканчвалася выгнаннем вінаватага, вялікай крыўдаю і вялікім сумам старшыні на самога сябе, што ён непісьменны, што ні літары, ні лічбы не падуладныя яму.

— Дваццаць пяць цэнтнераў — гэта не ўраджай,— уядаў цяпер дзеда і ўнук.

— А колькі ўраджай?

— Думаю, што за сорак будзе.

— Два разы, значыць, па дваццаць пяць,— знаходзіўся дзед і пераможна пазіраў на ўнука: не думай, што мы зусім дурныя.

І Мацвей больш не пярэчыў дзеду, то былі самыя шчаслівыя ў іх жыцці імгненні. Стары радаваўся новаму і блаславіўляў неба, што дазволіла яму дажыць і сваіма вачыма паглядзець на гэтае новае. Скажы яму хто-небудзь раней, што яго зямля можа так радзіць, ён бы не паверыў, хаця і прывык верыць сваёй зямлі, як самому сабе. Але верыў не ў казачнае на гэтай зямлі, што магло быць, а ў сапраўднае, устойлівае і пастаяннае, якім быў ён і сам, і таму ўстойліваму і пастаяннаму ён уручаў і самога сябе. І як нешта звычайнае, як нараджэнне чалавека і таксама звычайнага, не волата і не праведніка, прызначэнне якога не неба, а зямля, Палессе, Княжбор, так успрымаў ён і тое, што давала зямля,— бульбу, жыта, траву, не патрабуючы ад яе, як не патрабуюць ад жанчыны, большага, чым ёй пад сілу, не гонячыся за гэтым большым нават у думках, каб толькі хапіла хаце, сям'і на круг, устаноўлены прыродаю, ад восені да лета, каб не збі-

ваць зямлю з пастаянства, бо заўсёды ж следам за адным хлебаробам ішоў другі, якому ж таксама трэба было нешта пакінуць. Адзін падаў у разору, другі падхопліваў ручкі плуга, і гэтак бясконца. І зарукай гэтай бясконцасці было не тое, што ён мог ухапіць, адламаць за адзін дзень ці год, быў здольны з'есці за адзін дзень, а размеркаванасць усяго, што можна ўзяць сёння, на ўвесь век-тэрмін і на век-тэрмін усяго сутнаснага, каб у час разліку за ўсё, што ты ўзяў, ніхто не папікнуў, бы ты з'еў чыйсьці век, узяў і з'еў чужы кусок, таму што ён ведаў і верыў у тую сялянскую вышэйшую праўду: няма найвялікшага граху за той, калі ты абкрадзеш мёртвага і ненароджанага альбо таго, хто толькі-толькі нарадзіўся і яшчэ не здольны адстаяць сябе. Мо б ён і не дадумаўся да гэтага, але ўсё гэта ўжо было ў людзях яго зямлі, у крыві, у самой зямлі быў той жа самы запавет, таму і спрадвечным было яго Палессе і аніякая навала — ні агонь, ні вада, ні жалеза — не магла змесці з гэтага маленькага, блакітнага і зялёнага лапіка зямлі, з гэтых расчыненых заўсёды насцеж варот вайны ні дзеда, ні прадзеда, ні самога Дзям'яна, таму што ўсе яны належалі толькі сваёй зямлі і нікому болей, толькі ёй, хаця над імі і над іх зямлёй часам быў і нехта другі, але таму, другому, веку была адпушчана хвіліна. Часцяком яна была і крывавай, але кожны раз адыходзіла ў небыццё, а дзед Дзям'ян заставаўся, бурчаў, крахтаў, наракаў і нёс свой крыж. Даставалася ад дзеда Дзям'яна і ўнуку, Мацвею, хоць за што шкаліў яго дзед Дзям'ян, грыз, еў поедам апошнія тры гады, Мацвей так і не зразумеў, лічыў гэта ўсё за дзівацтва і капрыз: раней было так, а цяпер не, не тое. Вельмі старадаўняя песня старых людзей, якія страцілі ўжо сілу, але яшчэ памятаюць сябе дужымі і моцнымі, дзяцінства і маладосць свае памятаюць. І таму ва ўсім вінаватыя маладыя, што не падобныя на іх, вінаватыя ў тым, што дождж і слота на дварэ і сонейка свеціць, у тым, што гэтыя маладыя рана і позна жэняцца, раджаюць і не раджаюць дзяцей, усё па-свойму наровяць, зямлю і тую кінуліся пераніцоўваць.

Але ж хлеб, што рос на новым полі, прымірыў унука і дзеда. Стары і малады глядзелі на гэтае поле аднолькава, як аднымі вачыма, і бачылі адно — бач-

нае і асязальнае, што можна было і памацаць, тое, што раней дзед Дзям'ян мо толькі сніў у самых смелых сваіх снах. І кожны з іх ужо прыкідваў, колькі ж гэта народу можна накарміць іх княжборскім хлебам і чаму зямля хавала гэты хлеб ад іх раней, калі яны былі малымі і калі так хацелася есці, калі за чорны жытны акраец можна было паўжыцця аддаць, аддавалі за яго і жыццё. І балотцу, што ўжо вельмі выразна праявілася ў дубняку, ніхто — ні Мацвей, ні дзед Дзям'ян, ні княжборцы — увагі не аддаваў, як таксама ж не аддавалі ўвагі таму, што сохне дубняк. Яны з маленства прывыклі мець самае большае дзесяцьдванаццаць цэнтнераў з гектара і цяпер былі ўражаны да сэрца, і не толькі небывалым ураджаем, а таксама і ўласнымі сваімі адносінамі да таго, як рыхтаваўся гэты ўраджай, і як жа гэта і за што было наракаць на Мацвея, калі ён цудатворца. Паламаць тое, што складвалася стагоддзямі, парушыць пастаянства самой зямлі — хто яшчэ быў здольны на такое. І шмат каму ўжо мроіліся ўраджаі яшчэ большыя, багацце неверагоднае ўжо мроілася. І гэта былі не сквапнасць і не забыццё саміх сябе, таго, што яны ведалі аб гэтым жыцці, як разумелі гэтае жыццё, іх закалыхала тое, як надта ж, здаецца, лёгка атрымалася ўсё, і гэтая лёгкасць абяцала ў будучым даброты куды большыя. І ўжо Аркадзь Барздыка запасіўся дрэнажнаю трубкаю, цягаў яе паціхеньку і складваў у хлеве, каб распачаць уласную меліярацыю. Мацвей ведаў пра ўсе яго соткі і пра тое, што ён крадзе дрэнаж, але да пары да часу маўчаў, бы ціха помсціў Княжбору за тое, як некалі яго сустрэлі тут. Забылася ці то адышла на нейкі час горыч аб страчанай рэчцы, княжборцы цяпер не наракалі, што іх можна было называць ужо не палешукамі, а стэпавікамі. Усіх аб'яднаў і паміры́ў хлеб, які сапраўды ўсяму галава, і ён дзяржаўна і непадступна калыхаўся і шумеў за вёскаю, пераменлівы, як мора, і бясконцы, як мора. І былі ў ім сіла і праўда. Гэтыя сіла і праўда дапамаглі Мацвею на нейкі час зноў адчуць сябе княжборцам. Пад прыкрыццём гэтага хлеба ён, здавалася яму, не быў больш чужым роднай вёсцы, адным летам яму шмат чаго было даравана, калі не ўсё. Ніхто сёння з княжборцаў, калі бачыў яго на вуліцы, не адварочваўся і не пераходзіў на другі бок. Наадварот, кожны

хацеў не толькі проста даць дабрыдзень, але яшчэ і парукацца з ім і пагаварыць аб надвор'і і палітыцы, хаця нейкія два-тры месяцы да гэтага больш чым абыякава пагадзіліся абраць яго старшынёю іх калгаса. У Княжборы да Мацвея было мноства старшынь, амаль што кожны дарослы і сталы княжборац пахадзіў у начальстве, панасіў у сваёй кішэні пячатку, такім чынам, можна лічыць, што радавых калгаснікаў у Княжборы не было, і таму яны так раўнадушна аднесліся да яшчэ аднаго кандыдата ў начальнікі.

І яшчэ недзе напрадвесні Мацвей Роўда здаў упраўленне свайму ж таварышу, з якім некалі «лягчаў» трутняў, Сямёну Рачэўскаму, а сам прыняў калгас, які быў створаны, можна лічыць, ім жа. І хаця тое, як адбылося гэтае яго новае назначэнне, было, што дзве кроплі вады, падобным на ранейшае, калі ён стаў меліяратарам, Мацвей уздыхнуў з палёгкаю. Ён прадчуваў, што рана ці позна, а ўсё ж прыйдзецца яму быць старшынёю калгаса, яшчэ з таго дня, калі разам з Шахраем і сакратаром абкома ездзіў па Палессі. Але ён не думаў, што ўсё адбудзецца так лёгка і непрыкметна. У тую вясну ён рыхтаваўся працягваць меліярацыю, паабяцаў сабе, што сёлета будзе рабіць ужо зусім інакш, зусім не так, як у мінулым. Будзе рабіць урэшце і для сябе, а не толькі дзеля плана, каштарысу, самаакупляльнасці і г. д. Ён возьме сябе за глотку, стане на нажы з Шахраем, але дабудуе вадасховішча. Гэтае вадасховішча было як стрэмка ў яго сумленні. Мацвей не ведаў, ці так яно ўжо неабходна тут, але памяць аб тым, як усё адбылося з тым вадасховішчам, была вельмі балючай яму, ён нібы прадаў сам сябе, пайшоў на змову з Шахраем пад уплывам хвіліны, гонячыся за жоравам у небе, адмовіўся будаваць яго, схаваўся за чырвоным алоўкам Шахрая. Цяпер жа ён адчуваў, што ёсць рашучасць і моц вярнуцца назад і выправіцца. Але, як часта гэта здараецца, атрымалася так, што ён спазніўся выпраўляцца: што зроблена, тое ўжо зроблена, і ні чорт і ні бог не дапаможа што-небудзь змяніць. На пленуме райкома напярэдадні сяўбы Мацвея адарвалі ад гэтых меліярацыйных разважанняў, паднялі і спыталі: каго б ён мог рэкамендаваць старшынёю калгаса ў Княжбор. Ён нікога не мог рэкамендаваць, бо ніхто і не даручаў яму гэтага, а сам ён і ў

думках не мог дайсці да таго, што гэта будуць спаганяць з яго. Спаганялі, і не толькі спаганялі, прыйшлі нават да высновы, што пытанне гэтае ім не падрыхтавана, а таму быць старшынёю княжборскага калгаса яму, Мацвею Роўду: не ведаеш — навучым, не хочаш — прымусім. Мацвей абурыўся, але неяк не вельмі натуральна: ён адчуў за ўсім гэтым іншую, не раённую руку, і руку самога Шахрая адчуў. Усё было зроблена ў яго стылі — мякка, нават з нейкім гумарком, але няўхільна і непахісна. І Шахрай перад гэтым, у перапынку, падыходзіў да яго, пытаўся, ці гатовы ён, не ўдакладняючы, праўда, куды і навошта гатовы. Але Мацвей успрыняў яго пытанне як нешта такое, да чаго не патрэбны тлумачэнні, і адказаў, што, канечне, гатовы, маючы на ўвазе сваё ўпраўленне ў Княжборы. І тое-сёе яшчэ маючы на ўвазе: свой намер пайсці насуперак Шахраю, паказаць нарэшце, што і ў яго ёсць характар, і таму прамовіў з націскам:

— Папрацуем, Алег Віктаравіч, планы ў мяне вялікія,— і зазірнуў Шахраю ў вочы, ці разумее той, што за гэтымі словамі. Шахрай, здаецца, зразумеў, пацягнуўся да радзімкі на шчацэ, бы ўкалоў яго хтосьці ў тую радзімку.

— Рады за цябе, Мацвей, шчыра рады, малайчына,— невядома за што ўхваліў Шахрай Мацвея, але адразу і ўшчыкнуў: — А начальства ўсё ж трэба любіць.

— Як гэта? — не зразумеў і нават трохі разгубіўся Мацвей.

— Начáльства — гэта ж твая справа, твая праца. Не паважаеш, не любіш начальства — не любіш і сваю працу.

— Не разумею, Алег Віктаравіч, начальства і праца, здаецца мне, зусім розныя рэчы.

— Адчуваю, бачу, што не разумееш. Але якія твае гады, зразумееш яшчэ і ўспамянеш мяне. Колькі ўжо табе, дарэчы?

— Ды добра ўжо, да трыццаці набліжаецца... Толькі навошта вам гэта?

— А-а, так проста. Я ў твае гады разумнейшы быў.

— Ну дык і ўзляцелі вышэй.

— Не падымай пер'я і не рабі хвалі,— спыніў яго Шахрай.— На вяселле хоць паклічаш. Жартую, жар-

тую, потым дагаворым,— і Шахрай знік. Мацвей не ведаў, што і падумаць: навошта падыходзіў, чаго хацеў?

І вось усё высветлілася. І яны працягвалі гутарку, што пачалася яшчэ там, у перапынку на пленуме, ужо ўсведамляючы, што хаваецца за словам кожнага.

— Пазбавіцца ад мяне пажадалі, Алег Віктаравіч,— сказаў Мацвей Шахраю адразу ж пасля пленума.— Толькі-толькі я петрыць пачаў, што і да чаго, як вы мне па шапцы. Маладога, пэўна, прыглядзелі, залыгалі ўжо больш згаворлівага.

— А ты што, лічыш сябе незгаворлівым? — Шахрай паглядзеў на Мацвея, бы запрашаў ці нават вымушаў яго прыгледзецца да самога сябе. І Мацвей паглядзеў і нічога не адказаў, таму што сапраўды адказаць было нечага.

— Не хвалюйся,— адразу ж і злітаваўся Алег Віктаравіч.— Нам яшчэ нямала брыдоты адзін ад аднаго пачуць прыйдзецца. І ты толькі не падстаўляйся сам. Усё роўна адзін воз цягнуць. Ты што, думаеш, я не разумею цябе? Мы так падобны з табою, таму мо я і ўратоўваю цябе, хочу засцерагчы цябе ад тваіх памылак, тваіх і маіх.

— А яны былі ў вас?

— Не! — цвёрда, мо толькі занадта хутка адказаў Шахрай.— Што, не задаволены маім адказам? Хацеў пачуць нешта іншае?.. Нічым не здольны табе дапамагчы. А паўтарыць, Мацвей, не збаюся: не, пакуль я — я. А калі буду ўжо толькі «ён», то ў таго, у «яго», памылкі, канечне, могуць быць.

— А я не пасаромеюся сказаць «так».

— Гэтае «так» ужо тваё асабістае «так». І мяне яно не хвалюе і не тычыцца.

— Я не хачу, каб мяне перасоўвалі з месца на месца, як тую шахматную фігуру.

— Хацець ці не хацець у тваім становішчы яшчэ нічога не значыць, не дзеўка ж ты, хаця я цябе і ашчаджаю.

— Ад каго?

— Вось іменна, ад каго ці ад чаго? Ад меліярацыі, калі, мякка гаварыць, ты ўжо стаміўся. Не зразумею толькі, дзе і калі прагледзеў я гэта, калі гэта адбылося. Вадасховішча? Голая баба?

— Якая яшчэ голая баба?

— Як, ужо і не памятаеш: голая баба мыецца, у Талстога Льва Мікалаевіча.

Мацвей успомніў і ўсміхнуўся. Усміхнуўся нарэшце і Шахрай, і яны амаль што як сябры пакінулі Палац культуры, дзе праходзіў пленум. Дзіўным было гэтае іх сяброўства, і не зразумець, чаго болей было ў ім — насцярожнай цікаўнасці адзін да аднаго, варожасці ці глыбока прыхаванай сімпатыі. Сам Мацвей не вельмі цяміў у гэтай іх дружбе. Шахрай прыцягваў яго да сябе таму, што, нягледзячы ні на што, былі ў ім нейкая пэўнасць, грунтоўнасць, вера ў тое, чым ён займаўся, што рабіў, дзеля чаго жыў. У самім жа сабе Мацвей такой веры не знаходзіў. Само сабой, ён, канечне, верыў у справу, якой займаўся, але трымаўся і стаяў пры гэтым не на бетоне, як Шахрай, а на нечым іншым, што безупынна калыхалася і хісталася, і цяжка было яму трымаць раўнавагу, увесь час трэба было недарэчна махаць рукамі, мяняць баланс. І гэтая адсутнасць раўнавагі і балансу прыгнятала яго, заўсёды неабходны быў нейкі перапынак ці допінг, каб набыць устойлівасць, устаяцца, каб той маятнік, што быў замацаваны ў ім, пачаў рухацца раўнамерна і з адной і той жа амплітудаю. Шахрай жа не ведаў ці не прызнаваў такіх хістанняў, а калі і выпадаў збой, як кошка, імгненна, ▪ якой бы вышыні яго ні кідалі, зноў трывала стаяў на нагах, зноў быў ураўнаважаны і не мітусіўся, не размахваў рукамі. Вось гэтага якраз і не хапала яму, Мацвею, і адсутнасць гэтага прыцягвала яго да Шахрая, таму ён не толькі не пакрыўдзіўся на яго за гэтае новае назначэнне і за тое, як яно адбылося, але і адзначыў разам з Шахраем гэтую падзею. Ён быў удзячны Шахраю за тое, што той пазбавіў яго ад меліярацыі, забываючы, што таму ж Шахраю трэба дзякаваць і за прычашчэнне да меліярацыі. Мацвей ужо сапраўды стаміўся сушыць, карчаваць, стаміўся аднолькава руйнаваць і будаваць. Зямля, балоты і рэкі ўжо не ўпарціліся і не супрацíўляліся, як раней, нібы ён на самым пачатку, не прыкмеціўшы таго і сам, наступіў у Княжборы на нешта стрыжнявое, сярэдзіннае, ухапіў нешта адразу за сэрца, прыдушыў, скруціў яго. За гэтым усё пакацілася ўжо як пад гару, а сам ён, здаецца, пачаў глухнуць, маўчаў, не азываўся там, дзе некалі мімаволі ўскрыкваў. Ён нібы падышоў і ўступіў у тую пору, калі чалавек ужо

цягне свой воз толькі дзеля добрай пенсіі, калі галоўнае — утрымацца і ўтрымаць сябе з год ці месяц, які доўжыцца, што год, даклыпаць, дабрысці да ганаровых праводзін, да ўсёдаравальнага яму з атрыманнем пенсіённай кніжкі рытуалу вызвалення, за якім ужо нічога няма, за якім пуста ўжо. І ўсё гэта выказаў Мацвею Шахрай у нумары гасцініцы, у якім яны замкнуліся пасля пленума.

— А як жа мне, калі гэта так, разумець маё старшыньства? — спытаў Мацвей Шахрая.— Да гэтага ж і вы прыклалі руку?

— Прыклаў, так і разумей,— адказаў Шахрай.— Сам будаваў, сам ствараў і вядзі гаспадарку. І, самае галоўнае, памятай, што за табою сочыць цяпер ох колькі вачэй. Памятай аб гэтым.

Ён вёў і памятаў, рыхтаваўся да ўборкі, прыкідваў, дзе і што будзе замінаць, ці хопіць тэхнікі, людзей. Абышоў усе хаты, папрасіў, каб выйшлі на поле і на ток не толькі старыя, але і дзеці, і студэнты з адпускнікамі дапамаглі, пакланіўся нават Ваську Барздыку. Васька яшчэ падлеткам рабіў на камбайне штурвальным, пагадзіўся і зараз пайсці штурвальным, а калі трэба — то і камбайнерам на другую змену. Асабліва ўгаворваць нікога не давялося, Княжбор цану хлебу ведаў. Здаецца, усё было прадугледжана, але самага галоўнага ён не ўлічыў: не ўлічыў хлебнага багацця. І ў самы разгар уборачнай пайшлі дажджы, закружылі ветры, пшаніцу палажыла. Камбайны і машыны гразлі ў полі, закапваліся па ступіцы, але гэта была яшчэ не бяда. Іх выносілі з поля, лічы, на руках, выдзіралі трактарамі — усё гэта было яшчэ ў руках чалавечых, толькі б жаданне. А жаданне было. Бабы і мужчыны на чале з рэдактарам раённай газеты, які адказваў за ўборку ў Княжборы, на чале з самім Мацвеем, а часам і з першым сакратаром райкома партыі амаль што літаральна насілі тую калгасную тэхніку на руках. Перажылі, выстаялі ў нягоду. А калі спыніліся дажджы і зноў засвяціла сонейка, адладжаная, змацаваная агульнаю бядой машына зламалася. Зерне не паспявалі адвозіць ад камбайнаў, яго не было куды ссыпаць, не хапала такоў, павецяў, яго не паспявалі лапаціць і сушыць на сушылках, сушылак таксама не хапала, а да ўсяго, у раёне ўжо, захлынуўся і элеватар. І зранку на першых

машынах са збожжам паехаў у раён, каб неяк прапіхнуць гэтае збожжа, рэдактар газеты.

— Чаго б ні каштавала,— упрошваў яго Мацвей.— Толькі б узялі. Чаго б ні каштавала.

— На што ты гэта мяне падбіваеш? Хто я табе, Роўда? Я ж штаны з цябе павінен зняць за тое, што адбываецца. А ты і мяне ў саўдзельнікі гэтага злачынства запісваеш. А ў газеце ў мяне каторы дзень Дошка гонару, і твая гаспадарка — першая.

— Пасля, Іван Хведаравіч, разбярэмся. Здымеш з мяне і штаны, калі выратуем хлеб. А выратуем — я голы, без штаноў, прайду праз увесь Княжбор.

— Пераможцаў не судзяць, на гэта спадзяешся... Будзеш ты пры штанах.

— Іван Хведаравіч, не за штаны, а за хлеб баюся.— Рэдактар Мацвею падабаўся, не было ў ім нічога звыкла журналісцкага, мужык, дый годзе, і Мацвей не саромеўся быць шчырым з ім. Толькі ён адзін і мог цяпер дапамагчы княжборцам.

— Непарадак гэта, Мацвей, непарадак,— казаў Іван Хведаравіч.— Але на тым стаім...

— І стаяць будзем.

— Не прывядзі гасподзь. Мець усё і не мець нічога, знайсці і згубіць. Бізнес па-нашаму: украсці яшчык гарэлкі, прадаць, а грошы прапіць... Калі гэта скончыцца.

Рэдактар Мацвея таксама не саромеўся. Ён паехаў, абяцаў: як там ні будзе, а гэтае збожжа яшчэ прапіхне, апошні раз, і не дзеля яго, не дзеля Мацвея, а дзеля хлеба. Мацвей правёў рэдактара і вярнуўся ў праўленне, дзе па яго загаду з раніцы былі ў зборы амаль усе княжборцы. Усіх ён ведаў у твар, ведаў імя і імя па бацьку, выключаючы, канечне, тых, хто з'явіўся ў Княжборы нядаўна, прыехаў у новы пасёлак па аб'яве: даецца праца і жыллё... Яны жылі адасоблена, не зліваючыся з княжборцамі ў гэтым сваім жыцці, нехта з іх не меў яшчэ і сваёй кватэры, жыў у інтэрнаце, не сяляне, а больш яшчэ гараджане, гарадскія твары і адзенне, і тут, у праўленні, яны трымаліся таксама адасоблена, хаця і больш згуртавана, чым княжборцы, як рабочыя на нарадзе на якім-небудзь прадпрыемстве ці будоўлі. І не было на іх тварах таго, што ён бачыў на тварах сваіх землякоў. Княжборцы глядзелі на яго, як чакалі нечага ад яго, трывога бы-

ла ў іх вачах, але і надзея. Яны верылі яму. Ён жа ім, мо праўда, толькі пакуль што, але і за гэта дзякуй, старшыня, галава, начальнік, Антонаў сын, Дзям'янаў унук. А Дзям'яны гэтыя — галавастыя. І ён увесь у іх пароду, што-небудзь ды прыдумае. А прыезджыя, што не прыжыліся яшчэ да княжборскай зямлі, глядзелі на яго са спакойнай абыякавасцю, яны ведалі, што, калі і прастойваюць, а тым больш вымушана, грошы ўсё роўна ім плоцяць. І чаго ім хвалявацца: будзе рубель — будзе і хлеб. Паперчына тая рублёвая і была іх хлебам. І колькі яшчэ трэба часу, каб яны зразумелі: паперка і ёсць паперка. Некаторыя ж з іх так і не зразумеюць гэтага. Не цана хлебу паперка, не купляецца ён за грошы, як каханне, давер, аўтарытэт і яшчэ бог ведае што. Усё, пэўна, мае цану, усяму адна цана — толькі пот і кроў, трывога і вера, тое, што ён чытае зараз на тварах сваіх землякоў, у вачах княжборскіх жанчын і бабуль. І ён не ведае, як заплаціць ім за гэтую трывогу і боль, хаця ён і Антонаў сын, дзям'янаўскай пароды, а абнадзейваць проста так язык не варочаецца. Няма чаго даць яму і прыезджым, калі не лічыць той самай паперкі, якую яны ўшаноўваюць, што хлеб. Сам жа хлеб гарыць, і ён не ведае, як патушыць гэты агонь. Хаця добра ведае, пераканаңы ў іншым: лепей голад, у дзесяць разоў лепш галадоўка, чымсьці такое багацце. На тое, чаго няма,— і суду няма. Страшна, жудасна, калі ёсць і ўсё гэтае ёсць, здабытае кроўю і потам,— скрозь пальцы. Гэта забівае, забівае ўсё, нават боль, не гаворачы ўжо нічога пра турботы, трывогу і веру. Нязгойны боль, невылечная хвароба ўжо не нясуць у сабе такіх пакут нават блізкім, яны выклікаюць толькі спачуванне, а што ў гэтым толку — вызваленне толькі смерць.

Мацвей адчуваў, што маўчыць ён ужо вельмі доўга, але не стае рашучасці і прамовіць нешта. Вокны ў праўленні адчынены, і з вуліцы наплывае ў іх увесь час нарастаючы гул машыны. Па гуку Мацвей чуе, што ідзе камбайн. І не проста ідзе, а злосна, раве і падвывае матор, злосна рыкае гудок. Вось матор робіць ужо на халастых абаротах, але безупынна гудзе гудок, бы выклікае некага. Мацвей зразумеў усё, зразумеў, што гэта завуць і патрабуюць яго, здагадаўся і хто заве і патрабуе, але не крануўся з месца, чакаў,

калі Барздыка сам прыйдзе да яго. І ён прыйшоў, нагою расчыніў дзверы, стаў на парозе, плячыма на ўвесь праём дзвярэй. Дастаў цыгарэту, прыкурыў, але, здаецца, не зацягнуўся, а хутчэй адкусіў ад яе разам з табакай і дыму, заперакідваў цыгарэту з аднаго кутка рота ў другі.

— Пасяджэнне праводзіце?

— Што ў цябе, Васіль?

— Перакур. Прыехаў, як бачыце, таксама на сход, можаце працягваць, Мацвей Антонавіч. Парадак дня толькі мне паведаміце і ўключыце ў спіс выступаючых.

— Паламаўся?

— Я? Паламаўся? Ды ніколі ў жыцці такога не будзе — шырэй вокны адчыняй свае ды стол падцягвай — разгружуся табе на стол. Поўны, Мацвей Антонавіч, бункер, дзве гадзіны машыну чакаю... А вы... прамовы гарачыя...

— Садзіся, паслухай і ты, мы аб адным гаворым.

## 2

Садзіцца Васька адмовіўся, застаўся стаяць, як стаяў, бы партрэт у рамцы. І ў гэтай яго паставе былі выклік і нязгода з усім, здаецца, што ні пачуе ён зараз ад Мацвея. Васька Барздыка быў, пэўна, адзіным чалавекам у Княжборы, які нічога не забыў Мацвею Роўду. І тое, што ён даў згоду дапамагчы ў час уборкі, вытлумачвалася проста: хлеб урадзіў і паспеў, і яго трэба было ўбіраць, а калі б ён увільнуў, княжборцы яму б гэтага не даравалі, не прама, але ж прыгадалі б, і, пэўна, не адзін раз. Але не толькі боязь выглядаць у вачах аднавяскоўцаў абібокам вымусіла яго выйсці ў поле, а і павага да хлеба, жаданне, каб самога яго паважалі, і перш-наперш — Махахеі. І яшчэ яму неабходны былі грошы, усё таму ж, чаму ён так дамагаўся добрага слова ад Махахеяў, асабліва ад бабы Ганны — Надзьчынай маці, якая, як ведаў Васька, верхаводзіла ў іх хаце. У тэхнікуме Ваську, як і Надзьцы, заставалася вучыцца адну зіму, і ўжо час быў думаць пра тое, як ён будзе жыць заўтра. Мацвей і тут спрабаваў улезці, напярэдадні ўборкі, радуючыся гэтай уборцы, таму, што ўсё ў яго ўрэшце атрымалася, сышлося і ніхто з аднавяскоўцаў скоса

больш не пазірае на яго, таму і разляцеўся Мацвей да Ваські, першым падаў руку, пачаў распытваць, куды ён думае падавацца пасля тэхнікума.

— Не ў Княжбор, не да цябе ж,— хмура адказаў Васька, незадаволены тым, што бачыць перад сабой Роўду, а яшчэ больш з-за таго, што пасварыўся з Надзькаю. Надзька настройвала яго таксама ехаць пасля тэхнікуму толькі ў Княжбор: тут і комплекс цяпер, і механізацыя, аўтаматызацыя, і наогул перспектывы, бы спелася з гэтым Роўдам.

— А чаму б і не Княжбор, чаму б не да мяне? — здзівіўся Роўда.

— Па памідору ды па качану...

— А дарэмна, я б і дапамагчы мог бы ляснічым нават уладкавацца табе.

— А лясніцтва дзе, дзе лес у цябе? Адзін дуб, тысяча пнёў і тры палкі.

— Вось ты і пасадзіш лес, развядзеш. Ёсць Махахеяў дубняк, будзе яшчэ і Барздыкаў бор.

— І з'явіцца яшчэ адзін Мацвей Роўда, і будзе яшчэ адна роўная паляна. Ды я з табою на адным гектары...

— Добра,— сказаў Мацвей,— можаш не дагаворваць, ведаю, што ты са мною на адным гектары... палуднаваць не сядзеш... Час разабрацца нам з табой, Вася, Васіль Аркадзьевіч.

— Нечага нам з вамі, Мацвей Антонавіч, разбірацца. Разабраліся ўжо. Вунь, паглядзі на ўсе чатыры бакі — усё ясна і светла. І вы направа, а я налева.

— Так і не возьме нас з табою мір, Васька, Васіль Аркадзьевіч? — і была ў голасе Роўды нейкая ўмольнасць. І была яна ў яго голасе і зараз. Але ні тады, ні зараз не спагадаў яму Васька Барздыка. А Роўда ўже трэці раз запрашаў, умольваў яго сесці, бы ад гэтага нешта залежала, бы гэта здатнае было нешта перамяніць. Але Васька і на трэці раз не крануўся з месца, стаяў, назло яму, каб і ў вочы не глядзець знізу ўверх. І тады Мацвей раптам таксама зазлаваў.

— Смаркач,— гучна і брыдка крыкнуў ён.

Прыезджыя ажыўлена валюхнуліся, рагатнулі. Княжборцы, наадварот, прыціхлі і стаіліся, замоўклі. Яны як бы адчужаліся гэтым сваім маўчаннем і стоенасцю ад Мацвея, выказвалі яму сваё незадавальненне. Крычаць і злаваць старшыні, канечне, дазваляла-

ся, ён жа адзін, а калгас вялікі, на ўсіх цярплівасці не напасешся. Але ж не так вось, на пустым месцы, крычаць, і без дай прычыны, і пры людзях, і не на смаркача-падлетка якога-небудзь, а на студэнта, камбайнера, жаніха. І Васька адчуў гэтую маўклівую падтрымку аднавяскоўцаў, хацеў ужо кінуцца на старшыню, ён ужо ўгнуўся ў сваёй рамцы, але хітнуліся наперадзе яго і людзі, маўкліва, амаль непрыкметна згуртаваліся, сышліся плячыма, плячыма папярэдзілі цяпер ужо яго, Ваську, што, пакуль яны тут, яму да яго, старшыні, не прабіцца, не дапусцяць яны да яго, не дапусцяць, каб ён ад слоў перайшоў к рукам. Смаркача Мацвею Роўду яны цяпер ужо запамятаюць на ўсё жыццё. І гэтая іх памяць будзе пакараннем яму. І Васька зразумеў гэта, Мацвей таксама зразумеў, буркнуў нешта сабе пад нос. І адразу пасля гэтага:

— Ратуйце, жанчыны і мужчыны, старыя і малыя, прашу ўсіх, каб гуртам усе выйшлі. Вінаваты я, вінаваты перад вамі. Усё зрабіў, самі бачыце: і тэхнікі, і людзей хапае. Але хто б мог падумаць, што так уродзіць збажына. Ні вы, ні я такога ўраджаю ў вочы не бачылі яшчэ, не тое каб збіраць... Стыхійнае бедства, а не ўраджай. Пабудавалі новы Княжбор, будуем, пабудавалі новае поле, а сушылка старая. Усё адразу не ўхопіш. І няма куды везці хлеб ад камбайнаў, гарыць хлеб. Судзіць мяне будзеце пасля. А зараз падымайцеся ўсе, лапацьце, правявайце, паліце печы, сушыце на печы, хто колькі, па зярнятку, па жменьцы...

— Вой-ё-ёй, падсудная справа, старшынька,— захітала галавою Махахеіха.

— Ведаю, баба Ганна. І гатовы адказаць за хлеб. Хлеб жа, хлеб...

— Маць тваю, гаспадар,—вылаяўся і выплюнуў недакурак Барздыка, кінуўся на вуліцу да камбайна. Камбайн з перапоўненым бункерам рабіў стомлена, уздрыгваў хобатам пагрузчыка, на якім, што сцяг, матляўся мех, каб пры перагрузцы не згубілася ні зярнятка. Васька мэнтам ускінуў сябе на мосцік, паклаў рукі на штурвал і нейкае імгненне разглядваў іх, свае рукі, не надта чыстыя, у машынным масле, якое ўжо ўелася ў скуру. Схіліўся, выцягнуў са скрынкі з інструментам стары, загорнуты ў газету ручнік і доўга і старанна выціраў ім рукі. Чысцей ад

гэтага яны не сталі, брудным зрабіўся толькі ручнік, ён правёў ім і па твары і зноў склаў рукі на штурвале, цяжка ўздыхнуў, нерухома замёр на добрую хвіліну. І раптам рэзка націснуў на газ. Камбайн скалануўся ад нечаканасці і неспадзяванкі і амаль што скочыў уперад, і, як сцяг, затрапятаў на ветры мяшок на пагрузчыку. Але на гэты скачок рухавік камбайна, як падалося Ваську, патраціў усю сваю моц, і камбайн не паспеў набраць хуткасці, калёсы круціліся ціха, а Ваську патрэбна была зараз хуткасць. Ён ашчэрыў зубы і шалёна круціў штурвал і крычаў нешта незразумелае і каціў па калдобінах, бы скакаў на кані. Насустрач яму з праўлення выбеглі людзі.

— Куды, куды! Стой! Стой! — кінуўся напярэймы яму Роўда, размахваючы рукамі, спрабуючы пераняць і завярнуць камбайн, як пераймаюць і заварочваюць худобу.

— Стой сам, як...— Васька крута вільнуў убок і пакінуў адзаду праўленне і Роўду, што ўсё яшчэ, як пудзіла, махаў рукамі. Прамільгнуў і адстаў Княжбор, цьмяныя і разгубленыя твары аднавяскоўцаў, разгублены і спалатнелы твар Надзькі, што выхапілася на той галас і грукат з хаты. Ён праскочыў і паўз яе, краем вока толькі прыкмеціў: Надзька пабегла за ім, скочыла ў клуб пылу, узнятага камбайнам, і капаціць следам, смешна, што жарабя, ускідваючы дзыбатыя ногі. Васька хацеў адарвацца ад яе. Надзька цяпер толькі б перашкаджала яму, але выціснуць з камбайна больш таго, на што ён быў здатны, было немагчыма, і ён трошкі адпусціў газ, прыпыніўся. Надзька залезла да яго, на мосцік, на хаду, стала за плячыма, аддыхалася, абхапіла яго рукамі за шыю. Камбайн быў ужо каля току, ішоў паміж двух доўгіх буртоў збажыны, ад якой у прахалодзе раніцы курэў, уздымаўся шызы дым. І ад гэтага дыму зерне выглядала ўжо не жоўтым, а зялёным. Надзька, пэўна, падумала, што тут камбайн спыніцца і будзе разгружацца, і зняла рукі з Ваською шыі. Але Васька адмоўна хітнуў галавой.

— Куды ж гэта ты? — казытліва прыпала да яго вуха Надзька.

— Туды,— Васька няпэўна хітнуўся ўсім целам.

— Добра, добра, і я з табою.

«Куды гэта яна са мной?» — адчужана падумаў

Васька, таму што і сам толкам не ведаў, куды гэта «туды» гоніць ён гружаны камбайн. Пакуль што ён бачыў перад сабою толькі дарогу, яна была незанятая, а куды гэтая дарога прывядзе яго, дзе ён спыніцца, Васька і сам не ведаў. Яму цяпер неабходныя былі толькі рух і хуткасць, і ён маліў адно: каб не заглох і не падвёў матор, таму што, калі ён спыніцца, здавалася яму, гэта будзе сапраўднае крушэнне. Спыніцца камбайн, замрэ бездапаможны, замрэ і ён. І тады нічога нельга ўжо будзе зрабіць, выправіць. Гэтае імкненне да якой-небудзь дзейнасці, прага да руху абудзіліся ў ім яшчэ ўчора. І вінаваты ў гэтым быў бацька. Дзень назад, яшчэ ўчора, такой жа парой чорта б лысага кінуўся б ён вось так на злом галавы. А ўчора вечарам, ужо на схіле дня, калі ён дабіваў участак пшаніцы каля былога ляда...

Ад таго ляда засталося хоць і не вельмі што, але ўсё ж які-ніякі гэта быў лес. І ад маладых бяроз, ясеняў, якім, пэўна, так ніколі і не стаць ужо старымі, таму што ляда, як чуў Васька, павінны былі выкарчаваць зусім, павявала вечаровай свежасцю і прахалодаю. Хлебны дух і дух лесу былі прыемнымі Ваську, ён нават спяваў нешта сам сабе, як раптам убачыў на ўзгорку тры ссечаныя і абабраныя да апошняй ягадкі рабінкі. Ён спыніў камбайн, падышоў да гэтых загубленых дрэўцаў. Рабіну, каб абіраць і здаваць ягаду, сек у Княжборы нехта і дагэтуль. Дні два назад Мацвей Роўда адну з іх прывязаў тросам да газіка і прыцягнуў у вёску. Крычаў на ўсю вёску, бы не сам паклаў пачатак гэтаму знішчэнню, бы не з яго нялёгкай рукі ўсё кранулася і пад гару пакацілася: «Калі гэта ў нашым Княжборы было такое, каб за кілаграм-два ягад дрэва цалкам пад корань, мужыкі...» Мужыкі панура маўчалі, такога, канечне, раней у іх вёсцы не ведалі, ясянёк на вясло і то шкадавалі секчы. «Барздыкі больш за другіх ягад нарыхтоўшчыку здалі»,— сказаў хтосьці. «Спаймаю, каровы не хопіць адкупіцца»,— прыгразіў Мацвей, не адрываючы вачэй ад Ваські. «Спаймай,— вытрымаў гэты яго позірк Васька.— Спаймай, а калі я цябе злаўлю з трактарам ці карчавальнікам у лесе, чым тады ты разлічвацца будзеш?» На тым яны і разышліся. Мацвей пашыбаваў у кантору, Васька да свайго камбайна. Але, крочачы да гэтага свайго камбайна,

Васька ўпершыню паспачуваў Мацвею: ёсць і ў гэтым апошнім з Роўд душа, але ж чаго вартая гэтая душа, калі ёй не падпарадкоўваюцца рукі. А цяпер, стоячы на ўзгорку перад ссечанымі рабінкамі, ён зноў думаў аб гэтым і таму пашыўся ў глыб ляда, хоць і не хацелася яму туды шыцца, паглыбляцца. Рабінкі нехта ссек толькі-толькі, яны яшчэ і соку не паспелі даць. А Васька здагадваўся, каго ён можа, калі, канечне, пашанцуе, сустрэць у лесе. Ён ішоў па лесе і насвістваў, і збоку здавалася, што яму добра. Быў ён спрытны ў лесе, светлы тварам. Прасвятлёныя ўжо восенню, што свечкі, стаялі бярозы і асіны. Ён пачуў незадаволены сарочы пераклік і адразу ж убачыў гэтых сарок, яны вылецелі на яго і ўбачылі яго таксама, кінуліся прэч ад яго, стракочучы яшчэ больш галасна і незадаволена. Затрашчалі кусты, задрыжала ад цяжкага тупату зямля. На гала перад ім выскачылі два ласі і ласянё, выплылі на роўнае з гушчару, як дзве лодкі пад ветразем і чаўнок. Ласі ўскінулі, нават адкінулі назад цяжкія разгалінаваныя рогі, прыпынілі сябе аб паветра, уперліся ў гэтае паветра шэрачэзнымі грудзьмі, уталопіліся на чалавека, гарбаносыя, паджарыя, недаверлівыя. І ласянё, ужо прадчуваючы ў сабе звера, але яшчэ не пазбавіўшыся дзіцячай цікаўнасці, стаяла між імі, скоса назірала за чалавекам і ў той жа час цягнулася да яго.

— Не бойцеся,— каб не перапалохаць гэтую сямейку, ціха і ласкава вымавіў Васька,— не чапайце нас, і мы нікога не зачэпім. Ну, чаго насупіліся, ідзіце, ідзіце, лес ваш... Я добры. Я рады за вас, што вы засталіся жывымі. Як гэта толькі магчыма было.

Лось пагражальна бадануў перад сабой паветра.

— Дурнічка,— засмяяўся Васька.— Ты дурнічка, а я разумны, таму бадацца з табой не буду. А хто напалохаў вас так, пагляджу. Ну — кыш!

І ласі, усе трое, як па загаду, павярнуліся і ўламаліся ў гушчар. Запознена ўслед ім забрахаў сабака.

— Дружок,— паклікаў Васька, і Дружок прыбег на яго голас, заскакаў, заёрзаў перад ім, наровячы аблізаць Васькаў твар, потым кінуўся ад яго ўбок, павіскваючы, бы клічучы цяпер ужо за сабою Ваську, і Васька пайшоў за ім, абышоў арэхавы куст і сутыкнуўся з бацькам. Аркадзь Барздыка быў у кухвайцы, падпяразаны салдацкім рэменем, за рэменем —

сякера, у руках — вядро з недаспелаю яшчэ і як бы ў тумане няпэўнага яшчэ колеру ягадаю рабіны. І ссечаная і напаўабабраная рабінка ляжала каля яго шырока пастаўленых ног.

— А я ведаў, што сустрэнуся тут з табою,— сказаў Васька.— Я ж знаў, хто рабінку губіць. Што рабіць будзем, бацька?

— Дапаможаш мне дабраць вядро.

— Добра, а далей?

Аркадзь Барздыка падаў сыну вядро, той узяў яго, патрымаў на выцягнутай руцэ, бы ўзважваў.

— Кілаграмаў пяць пацягне.

— Ага, два рублі, за гадзіну нейкую два рублі, два рублі, ага,— заспяшаўся бацька.

— Два рублі? — раптоўна шалеючы, выгукнуў Васька.— Вось табе твае два рублі! — і хвастануў ягадаю ў твар бацькі. Той застаўся спакойны, але, здаецца, залішне спакойны, бы нічога іншага не чакаў ад сына:

— Дзякую табе, сынок... Ускарміў, успаіў, выпеставаў сабе дапамогу на сівую галаву. Аддзячыў.

— Злыдзень ты, бацька.

— Злыдзень,— абграсаючы з галавы смецце і ягаду, усё такі ж спакойны, пагадзіўся Барздыка.— Злыдзень твой бацька, сынок. Дзякую табе, крывіначка мая.— І таксама, што і сын, раптоўна шалеючы: — А цябе, лайдака, ляжня, валеча, карміць, хлеб мой жэрці — тады не злыдзень? А грошыкі на навуку і дзевак з мяне цягнуць — не злыдзень? А за кабана Цупрыкам выплочваць — не злыдзень? Сорам з-за цябе на двор выйсці.

— І мне з-за цябе сорамна людзям на вочы паказвацца. У каго ты толькі ўдаўся такі.

— Гэта ты ў каго такі. На камбайне робіш, зерня ў хаце аніводнага, куранятам сыпнуць нечага. А мог бы і ў кішэні і за халяваю прынесці жменьку хоць для прыліку.

— Вось-вось, усё жыццё хапаеш, хапаеш усё, што дрэнна ляжыць — тваё.

— Маё, усё мае. І сямёра па кутках, кожнае рот зявіць, а заткнуць іх чым з таго свайго...

— Навучыў, усіх навучыў... У бальніцу лёг, буракі капаць пачалі, збег з бальніцы, не далежаў, буракі тыя хапаць...

— А для каго ж усё гэта, сынок, для каго? Мне буракі тыя трэба, хай спрахнуць яны. Мне ўжо хвойку на скрынечку прыглядваць трэба. Вам жа ўсё, табе.

— Мне твайго нічога не трэба.

— Цяпер не трэба, а тады, учора, трэба было. І яшчэ адзін толькі бог ведае, што па-заўтраму будзе. І да каго ты, акрамя бацькі, пабяжыш. Роўда табе, думаеш, на ўсё жыццё хлеба дасць? У Роўды твайго ў самога, што ў камыша — хрэн ды душа. Сёння густа — заўтра пуста.

— Ды лепш усё ж пуста... Слёз ты нашых не бачыў, бацька. Не бачыў, як мы па вуліцы крадком хадзілі, як нам у плечы апошняе паскудства тыкала: Барздычаняты ідуць, прыбірайце ўсё з вачэй... Бацька, бацька...

— Дзякуй табе і за гэта, і за труды мае, за кілу... Яблыка ад яблынькі недалёка падае, а ты вун куды адкаціўся, і ў каго ты толькі пайшоў, сын...

— У цябе, бацька, і трохі ў чалавека, разумею, трохі толькі... Усё, бацька,— Васька абняў бацьку і падштурхнуў яго,— ідзі, ідзі, зачыняецца гэтая лавачка з рабінаю, каб і нагі тваёй тут больш не было.

— Ты што, грозіш мне, бацьку свайму грозіш? Ты што, ляснік ужо?

— Ляснік не ляснік, а глядзець не буду, што ты мой бацька.

— Добра, сынку, добра, зразумеў я.

— Што ты зразумеў?

— А ўсё зразумеў.— І Аркадзь Барздыка адвярнуўся ад сына, высмаркаўся, падхапіў пустое вядро і, унурыўшыся, пакрочыў, завалюхаўся між кустоў. Тое, як пакідаў яго бацька, Васька бачыў і сёння, але ўчора ён шкадаваў яго, а сёння не. Цяпер ён наогул ні да кога не адчуваў жалю. Ён сам быў нейкі загнаны, з усіх бакоў прыцiснуты, з бацькам усё яшчэ магло ўтрасціся, але яго дабіў Мацвей, гэтым сваім смаркачом, што кінуў пры ўсіх. Некалі ён гнаў разам з Надзькаю і Ненене гусей ад рэчкі ў хлеў, вось таксама ж цяпер перанялі і гналі яго. Сам ён гнаў сябе, лез на ражон, у пятлю сам лез. Ён хітраваў сам з сабою, калі гаварыў, што не ведае, куды выведзе яго гэтая дарога. Ведаў ён, толькі не хацеў прызнавацца, яму даўно ўжо карцела вось так, з поўным бункерам кінуцца ў гэтую дарогу. Прывезці той хлеб туды, ку-

ды трэба, выгрузіць, як пагражаў Мацвею выгрузіць яму на стол. Дык вось на стол, толькі не такі, як у Мацвея, і лепшы і большы, выгрузіць і аб'явіць цану гэтаму хлебу. Хай бы паспрабавалі разлічыцца за рэчку, за лес, за зямлю, за бацьку яго, за рабіну, што ішла ў нарыхтоўку зялёнаю: нуль цэлых і чатыры дзесятых рубля за кілаграм. Нуль цэлых і чатыры дзесятых за ягаду, ліст і цэлае дрэва з двума ласямі і адным ласянём у дадатак.

Раней зямля здавалася яму вечнаю, ён быў на ёй чымсьці накшталт дрэва ці куста, з'явіўся, каб адстаяць патрэбнае, адпушчанае і наканаванае яму ў якойнебудзь запаветнай глушы, квітнець, распускацца па вясне, радавацца лету, сумаваць восенню, спаць сярод аціхлага снегу зімою і нікуды не патыкацца, нікуды не лезці, спадзеючыся, што і яго аддзячаць, узнагародзяць за гэта, ніхто за гэта не кране і яго: ні агонь, ні вада, ні сякера, ні піла. Так з'яўляліся і жылі не толькі дрэвы, кусты, але і ўсё жывое, тыя ж княжборскія буслы па жаданні ці капрызу сваіх бацькоў нараджаліся, вучыліся лятаць, пазнаваць небяспеку і тое, як пазбегнуць гэтай небяспекі, жывучы ў коле тых турбот, хваляванняў і пакут, у якім жылі і іх бацькі, нічога не спрабуючы перамяніць, таму што гэта было ўжо ўстойлівым, яны з'явіліся на белы свет на ўсё гатовенькае, створанае ім і дзеля іх. І створанае разумна, бо само ўжо жыццё і іх прысутнасць у гэтым жыцці якраз і сведчылі аб гэтай разумнасці і нават нейкай сістэме. І не яму, Ваську, лезці і нешта перарабляць, калі ўсё гэта стваралі, будавалі пакаленні, і на чале тых пакаленняў стаялі такія людзі, не яму, Ваську Барздыку, раўня. Яны даўно, калі ён нават і не нарадзіўся яшчэ, усё вырашылі за яго, вызначылі яго жыццё, усклалі на яго толькі адно: клопат аб хлебе надзённым, а каб быў у яго той хлеб, і дадзена было яму дзве рукі хлебароба і якая-ніякая галава хлебароба, каб ён больш упраўна здабываў той хлеб, каб не толькі адны крывавыя мазалі на руках, каб ён не толькі адно што жыў, але і працягваў гэтую створаную яму жытку. Жыццё ж ім не тварылася, як не тварылася яно, а толькі працягвалася і ў Княжборы. А каб лацвей усё гэта атрымоўвалася, недзе на зямлі ці ў небе быў вынайдзены спецыяльны ключык, і тым ключыкам нехта, застаючыся сам нябачным, час

ад часу заводзіў яго і тых, хто быў побач з ім, і падпарадкаваны заводу, мо з пэўнасцю і не ведаючы пра яго, але здагадваючыся аб ім, ён і рухаўся ад нараджэння да дзяцінства, ад дзяцінства да сталасці. І адзінае, што не падабалася і непакоіла яго ў гэтым раўнамерна-паступовым руху — гэта наканаванасць канечнага. Гэтага канечнага ён асабліва баяўся ў дзяцінстве, баяўся не за сябе, бо яшчэ не думаў, што яму ўжо нешта наканавана, за бацькоў. Яны, здавалася яму, павінны быць бясконцымі і бессмяротнымі. Пазней ён ужо звыкся з гэтай бояззю, і смяротнасць бацькі і маці ўжо не так палохала яго, як не палохала і ўласная смяротнасць, таму што ўсё гэта знаходзілася яшчэ так далёка, што не варта было і галаву тлуміць, трэба было хутчэй расці і рабіцца падобным сваім бацькам. І ён вырас і быў ужо амаль што падобны на іх. І тут заўважыў, што яго абкрадваюць, пазбаўляюць таго, што было ў бацькоў, звычнага, не толькі само жыццё, але і глеба, зямля, на якой стаяў ён і яго бацькі, захісталася, загойдалася. Гэтая няўстойлівасць і гойданні абурылі і абудзілі яго, шукаючы, на што б абаперціся, ён пачаў азірацца на тое, што пражыў сам і што пражылі іншыя, і не згадзіўся быць у тым, што пражыў і што трэба яшчэ пражыць, ні кустом, ні дрэвам, ні птушкаю. Аказваецца, ён зусім інакш уяўляў сваё жыццё на гэтым свеце, заўсёды інакш, толькі да пары да часу гэтае ўяўленне было не вельмі акрэсленым, як ахутана туманам паўсядзённых клопатаў і турбот бацькі і маці, думка якіх не ішла далей таго, каб неяк накарміць яго і яго шматлікіх братоў і сясцёр, выстаяць сёння і хоць крышачку нешта прыхаваць на заўтра, не вярэдзячы душу роздумам, праведны ці не праведны гэты іх хлеб, што здабывалі яны для сябе і сваіх дзяцей, таму што яны якраз недзе і былі кустом, дрэвам і птушкай на княжборскай зямлі. Так склалася ўжо іх жытка, і не яму, што ніколі, можна сказаць, не петаваў, не бедаваў, не ведаў той бясконцай вайны, судзіць іх, ён жа нарадзіўся зусім у іншую пару ўжо, стрэльбу трымаў у руках толькі два гады, і далі тую стрэльбу яму, каб ён адчуў, зразумеў, што і дрэва, і куст, і птушка, і рэчка — усё гэта не толькі ён, але і яго. Вось як было заўсёды, на зямлі і павінна быць, інакш жыццё не будзе мець аніякага сэнсу, пазбавіц-

ца чалавечага пачатку, памяняе яго на чорцяго ведае што. І за гэта прыспеў час змагацца. І змаганне гэтае, хаця і без крыві, мо больш страшнае і сур'ёзнае, чым тое, дзе забіваюць, дзе нявечаць гранатамі, гарматамі і кулямі; тыя войны, якія б жорсткія яны ні былі, мелі ўсё ж пераможцаў. Гэтая ж не магла іх мець, таму што чалавек абвясціў вайну сам сабе, таму мо ён, Васька, не ўсведамляючы да канца сам гэтага, выбраў і вучыўся, як пасадзіць і вырасціць лес, а не як ссекчы, звесці яго. Гэта ж і вымусіла яго кінуцца зараз у дарогу.

— Надзька,— Васька на імгненне адарваўся ад дарогі,— ты не ведаеш, колькі каштуе рэчка?

— Не ведаю, міленькі, а ты што, хочаш рэчку набыць? Для мяне?

— Для цябе, Надзька. Толькі не ведаю, колькі каштуе яна, колькі грошай трэба.

— Золата дзеда Саўкі можа і не хапіць, а ты ж яшчэ і не знайшоў яго.

— Не знайшоў, а рэчку мець хачу, каб табе падарыць.

— Мне не трэба рэчкі, у мяне ёсць ты... Не трэба, Васька, далей ехаць, зараз бетонка будзе, вяртаемся назад. Мы пражывём і без рэчкі.

— Не,— сказаў Васька.— Табе і сапраўды не трэба ехаць далей, далей я адзін.

— Не пушчу я цябе аднаго, я з табой цяпер да апошняга. Не тармазі, паганяй, будзь што будзе.

І ён не стаў тармазіць, як і па гравійцы, гнаў камбайн, калі вырваўся і на бетонку. Ішоў пасярэдзіне, нікому не саступаючы, нікому не даючы абагнаць сябе. Спалохана збочвалі і ціснуліся да краю дарогі стрэчныя машыны. А машын на бетонцы было мноства, таму што вяла яна на поўдзень, у цёплыя бласлаўлёныя краі, а час быў такі, што сама людзі адпачывалі. Адпачывалі сама і сама рабілі. Цяжкія машыны, КРАЗы, МАЗы, неслі будоўлям і заводам жалеза, бетон, гравій, лес; лёгкія — «масквічы», «жыгулі» — адпускнікоў на поўдзень і з поўдня... І сустрэчныя машыны яшчэ нейкім чынам прымудраліся размінуцца з камбайнам, а спадарожныя раўлі, што каровы пад нажом. І было за камбайнам іх столькі, што і хваста не відно.

— Нічога, не аблезеце, хлеб вязу. Хлебу дарогу,—

адказваў Васька на той роў. Крычаў сам уголас і змоўк толькі тады, калі дарогу перагарадзіла міліцэйская машына з уключанай мігалкаю, затармазіў, спыніўся, але матор глушыць не спяшаўся, нягледзячы на красамоўны жэст міліцыянера, маладзенькага лейтэнанта. І з мосціка ўніз да гэтага лейтэнанта не злез. І міліцыянер вымушаны быў падняцца да яго сам. А да камбайна ўжо беглі ад машын дапытлівыя вадзіцелі.

— Куды, дружбачок, шлях трымаем? — казырнуў і назваў сябе, памахаў перад носам Ваські чырвонаю кніжачкаю малодшы лейтэнант.

— А ты ўгадай.

— Што, багата ўзяў?

— Ён зусім не п'е,— кінулася бараніць Ваську Надзька.

— Так... Усё ясна.— Лейтэнант усміхнуўся пасля Надзьчыных слоў, спагадліва хітнуў галавою.

— Што вам ясна? — Васька наблізіўся да лейтэнанта і дыхнуў яму ў твар.

— Дык у чым жа справа? — не стрымаў здзіўлення міліцыянер. — Напякло ў галаву?

— Напякло,— сказаў Васька.— Ты, дружбачок, здагадлівы. Дык не затрымлівай жа мяне, дружбачок, мяне ў Мінску, разумееш, чакаюць, на плошчы Перамогі. І ведаеш хто? — Васька нахіліўся і нешта шэптам сказаў на вуха міліцыянеру.

— О-о-о,— зацягнуў той.

— Хлеб Палесся ідзе, хлеб меліярацыі. Дарогу хлебу. Варта было б і плакацік нейкі ды ўсё наша мужыцкае некалі.

— Так, без плакаціка не вельмі,— паспачуваў міліцыянер.— Але, дружбачок, навошта табе так далёка, ці не за дзвесце кіламетраў? КПЗ ёсць і бліжэй. І я табе скажу, вельмі неблагое...

Надзька зіркнула на лейтэнанта і ў адну хвіліну апынулася на бетонцы і залямантавала там, на цвёрдым, на бетонцы, замахала касынкаю:

— Сюды, сюды, на дапамогу!

Таўханіны і галасу на дарозе і без яе крыку хапала, і невядома, чым бы ўсё тут скончылася, калі б не падаспела гэтая дапамога з таго боку, адкуль ні Васька, ні Надзька не чакалі яе. Вызвалілі іх рэдактар раённай газеты, Іван Хведаравіч, што вяртаўся ў Княж-

бор з элеватара. Ён упрасіў лейтэнанта адпусціць дурняў, не падымаць шуму — так будзе лепей усім. А на месцы з імі разбяруцца і прымуць належныя меры, ён, як рэдактар раённай газеты, завярае малодшага лейтэнанта ў гэтым.

За ўсімі гэтымі клопатамі і здарэннямі, за абмеркаваннем іх княжборцы прамаргалі і тое, як балотца адвязалася ад дубняку. Пакуль ішла ўборка і лілі дажджы, яно перапоўнілася цераз край, заліло дубняк. Але вада ў тым дубняку пастаяла толькі дзеньдва, да маладзіка, а як устаялася надвор'е, знікла, што скрозь зямлю правалілася. Хутчэй за ўсё так яно і было. Пайшла вада ў зямлю, пакінула адзіны толькі ўспамін аб сабе на рагу дубняку, дзе яна больш за ўсё трымалася, чорную ўпадзіну скамянелай на сонцы гразі і торфу, груду ракавінак. Там, дзе ляжалі гэтыя ракавінкі, тоненькім струменьчыкам забіла крынічка, якраз птушцы спякотным днём смагу спатоліць. У дубняку ад гэтай крынічкі забруіўся ручаёк. І там, дзе ён тачыўся, ужо восенню акрыялі і зацвілі суніцы. Акрыяў і дубняк, зазелянеў: на дубах урэшце на ўсю моц разгарнуўся ліст, на вачах пачалі наліваццa і цвярдзець жалуды, адышла і ажына, хаця самы верх яе ўжо адмёр і засох. Але ажына па неадмерлым сцяблу выгнала позні ліст, толькі зацвісці ў тым годзе так і не паспела. Цвілі адны толькі суніцы, безыменна, беззапашна, як бы саромеючыся сваёй позняй восеньскай квецені, баючыся, што нехта пасмяецца з іх, і таму хаваючыся ў траву, не паказваючы з травы і лісціка, каб па гэтым лісціку ніхто не пазнаў іх. Ягады гэты позні цвет амаль не даў, адну толькі зморшчаную завязь. І тая хутка пабурэла і адпала. А ягад на ўвесь дубняк выспела толькі тры. Адну расцягалі па крупінцы чорныя мурашкі, немаведама адкуль набегшы, другую скляваў дрозд, а трэцяя ж захавалася на насенне — упала ў зямлю і змяшалася з зямлёю. А грыбы так і зніклі з дубняку, сышлі на ніштo сыраежкамі, чырвонымі і трухлявымі. Балотца ж дало аб сабе знаць зноў ужо каля самой вёскі, каля плота канцавой хаты. І хата гэтая была дзеда Дзям'яна і Мацвея Роўды. Але ні Мацвей, ні нават дзед Дзям'ян восенню так і не распазналі, хто гэта завітаў да іх у госці, яны палічылі балотца за звычайную лужыну, што налілі асеннія дажджы. Ад дубняку ж і да іх ха-

ты было добрых два кіламетры, і хто б гэта мог падумаць, што без ног, без рук магчыма прайсці гэтыя два кіламетры. Але не толькі адлегласцю вытлумачвалася нездагадлівасць дзеда Дзям'яна і княжборцаў, а і тым, што былі яны палешукамі і балота ў іх было заўсёды. І яны прывыклі глядзець на гэтае сваё балота, на сваю зямлю, як на нешта нязменнае. Усё магло, куды хочаш, павярнуцца, перакруціцца, перавярнуцца ўверх дном — і час, і надвор'е, і людзі, але толькі не іх зямля, тое, што іх акружала, і гараджанамі было названа прыродаю. Яны ж былі самі часткаю гэтай прыроды, хаця, пэўна, і не ўсведамлялі гэтага, так да апошняга і не паяднаўшыся з ёю, вылучыўшы з яе лес, поле, рэчку. Але гэта вонкавае незліццё не перашкаджала ім даваць таму лесу і полю свае ж уласныя імёны, судзіць аб іх па гэтых імёнах, па чалавеку. І цяпер, хаця ўсе гэтыя Дзям'янавы рагі, Кавалёвы дзялянкі, Удовіны чубы і шмат чаго іншага злілося ў адно поле, проста поле, і што на тым полі ні расло б — пшаніца, жыта ці трава, яны працягвалі глядзець на яго яшчэ былымі сваімі вачыма, падпарадкаваныя былой сваёй памяці, дзялілі яго ўсё на тыя ж рагі, дзялянкі і чубы, нібы нічога і не адбылося. Сам Мацвей, падпарадкаваны гэтай іх памяці, мог сказаць камбайнеру: сёння табе падбіраць пшаніцу на Чыгуновым пакосе. Княжборцы бачылі перад сабою не новую зямлю, а тую, якой яна была раней, мо разам з якой яны нарадзіліся і самі. І вінаваты ва ўсім былі маштабнасць і хуткасць змен. Самі яны яшчэ не паспелі за гэтымі пераменамі, згубіліся, зацерліся, іх бы выцягнулі, выдзерлі з старой зямлі і паставілі, перасадзілі на новую, як выдзіраюць з лесу, абсякаючы карані, грушу-дзічку і перасаджваюць на новае месца — з лесу пад хату ці хлеў і адразу ж абразаюць дзікі лясны ствол, што родзіць маленькімі кісленькімі грушкамі, і прышчапляюць высакародны і культурны, які дае грушу добрую, вялікую і салодкую, як перасаджваюць цяпер сэрца, ныркі аднаго чалавека другому, як мо некалі будуць перасаджваць і мазгі.

І княжборцы пасярод сваёй навіны клапаціліся, сачылі і бедавалі толькі аб тым, што бліжэй за ўсё ім, што не выходзіла за межы іх стала, за якім ела сям'я, за межы іх хаты, калодзежа, двара. Стол, за якім абедалі, хата, двары, калодзежы — гэтым для многіх быў

замкнёны і абмежаваны свет, і яны занепакоіліся, калі з гэтага іх свету, з калодзежаў пачала знікаць вада, іх вада. А балотца, што з'явілася на процілеглым канцы ад гэтых іх калодзежаў вёскі, іх не датычылася, ім ад яго ні цяпла, ні холаду. Яно ніяк не звязана было з іх жыццём і іх дастаткам, хаця і правалачылася праз Свілёва, Махахееў дубняк, Шчураву паласу, Барздыкаву грэблю. Але і Махахей, і Барздыка, і Шчур мелі цяпер да гэтага шляху і той зямлі вось такую, ускосную па імёнах сваіх прыналежнасць. І балотца, як разумеючы гэта і бы пакрыўджанае гэтым, рухалася вельмі марудна, адпачываючы, патаемна назапашваючы моц. Патаемнасць гэтая была выкрыта наступным летам. Яна б выкрыта была і раней, варта было толькі былым сваім вокам зірнуць на гэтую зямлю. За княжборскімі палямі, што пачыналіся цяпер ад самай Дзям'янавай хаты, ляжалі сажалкі рыбгаса, гэтыя сажалкі напаўпадпольна, а мо і цалкам падпольна капаў яшчэ сам Мацвей, калі кіраваў меліярацыйным упраўленнем, упрасіў яго дырэктар рыбгаса Карп Карпавіч Бобрык. Вось туды і крочыла балотца падземнымі хадамі, цякла, цягнулася княжборская вада. Але гэта высветлілася потым ужо. А ў тую восень балотца спынілася, яно скончыла свой шлях і адпачывала, лежачы пад плотам хаты, у якой жылі дзед Дзям'ян і Мацвей, запасіла сілы для апошняга рашаючага кідка, пайшло пад снег, так і не выявіўшы сябе. Каля слупкоў, што падтрымлівалі плот, толькі на чвэрць прасела зямля, правалілася крута, як падрэзаў хто, і слупкі крыху пахіліліся. Гэту няўпраўку в плотам дзед Дзям'ян прыкмеціў.

— Зірні ты,— звярнуўся ён да ўнука,— пяцьдзесят гадоў назад, калі сяліўся, тут калдобіна была, што копанка, засыпаў яе, а яна ўсё роўна сябе аказала. Во памяць у зямлі, пяцьдзесят гадоў аніякага знаку, а цяпер во... Перакапаць слупкі трэба, Мацвей.

Мацвей абяцаў перакапаць, паставіць нават новыя, ды так не сабраўся, спачатку хапала іншага, толькі паспявай паварочвацца, а потым стала ўжо вальней, але што ж з таго, зямля прамерзла і капаць яе — толькі смех рабіць. Рашылі адкласці ўсё на вясну.

Вясна прыйшла нечакана, увайшла ў Княжбор бы крадучыся. Раней набліжэнне яе адчувалася яшчэ ў

лютым. З другой паловы апошняга месяца зімы не пакідала неба сонца. І хутка цямнелі дарогі, святлеў лес, блакітам і сінню налівалася неба, рабілася глыбокім-глыбокім, як без дна, і пахла ад лесу, палёў і дарог вясной: расталаю салодкаю вадой, бярозавай пупышкай, дым і той неяк інакш ішоў з комінаў, слупам, радасна і няўтрымна. Маладзелі не толькі зямля і людзі, замшэлыя калодзежныя жураўлі як крылы набывалі вясной і змянялі голас, не рыпелі, што ў студзені, зябка і сцюдзёна, а курлыкалі, здаецца, і вада з вёдзер пад ласкавым сонцам лілася вясялей, весела булькаталі ручаі — прадвеснікі ўрадлівай восені. Сёлета ўсё было інакш, хаця, здаецца, усё як і заўсёды. У другой палове лютага аб'явілася на небе сонца. Але ўзышло яно асцярожна і пратрымалася нядоўга, бы абмацала зямлю і не пазнала ці не прызнала яе, ахуталася хмарамі. І так з-за хмар і набегам паказвалася ўсяго на гадзіну-другую і выконвала свае абавязкі, тапіла, зганяла снег, азорвала сумны ў шэрым тумане лес.

— То спутнікі ўсё вінаваты,— стараліся апраўдаць такую кволую вясну княжборцы.— Неба над Княжборам не адно ж. Сем нябёс. І ўсіх іх папрабівалі спутнікі. У кожным з сямі нябёс панарабілі дзірак, вось і сочыцца з гэтых прарэх туман.

І гэтаму верылі ўсе старыя. Адзіны толькі дзед Дзям'ян сумняваўся, меў сваю асабістую думку:

— Не спутнікі, а немцы ва ўсім вінаватыя. Спутнікі нашы, яны нам шкоды чыніць не будуць.

— Але ёсць і амерыканскія спутнікі,— слушна заўважалі яму.— А немцы таксама ёсць нашы.

— Але ёсць і не нашы. Вось яны ва ўсім і вінаватыя. Яны і напускаюць на нас газы...

Але наступіў усё ж дзень, калі па-сапраўднаму заўладарыла вясна, і ў свой адвечны тэрмін, мо нават крыху і раней. Заспяшаліся, пабеглі з палёў і балот ручаі. Толькі не надта радаваліся ім цяпер княжборцы. Вада ў ручаях бегла чырвоная, падобная на кроў. І княжборцы прыціхлі, замоўк са сваімі меркаваннямі і дзед Дзям'ян, не наважваючыся ўслых гаварыць аб тым знаку, што бачыўся яму ў той вадзе, і ніхто з іншых княжборцаў таксама не наважваўся, хаця ўсе яны трымалі той знак у галаве: так ужо было. І закончылася жахліва. І хаця з таго часу прай-

шло ўжо каля трыццаці гадоў, Княжбор і княжборцы помнілі ўсё, таму і маўчалі, бы aберагаліся гэтым маўчаннем, бы, калі не памінаеш яе, не гаворыш услых яе імя, яна і не аб'явіцца, не прыйдзе, не паўторыцца. Не паўторыцца ні Воўціна, ні тое, як дзеда Дзям'яна запраглі ў аглоблі, замест коніка, і бізунамі паперлі па княжборскай вуліцы.

Але тлумачэнне ўсяму гэтаму жахліваму было інакшае і зусім простае. Вясной пад хатаю дзеда Дзям'яна стаяла ўжо не балотца, а сапраўднае балота, нечага і сумнявацца было: вада затапіла гарод, падышла пад прызбу і прасілася цяпер ужо ў хату. І, каб прайсці панадворку, па чырвонай той вадзе, прыйшлося пакласці дошкі. Але і на гэты раз пад хатаю дзеда Дзям'яна балота пратрымалася нядоўга, як і з дубняку, збегла за адну ноч, пакінуўшы пасля сябе глыбокую нару, дзірку, дзе некалі, як гаварыў дзед Дзям'ян, стаяла копанка.

— У Кіеў пайшло наша балота,— сказаў унуку дзед Дзям'ян.— У Кіева-Пячорскую лаўру.

— У манастыр, дзед, святым пакланіцца.

— Мо і пакланіцца. А табе ўсё смех. Казаў жа я, што тут ход старадаўні, падземны. Ад Турава і да Кіева, дзед мой перадаваў яшчэ мне, прыціснулі рускіх людзей ворагі, яны і пракапалі той ход. Русь наша і выстаяла, таму што і пад зямлёю хады былі.

— Чаму ж гэта ніхто не ведаў, не патрапіў на гэты ход раней?

— А не прыспеў яшчэ час адкрывацца яму, не прабіла яшчэ гадзіна.

— Які час, дзед, якая гадзіна?

— Такая, каб карыстацца тым ходам. Вось заспяваюць зноў стрэлы, заржуць чужыя коні, жоўтым зробіцца наша чырвонае сонейка, тады зноў і адчыніцца людзям падземны ход.

— З Турава, з Турава-Пінскага княства ў княства Кіеўскае.

— Няхай так, няхай з княства. А ты не верыш мне, дык скажы мне, куды на вачах тваіх дзелася вада.

— У Кіеў пайшла, у Кіева-Пячорскую лаўру.

— Во, і я ад цябе хоць раз ды праўды дачакаўся. І маўчы, нікому пра гэта ведаць не трэба.

Мацвей маўчаў, тлумачэнне таму, куды знікла

чырвоная вада, дзед Дзям'ян прыдумаў прыгожае, але толькі пайшла яна мо і падземным старажытным ходам, а хутчэй за ўсё свежапраточаным зусім не ў Кіеў. Яна выйшла на паверхню ўжо на наступны дзень, і не так ужо і далёка ад Княжбора; прыйшла і ўлілася ў рыбгасныя копанкі. І з'яўленне яе там выклікала сапраўдны перапалох, лепш было б на самай справе бегчы той вадзе да Кіева-Пячорскай лаўры, усё было б шыта-крыта. У Княжборы завітаў сам дырэктар рыбгаса Карп Карпавіч Бобрык. Хаця яны і лічыліся суседзямі, Мацвей не бачыў яго ўжо больш года, з той пары, як дапамагаў яму з сажалкамі. Бобрык жыў у сваім рыбгасе наводшыбе, у дамку, што стаяў у засені старых і гонкіх хвой. Ён больш прывык да таго, каб усе — ад далёкага і вялікага начальства да апошняга селяніна — ездзілі і звярталіся да яго. Да рыбгаса, гаварылі, ён сам хадзіў у вялікім начальстве, нават ці не міністрам быў, але збег з шумнага Мінска пад ціхія палескія хвоі. Гэтыя хвоі, бясспрэчна, пайшлі на карысць Бобрыку, было яму ўжо далёка за шэсцьдзесят, але выглядаў ён, хоць і быў вельмі поўны, гадоў на пяцьдзесят, не больш.

— Аэрадром, чуў, Карп Карпавіч, уласны будуецца ў рыбгасе. Хутка, гавораць, на Рыа-дэ-Жанейра маршрут адкрыецца,— за пытаннем і жартам Мацвей паспрабаваў схаваць здзіўленне, не чакаў ён Бобрыка ў госці да сябе.

— Не ўласны, у рыбгасе, значыць, рыбгасны. І не будую ўжо.

— Сродкаў, тэхнікі, рабочых рук не хапае?

— Усяго хапае, а разумнікаў дык і залішне. Век адукацыі, кожны што-небудзь каму-небудзь ды піша... Прыкрылі мяне.

— І добра зрабілі. Навошта вам аэрадром?

— А калі ўсё ёсць, то аэрадром свой якраз і не пашкодзіць.

— Ай, Карп Карпавіч, па рыбу і па карпы да вас, асабліва капчоныя, і пешшу адкуль хочаце прыджгаюць.

Але дырэктар рыбгаса быў не ў настроі слухаць ад Мацвея гэтыя паблажлівыя словы. Напорысты і ўпэўнены і крыху, а мо і не крыху, добра-такі нахабны, ён амаль што сілаю зацягнуў Мацвея ў газік і, сам за рулём, пакіраваў да рыбгаса, да тых самых са-

жалак, пад якія вымаў зямлю Мацвей. Першымі каля гэтых сажалак іх віталі чайкі. І колькі іх там вілося над гэтымі сажалкамі, і як яны крычалі, біліся над вадою, кідаліся ў ваду, глытаючы на ляту малявак, можна было толькі здзіўляцца. Але Мацвея гэта не здзівіла, здаецца, ён выглядаў панура і прыгнечана, азімыя каля сажалак, што яшчэ не так даўно абяцалі ўрадзіць, як і ў мінулым годзе, прапалі, лічы, цалкам, вымаклі. І ён глядзеў больш туды, назад, дзе засталіся гэтыя яго знішчаныя азімыя, чым на сажалкі і чаек, затое Карп Карпавіч не адрываў вачэй. Набраклі на твары яго старэчыя маршчыны, шарэлі і мяшочкамі адвісалі шчокі, ён і ростам, здаецца, паменеў, быў ужо не такі мажны і самавіты, пачаў горбіцца.

— Што з вамі, Карп Карпавіч? — нават крыху спалохаўся Роўда.

— Гэта цябе трэба спытаць, што ты зрабіў са мной. Па свеце пусціў, у старцы мяне загнаў.

— Што вы гаворыце, якія старцы... Наадварот, Карп Карпавіч, гэта мне ў вас трэба спытаць, што вы зрабілі з маімі азімымі?

— У галаве мне твае азімыя?

— Як, вы ж згубілі іх, хлеб знішчылі.

— А ты мне рыбу знішчыў.

— А мне ваша рыба ў галаве чорцяе бяры. Без рыбы пражывём, а вось без хлеба.

— Хто без хлеба, а хто без рыбы... Мне не за хлеб, а за рыбу штаны здымаць будуць. А ты мяне на два гады падсёк. Ты бачыш, вада якая ў сажалцы, чырвоная, што кроў. Гэта мая кроў. Дваццаць міліграмаў жалеза на літр вады. Металургічны камбінат можна будаваць... Не больш як нуль цэлых пяць дзесятых гэтага жалеза ў вадзе дапушчальна. Нуль цэлых пяць дзесятых.

— У мяне жалеза нуль цэлых і нуль дзесятых, чаравікі і тыя без цвікоў, на клеі, а гузікі тры — дык яны з алюмінію.

— Я цябе не для жартаў тваіх сюды прыцёг.

— А я і не жартую. Я ж вам гэтыя сажалкі рыхтаваў, Карп Карпавіч, а вы мяне так падсеклі.

— Ты сам са сваёй меліярацыяй і мяне і сябе пад корань. З балот асушаных — з тарфянікаў жалеза. Парушана геалагічная раўнавага.

— А хто ўмольваў мяне парушаць гэтую раўнавагу?

— Вось што, міленькі мой Мацвейка, назад ты пойдзеш пешкі, каб быў час аб усім падумаць. Спрачацца я з табою не буду, малады ты яшчэ з Карпам Карпавічам спрачацца. Я прывёз цябе сюды паказаць і папярэдзіць, каб ты не здзіўляўся нашаму іску. Іск гэты, грошы твае — плюнуць і расцерці. Мне апраўданне трэба і сёлета, і за будучы год. Не будзе рыбы — будзе акт. Зразумеў? А цяпер — ідзі, тут напрамкі якіх-небудзь дванаццаць кіламетраў.

— Гэта не аргумент.

— Ідзі, аргумент,— Карп Карпавіч зноў набыў маладосць, і мажнасць, і ўпэўненасць,— ідзі і памятай яшчэ аб адным: вады з майго возера я табе больш не дам. Ні кроплі не дам. Калі ёсць жаданне, можаш прайсці яшчэ дванаццаць кіламетраў і ўпэўніцца сам, там якраз будуць заканчваць, забіваць засаўкі на шлюзах каля канала.

— Гэта ж самаўпраўства.

— Згодзен, Мацвей.

— Вы... Вы парадокс.

— Я парадокс, Мацвей. Я стары і біты, цёрты, Мацвей, парадокс. Але гэты стары парадокс, Мацвей, ужо, лічы, пятнаццаць гадоў запар трымае пераходны сцяг вобласці.

— Трымаў. Можаце лічыць, што больш яго ў вас няма. Вайна дык вайна.

— Будзем ваяваць, што зробіш, калі ты мірам не хочаш зразумець мяне. Паваюем.

І гэта было сапраўдным абвяшчэннем вайны. І ў таго і ў другога міру заставаўся адзіны толькі тыдзень. Ён скончыўся — і загрымелі выбухі. Мацвей пачаў бурыць пабудаванае ім жа. А цяпер ён быў рады, што да хаты дванаццаць кіламетраў. І кожны кіламетр з гэтых дванаццаці ён будзе адзін, можа расслабіцца, аддацца журбе, што, як воўчая ягада, крушына, спела, налівалася і злавалася ў ім, таму што ён аніяк не мог жыць так, як хацеў бы. Не мог жыць, як жылі Махахеі, Бараздыкі, той жа Карп Карпавіч Бобрык. Здарылася няшчасце ў Бобрыка — ён адразу ж пераклаў тое няшчасце на чужыя плечы. А ў Мацвея так не атрымлівалася. Усё сваё — і добрае, і благое — нёс сам. Жыў і ішоў па жыцці і ніяк не

мог выбіцца на свой круг. Пачынаў кожны раз з нуля, і нуль гэты кожны раз здаваўся яму кругам, тым галоўным, дзеля чаго толькі і варта было жыць, на што не шкада было жыцця, толькі разганяўся ў рай, як адразу чорт за ногі — і ў пекла, і атрымлівалася, што быў ён не на крузе, а на нейкім кружочку ці адгалінаванні нават ад гэтага круга. Нібы ён аднойчы, у якім годзе — невядома, ухапіў паветра, колькі здолеў, ды і не выдыхнуў яго, хадзіў распёрты, стойваючы дыханне, спадзеючыся, што выдыхне, пазбавіцца ад гэтага паветра, калі ўсё ўвойдзе ў сваю каляіну, набудзе размеранасць і раўнавагу. Але гэтага якраз ніколі і не ставала. Адно набягала на другое, і ён мусіў яшчэ больш прытрымліваць дыханне, жыць напаўздых, недзе пасярэдзіне паміж тым, што адыходзіла і што наставала. І абрысы таго, што адыходзіць і настае, заўсёды былі вельмі размытымі і цьмянымі, жыццё заставалася неадчувальным, і не жыццё, пэўна, ■ толькі абрысы яго, штрыхпункцір дзён і начэй ад адной справы да другой, ад клопатаў сённяшніх да клопатаў заўтрашніх, якія ніяк не звязаны паміж сабой і паміж тым, што адыходзіла ці то ўжо адышло ў мінулае. А землякі яго жылі зусім інакш, не тоячы дыхання і не ведаючы той абочыны, якая ўвесь час не давала спакою, праследавала яго. Той жа самы Махахей, які пачынаў яшчэ ў пору яго, Мацвея, дзяцінства, конюхам і цяпер як бы завяршаў пачаты ім даўным-даўно круг, вярнуўся зноў да сваіх конікаў. Хаця тых конікаў у Княжборы заставалася раз-два, і ўсё. І была ім адна дарога — на мясакамбінат. Ён, Мацвей, ужо даў каманду адправіць конікаў на мясакамбінат, ніхто іх цяпер за сілу ў разлік не браў і наогул за нешта жывое і карыснае не лічыў. Даручылі іх Бараздыку, той і забыўся, і маеўнічалі яны ўсё мінулае лета і восень, лічы, беспрытульна, мясілі пясок на выгане за Княжборам, пакуль не знаходзілася добрая душа і не адганяла іх ад вёскі, з пяску, на траву. Восенню, ужо не толькі з голаду, але і адчаю, пэўна, раскапалі капытамі яны бурт з бульбаю, што ваўкі, кінуліся ў шкоду. Вось тады і загадаў ён: конікаў — на мясакамбінат. Але Махахей заступіўся за іх:

— Пакінь, Мацвей, конікаў, што за вёска без конікаў. А Княжбор мо ж то яшчэ вёска.

І ён пакінуў іх Махахею, пашкадаваў не столькі коней, колькі таго ж Махахея, згадаў, як праводзіў некалі ноч і сам каля тых жа конікаў, нешта ўсё ж вельмі добрае было ў тых дзіцячых начах каля цяпельца, нешта чыстае і свежае, хаця і зябкае, нешта адчынялася яму тады ў Княжборы і Махахею, ды так дарэшты і не адчынілася. Пайшоў ён ад Княжбора, коней і конюха Махахея. Здаецца, адным днём кінуў-рынуў усё і пайшоў, паскакаў на Бялянцы, палахлівай кабылцы, дачцэ камандзірскага выязнога жарабца, якога пакінула калгасу воінская часць, што вызваляла Княжбор ад немцаў. Жарабец той акульгавеў, пакуль дайшоў да Княжбора, а пад Княжборам яго яшчэ і куля адзначыла. І хацелі яго ўжо прыстрэліць, але бабы заступіліся: вайна яго хоць і пакалечыла, а ўсё ж ён конік, мужык. І ў аглоблі, і ў плуг можна, усё ж не на сабе ці на карове араць. Кульгавага таго жарабца, што так цвёрда і не стаў на ногі, разадралі потым ваўкі, але ён паспеў усё ж пакінуць патомства — Бялянку. Яе і ўзяў, калі вярнуўся з фронту, пад свой пачатак Цімох Махахей. Ад той Бялянкі павяліся і пайшлі ў Княжборы коні. Да іх і вярнуўся зноў цяпер Махахей. І, заўсёды абкружаны дзецьмі, што невядома адкуль і з'явіліся ў Княжборы, быў шчаслівы, бы сам памаладзеў. І Мацвей, старшыня калгаса, зайздросціў яму, зайздросціў свайму конюху, зайздросціў чалавеку, які стаў конюхам толькі дзякуючы яму, яго літасці. Кожную хвіліну ён мог змяніць гэтую сваю літасць на гнеў, пакінуць Махахея без нічога, але той, здавалася, не разумеў гэтага і не думаў аб гэтым. У яго была работа, справа, дзесятак-паўтара карослівых конікаў. І ён услугоўваў гэтым конікам, не прызнаючы над сабою яго, Мацвеевай, улады, ні яго літасці, ні яго гневу. Мацвей спачатку тлумачыў усё гэта простасцю жыцця, яснасцю клопатаў і турбот, іх аднаскіраванасцю. Але цяпер, шыбуючы ад сажалак рыбгаса і свaёй азіміны, разумеў, што гэта не тлумачэнне. Не проста было пражыць і пракарміцца конікам у яго гаспадарцы, у новым Княжборы, як, пэўна, не проста пражыць і пракарміцца кожнай жывой істоце і кожнаму чалавеку, што жыве на зямлі. Куды прасцей памерці, не жыць зусім, зусім нічога не рабіць. Стаяў Княжбор некранутым, і не ўсё было проста ў той яго пер-

шастворанай некранутасці. Былі балоты, была вада — вялікая бяда. Вялікая, але не смяртэльная, княжборцы ўжо звыкліся з ёю. Па-сапраўднаму нядобра было не княжборцам, а камусьці іншаму, другому ці трэцяму, што жыў далёка ад Княжбора, каму кожны год запазычваў Княжбор, таму што зямля, занятая пад вёскаю балотамі, гуляла. Асушылі балота, і той другі ці трэці атрымаў свой кусок хлеба. Але зрабілася невыносна рыбіне, і не толькі рыбіне, а і самому княжборцу, яму, Мацвею, таксама невыносна. Як жа прымірыць усіх і ці магчыма такое. Ці магчыма, каб было адначасова хораша жабе і буслу, які тую жабу паядае. Дзе і як можна знайсці такую раўнавагу і такое міралюбства. Ці будзе калі-небудзь так на зямлі, і калі ніколі не будзе, дык ці варта наогул жыць на гэтым свеце. Ці будзе яму, Мацвею, на зямлі, якую ён пераніцаваў, так хораша, як хораша Махахею каля яго конікаў. І чаму Махахею каля конікаў хораша, а яму ў крэсле старшыні не надта? Не ў коніках жа справа. А ў чым тады, у чым? Не ў тым жа, што конюху проста, а старшыні ўсё складана. Усе б кінуліся ў конюхі, толькі ж нешта ж не кідаюцца, лезуць у старшыні больш. І конюх, і старшыня — людзі, і зямля, на якой яны жывуць,— адна, адзін яны хлеб спажываюць, адным паветрам дыхаюць. Але конюх сёння вечарам, як і ўчора, як будзе і заўтра, і паслязаўтра, збярэ каля сябе хлапчукоў. Яны прыйдуць да яго ўжо са сваімі аброцямі, таму што аброцяў сёння на кожнага калгаснага коніка ўжо не хапае, зацугляць конікаў, што прыгледзелі сабе загадзя, і з гікам і свістам памчаць па вясковай вуліцы. І Махахей будзе калывацца адзаду іх на сваёй ужо амаль што сляпой Бялянцы, глытаць пыл і ўсміхацца, гледзячы, як заходзіць сонца, на распушаныя хвасты і грывы коней, што скачуць у гэтае барвовае сонца. А яму, Мацвею, наканавана зусім іншая дарога. Яму трэба недзе здабыць толу ці дынаміту, хаця гэта не праблема, гранітны кар'ер побач, і там толькі і чуваць выбух за выбухам. Галоўнае, яму наважыцца на гэты свой выбух. І ён ужо амаль што наважыўся.

А дома чакала яго Надзька. Убралася ва ўсё новае, прычоску навяла «полюби меня с разбега», а стаяла сярод гармідару за гародамі, дзе толькі па-

заўчора яшчэ было балота, а цяпер зеўрыла пашчу прамыіна.

— Ты як на вяселле прыйшла запрасіць мяне, Надзюха.— Мацвей паспрабаваў пажартаваць, але адчуў, што жарту не атрымалася, не той настрой быў у яго і ў Надзькі, пэўна, хаця Надзька і мацавалася, спрабавала яму нават усміхнуцца, але вусны ж і выкрылі яе, папаўзлі, задрыжалі.

— На вяселле,— прамовіла яна.— На вяселле, Мацвейка.

— З Васькам?

— Ды не, Мацвей, на наша з табою вяселле,— і азірнулася спалохана, ці не бачыць яе хто, ці не чуе хто яе гэтых слоў. Бачыць іх з суседніх хат, канечне, бачылі, а чуць не чулі. Але Мацвей усё роўна прыцішыў голас:

— Гэтым не жартуюць, Надзька.

— Так табе ўсё гэта толькі жарты, і тое, што я перад табою стаю,— гэта толькі жарт.

— Я сур'ёзна з табою, Надзька.

— Вох, якія вы ўсе сур'ёзныя, кранущца можна. Што, не падыходжу, тавар не падабаецца? — І Надзька задрала галаву, заклала назад рукі, крутнулася, як танцуючы ўсё роўна вакол Мацвея. Ён заплюшчыў вочы, каб не бачыць яе. Мо і на самай справе гэта выйсце: узяць Надзьку і знікнуць адсюль назаўсёды, хай судзяць, абгаворваюць, што яму да чужых языкоў, ён будзе ўжо не адзін і далёка. Мацвей адчуў: яшчэ імгненне — і так яно і здарыцца на выратаванне ці на пагібель яму і Надзьцы. Хутчэй за ўсё — на пагібель, не яму, Надзьцы на пагібель.

— Спыніся, Надзька,— не адплюшчваючы вачэй, умольна прамовіў Мацвей.— Яшчэ хвіліна, і будзе позна, ні ты, ні я не даруем сабе той хвіліны.

— Хвіліна, хвіліна, Мацвей, у цябе толькі і засталася адзіная. Ну, дзяўчына прапаноўвае табе руку і сэрца. Дурны, добры, харошы...

— Хопіць, Надзька...

— Хопіць, Мацвей. Сканала твая хвіліна, ды адплюшчы ты вочы, не бойся, не з'ем я цябе.— Надзька замоўкла, ледзь утрымліваючы слёзы. Перамагла іх, тупнула нагою.— Я перадумала. І не ўгаворвай мяне.

— Не буду, не буду. Ты малайчына, Надзька. Ты добрая, ты лепшая нават за Алену.

11 Зак. 2507

— А ты... чаму ты выбраў Алену?
— Таму што ты тады была яшчэ маленькаю... Калі ваша вяселле?
— Ты папракаеш мяне?
— Як я магу цябе папракаць, калі я і сам такі.
— Я люблю яго і...
— Не, Надзя, толькі яго.
— Ага, толькі яго,— ужо не хаваючы слёз, пагадзілася з ім Надзька.— Але вось у апошнюю хвіліну ўжо, калі дамовіліся аб вяселлі, падумала: як гэта так, толькі ён і нікога болей. Толькі Васька на ўсё жыццё. Ты разумееш мяне? А на вяселле прыйдзеш? Вяселле ў нядзелю.
— Разумею, але на вяселле, Надзька, даруй мне, не прыйду.
Але на вяселле яму ўсё ж давялося пайсці, нельга было не пайсці, хаця ён, калі папраўдзе, баяўся ісці. Баяўся і самога вяселля, і сустрэчы на ім з сястрою Надзькі, Аленаю. Упрасілі Барздыкі з Махахеямі. Яны таксама доўга судзілі-радзілі між сабою: быць ці не быць яму на тым вяселлі, спыніліся на тым, што не быць — немагчыма. Што гэта за вяселле, калі на ім няма старшыні калгаса. Больш таго, Барздыкі настоялі, каб не хто-небудзь іншы, а менавіта ён, Мацвей, і выкупляў нявесту ў Махахеяў, на тое яны мелі свой разлік, і пайсці насуперак ім Мацвей не наважыўся, маглі б палічыць яшчэ і за скнару. А Алена на вяселле сястры не прыехала, ведала, што не абмінуць тады сустрэчы з ім, адбілася ад гэтай сустрэчы тэлеграмаю. Яму паказалі тую тэлеграму, каб больш у яго не было аніякіх адгаворак. І ён пагадзіўся быць на вяселлі і выкупляць Надзьку пагадзіўся, каб быць на людзях. У тую нядзелю так трэба было яму.

## ЖАЛЕЗНЫ ЧАЛАВЕК

Лесвіца служыла пераходам, спускам з адной вуліцы на другую, а Мацвею здавалася, што ён спускаецца на той свет. З кожным крокам, з кожнаю прыступкаю сціскалася сэрца і вузей рабілася неба над галавою і патыхала вільгаццю, затхласцю і тленам, няўлоўнымі, перамешанымі пахамі людзей, што прайшлі, прабеглі і праскочылі на машынах тут, у бяс-

концасці дня, і згубіліся ў каменнай неахопнасці горада, супакоіліся да світання. Але асфальт і трапецыі зямлі з абодвух бакоў ад асфальту ўвабралі і захоўвалі яшчэ ў сабе прысутнасць гэтых людзей, што хапатліва прайшлі тут учора. Іх крокі, уздыхі і думкі. Ліпкі гарадскі дожджык, што накрапваў звечара і зараз, спрыяў таму, ён прымінаў усё, ад чаго спрабавала пазбавіцца ў начной цішы вуліца, што яна хацела адрыгнуць, каб з усходам сонца і надыходам новага дня аднавіцца і самой, быць бадзёраю і свежаю, як само сонца. Дожджык не дазваляў ёй гэтага, ён уціскаў, убіваў усё гэта лятучае, едкае, аджытае ўжо, як у сіласную яму, ў асфальт і ў зямлю. І Мацвею здавалася, што ён чуе крокі ўсіх тых людзей, што прайшлі тут даўно ўжо, бачыць іх, пазбаўленых ценяў, іх адзенне і тое, што яны трымаюць у руках. Чуе і бачыць не толькі цені тых, хто праскочыў тут толькі ўчора: «на Немиге снопы стелют головами, молотят цепами булатными. На току жизнь кладут, веют душу от тела. Немиги кровавые берега не добром были засеяны, а засеяны костьми русских сынов». Вось гэтае поле, гэтае ворыва і бачыў перад сабою Мацвей. Ён ішоў ужо па Нямізе, ведаў, што недзе тут, закутая ў бетон, б'ецца, дыхае перагарам бензінавых дня і ночы. І веданне гэтае было непрыемным, нешта драпала і скрабло душу, нібы шкло рэзалі перад ім. Рэзалі ўсю ноч, і ўсю ноч сыпалася белая, што пудра, крошка і выскаквалі з-пад таго разца, што ледзяшы, вельмі маленькія асколкі, і былі яны тут тымі ж самымі белымі касцьмі, што некалі засеялі Нямігу. З тых жа касцей, як зноў жа падавалася Мацвею, і выраслі гэтая вуліца і гэтыя дамы на ёй, таму і выглядалі нячыста. Нячыстым, з брызганнем і брынканнем, быў яўна чутны Мацвею даўно звон булата, які змоўкнуў даўно. То званілі начныя познія трамваі, але Мацвей хацеў чуць звон булата і чуў.

Гэта была дзіўная ноч. Ноч, у якую спраўджвалася ўсё, што б ён ні пажадаў, і адначасова — усё і рушылася. Пажадаў трапіць на Нямігу — трапіў, хаця ніколі на ёй не быў і не ведаў, дзе яна знаходзіцца. Але нехта невядомы яму як узяў яго за руку, павёў, скіраваў. Спачатку, праўда, вымусіў яго забыць пра ўсё на свеце, як апусціў яго ў холад і змрок, давёў да небыцця. Ён прыкархнуў, уладкаваўшыся на пада-

конніку на вакзале. Грэбуючы, моршчыўся, удыхаючы пах хлоркі, плішчыўся тварам, шчакою і носам, у шкло, ловячы праз аконныя шчыліны свежае паветра, а разам з гэтым свежым дыхаў і нясвежым.

І, ачмураны гэтым свежым і нясвежым, вакзальнаю амбрай, непрыкметна ўпадаў у нейкі ідыёцкі стан — напаўжывёлы, напаўчалавека, калі ўсё было напаўявай і напаўтрызненнем, бачыў і не заўважаў бясконцае мужчынскае і жаночае шэсце людзей з прыбіральні і ў прыбіральню. Бачыў, як у беспамяцтве, спачатку чаргу ў прыбіральню, калі гэтую прыбіральню закрылі на перапынак, перападлік ці сангадзіну, а потым і бойку з-за таго, што гадзіна тая была вельмі доўгай. І нехта з вакзальнага люду пачаў ламаць дзверы. Дзверы прыадчыніліся, у шчыліне паказаўся вялізны кулак і, што молат, упаў на ґалаву таго, каму ўжо было няўсцерп, хто ламаў дзверы. Чалавек той зароў, пацягнуў на сябе дзверы і заскочыў у прыбіральню, там усчалася нейкая валтузня, важданіна, нешта дзынкнула, упала, бразнула, чмякнулася і лузнула. І міма Мацвея, паловы яго твару, аднаго вока, скіраванага на перон, прамчаў дзяцюк з венікам у адной руцэ і бутэлькаю віна ці гарэлкі — у другой.

Прымроілася ўсё гэта Мацвею ці было на самай справе, ён не мог адказаць сабе з пэўнасцю, таму што хоць і ў дрымоце, але ўсведамляў ён яшчэ сябе. І памятаў: такую бойку ён наглядаў ужо, толькі не тут. І даўно тое было і наўрад ці магло паўтарыцца, толькі, напэўна, так вось, у бяспамяцтве, хаця і бяспамяцтва гэтае было вельмі ж яўным і красамоўным. І ў гэтай прывіднай рэальнасці ён раптам адчуў, што хоча бачыць Алену, што калі не пабачыць яе, то мо і сканае. Вось тут і з'явілася рука, Аленіна рука, выразна тавальна белая і чыстая, працягнулася да яго з неба, з зоркі нейкай. І ззяла, зіхацела яна, што зорка, свяцілася ласкаваю пяшчотаю, сляпіла вочы беллю зборчатага рукава кофтачкі. Ён пацягнуўся да гэтай рукі, а яна раптам на яго вачах пачала жоўкнуць, і кіпцюры пачалі расці, імгненна зжоўкла і кофтачка. Зжоўкла і знікла, замест яе з'явілася сукно, рукаў вайсковага шыняля, здаецца, трохі і прапалены каля абшлагоў. І рука ў тым абшлагу не была ўжо больш жаночаю, але і мужчынскаю не была, жалезная то

была рука, і невядома каму належала яна. Па ўсім, яна доўга праляжала ў зямлі, у торфе, торф быў на ёй, і ржа паела яе. І холадам, што з лядоўні, дыхала ад яе. Рука яшчэ не дакранулася да Мацвея, і ён ужо абліўся ўвесь халодным потам, яго аж калаціла, зуб на зуб не пападаў ад холаду і спалоху. Бачыў ён ужо гэтую руку, ведаў яе прывычкі. Яна прыходзіла ўжо да яго, і таксама ў сне, перад тым як ісці яму ў армію, калі ён быў яшчэ шчаслівы каханнем Алены, жыў у Княжборы разам з дзедам Дзям'янам. Ён і прачнуўся тады, захлынуўшыся ўласным крыкам. Крыкам гэтым пабудзіў і дзеда Дзям'яна. Той доўга распытваў яго, як ды што было ў тым яго сне, доўга маўчаў, гледзячы ў змрок, а потым, калі ўсё вымаўчаў ці нагаварыўся сам з сабою, сказаў і яму:

— Кладзіся і спі спакойна. Больш яна не прыйдзе.

Прыйшла. Кінуўся ад яе, але акно, шкло перашкодзіла яму ўхіліцца. Рука, кашчавая і халодная, што лёд, ухапіла яго і стала гнясці яго, нішчыць холадам. Мацвей не здолеў і варухнуцца, як не меў ён ні рук, ні ног. Ён і не спрабаваў асабліва варушыцца, хоць і былі ў ім яшчэ нейкая моц і дужасць, што, калі б ён намогся, нядоўга, а ўсё ж процістаялі б яны моцы той рукі. А чаго ты будзеш варушыцца, напінацца і высільвацца, ці варта супраціўляцца відавочнаму? Быў жа другі стрэл. Не падманвай сябе, не трэба. Па машыне, па скатах ты стрэліў толькі з аднаго ствала, а другі ствол і стрэл збярог, і свядома збярог. Ты здагадваўся, што гэта ён там, у кабіне, ты чакаў яго. І дачакаўся: як толькі ён скочыў з кабіны, ты і націснуў курок другога ствала. Свядома націснуў, хоць і меў на ўсведамленне гэтага толькі лічаныя секунды, долі секунды. Але да гэтых доляў секунды ты падрыхтаваў сябе загадзя. Мо яшчэ на вяселлі Ваські Барздыкі і Надзькі, а мо яшчэ і раней, там, у Свілёве, калі ўбачыў іх разам, як гналі яны з Ненене гусей, і табе падалася ў Надзьцы Алена, таму ты і бегаў усю ноч паміж магазінам і Чортаваю прорвай. І стрэліў ты ў гэтага Ваську Барздыку куды раней, яшчэ як толькі ён прыйшоў да цябе ў вагончык, а табе нечага было яму сказаць, таму што ты як голы быў перад ім. Але табе падпарадкоўваліся іншыя людзі, тэхніка падпарадкоўвалася табе, вось тэхніцы,

машынам і людзям, што залежалі ад цябе, ты і загадаў стрэліць па Ваську Барздыку, загадаў знішчыць, зруйнаваць маліннік. Ты ж нішчыў не толькі малінnік, ты ведаў, што нішчыў, хоць у гэтым прызнайся сабе. Вось таму і павінен сёння адбыцца суд над табою. За тое ўсё, а не толькі за стрэл адзіны, за гатоўнасць стрэліць у жыццё і жывое. А тое, што адбылося ноччу,— гэта ўжо дробязь, вынік толькі. Пракуратура закрыла справу. І Шахрай да гэтага не мае ніякага дачынення, хаця і падносіць усё як дабрадзейства сваё. Ну мо і сказаў слова, што тут такога. Тую ноч можна пазначыць табе і птушкаю выратавальнаю, улічыць, што тут маюцца «смягчающие обстоятельства». Ты змагаўся з «захватчыкамі», ты стаміўся ад барацьбы са «сцягачамі», але хто напладзіў гэтых захватчыкаў і сцягачоў, як не ты сам. Сам напладзіў і сам пайшоў распраўляцца з імі, нішчыць іх. І калі ты браў у рукі стрэльбу, хіба ж ты не ведаў, што яна зараджана і страляе? Усё на зямлі страляе, і мёртвы можа забіць жывога. Ты ж зразумеў гэта, зразумеў даўно. Так гэта, усё тут папраўдзе? Усё тут папраўдзе, прызнаў Мацвей, здаючыся холаду, моцы дужай рукі, што ўхапіла яго за глотку. Потым было чорнае забыццё, доўгае ці не, ён нічога не можа сказаць; пасля яго, ці то яшчэ знаходзячыся ў тым забыцці, Мацвей споўз з падаконніка, выйшаў з вакзала і пакрочыў ад яго прэч маўклівымі начнымі вуліцамі, пакуль не выбіўся на адну прамую вуліцу і не папатрапіў на горад у горадзе. Але горад, у які ён папатрапіў, быў зусім не падобны на той, сапраўдны, рэальны, які быў здаровы і спакойна адпачываў, а гэты ж не спаў і пакутаваў, быў гнойна запалены. У адзіным толькі дамку, праўдзівей кажучы, нават у паграбе, не ведалі пакут, там, дзе сабраліся тыя, што ўжо адмучыліся, ціхія і прасветленыя, што пазбавіліся ўрэшце ад свайго крыжа. Недзе паміж гэтымі, што пакутавалі і ўжо адпакутавалі, знаходзілася і яго Алена. Ён адчуваў яе прысутнасць, таму што нёс у сабе пах яе рукі, што з'явілася яму да лёду і холаду, і гэты пах скіроўваў яго да будынка, у якім знаходзілася Алена. Але ў той будынак ён не наважыўся зайсці, сеў на лаўку каля дзвярэй і загадаў: выйдзі. І Алена выйшла да яго, у той самай, знаёмай ужо яму, батыставай блузцы, што выбівалася з-пад

белага халата, у чорнай кароткай спаднічцы. Выйшла, спынілася ў дзвярах:

— Хто, навошта ты з'явіўся? Я не хачу ведаць цябе, ты памёр ужо.

— Я не мог памерці. Княжбор славуты сёстрамі міласэрнымі. Спакон веку княжборскія дзяўчаты сыходзілі ў горад медсёстрамі.

— А хлопцы — у салдаты.

— А іх нявесты выходзілі замуж за другіх салдат...

— Таму што іх жаніхі забывалі пра сваіх нявест. Паўгода не абазвацца...

— Я спазніўся толькі на адзін дзень.

— На ўсё жыццё,— сказала Алена. Яна не прыняла яго слоў. Мацвей адчуў гэта па тым, як яна пачала зябка хутацца, захінацца халатам, што не грэў і не мог сагрэць яе. Не змог і ён сагрэць яе сваімі словамі. Алена стаяла перад ім, што каменная, што статуя. І статуя гэтая пачала аддаляцца ад яго, мармур яе шчок пачаў цьмянець і расплывацца. Ён так і не паспеў добра разгледзець яе твар, ён унікаў яго позірку, як унікаў заўсёды, нават калі цалаваў ён яе, твар Алены заставаўся схаваным ад яго, тварам роднай, але адначасова і незнаёмай яму жанчыны, адкрытым і ясным, здавалася, адрачоным ад усяго, што не датычылася яго і яе. Сябе і сваю Алену, бясхмарнае будучае жыццё бачыў і чытаў ён на яе твары і ў той жа час цень нейкі, што прабягаў хутка і чорна, як цёк чорнай крыві. І гэты цень імгненна пераўтвараў Алену, яна імгненна рабілася чужою і далёкай, як бы пакідала яго, адыходзіла некуды. І так было не толькі з тварам Алены, але і з тварамі многіх іншых людзей — княжборцаў, якіх ён добра ведаў, і з тварам самога Княжбора. Яны таксама часамі ўнікалі яго, і не толькі цень хаваў іх, яны самі хаваліся, і вельмі надзейна, немагчыма было нічога і згледзець, як на сем замкоў замыкаліся. І калі часам Мацвею шчасціла адамкнуць шэсць з іх, то сёмы, як правіла, заставаўся неадамкнёным, не падыходзілі ні ключы, ні адмычкі.

— Куды ж ты, Алена? Куды ж ты зноў? Я так доўга ішоў да цябе. Я зараз табе ўсё раскажу. Адкрыйся мне толькі, пакажы свой твар. Пакажы мне толькі вочы! — закрычаў ён, разумеючы, што нічога

не здольны ні расказаць, ні растлумачыць. І не пабачыць яму твару Алены, раней жа трэба паказаць свой твар, а яго няма, няма, дый годзе, ён у цяні, ён расцёкся ценем. Раней за ўсё трэба растлумачыць ёй свой характар, расказаць ёй усяго сябе, расказаць пра тое ліхаманкавае нецярпенне, што авалодала ім, калі ён служыў апошнія паўгода ў арміі. Ён жа і з-за яе апошнія паўгода, можна сказаць, і не служыў, а бесперастанку, суткамі чысціў бульбу на кухні, мыў падлогу ў казарме і прыбіральні. Жыццё яго тады складвалася і вымяралася толькі колькасцю бульбы, якую ён пачысціў, бясконцаю стужкаю лушпаек, было спрэс адно нецярпенне: вось-вось выйдзе на складзе бульба — і ён пашыбуе дамоў. Але бульбы на складах салдатам было назапашана ўволю, нецярплівасці ў ім таксама не памяншалася. Ён не мог пазбавіцца яе, патраціць яе ні ў арміі, ні потым, калі ўжо звольніўся з арміі і апынуўся замест дому ў Сібіры, а потым у Казахстане, яна гналася за ім і некуды гнала і яго, калі ён скончыў вучобу, пайшоў працаваць, стаў меліяратарам. Ён быў хворы на нецярплівасць, яго не навучылі чаканню, усё карцела скончыць не марудзячы, імгненна, імгненна адслужыць, імгненна пабудаваць плаціну, узняць цаліну, апынуцца каля Алены, імгненна знішчыць балоты, імгненна вывесці калгас у лік перадавых, не аглядваючыся і назаўсёды імгненна пазбавіцца ад захватчыкаў, сцягачоў, і не толькі ад іх — ад усяго, што здавалася яму непатрэбным, недарэчным, што толькі блыталася пад нагамі,— ад Барздык, Махахеяў, Шчуроў, Ненене. Імгненна перарабіць іх і толькі тады дазволіць сабе перадыхнуць і азірнуцца. Але перадышкі не выпадала, адно чаплялася за другое. Усё было ў нейкім ідыёцкім зачапленні шасцерняў, а сам ён, выдавала на тое, быў толькі пяском у гэтых шасцернях, што круціліся і пераціралі яго, прабуксоўвалі з-за яго.

Ён быў хворы і сам быў вінаваты ў гэтай хваробе, бо замоўк, захацеў праверыць Алену, не азваўся на яе крык, а яна ўмольвала яго адгукнуцца. Ён жа не толькі не адгукнуўся, а недзе і ўсцешаны быў, што яна крычыць, думаў, што гэта і ёсць мужчынская цвёрдасць характару, а аказваецца — гэта і была бесхарактарнасць, ён забіў маўчаннем усё, што было між

імі. І, забіўшы, застаўся адзін. І цяпер крычаў у адзіноце Алене, ценю яе:

— Сястра, сястра міласэрная мне трэба,— гнаўся за ценем, умольваў яго пусціць у гэты гаючы будынак, у якім спяшалася схавацца Алена. Але Алена стала на парозе і не пусціла яго.

— Тут няма збаўлення. У гэтым корпусе аддзяленне ракавых.— І Алена схавалася за дзвярыма, пастаяла там, каля дзвярэй, аддыхваючыся, сутаргава ўчапіўшыся за ручку, і пабегла па лесвічным маршы на другі паверх.

— Пачакай,— закрычаў ён амаль у адчаі.— У Княжборы быў адзін яшчэ і меліяратар.

— Краіна ганарыцца ім.— Рэха данесла да яго голас Алены. І Мацвей са здзіўленнем выявіў, што гэты цень, гэты голас і рэха і ёсць сам ён, адчуў у сабе мноства іншых жывых і нежывых істот: трактарыста Сюськіна адчуў і вогненнае дыханне яго трактара пачуў, Алену, Шахрая і Жалезнага Чалавека разам з Галоскаю-галасніцаю. І быў ён ужо на Нямізе, каля некалі крывавых яе, а сёння проста ў мазуце берагоў, сам пажадаў апынуцца сярод гэтых берагоў, а трохі яго падагналі тыя, што ажылі ў ім. Яны гаварылі з ім усе разам, і Мацвей гаварыў адразу з усімі імі, разрываўся на голас і шэпт, раставаў у гэтым голасе, крыку і шэпце, у звоне булатных мячоў пасярод даўняй крывавай сечы. І ў яго ўжо ў самога ў руках быў булатны меч, і біўся ён тым мячом папераменна то з самім сабою, то з трактарыстам Сюськіным, то з яго трактарам, то з Шахраем і выгаворваў Шахраю:

— За што ты на мяне з мячом, я ж толькі копія твая, я ж толькі паўтарыў цябе.

І словы гэтыя яго прызначаліся зусім не Шахраю, Мацвей усведамляў гэта, усведамляў, што ўсё вакол яго толькі цені прывідныя, спараджэнні прывіднай ночы, і ўсё, што ён цяпер гаворыць, гаворыць толькі сабе і толькі праўду. Вялікую і страшную праўду, на якую не адважваўся раней, у якой баяўся прызнацца сабе наяве. Ён паўтараў усіх, каго бачыў і з кім сустракаўся, рабіў і жыў. Браў у аднаго прывычку, у другога слоўца, а ў трэцяга і характар. Іншы раз хапаў сябе за руку, за язык, лавіў сябе на крадзеным, саромеўся, баяўся: а раптам ды выкрыюць, здагадаюцца, што ўвесь ён замешаны і ўчынены, злеплены з чужой, кра-

дзенай гліны, і нішто з таго, што мае ён, што ёсць у ім, яму не належыць, усё запазычана, а сваё ці забіта, ці прыхавана ім, каб не выглядаць недарэкам, смешным, каб быць падобным на іншых, не вытыркацца лішне, толькі падобным. Але ніхто — ні сябры і ні ворагі — ні аб чым так і не здагадваліся, а калі здагадваліся, то маўчалі, мо таму і маўчалі, думаў Мацвей, што і сам ён рабіў таксама. Ён жа таксама цягнуўся да непадобных на яго людзей, абвалакваў і дападаў да іх і спажываў гэтае іх непадабенства, розніцу і кідаў. Шукаў новых, каб дапасці да іх і выціснуць усё, што трэба яму ад гэтых новых. Мо так на зямлі было заўсёды: толькі бясконцае паўтарэнне ў тысячах копій і варыянтаў, у самых неймаверных спалучэннях, і таму мала хто быў здольны знайсці і зразумець гэтыя спалучэнні, людзі здаваліся самі сабе кожны раз непаўторнымі і новымі. А на самай справе нічога новага не было, усё тое ж, што і ўчора. Тут Мацвей падыходзіў ужо да нечага страшнага. Падыходзіў і кожны раз спыняўся, баючыся апынуцца за мяжою дазволенага яму, хаця і здавалася, што яму ўсё было дазволена, спаганяў раздражненне і пудлівасць сваю ў працы. Але калі і гнуўся, рабіў, не пакідала яго спакуслівая думка, што ўсё гэта хлусня, быццам кожны чалавек нечаму вучыцца, што кожны чалавек — новы. Ён усё ж копія, паўтарэнне некага іншага, і не заўсёды ўдалая копія, паўтарэнне, вядома ж, копія ёсць копія, таму і з жыцця чалавека кожную хвіліну нешта адыходзіць, пакідае яго незваротна ўжо. Так, ён робіцца з кожнаю хвілінаю ўсё больш магутным, але ў той жа час як бы не ўласна ён, не асабіста чалавек робіцца больш магутным, і не толькі за кошт назапашанага ў ім вопыту і бясконцага паўтарэння пакаленняў, не за кошт таго, што яму даравана прыродаю, акружае яго і створана для яго ж і па адных і тых жа законах, на якіх гэтая прырода потым стварыла і яго, а дзякуючы свайму вынаходліваму мозгу, той усёпранікальнай вынаходлівасці, з якой ён кінуўся падпарадкоўваць сабе гэтую прыроду. У той жа прыродзе, у дрэве, рацэ, у бляклым воблаку, як у ім самім, як і ў чалавечай прыродзе, было прыхавана вельмі ж шмат ужо розных нечаканасцей. Ён стаміўся ад іх, як стаміўся ўжо недзе пазнаваць самога сябе, і таму, развітаўшыся з ілюзіяй ства-

рыць і ўтаймаваць самога сябе, кінуўся тварыць і ўтаймоўваць прыроду, стварыў свой машынны свет, які б падпарадкоўваўся толькі яму і ў якім усё было проста і зразумела, з чаканымі і нават запланаванымі нечаканасцямі, з абмежаваным спалучэннем варыянтаў, якія можна было і ўлічыць. Да ўсяго ж машына не мела нічога прыхаванага, патаемнага твару, стоенага чалавека — твар і нутро яе былі адчынены ўсім. І ён палюбіў, пакахаў гэты непрыхаваны, створаны ім, нібы богам, твар і лічыў сябе богам, творцам. Стварыў машыну, а яна стварала ўгодлівы, зручны яму свет, не ведаючы боязі перад гэтым светам, не прызнаючы сумненняў і ваганняў, не думаючы пра стрыжнявое, сярэдзіннае, дзе і было сканцэнтравана ўсё зародкавае і ўсё існае, сам дух чалавечы. Чалавек нацкаваў на яго дух машыны, і яна ўварвалася туды і, заведзеная ўжо раз і назаўсёды, не магла спыніцца, патрабавала дзейнасці, не ведала стомы. І сам чалавек, яго дух ужо ўслугоўваў ёй, яна паўтарала чалавека ў горшых яго адбітках, яна паўстала супраць свайго ж творцы, пачала тварыць сама, яна таксама пажадала быць богам, стварала цяпер угодлівага і зручнага ёй уладара. Круг замкнуўся, сышліся канцы. І дарэмна Мацвей спрабаваў вырвацца з яго гэтай ноччу. Ён судзіў гэтай ноччу сябе не толькі сам, але і машына, якую ён запусціў у Княжборы, судзіла яго. Машына набыла голас, яна не прызнавала ўжо за ім права на самастойнасць, яна не дазваляла яму ні ўзбунтавацца, ні, хаця б часова, не падпарадкавацца. Шахрай знік невядома куды, мо ён таксама трапіў пад гэтую машыну, знік, і толькі чатыры словы засталіся ад яго: «А хто цябе прасіў паўтараць?» Мацвей спачуваў яму, яго горкай долі і паспешліваму заўчаснаму знікненню, таму што ён сапраўды высмактаў Шахрая, засвоіў яго цвёрдасць, непахіснасць, з якімі той ішоў у наступ на балоты, і яшчэ шмат іншага, шахраеўскага, што ён лічыў ужо сваім, што прырасло да яго, як прырастае да цела ўласная скура. Трактар, той самы, на якім некалі Сюськін па яго загаду пераараў маліннік, гнаўся за Мацвеем цяпер, гнаў яго берагам Нямігі, і бераг той быў не такім, якім яго зрабілі сёння людзі, а яшчэ некранутым, старадаўнім, калі не ведалі яшчэ нічога ні пра мазут, ні пра асфальт, ні пра тое, што ў будучым народзіцца трактар.

І Мацвею здавалася, што ён таксама яшчэ не нарадзіўся, у сваім стагоддзі і часе не нарадзіўся, а быў увесь у той самай пятніцы, калі яны «с зарания потопташа поганыя пълки половецкия». І, патапташа тыя по́лкі, святкуючы перамогу, ён сустрэў ворага куды больш страшнага, чым палаўцы,— жалезнае жаўтавокае страшыдла, дыхаючы агнём і смуродам, пачало насоўвацца на яго, і нідзе не было ад яго паратунку. Утробна завываючы, яно нідзе не давала яму спакою. «Тяжко ти головы, кроме плечю, злота, телу, кроме головы»,— крычаў ён, уцякаючы ад таго страшыдла ў дзень сённяшні. І тут, сёння, стаялі ў шэраг адзін за адным, невядома кім пастроеныя, усе пакаленні Махахеяў, Роўд-Дзям'янаў і Барздык-Чыгуноў. Ён хацеў прыбіцца да іх, схавацца сярод іх. Але ні Махахеі, ні Барздыкі, ні Роўды не падпусцілі яго да сябе, каменем паперлі яго прэч, хаця сярод Роўд былі і яго бацькі, і сам ён быў. Ён паспеў убачыць сябе, паспеў убачыць сум і жах, што ахапілі яго і адбіліся на яго дзіцячым твары. Ці не тады гэты сум назаўсёды ўжо апанаваў яго, ці не ёсць гэта сум і журбота па самім сабе, прадчуванне і веданне, што будзе ў яго жыцці такая жахлівая ноч, калі ўвесь свет уляжа, пагоніцца за ім. Веданне невыратаванасці. Таму ні маці, ні бацька не пажадалі прызнаць яго і схаваць яго, уберагчы ад таго страшыдла, што насоўваецца на яго. Маці, праўда, зрабіла крок насустрач яму, ужо распасцерла над ім і рукі, але бацька схапіў яе за рукі і не дазволіў дакрануцца ёй да сына. Ён быў такі, якім Мацвей бачыў апошні раз, перад тым як бацьку было наканавана пайсці ў Чортаву прорву, паўтарыць долю і лёс мужыка старой Махахеіхі, кінуцца ў прорву, каб выратаваць карову і патануць разам з той каровай: апрануты яшчэ ў вайсковае, не справіўшы яшчэ нічога цывільнага, не стрэсшы яшчэ з плеч вайну. Вайна была і ў яго вачах. Чаканне заканчэння вайны, таго дня, калі ўсё ж вернецца з фронту муж, было і ў вачах маці, здавалася, што яна толькі-толькі адсядзела ноч каля акенца, усю ноч углядалася ў дарогу, а цяпер апранецца і пачне жыць удзень дзеля яго, дзеля сына. Проставалосая, у сарочцы з кужалю, у той самай сарочцы, у якой яна была ў тую вераб'іную ноч, калі пайшла да свайго чалавека, ахутаўшы яго, напалоханага бліскавіцамі і громам, адрачоным бляскам яе

ашклянелых і, здаецца, чужых вачэй, коўдраю. «Іду, Антоне, іду...» І пайшла з гэтым шэптам у ноч і навальніцу назаўсёды, на апошняе і вечнае ўжо спатканне са сваім чалавекам.

— Я сын ваш,— сказаў ён гнеўна, разумеючы, што ад бацькоў яму сёння нечага чакаць падтрымкі.

Маці прыгнечана маўчала.

— А дзе магіла наша? — таксама гнеўна спытаў яго бацька.— Нам няма дзе і прылегчы, адпачыць няма дзе і на тым свеце.

— Але ж і ў Чортавай прорве ніхто больш не патоне і не захлынецца,— адказаў ён бацьку.— Няма больш Чортавай прорвы.

— Няма больш і сына ў нас,— і заламіла рукі, загаласіла Галоскаю-галасніцаю, пачуўшы гэтыя словы ад свайго чалавека, маці. І Мацвей замёр, уражаны гэтым яе галашэннем. Ён зразумеў, хто блукае і галосіць Галоскаю ўначы каля Княжбора і па кім тая Галоска галосіць, чыю правіну загладжвае яна, спрыяючы так людзям, лечачы іх дзяцей. Зразумеў і сам кінуўся прэч, насустрач жаўтавокаму страшыдлу. Але страшыдла ўжо не было, замест яго стаяў і чакаў Мацвея Жалезны Чалавек.

— Ты ж у Княжборы павінен зараз знаходзіцца,— сказаў яму Мацвей, бы яны былі даўно ўжо знаёмыя, ледзь не сябрамі былі.

— А я паўсюдна,— адказаў яму Жалезны Чалавек.— Ты зірні, паглядзі на мяне больш уважліва.

Мацвей паслухаўся, прыгледзеўся да Жалезнага Чалавека і пачаў паволі адступаць.

— Куды, куды? — скрыпуча пасміхнуўся Жалезны Чалавек.— Куды ты ад сябе дзенешся?

— Не, не можа быць, такога не можа быць,— адмаўляўся верыць сваім вачам Мацвей.

— Не можа быць і не будзе, канечне, калі ты жывеш без таямніцы, цуду і аўтарытэту,— усё такім жа скрыпучым механічным голасам працягваў здзеквацца з яго Жалезны Чалавек, сам жа ён, Мацвей, і не будучы і былы, а такі ж, якім быў ён зараз.

— Ты ж сам пажадаў, каб без цуду, таямніцы і аўтарытэту, вось перад табой і расчынілася ўсё. Дазволілася ўсё пабачыць і спазнаць.

— Я ж зусім не гэтага жадаў, хутчэй за ўсё меў на ўвазе зусім іншае, толькі не гэта.

— Ведаю,— запэўніў яго Жалезны Чалавек,— здагадваюся, хаця ты і хаваўся ад мяне, а больш ад самога сябе хаваўся. Хаваў душу, твар свой ад самога сябе, ад самага блізкага сабе чалавека, таму і няма каля цябе такога чалавека, няма. Але я пакажу табе твой твар.

— Не трэба.

— Трэба! Не паяднана высокае ў чалавеку з будзённым.

— Ты лжэш!

— Гэта ты лжэш! Нават тут, нават сёння, найвышэйшаму суду лжэш. Высока ўзнёсся, вышэй Шахрая нават. Ды што Шахрай... Ніякіх законаў, ніякіх меж не прызнаеш. У чалавекаў ужо, кажуць, пастрэльваць пачаў, дынамітам забаўляешся...

— Няпраўда, я не забаўляюся. Не забаўка то была, і не сабе ж я рупіў.

— А каму?

— Вось ім,—Мацвей паказаў на шарэнгі Махахеяў, Барздык, Роўд, што ўсё яшчэ стаялі непадалёку ад іх.

— Яны ж толькі што адказалі табе, трэба гэта ім ці не. Маці твая і бацька адказалі.

— Яны не ведаюць і не могуць яшчэ ведаць адказу. Адказаць могуць толькі жывыя, што ядуць хлеб, які даў я ім, дзеля якога выракся самога сябе, не пашкадаваў і сябе.

— За гэта якраз яны і судзяць цябе, таму што, выракаючыся сябе, ты здрадзіў, выракся і іх. І так кожны раз, выракаючыся нечага, ты выракаўся былога і пачынаў класці паклоны новаму, хлусіў, падманваў сам сябе. А калі пераадолеў у гэтым падмане сябе, угаварыў сваё сумленне, заспакоены, пачаў падманваць усіх іншых, усіх запар. І зараз ты стаіш на хлусні, на лжы.

— Не, на зямлі. І трывала, дзвюма нагамі.

— Зірні пад ногі сабе.

Ён стаяў на тым самым страшыдлу, трактары з жоўтымі фарамі, які ганяўся за ім. Трактар рабіў, але матор яго быў нібы загнаны, соп ціха і стомлена.

— Ён жа праг мяне задушыць, ён жа колькі ўжо стагоддзяў ганяецца за мною і дыхнуць не дае мне.

— Не ён цябе, а ты яго заганяў. Канечне, вельмі выгадна і зручна ўсё зваліць на яго. Ён не апратэстуе,

любую тваю правіну возьме на сябе. Але навошта тады ты, навошта? Ты ж нарадзіў яго, каб вызваліць рукі, а не душу. І няхай машына застанецца машынай, а чалавек чалавекам. І кожны адказвае за сваё: машына — за машыннае, чалавек — за чалавечае. А ты ж чалавечае перакладваеш на машыну, душу ёй сваю прыпісаць хочаш, грахі ўсе свае ўскладаеш на машыну, хаця быў і застаешся ты не толькі разам з ёю, але і над ёю. І табе за яе адказваць, а не ёй за цябе, таму як ты наперад яе на зямлі з'явіўся. Ты ўзяў зямлю ў першароднасці і квецені і без смецця і паскудства. Чыстымі былі туманы, вольнымі птушкі, пладзіліся жывёлы твае, пладаносілі дрэвы, яшчэ Княжбор дастаўся табе ў першароднасці і першастваранасці лясоў, рэк і крыніц, верхавых і нізавых балот, але ты кінуўся, улёг перарабляць яго, муляла вока табе першастваранасць, крануў ты неруш, крануў і сябе. І цяпер ужо тваё ўласнае дзіця, машына, створаная табой жа, і шкодзіць табе ж. Хутка ты сам сабе будзеш шкодзіць, ужо шкодзіш, ужо лішні сам сабе, імкнешся пераступіць і цераз сябе. Але я табе не дазваляю, не даю. І тваё шчасце, што ў цябе ёсць я, што пакуль яшчэ існую.

— А ты і на самай справе існуеш? Цябе можна і крануць, і памацаць можна?

— Памацай,— дазволіў Жалезны Чалавек. Мацвей пацягнуўся да з'едзенага ржою, як воспай пабітага твару свайго жалезнага двайніка, але хапіў толькі дрыжанне паветра і рогат пачуў:

— Намацаеш, скажаш і мне...

Мацвей ачомаўся, агледзеўся. Ноч была, і ён знаходзіўся ўжо не на вакзале, але і не на Нямізе, а ў нейкім асветленым ліхтарамі скверы, і да анямення пальцаў сціскаў чыгунную ножку ад лаўкі, на якой ляжаў, звесіўшы ногі долу. На лаўцы, што стаяла насупраць яго, таксама быў нехта жывы, і не адзін. І там, падобна на тое, таксама ішло мацанне, але ўжо не прывіднае і не жалезнае, а жывога хтосьці абмацваў. Ён не спяшаўся падымацца, перашкаджаць таму сапраўднаму мацанню, стаіўся і, здаецца, зноў абеспрытомнеў, толькі ўжо без трызнення, але і без размежавання сну і бадзёрасці, без выразных межаў паміж яваю і наплывамі туману. Ён бы плаваў у тым тумане, спрабаваў разабрацца, што гэта з ім адбыва-

ецца, як ён апынуўся ў гэтым скверы, ці сапраўды хадзіў ён да Алены і бачыў, гаварыў з ёю, ці гэта зноў толькі трызненне. І часам усё здавалася толькі трызненнем, а часам — не: бачыў ён яе, гаварыў з ёю. Наогул ці была ў яго Алена, хто яна такая. Ці не сон гэта, толькі жаданне мець нешта дарагое і светлае, сонечны праменьчык, за які можна было ўчапіцца, і ён бы не надламіўся, вытрымаў яго. Да гэтага праменьчыка, светлага і чыстага, ён, Мацвей, усё жыццё і імкнуўся, таму і прыдумаў Алену, а на самай справе ніхто ўжо не здольны выратаваць яго, няма і не было ніякай Алены... Няма і не было... І тут ён зноў убачыў перад сабой грозную руку, палец, які ківаў яму: сумнявацца сумнявайся, але не выракайся ад самога сябе, таму што пасля гэтага няма ўжо нічога, ёсць, ёсць Алена. «Ёсць, ёсць Алена»,— пераконваў сябе і Мацвей і аднолькава дзякаваў невядома каму, што Алена з'явілася яму ў сне, і таму, хто дазволіў пабачыцца з Аленай на самай справе. Адно, што ён не мог ніяк ні зразумець, ні асэнсаваць, ні калі знаходзіўся і ў разрэджанай прывіднай зыбкасці забыцця, ні калі цалкам на хвіліну-другую пазбаўляўся гэтага забыцця: як і чаму ён апынуўся на Нямізе. Ён жа і думаць не думаў аб ёй, ніколі не меў яе і ў галаве, не ведаў нават, здаецца, што Няміга тая самая цячэ па Мінску. І Мацвей пакутаваў, што хутка ўжо будзе світаць і ён сустракае гэтае світанне вельмі ж вінаваты: страляў ён усё ж у Ваську Барздыку. Хацеў ці не хацеў, то справа дзесятая, стрэліў, вось што галоўнае. А таму лепш было б, каб гэта ўжо і не развіднела, хай бы ён ужо назаўсёды застаўся ў гэтым змрочным скверы і ніколі больш не паказваўся на святло, на вочы людзям, таму што, калі прыйдзе дзень, ён яшчэ доўга не наважыцца паглядзець у вочы людзям, трэба нешта зрабіць, мо нават і ахвяраваць нечым, а чым — ён і сам не ведаў, каб глядзець людзям у вочы. Хоць сам ідзі да пракурора і прасіся, каб зноў падняў тую справу і завёў на яго. Шахрай думае, што ён баіцца адказнасці, і таму прыбег да яго. Не гэтага ён баіцца, а самога сябе, таго канчатковага тупіка, у які загнаў сябе, загнаў і галавы не прыкладзе, як з яго выйсці. А выходзіць трэба было. Ён загнаў, закаваў сябе і сваё сумленне ў браню і адчуваў, што адзін ён не здольны вызваліцца ад той брані. І на ўсім белым свеце ёсць

толькі адзіны чалавек, які мае сілы дапамагчы яму. Але да таго чалавека шлях заказаны. Але ж, з другога боку, хіба не дзеля гэтага ён і ехаў сюды, каб хоць на адлегласці адчуць яе. Толькі яна сама сказала, што ён, Мацвей, памёр для яе. А мо ён і на самой справе памёр. І, вырашаючы для сябе, жывы ён яшчэ ці ўжо не, і ніяк не наважваючыся прызнаць, што ўсё ж такі жывы, вымусіў сябе заснуць, і заснуць моцна, як спяць дзеці на світанні.

І прачнуўся ён, калі ўжо ўзышло сонца, з усмешкаю на вуснах, як прачынаюцца толькі дзеці.

Пачыналася раніца новага гарадскога дня. І была яна, як і вясковая, ружавашчокаю, толькі вельмі ж ужо гучнаю. Ручаямі і рэкамі наплывалі, хапатліва цяклі людзі, выбухалі вясёлым смехам дзяўчаты, прыкурваючы на хаду, тэпалі мужчыны. А Мацвей сядзеў на лаўцы, пазіраў то на ружовы раніцаю танк, што стаяў на п'едэстале, то на будынкі, што стаялі за ім. Ва ўздыбленым танку было нешта ад каня, што прыпынілі на поўным скаку, здавалася, танк гэты вось-вось сарвецца з свайго месца, зараве, загрукае ўсімі сваімі маторамі. Мо ён грукацеў і ноччу, спрабуючы сысці з п'едэстала, мо ён гэты танк і прыняў за трактар, кружыў каля яго і нідзе больш і не быў. Уночы ён здаваўся Мацвею страшным, а цяпер, наадварот, было ў ім нешта вельмі добрае, толькі трохі сумнае. Па алеі, апырскаўшы Мацвея, праехала палівальная машына. І адразу ж за плячыма ён пачуў, як джаліць і свішча ў траве каса. Касіў маладую траву хлопец, таксама малады, і нечым няўлоўна ён быў падобны на Брытана. Быў ён і апрануты таксама, як апранаўся Брытан: у джынсах, падпяразаных шырокаю папругаю з мноствам белых заклёпак, у стракатай каўбойцы, і патлаты быў, як той Брытан. Але ж затое касіў Брытан, упраўляўся з касою дай бог кожнаму, а гэты каўбой касіць не ўмеў, то садзіў касу на пяту, то дзёўб носікам яе зямлю. І ў людской плыні, што віравала перад Мацвеем, утварыўся раптам нейкі затор, збой нейкі намеціўся. Жанчыны як ішлі, так, не збаўляючы кроку, і працягвалі ісці, а з мужчынамі раптам нешта сталася, як некуды было ім больш спяшацца, забылі яны пра ўсе свае неадкладныя справы, вытворчасць сваю, праніклiся цікавасцю і ўвагаю да гэтага спракавечнага вясковага занятку. Прыпыніўся,

залыпаў вачыма, сочачы за ўзмахамі касы, спачатку адзін дзядзька, потым другі. І вось ужо гурт мужыкоў стаіць на асфальце, і вось ужо адзін з іх, адзеннем і паставаю мэнээс, не можа больш трываць, кідаецца да каўбоя. Гарадскі з галавы да пят, а косіць спраўна, і калі каса ў яго руках, то і ён ужо не выдае малодшым навуковым супрацоўнікам, барада ў хлопца вяскова, дзедава, і губы — што подмазка ў маці. Цягне з яго рук касу дзядок, добра ўжо зношаны, з шарамыжнікаў, відно, што за бутэлькамі каля магазінаў і ў парках палююць. Не пахмяліўся, відно, яшчэ, а бадзёры і настырны:

— Дазволь і мне.

— Па чарзе, па чарзе, усім трэба, бацька.

— Я першы,— гэта дзядок.

— А вось камандзіраў нам зусім не трэба. Камандзірам буду я,— гэта той, што патрабуе, каб па чарзе.

Мацвей не вытрымлівае, спяшаецца да тых, што прагнуць памахаць касою:

— Хлопцы, мужыкі, давайце да мяне ў калгас!

— А дзе твой калгас?

— Ды побач, кіламетраў дзвесце.

— Дуем, хлопцы,— гэта той, што адкасіў ужо, але яшчэ не адышоў ад касьбы, малодшы навуковы супрацоўнік.

— Дуем, дуем, кожнаму па персанальнай трактарнай касілцы.

— Хе-хе-хе,— паляўнічы за бутэлькамі.— А конікі, го-го, на кілбасу ўжо звёў? Ёсць конікі?

— Ёсць і конікі, дуем да мяне ў калгас.

— Дуем, хлопцы, збірайцеся.

— Э-э, прападай мая чарэшня, збірайся...

Вакол Мацвея ўжо натоўп, адны косяць, перашкаджаюць касіць, цягнуцца да касы, а нехта цікавіцца:

— Што ета, дзеткі, даюць?

— Напраўленне ў калгас на работу даюць, бабуля, печ табе персанальную вёска дае.

І нікога ўжо каля яго. Няўмела падзёўбвае траўку гарадскою коскаю-сямёрачкай каўбой, ды дзядок як прыкіпеў да Мацвея, тыцкае пальцам у блакнот:

— Пішы: Боўдзіла... цьфу на язык мой... Лапуста Фёдар Ягоравіч...

— Ідзі, ідзі, гуляй, дзед, пакуль крамы пачнуць

працаваць.— Мацвей хавае блакнот, але дзед не адыходзіць ад яго.

— Я спецыяліст, я слесар самага высокага разраду... часова працанеўладкаваны. І пячнік, і токар, і цясляр, і сантэхнік, а цяпер...

— Не ведаю, як цяпер, прабач, дзед, а раней такія спецыялісты на кожным кутку пад плотам сядзелі і шапку перад сабой трымалі. Раней ім падавалі, а цяпер на самаабслугоўванне перайшлі, бутэлькі збіраюць, таму як звяліся і жабракі, і тыя, хто спачуваў, падаваў ім.

— Навошта ты так? Навошта ты мяне так крыўдзіш?

— Навошта? У мяне такіх спецыялістаў у вёсцы — парай, каму б пазычыць, прыплачу.

— Ведаю, усюды такіх, як я, хапае. А ўсё ж не ганi мяне, не выракайся. Запойны я, гэта так, а рукі — залатыя. Не хвалячыся кажу табе. Калі цвярозыя гэтыя рукі, няма на свеце нічога, каб яны не здолелі зрабіць хоць чорта, хоць касмічны карабель. Вазьмі, прападаю я, прападу. Хачу ў вёску. Вясковы я ёсць і застануся. Мо і прычына ўся ў тым, што не магу забыць сваёй вёскі... Могілкі там былі, каля самае нашае хаты. І на могілках дрэвы, кветкі...

Мацвей слухаў дзеда і шкадаваў ужо яго, нешта сугучнае яму і яго настрою чуў ён у словах гэтага апошняга п'янчужкі і забулдыгі. Ён і сам падобны быў на яго, хаця і не запіваў, але сёння — бы ў пахмелля. Пахмелля на ўсё жыццё. І хто ведае, ці працягне хто яму руку, што пакладзе ў руку, калі ён вось так, як гэты дзядок, працягне яе. І, каб не дастаўся яму камень, ён наважыўся ўзяць гэтага Лапусту-капусту, пашкадаваў яго, каб нехта потым пашкадаваў і яго.

— Бяру,— сказаў ён.— Бяру, чорт цябе бяры.— Паабяцаў цвёрда, але да канца не верыў, што ўсё гэта сур'ёзна. Толькі Лапуста ў гэты шматпакутны для Мацвея дзень ні на крок не адыходзіў ад яго. І з таго дня ім было наканавана ісці разам да самага апошняга. А пакуль яны разам паснедалі ў «Бульбянай», якая толькі што к гэтаму часу адкрылася. І дазволілі сабе толькі піва, хаця Лапуста даволі выразна пазіраў увесь час на стойку, за якой было нешта і куды больш моцнае за піва. Снедалі па-сабачы, стоячы, таму што

крэслаў у зале амаль не было. Касірка супакоіла, што крэслы ўвогуле ёсць і хапае іх на ўсіх, але сёння, во зараз, у «Бульбянай» якраз прафсаюзны сход, культуру абслугоўвання абмяркоўваюць, і крэслы пайшлі на сход. Лапуста быў забурчаў: «як гэта такое ды на сухую вытрываць толькі», але Мацвей не абазваўся на яго буркатню, спяшаўся хутчэй даскрэбці, што там было ў гаршэчку, і бегчы. Не вельмі акрэслены, але ўсё ж меў ён нейкі план, што рабіць яму далей сёння. Ён баяўся сам гэтага плана, баяўся даводзіць і вызначыць яго да канца нават у думках, але ведаў, што не адмовіцца і не адступіцца ад таго, што задумаў, з Мінска ён ужо проста так не паедзе. І калі яны паснедалі, ён пацягнуў за сабою Лапусту да таго горада ў горадзе, да знаёмай ужо яму будыніны, дзе ён быў уночы ці якая прымроілася яму. Але калі і прымроілася, то надзіва рэальна. І днём, хаця пры іншым ужо асвятленні, была тая будыніна як дзве кроплі вады падобная на тую, якую наведаў ён ноччу. І дзверы былі тыя ж самыя, і адчыняліся яны ўсярэдзіну, і часта адчыняліся, відно, носцам, пазначаны ўжо вельмі былі яны чорнымі мецінамі ўнізе. Аблупленыя, рудыя, хворыя, шматпакутныя дзверы. І сама будыніна з той жа адзнакаю пакуты і хваравітасці. І лаўка сіроччая і пустая, тая самая, на якой ужо сядзеў Мацвей, ён мог паклясціся ў гэтым. Ён сеў і зараз на яе, але цяпер ужо не адзін, а разам з Лапустам. Навошта спатрэбіўся менавіта цяпер і менавіта тут гэты Лапуста, ён не ведаў, але адчуваў, што будзе лепей, калі той будзе побач. І больш за ўсё баяўся, што Лапуста не ўседзіць каля яго, таму што сядзець, пэўна, прыйдзецца і доўга, мо да змяркання, а мо нават і да світання. Збяжыць, пакіне яго Лапуста, і ён не вытрымае чакання, пабаіцца застацца адзін. Якарам і апошняй надзеяй яму быў гэты спецыяліст, слесар самага высокага разраду. І Лапуста як разумеў гэта, сядзеў каля яго цярпліва і не надакучаў балбатнёю, ні аб чым не пытаў, нібы яны аб усім дамовіліся загадзя, ведалі, чаго прыйшлі сюды, і было Мацвею ўтульна і спакойна каля маўклівага Лапусты, ён і не прыкмеціў, як і прыдрамаў і ледзь не праспаў усё на свеце. Сама Алена пабудзіла яго.

— Хацела прайсці ўжо і прайшла ўжо, ды шкада стала,— сказала яна проста і без радасці і здзіўлення,

нібы яны сапраўды сустрэліся і разышліся ўсяго некалькі гадзін назад. І Мацвей, дзівячыся з сябе, загаварыў з ёю проста, не хвалюючыся і не трапечучы, як быццам успамінаў усё роўна былое і вяртаўся да гэтага былога, якое ніколі не рвалася, а ўвесь час толькі працягвалася.

Мацвей пачаў расказваць Лапусту ўсё пра сябе і пра Алену, бы яны з ім добра ўжо выпілі і Мацвею пад гарэлку цяпер ужо было не сорамна са слязьмі на вачах і з п'янаю шматзначнасцю і шчырасцю расказваць пра ўсё.

— Што ж ты так,— на самай справе захмялеў ад яго шчырасці і захваляваўся Лапуста,— які ж ты мужык пасля гэтага, такую дзеўку ўпусціць. Які дурань калгасам даверыў пасля ўсяго табе кіраваць.

— Даверылі...

— Слухай,— з нейкім зноў жа п'яным натхненнем сказаў Лапуста.— У мяне ёсць ідэя.

— Не трэба.

— Як не трэба? — не зразумеў яго Лапуста, а калі зразумеў, пакрыўдзіўся: — Эх ты, чалавек, два вухі, я не пра тую ідэю, я пра дзеўку тваю. Пакутуе і яна, бачу я, пакутуе. Але яна не з тых, што кіне мужа і пабяжыць за табою. Дык ты яе ўводам, увозам.

— Як гэта, уводам?

— А так вось, у бярэмя ды ў машыну. І ўсё, нікуды не дзенецца. Ну, мо ў суд падасць, пасядзіш, а яна будзе чакаць ужо цябе і дачакаецца.

І яны, вельмі сур'ёзныя, пачалі абмяркоўваць, як гэта: у бярэмя — і ў машыну. Калі б зірнуў і прыслухаўся хто-небудзь да іх гаворкі збоку, наўрад ці даў бы веры, што ў «Бульбянай» яны абышліся толькі півам.

## ДАЙ ВАДЫ НАПІЦЦА, КАЛОДЗЕЖ

### 1

Біў бубен, звінеў, што спелы жытны колас на ветры, ціха падтакваў яму баян, дапамагаў ім гармонік. Нецярплівою была толькі скрыпка, усё ўскрыквала, ірвалася некуды сысці, выхапіцца з панадворка на абсяг, на не агароджаную плотам далячынь, каб на ўвесь

голас выказаць усё, што было на сэрцы ў Сёмкі-скрыпача, а пасля хоць неба раскаліся. Але бубен, баян і гармонік стрымлівалі Сёмку і яго скрыпку. І Сёмку заставалася толькі шчэрыць жоўтыя залатыя зубы і дапамагаць сваёй скрыпцы, далучаць да скрыпкі, да той моцы, што была прыхавана ў смычку, і голас. За бубнам сядзеў сам вясельны Анісім. Ён і вёў музыку, і супярэчыць яму не наважваўся нават Сёмка-цыган, ветурач Княжборскага калгаса. Вясельны Анісім быў зараз падобны на цыгана больш, чым сам Сёмка, сапраўдны цыган, хаця не было ў Анісіма ні залатых зубоў, ні чорнага і жорсткага чуба, ні чорных шалёных цыганскіх вачэй. Быў ён чорны, што грак, і худы, што грак вясной, але жылісты і кучаравы, што калена, на чужых падушках пагубляў Анісім свае русыя валасы. Так казалі маладзіцы і, пэўна ж, ведалі, што казалі: не было ў Анісіма ні сям'і, ні нявесты, ніколі не было. Але затое быў у яго бубен, заўсёды быў, як быццам з бубнам і нарадзіўся ён, чаму і прозвішча меў не проста Анісім, а вясельны Анісім. Дабіваліся, даставалі яго Махахеі аднекуль здалёку, з-за рэчкі і далей з-за зямлі і вёсак, што былі ўжо за бетонкаю, на краі свету. Узгадалі аб тым, што нямашака ж бубна, у самую апошнюю хвіліну. А што гэта за вяселле на Палессі без бубна, гэта ж усё роўна, што колісь вяселле без папа і вянца. Усім гуртам кінуліся шукаць і адчаяліся ўжо, думалі, што не знойдуць. Звяліся, аказваецца, ужо на Палессі бубны, хоць ты іх з Мінска ці Масквы тэлеграфам выклікай. Там, гавораць, яны яшчэ ёсць, але ідуць за такія грошы — карову можна купіць, бо граюць у ансамблі, а ансамбль той больш за вяселле з'есць і выпіць можа, дый грошы яшчэ лупіць ого-го. Але давялося б Барздыкам з Махахеямі разарыцца і на ансамбль. Яны ўжо згодны былі, ды набегла маладзічка, што некалі ляжала разам з бабаю Ганнай у бальніцы з апендыцытам, расказала пра вясельнага Анісіма.

— І хаты ў яго няма, так ён і яго музыка нарасхват.

— А дзе ж яго лавіць тады? — спытала баба Ганна. Гэтага зарэчная маладзічка не ведала, але параіла папытаць куму, у якой таксама нядаўна было вяселле, дачку выдавала. Кума накіравала Махахея да свата:

— Музыка той са сватам яшчэ тры дні ў лазні гасцявалі і разам на новае вяселле падаліся.

Сват быў знаёмы Махахею, аказалася, гэта той самы Ёрш, што пакусаў кабылу. І ён яшчэ не вычхаў тое гасцяванне, і голас яго нават быў яшчэ такі гулкі, як у бубен нехта біў. Гулкім голасам ён і намякнуў Махахею, што справорыць яму музыку, калі на вяселлі ў Махахея знойдзецца месцейка і яму. Вось такім чынам і здабылі Махахеі вясельнага Анісіма, бубен, хаця калгас меў і свой духавы аркестр, дваццаць хлопчыкаў-жаўнерчыкаў, як называла іх баба Ганна з-за іх сіненькіх касцюмчыкаў, аздобленых срэбрам і золатам. Мацвей прапаноўваў гэты духавы аркестр Махахеям, але баба Ганна заўпарцілася:

— Не і не, твае жаўнерчыкі толькі «пу» і «пу» ўсяго і ўмеюць. А гэта перад начальствам добра, а не на вяселлі. На вяселлі іншае трэба, каб хмелем усё гуло.— І хмелем, дзікім і п'яным, чортам кручаным рассыпаўся бубен. Вясельны Анісім сваю справу ведаў і піць навучыўся, хаця і без меры, але так, каб твару не губляць. І твар яго быў строгі і жорсткі. Не адрываючыся ад свайго інструмента, толькі перакладаючы яго з адной рукі ў другую, прымаў з рукі, што падавала яму, чарку, куляў яе ў бездань на вяселлях выпрабаванай утробы, і вёў вяселле ад танца да танца, ад прыпеўкі да прыпеўкі, а сам заставаўся сур'ёзным, засяроджаным, як і маладыя. І княжборцы не вытрымлівалі гэтай сур'ёзнасці. Непахісная Царыца, што век пражыла з падцятымі вуснамі, тут развязала рот:

Мая мамка, сербіянка,
Не хадзі на вуліцу...

Біў бубен, пела скрыпка, ходырам хадзіла хата. Але Мацвей разумеў, што гэта ўжо не вяселле, што гэта ўжо не весела, а трывожна ходзіць хата, хтосьці грукае па раме кулаком, але падымацца не спяшаўся. Адзіны толькі чалавек сёння раніцай мог прыбегчы, каб пабіць яму вокны, прыцягнуць яго, Мацвея Роўду, да адказу. Ён, яшчэ нават не зусім прачнуўшыся, спрабаваў адцягнуць сустрэчу з тым чалавекам, наіўна спадзеючыся, што, калі ён спіць, значыць, нічога і не было, і, пакуль ён не прачнецца, ніхто нічога і не патрабуе ад яго, нібы спаць можна было бясконца. Дзед Дзям'ян ледзь раскатурхаў яго. У хаце каля ста-

ла сядзеў Махахей і курыў, пазіраў у акно, за якім ужо развіднелася, і смаліў, што паравоз. У Мацвея адлягло ад душы. Гэта быў не той чалавек, сустрэчы з якім ён баяўся. Хаця ў такую рань і Махахей мала чаго добрага мог прынесці.

— Пажар тут у вас ці паводка...

— Горш,— асёк яго Махахей.— Ад вады і агню ёсць усё ж паратунак, а тут навала чорная.

— Чума ці воспа?

— Сам пабачыш, накінь што ды пойдзем.— І Мацвей зноў адчуў трывогу ад гэтага спакойнага, але разам з тым і загаднага: «накінь што ды пойдзем», бы на плаху клікаў і загадваў яму ісці гэтым ранкам Махахей. І Мацвей, апранаючыся, блытаючы рукі і ногі, тужліва прыкідваў, што ж гэта яшчэ магло здарыцца: хлеб гарэў, вада яго тапіла, было балота, стала суша, чаго ж гэта яшчэ трэба чакаць, чаго асцерагацца, калі што з коньмі Махахея, то хоць і дрыжыць за іх Махахей і разумее Мацвей яго, але дарэмна гэта ўзняў ён яго, хай тых коней усіх ваўкі падзяруць. І без іх хапае клопату. А Махахей учора адразу ж з вяселля пайшоў да коней. Мацвей добра ведаў гэта, таму што пакінуў тое вяселле амаль што адначасова з ім.

— Лёнік з хлопцамі коней выганяў учора,— як угадаў Махахей, аб чым думае Мацвей.— Я апасля ўжо да іх падскочыў, і вось...

Мацвей не захацеў удакладняць, што за гэтым яго «вось»: Лёнік той даўся яму ў знакі яшчэ ўчора. У Лёніка, пляменніка Махахея, учора Мацвей выкупляў жаніху Надзьку, і Лёнік ледзь не падсадзіў яго, ледзь не зняславіў перад усёю вёскай. Маладыя сядзелі ў куце на крэслах, на якія быў накінуты поўсцю вонкі авечы кажух — гэта каб нічога не бралі яны з сабою з мінулага, аджытага і каб жылі яны багата і шчасліва, каб усяго ў іх было густа, як поўсці ў аўчыне. І Васька быў ужо і сёння шчаслівы, хаця і не вельмі ўдаваў на маладога, як усё роўна і не пара быў ён у сваім стракатым легкадумным пінжачку Надзьцы, хутчэй на жуліка ўдаваў жаніх, як перашэптваліся старыя. Бацька не дараваў сыну рабінкі і не даў грошай на касцюм. Мо ён, канечне, і злітаваўся б, ды сам Васька не схацеў скарыцца і добра папрасіць, мармытнуў толькі пра той касцюм. Бацька адказаў на гэтае

яго мармытанне прыказваю, чакаючы, што сын усё ж павініцца:

— Княжборцы без кажуха ў сваты не хадзілі.

Сын замоўк, вініцца не стаў. Свае ж грошыкі ён недзе перад самым вяселлем патраціў на «Маўру». «Маўру» таго, скульптурку таго голага і пустога ўсярэдзіне негра, прывёз аднекуль з-за мяжы былы сябра Васькаў Толік Шчур, які служыў у марфлоце. І «Маўра» ўеў, узяў княжборцаў за жывое. Шчур карыстаўся гэтай іх цікавасцю да заморскага дзіва, заманьваў паглядзець на тое дзіва княжборскіх дзяўчат і маладзіц. Цікавым было тое, што ў сярэдзіну скульптуры залівалася віно. Можна было і ваду, але віно ж цікавей. А яшчэ больш цікава, як вылівалася гэтае віно. Не ўтрымалася, каб не наведаць Шчура і хоць адным вокам зірнуць на тое дзіва, і Надзька. Таму Васька і быў вымушаны перакупіць тую «Маўру» ў Шчура, усадзіў за яго ўсе свае грошы, прынёс «Маўру» нявесце:

— Наша цяпер, будзем з яе на вяселлі віно піць.

Надзька «Маўру» адразу ж і кокнула, толькі чорныя пырскі ў розныя бакі, а «кранцік» на падлогу. Аддзячыла яшчэ жаніху за той падарунак з правай ды з левай рукі. І тады ўжо княжборскія прыкметлівыя жанчыны прадказвалі: «Свайго вучыць, вой, як свайго ўжо ахаджвае, хутка вяселле».

І не памыліліся, бы ў ваду глядзелі. Толькі да вяселля Ваську білі яшчэ двойчы чужыя, той самы Толік Шчур з браценікамі адзін раз і другі — Сёмка Цыган. Са Шчурамі бойка была жорсткая, на ўсю вёску, таму што Шчураў і Барздык у Княжборы было мноства. А з Сёмкам Васька сустрэўся адзін на адзін. Малады княжборскі заатэхнік не даў яму і руку ўзняць, скруціў і сказаў:

— Я цыган, а цыганы не б'юцца, цыганы рэжуць і дзяўчат адбіваюць. Такім чынам, ты, Васька, ці ўжо жаніся, ці развітвайся з Надзькаю.

Прыспешваць з вяселлем Барздык і Махахеяў вымушала яшчэ і тое, што жаніх і нявеста канчалі ўжо вучобу ў тэхнікуме, вось-вось павінна была пачацца апошняя іх сесія, а там — размеркаванне. Гэтага размеркавання і Махахеі, і Барздыкі баяліся, што агню: упякуць яшчэ бугвед куды. А так жонка і мужык, і ў Княжборы пры бацьках што-небудзь ды знойдзецца. На гэты выпадак і запрасілі на вяселле празорлівыя

Барздыкі Мацвея, супраць волі жаніха запрасілі, супраць волі жаніха даручылі Мацвею і выкупляць нявесту з бацькоўскай хаты: не павінен жа забыцца старшыня, у каго ён гуляў на вяселлі, чыё піў віно і каго выкупляў, ды і сам выкуп павінен быць не толькі сімвалічным, як гэта бывае на вяселлях, і пасада, і заробак не дазволяць яму абысціся жменяю медзі і срэбра. Мужчына ён адзінокі, халасты, куды яму грошы дзяваць, хай не шкадуе, развязвае машну.

І Мацвею час быў ужо раскашэльвацца, пачынаць торг, але ён ніяк не мог настроіцца. Біты, драны, рыжы Брытан — пасмешышча на ўсю вёску — дамогся свайго, прайшоў праз усё. Нічога і нікога не збаяўся: ні ганьбы, ні кулакоў, ні абгавораў, дазваляў Надзьцы віць з яго вяроўкі і пазіраў на ўсіх зараз у сваім стракаценькім, куртатым пінжачку з выклікам, а на Мацвея дык і з нейкаю пагардаю, патрабавальнасцю, бы загадваў яму хутчэй прыступаць да сваіх абавязкаў. Ведаў ён ці не аб тым, што, калі б толькі пажадаў таго Мацвей, гэтага вяселля так і не адбылося б. Ён мог бы разладзіць усё яшчэ і цяпер. І яму карцела разладзіць усё менавіта цяпер, ён сам здзіўляўся, адкуль гэта ў ім. І не мог пазбавіцца ад гэтага злаўмыснага свайго жадання, хаця і добра разумеў, што гэта зайздрасць, і самая што ні ёсць чорная, што гэта ён самому сабе не даруе ніяк таго, што не здолеў ён так, як Васька, змагацца за сястру Надзькі Алену, саступіў ціха, без бойкі, і немаведама нават каму. Мо ён і помсціў сам сабе за гэта, і помсціў ужо даўно, таму і абвясціў вайну зямлі, рэчцы, лесу і возеру — усяму, што звязвала яго з Аленаю. Не ўсведамляючы сам таго, сціраў усё з сваёй памяці, каб пазбавіцца памяці аб Алене. А Васька шукаў, звязваў, аднаўляў, шукаў золата дзеда Саўкі ў старых борцях і вось знайшоў. Рыжы Брытан...

— У нас ёсць тавар...— не дачакаўся ад Мацвея ні дазволу, ні першага слова і стаміўся ўжо ад чакання Лёнік. Ён крышку прышапетваў, і атрымалася ў яго: у наш ёшць, але гэтае «ёшць» ён падмацаваў і як бы прытрымаў чуйнымі і рухавымі вушкамі, варухнуў вушкамі, як бы выказваючы імі нецярпенне і знявагу да таго, з кім быў ён вымушаны зараз таргавацца. І застолле ўзрадавана падтрымала яго, ён патрапіў яму.

— А ў наш ёшць купеч,— адразу ж адгукнуўся Мацвей, падыграў шэльму Мацвей, але таму гэта не вельмі спадабалася. Ён з лютасці выгукнуў Мацвею:

— Кладзі сваю чэну!

Мацвей сыпануў на стол жменю медзякоў і серабра. Лёнік не зірнуў на іх, зноў толькі сцепануў вушамі і гукнуў цяпер пераможна, таму што нечакана чыста:

— Дзешава цэніш!

Капейкі пакаціліся па стале, заскакалі па падлозе. Лёнік як і не бачыў іх, пільна пазіраў на Мацвея. І Мацвей, дзіўная справа, раптам адчуў нейкую разгубленасць і няўпэўненасць, дастаў з кішэні на гэты раз паперку.

— Во яшчэ рубель, маладым на карабель, а табе на цукеркі.

— Што цукерак, так і караблёў на гэты рубель... Пашукай, купец, яшчэ ў кішэні.

Пара было паказваць стрыгунку і яго месца, вельмі ж ён ужо шустры. Мацвей адчуў, што прэдавец больш моцны, чым ён, перабівае яго прадавец. На гэты выпадак Мацвей меў, запамяталася яшчэ з дзяцінства, некалькі княжборскіх прыказак і прымавак, але, як ён ні сіліўся, ніводнай з іх не мог прыгадаць, як ветрам усё з галавы вымела. Нічога не ішло на язык, ачужэў, не падпарадкоўваўся яму і сам язык. Мацвей моўчкі выцягнуў з кішэні зялёненькую пяцідзесятку, калі збіраўся на вяселле, ён разлічваў паднесці яе адпаведна, каб бачылі ўсе, але нічога адпаведнага не атрымалася і ніхто мо і не ўбачыў. Лёнік адразу ж даланёю накрыў зялёненькую, бы ўсё жыццё і меў справу толькі з такімі грашыма, вось голас адзін змяніўся, прысеў, і не стала ў ім шапялявасці:

— І гэта ўсяго?

— Ах ты, паскуднік,— мімаволі здрыгануўся Мацвей. Ён не памятаў, ці ёсць ў яго яшчэ што-небудзь з сабою, тыя грошы, што спецыяльна браў на гэты вось выкуп, скончыліся. А касцюм святочны, што павінен быць на маладым, ён надзяваў мо ці не год назад, ці завалялася ў ім што-небудзь, хоць капейчына якая. Падлетак не разумее, перабраў, пераціснуў, думае, што ўсё гэта сур'ёзна, што і сапраўды тут торг ідзе. І сорам, яму сорам. Выйсце было адзіным і вельмі простым, працей і не бывае, жарт патрэбен быў самы звычайны, мо трохі і саланаваты, з перчыкам,

каб пра Лёніка гэтага адразу ўсе забыліся, каб адразу ўзнялі ўсе чаркі. Але і на жарт ён быў у тую хвіліну не здольны. Мацвей і сам не разумеў, што гэта з ім, чаму, адкуль такая бездапаможнасць, куды падзеліся словы, хто пакраў іх у яго. І ці зусім гэта пакінула яго слова і не вернецца больш; блага, калі занадта слоў, але нядобра, калі і няма іх, як бы там ні было, а гэта ж вяселле. А што за вяселле без добрай парады на дарогу. І што з таго, што гэта не яго вяселле і ён адкупіўся ад маладых грашыма, паклаў куды больш, чым гэта прыстойна пакласці. Грошай ад яго ніхто не чакае, слова ад яго чакаюць, а дзе яно?

Мацвей спаймаў сябе на тым, што і думаецца яму таксама цяжка, як і гаворыцца. Але цяпер ён ужо ведаў прычыну, выцягваючы з кішэні мяты і клычаны рубель, бы той рубель ён выхапіў у некага з рота, і новую хрусткую пяцёрку, ён намацаў і бікфордаў шнур, што прызначаўся зусім не вяселлю і прыхапіў ён яго выпадкова. Гэты шнур вымусіў яго скалануцца, нібы ўсё, што ён задумаў, было ўжо зроблена. Нечаканая знаходка развязала яму язык. Ён гатовы быў хаяць маладую, гатовы быў вымусіць людзей, каб яны прыгледзеліся да нявесты, ці не крывабокая і крываво-кая яна, ці не ходзіць пятамі назад, якіх гэта зубоў у яе там не стае, быў гатовы ганіць, але не хацеў, не мог ён яе ганіць. Алена, а не Надзя, здавалася яму, сядзіць на месцы маладой, і сам ён, здаецца, малады. І Мацвей, насуперак звычаю, нібы ён быў не купцом, а прадаўцом, пачаў хваліць маладую.

— Лепшая ў Княжборы нявеста наша Надзя...

— І жаніх нічога, спраўны. Ты, купец, грошыкі гані, а зубы не загаворвай.

— З-за такой дзеўкі не грэх і разарыцца. Як, Васька, колькі каштаваў «Маўра»? — Васька заёрзаў на аўчыне, і старая Махахеіха, каб супакоіць яго, паклала яму на плечы руку. А Мацвей панёс да далоні падлетка новенькую пяцёрку, знарок, пакручваючы і пахрумкваючы ёю. Пранёс міма далоні, падабраўся ўжо да вуха.

— Мы так не дамаўляліся,— Лёнік ухіліўся, выхапіў з рукі Мацвея грошы.— Усё?

— Усё.

— Бяры свае грошы назад, купец. Падымайцеся, хлопцы і дзеўкі. Не будзе вяселля. Жадны купец.

І варухнулася ўжо застолле. Яшчэ хвіліна — і падняліся б людзі, жартам, канечне, падыгрываючы Лёніку. Але і Мацвей нарэшце быў ужо ў той гульні:

— Вось яшчэ, адзін рубель, каб і таму, хто завядзецца ў іх, на карабель. Усе грошы з кашальком аддаю. За такую нявесту і кашалька не шкода.

— Такі клычаны рубель і за такую нявесту. Ты што яго, на сметніку знайшоў?

Тут ужо, удавана ці на самай справе, пакрыўдзіўся Мацвей, хутчэй за ўсё папраўдзе пакрыўдзіўся, горка і прыкра яму зрабілася за той рубель, з якім так няласкава абышоўся Лёнік, не ацаніў яго. А быў той рубель ветэран, Мацвей ужо і сам не памятае, колькі гэта часу пралежаў ён у яго кішэні. Ён трапіў да яго, калі Мацвей яшчэ і не ведаў, што такое меліярацыя, рабіў у калгасе простым інжынерам. Ну не зусім простым, галоўным, але не ў гэтым справа, атрымаў ён яго не за Княжбор, таму і ацалеў ён, не апякаў, не паліў ні рук, ні кішэні. Было Мацвею ўжо крыху і шкада, што скончылася гэтая гульня, тавар прадалі ўжо незваротна. Усё скончылася, і не толькі тут, з гэтым торгам, але і з Надзькаю, і з яе рыжым Брытанам. Ён застаўся зусім адзін. Сваю ролю на вяселлі ён ужо выканаў. Выканаў, а карцела выконваць яе і далей, бесперастанку і бясконца, каб бясконца было толькі вось так наіўна, не папраўдзе, знарок.

— Уставайце цяпер, мае госці, госці жаніха,— загадаў ён.— Не будзе вяселля, дорага за нявесту просяць.

— Грошыкаў больш няма,— падняўся адзін толькі Лёнік, разумненькі хлопчык, адчуў, што грошыкаў у Мацвея на самай справе больш няма, і нечага яму тут ашывацца, ён ужо лішні за сталом. І так добра падаіў старшыню, мо і больш, чым трэба, узяў, яшчэ і вушы надзяруць. Ён зіркнуў на маці з бацькам, што сядзелі насупраць яго і, пэўна, адціснулі пад сталом яму ўсе ногі, сабраў са стала капейкі, узяў рубель, спакусіўся нават і на новенькую пяцёрку, пацягнуўся да яе, але ўстояў, спахапіўся. Пасунуў разам з іншымі грашыма маці, а сам шморгнуў у расчыненае акно. На вуліцы ўжо здагадаўся, хамло, уставіў вушы ў акно, буркнуў «дзякуй» і пабег да магазіна, размахваючы рублём, заціснутым у руцэ. І Мацвею было прыемна, што рубель той сумленны і паслужыць добрай

справе, ён і сам гатовы быў ужо кінуцца следам за хлапчуком, за натоўпам ужо хлапчукоў і разам з імі купіць у Цупрыка на цэлы рубель цукерак. І з тымі цукеркамі збегчы з Княжбора, схавацца ад дарослых на востраве, як хаваўся ён там некалі разам са сваімі аднагодкамі, па-брацку падзяліць цукеркі — і на дрэвы, на дубы, асіны, ясакары. Бяда толькі, што ні дубоў тых, ні асін, ні ясакараў ужо няма. Няма і самога вострава, вось толькі хлапчукі вясковыя — вечныя. А Княжбор, як і ў былы час, правіў вяселле, бы нічога і не адбылося, біў сябе па калене і ў грудзі бубнам вясельны Анісім, сыпаў чорнымі кудзеркамі ва ўсе бакі скрыпач Сёмка-цыган, паспяваў вадзіць смычком і па кудзерках, і па струнах, нібы кудзеркі былі таксама струнамі і на іх можна было іграць.

Не пазнаць было Мацвею сваіх землякоў: вёска, што раскалолася, рассыпалася макам па хатах і па хатках, зноў была адзінаю. І ў тым расколе быў вінаваты ён, Мацвей. У старой хаце Махахеяў спраўлялася апошняе ў жыцці старога Княжбора вяселле. Махахей так і не адбудаваўся, так і не ўлез у новую хату, яе захапілі буслы, бы ім тая хата і прызначалася, чацвёрты раз выводзілі яны на коміне яе сваіх буслянят, чацвёрты і, відно, апошні. Іх жытло трапляла таксама пад знос, і буслы, як разумелі гэта, ні ноччу, ні днём не пакідалі кубла; сцераглі яго. Усёй сям'ёй з буслянкі свае сачылі яны і цяпер за вяселлем, як самыя ганаровыя госці на гэтым вяселлі, як сваты, падвязаныя белымі ручнікамі, самі не пілі, не елі і не скакалі, але, схіліўшы ўніз галовы, з цікаўнасцю наглядалі за чалавечым вяселлем і танцамі і пагойдваліся ў такт музыцы, ці то ўхваляючы гэтую музыку, ці то, наадварот, выказвалі гэтым пагойдваннем сваё здзіўленне і нязгоду. А людзям было прыемна, што на іх вяселлі прысутнічаюць і птушкі. Не сёння-заўтра княжборцы павінны былі перасяліцца ў новы пасёлак, у гарадскія каменныя кватэры. Некаторыя з гэтых кватэр былі напагатове ўжо даўно, але стаялі пустымі, ніхто не наважваўся першым крануцца з месца, пакінуць назаўсёды сваё селішча. «Во, няхай спачатку сусед, а потым ужо і я» — вось і ўсё. А Махахей умаліў Мацвея пачакаць, пакуль ён не справіць у старой хаце вяселле апошняй сваёй дачцэ: тры дачкі ўжо вылецелі з гэтай хаты, хай вылеціць і апошняя з дзедавага,

бацькавага кубла. Аб перасяленні завёў з Махахеем гамонку і цяпер Мацвей, крочачы за ім невядома куды і не надта прагнучы ведаць, куды гэта вядзе яго Махахей. На добрае ў такую рань людзей не будзяць. А благога ў яго і так па горла. Ён тупеў ужо ад гэтага нечаканага-нягаданага благога, дзеравянелі мазгі. І Мацвей амаль фізічна адчуваў гэтую дзеравянасць, што паступова авалодвала ім. Думка была скіравана і засяроджана заўсёды на адным: толькі б нічога не здарылася, не выйшла б панажоўшчына ў новым Княжборы, у інтэрнаце-размеркавальніку, у якім жылі «сцягачы» і які княжборцы наракли інкубатарам, а ён зваў санпрапускніком і карацінам. У санпрапускніку праходзілі каранцін «сцягачы» — слоўца таксама княжборскае. Ненене, не ведаючы, што яно ўжо ёсць, існуе, прыдумала яго сама, ахрысціла ім тых, хто прыбыў на работу ў калгас па аб'яве. Сцягачы, так іх гуртам усіх і называлі, нават урачоў, маладую пару, што пытала ў Мацвея, ці ёсць ім работа, гады два назад. І Мацвей, і ўрачы — самбістка і баксёр-першаразраднік — стрымалі слова. Ён пабудаваў бальніцу, яны прыехалі працаваць у тую бальніцу, і ўжо з малым, толькі не з сынам, а дачкою. «Непярэліўкі і ў нас з планаваннем, як усюды»,— сказала неўрапатолаг-самбістка, і было падобна на тое, што на гэты раз непярэліўкі і пралікі ў планаванні не вельмі засмучаюць яе. Мацвей быў вельмі рады бачыць іх, урачоў, зноў у Княжборы, гэта была мо адзіная светлая хвіліна за апошнія два гады яго княжборскага жыцця. Ён адразу ж даў ім трохпакаёвую кватэру, а ўсіх іншых месціў у санпрапускнік-каранцін. Інакш і немагчыма было. За малым выключэннем, усе, хто прыехаў у Княжбор па аб'яве і атрымоўваў адразу кватэру, трымаліся тыдзень-другі, а потым пачынаўся такі загул, якога Княжбор і ўявіць сабе не мог. У п'янай гарачцы па старым і новым Княжборы ганяўся з сякераю мужык за жонкаю, лямантавала, галасіла жонка, плакалі дзеці, што беглі следам за бацькамі. Такіх дзівос Княжбор яшчэ не ведаў, вось і давялося прасіць, каб далі ўчастковага міліцыянера. Але што ён мог зрабіць, як адзін мог абразуміць усіх?

— Адкуль ты толькі такі ўзяўся на маю галаву? — усяго тыдзень назад ушчуваў Мацвей свайго механізатара.

— Адтуль, з вялікіх будоўляў, старшыня,— механізатар лыпаў сінімі вочкамі, якія прапіў ужо даўно і канчаткова, і ўсміхаўся: — Я тут, старшыня, цвярозы, што шкельца, курыца вінаватая.

— Чым правінілася перад табою тая курыца?

— Як чым, я цвярозы, нават да сіняга паголены, кум каралю, еду па вуліцы, а яна на дарогу і пад калёсы.

— І абярнула цябе разам з трактарам і прычэпам, аж у кювет кінула.

— Точна, старшыня, адкуль ты ўсё ведаеш? І трактар, і прычэп чортава курыца абярнула, і аж у кювет. Як яшчэ сам жывы застаўся.

— Так, курыца... Што ж ты пабудаваў у сваім жыцці, што ты можаш пабудаваць?

— Усё. Междурэчанск пабудаваў, ведаеш такі горад у Сібіры, горад шахцёраў і будаўнікоў? Запсіб, пасёлак металургаў...

— Дык чаму ж ты, сукін ты кот...— Мацвей прывык да ўсяго, але тут не вытрымаў.

— А вось таму, што сукін кот,— не пакрыўдзіўся механізатар, толькі вочы яго зрабіліся яшчэ больш сінімі.— Там, на Запсібе, па галаве мне і далі.

— Хто табе даў па галаве?

— Знайшліся, было каму, а галава ў мяне, старшыня, зусім не такая, як у цябе — і піць, і думаць. Яна ў мяне слабенькая, ёй бы што-небудзь адно ўжо.

— Адно? Дык чаму ж не думаць яна ў цябе?

— А на самай справе, Мацвей Антонавіч, чаму бы не думаць, галава, чаму? — І механізатар разявіў рот, акругліў вусны, пастукаў сагнутымі пальцамі па галаве: — Во, чуеце, што адказвае. Не, правільная ў мяне галава. У адзін толькі бок. Гэта ж у вас, куды яе ні кінь і як ні кінь, яна ўсё роўна — на нозі. Качан капусты, а не галава — усё роўна галава.

— Хопіць прыдурвацца, давай сур'ёзна.

— Што сур'ёзна?

— П'еш чаму? Прагульваеш чаму? Трактар чаму ўгробіў? Вясковы ж сам. Беларус?

— А што, беларусам вясковым забаронена піць?

— Цябе тут прынялі на працу, кватэру табе адразу ж далі...

— Вось што, начальнік, ты мяне кватэраю і рабо-

таю не папікай, не ты даў, дзяржава, дзяржаўная кватэра.

— Калгасная.

— Усё роўна, не твая асабістая. Кватэр тых у Колькі Бяднарыка — колькі гарадоў і вёсак на зямлі. Усе яго і ўсё яго.

— Дык і зямля твая...

— Зямля? Не, зямля не мая. Яна твая, старшыня, зямля. Я працаўнік толькі на ёй.

— Чаму ж не працуеш?

— Як гэта не працую? — Тут ужо механізатар на самай справе пакрыўдзіўся.— Як гэта не працую? Запісана ж: ад кожнага па спасобнасці.

— Вось і плата за твае «спасобнасці». Складвай манаткі — і на ўсе чатыры бакі, на гэтыя самыя будоўлі.

— А гэта ўжо, казала Насця, як удасца, дудкі, старшыня. У мяне сям'я, трое дзяцей. Ёсць яшчэ Савецкая ўлада, савецкі суд і закон. І дзеці мае, мая жонка і я пад аховаю Савецкай улады, суда і закона савецкага, запішы гэта сабе на носе...

Вечарам Бяднарык быў зноў п'яны, хаця ў вёсцы быў ціхачом уведзены сухі закон і ў магазіне ні гарэлкі, ні віна не прадавалі.

Але не толькі сцягачоў даводзілася перасцерагацца яму, Мацвею Роўду. Не меней ён баяўся, як бы не выкрылася і яго ўласнае самаўпраўства. Сёлета ён, не паслухаўшы нікога, сваёй уладай загадаў сеяць па тарфяніках травы, а не бульбу, буракі і збожжа, як гэта загадана было яму; пшаніцу, а дзе кукурузу пасеяў толькі каля дарог, каб не відно было той травы. І кожную хвіліну гэты падман яго маглі выкрыць, і тады... Ён вымушаў сябе не думаць аб тым, што будзе тады, каго гэта ўздумаў ён перахітрыць, каму наважыўся супярэчыць. У раёне на яго скоса пазіралі ўжо даўно. І не адзін раз намякалі, уводзілі яму ў вушы, што хто-небудзь іншы на яго месцы, калі б меў такія землі, даўно б ужо атрымаў Залатую Зорку, а ён носіцца са сваімі травамі, як дурань з пісанай торбаю. І тут ужо кожны валіў на яго, што было і чаго не было. На нейкай нарадзе ўзяў у рукі газету, прыкмецілі, выказалі: не аўтарытэт табе і не ўказ, Мацвей, раён і раённае кіраўніцтва. Газеткі, калі сур'ёзная гутарка ідзе, пачытваеш. Чытай, чытай, глядзі...

Вось на якія дробязі прыходзілася траціць сілы і час. Час не ішоў, а цёк, нават, хутчэй, сачыўся праз нейкае вельмі тонкае фільтруючае сіта, сачыўся павольі і нудна, без якіх бы то ні было адгалінаванняў, без усплёску, у адным зададзеным, хаця мо і не вельмі скіраваным, напрамку. І гэтая адна накіраванасць прыгнятала яго, і адольвалі ўжо іншы раз не сум і туга, а нуда, нудота, мо тая самая, ад якой, як кажуць, вошы заводзяцца. Часам сум і туга былі недзе і прыемнымі яму, таму што было ў іх нешта жывое і шчымлівае, светлае, што перажыў ён калісьці сам, праскочыў, хапаючыся, як заўсёды, і не прыкмеціўшы ў ліхаманцы жыцця. Туга ж і сум вымушалі яго вярнуцца яшчэ раз да таго перажытага, паспрабаваць адрадзіць яго, выйсці на той дзень і тую гадзіну, што прыгадаліся, па якіх, успамінаючы, плакала памяць, вярнуць, адрадзіць тое, што ўжо сканала, што ўжо належала вечнасці, і хвіліну, гадзіну, и то і дзень жыць святочна, шчымліва сумуючы па тым далёкім ці блізкім мінулым, па нейкім імгненні, у якім нічога значнага не адбылося, але якое было дарагім і салодкім табе, таму што ты быў яшчэ не паранены часам і ўмеў захапляцца. А што было ў тым імгненні... ды нічога... Або верасень стаяў з бабіным летам і ляцела па небе павуцінне, і дрыжала кропля расы на раллі, ці то, наадварот, недзе выпадкова і незнарок ты дакрануўся рукой да рукі дзявочай. Ён мог бясконца доўга тужыць аб той расінцы, успамінаць, якой ён убачыў яе, як уздрыгвала і пералівалася абуджаная раптам, захопленая знянацку восенню яго душа, як ірванулася і заспяшалася насустрач другому сэрцу яго сэрца, ад таго выпадковага дотыку дзявочай рукі, якім жарам ахапіла яго, да чаго ж ён быў шчаслівы, такі шчаслівы, што і слоў не знаходзіў. Цяпер жа словы знайшліся, і ён гаварыў іх сабе, як не ведаў, што нікога ўжо няма побач і не маючы патрэбы, каб нехта быў побач. Памяць жывіла яго, услугоўвала яму, яна таксама ўшаноўвала мінулае, забяспечвала яго адчуваннямі, пахамі, каб аднавіць да парушынкі незваротнае, каб ён цалкам апынуўся ў тым часе, калі не было яшчэ аніякага раздваення, свет быў вялізны і вясёлкава яркі і неспазнаны яшчэ, а ён быў упэўнены, што спазнае гэты свет, так цудоўна створаны, і ўсё ў ім для яго, і ён пройдзе, прашые яго, як нябачна прашы-

вае куля сэрца, і калі недзе пахіснецца і ўпадзе, то гэта будзе вельмі ж не скора, так не скора, што і не варта думаць аб тым, пакуль усё так цудоўна, пакуль ён такі злітны, адзіны з усім, да чаго мае дачыненне. Цяпер жа такой злітнасці з тым, што акружала яго, ён не адчуваў. Наадварот, усё вакол здавалася раскалашмачаным, а больш за ўсё быў раскалашмачаны ён сам, бы задуваў бесперастанку моцны вецер, а ён стаяў на гэтым ветры расхрыстаны, стаяў на ім без адзінага гузіка, і вецер зрываў з яго адзенне. Свет, здавалася, ужо быў спазнаны ім, але ці варты ён быў пазнання, калі ў ім, у Мацвею, не ставала ўжо былой лёгкасці і радасці, бы ён і не жыў, а ўвесь час цягнуў на сабе нейкі брынклівы воз. І ў той воз на хаду кідалі дровы, дрэвы разам з голлем і карэннем, дрэвы ніяк не ўкладваліся, раскідана тапырыліся ва ўсе бакі. Так раскідана, прыдушана нудою і нудотаю, пухнуў, набракаў ад уласных шэрых думак іншым разам і сам ён.

І не было з кім падзяліцца тымі думкамі, як раней, калі ён быў яшчэ студэнтам, калі не з-за думкі, а з-за дробязі нейкай, глупства нейкага неймавернага яны здольныя былі надрывацца, крычаць усю ноч напралёт. І, каб ачахнуць, бегчы некуды ў ноч, да рэчкі, да якой-небудзь лясной крынічкі, а на цаліне — у стэп, і там пачыналася ўсё спачатку. На цаліне ён бегаў у стэп разам з Рачэўскім, не з адным толькі ім, былі яшчэ хлопцы. Але пра Рачэўскага згадаў таму, што той і цяпер тут, і што дзіўна, яму, Мацвею, толькі як аб справах няма пра што і гаварыць з тым Рачэўскім, няма, хаця гаварылі і абмяркоўвалі ўсё, ад дзевак і да космасу. На цаліне спрачаліся аб космасе, таму што побач быў Байканур, а ў Беларусі — аб балотным бугаі, кікімары. Той бугай, кікімара неяк на ўсю ноч захапілі іх, усю ноч не адпускалі. Ужо і не прыгадаць, чаго гэта памкнулі яны на ноч гледзячы да той рэчкі, з чаго ўсхапіліся і панесліся, як шляя пад хвост трапіла. Але ж нешта раптоўна зрабілася ім цесна ў інтэрнаце, гняло іх нешта, і яны выхапіліся з яго, падпарадкаваныя нейкаму невыразнаму жаданню неадкладна апынуцца на волі, дзе ніхто не будзе грукаць у сцяну і патрабаваць цішыні, а знізу праз кожныя паўгадзіны не будзе падымацца да іх на другі паверх дзяжурная і барабаніць у дзверы: калі вы

толькі супакоіцеся. Бегучы, спяшаючыся да той рэчкі, памятаецца яшчэ Мацвею, Рачэўскі купіў у нейкай позняй бабулькі букецік замораных пралесак, купіў і адразу ж падарыў першым сустрэчным дзяўчатам, купіў бы яшчэ, бо дзяўчат на вуліцы траплялася багата, але бабулькі з кветкамі ўжо зніклі. Мацвей, Рачэўскі, што з імі было тады, што за час быў такі, але яны аж праглі, каб каго-небудзь ды адарыць. Але ён, Мацвей, саромеўся і стрымліваў сябе, а Рачэўскі як не ведаў, што гэта такое стрымаць сябе, ён заўсёды не паспяваў сам за сабой, адна нага ці то рука заўсёды імкнулася апярэдзіць другую і апярэджвала, і жахліва рабілася іншым разам, ён жа мог што-небудзь і вывіхнуць, ну не нагу ці руку, скажам, дык галаву. Не супакоіўся ён і каля рэчкі, хаця каля вады ўсё, здаецца, патрабавала спакою і засяроджанасці, такая панавала там ціша, гучная, можна сказаць, ціша, пасля горада, інтэрната, яна абрынулася на іх, і ў той цішы крычалі толькі жабы, так апантана крычалі, што, здавалася, без іх крыку і немагчыма, што крык гэты іх — адна з неабходных частак рэчкі, лесу і цішыні. Яны спачатку і не зразумелі гэтай цішыні, і нехта нават недаўменна спытаў, што гэта такое.

— Гэта такі ў нас закон,— адказаў Рачэўскі.

— Які гэта такі закон?

— А каб жабы крычалі і ціха было. Жабы ўсе мясцовыя, таму і крычаць...

І тут азваўся нехта іншы, вухнуў, бы апёкся, скочыўшы ў халодную вясеннюю ваду, што кіпела за пясчанымі косамі, няўцешна заплакаў, як плачуць малыя дзеці.

— А гэта хто?

— А гэта кікімара. Гэта ў яе таксама такі ж закон. Дзе жабы, чаромха цвіце, там і кікімара. Пайшлі шукаць яе.

І яны на поўным сур'ёзе кінуліся шукаць тую кікімару, хаця ў глыбіні душы кожны, пэўна, ведаў, што гэта крычаў і плакаў пугач. Ён плакаў усю ноч, і кожны раз плач гэты яго быў чутны ўжо з іншага месца. Пугач бы пацвельваў іх, вёў па крузе. І яны рухаліся па крузе, хаця іншы раз і забываліся, куды яны імкнуць, забываліся пра кікімару, запаленыя спрэчкай, якая ўсё яшчэ не затухала, уцякалі ад сваёй міфічнай кікімары зусім ужо ў пекла нейкае, у чартаў-

шчыну нейкую залазілі. І верылі ў гэтую чартаўшчыну. Так верылі, што ўжо стаміліся блукаць па крузе, запалілі цяпельца і паселі каля гэтага цяпельца. Рачэўскі пайшоў шукаць кікімару адзін. І вярнуўся толькі на світанні мокры і босы.

— Знайшоў,— сказаў ён,— спаймаў ужо быў кікімару, ухапіў за хвост, але чаравікі расквасіліся і зляцелі. Шкада, наступіў жа на хвост ёй.— І ён так горка ўздыхнуў, што не паверыць яму было немагчыма. І ніхто, наколькі памятае Мацвей, не дазволіў сабе ўсумніцца, ніхто слова папярок не сказаў Рачэўскаму.

Цяпер жа Рачэўскі быў зусім іншым, ад былога ў ім захавалася толькі манера хадзіць: хутка і падскокваючы пры гэтым, галавой уперад. Ён ажаніўся, і было ўжо ў яго двое дзяцей, хлопчык і дзяўчынка, поўненькія, у маці чарнавокія і задуменныя ў маці. А маці іх у свае дваццаць пяць гадоў была як дзяўчынка, нязграбная, з вострымі каленцамі. Яна ведала пра гэтыя свае каленцы і нязграбнасць, саромелася і на ўсё, з чым да яе ні падыходзілі, адказвала рахманаю ўсмешкаю, скіраванаю больш у сябе, чым на субяседніка. Рабіла яна ў бухгалтэрыі і той жа самою ўсмешкаю адорвала ўсіх і там, імкнучыся застацца непрыкмечанай і ўсім дагадзіць. Гэтую яе ўсмешку пераняў і Рачэўскі, але толькі вонкава, таму што ў яго ўсмешцы заўсёды было прыхавана нешта трохі пагардлівае, як бы ён ведаў нешта такое, чаго не дадзена было ўведаць іншым, таму ж Мацвею, нешта не вельмі добрае ці то пра сябе, ці то пра людзей.

— Чаго ты трапечашся, чаго ты мітусішся пад кліентам? — калі-нікалі настаўляў ён і Мацвея. — Тваё княжборцы, накармі ты іх марцыпанамі, дай ты ім птушынага малака, яны ўсё роўна будуць недавольныя. Ты ім свой, а сваім нічога не даруюць, тым, хто робіць дабро, ніколі нічога не даруюць, каб даравалі, ты б памерці павінен. Цягнеш адну і тую ж песню: вадасховішча, вадасховішча. Ды гэта ж новае балота. Няўжо ты не ведаеш гэтага?

— Чуў, але ж...

— Але ж, але ж... алюшкі ды ў хлеў, кос-кось ды ў аглоблі. Ведаю, пра што ты хочаш сказаць: заўтра зноў уся перакруціцца і благое зноў назавуць добрым. Я ўжо збіўся, хто за кім не паспявае, ці то практыка за навукаю, ці то навука за практыкаю. Але нехта ж

адстае і нехта вырываецца ўперад, а я не хачу не вельмі каб адзаду, не вельмі каб уперад, каб не адзін, разумееш, каб не адзін. І таму я буду рабіць тое вадасховішча, і наогул, усё буду рабіць толькі так, як мне загадаюць. Дзед, падумай і сам: ці ёсць розніца, дзе ляжа тое вадасховішча — на тарфяніках, на месцы старога Княжбора, Махахеевага дубняку. Вада і ёсць вада. Ці не ўсё роўна табе?

— Мне не ўсё роўна.

— Тады і думаць трэба было не мяккім месцам, раней трэба думаць было.

— Думаць ніколі не позна. І ты, Сямён, раней інакш гаварыў.

— Ты не ўспамінай, што было раней. Раней я быў адзін і без хваста, а цяпер з хвастом. І я раблю тое, што мне загадваюць. І кінь свае прапісі, захавай іх для сцягачоў.

— Але ж нельга так...

— Чаму нельга? Табе было можна, а мне нельга. Чаму? Сёння ўсім і ўсё можна. І ты гэта лепш за мяне ведаеш. Я ж толькі пачынаю на тваім месцы.

— Таму я і спрабую паправіць, свой вопыт і розум табе ўкласці. Спыніся.

— Вось гэта ўжо лішняе. Мяне спыніць, пэўна, яшчэ можна, хаця я ўжо таксама машына, механізм, вытворчасць распачаў, стругаю дзяцей і павінен іх карміць. Ты паспрабуй спыніць трактар, карчавальнік, плуг Мацапуры.— І ўпалыя шчокі Рачэўскага заліліся ліхаманкаваю ружовасцю.— Яны зроблены, іх спусцілі са шворкі на зямлю, і яны павінны рабіць, каб таксама сумленна есці свой хлеб, абрабляць сябе, І я, і трактар, і той, хто сядзіць, кіруе гэтым трактарам,— адзіныя, усе мы кормімся і жывімся адзін ад аднаго.

— Але гэта ж таксама прапісі.

— Прапісі, але і яны сёння — хлеб. І не замінай ты мне зарабляць гэты хлеб. Ты жывеш забабонамі, памяццю мінулага і таму палавінчаты, быў нараскараку, калі займаўся меліярацыяй, на раскараку і зараз, калі пайшоў у калгас. А ў мінулае трэба ўрывацца не азіраючыся. Так, я чужы тут і не стану ўпадаць у сантыменты. Я зруйную мінулае і на руйнаванні даведу да ладу ўсё, што так палавінчата пачаў і рабіў

ты. Так, ува мне мала жаласці, але ўсё новае бязлітасна.

— Шахрай...

— А няхай і Махрай. Ён таксама ўжо мінулае і хутка будзе нікому не патрэбны, як нікому не патрэбныя шмат іншых, што былі некалі ого-го, а цяпер проста нішто. Хіба ж не так? Як клічуць іх сёння, бабулек і дзядулек, што калісь...

— Не кранай хоць іх...

— А ты і іх шкадуеш, нібыта ты разважаеш не так, як я. Трэба мець мужнасць быць шчырым самому сабе. Мы і так колькі ўжо манілі самім сабе.

— А ты ж сам намерыўся на месца Шахрая, ты ж гатовы ўжо папхнуць яго і заняць яго месца.

— Магу і гатовы, і не таюся. А ты не намерваўся, а ўсё мы. Мо справа ў тым, што я больш шчыры, я лепш ведаю, што трэба мне.

— Трэба табе, а іншым?

— Мне гэта і без цябе вельмі ж доўга ўводзілі ў вушы, яшчэ б трохі — і зарохкаў, і закукарэкаў: іншым, іншым. Але ўсе тыя іншыя няблага ўладкоўваюцца і без мяне, значыць, сам я павінен аб сабе клапаціцца. Кажу гэта табе, як даўні твой сябра, раю, думай у першую чаргу аб сабе.

— Але ж ёсць яшчэ і Махахеі, і Бардыкі, і Шчуры...

— Махахеі, Бардыкі, Шчуры-прашчуры... Але ж і я таксама жыву на свеце адзін толькі раз...

Не пагадзіцца з Рачэўскім Мацвей не мог. Але страшна было і пагаджацца. За словамі свайго былога сябра ён ужо адчуваў поўнае адмаўленне таго, каб гэта ды некуды імкнуцца, за штосьці змагацца, толькі падпарадкаванне хвіліне, уласнаму дабрабыту, амаль голае рыззё сатлелых слоў, пропісаў, якія даўно ўжо нікога не пераконваюць. Да гэтага ён яшчэ не дайшоў і не хацеў даходзіць, падаць так не хацеў. Цягнуўся да маладой пары ўрачоў, хірурга і неўрапатолага. Але тыя, акрамя таблетак ды працэдур, нічога пакуль яшчэ не мелі, каб дапамагчы яму, не маглі яго ўраўнаважыць. Вёска была чужою ім, гадаваным на асфальце, і на Княжбор і яго жыхароў яны глядзелі па-гарадскому, не разумеючы, што ў нечым гэтая ўмоўная мяжа паміж горадам і вёскаю даўно ўжо згладжана, мо яе нават ніколі і не было; а яны пра-

цягвалі меркаваць аб княжборцах і аб ім, Мацвею, не прызначаючы за ім мо нават і права на нейкія пытанні, патрабуючы ад яго прастаты і яснасці. Проста і ясна ладавалі яны і сваё жыццё, падзяляючы яго на рабочыя і нерабочыя гадзіны, гадзіны, адведзеныя на выхаванне дачкі, заняткі медыцынаю, як яны называлі самаадукацыю. І каля іх Мацвей пачуваўся спакойна, але няўтульна, як у чужым горадзе ці нават чужой краіне. Яны лячылі яго цела, але нічым не здольныя былі дапамагчы душы, а апошнім часам яго нешта стала падводзіць сэрца, то спяшалася, малаціла, што малатарня, і не ў грудзях, а недзе каля лапатак, то замірала, падкочвалася камяком да горла. Маладыя ўрачы клапаціліся аб яго здароўі, і яго вельмі кранаў іх клопат. Але яны ніяк не маглі паверыць, што ў яго, такога маладога, такое зношанае сэрца, ён жа ўвесь час жыў у вёсцы на свежым паветры. І, як гэта ні дзіўна, тут яны сыходзіліся з дзедам Дзям'янам. Той такса ма ніяк не мог зразумець: што гэта такое — першая ўборачная, і ўжо сэрца. «Не, не той старшыня пайшоў,— гаварыў дзед Дзям'ян,— вось раней быў старшыня: чобаты ды брызентавік, і зносу не ведаў старшыня, а ўвесь дзень на нагах. А цяпер і на машыне, і ў чаравічках-лакірках — і сэрца».

Не сышоўся Мацвей ні з кім і з сваіх суседзяў, з тымі, хто ні раней, ні цяпер не ведаў зносу. Так званы старшынёўскі корпус не прыняў і не спяшаўся прыняць яго ў свае рады, лічыў, пэўна, што ён яшчэ занадта малады, хоць і ранні, памятаў, як хадзілі на паклон да гэтага маладога і ранняга, калі пад яго камандай было БМУ. Адчувалася ў іх адносінах з Мацвеем і зайздрасць: ні адна гаспадарка раёна не мела столькі зямлі і такой зямлі, як у княжборскага калгаса. Мінулая восень, хаця яна скончылася для Княжбора і не вельмі ўдала, узняла яго адразу над усімі іншымі і пакінула ўсіх гэтых іншых далёка адзаду. Даравацъ такое, канечне, ніхто з былых першых не мог: яны ж колькі біліся, як вылузваліся са скуры, каб выйсці ў першыя, добра ведалі сваё Палессе, сваю зямлю і тое, што можна ўзяць ад яе, і таму не вельмі давяралі яму, не ведаючы, што за коніка можа выкінуць ён яшчэ, чаго можна чакаць ад яго. І больш выпытвалі, чаго ён сам чакае сёлета, колькі дасць, выкане, паставіць. І гэтыя аднастайнасць і падабенства іх

інтарэсаў зноў жа даводзілі яго да нуды, за якой ён і не прыкмячаў ужо, што ён не лепшы і не горшы за іх, што і сам ён прывык толькі браць, знаходзіць патрэбных яму людзей, прысмоктвацца да іх, жывіцца імі, іх думкамі, словамі і розумам. Цяпер такіх людзей побач з ім не было. І Мацвей, хоць і прыкра было яму гэта, усё ж павінен быў прызнацца, што сам ён бясплодны. І бясплоднасць ягоная, па ўсім, была даўняя, застарэлая, хаця мо і не прыроджаная, нешта ж хвалявала яго раней, раней жа ён не нудзіўся так, не адчуваў сябе адзінокім, таму і кінуўся ў белы свет, як у капеечку, пакінуў тут, у Княжборы, дзеда Дзям'яна, што выгадаваў яго, нявесту, якая чакала-чакала яго і адчаялася дачакацца, выскачыла за першага стрэчнага-папярэчнага. Ці не тады, ці не ў чужых краях ён упершыню адчуў сябе адзінокім, сярод мноства чужых людзей, што абкружылі яго. Тыя людзі нечым падобныя былі на гэтых двух медыкаў, што жывуць сёння ў Княжборы, што лечаць яго цела, а не душу, яны рассунулі межы, пашырылі свет, у які ён толькі што ўваходзіў, паказалі яму бясконцасць і шырыню, шырыню і неабсяжнасць, неабдымнасць чалавека, што разам з ім жыў на гэтым свеце, жыў по-рознаму — і шырока, і вузка, проста, як у Княжборы, і таксама ж, як у Княжборы, складана, блытана. І, як сёння іншы раз думаў Мацвей, жывучы сярод розных падобных і непадобных на княжборцаў людзей, ён усё ж устойваў і браў нешта ад гэтых людзей у чужым краі і з чужога краю толькі дзякуючы таму, што ў яго быў Княжбор; цяпер жа, калі ён вярнуўся да гэтага Княжбора, ён падсек сук, на якім сядзеў. Хацеў прыстасаваць зямлю для сябе, згодна з тым розумам, што набыў ён за гэтыя годы, сыходзячы толькі з таго, што выдавочна, прызнана і неабходна і здаецца чалавеку разумным, забыўшыся, што чалавеку, тым жа самым Махахеям, Барздыкам, Шчурам і Роўдам, мала мець толькі відавочнае, разумнае і неабходнае. Забыўшыся, што лятаюць па Палессі і наогул па ўсёй зямлі, напрыклад, божыя кароўкі, якіх ніхто за карысных не лічыць. Ад кароўкі той ні малака, ні мяса. Але якая ж гэта была ў дзяцінстве радасць, спаймаць тую кароўку, пасадзіць на далонь ці палец і папрасіць у яе малака. І мо яна давала не малако, мо яна мачылася на далонь ці палец, але колькі захаплення выклікала тое

малако: ёсць, аказваецца, на белым свеце без'языкая істота, якая падпарадкоўваецца табе, разумее і слухаецца цябе, дае табе тое, чаго ты ў яе просіш. Ляці ж, кароўка, ляці да сваіх дзетак. Якое яму было тады сабачае дзела, што тая рабенькая, стракаценькая кароўка ні мясная, ні малочная ці, адным словам,— не мясамалочная, што яна мо нават шкоду прыносіць, як той пырнік ці валошка. Яна была дарагою, бо сам ён яшчэ тады быў божаю кароўкаю. Ці не застаўся ён так божаю кароўкаю і сёння, калі яго пажаданні і жыццё сталі такімі простымі, хаця пад іх падведзены жалезабетонны фундамент логікі і розуму.

Але думаць так Мацвей яшчэ мог дазволіць сабе, а гаварыць аб гэтым не наважваўся ні з кім. Таму і з Махахеем спачатку ён завёў размову аб просценькім, жыццёвым, аб перасяленні княжборцаў, коніках, якіх даглядаў Махахей, пачаў гаварыць пра парныя ночы, якіх нешта ўжо няма больш на Палессі. Раней ён, Махахей, ноч пры конях у адной толькі сарочцы, а цяпер во і кухвайка не грэе. А няма парных начэй, няма чаго і грыбоў чакаць, перакінулася Палессе, перавярнулася і ўверх дном стала.

— І смех і грэх, ездзіў зімою да дзеўкі сваёй у Мінск, у магазінах парэчку марожаную прадаюць з Польшчы, у пакецiках. Ці то ў нас парэчкі мала? Канец свету.

— Мо парэчак ужо і не так багата на Палессі, як было раней,— адказаў яму Мацвей.— Але ніколі — хіба гэта не факт? — Палессе не давала столькі хлеба.

— Факт... Я не хлеб ем, хлебам мяне не насыціць, я зямлю ем. Вось мой факт.— І Махахей, бы не жадаючы гаварыць з ім, прыбавіў кроку. І хаця былі яны аднаго росту, Мацвей нават крыху вышэй, яму прыйшлося амаль што бегчы за старым.

— Дык і зямлі ж, дзядзька Цімох, больш цяпер у нас. І ні балота, ні вады такой няма.

— Што было напачатку, тое будзе і ў канцы,— сказаў Махахей. І Мацвей не зразумеў, навошта ён гэта гаварыў.

— А таму,— растлумачыў Махахей,— што было тут калісь на Палессі мора. Будзе і ў канцы мора. І хутчэй нават, чым ты думаеш, таму што ты канцы і пачаткі паабсякаў, укараціў ты зямлі век. І мой век укараціў, але я вытрываю, а вось папытай зямлю, ці

вытрывае, даруе і сцерпіць яна... Шанцуе гэтай зямлі, як ліха дзе, дык усё яе. І вайна, і меліярацыя.

— Параўналі што, дзядзька Цімох.

— Параўнаў, не спяшайся словамі, што перхаццю, сыпаць. Не на той мове ты са мною і з зямлёю мовіш.— І Махахей яшчэ наддаў. Мацвей ужо не мог сысціся з ім, але адставаць не хацеў.

— Адышло Палессе старое, але ёсць жа новае.

— А я з старога, і не таму, што сам стары, а таму што ёсць у мяне мінулае, як і ў кожнага добрага чалавека, у чалавека.

— А я не чалавек вам.

— Ты міну пад Палессе падвёў. І пад мяне міну.

— Якую міну?

— Сваімі вачыма ўбачыш,— Махахей сам ужо амаль што бег. І Мацвей таксама пачаў збівацца на бег, то буйна і спорна крочыў за ім, але доўга не вытрымліваў, драбніў, ніяк не мог прынаравіцца да Махахеевай хады. А прынараўлівацца трэба было, таму што няроўная хада, то подбежкі, то крокам, збівала яго з думкі, блытала думкі. Ён усведамляў, што сапраўды гаворыць з Махахеем не на той мове і не аб тым, пэўна, кожны з іх гаворыць не тое і не тымі словамі. І ў Мацвея былі ўжо іншыя словы, якія трэба былі Махахею, якія б дайшлі да яго. Мацвей прадчуваў гэтыя словы, разумеў, што Махахей ці не адзіны той чалавек, што здольны яго зразумець, якому можна і паспавядацца, трэба толькі наблізіцца да яго і пачаць гаварыць больш даверліва, мо нават і спыніцца, зазірнуць адзін аднаму ў вочы. Але Махахей цвёрда трымаў дыстанцыю і не думаў спыняцца, а Мацвей не наважваўся прасіць яго спыніцца.

І вось так, на хаду, адзін уцякаючы, другі гонячыся, яны і вялі гутарку, бразгацела аброць, што вісела на плячы ў Махахея, пачыналі свае ўжо спевы абуджаныя раніцаю птушкі, гарачае і распаленае ўздымалася над зямлёю сонца, і яны таксама распаляліся пад гэтым сонцам, і Мацвей аж спатыкнуўся ад нечаканасці, калі Махахей раптам спыніўся і загаварыў ледзь не са слязьмі ў голасе:

— Глядзі, Мацвей, глядзі, Мацвейка.— Поле азіміны, на рагу якога яны стаялі, ляжала перад імі як прысыпанае соллю.

— Што гэта? — разгубіўся Мацвей.

— Снег, іней. Міна, пра якую я табе гаварыў. Перш сам сабе не паверыў. Гэта ж летам, лічы. Такой парой баравікі-мікалайчыкі лезлі, парныя ночы стаялі. А тут іней, замаразкі.

Мацвей прысеў на кукішкі і дакрануўся да зямлі ўсёю далонёю, усё яшчэ не верачы, адмаўляючыся верыць вачам сваім.

— Другі тыдзень сонца смаліць,— гаварыў у плечы яму Махахей.— Вада з тваіх канаў і каналаў знікла. Сухія канавы. А шлюзы на канале дырэктар рыбгаса перакрыў, рабочыя пры мне дошкамі наглуха забілі шлюз...

— Што рабіць будзем, дзядзька Цімох?

— Не ведаю, Мацвей,— Махахей быў ужо таксама на кукішках каля старшыні, мацаў зямлю.— Ратаваць трэба зямлю, ратаваць пшанічку.

— У цябе ж яшчэ сёння будуць гуляць, дзядзька Цімох. Вяселле ж.

— Будуць гуляць, вяселле,— вымавіў Цімох.

— Вяселле... А дошкі на шлюзе тоўстыя?

— Ды ўжо ж.

— Што ж ты без сякеры пацягнуў мяне ў такую дарогу...

— Чаму без сакеры... Сакера ёсць. Адна толькі. Вось,— Махахей крыху збочыў, пакорпаўся ў траве каля мяжы і вярнуўся да Мацвея з сякераю.

— Адна,— сказаў Мацвей.

— Адна,— пацвердзіў Махахей.

— Ну дык дзякуй табе хоць за сакеру. Сам жа не пойдзеш са мною?

— Не гневайся, Мацвей, не пайду.

— Ратаваць пшаніцу ж трэба, сам казаў.

— Казаў і буду казаць. Толькі ты ў мяне не пытаўся, не дакладваўся мне і дапамогі не прасіў, калі балота тое нішчыў, ваду адсюль праганяў...

— А калі б, дзядзька Цімох, маё гэта вяселле было, калі б гэта я Надзьку браў?

— Папярок парога лёг бы, праз мяне прыйшлося б дачцы пераступаць.

— І за што гэта ты так, дзядзька Цімох, за што?

— А ета ты сябе спытай, у маці сваёй і бацькі, яны тут, у гэтым балоце, ляжаць.

— Пі-і-і-іць-піць-піць,— пракрычала кнігаўка, што невядома як апынулася сярод голага поля, ці то жыла

тут, ці то пераблытала нешта, па старой памяці завітала сюды, на былое балота. І Мацвей адчуў, што ён таксама высмяг ужо, што ён хоча піць, як і гэтая птушка, як азіміна. Не да ладу прыгадалася нешта брыдкае, што апавядаў яму нейкі не вельмі добры чалавек аб тым, як прыручаў ён сабаку, аўчарку, якую набыў з рук, купіў ужо дарослаю. Аўчарка аніяк не хацела прызнаць новага гаспадара, ні на крок не падпускала яго да сябе, нічога не прымала з яго рук. І ён мо тыдзень не карміў яе, трымаў на ланцугу, а потым купіў і даў ёй адразу два кілаграмы кількі. Пасля кількі ён яшчэ два дні вытрымліваў сабаку на ланцугу, не даючы ні глытка вады. І калі сабака стаміўся ўжо і енчыць, са спаленаю глоткаю і нутром упаў на зямлю, толькі тады ён прынёс вядро вады. І пачаў гладзіць сабаку, і паіць з далоні, прымусіў сабаку лізаць рукі. І сабака лізаў, забыўшыся пра гонар і вернасць свайму быламу гаспадару, забыўшыся пра нянавісць. Смага адбіла яму памяць. Такую ж смагу, што была мацней за памяць, адчуў зараз і Мацвей. Але была гэтая смага ў той жа час і асабліваю, не падобнай ні на птушыную, ні на жывёльную, так прагне, пэўна, толькі зямля, гнучыся і карабацячыся ў вымерлым ад сонца безгалоссі, узараная і расхінутая, бездапаможная, безабаронная перад сонцам і ветрам. Мацвей крочыў па белым полі, як у барвовым тумане, ён прыгадаў, што вось таксама, як у тумане, ён ішоў і ўчора, і ўчора таксама, як і сёння, ён праг ад смагі, усе праглі вады, хто быў на вяселлі ў Махахеяў, усе хацелі піць, і не гарэлку, як заведзена на вяселлі.

## 2

Ішла Надзечка па ваду,<br>
Кінула вядро на буйны вецер...

Заспявалі жанчыны, пайшла Надзечка, маладая, па ваду. Але лепш бы не хадзіла, лепш бы кінула вядро на буйны вецер. Вецер, і буйны, віхор, і папраўдзе ўсхапіўся і закружыў, калі пачалі выпрабоўваць маладую, калі нявеста падмяла ўжо хату, Васька вызваліў яе ад гэтага бясконцага мяцення, адкупіўся ад прыдзірлівых бабуль гарэлачкай. Цяпер Надзьцы трэба было паказаць гасцям, як яна мые хату. Яна ўзяла з лаўкі вядро, што было прыгатавана ўжо загадзя,

толькі скіравалася да калодзежа, як захуталася хмаркаю маленькаю сонейка, усчаўся ветрык, прамчаў па вуліцы віхор, і ў двор Махахея зацягнула край яго, сыпанула пяском і пацярухаю на маладую. Старыя адразу ж падцялі вусны, захіталі галавамі: не к дабру.

— Вяселле без дзіў не бывае,— расхвалявалася за ўнучку старая Махахеіха, але выгляду не падала.— Хто з маладых не глуміцца. Ідзі, донька, набірай вады, зараз жа цябе бог і шчасцем адорыць.— І яна, не падымаючыся з лавачкі, што стаяла пад хатаю, адной рукою абаперлася на кіёк, а другую, з нягнуткімі пальцамі, выставіла перад сабою, быццам трымала ў ёй шчасце, якім бог павінен быў адарыць унучку. І бог, неба адарылі. Нарадзілася ў небе, адарвалася ад хмаркі малая дажджынка, прыляцела на зямлю і патрапіла на старэчую ўсохлую далонь, акрапіла яе, як сухую, запечаную скарынку хлеба. Да гэтай адзінай дажджынкі баба дадала яшчэ і слязінку: — Вось і шчасце табе, Надзька, спрыяе, рупіць табе неба.

— Так-так-так,— пэўна, першы раз пагадзілася, пацвердзіла і Ненене.— Дождж на вяселле — к багаццю, на дабро.

— Дзе той дождж, дзе тое дабро, другі тыдзень сухмень,— выцягнула перад сабою зайздросную руку і Царыца. І яе руцэ дасталася дажджынка. А маладую акрапіла, асвянціла добра. То быў дождж і не дождж, здзяйсненне жаданняў, блаславленне нябеснае. Над усім вялікім цяпер ужо Княжборам не было ні воблачка, толькі над хатаю Махахея сабралася малюпасенькая хмарка, над адной толькі хатай, каб не парушыць звычаю, пажадаць і паабяцаць маладым шчасця. На старую Махахеіху ды маладых і праліўся толькі той дождждык, толькі на іх і хапіла яго, а яшчэ на Царыцу, але гэта ўжо было нецікава. Царыца была здольная, калі ёй, канечне, хацелася гэтага, выціснуць ваду і з вугельчыка. Пілікнула скрыпка, вохнуў бубен, зарыпеў жуpавель, брынкнула вядро на зрубе і пабегла ўніз.

— Калодзеж, калодзеж, дай вады напіцца...— выгукнула Царыца.

— Не-не-не,— на гэты раз Ненене была вернаю сабе — прасіць вады ў калодзежа трэба, калі маладыя будуць класціся спаць.

— Ой, бяды, калі прасіць. Цяпер усё пераблыталася, ніхто і не ведае, калі тое прасіць.— Царыца замоўкла, вядро дасягнула дна, легла на дно, але легла не на ваду, а на зямлю. Гэта пачулі ўсе, хаця і біў бубен і пілікала скрыпка, так сыра і злосна скрыгацела вядро па пяску і ўскрыкваў у руках маладой перасохлы журавель.

— Ды пусты ж калодзеж,— не вытрымала гэтага скрыгацення Царыца.

— Ты ва ўсім вінаватая, Маруся, сурочыла, пад руку маладой закрычала. Вока ў цябе нядобрае,— сказала Ненене, пляснула рукамі.— Вой-ё-ёй, што ж гэта будзе.

І ўжо нелагодна паглядала на Царыцу і Махахеіха, маці маладой. Яна не хацела зваць яе на вяселле, як Махахей не хацеў зваць Мацвея. Ненене казала праўду: сурочлівае вока было ў Царыцы. Сусед Царыцы не вытрымаў яе вока і з'ехаў з Княжбора і за малым богам не пабіўся з ёю, калі яна прыйшла падсабіць яму зносіць і грузіць пажыткі: «Не толькі жыцця тут, побач з табою, добрага не было, дык і дарогі добрай не будзе...» І Махахей з Махахеіхаю, прыкідваючы, каго запрашаць на вяселле, сышліся на тым, калі з яе боку будзе Мацвей, то з яго — Царыца. Няхай яны адно аднаго ўраўнаважваюць. А то як жа гэта, не палюдску абысці і старога, і новага старшыню, што падумаюць і скажуць княжборцы: не старшыня ўжо, дык і на вяселле не запрасілі, былога старшыню паклікалі, а маладога не — зуб на яго маюць.

Мацвей, як на тую хваробу, і зараз стаяў побач з Царыцаю, шырокаю, неахопнаю і таму, здавалася, вельмі надзейнаю, моўчкі пазіраў, як зацята-ўпарта кланяецца калодзежу жураель, як кланяецца яму Надзька, як твар яе ідзе рудымі і чырвонымі плямамі, як яна злосна-непрыгожа збівае набок вэлюм, азіраецца кругом, бы шукае вінаватага, шукае, хто гэта не дае ёй набраць вады. Мацвей хацеў ужо кінуцца дапамагчы маладой, але спазніўся. Надзька пусціла жураль, ён ірвануўся ў неба, яго падхапіў малады і зноў, тарабанячы аб зруб вядром, бы звонячы ў пажарную рэйку, пагнаў яго ўніз.

— Калодзеж, дай жа...— Гэта зноў азвалася Царыца, але не дагаварыла, бы папярхнулася, змоўкла, зацiснула рот даланёю і са спалохам азірнулася на

вяселле. Азірнулася і ўбачыла, што нікога, акрамя Мацвея, каля яе няма, што людзі паціхеньку адсоўваюцца ад яе. Яна здагадалася чаму і залямантавала ледзь не на ўвесь Княжбор, уздрыгваючы ўсім сваім неахопным целам:

— Ды ці ж вінаватая я, людцы добрыя. Чаму ж гэта так на мяне вы ўсе ды на мяне. А я ж ні на паўстолькі нікому благога не рабіла,— і яна паказала Мацвею на кіпці, дзівосна маленькія на такой пульхнай і поўнай руцэ. На паўстолькі ж гэта нікому не зрабіла яна нічога благога? Тыцнула яму рукой у твар так, што ён мімаволі адхіснуўся.— І мой жа калодзеж высмяг,— Царыца цяпер звярталася толькі да Мацвея, гаварыла спачатку добразычліва, а потым, як чорт за тлусты бок яе ўшчыкнуў, схамянулася і аж падскочыла: — Во злодзей стаіць, во хто ўсю нашу ваду папіў, выхлебтаў усю ваду. Людзі, будзьце сведкамі ўсе. Во ён, глядзіце на яго...

Але ніхто глядзець ні на Мацвея, ні на Царыцу не пажадаў. І танцы як скіслі, хоць і гухкаў бубен, спакойны і нават, здаецца, адрачоны ад усяго вясельны Анісім іграў, як ніколі, і Сёмка-цыган хацеў таксама дагадзіць сваёй скрыпкай, пэўна, спачуваў Мацвею, бы скрыпка здолела ўратаваць яго ад ганьбы. Мацвей адчуваў, што тут ад ганьбы яго ўжо ніхто не ўратуе. Ірваў душу журавель, што ўсё яшчэ рыпеў, суха і пагрозліва. Госці паціхеньку, адзін за адным, унікаючы гэтага рыпу, пацягнуліся ў хату, нават Царыца адчапілася ад Мацвея, валюхаючыся, падалася таксама ў хату. Як і ў нявесты, нічога не атрымалася і ў жаніха, скроб-скроб, ды так амаль нічога і не выскраб ён з сухога калодзежа. Зняў вядро з крука, плёхнуў пад ногі Мацвею вадкую і ржавую гразь, падхапіў Надзьку пад руку і пайшоў ад яго следам за гасцямі. На двары засталіся адзін толькі Махахей ды старая Махахеіха. Мацвей падышоў да Махахея.

— Трэба было сказаць, дзядзька Цімох, я ж нічога не ведаў.

— Пра што гаварыць, Мацвей?

— Ну... не ведаю,— збянтэжыўся ён.— Папрасіць...

— Вады папрасіць? Хто ж гэта каля калодзежа свайго вады просіць?

— Ну не вады. Не ў адных вас такая бяда, багата

ў каго па вёсцы калодзежы паперасыхалі. Узровень грунтавых вод панізіўся, так званае УГВ...

Мацвей узрадаваўся, што выйшаў на гэтае УГВ, цяпер можна гаварыць не бянтэжачыся і доўга, але Махахей не схацеў яго слухаць.

— Чорцяго бяры гэтае тваё угавэ,— сказаў ён,— панізіўся дык панізіўся. Усё панізілася.— І Махахей таксама пайшоў у хату.

— Я б кругоў вам даставіў,— спрабаваў спыніць яго Мацвей, але ён, як ад нейкай назолы, толькі адмахнуўся ад яго і схаваўся за дзвярыма.

Мацвей сеў на лавачку каля старой Махахеіхі, у хату да людзей ён не хацеў і, здаецца, пабойваўся ісці. Тое, што ў калодзежах Княжбора не ставала вады, было яму вядома ўжо. Калодзежы пачалі перасыхаць, як толькі з-пад хаты дзеда Дзям'яна знікла тое балотца. І княжборцы ўжо даўно, як хто мог, паглыблялі свае калодзежы, адны проста чысцілі, падкопвалі, дабаўлялі да зруба вянец-другі, а некаторыя ж патрабавалі ад яго, каб ён вёз бетонныя кругі. Ён не вельмі ўлягаў везці тыя кругі:

— Хутка перасяленне.

— Перасяленне хутка, а піць трэба во зараз, кажын дзень,— насядалі на яго.

Адна Ненене ўсю кроў да кроплі высмактала, дзе ні стрэне — сляпіцаю, што толькі сталася з ёю, такая ж рахманая была старая.

— Твой бацька неяк на мосціку гадзіннік забыўся,— здалёку пачынала яна, лыпала круглымі вочкамі, ці разумее яе старшыня.

— І што з таго, цётка Тэкля, забыўся, а потым успомніў, вярнуўся і ўзяў,— не здольны быў зразумець яе далёкага заходу і далікатнага намёку Мацвей.

— Во-во, дзень прайшоў, пакуль успомніў, а гадзіннік палёжваў. Дачакаўся хадзяіна. А хата мая без хадзяіна...

— Пры чым тут, цётка Тэкля, мой бацька, яго гадзіннік і твая хата?

— А пры тым, што я хадзяйка ў етай хаце маёй, дзе што паклала, там і вазьму, а ці ж буду я хадзяйкай у камяніцы той тваёй.

— Ты што, цётка Тэкля, адмаўляешся пераязджаць, мы ж дамовіліся канчаткова.

— Ды як табе сказаць,— мулілася Ненене,—здаецца, дамовіліся.

— Дык чаго ж ты мне галаву дурыш, што ж табе яшчэ ад мяне трэба?

— Вады, Мацвейка, вады. Няма ўжо ў маім калодзежы вады, Мацвейка.

— Навошта табе вада, навошта калодзеж, у новых будынінах — і водаправод, і каналізацыя.

— А я напаследак з калодзежа хочу. Вада тая, з крана, даўкая... во.

Усяму Княжбору вада з крана раптам зрабілася «даўкаю», хаця да гэтага, гасцюючы ў сваіх дзяцей у горадзе, выхваляліся адзін перад другім: чаму ж гэта не жыць майму Сцяпану (Івану, Раману), па ваду і то не трэба хадзіць, сама ў хату ідзе. І ваду тую ўхвалялі: добрая, маўляў, вада, і не прэсная такая, і балотам не патыхае. А тут заныліі, заскуголілі, як тая Ненене, усе адразу:

— Хачу калодзеж, пакінь ты мне калодзеж мой, трохдонны ён — дно залезнае, дно сярэбранае, і дно залатое. І ўсе тры высмяглі. Не будзе вады ў маім калодзежы, не стане яе і ў тваім полі, спрагне поле, успамянеш мяне, спрагне. Калодзеж мой з усім светам звязаны, жывая вада ў ім.

— Хопіць, цётка Тэкля, аб калодзежы,— спрабаваў збіць, перавесці яе на другое Мацвей, але пра тое другое старая і слухаць не хацела:

— Ой, не-не-не, Мацвейка. З калодзежа трэба пачынаць. З вады, з крынічкі ўсё пачыналася. І рэчка наша колішняя з крынічкі выбягала.

— Што табе і твайму калодзежу трэба?

— Паглыбіць яго трэба. Кругі бетонныя падвезці, каб падкапаць і надтачыць яго, хоць бы да донца першага, жалезнага.

— Добра, прывязу кругі,— абяцаў Мацвей і прывозіў, і не толькі Ненене адной. Так туга гаварылася яму са сваімі аднавяскоўцамі і амаль што кожны дзень. Змяніліся, зрабіліся непадобнымі на саміх сябе не толькі яго палешукі, змянялася, пачынала тузацца і сама палеская зямля, птушкі і звяры, што жылі на ёй. Занерваваліся і зрабіліся нейкімі непрыкаянымі, як бацьку ці маці страцілі, княжборскія буслы. То заўсёды клапаціліся аб сваёй хаце і нашчадках сваіх, а сёлета бы і не садзіліся на кубло, як ніколі і не ве-

далі, ніколі і не было ў іх патрэбы працягваць свой род, па адным і чародамі бадзяюцца па балоце, былым балоце, а цяпер бясконцым полі, як што згубілі ці пагарэлі. Аж жах бярэ, да чаго яны на самай справе падобныя на пагарэльцаў. Дзыбатыя, у белых світках, што паспелі схапіць, у тым і выскачылі з агню. І ходзяць па полі, сумуюць, як ходзяць пагарэльцы на папялішчы, нагінаюцца, там цвік, там клямку падбіраюць, нагінаюцца, дзяўбуць нешта ў зямлі, спажыўнае і не, невядома, бо не глытаюць, як забыліся і пра тое, як і есці трэба: ды што, пэўна, у той клямцы, цвіку-чарвяку, калі селішча цалкам ляпнула. Згубілі, здаецца, буслы сваіх жаб і гадаў і адмаўляюцца шукаць іх на старане, патрабуюць вярнуць ім гэтых жаб і гадаў, клічуць назад балота. А княжборскія дзяды, наадварот, ніколі не надта гаваркія, цяпер жа бы знямелі зусім. Збяруцца, сыдуцца, моўчкі пасядзяць на лавачках пад хатаю, пачнуць уздыхаць, хітаць, як неапераныя птушкі, галовамі, пакураць з старых запасаў тытуню і, згледзеўшы яго, Мацвея, хапатліва разбрыдуцца, блытаючы часам дарогі і хаты, як ужо і забыліся на старасці гадоў, дзе стаяць іх хаты, дзе жывуць і чакаюць іх старыя. Выкрочваюць, як тыя ж буслы, туды, дзе бегла калісь іх рэчка і стаялі дубы, дзе ляжала возера, упруцца ў тры нагі (кіёк — нага трэцяя) у полі і слухаюць невядома каго і што. А старыя, бабулькі, тыя зусім не сталі на вуліцу паказвацца. І ў хаце калі не на печы, то больш каля акна ўладкоўваюцца. Адхінуць белую, крыху ўжо і зжоўклую фіранку, кінуць яе за плечы, твар да кветкі, да іванчыка мокрага, бабка, а часцей за ўсё да сталетніка, і вочы на вуліцу. І вочы іх — як лісці сталетніку, калі яго надламаць. І тварам, маршчынамі на тварах падобныя яны на ўзорліва крывыя свае сталетнікі. І каток яшчэ разам з тым сталетнікам і бабулькаю ў акне...

— Сатвары ваду,— збівае Мацвея з яго думак старая Махахеіха, скрабецца кіёчкам, як кура лапаю драпае зямлю.

— Што ты, бабуся, аб чым ты? — не верыць і вушам сваім Мацвей.— Я ж табе не гасподзь бог.

— Не можаш?

— Не магу.

— А я ведаю, што ты не можаш. А была вада, як

па біблії, і кладачкі ў той вадзе. Мы па кладачках тых да партызан хадзілі, да куранёў іхніх. Немцы не ведалі пра кладачкі. А мы напакуемся, хлеба, кардопляў, і ўсё скрозь кладачкамі, усё скрозь вадою, балотам і лесам. Аберагала нас вада ў вайну, і лес аберагаў. Вось я думаю, каб, не прывядзі гасподзь, ды зноў вайна, дзе б ратаваліся, дзетка ты мая.

Мацвей маўчаў, нечага яму было адказаць старой Махахеісе. Але яна і не патрабавала ад яго адказу, здавалася, і словы яе тыя пра ваду, кладачкі, лес і немцаў таксама былі выпадковымі, прыгадала нешта сваё, выгаварылася, угрэлася ўспамінамі і забылася, і толькі тады, калі ён падумаў так, Мацвей прыкмеціў, што сядзіць старая ў адной толькі кофце, паддзёвачка яе, з шыняля яшчэ, пэўна, армейскага, вісіць на цвічку за плячыма Мацвея.

— Вам не холадна, баба?

— Як не холадна, дзетка, холадна.

— А чаму ж вы маўчыце?

— Ай, дзетка, мне цяпер не людзей, а бога прасіць трэба, каб дапамог сагрэцца.

— Накіньце паддзёвачку ўсё ж, а я дапамагу, хоць і не бог.

— Дапамажы, калі не цяжка, не сагрэе мяне ўжо і сукно.

— Дык мо б выпілі? — спытаў ён, накідваючы на плечы ёй паддзёвачку, апасліва ўпраўляючы ў рукавы нягнуткія рукі.

— А я ўжо выпіла чарачку, кульнула, калі ніхто не бачыў,— і Махахеіха засмяялася,— мо астаннюю ўжо. Ой, салодкая астанняя. А ты што каля мяне прыляпіўся, чаму не гуляеш з усімі?

І зноў Мацвей падумаў, што старая жыве толькі бягучым, яна, пэўна, і не бачыла, а калі бачыла, то наўрад што зразумела з таго, што адбылося нядаўна тут. Але, аказалася, што гэта зусім не так, усё прыкмячала з сваёй лавачкі, усё трымала ў галаве, бачыла больш нават, чым можна было падумаць, нібы скрозь зямлю глядзела старая.

— А ты не журыся, хлопча,— вымавіла яна зноў, крыху пазней.— Мо яшчэ і апраўдаешся.

— Вы так думаеце, баба, вы ведаеце? — учапіўся за яе пальцы, што за саломінкі, Мацвей, не пытаючы нават, перад кім гэта і за што павінен ён апраўдвацца.

— А як жа мне іначай пра цябе думаць, нельга мне на краі свету, адной нагой ужо там, нядобрае пра людзей думаць.

— Вы ж не знаеце мяне, забылі ўжо, пэўна, мяне,— заспяшаўся Мацвей, каб яшчэ раз пераканацца, што яна гаворыць менавіта аб ім, што менавіта аб ім яна не можа нядобра думаць.

— Як ета я цябе не знаю. Я знала цябе, а цяпер і чую, калі падаў ты мне руку. Я пра цябе ўсё ведаю, помніш, сустракаліся мы на балоце, думаеш, старая забыла. Не, старыя людзі мо сённяшняе не помняць, а даўняе ўсё ў іх галаве. Я прадказала табе цяжкую долю праз сэрца тваё мяккае. Будзе яна яшчэ цяжэй, будзе, дзетка. Толькі ж быць табе і з Аленаю нашай разам, шкада толькі, што мне ўжо не давядзецца пабачыць вас, калі вы будзеце разам, вох, шкада... Яна далёка, а я чую голас яе, усё пра цябе дапытваецца. Няма ў яе жыткі без цябе, Мацвей.

— Я вінаваты...

— Не вініся без пары. Ніхто з жывых не бязгрэшны. А вось дзела ты задумаў...

— Дык вы і пра дзела мае ведаеце?

— Не, дзетка, пра дзела я тваё не ведаю, і я не гасподзь бог. Знаю толькі, што задумаў жа нештачка ты. Праў сваё дзела, і гасподзь бог табе суддзя.

— А вы бласлаўляеце мяне?

— Бласлаўляю,— сказала Махахеіха і ўстала са сваёй лавачкі, падхапіўся і Мацвей. І Махахеіха тройчы па тры разы клюнула яго сухімі пальцамі ў грудзі і лоб, сплюнула, нешта шэптам вымавіўшы сама сабе.

— А цяпер ідзі,— сказала яна.— Ідзі. Яшчэ пабачымся, да жніва я яшчэ дажыву, увіджу жніво, а там як бог дасць.

Мацвей пайшоў і з'явіўся зноў на вяселлі ўжо вечарам, калі прыспеў час дзяліць каравай. Каравая ж таго не знайшлі: выпечаны бабаю Ганнай, ён чакаў свайго часу ў каморы, там, дзе прыхавана было і некалькі бутэлек гарэлкі, на ўсякі выпадак, а раптам ды не хопіць, і было ў той каморцы невялічкае акенца, сабаку пралезці. Але пралез у гэтае акенца і сабака двухногі, як сказала Барздычыха, праз акенца выцягнулі і каравай, і гарэлку, падзея ў Княжборы неверагодная. І гары яна гарам, тая гарэлка,— зняважылі і зняславілі і Махахеяў, і Барздык. Прыспеў час быць

караваю на стале, а яго няма, і што хочаш рабі, хоць стой, хоць падай, хоць бацькам маладых уцякай са сваёй хаты, з вяселля і вёскі свае. Першае вяселле ў Княжборы спраўлялася без каравая. І, здаецца, было яно ўжо не сапраўдным. Без патрэбы былі і каравайнічкі-пачынайнічкі, і не было аніякай патрэбы кідацца дзевачкам у песенькі, музычкам у скрыпачкі, а мамачцы — ў мыселькі: не было караваю-раю. Такі ўзнялі бабы галас і лямант, што мёртвага б абудзілі. На той галас і вэрхал патрапіў Мацвей, якраз у пару. Мужчыны ўжо ледзь не ўсім вяселлем збіраліся ісці вайною на сцягачоў: хто ж гэта яшчэ, акрамя іх, прыблудных, мог так зняважыць, абразіць вяселле.

— Бралі б, жэрлі б ужо толькі гарэлку,— галасіла Барздычыха,— каб вам рукі паадсыхалі, каб вам вочы павыпірала ад той гарэлкі, каб вас параспірала. Зямельку б вам так смачна есці, як вы елі каравай... Ой, караваю мой, раю, я каля цябе іграю, я цябе прыбіраю... каб вас на той свет прыбрала, каб у гробе дошкі ды прыціснулі вашы ножкі, каб нельга было і ўстаці.

— Ты што, Парасця,— спрабавала спыніць яе баба Ганна.— Вяселле ж, не хаўтуры, ты і на дзяцей бяду наклічаш.

Але спыніць Барздычыху было ўжо немагчыма.

— Каб вашы рукі пазалацелі ды па локаць адляцелі...— выла яна па каравai, як па нябожчыку, праклінаючы тых, хто паквапіўся на яго. І Барздыкі, а за імі і Шчуры ўжо ламалі платы, бралі калы, каб ісці прыступам на санпрапускнік. І пайшлі б, калі б не аказалася пад рукою, там жа, на вяселлі ў Махахея, участковага. Разам з участковым Мацвей і пакінуў вяселле, толькі той ішоў несці службу, шукаць зладзеяў, а Мацвей — дахаты. І чым бліжэй была гэтая яго хата, тым больш трывожна рабілася на душы яму: ці не чакае і яго ў хаце ці каля хаты ўчастковы. Тое, што ўкралі каравай і гарэлку,— гэта проста дробязь, калі параўнаць з тым, што ўтварыў ён, і тут, бадай што, адным толькі ўчастковым не абыдзецца, можа прыджгаць і сам начальнік міліцыі разам з сакратаром райкома. Як ён будзе апраўдвацца перад імі, што ён ім скажа.

Учора, яшчэ ў запале, ён думаў, што адмовіцца ад усяго, і на тым кропка, таму і ўзрадаваўся ўчастковаму, мазоліў яму вочы: не адлучаўся, маўляў, з вясел-

ля я — нікуды, і ўчастковы сведка. Цяпер жа гэтая спроба апраўдацца здавалася яму такім глупствам, што аж з душы вярнула. Ён разумеў цяпер Бардзычыху і пагаджаўся з усімі яе праклёнамі, хаця цана ўсёй яе прапажы — капейка. Але тут яна паднялася і бушавала не за капейку. І ён таксама не за капейку, не толькі за тое поле, за тую пшаніцу, што вымачыла, якую затапіў рыбгас. Ён паўстаў супраць самога сябе, а калі падумаць і ўзважыць усё, то мо нават замахваўся і на нешта большае. І за гэта трэба было ўжо адказваць. Там, каля сажалак, закладваючы ўзрыўчатку, ён быў яшчэ не гатовы адказваць. Мо ён баяўся, хутчэй за ўсё баяўся, і шкадаваў тую сажалку, якую збіраўся спусціць. Гэта ж ён сам, сваімі рукамі стварыў яе. І сваімі рукамі павінен быў знішчыць, гэта значыць, прызнацца ў тым, што ён нічога не будаваў і не ствараў, а на самым пачатку толькі руйнаваў, толькі бурыў. Бурыў плугам Мацапуры, а цяпер вось узрыўчаткаю, якую, праўда, здабыў падпольна. Даводзілася каму-небудзь з людзей праходзіць праз такое ці ён першы? І чаму менавіта ён, а не хто-небудзь іншы, таму што ў яго няма хваста, як у таго ж Рачэўскага? Ці ён больш шчыры і больш сумленны, чым іншыя? Гэтага Мацвей аб сабе не сказаў бы. Ён не мог сказаць, што баіцца начальства, імкнецца дагадзіць яму. Начальства трэба паважаць і любіць — гэта ўводзіў у вушы яму Шахрай. Ад любові да таго ж Шахрая ён не сканае, але ён і не паўставаў супраць яго, не супярэчыў яму асабліва, не меў рацыі супярэчыць яму. Паміж імі заўсёды была згода. А калі ён дзе-небудзь быў і супраць, то Шахрай усё ж неяк мог падысці да яго і пераканаць, перацягнуць на свой бок. Ён пагаджаўся з ім, але іншы раз гэтае згодніцтва працягвалася хвіліну-другую, пакуль той жа Шахрай знаходзіўся побач і прысутнасць яго як бы душыла Мацвея. Ён не здольны быў процістаяць гэтай прысутнасці, усмешцы, слову, не мог стаць на адну нагу з ім, тады ён, здаецца, нават і ўслугоўваў яму. Толькі ўслугоўванне гэтае зыходзіла не з таго, што ён баяўся ці шукаў нейкіх асабістых выгод. Калі б той жа Шахрай уздумаў крыкнуць на яго, ён бы таксама не змоўчаў, і як бы яшчэ грукнуў дзвярыма, нешта было ў крыві яго куды больш моцнае за яго, і гэта якраз вымушала яго прымаць чужую, навязаную яму волю, пагаджац-

ца спачатку і толькі крыху пазней ужо бунтавацъ. Але і ў гэтым бунце пасля бойкі ён толькі размахваў кулакамі, змагаўся словамі, якія так і засталіся нявыказанымі ўслых, таму што словы тыя, вельмі важкія і значныя, выкрывальныя, ён гаварыў сабе, размаўляў сам з сабою, выкрываў сябе і іншых. І ў той жа час апраўдваў сваё згодніцтва, лічыў яго часовым, прадыктаваным нейкай вышэйшай неабходнасцю берагчы сябе для нечага новага і сапраўды вялікага, сапраўды рызыкоўнага, дзе ўрэшце ён пакажа сябе, пакажа, чаго ён варты. Але нічога новага і вялікага яму так і не выпадала. Усё ішло — як і звычайна. Зноў сыходзіўся ён з Шахраем ці то з тым, хто замяшчаў яго, і зноў гэтае «нешта» ў крыві вымушала яго стрымлівацца, а часам ён нават і не стрымліваўся, а проста губляўся, таму што новае з'яўлялася не ў ім, ён працягваў яшчэ бушаваць, кіпець, спрачацца з самім сабой, выконваючы ўсё ж навязанае яму, як ужо нарараджалася зусім іншае, зусім іншага патрабавалі і ад яго, не адмяняючы нічога з таго, што было раней. А ён ніяк не мог прынаравіцца да гэтага іншага, з прыкрасцю ўсведамляючы, што не хапае яму і гнуткасці, і спрыту, што ўвесь ён скіраваны толькі на тое, каб выканаць загаданае. То абуджалася ўжо ў крыві яго пачуццё самазахавання, то падаваў голас нейкі далёкі продак, што, забіты і затурканы, ціха пражыў свой век у гэтых палескіх лясах і балотах, даваў аб сабе знаць і аказваўся на гэтае імгненне больш дужым, чым ён, больш дужым, чым яго дзед, які насмеліўся некалі і прыбіўся да «дземакратаў», якія, па словах княжборцаў, з'явіліся перад рэвалюцыяй у гэтых лясах і балотах, дзе ўсё жыццё правёў у войнах, спачатку змагаўся з немцамі, потым з белымі і белапалякамі, потым, ствараючы калгас, і з самімі княжборцамі; мацней за бацьку, які таксама не ведаў спакойнага і мірнага жыцця.

Мацвей ненавідзеў у сабе гэтага баязлівага продка, што паўсюдна імкнуўся падаслаць сабе саломкі, па кроплі выціскаў яго з сябе і не мог выціснуць. Ён не здагадваўся аб прысутнасці ў сабе таго баязліўца, пакуль вучыўся ў школе, той з'явіўся ў ім, калі ён стаў ужо студэнтам. Мацвей спадзяваўся, што пазбавіцца яго, як толькі атрымае дыплом і стане самастойным. Цяпер ён, здаецца, трывала стаяў на нагах, але так і

не пахаваў свайго нябожчыка, ён ценем стаяў за яго спіною і хапаў яго за рукі, вязаў яму рукі. Мацвей бачыў яго — гэта быў стары, падобны адразу на Барздык, Махахеяў і Роўд, але Мацвею ён нічога ад сябе не даў, акрамя, канечне, страху, пачуцця самазахавання, быў ён цёмны, нават чорны ■ твару, а сярод Дзям'янаў усе былі толькі светлыя, русыя і сінявокія, у гэтага ж — цёмныя, збітыя ў каўтун валасы, і вочы колеру рудой балотнай вады, і жоўта пазначаны ліхаманкаю, спіты твар. Ён і цяпер калаціўся, бы трасла яго ліхаманка, але біла яго зараз не хвароба, ■ страх. Ён і памысліць не мог, што наважыцца ўтварыць такое, што наважыўся ўтварыць ён, Мацвей Роўда. Мацвей злавіў сябе на тым, што ён проста марудзіць, што яму не стае рашучасці чыркнуць запалкаю і падпаліць шнур, бы самога сябе падпаліць. І калі перамог сябе, чыркнуў, падпаліў, ужо не спяшаўся бегчы і хавацца. Адчуванне небяспекі было непераходным, але не той, што крылася ў патроне ўзрыўчаткі, які ён заклаў пад дамбу каля сажалкі. Ён не баяўся, што выбух можа дасягнуць і яго, у гэтым мелася нешта нават выратавальнае, што адразу давала яму абсалютнае і прыемнае вызваленне. Страх крыўся ў іншым: зноў, як нічога не здарылася, як нічога не было, трапіць на вочы людзям. Заставацца ці прыкідвацца непашкоджаным, гаварыць з людзьмі, глядзець ім у вочы. І ён з цікаўнасцю сачыў, як пырскае іскрамі агеньчык, жарэ, глытае секунды, адлічвае ўжо яго секунды, думаў аб сабе, як аб некім староннім, у галаву лезла нешта пабочнае і дурнаватае, накшталт таго: рухаецца агонь у шнуры раўнамерна ці ў ім, як і ў чалавеку, ёсць сярэдзіннае, унутранае гарэнне, і сярэдзіннае гарэнне больш хуткае, чым гэтае, бачнае воку, і як проста ўсё адбываецца — агеньчык, іскра, адзіны толькі выбух — было жыццё, і няма яго... была вада, і не будзе яе, адхлыне яна, адступіць ад палёў. А поле ўсё роўна прыйдзецца перасяваць. А перасеў горш недасеву. Прыкідваючы гэты перасеў, ён, не вельмі ўсведамляючы, што робіць, пабег і за імгненне да выбуху ўпаў, схаваўся за пагоркам. Выбух быў глухі, з нейкім усхліпам і прычмокам, бы гэта быў і не выбух, таму Мацвей пайшоў праверыць, ці хапіла зараду, каб разбурыць перамычку.

Перамычку разбурыла, і з сажалкі ўжо хлынула

вада, падмываючы і абвальваючы зямлю, змываючы сляды яго злачынства. Здавалася, што вада сама і пратачыла тут ход, разбурыла перамычку. «Канечне, сама,— паслужліва і хапатліва шапнуў яму на вуха знаёмы, але не яго, Мацвея, голас, а таго, хто ўвесь час спрабаваў ад усяго абараніць і выратаваць яго, усюды падаслаць саломкі.— Канечне, вада часта бурыць перамычкі і дамбы, ці ж то першы раз у рыбгасе такое, схлыне вада — і ажыве пшанічка, сама вада схлыне, сама...»

«Сама вада пойдзе і тут, самацёкам»,— Мацвей быў ужо каля шлюза. Шлюз гэты таксама рабіў ён, яго ўпраўленне і спецыяльна для Бобрыка, каб Бобрык напаўняў азёрнаю вадою свае сажалкі. «Калі суша будзе, і ты ж будзеш карыстацца гэтаю вадою, браць яе на свае палі»,— казаў тады Бобрык, калі Мацвей быў патрэбен яму, былі неабходны яго людзі і тэхніка. Раней ваду сажалкам рыбгаса давала рэчка, але, калі рэчку спрамілі, вады яе ўжо не хапала, рашылі браць ваду і з возера. Дазволу на гэта не дабіліся, возера лічылася ледавіковым, унікальным, і было яно пад аховай ці, здаецца, павінны былі яго ўзяць, таму і канал капалі, і шлюзы рабілі напаўпадпольна. Сляды гэтай напаўпадпольнасці былі прыкметныя асабліва цяпер: пясок, што вымалі для канала, так і не вывезлі, сыпалі ўздоўж канавы, на дрэвы, кусты, хапаліся, вядома. Во зробім, не ўхопіце за руку, а потым што хочаце, тое і кажыце — справа зроблена, і нічога ўжо не перайначыш. Неахайна, няроўна пакладзены і бетон, і рашотка шлюза зварана абы-як. Усё абы-як, хапатліва, паспешліва, рабочыя таксама не надсажаліся, усё ж разумелі: грошы, грошы, грошы, а з усім астатнім разбірайцеся самі. І вось разабраліся, і не хто-небудзь, сама зямля разабралася. Круг замкнёны. З аднаго боку мочыць, падтапляе — губіць, з другога — сушыць, таксама губіць. І пасярэдзіне гэтага замкнёнага круга, паміж вадою і сушаю, мітусіцца чалавек, ён, Мацвей Роўда. І не толькі ён, Махахеі, Барздыкі, Шчуры-прашчуры, увесь Княжбор са сваімі перасохлымі калодзежамі. Мацвей зірнуў туды, адкуль ён толькі што прыйшоў: далёка-далёка, ледзь бачны, як гарэлы пень на сонцы, стаяў Махахей, азіміна ўжо не ўдавала, што яе прысыпалі соллю, адышла, волгла пацямнела, поле бы плакала. А возера

перад ім, з узвышэннем шлюза, дзе стаяў Мацвей, аздобленае хаця і рэдзенькім ужо, што сіта, лесам, а на процілеглым беразе і частаколам з хвой і дубоў, стаяла, бы калодзеж, выкапаны волатам і для воластаў, лапатаю ледавіка, што некалі прааравў гэтую зямлю. «Яму б, чалавеку, такую лапату, плуг такі»,— падумаў Мацвей. І ці не ёсць чалавек тая ж самая лапата, што капае і арэ, не так ёміста, праўда, як ледавік, не так глыбока, але не менш упарта, не менш разбуральна, хаця ці магчыма называць разбурэннем стварэнне ў гэтай палескай глушы вось гэтага калодзежа з сонцам, што купаецца пасярэдзіне яго, з белым лебедзем, што слізгаціць па растопленай сонцам вадзе. Лебедзі тут і раней не лічыліся дзівам, але яны некуды зніклі, мо ён і разагнаў іх, прыляцелі зноў сюды толькі ў мінулым годзе. І толькі адна пара: лебедзь і лябёдка... Мацвей зноў злавіў сябе, што марудзіць, памыляўся ўсё ж Махахей, цяжкая яго сякера, нялёгка падняць яе, а рабочыя рыбгаса парупілі, абшылі дошкамі рашотку шлюза старанна. Бобрык усё робіць так. Няпроста будзе яму, Мацвею, здабыць з гэтага калодзежа ваду. «Калодзеж, калодзеж, дай вады напіцца...» Мацвею ніяк не падпадае выдзерці Махахеевай сякерай двухсотміліметровыя цвікі. І ён пачаў секчы дошкі і сек іх да знямогі, але ж дамогся свайго, пусціў з возера ў канал ваду. Мокры да ніткі, разам з Махахеем, што гнаў коней у сяло, на Бялянцы прыскакаў да канторы. Не пераапранаючыся, сеў у газік і пакіраваў да Бобрыка. Там ужо яго чакалі, як ён і разлічваў, не толькі Бобрык, але і сакратар райкома, і сам Сяргей Кузьміч.

— Ну, хто з вас будзе Іван Нікіфаравіч, хто Іван Нікіфаравіч? — звярнуўся адначасова да яго і Бобрыка Сяргей Кузьміч. Мацвей адразу і не ўцяміў: пра што гэта ён, і сакратар абкома вымушаны быў растлумачыць: — Старасвецкія вы паны Гогаля, збірайцеся да міравога.

Мацвей успомніў захапленне Сяргей Кузьміча класікамі і зарагатаў, трошкі штучна мо, трошкі злосна і недзе брыдка, таму што шчыра. А брыдкі смех, як вядома, заўсёды шчыры.

## ПЕРАСЯЛЕННЕ

### 1

Аркадзь Барздыка пад дубам за хаткаю Ненене смаліў кабанчыка. Работу гэтую ён любіў, ляжала яго душа да такой работы, радаваўся ён ёй. Радасныя былі яму і агонь, і дым ад жытнае саломы, і пах шчаціння, і ружова-прыпаленая скурка кабанчыка, што выступала пад скрабком. І сам час радаваў яго. Час ужо на познюю восень, за якою праглядвае і белы тварык зімы, калі прыпадае да траў раніцою і прымаразак і зямля пад нагамі цвёрдая, ужо прыхоплена марозам, і ані ветрыку. Таму і стойкі пах такі не толькі самога смалення, але і вёскі, хлеўчукоў, дзе, уступаючы ў зімку, адпачывае ўжо сытая і дагледжаная жывёла, пах позніх яблык, што ўпалі, адкаціліся да плота, схаваліся ў траве, і тых, што ўвіселі на дрэве, якіх не зняў ні гаспадар-хазяін, ні гаспадар-вецер. Такой парой і на душы ў Барздыкі спакойна і трошкі п'яненька. Ён ведаў, што яшчэ наперадзе яго чакаюць і чарка, і шкварка, ведаў, што ўзяць гэтую чарку не думаючы, як гэта будзе заўтра, таму што заўтра гэтае ўжо ў яго ў пограбе і каморы, у засеку, у мяшках і дзежках. І ён у думках дзякаваў бацьку, дзеду Саўку, які і перадаў яму вялікую навуку смалення. Прыступаючы да гэтай работы, ён выпіў карэц свежай, што яшчэ аж кіпела, крыві кабана. Смаку яе ён не вельмі адчуваў, але так ужо заведзена было яго бацькам, які пражыў, мо дзякуючы гэтай свежай крыві, за дзевяноста гадоў. Бацька перадаў яму не толькі сваю навуку, але і свой інструмент — кованую ў вясковай кузні швайку, якой калоў ён кабаноў, нажы і дубовыя калкі-затычкі, каб не выцякала дарэмна з кабаноў кроў. І Барздыка беражна захоўваў гэтую спадчыну, ведаючы, што прыйдзе дзень — і будзе ён п'яны і сыты і нос у табацы. Такі ўжо ў Княжборы парадак. Але сёння гэты парадак, і чарка, якую ён неўзабаве возьме, і шкварка не вельмі радавалі яго. Заўчасна ўздумала калоць сваіх кабанчыкаў Ненене, ды і не кабанчыкі гэта былі, а так яшчэ, подсвінкі, нават парсючкі, такіх у Княжборы ніхто ніколі і не рэзаў, малаком маці яшчэ ад іх несла. І лета стаяла на дварэ. А які ж гэта хазяін сярод лета стане пераводзіць сваё дабро. Не па-хазяйску

гэта было, не па-сялянску і неяк не па-людску. І Барздыка, гледзячы на гэтую нехазяйскую справу, на гэтых парасятак, пераадолеў сябе і пачаў ужо быў адмаўляцца губіць іх.

— На такую работу спраўны і Сідар Шчур.

— Вой, не-не-не, я таго Шчура здалёк бачыць не хочу, як такое сказаў ён Мацвею: гніць табе ў балоце разам з маім сенам, а на сотках маіх ты і выпрастаешся, выпрастае цябе мая кардопля —гадкі, брыдкі ён мне зрабіўся.

— Калі гэта ён казаў так Мацвею? — Барздыка адчуў, што хвалюецца, але не за Мацвея ці Шчура, а таму што ведаў, здагадваўся, чаму гэта так пабраліся Шчур з старшынёю, але перапытаў усё ж Ненене: — Чаго гэта яны не падзялілі?

— Зямлі не падзялілі, сенакосу.

— Ці то мала цяпер той зямлі ў Княжборы.

— Шчур за сваё, а Мацвей за калгаснае, Аркадзька, захватчыкам абазваў Шчура Мацвей, калгасную зямлю захапіў пад свае соткі Шчур, на калгаснай сенажаці стажок сена выбіў сабе і паставіў.

— Збяднее ад гэтых сотак і стажка таго калгас,— Барздыка плюнуў сабе пад ногі, сліну пагналі, у пот кінулі яго словы Ненене, ён таксама быў «захватчыкам»: ён таксама меў лішнія соткі, і яго ж стажок таксама стаяў на калгаснай сенажаці. Ну і што тут такога, спакон веку так было, галоўнае не ў тым, што ты паціху крадзеш, а выконваць нейкія правілы, не забывацца, браць толькі тое, што неабходна табе. І не толькі яны, Барздыкі ці Шчуры, павінны выконваць гэтыя правілы, але і старшыня павінен ведаць іх і не заядацца. У каго ж гэта ў Княжборы не было такіх сотак ці стажкоў.

— Не збяднее калгас, Аркадзька, так, але парадак жа таксама павінен быць.

— Табе добра гаварыць пра парадак, у хляве ніхто ўжо не рыкае, і ў закутку вішчаць не будзе... Захватчыкі... Ці то ж мы немцы...

— Вой, не-не-не, Аркадзька, што ета ты чаўпеш, каго ўспомніў, немцаў. Плюнь яшчэ.— Ненене была сама не рада, што завяла гэтую гаворку, бы не ведала, каму і пра што гаварыць можна.

— Не буду калоць я тваіх кабанчыкаў, рукі мазаць,— сказаў Барздыка.

— Вой, не-не-не,— учапілася за яго старая.— Ты ж, Аркадзька, мо ведаеш маю бяду.

— Усё я ведаю, толькі Шчуру тут няма чаго рабіць. Хто родзіцца — крычыць, а памірае кожын моўчкі.

— Вой, ды не кажы ты мне нічога пра таго Шчура, будзь міласцівы, закалі ўжо, Аркадзька, каб ды не спаганіў ніхто мае хаўтуры, Аркадзька...

І Аркадзь Барздыка не ўстояў, вельмі ўжо лагодна прасіла яго Ненене, а работа была брыдкая яму, сама што па Шчуру работа, хаця ён і выдае на вельмі дужага, і жылісты вельмі, не мае ён усё ж у сваіх руках моцы на добрага кабана, парасят малочных яму толькі і калоць. Неяк Махахеі папрасілі таго Шчура забіць кабана, кныра, дык яму, Аркадзю Барздыку, давялося ратаваць усіх трох. Шчура са сватам і Махахея. Белыя, як прасціна, што навесілі сушыцца, віселі вісьма на бэльцы яны, дрыгалі нагамі, а кныр бегаў пад імі, скакаў, лучыў ухапіць за лыткі. Шчур не калоў кабаноў, а спадзеючыся на сілу, біў іх кувалдай. Вось той кувалдай хацеў ён справіцца і з кнырам, мо і справіўся б, толькі Махахеіха перад тым, як ісці мужыкам у хлеў, паднесла Сідару са сватам па чарцы. Ад той чаркі і памутнела ўваччу ў Сідара, не па лобе, а па вуху, як па капусце, лупянуў ён кувалдай. Разадраў кныру вуха, сапсаваў настрой, той і азвярэў, а мужыкам і бегчы няма як: вароты зачынены і калком падпёрты, хоць на сцяну дзярыся, добра яшчэ, што бэлька тая трапілася, уратавала.

— Знайшлі, каго гарэлкай паіць,— выказаў тады Махахею Барздыка.— То ж ведаць трэба, каб наперад плаціць.

Ён справіўся з кнырам ціха і адзін, без аніякай дапамогі, тыя трое так і віселі, калі Махахеіха прыбегла па яго, каб ён уратаваў іх. Барздыка і наказаў ім яшчэ, каб не гойдаліся моцна, ці ж варта дражніць і злаваць звера. Пудоў дзесяць-дванаццаць было ў ім, калі не болей, ён адчуваў, як баліць вуха, чуў сваю кроў, і гэта даводзіла яго да вар'яцтва, і самае цяжкае было ўгаварыць кныра супакоіцца, вымусіць яго слухаць сябе. Барздыка не памятае, што ён казаў тады там, то было ўжо справаю дзесятаю, якія там словы, калі ты перад тым кабаном з'яўляешся як сама смерць, і трэба было вымусіць кныра, каб ён адчуў

гэтую смерць і прыняў яе. Тут патрэбны былі і вока, і рукі, і сэрца такое, каб не здрыганулася ні на імгненне, не вільнула ўбок, каб не вільнуў ад цябе кабан. Усё гэта было ў яго, адкуль бралася, ён і сам не ведаў, ад нараджэння ці ад бацькі — дзеда Саўкі. Было ў ім, і ўсё, а сынам ужо не перадалося. Няма гэтага ў Ваську. Рука цвёрдая, дужая рука, тут нічога не скажаш, а сэрца жаласлівае, у апошнюю хвіліну ды і зашчыміць шкадаваннем сэрца — і пішы прапала. І цяпер, калі ён калоў кабанчыкаў Ненене, калоў, як заўсёды, так, каб ні енку, ні віскату, Барздыка адчуў, як варухнулася гэтае шкадаванне і ў ім, зазлаваў на сябе, а больш на Ненене: чортава баба, сапсавала руку, ці падымецца цяпер яго рука, калі прыйдзе час па восені ўжо ці зімой па-сапраўднаму рабіць і сапраўдных калоць кабаноў, гэта ж амаль калека ён цяпер. Не здолеў адмовіць Ненене, не мог хаця б проста сысці з хаты. І дапякло ж той Ненене паміраць не калі-небудзь, а ўлетку, як радзіць дапякае. І ўпершыню ён папярхнуўся гарэлым шчэццем, а ад дыму жытнай саломы, такога салодкага заўсёды дыму, на вачах выступалі слёзы, бы і сапраўды памерла ўжо Ненене і панеслі яе ўжо ўперад нагамі з хаты. Чорцяе возьме яшчэ гадоў дваццаць. А гаворкі толькі і ведае, што пра смерць ды пра смерць, вось і Мацвея са Шчурам спляла. І непамысна Барздыку, яму ж таксама трэба неяк забраць, вывезці стажок з калгаснай сенажаці і бульбу з тых патайных сотак ухапіць, выкапаць і ў капцы прывезці засыпаць, а папярок дарогі Мацвей Роўда стаіць. Не так Шчуру папярок дарогі, як яму, Барздыку; Шчур ужо сваё ўхапіў, пакуль ляснікам быў, столькі хапаў, што аж з горла лезла. І лёгка гэта Ненене судзіць Шчура, прыйшла голаю, пражыла голаю, нікога пасля яе і не застанецца, два нікуды не гожыя парсючкі, дык і тых на хаўтуры сабе зводзіць. Сама па сабе хаўтуры рашыла справіць, і што гэта за дурата такая на людзей найшла, тут толькі час, здаецца, прыспеў жыць, а яны ў труну самі жыўцом кладуцца. І Барздыку ўжо нудзіла ад спёкі, ад паху яго ж уласнага адзення, кухвайкі і сарочкі, што былі на ім, у якіх ён заўсёды выпраўляўся калоць і смаліць княжборскіх кабанчыкаў.

А Ненене рашыла памерці яшчэ вясной, калі перасяленне ў новыя каменныя дамы было ўжо непазбеж-

ным, калі падпісаныя былі ўжо ўсе паперы на гэтае перасяленне, калі давялі ёй, чаго і колькі гэта каштуе яе хібара — добраму каню адзін раз ногу падняць,— калі ўжо былі ўнесены, даплочаны грошы за новую кватэру, на што і пайшла яе кароўка, якую яна ўрэшце вывела з хаты і завяла ў хлеў, ды, як аказалася, ненадоўга. Але не тое, што яна не мела больш каровы, не блізкае перасяленне вымусілі яе думаць аб смерці, і тым больш не век яе, не старасць. Памірае не стары, а паспелы, голка годная, пакуль цэлае ў ёй вушка, а чалавек — пакуль на месцы яго душка — так растлумачвала яна ўсё Махахеісе, калі тая пачала даводзіць ёй, што няма ў зямлі жывому магілы.

— Бусел сёлета не прыляцеў, пакінуў бусел мой дуб, сваё селішча — значыць, прыспеў час і маім костачкам ў зямельку, у вечную пасцельку.— І пераканаць яе было немагчыма. Ненене вырашыла памерці цвёрда. Да ўсяго ж, як зноў гаварыла яна, пачаў лятаць да яе і дзяўбці сцяну дзяцел. А дзяцел, вядома даўно і кожнаму, дзяўбе сцяну к нябожчыку. Але аб тым, што перастаў хадзіць да яе ўночы Іван, яе чалавек, які так мала жыў на свеце і так хутка памёр, яна маўчала, мяркуючы, што людзям пра гэта і не трэба ведаць, яны ж і не памяталі ўжо яе Івана. Памятала аб ім толькі яна, і Іван паклікаў яе ў дарогу. «Астатні дзянёк я сёння гасцюю ў цябе,— сказаў ён ёй.— Цяпер ужо ты да мяне прыйдзеш, і навек». І тае ночы яна адчула, што сапраўды час ужо ёй у дарогу, завяршыўся круг яе жыцця, не для яе каменная хата, газ, вада ў той хаце. Нарадзілася яна ў хацінцы драўлянай, з той хацінкі ў такую ж толькі, таксама драўляную, каб ужо і на пагост. І пачала Ненене збіраць грошыкі сабе на пахаванне, на хаўтуры. Каб справіць гэтыя хаўтуры, прыдбала, купіла двух парасятак, і кашалёк купіла, каб было куды складваць назапашаныя грошыкі, на якія потым людзі добрыя накупляюць віна і гарэлкі і, каб не ікалася ёй там, пап'юць і кабанчыкамі закусяць. Душы яе на свеце ўжо не будзе, а грошыкі знойдуць на ёй, у кішэні яе кофты, вось і не наробіць нікому клопату старая і адзінокая баба, ні дзяцей, ні радні, але ж нікому траціцца не прыйдзецца на яе пахаванне, і ніхто не папікне яе, што вось, маўляў, такая-сякая жыла і ні аб чым не дбала. Усё яна зробіць па-людску; няма каму яе пахаваць —

сама сябе пахавае. Вось так. І думка гэтая ўсцешвала яе. Ці на самай справе прадчувала яна сваю смерць, бачыла, як казала, яе за плячыма, гэтага ніхто не ведаў. Але тое, што гэтыя журботы і клопат аб смерці доўжылі яе жыццё,— бясспрэчна. Яна нават як памаладзела, зрабілася больш хуткай на нагу, не хадзіла, а, здаецца, лётала па вёсцы, пырхала старым чорным матыльком у сваіх сацінавых прасторных кофтах і спадніцах. Кожны дзень падымалася ўранні з палацяў і раней за ўсё цягнулася да кашалька, лічыла грошы, прыкідвала, калі іх збярэцца столькі, каб хапіла на гарэлку нават двухутробным Шчуру і Барздыку і ўсім іншым добрым людзям, якія не пагрэбуюць прыйсці і сесці за стол і памянуць яе. Рублі складваліся з капеек марудна, куды больш марудна, чым таго жадала Ненене. Але ж нештачка ўжо ж было ў яе кашальку, на дзве бутэлькі гарэлкі, калі лічыць нават па магазіннай цане — для мужыкоў і на бутэльку з гакам салодкага віна жанчынам. Сёння раніцай яна паклала ў гэты свой кашалёк яшчэ адзін рубель, аблашчыла яго, пазнаёміла з іншымі рублямі і пабегла карміць парасят. Нарвала і насекла лебяды, змяшала з мукой, забяліла малаком, каб добра яны елі, хутка раслі. І пакуль парасяты елі, гладзіла іх, часала і за вушамі. А потым вынесла і памыла за імі карыта, не ўтрымалася, захацела яшчэ раз палічыць свае рублі і капейкі, нібы іх паболела з раніцы. Руку ў кішэньку, а кашалька няма. І — бы перуном яе, як стаяла яна сярод двара, так і села. Села і пачала корпацца рукою, што кура лапаю, у зямлі, перабіраць трэсачкі, галінкі, курыную слепату рваць і лічыць на ёй пялёсткі. У магазін хадзіла — кашалёк быў пры мне — пялёстак прэч, з магазіна выходзіла — кашалёк у кішэні мацала — і другі пялёстак адарвала; парасятам есці несла — кашалёк у кішэні матляўся — і трэцяга пялёстка няма. З хлева ішла — не памятаю — адарвала апошні пялёстак. І кветка курынай слепаты была ўжо голая, пазірала на Ненене пукатым жоўтым вочкам. А яе вочы, што даўно ўжо глядзелі ў сярэдзіну ёй, угіналіся ад гэтай курынай пукатасці, набрынялі слязьмі. Яна, не бачачы і не надта ўсведамляючы, што робіць, сашчыкнула яшчэ адну кветку і як гадаць пачала: любіць — не любіць, зноў пачала сашчыкваць пялёсткі. Не даючы сабе веры, абмацала кішэню, вы-

вернула яе, але нічога, акрамя нейкага шыгалля, там не было. Усхапілася на ногі, кінулася да магазіна, доўга стаяла каля прылаўка, не наважваючыся спытаць у Цупрыка пра кашалёк, баючыся хоць ненаракам абразіць, пакрыўдзіць яго. Так і не наважылася, не папытала, стаяла здранцвелая, як трохі не ў сваім розуме, разглядвала вітрыну: хлеб, пернікі, цукеркі, рознакаляровыя этыкеткі на віне і на кансервах, пакуль сам Цупрык не заўважыў гэтае яе здранцвенне і не здзівіўся, пачаў пытаць яе, што трэба. Але і тут яна і словам не абмовілася аб сваёй прапажы. З магазіна кінулася ў агародчык, дзе рвала лебяду, успарола, абмацала яго да апошняй былкі. Падхапіла каля павеці друк і рынулася з ім у хлеў. І перыла, мясіла сваіх каханых і родненькіх парасятак, як забіць прагла, і плакала разам з імі: «Лепей мяне б ужо вы з'елі, чым грошыкі мае...» Стаміўшыся біць і галасіць, плакала і ад сваё крыўды, і ад таго, што так пакрыўдзіла парасят, аслепла ад слёз, як ад курынай слепаты слепнуць куры. І да Барздыкі ўжо бегла, не бачачы і не разбіраючы дарогі.

Цяпер зрок вярнуўся да яе, яна перабірала і мыла парасячыя кішкі, вымушала свае вочы быць пільнымі. Бачыць усё, што елі ўчора, што елі сёння яе парасяты. Ад кашалька знайшлася толькі кнопачка, а ні рублі-ка, ані капейчынкі. Тую кнопачку Ненене завязала ў ражок насоўкі, паклала ў кішэню і пайшла па вёсцы клікаць людзей на хаўтуры па сабе. І хаўтуры па жывой Ненене былі сумныя і вясёлыя. Людзей набралася поўная хата, сядзелі не толькі за сталом, але і на вокнах, і на палацях. Сумавалі і журыліся да першае чаркі, таму што сабраліся спачатку адны толькі бабулі. І засмажаныя цалкам у печы кабанчыкі скалілі белыя зубы, бы смяяліся з Ненене, яе прыдумкі, успаміналі, як гэта яны спрытна з'елі яе грошыкі. Бабусі, падвязаныя пад горла чорнымі хусткамі, нядобра маўчалі, нядобра, стоена, маўчала хата, бы маўклівасцю гэтай папікала гаспадыню за тое, што яна ўжо не выраклася яе.

— Пакуль жывеш — чухайся,— папікнула зноў Ненене і Махахеіха.— Памрэш — свярбець не будзе,— папікнула, праўда, нясмела прыстойна, як таго і патрабавалі абставіны.

— Жывая я, толькі не годная,— прыстойна адка-

зала ёй і Ненене, не крыўдуючы, недасягальная ані-якай крыўдзе, і першай падняла чарку:

— Людзі мруць, другім дарогу труць, пярэдні задняму мост — на пагост. Дык чаму ж гэта я не маю права паглядзець, як па мне пройдуць другія. Вып'ем, дзеўкі, пакуль жывыя.

І бабусі выпілі па першай, як таго і патрабаваў звычай, дарэшты, да дна, не пакідаючы ў дне слёз. А тут падаспелі і мужчыны. Махахей прыйшоў з гармонікам. Баба Ганна спачатку грызла яго за гармонік той, але яе супакоіла тая ж Ненене:

— Хораша грае твой Цімох, Ганна, прыйшла смерць на бабу, не івай на дзеда. Апошні раз музычку паслухаю, на тым свеце ніхто ўжо граць не будзе.

І пад музыку, пад гармонік хаўтуры пайшлі больш весела. Аджыў пад музыку і цвіркун, што замоўк ад духаты, пэўна, ад таго, што доўга палілі печ, пачаў спяваць, біць, дапамагаць гармоніку. І гамонка жывая загучала. Памянулі Ненене, успомнілі добрым словам яе Івана, няпраўда аказалася, што пра яго забыліся, успомнілі пра іх дачку. І непрыкметна ад усіх гэтых памінанняў пераскочылі на тое, якім будзе заўтрашні дзень. На заўтра было прызначана перасяленне ў новыя кватэры, і першай павінна была перабірацца Ненене.

— Я заўтра ўжо буду далёка,— сказала Ненене.

— Няўжо праўда памрэш за ноч? — не паверыў ёй Барздыка.

Ненене нічога яму не адказала, і госці як бы адчулі, што пра гэта нельга пытаць, што яны ўжо тут мо і лішнія, гаспадыні трэба рыхтавацца, збірацца ў далёкую дарогу, прысаромлена падняліся. І Ненене праводзіла кожнага, развітваючыся, з кожным пацалавалася, верачы, што нікога з гэтых людзей ужо больш не пабачыць. Развіталася, падвязала белаю хусцінкаю падбароддзе, патушыла святло і легла на палацях, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Але не тое што смерць, і сон не браў яе, хаця ляжала яна доўга, да святла, да світальнае барвы ў акне. І як толькі заружавелі шыбы, яна была на нагах, бы зноў нарадзілася на свет. І нараджэнне гэтае было сараматлівае, нібы грашыла яна ўсю ноч і цяпер не ведала, як замаліць той свой грэх, як паказацца на вочы людзям. І Ненене, што непрытомная, прайшлася па хаце з кутка ў куток, як бы

зноўку звыкаючыся са сваёй хатай, прызнаючы яе, адгукаючыся рыпу кожнай маснічыны. І ў гэтым парыпванні масніц было нешта такое, што адраджала, што не трывала гультайства, ляноты. І Ненене пачала рабіць. Узяла с сенцаў сякеру, зайшла ў хату, пастаяла, а потым падышла да печы і пачала разбіраць яе. Выцюквала з печы па цаглінцы, зносіла цаглінкі на двор, складвала акуратным штабялькам. Акуратнасць гэтая была залішняй, яна разумела гэта, але не магла пераадолець сябе, душа яе не пагаджалася з тым, што ўсё гэта пойдзе прахам: хата, печ, цэгла. І цэгла была асабліва дарагою ёй, і не толькі таму, што цяжка здабывалася яна недзе адразу ж пасля вайны, але і таму, што ва ўсёй хаце нішто так не захавалася, як гэтая цэгла. Гэта ж колькі гадоў агонь мацаваў, загартоўваў тую цэглу, і яна яшчэ магла служыць і служыць, і якая розніца, дзе і каму. Галоўнае, яна магла яшчэ прыносіць карысць. І ўсведамленне гэтай карыснасці было куды больш моцным за ўсведамленне таго, што займаецца яна нейкім глупствам, што нікому не трэба тое, чым яна займаецца, і што не хапае ўжо яе моцы на такую работу, што на яе патрэбны дужыя рукі мужчыны. Ды яшчэ не ўсякі мужчына справіцца разабраць гэтую печ. І яна таксама не справілася, і не таму, што не здолела і стамілася — печ была так напалена ўчора, што не паспела яшчэ астыць. І Ненене спынілася, каб даць печы ачахнуць. Але адпачынку сабе яна не дазволіла, выцерла з твару пот і крышыва гліны і цэглы, пабегла ў вёску, ці жывая яна яшчэ, ці ўсе яшчэ хаты жывыя. І за гэтымі адведкамі прапусціла, як, калі зносчыкі апынуліся каля яе хаты. Пабегла і не замкнула сваёй хаты, нават дзеля прыліку, не накінула ні клямкі, ні замка на клямку. І дзверы, калі яна вярнулася, былі ўжо насцеж. І ўсё начынне, увесь скарб яе ўжо быў выцягнуты з хаты і складзены пад дубам. Скарбу таго было зусім нічога, што кот наплакаў, скрыня ды горка чыгуноў, чарап'я на ёй ды кучка посцілак і матрац, ікона зверху на матрацы, ашчадна, у мяккае пакладзена ікона, відно, усё ж добраю рукою. І Ненене не было чаго баяцца за яе, не кранулі яе і крывыя крэслы, слонікі і табурэткі, што былі абы-як скіданы за дубам. А вось цаглінкі, над якімі яна гаравала, выдзіраючы іх з печы, параскідваў, змяшаў з зямлёю і зараз іх трушчыў ужо экска-

ватар, што краўся к яе хаце, насоўваўся на яе гарод і бульбу. І Ненене адчула, што ёй невыносна шкада тых цаглінак, бульбы, шкада, і яна кінулася бараніць гэтае сваё нікому, і ёй у першую чаргу, не патрэбнае дабро, забыўшыся, што яна выраклася ўжо гэтага.

— Што табе, павылазіла, ці ты заліў іх так, на кардоплі прэш... Ды я толькі што прапалола і акучыла, кожын кусток, кожнае каліўца сваімі рукамі і пяццю пальцамі...

Да Ненене падскочыў здаравенны і грудасты, што жанчына, чалавек, па ўсім — галоўны тут, брыгадзір:

— Ты што, баба, лямантуеш, без цябе пачалі, некалі нам было. Але ўсё да макавага зерня, да апошняга чарапка з хаты вынеслі. Можаш удаставерыцца,— і ён узяў яе за руку, спрабуючы ўвесці ў хату, але Ненене з нечаканаю і амаль неверагоднаю сілай адпіхнула яго ад сябе так, што ён і пакаціўся, упаў і не спяшаўся падымацца, пэўна, здзіўлены тым, як гэтыя косткі, жывыя мошчы ў спадніцы павалілі яго. А экскаватар ужо вывернуў і раструшчыў плот і паволі поўз па бульбе, краўся да скасабочанай хаткі, што па самыя вокны ўлезла ў зямлю. І хатка, здаецца, сцялася, спуджана пазірала пустымі вокнамі на страшыдла, што насоўвалася на яе, і яшчэ, здавалася, а мо і не здавалася, уздрыгвала, скаланалася. Уздрыгвала, скаланалася зямля ад цяжару машыны. Паміж экскаватарам і хаткаю бегала Ненене, махала рукамі, як пудзіла ў гародзе, што падстрэленая птушка, нібы спрабавала адагнаць, адвесці ад свайго кубла экскаватар, аддавала сябе гэтаму экскаватару. І калі глядзець збоку, усё гэта было недарэчна і смешна, і зносчыкі, хоць і цяжкая і не вельмі прыемная была іх праца, што і згадвалася па іх панура-засяроджаных, зацята-невыразных тварах, усміхаліся, жуючы хрумсткія, толькі што з грады Ненене, гуркі.

— Вох, ірады, вох, нелюдзі вы,— квахтала Ненене, шукаючы і не знаходзячы падтрымкі, бачачы на кожным твары толькі збянтэжанасць ды вочы, што пазбягалі яе позірку, як усё роўна і не мелі тыя людзі вачэй.

— Адальюцца вам яшчэ мае слёзкі. Ці ж вы садзілі тыя гуркі, што жарэце...

— Было б што, бабуля, шкадаваць, развалюху такую...— не вытрымаў усё ж нехта яе слоў.

— Развалюху? — узвілася Ненене. Экскаватар, што быў ужо каля хаткі, спыніўся, з кабіны паказаўся экскаватаршчык і хітнуў рукой: прыбярыце, маўляў, старую. А старая як уразумела раптам непапраўнасць усяго, што адбывалася тут, і, супакоіўшы мо недзе сябе гэтай непапраўнасцю, як на хаўтурах плакальшчыца, зацягнула на адной, невыносна высокай і жалобнай ноце, як бы адпяваючы, без выразу і не спыняючыся, з жалобным роздумам:

— Хатка ж ты мая, хатка, свет ты мой, зара, ты ж мяне ўсю вайну бараніла, дачку ў мяне прыняла, ты ж майго бацьку і мяне гадавала, ты ж майго чалавека бласлявіла пайсці на вайну, адсюль ён пайшоў, сюды калекаю, але з перамогаю вярнуўся, адсюль уперад нагамі яго і панеслі...

У гэтым плачы-галашэнні Ненене нібы забыла, што нарадзілася ўсё ж яна ў другой хаце, з другой хаты пайшоў на вайну яе Іван, вось толькі памёр ён сапраўды ў гэтай хаце. Але не адной толькі забыўлівасцю вытлумачвалася ўсё. Яна аплаквала зараз не толькі сваю хату, але і сваё жыццё. Сёння, во зараз, а не ўчора, адбыліся сапраўдныя хаўтуры па тым, што ўтрымлівала яе ў жыцці.

— Ды была ж ты цёплая, ды была ж ты ласкавая і спагадлівая, ды была ж ты міласцівая, колькі ж слёз ты маіх бачыла... Каб здароўя вам столькі, сцягачы няшчасныя, пасцягвалі вас з усяго свету. А ці знае-ведае хто-небудзь з вас, што такое свая хата, а ці мелі вы бацьку-матку, селішча сваё?

— Усе, бабка, мелі,— і былі ўжо ў гэтых словах чужога чалавека сум і спачуванне толькі Ненене як не чула таго суму і спачування ці не хацела чуць.

— Усё ты, прайдзісвет, меў, была ў сабакі хата.

— Цішэй, бабуся, цішэй, мы ўсё ж на рабоце, усе мы не па сваёй ахвоце,— гэта нарэшце ачомаўся брыгадзір.

— На рабоце? І грошы вам за такую работу яшчэ плоцяць? — Ненене была шчыра ўражана. А экскаватар ужо навіс над хаткаю. Кранаў ужо стралой страху, і страха затрашчала.

— Людзі, людцы, бараніце, ратуйце! — Ненене кінулася пад экскаватар. Скочыў з кабіны экскаватаршчык, пабег да Ненене.

— Жыць, бабуся, надакучыла?

— Надакучыла, сынку. Стамілася я ўжо ад такой жыткі.

— Дык я не стаміўся. У мяне пяцёра... А ты кватэру ўжо за хату атрымала, а я з-за гэтай кватэры па ўсім свеце матаюся.

— Каменны мяшок, сынку, атрымала.

Але экскаватаршчык не чуў і не слухаў яе, ён таксама лямантаваў, размазваў па твары пот і машыннае масла.

— І грошы табе за твой гарод ужо заплацілі... Жлабы...

— Вазьмі, на крышку ты мне тыя грошы пакладзеш. Засціла табе свет мая хатка, грошам ты маім завідуеш. Іх у мяне, як і ў тваёй маткі, каб тваёй матцы ды на крышку такое шчасце.

— Цьфу на цябе, бабка. Ціпун табе на язык. Нічога я не завідую. Работа ж...

— Работа...— зноў пачала сваё галашэнне Ненене.— Вой, хатка ты мая, цёплая ды ціхая, ды чым жа ты людзям шкодзіла?

На гэтае яе галашэнне падышлі княжборцы, было іх небагата, у кожнага сёння быў адзіны клопат, і стаялі яны збоку, наводшыбе ад чужых і Ненене, маўчалі. І Ненене сама кінулася да іх.

— Людзі, людцы, зірніце вы толькі, што з гародам зрабілі, змалолі, пацерлі ўсё ў пацяруху і муку. Пры вас, людзі, смерць прыму, будзьце сведкамі.— І Ненене легла пад гусеніцу экскаватара.— Уключай, уключай сваю машыну. Няхай ідзе праз мяне, як па мосце няхай ідзе, вытрываю.

З-пад гусеніцы Ненене выцягнуў Мацвей, паклікалі яго ці ён сам пачуў гэты галас, невядома. Ён паспрабаваў паставіць бабку на ногі, але тая зноў кульнулася на зямлю і папаўзла пад экскаватар. І Мацвей зноў падняў яе, выграб амаль з-пад тракаў, трымаў на руках, што дзіця, глядзеў на аднавяскоўцаў, не наважваючыся нікому перадаць яе, не ведаючы, ці згодзіцца хто прыняць гэтую ношку. А Ненене малаціла яго ў грудзі сухенькімі кулачкамі.

— Я ж, Мацвейка, з тваёю маці жыта жала. Твой бацька трохі на мне не ажаніўся. Я ж як маці табе. А ты мяне ашмануў, ашмануў.

— Цётка Тэкля, мы ж з вамі дамаўляліся...

— Дамаўляліся, угаварыў ты мяне, саколік, заду-

рыў бабе галаву, запхнуў мяне ў той мех каменны. Аммануў. Казаў, усе хаты ўраз пад знос. А маю ўперад другіх на смерць пусціў. А чым жа яна грэшная такая? Хай бы ўжо як усе: усім смерць — і ёй смерць, а ты... Ты ж па гарбузікі ў маю хату бегаў... І за што мне такое...

— Цётка Тэкля, цётка Тэкля,— прыгаворваў, нібыта звяртаўся да дзіцяці, Мацвей і, як дзіця, калыхаў, гушкаў яе.— Крайняя ваша хата, канцавая.

— І твая канцавая, толькі ты сваю не рушыш.

— Я ж як лепей хацеў, я апошнім хацеў, калі вы ўжо ўсе будзеце ў новых кватэрах. Слова сабе такое даў, пакляўся. І не вы адны сёння пераязджаеце, толькі другім гэта свята, а вы...— Ненене не слухала яго, як клявала, дзяўбла сухімі кулачкамі ў грудзі, так і працягвала дзяўбці, і не давалася, каб ён паставіў яе на ногі. Мацвей не вытрымаў.

— Ды дапаможыце ж мне хто-небудзь.

Але ніхто не спяшаўся дапамагаць яму. Зносчыкі нечага чакалі, мо каманды, каб зноў пачаць работу, княжборцы глядзелі некуды ўбок, унікалі яго вачэй.

— Твая ношка, сам і нясі, старшынька,— нясмела вымавіў нехта ці то са старых, ці то і са зносчыкаў.— Сам заварыў, сам і хлябай.

— І буду хлябаць.

Мацвей аднёс Ненене ад экскаватара, пасадзіў яе на зямлю ў засені каля дуба:

— Вунь белакаменны стаіць — вось мая ношка. Дзякаваць мне яшчэ будзеце, цётка Тэкля. Пачынай,— махнуў рукою экскаватаршчыку.

Княжборцы моўчкі адступілі ад машыны, зносчыкі, наадварот, падышлі бліжэй да яе. Экскаватар падняў коўш, што кулак, чорны, мужыцкі, патрымаў яго навісу і абрынуўся ім на хатку, на страху. Страха здрыганулася, закалыхалася, узляцела дзвюма палавінкамі, нібы крыламі, угару і кінулася ўніз, рассыпалася трухою і дранкаю, слупом узняўся ў неба шэры пыл. І зноў падняўся коўш-кулак і зноў грымнуў, апусціўся з размаху. І яшчэ вышэй узняўся, закурэў пыл, паляцеў мох, пасыпаўся пясок, пакацілася бярвенне. Імгненне — і толькі печ, тое, што засталося ад печы, бялела сярод руін.

— Ну вось і ўсё,— сказаў Мацвей.— Назад ракі не паўзуць. З улазінамі цябе, цётка Тэкля.

— Не-не-не,— падхапілася старая, выпаўзла з цею.— Цаглінкі яшчэ, цаглінкі.

І, збіраючы тыя цаглінкі, яна поўзала па разбураным селішчы яшчэ і назаўтра, пакуль да апошняга не склала штабяльком каля дуба. Склала, перахрысцілася, пакланілася таму месцу, дзе калісь стаяла яе хата, і пайшла, не азіраючыся, у новы Княжбор, у новую сваю кватэру — пакойчык і кухню. І ішла яна туды і была ўпэўнена, што не зажывецца ў тым новым Княжборы, што ўсё, няма ў яе ні вёсен, ні зім, няма ў яе сілы на іх, мо ёй больш і не развіднее ўжо, мо яна і не прачнецца ўжо наступным ранкам у сваёй новай кватэры. Але Ненене не толькі прачнулася, перазімавала, сустрэла вясну і шмат яшчэ іншых вёсен, хаця так і не падзякавала Мацвею за тыя вёсны. Рыпела, гнулася, як рыпіць на вятры старое дрэва, але не ламалася. Памерці ж было наканавана зусім іншай старой, і яна, адыходзячы, шэптам сказала ўсё ж на вуха Мацвею дзякуй, ледзь чутна прашапацела сухімі вуснамі, і таму Мацвей і не зразумеў, каму гэта яна дзякавала: яму ці жыццю, якое ўжо скончылася.

## 2

Старая Махахеіха пасля зімы ўставала са сваіх палацяў, выпаўзала на святло толькі разы з два — калі было вяселле ўнучкі ды хаўтуры Ненене. А пасля вяселля і хаўтур залегла зноў у сваім закутку, і ўжо непадымна. І ў хаце, як, здаецца, і не прыкмячалі. І што прыкмячаць, калі работы ёй даручыць ніякай нельга было. Добра і тое, што хоць сама ад сябе мух адганяла. Размаўляла сама з сабой, пынілася на слове, губляючы, пра што гаворыць, сумным вокам пазірала то на дачку, то на зяця, то на ўнучку, як на дзяцей малых, якія толькі-толькі вучацца хадзіць, пільна сачыла вачыма за кожным іх крокам, вачыма патрабавала падаць што-небудзь, гняўліва трэсла кручкаватым носам, калі ёй падавалі не тое, што трэба, ці нешта было ёй не даспадобы. Увогуле чакала свайго часу і гневалася, што ён так доўга не наступае. Хаця нехта ўжо, пэўна, хадзіў каля яе галавы, з кімсьці перашэптвалася яна ўначы, маліла, прасіла: вазьмі, вазьмі... Але той раніцай, калі ўсё і адбылося, бабка раптам, здаецца, увайшла ў розум і як памаладзела, і паела сама, а не з

лыжачкі, і яшчэ папрасіла прынесці яйка курынае, свежае, з кубла. Выцерла яго аб дзяружку, разбіла аб прыпечак і высмактала да кроплі, і задаволена тройчы прамовіла: люблю, люблю, люблю. Доўга сядзела нерухома. Васька з Надзькай у хаце былі адны, збіраліся ўжо ісці, як старая паклікала іх да сябе.

— Цябе прызнаю, Якаў ты,— сказала яна Ваську, крануўшы яго за крысо, а ад Надзькі адсунулася.— Цябе не ведаю, адкуль ты, як завуць цябе?

— Ты што, баба, Надзька я.

Бабка скоса зірнула на яе, паківала пальцам:

— Ой, хітрая, не Надзька ты, ты пераапранулася, ты Надзьчына плацейка надзела, я відзела, не думай, я відзела.

— Лажыся, баба,— Надзька пагладзіла старую, як дзевачку маленьку, па галаве, дала ёй патрымаць сваю руку, але і гэта не дапамагло. Старая не пазнала яе і навобмацак, па руцэ:

— Вох, хітрая якая. Абое вы хітрыя, і бог з вамі, ідзіце, ідзіце абое. А я тут упраўлюся сама. Я зараз і печ запалю, есці нагатоўлю, свіней пакармлю. І вам застанецца, не бойцеся. Ганне дам, Цімоху дам, Змітру пакладу.

— Памёр Змітро, баба, немцы ж яго забілі пры табе.

— Вох, донечка, гаварыла ж я, што не Надзька ты. Надзька бы наша ніколі такога не сказала. Надзька ведае, што Змітро жывы і Якаў жывы.— Надзька зірнула на Ваську і сцепанула плячыма, яны паклалі старую зноў на палаці, тая легла, здаецца, не супраціўляючыся, але не паспелі яшчэ зачыніцца за імі дзверы, саскочыла з палацяў, падкралася да акна, зірнула тайком на двор, пераканалася, што яны пайшлі ўжо, выскачыла на вуліцу, набрала дроў, прынесла іх у хату. І тут зноў бы забылася, што гэта надумала рабіць, пачала нашэптваць сама сабе:

— Глядзі ты, Змітро памёр. А як жа гэта ён мог памерці, калі я яшчэ жывая... І Якаў жывы...— Тут ёй нешта, пэўна, прымроілася, спалохала мыш, што прабегла па падлозе, і яна павярнулася, пахітала галавою: — Пачакай ужо ты там, хутка, хутка сустрэнемся, толькі з работай упраўлюся, толькі дзетак накармлю: Змітру дам, Якаву дам, а Надзьцы ні-ні, не

наша гэта Надзька. Думае, што аслепла я ўжо, не бачу, як яна пераапранаецца.

Стала тварам да кута, перахрысцілася на цёмную пад белым ручніком ікону:

— Ну што ты на мяне пазіраеш? Злезь, дапамажы. Работы, сам бачыш, не перарабіць... Ой, работы, ой, работы, вышэй галавы. Дапамажы... Ты, лайдачына, будзе тое, дапаможаш. Узялі цябе ў рамку, дык ты з той рамкі і пальцам не кіўнеш.

І старая адвярнулася ад іконы, заспяшалася, адкрыла дзверцы грубкі, проста на падлогу выграбла попел, але дровы, што прынесла з вуліцы, пачала класці не ў грубку, а на падлозе, каля грубкі. Адною запалкай падпаліла лучыну. Не зірнуўшы на агонь, што ўхапіўся хутка, адразу, кінулася да чыгуноў, заліла іх вадою. Рабіла ўсё ўпраўна, лёгка, як рабіла, пэўна, у маладыя свае гады. І агонь быў у яе вачах, сухі, спапяляльны.

— Гары, гары, угарайся,— загадала яна агню,— поўная ж хата людзей, напаследак усіх жа накарміць трэба, вох, умарылася.— І пайшла да палацяў, легла, каб больш ужо не ўстаць. Агонь, што выхапіўся з-пад страхі, з вокан, першым прыкмеціў усё той жа Васька, які ехаў па вёсцы на матацыкле, кінуў матацыкл, рынуўся ў хату. Спыніўся на парозе, нічога не бачачы ад дыму.

— Ёсць тут хто жывы ці не?

— Яму ніхто не адказаў. Усё трашчала і гуло ў бойкім, зыркім полымі, але ён усё ж навобмацак рушыў, памкнуў да палацяў, намацаў, узяў на рукі Махахеіху, тая адбівалася ад яго.

— Адчапіся, адчапіся,— ірвалася яна і на вуліцы,— туды мне трэба, туды. Чакаюць мяне там, бачыш, стаяць, пусці, нехрысць. Да сваіх, да сваіх хачу, не хачу з вамі...

А агонь ужо ахапіў усю хату. Сухое дрэва гарэла, што порах, і гулка страляла чарапіца. І віліся над домам буслы. Як ні кідаліся ў полымя, а полымя адкідвала іх назад, гарэла не толькі старая, але і новая хата, якую так і не адбудавалі, і буслiная хата гарэла разам з буслянятамі. Бусляняты гэтыя, пэўна, ужо даўно захлынуліся ад дыму, таму так і шалелі бусел з буслiхай. А людзі збіраліся на пажар не спяшаючыся, небагата іх і заставалася ўжо ў старым Княжборы.

Паказаліся з адных варотцаў дзве спалоханыя жанчынкі і зноў нырнулі ў двор. Выйшлі з хат мужчыны, зірнулі на полымя — і зноў у хаты. І толькі крыху пазней з'явіліся тыя і жанчыны, і мужчыны з пустымі вёдрамі ў руках, такія ж няспешныя, нейкія расслабленыя, бы збіраліся не на пажар, а ў поле, выбіраць бульбу.

І ўсё ж, як ні марудна збіраліся людзі, хутка ці не ўвесь амаль Княжбор быў каля хаты Махахея. Але толку ад іх было мала, не было і таго неспакою, які выклікае заўсёды ў вёсцы пажар. Княжборцы, здаецца, бы глядзелі тэлевізар, і хоць былі пры гэтым не зусім безуважнымі, але ўсё ж толькі гледачамі. Нешта, здаецца, і рабілі, ніхто не стаяў на месцы, але ўсё так запаволена, марудна, бы апітыя, бы апітымі, самымі бесталковымі, былі на гэтым пажары і самі гаспадары. Цімох і Ганна Махахеі. Яны стаялі ўперадзе іншых, пабраўшыся за рукі, і пазіралі на пажар, бы даўно чакалі яго, бы недзе ў глыбі душы здагадваліся, што вось так, агнём і пажарам, і павінна пайсці ўсё, што прыдбалі і нажылі яны. І не балела ім, і не пакутавалі, здаецца, яны за гэтае сваё прыдбанае, хаця час ад часу і ўздрыгвалі, адзначаючы самі сабе, што гэта занялося на тую хвіліну ў хаце агнём.

— Стрэліла каністра з карасінам,— гаварыў Махахей, сціскаючы руку жонкі.

— Скрыня, чую, ужо гарыць,— адказала яму жонка.— А там жа святочнае ўсё і смертнае.— І парывалася бегчы ў хату, але Махахей не пускаў яе.

— Буслы спекліся.

— І Ясенінаў згарэў...

— Самі жывыя, і добра,— супакойваў жонку і сябе Махахей.— Ясенінава Алена прышле новага з горада.

— То мо і самі ўжо, Цімошык, у горад...

— Пажарную, пажарную вызвалі? Як бы іншыя хаты не заняліся,— мітусіўся і хваляваўся адзін толькі Аркадзь Барздыка. Яму было з-за чаго хвалявацца. Адразу ж пасля вяселля Барздыкі і Махахеі дамовіліся, што маладыя забяруць новую хату Махахеяў, перавязуць і пастаяць яе на кардоне, так пажадаў сам Васька — жыць у лесе, бліжэй да работы. І цяпер гэтая хата, што выдзелілі ім, ужо дагарала. І Барздыка думаў наперад: яго цяпер хата павінна была адысці маладым, за яе ён і хваляваўся. Самі ж маладыя,

здавалася, і ведаць не ведалі, што засталіся без хаты. Іх паклікала да сябе старая Махахеіха. Яна, пэўна, так і не зразумела, што тут адбываецца, што гэта яна ўтварыла. Махахеіха пазірала на агонь па-дзіцячаму дапытліва і весела.

— Хораша гарыць,— нашэптвала яна на вуха Ваську,— агонь ачышчае, ты любі агонь, любі.— Прыкмеціла Мацвея, што стаяў збоку і быў таксама нерухомы, бы зачараваны агнём, загадала Ваську паклікаць і яго да сябе. Мацвей падышоў. Махахеіха як зноў апрытомнела, увайшла ў розум.

— Усё, дзіцятка, усё,— сказала яна Мацвею,— трымай мяне, не хочу перад усімі на зямлю падаць. На руках у людзей, у чалавека хочу.— І Махахеіха выпрасталася і павольна пачала завальвацца, падаць. Мацвей ледзь паспеў падхапіць яе на рукі, і яна, праменькая, што чараціна, ляжала на яго руках, вельмі маленькая чараціна, пільна ўглядаючыся ў яго твар, потым з такой жа пільнасцю пазіраючы на сонца, ціха нашэптваючы ці то таму, хто трымаў яе на руках, ці то сонцу:

— Дзякую, дзякую, перасялілася, пера...— І супакоілася назаўсёды.

А раніцой наступнага дня яе і пахавалі. Пахавалі ціха і не вельмі сумуючы, голасна плакала адна толькі Ненене:

— Маё месцечка заняла.

І пакаціўся, пасыпаўся стары Княжбор на машынах, трактарах і падводах, рушыў ён драўляны, і самотны, і журботны, але і задаволены адначасова, у новае жыццё, у новыя каменныя кватэры. Спалохана і нясмела ўваходзіў у гэтыя кватэры з непатрэбнымі ім гаршкамі і чыгункамі, ступамі і еякерамі, каб праз год-два развітацца з гэтым рыззём і начыннем канчаткова, а яшчэ, праз год-два пачаць шукаць гэтае рыззё і начынне, бы яно зноў уваходзіла ў моду і было неяк непамысна без яго. Ціха-мірна пераехалі ў Барздыкі. Старыя — асобна, маладыя — Надзька з Васькаю — асобна, павезлі бацькаву хату ў лясніцтва. І гаварыць аб гэтым мо было б і не варта, калі б не адна акалічнасць, якая папярэднічала гэтаму пераезду.

Барздыкі амаль ужо разабралі сваю старую хату, умесцілі яе на дзвюх машынах з прычэпам. Васька,

налягаючы на лом, спрабаваў расшчапіць два апошнія вянцы, але яны як зубамі пабраліся.

— Ды падсабі ж ты,— прахрыпеў ён, скоса пазіраючы на бацьку, што курыў у халадку.

— Дурням не пасобнік,— адказаў Барздыка,— ты ж у мяне такі вумны-разумны і абразованы такі.

— Што табе яшчэ трэба? Хату шкода — кватэру за яе атрымаў.

— Атрымаў кватэру, а людзі яшчэ і грошы за яе атрымалі. А я чаму толькі за спасібачкі павінен гэтую сваю хату лясніцтву перадаваць?

— Не дзядзьку ж чужому, а сыну хату перадаеш,— стала пярэчыць яму і жонка.

— А ты не ляпай, не ляпай языком,— агрызнуўся Барздыка,— сваёй выгады не разумееце, цяпер усюды выгада, другія разумеюць.

— Двойчы за хату атрымаць хочаш,— Васька зноў налёг на лом. Надзька, што да гэтага адчужана наглядала за ім, кінулася да яго, каб дапамагчы.

— Ты што! — спалохаўся Васька.— Табе зараз і вядра вады нельга падымаць.

— Канечне, нельга,— горка ўсміхнулася Надзька.— Водаправод там мне ў хату правялі і газ паставілі. Мо ён і правы, бацька твой, Васька. Куды мы лезем, куды мы бяжым ад людзей? Зноў у карчы, у балота, госпадзі.

— Не за выгадай жа, Надзя. Ідзі сядзь, адпачні.

— А чаго ж мы гэта шукаем у тым лесе? Не хачу ў лес, не хачу...— І яна адышла ад яго.

— Жонку слухацца трэба,— падтрымаў яе Барздыка.— Жанчыны больш за нас жыццё ведаюць, толькі што табе гаварыць, за хату маю хоць прывязеш са Шчурам саломы з поля і кардоплю забярэш. Маці ўжо выкапала. Без пары выкапала, толькі ці дачакаешся той пары, не маці, дык калгас выкапаў бы, Роўда забраў бы бульбу ў калгас, каб чорт яго забраў.

— Не паеду я па тую бульбу і салому...

— Як гэта не паедзеш, як гэта не паедзеш. Я са скуры вылузвалася. Я са Шчурам дамовілася наконт машыны. Яны сваё будуць забіраць і наша ўскінуць. Вось табе і работы ўсёй.

— З'ездзі, Васька,— гэта загаварыла ўжо ў лад з Барздыкамі і Надзька.

Васька злосна налёг на лом.

— Спеліся, з'езджу, заўтра скочу. Стану злодзеем заўтра і я. А сёння не лезьце пад руку.— І вянцы распаліся, раз'ехаліся, ніпто ўжо не ўтрымала бярвенне, і яно пакацілася па зямлі, сеючы сухі мох і пыл, што запасіўся гадамі. З паза, што быў выдзеўбаны паміж апошнім вянцом і штандарай, выпырхнулі, закружыліся стракатыя паперкі, як пясок, пацяклі медныя і срэбныя манеты.

— Грошы, грошыкі,— першай апамяталася, выдыхнула з сябе Барздычыха.

А грузчыкаў як ветрам змяло з машыны, так хутка кінуліся яны да гэтых паперак і манет. І толькі Надзька не кранулася з месца, замерла, дзе заспелі яе гэты звон і шолах, і недаўменне было ў яе вачах.

— Ай ды Барздыкі, на грошах жылі, на грошах сядзелі і елі,— толькі галовамі пакручвалі грузчыкі.— Паглядзі ты на яго, бедненькім прыкідваўся.

— І мне ні слова,— наступала на Барздыку Барздычыха, размахваючы паперкамі. Той апасліва адсоўваўся ад яе.

— Не ведаў, не ведаў я, ні сном, ні духам...

— Якія гэта грошы? — углядаўся ў паперкі Васька.— Мільёны.

— Мільёны! — Барздычыха шпурнула ў твар мужыку грошы.— А я за капейчыну ўсё жыццё білася. А я ані сабе, ані дзецям.

— Керанкі гэта, мама,— плюнуў Васька.— Царскія сотні, пятакі аж Пятра Першага яшчэ. І злотыя польскія. Маркі кайзераўскія і гітлераўскія... Ну, запаслівы дзед Саўка, ад кожнай улады грошай узяў...

— Прыдбаў багацтва твой дзед,— пасміхаліся грузчыкі.— Пакінуў табе спадчыну... З такой нагоды, Васька, чатыры дванаццаць адвалі і нам. Мільёнаў нам не трэба: чатыры дванаццаць.

— Вось гэта чатыры, а гэты вялікі на ўсе дванаццаць,— і Васька паказаў рабочым дулю.— Чаго пасталі, чаго скаліцеся?

— А таго, што пашанцавала табе, Васька. Шукаў золата дзеда Саўкі і знайшоў.

— Знайшоў... Эх, дзед Саўка, дзед Саўка.— Васька падняў некалькі паперак, зачарпнуў жменю капеек, падышоў да Надзькі, кінуў усё гэта пад ногі ёй: — Бяры, мо табе трэба... Дзед Саўка, дзед Саўка, а я так верыў, і плюнуць няма на што. Дзеля чаго, навошта?

Выгады ім, выгады ім... З'езджу прывязу бульбы, саломы прывязу, выгадвайце, яшчэ чаго прывезці, украсці што, надуць, падмануць каго, каго купіць за гэтыя керанкі, маркі, злотыя, мільёны.

Надзька моўчкі сядзела на бервяне і не слухала Ваську, моўчкі варушыла грошы. Ад разбуранага дома павявала ўжо нежыццю, ляцелі па ветры надзеі дзеда Саўкі, не вартыя, каб на іх і плюнулі. Скраблі адзенне і абутак, людзі адбіваліся ад іх. Надзька пацягнулася да адной з паперчын, пашкадавала яе, але не дацягнулася, адняла руку ад мільёна, невідушчымі вачыма ўтаропілася перад сабой, мякка і асцярожна прыціснюўшы далоні да жывата. А вецер працягваў забаўляцца мільёнамі, рыззём, старызною, неіснуючым ужо, пакінутым людзьмі Княжборам, прахам, хат, якіх ужо не было, і хлявоў. Усім, што некалі складала жыццё, што жыло разам з людзьмі і цяпер павінна было адысці ў небыццё. І прах гэты быў уедлівы і ліпкі, і былі ў ім горыч і прысмак палыну і пах хлеба, і нейкая разгубленасць была і замяшанне, і цяпло нейкай далоні адчувалася — адчувалася ўсё, што спадарожнічала некалі людзям і іх жыццю. І здавалася, што нехта нябачны ўсё ж застаўся ў тым старым, разбураным Княжборы, застаўся, каб сцерагчы гэты дух і гэты пах, каб яго ніколі не выветрыла, мо ўсё ж знойдзецца гаспадар, мо ўсё ж прыйдзе, запатрабуе ўсё гэта назад.

## ПАЛЫН БЕЗ КАРАНЁЎ

З горада перадалі тэлефанаграму: едзе сакратар райкома з дэлегацыяй. Што за дэлегацыя, бухгалтарка, якая прымала тэлефанаграму, не ведала. Дэлегацыя, і ўсё. Мацвей папрасіў сустрэць яе старшыню пассавета, а сам знік.

Сакратар на бюро настойваў, каб за знішчэнне дамбы і шлюзаў выключыць Мацвея з партыі. І мог бы ён развітацца з партбілетам, і развітаўся б, калі б не заступніцтва Сяргея Кузьміча. Абышлося вымоваю і суровым вусным наказам: калі нешта падобнае будзе яшчэ раз, тады... Нешта падобнае было. Праўдзівей кажучы, гэтае нешта падобнае мела, як гаворыцца, месца да дамб і шлюзаў, але яго ніхто не пакараў за

тое, як бы ніхто не прыкмеціў. Мацвей замест бульбы і збожжа пасеяў травы, а каб не бачна было з дарогі, прыхаваў тыя травы пасеянымі каля дарогі пшаніцай і кукурузай. I цяпер гэты грэх яго быў навідавоку — пшаніцу паўсюдна зжалі, і травы стаялі амаль што голыя і бачныя здалёку. Мацвею было зусім не з рукі выкручвацца перад сакратаром, апраўдвацца перад ім, які лічыў, што збожжа і ёсць корм жывёле і ніякая трава не здольная замяніць гэты корм. Ён і слухаць не хацеў пра тое, што прапашныя спусташаюць тарфянікі, што яны і так ужо загубілі сантыметраў трыццаць гэтых тарфянікаў, праз год-два іх палі будуць голымі, выйдзе вонку палескі пясочак, і тады хоць локці грызі — нічога ўжо не вырасце: ні зерня, ні бульбіны, ні травы. Канечне, Мацвей мог звярнуцца па дапамогу да таго ж Сяргея Кузьміча. Але райком жа быў бліжэй, чым абком, і ён падпарадкоўваўся райкому. Мацвей прайшоўся па новым Княжборы, радасны, але і трохі заклапочаны: голы быў яшчэ пасёлак, неабжыты, на ўсю вуліцу тры-чатыры чэзлыя дрэўцы, і тыя пасаджаны яшчэ будаўнікамі.

— Садзіце сады, грушы, яблыні, вішні. Што за дом без дрэва,— угаворваў ён сваіх землякоў.

— Ай,— аднекваліся княжборцы.— Толку ў той яблыні, вішні тваёй, вельмі ўжо наясіся імі, сытым будзеш.

— Мо сытым і не будзеш, але ж красіва, і дзецям яблыка трэба.

— Красіва, трэба дзецям,— пагаджаліся з ім княжборцы, але пагаджаліся не без паляшуцкай хітрасці ў вачах: маўляў, што ты тут прычапіўся да нас, старшыня, са сваімі яблыкамі, грушкамі.— Карову няма дзе трымаць.

— Калгас жа вам малако дае.

— Дык то ж калгаснае малако.

— А якая розніца — малако. I тлустасць, і пажыўнасць...

— Так яно, так, старшыня, і тлустасць і пажыўнасць, але ж сваё лепей...

— Усё роўна ж каровіна яно, а не сваё.

— Не, сваё ўсё ж лепей...

— А яблыка і прадаць можна.

— Можна і прадаць.

— Дык у чым жа справа? — Ён губляўся перад

гэтай пракавечнай несаступнасцю, ненавідзеў тое, чым раней ганарыўся.

— Не трэба нам дурных грошай.

— Бульба дробненькая, але ж свая,— спрабаваў падкаціцца ён з другога боку, пакпіць з іх несаступнасці, але і гэта не праймала.

— Так, старшыня, твая праўда, дробненькая, але свая. А яблыкі, грушы твае і не вырастуць у нас.

— Чаму не вырастуць?

— Пацукі пагрызуць.

— Якія пацукі?

— А ўсякія, што ў зямлі, а яшчэ точкі.

— Што яшчэ за точкі?

— Точкі.— I ўсё. Дабіцца ад іх яшчэ чаго-небудзь было немагчыма.

— Яны ж заўсёды былі, і пацукі, і точкі, і не грызлі садоў.

— Раней не грызлі, а зараз пагрызуць.

Вось так, і кропка. Ні да чаго не дагаварыўшыся, стомлены, ён спяшаўся на свінагадоўчы комплекс. Апошнім часам ён унадзіўся хадзіць туды, утульна там было, заўсёды ціха, народу рабіла на комплексе не шмат, прывычна патыхала вясковым хлявом, ён заходзіў і доўга стаяў то ў адным, то ў другім аддзяленнях. Разлёгшыся на цёплай падлозе, што падагравалася знізу, разморана рохкалі свінаматкі, прыпадалі да іх цела, задаволена і сыта пацмоквалі байстручаняты-парасяткі. Маці іх насцярожваліся, бо бачылі чалавека, чулі яго крокі, адтапырвалі абвіслае вуха, адплюшчвалі соннае, зацягнутае плёнкай і спракавечным мацярынскім сумам вока, міргалі гэтым сваім вокам, стомленым і без брыва, і супакойваліся. Нешта непарушнае, вечнае і вельмі добрае, сцішанае адчувалася за ўсім гэтым. I на комплексе Мацвею было заўсёды спакойна, ён верыў, што так будзе ўсюды. Збягаў сюды ад сваіх думак і клопатаў. Тут ён быў упэўнены ў сабе, бо ніхто і нічога не казаў яму там ні аб точках, ні аб пацуках. На комплексе рабіла і Надзька, і яму падабалася наглядаць за ёю, але сёння Надзька якраз і перашкодзіла яму застацца аднаму, адрынуць усё гэта непрыемнае. Ненене ўбачыла яго праз акно санпрапускніка, выбегла насустрач, замітусілася:

— Праходзьце, праходзьце, Мацвей Антонавіч.

На голас яе выйшла і Надзька:

— Халат вазьміце, Мацвей Антонавіч.

— Дык няма ж халатаў, Надзька. Якраз замачыла ўсе, мыць буду,— сказала Ненене.

— Добра, я і без халата,— адмахнуўся Мацвей.

— Не пушчу без халата,— заступіла яму дарогу Надзька.

— Як? — не зразумеў Мацвей.

— А так, не пушчу, і ўсё.— І палку ўзяла, як узброілася.

— Надзя, я ўсё ж старшыня.

— А я заатэхнік, нельга без халата, і кропка.

І тут тая ж самая праклятая кропка.

— Чаму гэта ты такая сёння строгая?

— А вось таму... Дзеці ж, маладняк, заразу, бацылу якую-небудзь занесяце яшчэ. І не думайце, і не гадайце.

— Ну, калі бацылу, тады канечне... А калі я ўсё ж прайду, Надзя? Прарвуся?

— А вось палка нашто?

— Ударыш?

— Перацягну,— сказала Надзька.

І Мацвей адчуў, што за гэтай не заржавее, перацягне. А яму ў той дзень вельмі ж не хацелася, каб яго пабілі.

— Вось парачка на маю шыю, баран ды ярачка, ты ды твой рыжы Брытан. Ну, пачакай, пачакай у мяне. Сыдземся яшчэ,— напрарочыў ён сам сабе яшчэ на комплексе, хаця ў тую хвіліну вымаўляў ён гэтыя словы без сэрца. Нават быў і задаволены, як змагаецца Надзька за маладняк, за парасят, каб гэта ды ўсё так.

Мацвей павярнуўся і пашыбаваў у кантору, забыўшыся, што там яго таксама могуць перацягнуць, і куды больш балюча, чым Надзька палкаю. У канторы быў ужо сапраўдны перапалох. Усе, пачынаючы ад прыбіральшчыцы і да парторга, шукалі яго; знікаючы, ён нікому не перадаў нават ключа ад свайго кабінета, цяпер па калідоры соваліся, з незразумелай яму зацікаўленасцю і інтарэсам, разглядвалі Дошку гонару, насценгазету, сацабавязацельствы якіясьці бабулькі і дзядулькі з мноствам фотаапаратаў. Сакратар райкома толькі зірнуў на яго, ухапіў і пацягнуў за сабою ў «прымальнік».

— Канадцы,— шэптам сказаў ён Роўду ў плечы, пакуль той адмыкаў кабінет.— Будзь на ўзроўні.

— Як? Што мне з імі рабіць? —адказаў Мацвей, прытрымліваючы ключ у замку.

— Мог бы і пабрыцца.

— Не аблезуць,— незразумела чаму радуючыся гэтай сваёй нябрытасці, мармытнуў Мацвей, расчыніў дзверы і запрасіў канадцаў, прапусціў іх. Апошнім ішоў малады хлопец, таксама з фотаапаратам і блакнотам. Мацвей, здаецца, недзе ўжо сустракаў яго.

— Не тушуйся, дзед,— сказаў хлопец Мацвею.— Не трэба так хмурыцца, падумай, дзе гарэлкі, а лепш самагонкі, знайсці, каб госці твае радзіму прыгадалі. Беларусы гэта, эмігранты.

— А ты хто?

— Я свой, савецкі. Забыў, ці што? Гады тры-чатыры назад сустракаліся. Маліну яшчэ разам елі, журналіст я.

Мацвей згадаў і маліну, і гэтага хлопца, ён, здаецца, яшчэ маляваў яго, і малюнак той недзе яшчэ ляжыць.

— Як жа ты апынуўся ў гэтай кампаніі?

— Заданне, ды і цікава, дзед, як гэта яны будуць сустракацца з зямлёю абетаванай, з якой калісь з'ехалі. Цікава паглядзець, дзед, як і ты жывеш. І папярэджваю цябе: шэф на цябе балон коціць.

— Які и табе дзед? Адзін толькі раз і не пабрыўся. Ты прыязджай адзін,— сказаў Роўда,— пагаворым пра балон. Толькі адзін.

Хлопец яму спадабаўся, і ён запрашаў яго, а сам ліхаманкава прыкідваў, дзе гэта ўзяць той гарэлкі, а лепш самагонкі. І ён зазірнуў у кабінет: хто там з сваіх суправаджае гэтую дэлегацыю, добра, калі б гэта быў дырэктар спіртзавода, тады яму няма чаго і хвалявацца. Канадцы ўладкоўваліся ў яго кабінеце, а побач з сакратаром райкома стаяў дырэктар маласырзавода, спадзявацца не было на каго. Мацвей паманіў з кабінета старшыню пасялковага Савета. З бухгалтэрыі пазваніў на комплекс, адказала Надзька.

— Каб праз гадзіну былі дваццаць халатаў, інакш міжнародны канфлікт.— Адпомсціў ён усё ж Надзьцы за тое, што не пусціла яго на комплекс. Надзька спрабавала нешта пярэчыць, Мацвей кінуў трубку, павярнуўся да старшыні пассавета: — Бяры маю машыну і шыбуй на край свету, і кроў з носа... каб праз гадзіну...

— Ты б лепш птушынага малака прасіў прывезці.

— Птушынае малако яны маюць і так. Бачыш, якія сытыя, дагледжаныя бабулі і дзядулі. Хоць у плуг іх.

— Уга, будуць яны табе араць,— сказаў старшыня пассавета.

— Ну дык давай, родненькі, ары ты.— І Мацвей рынуўся да сябе ў кабінет. Канадцы ўжо расселіся, уладкаваліся, бы гэта быў іх кабінет, сакратар райкома ўжо апавядаў ім аб поспехах раёна і гаспадаркі. Мацвей прыстроіўся збоку і панура і хмурна, бы не меў ніякіх адносін да гэтай гаспадаркі, слухаў яго, і здавалася, што сярод мноства гэтых людзей ён і ёсць адзіны тут госць, чужы. Сакратар зрэдку пазіраў на яго, і Мацвей чытаў у гэтым яго позірку, што ён ні аб чым не забыў: поспехі поспехамі, вось даложыць ён аб іх і возьмецца за яго, бачыў ён усё і не даруе той травы, якая ўжо вонку і вылезе яму яшчэ бокам, бокам выйдзе яму і тое, што ён, сакратар, вымушаны хваліць яго перад рознымі амерыкамі. Але Мацвею было прыемна, што яго хваляць, ён нібы браў рэванш за сваё будучае паражэнне. Як ні ставіцца да яго сакратар райкома, усё ж вязе канадцаў у яго гаспадарку. І Мацвей падказваў сакратару, што той прапусціў, аб чым забыўся расказаць: аб галоўным напрамку гаспадаркі як мяса-малочнай і вымушанай таму больш сеяць травы, чым прапашныя культуры, і гэта быў ужо адкрыты выклік сакратару райкома, мо нават і здзек. І сакратар райкома не вытрымаў:

— Сам раскажы, Мацвей Антонавіч. Раскажы, не саромейся, а мы паслухаем.— Сказаў ён з намёкам, які быў зразумелы толькі ім дваім, і Мацвей крыху прытрымаў сябе, не стаў лезці на ражон.

— Што расказаць? Гэта ж хіба толькі нам з вамі цікава. А гаспадам усяго не расказаць.

— Вось нам якраз і трэба гэта ўсё-ўсё.

— Гаспада маюць час, каб ведаць усё, трэба жыць тут ці хаця б тыдні тры пасядзець у гэтым кабінеце, паслухаць, а потым гады наглядаць і яшчэ гады рабіць, працаваць...

О не, гаспада столькі часу не мелі. Гэта толькі ў рускіх так багата вольнага часу, а ў іх жа расклад, яны ж павінны даведацца аб усім у раёне, павінны даведацца і аб жыцці кожнага асобнага селяніна.

— Што ж вас тады асабліва цікавіць? — спытаў Мацвей.

— Жыццё, жыццё нас цікавіць, простага савецкага чалавека, сяляніна, калгасніка.

— Трэба і звяртацца непасрэдна да калгасніка, ісці на ферму да яго, да яго ў поле.

— Не будзь такім сціплым, Мацвей Антонавіч,— спыніў яго сакратар райкома.— Хіба ж без гэтага мы не можам сказаць, што ў кожнай кватэры сёння ўжо ёсць тэлевізары, дываны, ёсць і ўласныя машыны?

О не, пра гэта ім якраз і не трэба, аб гэтым якраз госці і не хацелі нічога ведаць. Таму што ўсё мелі і самі. І дамы такія ж самыя, і тэлевізары такія ж, але ведаеце, чаго ў іх няма, не было, калі яны пакідалі гэтую зямлю, а вось цяпер з'явілася? Яны беларусы, і тут засталіся беларусы, і ў тых беларусаў, якія засталіся тут, з'явілася, а ў іх — не. Вось ім зразумець бы гэта, зразумець бы, хто такі ёсць ён, Мацвей Роўда, старшыня княжборскага калгаса?

— Паляшук,— адказаў Мацвей,— карэнны, княжборскі. А сярод вас ёсць палешукі?

Палешукі былі. Дзядок, з носам, падобным на дзюбу арла. Мацвей даўно ўжо прыглядваўся да яго і думаў, што сярод усіх іншых ён, пэўна, адзіны сапраўдны канадзец. Але ён аказаўся суседам. Да адбыцця ў Канаду стары жыў цераз рэчку ад Княжбора.

— Вы памятаеце, што тут было раней? — спытаў Мацвей.

Ён памятаў, што тут было раней, таму калісь і збег адсюль, збег, але не забыў сваёй радзімы, хаця гэта было яшчэ да Канады, у Амерыцы, у Штатах, ведаеце, ён ужо быў не мужык, не, паважаны чалавек, прадпрымальнік, завёў сваё дзела, варочаў мільёнамі, Мацвей пацікавіўся, як гэта ён нажыў свае мільёны. Дзядок узрадавана ажывіўся, наліўся сокам і яго нос. Ён нажыў свае мільёны на сметніку, на макулатуры. Збіраў, сартаваў, непрыгоднае ва утыль, а тое, што яшчэ неяк можна было выкарыстаць — на продаж. Вельмі-вельмі прыбыльнае дзела было. Пакуль не апамяталіся, не ўбачылі гэтага амерыканцы, і тады бізнесу яго прыйшоў канец. Але ён, ведаеце, яшчэ паспеў дапамагчы радзіме, трыста пар абутку падараваў нейкаму дзіцячаму дому на Беларусі.

— Не з утылю, не са сметніку былі тыя чаравічкі? — спытаў яго Мацвей.

— Што вы, як гэта можна, гэта ж для сваіх, сам і купляў самыя лепшыя, як сабе купляў.

Мацвей успомніў гэтыя самыя лепшыя амерыканскія чаравікі, адны на двух з дзедам Дзям'янам, што атрымалі і яны праз Чырвоны Крыж. Чаравікі былі і на самай справе добрыя, як яны з дзедам Дзям'янам ні насілі іх, не знасілі. І таму зноў пераабуліся ў лапці. І цяпер Мацвей не без злосці пацвердзіў, што ён атрымаў амерыканскія чаравікі ад свайго заакіянскага земляка... Што яму былі тады тыя чаравікі амерыканскія, калі ён есці хацеў. Яшчэ ён падумаў, што гэтыя чаравікі, яго адносіны да іх тады і цяпер якраз і ёсць тое, чаго не здольныя зразумець гэтыя былыя беларусы і нават палешукі сярод іх, бо на чужой зямлі без каранёў і палын не расце. Яны адсюль з'ехалі, так і не адчуўшы сябе беларусамі, саромеючыся таго, што яны беларусы, не пазбавіўшыся гэтага сораму, і пражылі жыццё за акіянам, імкнучыся як мага хутчэй збыць, знішчыць у сабе беларуса. А калі знішчылі, звярнуліся да радзімы, усцешваючы, абнадзейваючы сябе, што ў іх знішчальным вопыце ёсць нешта вельмі карыснае, прыдатнае іх землякам. Былы мільянер і утыльшчык так і сказаў аб гэтым, аб тым, што толькі ў Канадзе жывуць сапраўдныя гаспадары і ён мае нешта сваё расказаць калгаснікам, калі трэба, калі яго папросяць, нават можа застацца тут, цяпер у яго ў Канадзе ферма, невялічкая такая ферма, на той ферме ўсё вельмі разумна, вось гэтаму разумнаму ён навучыць і беларусаў.

— Можаце прыступаць, вучыце, толькі спачатку паглядзіце, як гаспадарым мы,— Мацвей падняўся і павёў канадцаў на свінагадоўчы комплекс і адышоў душой.

— Будуецца такі комплекс і для буйной рагатай жывёлы,— расказваў канадцам сакратар,— на шэсць тысяч галоў.

— Тыя шэсць тысяч трэба спачатку забяспечыць кармамі, стварыць кармавую базу,— перабіў яго Мацвей.

— Вось ты і забяспечвай, і ствара̂й. Забяспечыш?

— Не,— адказаў Мацвей.— Мяркуючы па тым, як вы адносіцеся да гэтай кармавой базы,— не.

— Будуць вывады...
— Хоць дзесяць вывадаў.
— Ну, Роўда,— сакратар прыціснуў яго да аўтапаілкі.— Ехаў да цябе, каб памірыцца, старшыня райвыканкома павінен быў везці канадцаў. А павёз я. Я да цябе прыехаў.
— Дзякуй за гонар.
— Пра гонар пагаворым потым. Пагаворым і аб іншым. Як і перад кім ты сябе паводзіш.

Ніхто не прыкмеціў і не чуў, аб чым яны спрачаліся. Канадцы, бабулькі і дзядулькі, былыя беларусы, шчабяталі, шчоўкалі і цёхкалі, што ў маі салаўі. О, яны, канечне, ведалі, што такое Савецкая Беларусь, цяпер ім зразумела ўсё, чаго яны не маглі зразумець раней: калі ў цябе ёсць такая гаспадарка, такая ферма, ты ўжо зусім іншы чалавек. Уласнасць заўсёды ўзнімала і ўзвышала чалавека. Уся справа, канечне, у тым, што мае чалавек, чым валодае. Яны ганарацца сваімі землямі, і землякі таксама могуць ганарыцца імі, яны ж заўсёды былі патрыётамі, змагаліся з фашызмам, ахвяравалі не толькі чаравікі, але і цёплыя рэчы пасылалі, пасылалі грошы і нават скрыпкі. Такія мілыя парасяткі, такія прадпрымальныя людзі. І ўсё гэта дзе? Сярод галоўнага балота Еўропы. Ёсць, ёсць яшчэ цуд на свеце.

І здзіўленне, і захапленне іх было шчырым і непадробным, яны шчыра і сумленна гаварылі пра ўсё, што было ў іх на душы, але Мацвей не здольны быў ні зразумець, ні прыняць гэтую іх шчырасць і сумленнасць. Яны як былі, так і засталіся яму людзьмі не толькі з іншага свету, але і з другога веку. Ён спрабаваў паміняць іх месцамі з княжборскімі старымі такога ж веку, і нічога не атрымалася. Нават знешне нельга было ўявіць сабе Ненене, каб яна абулася вось у такія чаравічкі на высокіх абцасах, каб яна ўсцягнула на сябе гэтыя джынсікі ў абцяжачку, павесіла цераз плячо фотаапарат. Смешна і недарэчна. І менавіта цяпер ён пачынаў разумець, чаму так трымалася Ненене за сваю хібарку, кідалася з-за яе пад гусеніцы экскаватара, хацела памерці разам са сваёй хатай. Вось, пэўна, аб чым і трэба было гаварыць з гэтымі канадцамі, што праглі ведаць усё-ўсё. Але аб гэтым якраз ніколі і не гаворыцца, тым больш з людзьмі другога свету. І самі яны наўрад ці здольныя зразумець

гэта: чалавека за вушы, з балота, а ён — пад машыну. Гэтыя, што нарадзіліся разам з Ненене і на адной з ёю зямлі, і ў адзін з ёю час, не кінуцца. І была ўжо яму дарагая Ненене, што весела сноўдала сярод гасцей, паказвала кожнага парсючка, як дзіця сваё паказвала. І ён адчуваў, што вінаваты перад ёю, хаця і не разумеў яшчэ, чым жа ён вінаваты. Ён асушыў балота перад вокнамі яе хаты, выцягнуў яе з гэтай курнай хатыхібаркі, пасяліў у светлай кватэры, што абаграецца парай, даў ёй работу, дзе не трэба надрывацца, як яна надрывалася раней, разбіў, парушыў тое жыццё, якім яна жыла раней, але даў, увёў у новае... А ці даў, а ці ўвёў? І ці магчыма каго б то ні было і куды б то ні было ўвесці сілаю, з частак скласці цэлае і каб гэта цэлае было жывым. Сам ён таксама складзены з частак, ці ўяўляе ж ён цэлае, хаця яго так доўга і старанна складвалі з розных часцінак, лёсу, падзей, выпадковых, разумных і не зусім разумных, бязглуздзіцы і ўгатаванай наканаванасці, што суседнічае з невядомасцю...

Ад комплексу яны скіраваліся, каб паабедаць. Расчуліўшыся ад самагонкі, госці забыліся і пра гаспадароў, загаманілі адразу ледзь не на ўсіх мовах свету. На англійскай, французскай, беларускай і рускай, успаміналі, як некалі гналі гэты самагон, даказаўшы пры гэтым, што яны вельмі і вельмі не дрэнна ведаюць тэхналогію самагонаварэння. Гаспадары нарэшце маглі пагаварыць аб сваім.

— Ну што, удзельны князь Княжбора? Думаеш, абвёў вакол пальца сакратара? Які б гэта я быў гаспадар раёна, калі б не ведаў, што ты тут, як чараўнік, травамі заняўся. Старую гвардыю на мякіне не правядзеш. Расказвай.

Калісьці Мацвей чуў ужо гэтыя ці падобныя на гэтыя словы, і вымаўляліся яны голасам, падобным на голас сакратара, але толькі дзе і калі ён мог чуць усё гэта, Мацвей не памятаў. А тое, што гутарка пачалася добразычліва, здзівіла і насцярожыла яго. Ён чакаў, што з яго адразу ж пачнуць здымаць стружку, а тут толькі лёгенька пагладжвалі. І ён не гатовы быў да гэтага. Сакратар быў паблажлівы да яго, і Мацвей ледзь пазбавіўся спакусы выказаць усё як ёсць, а потым — што будзе, тое і будзе. Але перахапіў пагляд сакратара, якім той агледзеў гэтую размаітую кампа-

нію, зірнуў на яе і трымаў яе ў сваім паглядзе, як у кулаку. Мацвей падумаў, што ў гэтым учэпістым паглядзе-кулаку знаходзіцца і ён.

— Калі вы аб усім ведаеце, мне няма аб чым расказваць, Дзмітрый Радзівонавіч,— асцярожна адказаў Мацвей, чакаючы, што будзе далей. Далей жа было тое ж самае добразычлівае:

— Калі я ўсё аб табе ведаю, нікуды не варты, старшыня ты, гнаць цябе час. Як ты сам лічыш?

— Начальству відней. Калі вы ўсё яшчэ аб тых травах...

— Я не аб травах, а аб тым, што сумна працаваць з чалавекам, якога ты ведаеш і бачыш наскрозь. Згодны ты са мной?

— Не ведаю. А травы я сеяў і буду сеяць. Спустошыць тарфянікі прапашнымі...

— Малайчына. Тут мы стаім з табою на аднолькавых пазіцыях.

Мацвея бы хапілі абухам па галаве, бы дзед Дзям'ян, як некалі даўно тое было, яму лыжкаю па лобе. Ён прайграваў, адзін нуль на карысць сакратара, і лік, па ўсім, павінен быў павялічыцца. Гульня толькі пачыналася. Пранесла з адным, значыць, павінна было нагарэць за другое. А канадцы смакавалі самагонку, пацягвалі, як віскі, пэўна, у сябе дома пацягвалі, і відаць было, што занятку ім гэтага хопіць надоўга, таму і гутарка яго з сакратаром зацягнецца. Дзядкі і бабулькі ўступалі толькі ў сваё юнацтва, што прайшло на гэтай зямлі, як мала ім усё ж трэба было, каб адчуць сувязь з гэтай зямлёй. І Мацвей упершыню за час іх сустрэчы пашкадаваў былых сваіх землякоў, шчыра паспачуваў ім, як лёгка страціць радзіму, тое, што завецца роднаю зямлёй, родным кутам, як хутка рвецца пупавіна, якой чалавек павязаны са сваёй зямлёй, і чым жа гэта яна потым падмяняецца — жменькаю п'яных слёз, слінаю старэчай бяззубай гаворкі, наборам забытых слоў, што вымаўлены з французскім прансам, і як далёка яны цяпер ад таго, да чаго імкнуліся, шмат далей, чым былі да гэтага, калі знаходзіліся ў сябе за акіянам, на сваіх фермах, пры сваім бізнесе.

— Што, да траў адносіны зноў змяніліся? — як заўсёды, прайграючы, Мацвей пёр напралом, ведаў гэта, але не мог і не хацеў спыніцца. Ён вымусіў са-

кратара на імгненне забыць пра гасцей і паглядзець на яго.

— У нас нічога не мяняецца, запомні гэта, Мацвей,— у вачах сакратара было асуджэнне, і шкадаванне прамільгнула там, у звернутай на яго іх пукатасці.— Як толькі ты зразумееш гэтую ісціну, табе стане куды лягчэй працаваць.

— А вы самі дзе раней працавалі, Дзмітрый Радзівонавіч?

— Я гуманітарый, гісторык, некалі быў дырэктарам школы, выкладаў гісторыю.

— Вельмі дакладная навука.— Мацвей успомніў нарэшце, каго нагадваў яму сакратар райкома. Удзельнымі князямі княжборцаў зваў настаўнік, таксама гісторык, класны кіраўнік Мацвея, калі ён вучыўся ў школе, якая знаходзілася ў маленькім гарадку за рэчкаю. Велічаў ён іх так звычайна ў панядзелак, калі яны, княжборцы, вяртаючыся з выхадных, замест школы ішлі ў лес, «у партызаны». І знешне сакратар райкома быў падобны на настаўніка гісторыі, прафесія ўсё ж накладвае свой адбітак на чалавека. Мацвей не ўстрымаўся, недарэчна і не да месца рагатнуў:

— Хто ж з нас удзельны князь, Дзмітрый Радзівонавіч?

— Да гэтага мы яшчэ вернемся. З гэтым мы яшчэ разбяромся, Мацвей Антонавіч. Можаш не сумнявацца, разбяромся.

— А я і не сумняваюся.

— Паступілі сігналы, што ты патураеш, разбазарваеш калгасную зямлю.

— Хто сігналіць? — Мацвей зразумеў, што толькі цяпер і пачалася іх сур'ёзная размова, і не слухаў больш канадскіх палешукоў, што дайшлі ўжо да дзяцінства,— тое, аб чым гаварыў сакратар, было ўжо зусім нечаканым яму.

— Каму трэба, той і сігналіць. Зямлю, якая б хлебам аддзячыла нас, заняў травою, а гектары, на якіх магла б расці тая ж трава, аддаў на водкуп элементам усякім. Захватчыкам. Слоўца ж якое трапнае... А франтавікоў, інвалідаў заціскаеш.

— Якіх франтавікоў, Дзмітрый Радзівонавіч? Франтавік, што вам сігналіць, пасля вайны на міну наскочыў. Ліквідавалі мы яго карчму, соткі не абразалі, хаця ні ён, ні жонка яго ў калгасе не робяць, ада-

бралі толькі тое, што самавольна было захоплена ім, вось ён і строчыць вам. Цупрык гэта, Цупрык.

— Мне ўсё роўна, хто гэта. Тут не асоба, а сутнасць, галоўнае. Ёсць факты самавольнага захопу калгаснай зямлі?

— Ёсць,— вымушаны быў прызнаць Мацвей. Таму што былі яны заўсёды, і ўсе ведалі аб гэтым.

— Пра гэта мы з табою больш не гаворым. Твае захватчыкі ў мяне на асобым кантролі.— І ў сакратару нічога не было больш ад настаўніка, ён быў толькі сакратаром.

— Дзмітрый Радзівонавіч,— Мацвей усё яшчэ на нешта спадзяваўся, вельмі ж не хацеў ён займацца гэтымі захватчыкамі, хаця і разумеў, што рана ці позна займацца імі прыйдзецца.— Мо папярэдзім самы апошні раз, хай убяруць, што пасеялі?

— Ніякіх папярэджванняў.

— Ды зразумейце ж вы, у Княжборы не тыя традыцыі, у Княжборы ніхто нікога ніколі не ганяў, ні за вязанку саломы, ні за каласок жыта, ні за капу сена.

— А шлюзы ў Княжборы тваім калі-небудзь падрывалі? А дамбу ўзрывалі? Малі бога, што пракуратура не цікавіцца, дзе ўзрыўчатку даставаў.

— Хай пацікавіцца, я адкажу.

— Мне адкажаш за іншае. Асабіста дакладваць будзеш: ці ёсць у Княжборы калгас.

Мацвей цвёрда рашыў, што ніякімі захватчыкамі займацца ён не будзе, ганяць з лугу і поля людзей, адбіраць у іх бульбу, што яны ўжо выкапалі, салому ў сціртах і сена ў стагах — было ў гэтым нешта зняважлівае, не вартае чалавека. У Шчура ён, праўда, адабраў ужо стажок, але толькі адзін з трох. Шчур зарваўся, заеўся, ён нагатовіў гэтага сена не толькі сваёй карове, але, пэўна, і на продаж. Гэтая вясковая хвароба хап-хап зайшла ў яго ўжо вельмі далёка. Шчур прыбег тады ў кантору біцца з ім, выпіў недзе, каб быць больш смелым.

— Памяняемся партфелямі, старшыня,— кінуў на стол Мацвею пугу, пацягнуўся ўзяць партфель Мацвея, што стаяў каля стала.

— А ўтрымаеш, пацягнеш? — спытаў яго Мацвей.

— Твой партфель, Мацвей, я заўсёды пацягну. Кішэня для пячаткі ёсць. А вось ці ты мой пацягнеш? —

І Сідар кінуў партфель, ухапіў са стала пугу і аглушальна стрэліў ёю ў кабінеце Мацвея. Выскачыў з кабінета і, п'янеючы на вачах, пачаў ляскаць пугаю ў калідоры, аперазаў пугаю Мацвея, калі той паспрабаваў адабраць яе, дасталося і ўчастковаму. Участковы адвёз яго ў горад, здаў у міліцыю, але ў міліцыі Шчур прыкінуўся хворым, яго накіравалі ў бальніцу. І ў той бальніцы Шчура трымалі недзе каля тыдня. Пакуль не прымусілі яго, як сам ён потым ужо расказваў, нанасіць вады ў нейкую бочку. Ён хуценька запоўніў яе да палавіны, а далей нешта не атрымлівалася. Колькі ні насіў ён той вады, колькі ні ліў, а ўсё было толькі палавіна. Сідар агледзеў бочку з усіх бакоў, але яна была, здаецца, без падвоху. Нідзе ні дзірачкі. Ён прынёс яшчэ два вядры, выліў іх у бочку і хуценька схіліўся. Вады не прыбавілася. Тады Сідар кінуў вёдры і пачаў думаць. За гэтым роздумам яго і заспеў санітар.

— Чаму не робіш?

— Што я, дурны, на самай справе, псіхаваны? — адказаў Сідар.— Што я, не бачу, гэтую ж бочку хоць лузні, хоць трэсні, а не наліць.

І наступным днём ён быў ужо ў Княжборы, сядзеў на пясочку каля сваёй хаты і працягваў думаць усё аб тым жа: што за мудрагелістая бочка была. І ў Княжборы ўжо рагаталі з Сідара: добрае, правільнае месца прызначылі яму ў горадзе, толькі вось выпусцілі дарэмна. «Бочка тая, што сам Сідар, колькі ў яго ні лі, колькі ні давай — усё роўна мала. Лесам натаргаваўся, сенажаць калгасную захапіў — усё мала. Правільна ўпяклі яго». Мацвей, слухаючы гэтыя словы, спадзяваўся, што на будучы год захватчыкаў у яго ўжо не будзе, дык няхай жа яны сёлета паціху збяруць і ўбяруць, што пасеялі і ўкасілі. Не хацеў ён усчынаць ні спрэчак, ні ляманту, ні бойкі. Гэта ж апошняя справа адбіраць у селяніна тое, што зроблена і зароблена ім. І сорамна ж гэта. Але чаму ж ён пайшоў той ноччу на надзелы, што былі самавольна захоплены княжборцамі, што вымусіла, што пагнала яго — гэтага ён так ніколі і не зразумеў. Да ўсяго ж ён не толькі пайшоў, а і ўзброіўся перад паходам, зняў са сцяны двухстволку дзеда Дзям'яна, якая за апошнія чатыры-пяць гадоў так ні разу і не стрэліла, была больш нейкім упрыгожаннем у хаце, чым стрэльбай. Больш напамінкам аб

тым, што быў некалі паляўнічым і дзед Дзям'ян, і было некалі каго паляваць яму каля Княжбора. З кожнага са ствалоў выбегла па павуку, Мацвей вычысціў павуцінне, прыгадаў, дзе захоўваюцца патроны, набіў імі патранташ.

— На паляванне? — спытаў яго яшчэ дзед Дзям'ян.

— На паляванне,— адказаў яму Мацвей.

— Да Вясковага скоч,— параіў дзед,— да Чортавай прорвы. Там абавязкова качка будзе, а то і дзве. Усе вочы навылупку і бугвед куды бягуць, усе далёка імкнуць, а ты блізенька, да Чортавай прорвы.

Мацвей прамаўчаў. Не стаў казаць дзеду, што Чортавай прорвы даўно няма. Заняпаў яго дзед пасля смерці Махахеіхі, перасялення ў новую кватэру. Часта, асабліва вечарамі, знікаў з кватэры, і знаходзіў яго Мацвей усё каля той жа Чортавай прорвы. Ад яе ўжо і знаку не засталося, а вочы ў дзеда ўжо саслабелі, каб нешта і бачыць, але ён ні разу не памыліўся, не збіўся з дарогі, шыбуючы туды, як наводзіў яго хто. Выходзіў на тое месца, дзе раней была прорва, і, як сцвярджаў, бачыў прорву, чуў яе голас.

— Булькоча, чуеш, Мацвей, булькоча. То сын мой з нявесткаю голас падаюць. І Махахеіха там. Мяне чакаюць. Толькі я жалезны, Мацвей.

— Так, жалезны,— падтакваў дзеду Мацвей, асцярожна браў яго за руку і вёў дадому.

Дзед Дзям'ян памкнуўся быў і ў той вечар разам з ім пайсці да прорвы, але Мацвей не пусціў яго, замкнуў на ключ. А пайшоў ён зусім не ў бок Чортавай прорвы, бо ніякіх надзелаў там не было. Пакрочыў па старой княжборскай дарозе, па якой гадоў пяць назад разам з Шахраем на газіку трапіў у сяло. І ён зноў прыгадаў той свой першы прыезд у Княжбор, тую радасць, што ахапіла яго ад сустрэчы з ім, радасць, нечым падобную на тую, што адчувалі канадскія беларусы, што наведалі родную зямлю. Як чужынец прыйшоў ён на гэтую зямлю, па якой, што і яны, бегаў некалі ў дзяцінстве басаног. А чым яшчэ, акрамя гэтага дзяцінства і памяці, павязала яго з сабою родная зямля і што гэта такое — родная зямля? Няўжо толькі ў дзяцінстве ёсць родная зямля, калі ты на ёй, як каля грудзей маці, і калі табе яшчэ нічога не трэба, акрамя гэтага малака маці, дыхання і святла, і ты ўпэўнены, што маці ў цябе вечная і неба над галавою таксама

вечнае і непарушнае. Пакуль аб табе клапоціцца толькі гэтае неба, і ўсе аб табе клапоцяцца. Але ты пачынаеш бурыць сваё неба не абавязкова так, як ён, Мацвей, ты можаш здрадзіць яму і ціха, ніхто, акрамя цябе, і не прыкмеціць гэтага. Можаш не прыкмеціць гэтага і ты, а калі ўжо і прыкмеціў, то адразу ж даруеш сабе і апраўдаеш, пачнеш вытлумачваць усё вышэйшай неабходнасцю, вымушанасцю, тым, што так жывеш не толькі ты адзін, але і ўсе, каго ты ведаеш. Свет, жыццё, па крайняй меры, яго, Мацвея, жыццё наогул, зрабілася такім, што яго лёгка растлумачыць, можна было растлумачыць усё, што б ён ні зрабіў, што б ні ўтварыў. Кожны свой крок, кожны свой учынак можна было прыкрыць тлумачэннямі, любое паскудства, і, прыкрыўшы, як гаворыцца, не трапятацца, не пакутаваць і не грызці сябе. Навошта ўсе гэтыя пакуты, калі ўсё так проста і ты ўжо дасягнуў такіх вышынь, калі ўсё можаш зразумець, зразумець нават сябе, раскласці сябе на палічках і самому сабе зноў-такі растлумачыць: што і адкуль пачынаецца, што ад чаго зыходзіць і куды імкне. Нідзе і ні ў чым, нават у самім сабе, не было больш тайны, знікла гэтая тайна, і цябе пакінула адчуванне нейкай далечыні, працягласці твайго існавання, цябе як замкнулі ў адну толькі хвіліну, у імгненне, у якім ты жывеш і якое даравана табе ў бясконцым ланцугу твайго роду, няма прарыву, няма пранікнення ў другое звяно, а паміж звёнамі — толькі механічнае зачапленне. І адсюль — вышэй сябе не скочыш, а хто спрабуе скочыць — той недапечаны, юродзівы. І ўсё гэта ўжо дзень мінулы, наіўны, смешны, хаця і кранальны. Але чаму так баліць і шчыміць сэрца, калі ён набліжаецца да гэтага мінулага, ідзе старой дарогай, Бараздыкавай гаццю, Шчуравым бродам, ступае на Махахеяў мосцік, чаму так карціць яму скінуць чаравікі і басанож прабегчы ўсе гэтыя гаці, брады і масты, як бегаў калісь, не адчуваючы дарогі, не адчуваючы пад сабою ног, столькі бегаў, што скура на пятах не паспявала нарастаць і пяты баранілі сябе нарывамі, вялізнымі, бы падушкі, і адразу на абедзвюх нагах. І ён вымушаны быў сядзець дома, зайздросціць таму, як бегаюць іншыя. Але потым, калі прарывала, якая ж гэта тады была асалода, якая ўцеха і жах які абноўленымі пятамі памацаць зямлю, бы зусім не нагою ступіць на яе, а аголеным

сэрцам ступіць і растаць, адчуваючы гэтае раставанне, адчуваючы маладой, незагрубелаю скураю самую маленькую пясчынку і ціха-ціха заходзіцца ад далікатнай радасці ў грудзях, усёй сваёй істотай уцякаючы ў гэтую пясчынку. Мацвей ужо выйшаў на тую самую дзялянку, дзе некалі разам з Шахраем сустрэўся з Бардыкам, калі той араў на сваіх воліках: «А гною таго колькі валы вось гэтыя дадуць, ды вы яшчэ дабавіце...» І далей ісці яму не схацелася, хаця сёння можна было б тут прайсці ўжо куды хочаш. Нідзе ні кустоў, ні балота, спрэс адно поле. І ў гэта калгаснае поле былі ўрэзаны палоскі зямлі княжборцаў. Княжборцы яшчэ да меліярацыі расчысцілі гэтыя палянкі, пакарчавалі і папалілі лес, таму, пэўна, назаўсёды і лічылі іх сваімі. Палосы гэтыя выбіваліся з агульнага масіву, ляжалі яны ў асноўным на пагорках, пасля асушэння пагоркі гэтыя выпучыліся, вада ад іх адышла, зямля ўжо стамілася тут радзіць, спустошылася, на высокіх месцах шарэў у цемені і белы пясочак, мо з-за гэтага пясочку ён, Мацвей, і не імкнуўся прыядноўваць да асноўнага масіву гэтыя асабістыя палоскі: глеба бедная, толькі мужык, той самы захватчык, можа што-небудзь ды атрымаць на такой глебе. Мацвей рашыў, што далей гэтых пагорачкаў ён не пойдзе, зашыецца ў салому, каму трэба, хто прыедзе па гэтую салому ці бульбу, што спехам выкапана і прыкрыта саломаю, знойдзе яго сам. Тады тое будзе і відаць, што яму рабіць. Ён паклаў каля сябе стрэльбу, залез у салому, падумаў яшчэ, што было б зусім няблага і самому яму пабыць у скуры захватчыка, раскласці цяпельца, угрэць зямлю, напаліць саломы, накапаць чужой бульбы, прысыпаць яе попелам, ляжаць і чакаць пячонікаў. Ён успомніў, як пахнуць гэтыя пячонікі на вольным паветры, якія сопкія яны з вогнішча. Было вельмі ціха, у прахалодзе ночы падалі зоркі, неяк зялёна адрываліся ад неба і па крывой зырка набліжаліся да зямлі, распаляліся да белага, чапляліся ўжо за далягляд гэтай сваёй распаленай беллю. І падала, замірала сэрца, здавалася, што гэта ўжо гарыць зямля, што зорка вось-вось грымне на зямлю, скалане яе, спапяліць на ёй усё жывое. Але кожны раз да далягляду далятала ўжо не сама зорка, а толькі чырвоная кропка, што засталася ад яе, яна адразу ж тухла. І толькі адна светлая палоска дыму, што шлейфам

расцякалася па небе, сведчыла: адной зоркай у сусвеце менш, памерла яшчэ адна зорка. У Княжборы верылі, што гэта памерла не зорка, а чалавек, душа яго памерла. І Мацвей дзівіўся, колькі ж гэта людзей развіталася з жыццём гэтай ноччу. І толькі шлейф празрыстага дыму. А ўсё роўна зорак на небе мноства, недзе сярод іх згубілася яго зорка, яна таксама слізгане з неба, адчайна будзе спрабаваць учапіцца за зямлю і не здолее зачапіцца, а калі згарыць — кропкавым сваім агаркам, сумам агорне нейчае вока. А зоркі ўсё працягвалі падаць, і гэтае падзенне іх закалыхвала, навявала сон, і Мацвей заснуў, прыпаўшы шчакою да прахалоды стрэльбы, бачачы і ў сне скрозь заплюшчаныя вочы, як падаюць і гараць у небе жнівеньскія зоркі. Святло, але зусім не зорнае, абудзіла яго, ён не адразу і зразумеў, хто гэта знайшоў і свеціць яму ў жытнай саломе. Няроўнаю палявой дарогаю ішла машына, падміргвала фарамі на калдобінах. Мацвей намацаў стрэльбу, выпаўз з саломы і выйшаў на дарогу.

Машына павалі выпаўзала з-за павароту, фары яе былі скіраваны ў цемру, у бок ад Мацвея, ён быў нябачны тым, хто знаходзіўся ў кабіне, але вось святло іх уперлася ў яго, Мацвей заплюшчыў вочы і замахаў рукою. Машына, здавалася, прыпынілася, ён ужо вобмацкам рушыў насустрач ёй, як зноў шалёна зароў матор, і грузавік пачаў хутка вырастаць з цемры і насоўвацца на яго. Часу, каб аб нечым падумаць, у яго не было, і ўсё ж Мацвей паспеў сказаць сабе: ён не саступіць. І яшчэ: няўжо гэта ўсё? А мо гэта і добра, што іменна так. Зноў на зямлю ляцела зорка, і ён бачыў не яе, не зорку, а толькі святло ад яе, цень гэтага святла, што слізгануў па яго твары. «Мая»,— сказаў Мацвей. А грузавік набліжаўся да яго неяк скачучы, бы хіжы звер. Матор то завываў, набіраючы абароты, то захлынаўся, губляючы іх. І скрозь шкло кабіны ён ужо бачыў твары тых, хто быў там. Праўда, пазнаць нікога не мог, не паспеў, а мо і не схацеў. Хутчэй не схацеў, навошта яму было цяпер гэтае апошняе веданне? Але што здзівіла яго — там, у кабіне, нехта біўся, змагаўся, змагаліся твары і рукі, зявіліся раты, выскальваліся зубы, і кроў ужо была на лобе ў таго, хто сядзеў побач з шафёрам. Гэтая кроў узрушыла яго, па ўсім, нехта праліў гэтую кроў за яго. Зорка не

паспела яшчэ даляцець да далягляду, зачапіцца за яго і згарэць, як Мацвей адскочыў убок, адскочыў у самую апошнюю хвіліну, калі адчуў ужо на сваім твары гарачае смуроднае дыханне рухавіка. Упаў, машына праскочыла, нейкім цудам не крануўшы яго спаранымі заднімі коламі. Ён стрэліў у гэтыя колы амаль што ва ўпор, і толькі з аднаго ствала, прыберагаючы другі ствол, сам не ведаючы навошта. Шына выбухнула, як узляцела з зямлі вялізная птушка. Грузавік праехаў яшчэ метраў з дзесяць і спыніўся. З абодвух бакоў яго грымнулі дзверцы, і дзве бы на самай справе падбітыя птушкі камякамі вываліліся з кабіны, недарэчна размахваючы рукамі-крыламі, паляцелі ў розныя ад дарогі бакі.

— Стой! Стойце, сукі,— закрычаў Мацвей, цэлячыся спачатку ў аднаго, што выхапіўся з боку вадзіцеля, але адразу ж перадумаў, скіраваў стрэльбу на другога, нечым гэты другі быў больш ненавісны яму. Хоць ён і змагаўся з шафёрам, спрабаваў адвярнуць ад яго, Мацвея, машыну, шкадаваў яго. Мо ў гэтым была ўся і справа. Не мог, не мог жа ён ведаць у цемры, каго выбрала стрэльба, у начы ўсе кошкі чорныя.

— Стой! — яшчэ раз крыкнуў Мацвей, але крыкнуў больш, каб заглушыць сам стрэл. І стрэлу ён не пачуў, толькі ўласны свой крык, ды ўбачыў, як ускінулася, незразумела, да стрэлу ці то пасля стрэлу, ненавісная спіна. І ўсё. Святло патухла, уваччу стала цёмна, крык стаяў над зямлёю, і падалі зоркі. Гэты крык яшчэ працягваў расці і пашырацца ў ім, калі падышоў да яго Васька Барздыка.

— Ну што, застрэліў, падла? — сказаў ён.— І страляць жа як трэба не ўмееш.

— Ты жывы, Васька?

— Як бачыш. Дай,— ён працягнуў руку да стрэльбы, і Мацвей пакорліва аддаў яму стрэльбу. Васька пераламаў яе, зазірнуў у ствалы, што яшчэ дыміліся, паглядзеў і скрозь іх, як у бінокль, на неба. Ён стаяў спіною да яго, Мацвей бачыў, як па спіне яго павольі паўзе і бурэе вільготная пляма.

— Вось патроны яшчэ, бяры. Два...

Васька нічога не адказаў яму, зноў склаў стрэльбу, падкінуў яе, злавіў абедзвюма рукамі і хрустка пераламаў аб калена.

— Я не хацеў, Васька, я не хацеў у цябе,— заспя-

шаўся Мацвей... Васька плюнуў яму пад ногі і пайшоў ад яго прэч.

— Васька...— умольна крыкнуў услед яму Мацвей, і той нечакана спыніўся:

— Шчур пабег у горад, у міліцыю, ты страляў толькі ў калёсы, другі раз стрэліў у неба... Падла...

* * *

Мацвей асунуўся на зямлю, прыпаў тварам да яе і адчуў, як гудзе яна, як напружана б'ецца сэрца зямлі, як поўніцца гэтым гудам і яго ўласнае цела, як аддаецца ўсё гэта ў пяты, нібыта пяты зноў нарываюць; ён вярнуўся ў дзяцінства, і вяртанне гэта прадказвала яму невыносны боль. Вечнасць — тры дні, тыдзень нясцерпнага болю, пакуль не прарвецца нарыў. Потым яшчэ адна вечнасць — тыдзень невылазна сядзець у хаце, пакуль не загояцца пяты, пакуль не нарасце на іх новая, маладая скура, не загрубее ад зямлі. Ён зноў будзе вучыцца хадзіць, не баючыся больш ступаць на гэтыя сцежкі, гаці, брады. І як хісне яго першы крок, аж галава закружыцца. І першыя метры ён пераадолее асцярожна, на пальчыках. Абмацае зямлю пальцамі ног, адчуе яе дотыкам пальцаў і толькі потым даверыць зямлі сябе. Раніцой выйдзе на вуліцу, а бегаць па ёй наважыцца толькі вечарам; як бы ні падбухторвалі яго, як бы ні кпілі з яго, ногі павінны самі пазбыць памяць болю, памяць аб тым, адкуль прыйшоў гэты боль.

Навошта ён браў гэтую стрэльбу, навошта пайшоў у гэтае поле, нібыта ён вартаўнік. Так яно і ёсць, вартаўнік ён, толькі вартаўнік. Інакш што яму тут рабіць. Загадалі — і пайшоў, не хацеў, але праз сябе пайшоў, амаль што туды, адкуль ужо не вяртаюцца. Але хіба можна ўпільнаваць ноч, зямлю. Вось ноч ужо і скончылася, прыспеў час — і ўжо світае, світальна гудзе, абуджаючыся, зямля.

І ляцела над зямлёю зорка, і пахла пячонікамі, што падгарэлі ў кастры.

* * *

Калі бусел, мо той самы, што адбіўся ад чарады, прыйшоў на кароўнік, ніхто не ведаў, нібыта жыў ён

там заўсёды. Даяркі пакідалі вечарам кароўнік —не было нікога, а прыйшлі раніцой — гаспадар ужо на нагах. Ходзіць паміж стойламі, прыглядаецца да кароў, і тыя, здаецца, прызнаюць у ім гаспадара, нібыта ён заўсёды быў над імі, нібыта яны колішнія яшчэ сябры. Але асабліва ўпадабаў бусел Ягадку, былую цялічку Ненене. Ён і спаў каля Ягадкі, любіў, узляцеўшы на крыж ёй, глядзець зверху, што адбываецца вакол. І Ягадка стаяла нерухома, калі бусел на адной назе анямела застываў на яе крыжы, думаў сваю прадвечную думку. Даяркі пасміхаліся толькі:

— Што, надакучыла табе, Ягадка, кормяць цябе галінкай, дояць ялінкай, у поле просішся, пастуха ўжо, антона займела.

Ягадка была абыякава да гэтых кпінаў, а Антон здзекаў не выносіў. І неяк нават паганяў даярку, жонку Андрэя Вырастака.

— Во, глядзіце, глядзіце, вой дзіва,— сказала жонка Вырастака, спыніўшыся каля Ягадкі і бусла, якія, здаецца, аб нечым размаўлялі паміж сабой. Бусел цягнуўся да каровы сваёй чырвонаю дзюбаю, ціха ляскатаў ёю, а Ягадка ці то не пагаджалася, ці то, наадварот, пагаджалася і радасна чмыхала.

— Глядзіце, вой, дзеўкі, зараз угаворыць,— не верыла сваім вачам даярка. Буслу гэта не спадабалася, і ён, высока выкідваючы цыбатыя ногі, кінуўся да даяркі. Але і тая аказалася не менш цыбатай і спрытнай, як ветрам яе выдула з кароўніка. Выбегла за вароты і аддыхацца не можа. А бусел пастаяў, папільнаваў яе і зноў пакрочыў да Ягадкі, назаўсёды адбіў ахвоту кпіць з сябе, вымусіў прызнаць сябе за гаспадара не толькі кароў, але і даярак. Паступова ён набіраўся моцы, навучыўся адрозніваць даярак па галасах, ішоў на іх голас, захоўваючы сваю птушыную годнасць, браў перадачы, што прыносілі яму даяркі, пазнаваў ён па голасу ўжо і Ягадку — варта было толькі мыкнуць той, як ён бежкі бег да яе. Ён ужо адлучаўся і з кароўніка, ішоў у поле, сумна блукаў па ім. І ў той дзень ён таксама сышоў з кароўніка і пайшоў не кудынебудзь, а к Чортавай прорве, да тых самых тарфянікаў, дзе некалі расла маліна, дзе Мацвей збіраў тую маліну разам з Сяргеем Кузьмічом і Шахраем, а бусел яшчэ раней, да іх, збіраў там жаб і гадаў. Мо ён за жабамі і гадамі прыйшоў туды і зараз, прыгрэўшыся

сярод людзей і кароў, мо спадзяваўся яшчэ дагнаць чараду, парадніцца зноў з бусламі. Але там, дзе калісь было балота, сёння расла бульба, якую яшчэ не паспелі ў гэтым годзе выкапаць княжборцы. І княжборцы спяшаліся капаць яе. Бусел спыніўся на ўскрайку поля, не наважваючыся падысці да людзей, тыя прыкмецілі яго, спыніліся папалуднаваць каля вагончыка. Дасталі бутэлькі з малаком, нарэзалі хлеба, сала, пачалі запрашаць да стала і бусла. Але той не пайшоў, ці то саромеўся, ці то не даспадобы былі яму хлеб і сала, хоць ад даярак ён не грэбаваў браць усё.

— Вой, яму б жабу,— уздыхнула Махахеіха.— На гэтым яго балоце і кардопля будзе не смачная на торфе.

— Затое родзіць як,— не згадзілася Барздычыха.— Тры бульбіны на чыгун.

— У мяне чыгунок маленькі,— азвалася і Ненене.— Мне вялікай той кардоплі не трэба. Тры маленькіх ды сопкіх, разварыстых...

— А з торфу не бульба, а шкло, твая праўда, баба Тэкля,— пагадзілася з ёю Махахеіха.— Хоць выжмі тую кардоплю. Слюда слюдою. І свінні не ядуць.

— Свінні паядуць усё, цётка Ганна,— зірнуў на гадзіннік Мацвей.— Што там Барздыка з шафёрам калупаюцца, ужо даўно павінны быць тут.

— Пад'едуць, нікуды не дзенуцца.

— Работа стаіць.

— Вой, хлопча, знайшоў работу... Работа цяперака пайшла, машыны ўсё робяць. Ды я старая з вашай работай чатырох за пояс заткну. Раней рабілі. Паглядзеў бы на мяне, калі я маладая была, як я з тваёй маткай жыта жала. Малое ў разоры, ты ў разоры, крычыш, пот — сонца не відно. Матка табе тыцне цыцку ды за серп хутчэй, жанкі ж азіраюцца, чаго-та яна прысела. А ты крычыш — спяваць добра будзеш, Казлоўскім вырасцеш... А як лён бралі, каноплі мачылі. Мароз ужо, лёд за рукі хапаецца, а мы, жанкі, на возеры, не, няма ўжо таго возера, спадніцы падаткнём — і ў ваду. Ногі, што ў буслiх ці качак, чырвоныя. Во работа была. А цяперака гарбузікі вы лускаеце, а не робіце.— І Ненене ўздыхнула. І поле, што ляжала перад імі, нібы таксама ўздыхнула, закружыў, загуляў па ім ветрык.

Паказалася ўрэшце і машына.

— Канчай перакур,— кінуў Мацвей і пакрочыў насустрач машыне. Вецер дзьмуў ужо мацней, быў ён роўны, як на вялікай вадзе. І як на вадзе, бегла па полі маленькая хваля, скакалі па зямлі, па тарфяніку камячкі торфу, што конікі, спачатку маленькія, з тых жа конікаў, гарошыны, церліся адзін аб адзін, размаўлялі, пераказвалі нешта адзін аднаму, як жылі раней, кім ці чым былі да таго, як сталі торфам, ляглі ў зямлю, як бегалі і стаялі яны пад сонцам і месяцам, як плавалі па моры і рэкам і як не хочацца ім развейвацца пылам па свеце, пылам, які ўжо не сабраць, не скласці, не аб'яднаць. Пыл гэты забудзе ўсё аб сабе, і ўсе забудуць, кім і чым ён быў да гэтага, таму што на ім нічога ўжо не ўзыдзе, не вырасце, бачны ён будзе толькі месячнай ноччу, прывідна ўваскрэсне ён на месячнай сцежцы. У вычварнай гульні месячнага святла будуць ганяцца адна за адною пылінкі, дарэмна імкнучыся зноў легчы на зямлю, умацавацца на ёй, знайсці зноў сябе, не дадзена ім гэтага ўжо, як не дадзена чалавеку нарадзіцца двойчы.

Машына ў гэтым віхурным тарфяным моры была падобна на лодку, як лодка падплыла да вагончыка і спынілася, з кузава яе скочыў Аркадзь Барздыка і адразу ж:

— Нешта мне вецер, Мацвей, не падабаецца.

Мацвей азірнуўся, здзіўлены.

— Туды зірні,— Барздыка паказаў на неба. Неба цямнела, сонца на вачах налівалася гарачкаваю чырванню і тухла. Глядзела на людзей, на зямлю, на трактары запаленым хваравітым сваім вокам. А поле ўжо гуло, крычала ўголас, шамацелі, скакалі па ім ужо буйныя конікі, з лясны арэх, спечаныя камячкі торфу, вецер мацнеў, выганяў ужо саму зямлю, чорныя камячкі торфу паспешліва разбягаліся, як разбягаюцца, распырскваюцца ва ўсе бакі малыя, толькі-толькі з апалонікаў, жабяняты. Пэўна, за жабяня палічыў і бусел гэтыя чорныя шарыкі, што скакалі па ўсім полі, палічыў за нешта жывое і пачаў лавіць торф, чорную высахлую памяць зямлі, лавіць, і глытаць, і давіцца, і задаўлена ляскатаць.

— Вой-ё-ёй,— зачаравана запрыгаворвала Барздычыха.— Бусел зямлю есь. Бусел, што чалавек, звар'яцеў.

— Што ж гэта такое, што ж гэта будзе, людцы! — закрычала Махахеіха.

— Чорны смерч, віхура на нас насоўваецца,— сказаў Бардзыка.

І імгненна ён, Мацвей, і Бардзыка, і машына, каля якой яны стаялі, і бусел патанулі ў чорнай віхуры. Мацвей з Бардзыкам кінуліся да людзей і адразу ж згубіліся. Пераадольваючы вецер, плачучы ад чорнага пылу, Мацвей вобмацкам ішоў па полі. І як ён, нічога не бачачы перад сабою, брылі і іншыя. Мацвей спатыкнуўся аб нешта, здаецца, жывое, схіліўся над гэтым жывым. Па зямлі паўзла Махахеіха, вецер загаліў ёй спадніцу, і яна ёрзала ў гэтай сваёй спадніцы на адным месцы. Мацвей кінуўся дапамагчы ёй, яна адпіхнула яго:

— Згінь, бессаромнік, згінь, злыдзень.

Вецер раскідаў людзей па полі. Мужыкі згубілі жонак, жонкі — мужыкоў. На Мацвея наскочыў Цімох Махахей:

— Ганна?..

Абмацаў яго, зразумеў, што памыліўся:

— Ты... прападзі ты пропадам.

Раўла бура, кругамі круцілі смерчы, і па крузе ў гэтых смерчах, бы вялі нейкі карагод, хадзілі людзі, хадзіў бусел. Хадзілі, натыкаліся на Мацвея, крычалі нешта нячутнае яму і злое, ярасне. І вецер выў і крычаў у вушы галасамі княжборцаў:

— Быў лес...

— Была вада...

— І стала пекла. Пекла, пекла, пекла... Прэч, прэч, прэч...

І Мацвей кінуўся прэч ад гэтых галасоў, ад людзей. І здавалася, збег, пазбавіўся іх. Наскочыў на бусла, спатыкнуўся, упаў побач з ім. Бусел ляжаў у разоры, схаваўшы пад крыло чырвоную дзюбу, жыў адным толькі вокам, але вока гэта было жудасна абыякавым. І нішто не адбілася ў ім, не зварухнулася, калі Мацвей падняўся, узяў бусла на рукі.

— Я ж гаварыў, што прыйду да цябе. Чаму ж ты не рады? Я ж прыйшоў, прыйшоў...

Раптоўна, як і пачаўся, суняўся вецер. Мацвей быў недалёка ад княжборцаў. Яны стаялі шчыльнаю кучкаю там, дзе толькі што палуднавалі. Мацвей не рызыкнуў падысці і зліцца з імі. Махахеіха схілілася і

пачала прыбіраць раскіданыя ветрам, чорныя ад торфу скібы хлеба, пачала падымаць і ставіць на зямлю перакуленыя бутэлькі з чорным, і толькі на дне, малаком.

— Вось табе, радзімы, хлеб, вось табе, апостал наш, малако.— Махахеіха падышла да Мацвея, пакланілася да зямлі яму і падала чорную, што вугаль, скібку хлеба, бутэльку з чорным малаком.

Нарабіла бяды бура і ў самім Княжборы, падняла і панесла і немаведама куды занесла сянажную вежу, мо на месяц нават закінула, ні ў самім Княжборы, ні па-за Княжборам яе так і не знайшлі, паздзірала отрэхі з кароўнікаў, а адзін з іх разбурыла да фундамента, здзьмула, як пыл з далоні. Але старога Княжбора не кранула, толькі паспрабавала, ці моцна стаіць на зямлі хата Мацвея і дзеда Дзям'яна. Дзед Дзям'ян якраз быў у хаце і расказваў ужо вечарам Мацвею:

— Мінюту ўсё было, счарнела ўсё ў мінюту, і як друкам нехта забарабаніў па аканіцы, так толькі смерць грукае ў акно. Я і думаў, што гэта смерць мая прыйшла па мяне, разам з хатаю і мяне забірае, выхапіўся за парог зірнуць на яе; ліпы на зямлю кладуцца, тры ліпы і тры яблыні палегла. І глядзі, як акуратненька. Ніводнага вулля не кранула. Не дарэмна людзі кажуць: пчолы — святыя. Святыя яны і ёсць...

Адразу ж пасля чорнай буры стала зацішна, нібыта зямля спахапілася, не верыла самой сабе, не верыла, што можа так раззлавацца, прыслухоўвалася да сябе. І на гэту цішыню і задумлівасць раптоўна, як абваліўся, пайшоў снег. Мацвей паставіў бусла на зямлю, той імгненна пачаў распростваць крылы, махаць імі, спрабуючы паветра, і, распасцёршы крылы, пабег, пабег прэч ад Мацвея. Мацвей стаяў і глядзеў, як уцякае ад яго бусел. Але той нечакана азваўся, заклекатаў, як сварыўся на яго. Ён зусім не збіраўся нікуды ляцець, уцякаць ад Мацвея, ён, пэўна, толькі хацеў пагуляць з ім. А Мацвей не схацеў гуляць, бусел пакрыўдзіўся, стаяў, падціснуўшы нагу, і глядзеў убок.

— Пайшлі, антон, пайшлі, лелько,— паклікаў Мацвей пакрыўджанага бусла. І бусел пайшоў побач з ім, пакідаючы на снезе выразны адбітак свайго следу. Гэта былі першыя сляды на снезе ў той вечар: птушкі і яго.

Першы снег прымаў на сябе Княжбор, навіну. Зямля, стаіўшыся, не дазваляла, каб нехта парушаў цішыню, слухала сябе і тое, як падае першы снег. Яна ўжо рыхтавалася да сну, яна стамілася, ёй патрэбна была цішыня, каб у гэтай апавітай снегам цішыні ўпарадкаваць усё, што мела яна, назапасіць сілы, залізаць свае раны і, калі прыйдзе зноў вясна, прачнуцца адноўленай, разрадзіцца коласам і лістом, крынічкай, грыбам і ягадай, каб усяго хапіла, і не толькі людзям, але і птушкам, тым самым буслам, каб яна, зямля, магла не толькі прыняць іх вясною, але і восенню кінуць у неба і крыкнуць ім на развітанне:

— Калясом дарога.

# СВЯТАЯ КРЫНІЦА

Першае, пра што думаеш, чытаючы раман Віктара Казько: вось яшчэ адзін прыклад пісьменніка з моцна развітым пачуццём свайго месца на роднай зямлі — не толькі месца нараджэння і першых гадоў дзяцінства, але месца прыцягнення ўсіх сваіх сённяшніх галоўных інтарэсаў.

Гэтае ўсвядомленае пачуццё крэўнай еднасці з Палессем, родным чалавечым асяроддзем не проста жывіць мастацкую тканіну рамана. Яно ў поўным сэнсе слова генерыруе яго асноўную думку, ідэю. І гэтая ідэя прысутнічае тут, не абапіраючыся толькі на ўласную логіку і правільнасць, як, на жаль, нярэдка бывае ў сучаснай прозе,— але выступае жывой, «во плоти», менавіта прарастаючы з усёй жыватворчай гушчыні віруючага палескага жыцця. З яго фарбаў, гукаў і пахаў, з яго балотнай вільгаці і шчодрых зялёных багаццяў, з яго паданняў, баек, легенд, з усёй яго «міфалогіі» і нават з самой мовы палешукоў.

Уся гэтая гушчыня народнага жыцця і асабліва палескай прыроды пададзена такім чынам, што адразу адчуваеш: тут — не штучны падбор гатовых элементаў, не ўяўнасць нейкага цэлага, а сапраўды жывы, цэласны мастацкі арганізм. І, бадай, самы галоўны доказ гэтай цэласнасці і арганічнасці — яе ўнутраны самарух, так добра бачны ў стылістыцы твора, у аўтарскіх прынцыпах вобразнай арганізацыі матэрыялу. Тут пластычны бок вобраза і яго сэнсавая сутнасць, знешні малюнак і эмацыянальная напоўненасць адначасова і цесна злітаваны і як бы даюць свабоду адно аднаму, паўстаючы ўсё больш выразна, рэльефна,— быццам увесь час шукаюць і знаходзяць той момант, каб выказацца новым пачуццём, думкай альбо іх новым адценнем.

«Роўда бярэ бусла на рукі... той квола б'ецца, усёй сваёй істотай, нават рухам крыві ў целе адхіляючы гэтае чалавечае шкадаванне і спагадлівасць». Як добра тут зразумета і па-мастацку спачувальна заўважана гэтае адхіленне чалавечага шкадавання — калі ўжо не рухам знямоглага цела, дык хоць бы самімі штуршкамі крыві ў целе пакінутай чарадой птушкі. Так, адхіленне — таму што істота няхай і слабая, але хоча жыць, спадзяецца яшчэ на жыццё, і надзею гэтую падтрымлівае ўся яе прырода, для якой прыняць літасць збоку азначае прыняць сваё бяссілле...

Усё — жывое, усё — жыве побач з чалавекам на зямлі, у вадзе і ў небе, у траве, у балоце, у самім паветры. І ўсё — са сваім пачуццём, вядомым чалавеку альбо яшчэ не разгаданым, усё — са сваёй радасцю ці болем, сумам альбо пратэстам, з удзячнасцю чалавеку альбо перасцярогай яму.

Дык чаму ж чалавек яшчэ так часта фанабэрыста ўпэўнены,

што прырода, зямля — гэта тое, што толькі вакол яго, што дадзена яму? Чаму яшчэ цяжка бывае чалавеку прабіцца да думкі, што прырода не толькі вакол, а і ў ім самім, ён сам, і, можа, не стольні зямля дадзена, «прыкладзена» да чалавека, колькі ён сам — да яе?

Цяпер гэтыя пытанні ў той ці іншай форме ўсё часцей ставяцца ў многіх творах літаратуры і мастацтва, якія глыбока даследуюць духоўны стан сучаснага чалавека. І калі чалавек і гісторыя заўсёды застаюцца для мастацтва універсальнай праблемай, то універсальнай сёння бачыцца і тэма духоўных зрухаў у чалавечай асобе ва ўмовах НТР, універсальнай выглядае і сітуацыя, у якой чалавек, змяняючы воблік зямлі, усё часцей вымушаны задумвацца не толькі пра здабыткі, але і пра страты ў гэтым абліку, якія становяцца стратамі нечага ў ім самім, чалавеку.

У сваім «Нерушы» Казько выходзіць менавіта да такой тэмы і сітуацыі. Выйсце гэтае падобна не на прарыў з круга тэм ранейшых яго твораў, а хутчэй на новы, больш шырокі віток уласнай тэматычнай «спіралі». Таму што «Неруш» — і працяг гэтага круга і ў той жа час пашырэнне яго.

Вайна і пасляваеннае дзяцінства — «Высакосны год».

Памяць пра жахі ваенных гадоў, якія не даюць расквітнець юнаму жыццю пад мірным небам, крык болю і голас любві — «Суд у Слабадзе».

Шчымлівае адчуванне прыгажосці роднай зямлі і прага параненай вайной чалавечай душы зліцца з гэтай прыгажосцю — «Цвіце на Палессі груша».

І вось цяпер — паўната і спрадвечная жывая сіла палескага жыцця, еднасць людзей і прыроды, але разам з клопатамі пра будучыню ўсяго гэтага,— «Неруш».

Памяць вайны, памяць дзяцінства, людзі на роднай зямлі, сённяшняе яе пераўтварэнне і сігналы «зваротнай сувязі» ў працэсе гэтага — ужо ад прыроды да людзей. Круг тэм у асноўным для Казько ўсё той жа. Але «Неруш» убірае ў сябе і жыццёвы матэрыял, у нейкай ступені новы для празаіка — меліярацыя, вытворчыя адносіны людзей, атмасфера гарадской будзённасці і інш. Аднак, сказаўшы вышэй пра выхад В. Казько ў «Нерушы» да пэўных бакоў адной з найважнейшых для сучаснай літаратуры тэмы,— не будзе лішнім яшчэ раз падкрэсліць, што гэты выхад забяспечваецца перш за ўсё сапраўды мастацкім асэнсаваннем і ўзнаўленнем таго, што пісьменнік ведае лепш за ўсё іншае — жыцця Палесся, чалавечых характараў, прыроды гэтага краю.

Як і ў Распуціна, мова ў Казько прыгожая не дыялектнымі словамі і асаблівасцямі вымаўлення персанажаў, а той паэтычнай выразнасцю, калі слова — рухавае, трапяткое, хіліцца да чалавека

ў хвіліны яго болю ці радасці і, наадварот, з'едліва сцёбае, калі ён вінаваты перад самім сабой, людзьмі, перад усім жывым навокал. Праніклівa назірае і чуйна ловіць Казько ў «Нерушы» ўсё гэта праўдзіва-жывое — у раслінах і птушках, у дыханні зямлі («Окіць на бусліка»), у лёсе адзінокай жанчыны («Нянене»), у гісторыі глухой палескай вёскі («Княжбор») і нават у здарэннях вандроўнага балота, якое, здаецца, назаўсёды знікла пасля «асушэння», а потым зноў з'яўляецца — ужо ў другім месцы...

Знаёмячыся ўсё бліжэй з гэтым жыццём, паглыбляючыся ў яго разам з аўтарам і яго героямі, чытач сустракае «вочы Палесся», якія для Мацвея Роўды падобныя на «запытальныя вочы яго маці». Таго Палесся, дзе «ў кожным дрэўцы ты адчуеш спагаду і пяшчоту, убачыш і пытанне, і здзіўленне, і чаканне: ці той ты, за каго выдаеш сябе... ці не вядзеш ты следам за сабой ліха...».

Але ёсць і іншыя вочы Палесся — вочы бясконцай таемнасці прыроды, яшчэ не да канца зразуметай чалавекам, які ўзяўся пераўтварыць яе. Ён не бачыць гэтыя вочы, аднак у жыцці могуць быць хвіліны, калі цяжка пазбавіцца адчування, што вочы тыя бачаць яго самога — хаця б вось з глыбіні Чортавай прорвы — быццам з незнаёмай планеты: «...на той невядомай планеце вывучаў жыццё не толькі ён, вывучалі і яго... Час ад часу штосьці ўспыхвала ў прорве... Агеньчыкі мігцелі і тухлі, а праз хвіліну ўспыхвалі зноў. У іншым месцы і ў нейкай іншай паслядоўнасці — бы выпрабоўвалі, правяралі яго на нейкі тэст. А ён не здатны быў адгадаць яго, ужываючы свае зямныя веды, кіруючыся сваімі зямнымі асацыяцыямі, не мог адкінуць, ступіць на новы круг не зямнога, лагічнага мыслення, дзе ўсё выцякала адно з аднаго, дзе ўсё вытлумачвалася неабходнасцю, традыцыяй, розумам. Тут жа ўсё гэта было... выстраена ў іншай, пакуль што незразумелай яму паслядоўнасці».

У гэтых радках бачыцца своеасаблівая квінтэсэнцыя, вобразны згустак важнай маральна-філасофскай думкі: чалавек і прырода, асабліва тое, што ў ёй яшчэ не вядомае — з роўнымі правамі і існаваць без шкоды адзін аднаму яны могуць толькі пры ўмове павагі чалавека да прыроды, пры ўдумлівым даследаванні яе таямніц. Толькі — цярплівасць, толькі — думка пра прыроду як пра самога сябе. Тады — згода, тады — здабыткі сапраўдныя, не на адзін дзень, не на адзін год. Тады — не вайна з прыродай, а мір як натуральны стан чалавека, народа, зямлі.

Альтэрнатывы — ніякай.

У фільме А. Таркоўскага «Сталкер» таямнічнае, невядомае людзям у прыродзе пададзена як паэтычная фантастыка, як нейкая «зона», якая «адказвае» чалавеку ў адпаведнасці з яго намерамі пры ўваходзе ў яе. А перад першымі кадрамі на экране — тэкст,

у якім сказана, як аднесліся да гэтай «зоны» напачатку, калі яна толькі ўтварылася: «Мы адразу ж паслалі туды войскі». І што ж? «Яны не вярнуліся». Калі чытаеш у рамане Казько раздзел «У зоне знішчэння», успамінаеш гэты фільм. Выраз гэты ўжывае адзін з тых людзей, якія маюць адносіны да меліярацыйных работ. Для яго гэта проста вытворчы тэрмін, які, калі трэба, можна замяніць і другім, больш «гуманным». Але справа не ў словах. Справа ў разуменні гэтым чалавекам сваёй задачы. Ці лёгка стварыць, дадаць нешта да ўжо існуючага на зямлі, напачатку знішчыўшы на ёй штосьці? І ці можна ўваходзіць у прыроду, як у «зону знішчэння»?

«Неруш» перасцерагае ад гэтага. Расказваючы аб пераўтварэнні палескай зямлі, раман сцвярджае неабходнасць такога працэсу менавіта як работы ствральнай, якая захоўвала б святую крыніцу жыцця, жывую еднасць людзей з роднай прыродай, не парушала іх памяці аб мінулым і спрыяла больш глыбокаму разуменню новага часу.

Разам з тым «Неруш» расказвае і пра супраціўленне гэтай жывой цэласнасці ўсяму таму, што хацела б перакроіць яе бяздумна і паспешліва. Пра супраціўленне, бо такое перакройванне будзе і супраць прыроды, і супраць самога чалавека.

*Алесь Станюта*

# ЗМЕСТ

## Частка першая

### ...І вялікага сямейнага шчасця



## Частка другая

### Окіць на бусліка

**Казько В.**

К 14 Неруш: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 430 с.

У пер.: 1 р. 70 к.

У кнізе расказваецца аб сучаснай вёсцы, аб складаных праблемах, звязаных з асушэннем палескіх балот. Твор прасякнуты трывогай за прыроду, якой часам чалавек у паспешлівасці і неашчаднасці наносіць вялізныя страты.

К $\frac{4702120200—092}{М302(05)—83}$ без аб'явы — 83

ББК 84 Бел7
Бел2

Виктор
Афанасьевич
КОЗЬКО

НЕРУШ

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар М. Н. Герчык

Мастак С. В. Пятровіч

Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук

Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна

Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 1610

Здадзена ў набор 05.04.82. Падп. да друку 23.05.83. АТ 12044. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68. Ум. фарб.-адб. 22,68. Ул.-выд. арк. 24,06. Тыраж 30 000 экз. Зак. 2507. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск. праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.